## Частка першая

I

Мядзведжагорск быў мёртва-бязлюдны, таму да жудасці таямнічы. Жыла толькі чыгуначная станцыя. Там збілася некалькі эшалонаў, утварыўся людскі муравейнік. Гурчалі маторы, ляскалі буферы. Трашчала дрэва. Разгружалі танкі... Гучна падаваліся каманды. Гамана. Смех. Нават гармонік. Наш. Пазнаю па голасу. Святлана Купцова. Гармонік — зусім натуральна на станцыі, ля эшалона, што стаіць на запасным пуці. Чакае. Чаго? Калі адкрыецца семафор на Петразаводск? Але ўсе ведаюць, што зялёнае вока загарыцца няскора. Адступаючы, фіны ўзарвалі многа мастоў. Няўжо камандаванне не ведала гэтага? Навошта нас так спешна знялі з пазіцый у Кандалакшы і прывезлі сюды? Абараняць гэты пусты горад? Ад каго? З раніцы да паўдня, як мы тут, у чыстым, празрыстым небе не з'явілася нават абрыдлага разведчыка. У такія дні над Мурманскам неба маўклівым было не часта. Можа, менавіта таму, што столькі сонца, цяпла, цішыні (на станцыйны шум не хочацца звяртаць увагі, гэта — шум вайны), такое дзіўнае ўражанне робіць пусты горад?

Спалены Мурманск таксама быў бязлюдны, жыў адзін порт, але адчуванне вось такой, нейкай проста незямной, нерэальнасці ніколі не ўзнікала. А між тым з вышыні сопкі, дзе размяшчаўся КП дывізіёна, выглядаў горад страшна: сетка вуліц — як палосы аэрадрома, з рэдкімі сляпымі каробкамі ад цагляных дамоў. Ад драўляных дамоў чамусьці не засталося нават комінаў. Віктар Маслоўскі, які ўсё на свеце ведае, тлумачыў гэта тым, што ў ветраны дзень ад велізарнага пажару ўтвараўся такі віхор, што разбураў дамы да таго, як да іх падступала полымя.

Мядзведжагорск таксама драўляны. Але згарэла толькі адна частка, паўночная, і на папялішчы стаяць коміны — знаёмы па кінахроніках пейзаж, так выглядаюць вызваленыя вёскі, там, на поўдні, у цэнтральнай Расіі, у маёй Беларусі.

Вуліца, па якой мы ішлі, бадай, цэнтральная, бо брукаваная, надзіва ўцалела, дзе-нідзе сляды даўніх бамбёжак, нашых, безумоўна. На былых папялішчах выраслі новыя дамы, вельмі акуратныя, двухпавярховыя. Доўга фіны намерваліся жыць на гэтай зямлі, калі будаваліся нават у вайну.

Але не толькі новыя дамы здзівілі. Выбітыя шыбы. Уся вуліца ўсыпана шклом. Не падобна, што шкло вылецела ад артабстрэлу ці бамбёжкі. А яшчэ — папера. Усюды — папера. Не кнігі. Рэдка —

блакноты, сшыткі. А то — разрозненыя лісты паперы. Ад лёгкага ветру яны варушыліся, шалясцелі, перакочваліся.

Кім пабітыя шыбы? Хто накідаў столькі паперы? Ні ў адной кінахроніцы такога не было. Як бы знарок прайшла спецыяльная каманда, якой загадана было разбіць шыбы і рассыпаць усе запасы паперы. Дзіўна. Паперу лёгка вывезці. А горад такі, драўляны, прасцей за ўсё спаліць. Неверагодна, каб акупанты спадзяваліся вярнуцца назад. Пасля Сталінграда, Курска? Адначасова з наступленнем тут, у Карэліі, пачалося вялікае наступленне ў Беларусі. У дывізіёне нямала беларусаў, і мы яшчэ ў Кандалакшы пачулі радасную навіну.

Напэўна, ад паперы горад робіць такое незразумелае ўражанне — жахлівай таямнічасці.

Мы з Калбенкам зведалі папяровы голад, ён даваў нам клопату. Яму, парторгу, і мне, камсоргу, больш чым каму прыходзіцца пісаць, у дадатак я ўпотай вёў дзённік. Але на пратаколы паперу як-небудзь здабывалі. Горш, калі да нас звярталіся байцы і прасілі паперу на пісьмы. Ледзьве не палавіна дывізіёна — дзяўчаты, з Волагды, з Архангельска, а яны пішуць — усё роўна як спаборнічаюць паміж сабой. Паспрабуй не даць паперы! Чаго будзе варта наша палітычная работа! Лягчэй перажываюць адсутнасць мыла, якога, дарэчы, таксама не хапае.

Начальнік абозна-рэчавага забеспячэння старшына Кумкоў проста ненавідзіць дзяўчат за мыла. «Ядуць яны яго, ці што?» — плаксіва скардзіўся ён нампаліту Тужнікаву, які моцна ганяў яго за мыла.

Я напхаў поўныя кішэні і планшэтку блакнотаў, сшыткаў, нават салфетак. Калбенка хмыкаў, ён не падняў і лістка. Ігнаруе трафейнае барахло? Ці ведае, што ў Петразаводску, на абарону якога нас кідаюць, паперы хопіць?

Мне трохі сорамна перад ім за сваю сквапнасць. Але ўвогуле хвалюе не гэта. Акрамя дзіўнага адчування ад гэтага глухога (вось іменна — глухога!) горада мяне хвалюе, што за двое сутак мы ажно на тысячу кіламетраў наблізіліся да роднага краю. А яшчэ — бярозы. На вуліцы, у дварах многа бяроз. І яны такія ж, як у нас — пад Рагачовам. У Мурманску таксама сустракаюцца бярозы, але там яны сапраўды карэльскія — нізкія, пакручастыя. А тут бярозы зусім як нашы, беларускія — высокія, гонкія. Увогуле мне радасна. Але і трывожна. Ад чаго?

Соладка шумяць бярозы! Але нядобра шамаціць папера, калі на яе наступаеш ботам! Дзівоснае неба! Халодна-празрыстае, як вунь тыя нявыбітыя шыбы, аднак жа дзень спякотны, сапраўды чэрвень-

скі. У Мурманску здараліся ўлетку цёплыя дні, у сорак другім, калі горад спалілі, мы нават купаліся. Але такога сенакоснага настрою не з'яўлялася. Сказаць Калбенку, што ў мяне сенакосны настрой? Няхай пасмяецца.

Не, бадай, нельга настрой мой назваць сенакосным — занадта па-мірнаму.

Які блакноцік! Сшыты меднай спружынай.

— Не падбірай ты фінскае...

— Папера — не г... Папера — што хлеб. Яе грэх таптаць.

— Папера — самы класавы прадукт чалавечай працы.

Калбенка гаворыць, здаецца, сур'ёзна, але вочы яго смяюцца. Ды і добра я ведаю гэтага чалавека, каб паверыць, што ён думае так прымітыўна. О, не! Чалавек гэты — што задача з вышэйшай матэматыкі, трэба добра паварушыць мазгамі, каб зразумець яе, не кажучы ўжо пра рашэнне.

— Канстанцін Панасавіч, што вы адчуваеце?

— Як дэ шчо? — у добрым настроі старшы лейтэнант нярэдка пераходзіў на родную мову.

— Ды во тут. У гэтым мёртвым горадзе.

— Чаму ён мёртвы? Папрацуюць сапёры — праз тыдзень напоўніцца людзьмі. Дзяцьмі зазвініць. Зямля, Паўлік, мёртвай не застанецца. Не бойся. Зямля ніколі не будзе мёртвая.

— Я не баюся. Але ў мяне такое адчуванне, што ідзём мы з вамі па далёкай планеце, невядомай, чужой, поўнай небяспечных пастак... трохі не так ступіў — і амба. А нам. трэба жыць! Ад нас чакаюць, што мы абжывём гэтую планету.

— Што гэта цябе занесла на другую планету? На сваёй парадку навесці не можам.

— Відаць, я сказаў не тое, што адчуваю... У мяне як бы перамяшаўся боршч з кашай. Што ў салдацкім кацялку.

— Я табе скажу, што ты адчуваеш. Страх. Перад мінамі.

Калбенка чалавек добры, душэўны, але занадта прамы — сячэ з-за пляча. Б'е не ў брыво, а ў вока.

Пакрыўдзіла абразлівае вызначэнне майго душэўнага стану. Што значыцца сказаць афіцэру, палітработніку, што ён баязлівец? Аднак каб адкінуў гонар, то мусіў бы прызнаць, што нейкую долю праўды ён адгадаў. Але страх быў не за жыццё. За тое, што мы, тыя, каму належала забяспечваць дысцыпліну, выкананне загадаў, самі першыя парушылі загад камандзіра дывізіёна: ніводнаму чалавеку ў горад не хадзіць — міны! Пра гэта папярэдзіў камендант горада, як толькі эшалон спыніўся на пад'ездзе да станцыі. Але небяспека — што

забаронены плод. Цягне да сябе. Ведаеш, што нельга, а міма не пройдзеш.

Мы, зенітчыкі, адвыклі ад ваеннай небяспекі. Стараслужачыя зведалі яе толькі ў першыя месяцы вайны. Бязлітасна разбураючы бомбавымі ўдарамі Мурманск, Колу, Мурмашы, Ваянгу, фашысты імкнуліся падавіць зенітныя батарэі — бамбілі і абстрэльвалі іх. Але, пасля таго як мы загналі «юнкерсаў» і «хейнкеляў» на вышыню да чатырох-пяці кіламетраў, рэдка якая шалёная бомба залятала на пазіцыю. Хоць у Мурманску мы адчувалі сябе ў першым эшалоне, бо кожны пагодлівы дзень вялі бой. А гэтым летам палкоўнік з штаба нядаўна створанага Паўночнага фронту проціпаветранай абароны назваў нас другім эшалонам. Зрабілася крыўдна за такое вызначэнне нашага месца ў вайне. Захацелася падаць рапарт з просьбай паслаць у франтавую артылерыю, я ж раней камандаваў агнявым узводам. Але палітработніку не дазволены такія дэмаршы.Сам жа вёў работу з гарачымі галовамі, якія прасіліся на перадавую. Цяпер такія рапарты — рэдкасць, памяняўся састаў — сталыя дзядзькі, дзяўчаты. Цяпер мы як бы змірыліся, што сталі другім эшалонам. Хоць не, не змірыліся! Як загарэліся ўсе маладыя дзяўчаты таксама, калі тры дні назад нас спешна пагрузілі ў вагоны, а ў дарозе стала вядома, што пачалося наступленне Карэльскага фронту і нас вязуць у Петразаводск, які яшчэ ў руках ворага.

Гойдаючыся ў штабным вагоне, адзіным пасажырскім, я не мог заснуць. Марыў: мы паспеем да штурму горада, выйдзем на пярэдні край і будзем біць па танках, якія, напэўна, паспрабуюць контратакаваць. Чамусьці вельмі хацелася схапіцца менавіта з танкамі. Адзін хоць раз убачыць, як загарыцца танк. Быццам зямная бранявая машына страшнейшая і даражэйшая за самалёт. Як гараць самалёты з крыжамі на крылах, бачыў сотні разоў. Нямала дывізіён збіў самалётаў, калі я быў камандзірам гарматы, пасля — агнявога ўзвода. Канешне, невядома, снарад якой батарэі, якой гарматы пацэліў... Можа, ад гэтай невядомасці і хочацца ўдарыць па танку, каб убачыць у аптычны прыцэл, што загарэўся «тыгр» ці «Фердынанд» ад выпушчанага табой снарада. Не, бадай, жаданне гэтае мае іншую прычыну. На танкі ў мяне асаблівая злосць. Я не бачыў, акрамя як у кінахроніцы, танкі, фашысцкія, а злосць маю на іх. З-за іх я перажыў страх, за які мне і праз тры гады сорамна.

У верасні сорак першага егерскія дывізіі (у Запаляр'е Гітлер кінуў сваіх землякоў — аўстрыйцаў) прарвалі нашу абарону пад Петсама, на дарозе на Мурманск авіяразведка выявіла танкі. Спешна, у адну ноч, хоць у гэты час яна ўжо і доўгая, дзве батарэі дывізіёна

перакінулі на заходні бераг Кольскага заліва. Батарэю, дзе я камандаваў гарматай, адвялі кіламетраў на пяць ад заліва, і мы занялі незвычайную для зенітчыкаў пазіцыю — усе чатыры гарматы сталі ў адну шарэнгу паабапал дарогі, трымаючы пад прыцэлам віток дарогі на блізкай сопцы. Перадыслакацыя страшна змарыла і байцоў і камандзіраў. Цяжкая пагрузка і разгрузка на баржы, рыццё катлаванаў для гармат, ПУАЗО[1], КП, пры гэтым гарматы закопвалі глыбей, чым гэта патрэбна для стральбы па самалётах. А грунт — адны валуны, некаторыя выцягвалі з катлавана трактарам. Ды і мяккі пласт зямлі прамёрз — наступіла ранняя запалярная зіма. Дзьмуў халодны вецер. Апоўначы камандзіраў сабраў камбат лейтэнант Саўчанка і пачаў чытаць інструкцыю стральбы па танках. У камандзірскай палатцы халадней, чым у катлаване — прабівалі скразнякі. Акумулятары ашчаджалі — сядзелі пры «лятучай мышы». У Саўчанкі, які ўмеў падаваць самыя звонкія каманды, здавалася, зліпліся вусны, і словы цадзіліся. А яшчэ, седзячы побач, пачуў я, што ў яго стукаюць зубы. Тады яны кляцалі і ў мяне. Ад чаго? Ад холаду? Не, вядома ж, ад страху. Здалося, што ўсе чуюць гэтае кляцанне. Брыдка. Ганебна. Але ў палатцы яшчэ неяк абышлося. Горш, што ліхаманка не праходзіла і тады, калі я вярнуўся да свайго гарматнага разліку, атрымаўшы загад тут жа, неадкладна, не даўшы людзям адпачыць, пачаць вучыць іх стральбе па танках пры святле налобных ліхтарыкаў установшчыкаў трубкі.

«Па танках! Вугал... Трубка на ўдар! Зараджай!»

«Цэль злоўлена!» — не крычыць, як пры папярэдніх трэніроўках і баявых стрэльбах, а сіпіць наводчык, мой намеснік і зямляк Іван Хадыка. Прастудзіўся? Не! Ліхаманкава брынкае пад ім жалезнае сядзенне. Так падкідвала мяне на гэтым сядзенні дваццаць другога чэрвеня пры першым налёце, у першым нашым няўмелым баі з дзіка нахабнымі «хейнкелямі» і «месерамі», што бамбілі аэрадром і абстрэльвалі батарэю з кулямётаў. Але там, здаецца, страху быў адзін міг. А тут? Колькі ён можа працягнуцца? Да прарыву танкаў? Да сапраўднага бою з імі? А калі яны з'явяцца? З надыходам дня? Паслязаўтра? Праз тыдзень? Лепш, каб хутчэй. Не пакідала неадчэпная думка, што гэта будзе апошні бой. Мы — смяротнікі. Адступаць няма куды. Кольскі заліў не пераплывеш. А калі пашчасціць пераправіцца на той бераг — ратунку ўсё роўна не будзе. Немцы — не дурні. Яны пачнуць штурмаваць Мурманск не раней, чым іх і фінскія часці выйдуць да Кандалакшскай губы і адрэжуць

---

[1] Прыбор упраўлення артылерыйска-зенітным агнём.

Кольскі паўвостраў. Гэта разумеў самы малапісьменны баец — мой устаноўшчык трубкі.

Дзіўна, што з надыходам дня (добра, што не наступіла палярная ноч) страх, можа, і не знік зусім, але пачуццё безвыходнай асуджанасці на няўхільную смерць зменшылася. А калі праяснілася і наляцелі «юнкерсы» бамбіць станцыю, я і хлопцы мае вялі агонь злосна, але весела. Сагрэліся. Ажылі. Апетытна пасля абедалі. Гучна гаманілі.

Аднак ноч тая запомнілася. Ад таго і хочацца пастраляць па танках. Не аднаму мне. Учора ў вагоне, калі я гутарыў з байцамі другой батарэі, Таццяна Дзёмушкіна — «гром-баба», як яе называюць, адзіная наводчыца ва ўсім дывізіёне — спытала:

«Як думаеш, малодшы лейтэнант, па пяхоце ды па танках удасца пастраляць?»

«А табе хочацца?»

«Ой як хочацца! Ажно далоні свярбяць».

Дарэчы, мне пападала за панібрацтва з дзяўчатамі: я ім — «ты», і яны часта забываюцца і таксама нярэдка вось так — без «таварыш», на «ты», а то і зусім — Павел і нават Паўлік — як Калбенка.

Аднойчы правяраў нас начальнік палітаддзела дывізіі і пачуў, як Ліда Асташка крыкнула мне:

«Павел, ходзь сюды!»

«Пачакай!» — вырвалася ў мяне.

«Гэта вас?» — расшырыліся вочы ў палкоўніка.

«Мяне».

Што было! Я стаяў перад ім гадзіну, абліваючыся потам, стаяў перад партыйным бюро, дзе толькі стоены смех Калбенкі бадзёрыў. А пасля гэты палкоўнік скланяў мяне ў палітаддзеле на нарадзе камсоргаў. Высмейваў уедліва, з абразлівымі намёкамі.

...Расказаў Калбенку пра маё і Таніна жаданне пастраляць па танках, пра прычыну майго жадання — пра той вераснёўскі страх.

Парторг звыкла хмыкнуў, характэрным жэстам правёў далоняй па твары, як бы сціраючы — калі смех, калі сур'ёзнасць. У гэты раз — смех.

— А вы кажаце: у мяне страх перад мінамі. Страх... сапраўдны, калі трэсла ўсяго, я перажыў толькі аднойчы.

— Няпраўда. Я перажываю яго штодня... штоночы...

— Вы, Канстанцін Панасавіч?! Жартуеце!

— Страхі бываюць розныя, Паўлік. Ты яшчэ не знаеш, што такое страх за дзяцей. Я пакуль не ведаў, дзе мае... Я многа чаго перажыў, мой дарагі камсорг.

Зноў не дагаварыў. Нярэдка так здаралася. Але калі я аднойчы паспрабаваў залезці з пытаннямі ў сакрэты яго жыцця, Калбенка насцярожыўся і як бы аддаліўся ад мяне. Сказаў ён неяк коратка пра адно: перад вайной выключылі яго з партыі, аднак пасля аднавілі. За што выключылі? Адказаў няпэўна: «У сакратара райкома... сельскага... знойдуць сто прычын, за што яму можна даць па штанах».

Больш я не лез да яго з роспытамі, даражыў, як самым дарагім скарбам, дружбай з гэтым трохі загадкавым чалавекам. А можа, у загадкавасці і была яго прывабнасць?

Я зноў нахіліўся, каб падняць прыгожую паперыну.

— Калі ты яшчэ раз паклонішся, я дам табе па шыі.

Між іншым, паперы пад нагамі стала менш. Мы выйшлі ў канец вуліцы, далей пачынаўся лес. Тут стаяла колькі катэджаў, зусім новых, на бярвенні бурштынам свяціліся падцёкі выплаўленай сонцам смалы. Прыгожа пафарбаваныя парканы. І шыбы цэлыя. У вокнах — квяцістыя фіраначкі, шторы. Такой уладжанасці, дагледжанасці я, можа, ніколі не бачыў. Таму апанавала злосць. З якой нахабнай упэўненасцю захопнікі абжывалі нашу зямлю! З'явілася дзікае жаданне разбурэння — пабіць, пакрышыць, спаліць гэтую чужую прыгажосць! Але тут жа спахапіўся: цяпер жа ўсё, што ацалела, наша!

Калбенка разглядаў катэджы, напэўна, з іншым пачуццём. Спыніўся, як бы ўражаны, абцягнуў гімнасцёрку, падцінуў рэмень, быццам апынуўся перад вышэйшым начальствам ці жанчынамі. Мне нават не спадабалася гэта яго прыхарошванне. А ён сцёр з твару сур'ёзнасць, весела, нават гарэзліва хмыкнуў.

— Зойдзем!

— Не трэба, Канстанцін Панасавіч.

— Баішся Кузькіна?

Прозвішча камандзіра дывізіёна — Кузаеў. Але Калбенка як бы забывае і часта кажа Кузькін — у любым настроі, жартаўлівым і сур'ёзным. Гучыць зняважліва. І мне крыўдна за нашага камандзіра, чалавека шумнага, любіцеля праборак, але ўвогуле добрага: пакрычаць можа, а спагнанне дае вельмі рэдка, у выключных выпадках. Асабліва дзяўчатам. І мне прыемная яго добрая строгасць.

— Баюся і Кузаева. Але тут іншая боязь... Вельмі ж падманлівая цішыня. І прыгажосць. Здаецца, восьвось узарвецца, разляціцца ўшчэнт... У вас няма такога адчування?

— Фантазёр!

Калбенка хмыкнуў з асобым адценнем — ухваляючы, так радуецца бацька разумнаму рашэнню сына. Яўна згадзіўся, што рызыкаваць у гэтай падманлівай цішыні ўсё ж не варта.

Але менавіта з таго дома, на які ён паказаў, выйшлі тры мінёры са сваімі магнітнымі шчупамі. Першыя жывыя людзі, якіх мы сустрэлі за паўгадзіны прагулкі па апусцелым горадзе. Мінёры ўбачылі афіцэраў — павіталіся амаль па-цывільнаму: ніводзін не пераклаў шчуп у левую руку, каб казырнуць. Але малодшы сяржант звярнуўся да Калбенкі:

-— Таварыш старшы лейтэнант! У дамы не заходзьце. Не ўсё размініравана.

Другі баец як бы апраўдваўся, што не ўсё размініравана:

— Вельмі ж хітра яны закладваюць міны.

Калі мінёры пайшлі ў суседні дом, мне зрабілася сорамна. Людзі вайсковай прафесіі, у якой, як кажуць, памыляюцца толькі раз, смела абходзяць гэтыя дамы. А я — і праўда баязлівец. Прывык у Кандалакшы да спакойнага жыцця, там у мінулую зіму варожыя самалёты з'яўляліся раз у месяц. Ды і то, стаўшы камсоргам, я назіраў за боем з НП дывізіёна.

Я кіўнуў на дом злева — па ходу мінёраў, дзе яны павінны былі ўжо праверыць. Але ўсё ж не ў той, з якога яны толькі выйшлі.

— Заглянем, Канстанцін Панасавіч? Як яны, гады, жылі?

Ён на міг задумаўся. Няўжо правяраў мяне? Думка такая непрыемна кальнула. Не, ён пажартаваў:

— Цяпер бачу, што ты — герой.

Жарт не менш здзеклівы і крыўдны, з мяне парторг рэдка гэтак жартаваў. І я «завёўся» на адчайную рашучасць: уподбег кінуўся да дома. Ірвануў дзверы з упэўненасцю п'янага гаспадара: усё маё — як хачу, так адчыняю. Другія дзверы, з веранды ў дом, адчыніў з замінкай: раптам пачулася там, за дзвярамі, прысутнасць людзей. Увайшоў у цемнаватую прыхожую і застыў, ашаломлены. Паперадзе ў пустых пакоях, аддаючы рэхам, звінелі маладыя галасы. Дзявочыя. І... знаёмыя. Чый гэта тонкі, пявучы голас, такі блізкі, такі родны? Ліда?! Няўжо Ліда? Адкуль? Якім чынам яна тут? Есць жа загад! Строгі загад! Абавязковы для ўсіх!

Калбенка спыніўся побач, адразу пазнаў галасы, спакойна сказаў:

— Нашы,— і хмыкнуў: — Вось табе і Кузькін загад!

У светлым — ад сонца, урачыстым — ад ззяння залацістых шпалераў, ад квяцістых штораў — пакоі беспарадак быў толькі на падлозе: накідана пасцельная бялізна, хоць, мяркуючы па мэблі, увайшоў я не ў спальню, а ў гасціную, ці як яна там называецца,— да вайны я, сялянскі сын, студэнт, рэдка наведваўся ў гарадскія кватэры, дзе кожны пакой мае сваё прызначэнне. Напэўна, каб мы засталіся толькі

ўдвух з парторгам, падзівіўся б такой уладжанасці акупантаў і парадаваўся б: уцякаць яны мусілі паспешліва, не паспелі нават зняць настольнік са стала. Але было не да таго.

Каля дзвярэй у суседні пакой стаяла на падлозе на каленях Ліда Асташка і пакавала ў чамадан... гэтыя анучы. Уміг чысценькая бялізна стала для мяне анучамі, чужымі, брыдкімі.

Напарніца Ліды прыбарыстка Глафіра Васіленкава стаяла на крэсле і здымала шторы. Яна цягнулася рукамі ўгору, спадніца паднялася, агаліліся над грубымі кірзавымі ботамі мармурова-белыя ногі. Але не Глашыны ногі ўсхвалявалі, не Лідзіны анучы абурылі. Выбухнула іншае пачуццё, якое я асэнсаваў значна пазней.

— Вы што тут робіце? — спытаў амаль шэптам.

Глаша войкнула, саскочыла з крэсла, выцягнулася.

А Ліда толькі паправіла пасму, інто выбівалася з-пад пілоткі, і глядзела на мяне шырока адкрытымі вачамі з нейкім проста дзіцячым здзіўленнем: не бачыш хіба, чым мы займаемся? Растлумачыла:

— Паглядзі, Павел, колькі тут дабра.

Лаяўся я хіба тады, калі яшчэ меў сяржанцкае званне і камандаваў гарматным разлікам, і толькі ў час вядзення агню, калі ў некага з нумароў нешта не ладзілася. Але хто з'камандзіраў не лаяўся ў баі! Ды на лаянку тую не тое што не звяртаюць увагі, а хутчэй яе проста не чуюць. Стаўшы камсоргам, я ні разу не павысіў голас на сяржанта ці радавога, тым больш — на дзяўчат.

І раптам у прысутнасці старэйшага па званню, па пасадзе, па ўзросту я ўзарваўся дзікім, да віску, крыкам:

— Малодшы сяржант Асташка! Устаць!

Ліда здзівілася, залатыя ад сонца і шпалераў вочы яе яшчэ больш расшырыліся, павольна паднялася, але стаяла «вольна».

— Як вы стаіце?

— А як трэба стаяць? — вусны яе скрывіліся ў зняважлівай усмешцы.

Разумеў, што раблю глупства, але несла мяне нейкая незнаёмая нястрымная сіла.

— Стаць як належыць!

Яна паправіла рэмень, але не выцягнулася.

— Хто вам дазволіў ісці сюды? Вам чыталі загад камандзіра дывізіёна? Анучніцы! Бабы! Марш на батарэю! Далажыце камандзіру! — але, мабыць, не паверыўшы, што Данілаў пакарае іх з усёй суровасцю, звярнуўся да Калбенкі: — Таварыш старшы лейтэнант! Закаціце ім на поўную катушку!

Маіх правоў было мала, лічыў я. Парторг загадкава віаўчаў, засяроджана нахмураны. Яго маўчанне нечакана ўтаймавала мяне. Я закамандаваў знясілена:

— Марш!

Васіленкава прашмыгнула, што спалоханая мыш. Ліда прайшла міма горда, незалежна, нават лёгка ненаўмысна штурхнула мяне локцем.

Калбенка, беражліва, як у сваім доме, пераступаючы цераз раскіданую бялізну, абышоў пакой, зазірнуў у два суседнія... Хмыкнуў з незразумелым сэнсам, сцёр з твару не ўсмешку, не сур'ёзнасць — нешта іншае, незнаёмае. Нахіліўся, падняў з падлогі дзіцячую сарочку, вымярежаную, з прыгожым узорам — як яловыя лапкі раскіданы па тканіне. Патрымаў, разглядзеў з сумным ценем на твары, асцярожна паклаў на стол. З сарочкай зразумела — нагадала ўласных дзяцей. А маўчанне яго, чалавека далёка не маўклівага, здзіўляла. Больш таго, неяк дзіўна непакоіла, быццам зрабіў я тое, чаго ён не ўхваляе. А зрабіў я, не сумняваўся, правільна, любы камандзір абавязаны рэагаваць на парушэнне загаду.

Калбенка прапанаваў, яшчэ мацней здзівіўшы:

— Пашукаем насоўкі. І на анучы... На падкаўнерыкі. Абрыдла прасіць Кума.

Толькі што крычаў дзяўчатам: «Анучніцы!» Цяпер сам займу іх месца? Нішто сабе выхаваццелі!

— Не трэба, Канстанцін Панасавіч.

Парторг надзіва лёгка згадзіўся:

— Не трэба, дык не трэба,— але на выхадзе з дома як бы папракнуў: — Ідэаліст ты, Паўлік. З табой будзеш хадзіць у падраных кальсонах і тады, калі прыйдзем у Берлін.

Некаторы час ён маўчаў. Але па тым, як загадкава пасміхаўся, няцяжка было зразумець, што чалавек у вясёлым настроі. Ад чаго? Не мог сцяміць. Ведаў, настрой яго мяняецца, што мурманскае надвор'е. Але я навучыўся пазнаваць прычыны такіх перамен; знешне грубаваты, чалавек гэты быў, што самы тонкі музычны інструмент: толькі крані і — звініць то на адзін, то на другі лад. Што яго так развесяліла? Чаму ён так абыякава паставіўся да парушэння дзяўчатамі загаду? Здзіўляеш ты мяне сёння, бацька! Сапраўды я любіў Канстанціна Панасавіча, як бацьку, ды і ён, старэйшы ўсяго на чатырнаццаць гадоў, нярэдка звяртаўся да мяне проста і пяшчотна: сынок.

Не бачыў я больш паперы і не падняў бы ні лістка, няхай бы яна была хоць залатая. Туга набітая планшэтка муліла плячо. Усё

пазнаецца ў параўнанні. І я думаў пра тое, як паводзяць сябе нашы, імкліва наступаючы ў Беларусі, на Украіне і тут, у Карэліі. Трафеі ёсць трафеі, гэта зразумела. Але якія правы на трафеі ў людзей, падобных на Калбенку і мяне?

Парторг як бы адгадаў мае думкі. Сцёр далоняй з твару весялосць, сур'ёзна сказаў:

— Дарэмна мы не далі дзяўчатам забраць барахло.

— Фінскія абноскі?

Калбенка сумна ўздыўнуў:

Цяжкя нам будзе з такімі, як ты. Пасля вайны.

— Чаму гэта цяжка?

— Ты бачыў, якія ў іх сарочкі, у дзяўчат нашых?

— Я пад гімнасцёркі не заглядаю.

— Дарэмна.

Парторг зноў развесяліўся. Хмыкаў, пасвістваў. І раптам бухнуў:

— Любіш ты яе.

— Каго?

— Астатку.

— Таварыш старшы лейтэнант!

— Мне Данілаў даўно казаў.

— Цыганскі балбатун ваш Данілаў.

Калбенка спыніўся, павярнуўся да мяне, сказаў ціха, ласкава:

— І любі, Паўлік. Любі, сынок. Жаніся. Плюнь на ўсё наша ханжаства. Выдумалі сабе палітработу: засцерагаць людзей ад любові. Зазіраем пад чахлы, ці не цалуюцца там нашы падначаленыя. Смешна. У тайну дваіх нават папы не ўмешваліся. Мы, можа, дзесяць мільёнаў, калі не больш, страцілі. Не хутка палічым. Трэба ж глянуць і ў заўтрашні дзень. Палітыкі!

Я стаяў, ашаломлены, пасярод вуліцы, засыпанай паперай. Шырока расплюшчанымі вачамі глядзеў на свайго настаўніка. Нярэдка ён здзіўляў мяне нечаканасцю сваіх выказванняў, ацэнкамі з'яў, людзей. Але каб так!

Якое гарачае карэльскае сонца! Прагрэла да сёмага поту. Распухла шыя. Цісне каўнерык. Я спрабаваў расшпіліць яго, але пальцы слізгалі па мокрым гузіку.

Вочы Калбенкі іскрылі радасны смех, такі ж, як прамене гэтага залішне ласкавага, залішне мірнага сонца. Мабыць, яму не хацелася, каб я пачаў адмаўляць яго праўду і нагарадзіў якой-небудзь афіцыйнай лухты. Ён сказаў:

— Убачыў я твой страх. Не той... Не за сябе. За яе. Не саромейся, сынок, такога страху.

Не, гэтага чалавека аспрэчыць немагчыма! Што я мог сказаць?

2

Ілюзіі наконт таго, што мы можам рухацца на Петразаводск у эшалоне і дагнаць нашы наступаючыя часці, рассеяліся адразу ж, як камандзір дывізіёна паведаміў нам, афіцэрам, пра мост. Ды і былі яны, ілюзіі, хіба ў такіх фантазёраў, як я ці Таццяна Дзёмушкіна, якой хацелася пастраляць па танках.

Рэаліст капітан Шахоўскі, намеснік камандзіра па артзабеспячэнню, «святлейшы», як называў яго Калбенка — ці то за паходжанне, ці за розум — прадракаў яшчэ пры пагрузцы ў Кандалакшы, што ў такой сітуацыі будзем мы стаяць паўмесяца ў тупіках лясных раз'ездаў, абараняючы сябе батарэяй МЗА[1], гарматы якой змяшчаліся на платформах, ды кулямётамі. Капітан памыліўся. Не стаялі.

Але калі мы вярнуліся з Калбенкам і ўбачылі, што эшалон паспешліва разгружаецца, і даведаліся, што батарэі зоймуць баявыя пазіцыі, я перажыў расчараванне. Значыцца, усё. Наканавана нам у гарачы час вялікага наступлення абараняць глухі гарадок, які хутка будзе глыбокім тылам, такім глыбокім, што наўрад ці нямецкае камандаванне стане пасылаць сюды самалёты. Што бамбіць? Станцыю? Але хутка і станцыя апусцее. Раніцою разгрузіліся танкісты і падаліся далей, у глыбіню карэльскіх лясоў, сваім ходам. Разгрузіліся мы...

Пагрузка, разгрузка ў эшалоны часцей, якія не часта перакідваюць з месца на месца і якія па гэтай прычыне абжываюцца, абрастаюць, што мохам, рознай ваеннай маёмасцю,— самае бязладнае на вайне, тлумнае, стыхійнае — што панічнае адступленне. Камандны механізм, дакладны ў баявой абстаноўцы, пачынае даваць перабоі. Умяшанне ў часе пагрузкі ці разгрузкі камандзіраў, асабліва маладых, часцей шкодзіць, чым памагае, бо разладжвае сувязі паміж людзьмі, якія ў цяжкай і спешнай працы ствараюцца не прыналежнасцю да таго ці іншага падраздзялення, не актыўнасцю камандзірскіх загадаў, а зусім іншымі законамі яднання людзей, іх вопытнасцю, гаспадарлівасцю. Падначальвацца пачынаюць таму, хто больш умее, хто дае разумныя парады, хоць чалавек гэты да таго быў самы непрыкметны і самы-найсамы радавы.

Кароткая драўляная платформа была патрушчана бомбамі. Да яе прысланілася некалькі задніх вагонаў, з іх выгружалі абозна-рэчавае, харчовае забеспячэнне, дошкі, лапаты, пілы, пустыя скрынкі ад снарадаў і проста непатрэбшчыну.

---

[1] Малакаліберная зенітная артылерыя.

— Цягнем за сабой усё барахло. Ваякі! — уедліва заўважыў Калбенка. Нечаканая разгрузка, мабыць, кранула і яго, бо стаў ён іранічна-злосны.

Цяжкія гарматы згружаліся з платформ на зямлю, на рэйкі, засланыя дошкамі. Зрабіць насціл, каб скаціць шматтонную гармату, нібыта і проста тэарэтычна, а на практыцы патрэбна асаблівае ўменне. У Кандалакшы, пры пагрузцы, «васьмідзесяціпятка» праламала насціл і ледзь не пакалечыла людзей. Таму я не здзівіўся, што разгрузкай гармат кіруе Бацька. Так называлі, бадай, самага старога салдата, часам жартавалі — «мікалаеўскага», бо сам ён гэтак адказаў на пытанне: «Якога разраду запаснік?» Быў ён таго разраду, які не прызывалі ў сорак першым. Перанёс акупацыю на Бранщчыне. Чалавек непрыкметны, маўклівы, не ўсе нават ведалі яго простае прозвішча Грываў, рабіў ён пры штабе «ардынарцам для ўсіх» — паліў печы, падмятаў. Але часцей яго пасылалі туды, дзе трэба быў цясляр ці сталяр, а майстар такі ўсюды патрэбны, таму Грыбава ведалі ва ўсіх батарэях, у пражэктарнай і кулямётнай ротах. Камандзіры да яго звярталіся паважліва — Пятро Пятровіч, малодшыя байцы — Бацька, без іроніі, на поўным сур'ёзе.

Бацька кіраваў зусім па-цывільнаму:

— Хлопчыкі, хлопчыкі! Рэечкі гэтыя пад дзіцячую калясачку падложыце, а не пад пушачку. Шпалы! Шпалы цягніце!

Кузаеў стаяў збоку, назіраў, як камандуе Бацька, весела пасміхаўся, але не ўмешваўся, хоць на пагрузках і разгрузках з'еў зубы, бо да вайны служыў начальнікам чыгуначнай станцыі. Настрой у камандзіра быў узнёслы — апынуўся чалавек у сваёй стыхіі. Удыхаў .знаёмыя пахі вугалю, шпал, масла, рэек, нагрэтых на сонцы. Расказваў афіцэрам аб розных выпадках, што здараліся на чыгунцы, добрая — на яго станцыі дрэнныя — у суседзяў. Пра слабасць яго гэтую афіцэры ведалі, за вочы кпілі, але слухалі кожны раз з пачцівай увагай — камандзір ёсць камандзір!

Я праскочыў міма афіцэрскай групы. Разгрузка гармат мяне мала цікавіла: там рабілі мужчыны і кіраваў Бацька. Ды і сам камандзір дывізіёна назіраў. Пацягнула мяне на выгрузку снарадаў. Запас іх назбіраўся вялікі — некалькі вагонаў, на Кандалакшу апошнія месяцы фашысты рэдка наляталі.

Снарады выносілі пераважна дзяўчаты. Узбягалі па хісткіх дашчаных усходцах у вагон, адна за адной, і выбягалі адтуль са скрынкай на плячах, схіліўшыся да зямлі. Каля штабеля дзве дзяўчыны, слабейшыя, асцярожна здымалі скрынкі са спін. Рабілася

ўсё бягом: у вагон — бягом, з вагона — бягом. Канвеер! Каля гармат так не завіхаліся. Там працавалі няспешна.

Разгрузкай камандаваў старшына Рысаўцаў, начальнік артсклада. Гэта ён задаў такі тэмп. Стаяў збоку і паўтараў, як аўтамат:

— Хутчэй, пташкі мае, хутчэй!

Здзеклівае «пташкі» і тэмп, які ён задаў, абурылі мяне. «Мы ж з табой насілі некалі гэтыя скрынкі! Не мог ты забыцца, што гэта такое, Хведар! Чатыры: пуды кожная скрыначка!»

Прыгадаўся даўні выпадак. Зімой сорак другога ўвайшоў у Кольскі заліў вялікі караван суднаў саюзнікаў. Стаяла палярная ноч. Светлага часу — лічаныя гадзіны. Немцы пачалі бамбіць уначы. Прыляталі па два-тры самалёты, вешалі на парашутах ракеты. І пры святле іх рабілі заходы на порт, на караблі, што стаялі пад разгрузкай. Са спазненнем наша камандаванне разгадала іх тактыку. Немцы не столькі разлічвалі на прыцэльнае бомбакіданне, колькі стараліся знясіліць нас, зенітчыкаў, прымусіць расходаваць боепрыпасы ўначы малаэфектыўным загараджальным агнём. Каб удзень мы засталіся без снарадаў. Ведалі, гады, якой цаною дастаюцца нам снарады — і выраб іх на заводах пад адкрытым небам, і прывозка з Урала ў Мурманск па дарозе, якая спешна будавалася пасля таго, як перарэзалі Кіраўскую чыгунку.

У адной з такіх доўгіх начэй батарэя, дзе я камандаваў гарматай, расходавала амаль увесь баявы запас — білі да чырвонага свячэння ствалоў. Пад раніцу, як гэта часта бывае ў Мурманску, пайшоў зімовы дождж. Абліваха. А праз колькі гадзін зноў замарозіла, вецер разагнаў хмары, яшчэ да наступлення цемры наладзілася лётная пагода. Чакай «гасцей». Але сопка, на якой стаяла батарэя, так абледзянела, што на яе не магла ўспаўзці не толькі аўтамашына, але і гусенічны трактар. Як даставіць снарады? Толькі на плячах людзей! Агневікоў не адарвеш: не весці агонь — злачынства, за якое камандзіра могуць судзіць.

На снарады кінулі ўзвод упраўлення — сувязістаў, разведчыкаў, штабістаў. А менавіта там больш дзяўчат, навабранцаў, першы атрад іх паступіў усяго нейкі месяц назад. У камандзіра батарэі Гарнавога хапіла розуму даць загад: са скрынак, якія панясуць дзяўчаты, вымаць па адным-два патрону — якая колькі падужае. І ўсё роўна здарылася бяда: Надзя Малініна (як на грэх, прозвішча такое — пяшчотнае, запамінальнае, на ўсё жыццё запомнілася) упала пад цяжарам скрынкі з трыма патронамі, ударылася галавой аб камень і памерла.

Было вялікае ЧП. Пакаралі не толькі камандзіра батарэі, узвода, перажыло непрыемнасць і камандаванне дывізіёна. Камандзір дывізіі ПВО[1] выдаў загад: байцам-дзяўчатам насіць толькі па два патроны ад 76-міліметроўкі. Аднак пазней на загад забыліся. Дзяўчаты натрэніраваліся, падужэлі, у нас яны амаль усе стараслужачыя; навічкі, наадварот, мужчыны, прызыўнікі з вызваленых абласцей,— старыя, як Бацька, ёсць сярод іх сапраўды нямоглыя, па сіле ім хіба палавіна таго цяжару, як скрынка з поўным камплектам. Ваенкаматы памылкова лічылі, што такім месца ў будбатах ды зенітных часцях.

Я падышоў да вагонаў са снарадамі — да Рысаўцава. Некалі мы камандавалі суседнімі гарматамі, быццам бы і сябравалі, але я ведаў, што адносіўся ён да мяне раўніва і зайздросна: мой разлік часцей хвалілі, чым яго, мае байцы лепш ведалі матчастку, яшчэ лепш палітграмату, і агонь вялі зладжана, без грубых памылак. Зайздросціць Рысаўцаў мне і цяпер: я стаў афіцэрам, а ён з патугамі вырас да старшыны. Да таго ж такія, як Рысаўцаў, лічаць, што абавязкі палітработніка — самыя лёгкія, маўляў, ніякай канкрэтнай адказнасці. Пагутарыў, напісаў данясенне, правёў сход — ці ж гэта работа?

Сустрэў Рысаўцаў мяне ўедлівым і небяспечным пытаннем:

— Кажуць, вы з Калбенкам увесь горад абшнырылі. Засталося што ад фінаў?

Я аслупянеў: выходзіць, няма тайны, што мы парушылі загад. Ведае Рысаўцаў — будуць ведаць усе. Непрыемна. А ўсё — Калбенка са сваёй скептычнасцю да «мудрых загадаў» Кузаева. Ды ўрэшце, мы апраўдаемся: нам, камісарам, як называе нас той жа Кузаеў, першым належыць убачыць вызваленую зямлю. А вось калі скажуць, што следам за намі пайшла і камсорг батарэі Асташка са сваёй камсамолкай... Думаю, мне прыйдзецца разбіраць учынак Ліды на бюро. Ажно кінула ў жар. Уявіў, у якім становішчы я апынуўся. Аднак не апраўдвацца ж мне перад Рысаўцавым. Няхай ён «пакруціцца».

— Ты што робіш, Хведар?

— Як што? Разгружаю свой скарб.

— Нельга ж так... каб па поўнай скрынцы на дзяўчат.

— А ты хочаш па адным снарадзіку? За трое сутак не разгрузім. А мне дадзена дзве гадзіны.

— Ёсць жа загад.

— Які? Той? Слёзы па Маліўцы? Выдадзены пры цару Гароху? Схадзі ты з ім у кусты.

---

[1] Проціпаветраная абарона.

— Не забывайся, Рысаўцаў! — ускосна нагадаў я розніцу ў нашых званнях. Але начальніка артсклада не спалохаеш субардынацыяй, з ім камандзіры батарэй запанібрата — каб атрымаць лішнюю скрынку снарадаў.

— А ты мне не камандзір! — ускіпеў старшына.— Падумаеш — камсорг! Бабскі абаронца! Чым яны табе за гэта плацяць?

На нас звярнулі ўвагу: тыя з дзяўчат, што вярталіся ў вагон, спыніліся на насціле, прыслухоўваліся. Жаночая цікаўнасць — бязмежная і паўсюдная. На гулянцы і ў самай цяжкай працы. У раі і ў пекле.

Я адышоў.

Рысаўцаў закрычаў ужо не весела, а злосна, як цівун:

— Ану, варушыся! Наставілі вушы!

Сутычка з былым сябрам усхвалявала. Закрануты афіцэрскі гонар, зняважана пасада. Але яшчэ больш балела ад думкі, што нахабнік, па сутнасці, апляваў маё шчырае жаданне памагчы дзяўчатам, палегчыць іх вельмі ж цяжкую, нежа ночую працу. Пачакай жа! Я давяду сваю праўду! Аднак да камандзіра дывізіёна я звярнуўся не адразу. Стрымлівала сумненне: а ці не ёсць гэта звычайная амбіцыя? Ці не буду я ў яго вачах нагаворшчыкам і выскачкам? Маўляў, знайшоў на чым выставіць сябе.

Ва ўсялякім разе, пакуль Кузаеў стаяў са сваімі намеснікамі і камандзірамі батарэй, я прайшоў міма іх раз, два. Нампаліт Тужнікаў, які не цярпеў людзей, што не заняты справай, даў даручэнне:

— Шыянок, не сноўдайся, прасачы за выгрузкай дакументаў.

Загадвае не думаючы. Якая дакументацыя? Штабная? Дык за яе адказвае начальнік штаба Мураўёў, чалавек надзвычай пунктуальны. Яго, нампаліта, жалезная скрынка, парторгава і мая — з камсамольскімі справамі? Дык яны таксама здадзены ў сакрэтную часць, і забраць іх можна не раней, чым мы ўсталюемся і будзем мець свой дом, зямлянку ці хаця б палатку.

Аднак калі яны засталіся толькі ўдвух — камандзір і нампаліт,— я ўсё ж адважыўся.

— Таварыш маёр! Дазвольце звярнуцца.

— Шпар. Чаго там — дазваляць,— Кузаеў нярэдка здзіўляў то празмернай вайсковасцю, то залішняй цывільнасцю.

— Байцам-дзяўчатам нельга насіць поўныя скрынкі. Гэта ж без малога — семдзесят кіло!

— Нельга, кажаш? — камандзір як бы здзівіўся адкрыццю, але я ўгледзеў, што вочы яго смяюцца. З каго? З мяне?

— На вайне няма «нельга». На вайне ёсць толькі «ёсць»,— строга і павучальна сказаў Тужнікаў.

— Чуў, камсорг? — з яўным смяшком спытаў камандзір.

— Так точна.

— Вось так, дарагі мой камісар,— незразумела, каму Кузаеў гэта сказаў — Тужнікаву ці мне.

— Дазвольце ісці?

— Каціся.

Яшчэ адна пстрычка па носе. Крыўдна. Але галоўнае — такія вось «мяккія жарты» начальства размыў ваюць маю ўпэўненасць у сабе. Калі быў камандзірам гарматы і ўзвода, то адчуваў сябе куды больш упэўнена, хоць казыраць, выцягвацца, атрымліваць вымовы тады прыходзілася намнога часцей. А дурань Рысаўцаў — ды ці ён адзін? — лічыць, што пасада камсорга з тых, пра якія жартуюць: «Салдат спіць, а служба ідзе». Не, Рысаўцаў! Ты на складзе спіш, ажно апух. А мне не да сну. Мне да ўсяго ёсць справа. Што там у Беларусі? Як ідзе наступленне? Пайшоў у штабны вагон. Паслухаў радыё. Тужнікаў даўно дазволіў мне слухаць прыёмнік у любы час: мая зброя — інфармацыя, якую я больш аператыўна, чым хто, умею перадаць людзям, нампаліт гэта цэніць.

Першая батарэя, данілаўская,— мая батарэя, там я служыў,— займае пазіцыі за паўвярсты ад станцыі на ўзгорку, парослым бур'яном, маладым бярэзнікам, пэўна, там яшчэ ў пачатку вайны згарэла нейкая пабудова, на старых папялішчах заўсёды густа расце бур'ян.

Пайшоў туды. На батарэі, ведаю, госць я жаданы. Ад мяне чакаюць навін. І я адчуваю сябе не лішнім, магу даць парады не толькі парторгу, камсоргу, але і самому камандзіру. Як кажуць, зубы з'еў і на гармаце і на. ПУАЗО. Ліду вывучыў на лепшую дальнамершчыцу, калі быў камандзірам узвода. На гэтай батарэі я — што ў роднай сям'і. З Данілавым у мяне найлепшыя адносіны, малады камбат пры сваёй цыганскай натуры не мае фанабэрыі, успрымае любыя падказкі.

Здаля відаць, як бліскаюць «зайчыкі» ад лапат, адпаліраваных Кольскім каменнем. Фантанамі ўзлятае ў паветра зямля. Капаюць катлаваны для гармат, прыбораў, відаць, заадно — і пад зямлянкі. Па ўсім відаць, зямля мяккая, дзяўбці ламамі не трэба: на мяккай зямлі работа заўсёды жвавая, вясёлая.

Гарматы прыведзены з паходнага ў баявое становішча. Дулы нацэлены ў неба над станцыяй. Батарэя гатова прамой наводкай прыкрыць эшалон. Такая паспешлівая гатоўнасць да бою парадавала.

Помнілася страшнае адчуванне бездапаможнасці, калі на аэрадроме ў Афрыкандзе нас бамбілі да таго, як батарэя заняла баявую пазіцыю. Самае брыдкае адчуванне, якое я перажыў. Баявыя разлікі беглі ад уласных гармат, якія стаялі пад чахламі, рассыпаліся па полі, каб уратавацца ад асколкаў.

Толькі ўзышоў на пазіцыю, да мяне кінуліся дзяўчаты з ПУАЗО, сувязісткі, моцна ўзбуджаныя. Абкружылі. Гаварылі ўсе разам, звяртаючыся і статутна і па-цывільнаму:

— Таварыш малодшы лейтэнант!

— Павел Іванавіч!

— Ён невінаваты!

— Гэта — няшчасны выпадак.

— Паверце.

— Увесь разлік бачыў.

— Хто ж вінаваты? У чым?

— Ваня Рослік.

— Ратуйце вы яго.

— Камузвода прыгразіў трыбуналам.

Урэшце і праз туманныя дзявочыя выклікі я дайшоў да сэнсу таго, што адбылося на батарэі: калі прыводзілі гармату ў баявое становішча, устаноўшчыку трубкі ІвануРаслякову адсекла пальцы. ЧП! Няшчасныя выпадкі здараліся і раней, было нават некалі, што ўзарваўся снарад: выпусціў з рук трубачны, і снарад капсулем ударыўся ў рабро жалезнага кліна, што мацуе гармату да зямлі. Рознае здаралася за вайну не толькі ў баях. Але я разумеў усхваляванасць дзяўчат: у няшчасце трапіў Ваня Рослік.

Месяцы два назад атрымалі мы невялікае папаўненне — дзесятак хлапчукоў апошняга прызыву. Відаць, зноў-такі нехта ў ваенкамаце ці на «сартаванні» разважаў, што, маўляў, у зенітную часць можна паслаць самых слабых здароўем, знясіленых галодным жыццём і непасільнай працай у калгасах, дзе тыя дзеці замянілі сваіх бацькоў, што пайшлі на фронт. Цяпер прыйшла чарга сыноў. Сапраўды, гледзячы на іх, нельга было падабраць іншага вызначэння, як «дзеці вайны»: нізкарослыя, худзенькія, адны вушы тырчалі на абстрыжаных галовах. Але нават сярод такіх выдзяляўся баец с гучным, як на здзек прыдуманым, прозвішчам Раслякоў. Расказвалі — і ў гэта верылі,— што «гром-баба» Таня Дзёмушкіна, убачыўшы новага байца, пляснула далонямі і па-мацярынску здзівілася:

— А ты, дзіцятка, як трапіў сюды?

Нават пры тым, што мелася абмундзіраванне з разлікам на дзяўчат, Ваню гэтаму не адразу падабралі шынель, боты, гімнасцёрку.

Акрамя свайго вартага жалю выгляду хлапчына быў яшчэ і нейкі як бы вельмі спалоханы. Астатнія прызываліся ў Валагодскай вобласці, нават з аднаго раёна, таму было ў іх зямляцкае сяброўства, яны трымаліся адзін аднаго. А Ваня гэты чамусьці адзін прывезены на фронт з далёкага тылу, з-пад Омска, з таежнай вёскі. Хто яго там зацюкаў — дапытацца не маглі ні я, ні камандзір яго, ні дзяўчаты. Але напачатку ён баяўся людзей. І — што дзіўна — не столькі нават афіцэраў, не разумеючы субардынацыю, колькі менавіта дзяўчат. Жанчыны ў гімнасцёрках з пагонамі, у ботах, аднак у спадніцах, здаваліся яму бог ведае кім. Ён палохаўся іх бойкасці. А дзяўчаты на гэтай батарэі былі ўсе стараслужачыя — два гады елі кашу з кацялкоў. Некаторыя, уяўляючы сябе сапраўднымі салдатамі, не саромеліся і моцнага слова, і самі часам пад настрой добра-такі ўмелі «закруціць». Дзіўна, што вясковага хлапчыну гэта так бянтэжыла.

Ваню спачатку зрабілі чытальнікам трубкі. Але пры першай жа баявой стральбе ён страціў і без таго слабы голас. Данілаў хацеў ад яго пазбавіцца — спіхнуць куды-небудзь у медчасць. Але камандзір гарматы Хаім Шыманскі, сам нізкарослы, пераканаў, што па сіле Раслякоў не слабейшы за іх, ва ўсялякім разе, пудовы снарад падхоплівае лёгка, і яго зрабілі ўстаноўшчыкам трубкі. І хутка на вучэбных трэніроўках Ваня паказаў і хуткасць, і дакладнасць установкі. Але толькі ў працы ён жыў у калектыве, а так усё яшчэ цураўся ці, можа, і баяўся людзей, ад таго доўга блытаў званні — хто каму падначальваецца.

Калі я пачаў размову пра ўступленне ў камсамол, ён спалохаўся.

«Ты са староверам, ці што?»

«Не, дзядзечка, я не старавер»,— гэта ён мне. І смешна, і кранальна.

Я даручыў камсоргу батарэі Лідзе Асташка ўзяць яго пад сваю апеку, рыхтаваць хлопца ў камсамол.

Ліда падключыла да шэфства над навабранцам усю сваю каманду — усіх дзяўчат з ПУАЗО, з дальнамера. І адбылося дзіўнае: мабыць, прачнулася ў іх жаночае, мацярынскае, яны назвалі хлопца Рослікам, песцілі, як сына. І ў Вані хутка знікла яго зацюканасць. Перастаў палохацца моцных слоў, пачаў разумець жарты, вывучыў статуты. Можна прымаць у камсамол. І вось табе на! Страціў пальцы... Які лёс яго чакае без пальцаў? А тут яшчэ пагроза.

Камандзір агнявога ўзвода — Акім Унярха. Сібірак, рускі, прозвішча дзіўнае, невядомага паходжання. Унярха ў нас нядаўна з'явіўся, са школы, «новаспечаным» лейтэнантам, хлопцу ўсяго дваццаць гадоў. Загадкавае не толькі яго прозвішча, сам Акім

таксама загадкавы. Маўклівы, як і Ваня Рослік. Але маўклівасць яго зусім іншай якасці. Яна — не ад сарамлівасці, сціпласці, а, наадварот, ад самаўпэўненасці, ад адчування сваёй перавагі над іншымі людзьмі. Не чым іншым, а менавіта суровай маўклівасцю Унярха, бязвусы лейтэнант, які нядрэнна ведаў тэорыю артылерыі, але не нюхаў пораху, вельмі хутка падпарадкаваў сваёй уладзе не толькі ўзвод, але і ўсю батарэю. Яго баяліся. Паспрабуй да яго не так звярнуцца, не так казырнуць, з'явіцца з расшпіленым каўнерыкам!..

Саша Данілаў, непасрэдны камандзір яго, вясёлы і шумны цыган, скардзіўся мне:

«Ведаеш, я баюся яго. Па-мойму, гэта хворы чалавек. Ён не павышае голас на людзей. Але паназірай за ім, як з-за дробязі ён «заводзіць» сябе. Не так казырнула дзяўчына... Падумаеш — страх! — а ў яго сінее твар, дрыжаць вусны, мяняецца голас... Цішэе голас, здаецца, дабрэе. Але ён будзе ганяць няшчасную да знямогі. Ён п'янее ад сваіх: «Кругом», «Шагам арш», «Адставіць». Ад уласных каманд у яго ўчашчаецца дыханне, канешне, пульс таксама. Ён уваходзіць у нейкі дзікі экстаз. Перапыніш — будзе сядзець знясілены, аслупянелы, з выглядам абражанага».

Мне не давялося бачыць Унярху ў такім стане, са мной ён ветлівы, на «вы», не вельмі гаваркі, калі распытваеш пра жыццё, пра блізкіх, аднак любіць паразважаць пра справы вайсковыя — пра высокую стратэгію і палітыку: што думае Сталін, якія планы ў Жукава, у Ракасоўскага, дзе немцаў чакае чарговы «кацёл». Але хто не любіў пра гэта пагаварыць у тыя дні!

Не паспеў я распытаць у дзяўчат пра падрабязнасці няшчасця з Рослікам, як з'явіўся Унярха; на пазіцыі батарэі, пакуль людзі не пазалазяць у катлаваны,— усё як на далоні.

Спытаў нібыта спакойна:

— Мітынгуем?

— Гаворым... па-камсамольску.

Добра ён бачыў мяне, калі яшчэ падыходзіў, а то і раней, але сказаў:

— Ах, гэта вы? — не здзівіўся, сказаў з нейкай крыўднай зняважлівасцю і тут жа — да дзяўчат: — У вас гатовы катлаван?

— Гатовы, таварыш лейтэнант! — адказала Ліда Асташка бадай узлавана; ёй больш чым каму балела за Ваню.

— Я не вас пытаю, таварыш малодшы сяржант! Я пытаю камандзіра прыборнага аддзялення.

Віктара Маслоўскага, які камандаваў гэтым аддзяленнем, не было сярод дзяўчат, што акружалі мяне; Унярха не мог не заўважыць

яго адсутнасці, проста яму хацелася падкрэсліць, наколькі самавольны іх збор. А ўвогуле Унярха быў трохі разгублены: не пакараеш байцоў-камсамолак за зварот да камсорга дывізіёна, гэта ён разумеў, ды і канфліктаваць са мной не ўваходзіла ў яго намер, сам — камсамолец. Ліда знарок падкрэслена гучна і выразна папрасіла мяне:

— Таварыш малодшы лейтэнант, перадайце камандзіру дывізіёна, што гэта — няшчасны выпадак. Увесь разлік пацвярджае... Камандзір яго.

На гэты наказ мне Унярха змоўчаў, загадаў дзяўчатам бадай мірна, як параіў:

— Ідзіце працаваць.

Але калі дзяўчаты адышлі, сказаў з зацятай упартасцю:

— Гэта — самазнявечанне.

Мне зрабілася страшна ад яго незразумелай зацятасці. Не бачыў жа ён, як гэта адбылося. Чаму ж такая ўпэўненасць? Навошта яму трэба падвесці пад трыбунал гэтага няшчаснага хлопца, які і дома насёрбаўся ліха?

— Акім! Што ты гародзіш лухту? Навошта Рослiку ў нашых умовах нявечыць сябе? Падумай. Гэта ж абсурд. Ты што, баішся за сябе — што недагледзеў? Што табе можа быць? Вымова? Трое сутак арышту?

Нядобра здрыгануліся яго вусны.

— Я нічога не баюся, таварыш малодшы лейтэнант. І прашу вас... я кажу вам «вы».

А раней сам шукаў сяброўства, асабліва калі пачуў, што з Данілавым я на «ты». Што зрабілася з чалавекам?

— Калі ласка, таварыш лейтэнант. Але раю: не рабіце глупства, гэта не ўздыме ваш аўтарытэт.

Хацеў сказаць: «Ваню мы табе не дамо з'есці»,— але стрымаўся, бо адчуў, што мне яго не пераканаць. Пераканаць яго можа толькі старшы па званню, па пасадзе. Данілаў, Калбенка, Тужнікаў. Не сумняваўся, што яны паверацць разліку, дзяўчатам, мне, таму за Рослiка не баяўся. Крыўдна, што хлопец, не пачаўшы ваяваць, так недарэчна страціў пальцы. А яшчэ больш; крыўдна, што ёсць сярод нас, афіцэраў, чалавек, у якога маглі ўзнікнуць такія падазрэнні. Здараліся няшчасныя выпадкі і раней. Былі такія, якімі займаўся ўпаўнаважаны «Смерша». Адаслалі чалавек двух у штрафную роту. Але ўсё гэта не закранала гонару ўсяе батарэі, лепшай батарэі, лепшага камандзіра, дывізіёна, нарэшце. А тут раптам такая ганьба! Самастрэл!

З Хаімам Шыманскім мы з'елі пяць пудоў кашы з аднаго кацялка. Да вайны ў вучэбнай батарэі служылі ў адным разліку.

Пасля, калі я стаў камандзірам гарматы, ён, першы нумар, з'яўляўся маім намеснікам; калі я пайшоў на ўзвод, прыняў гармату. Хлопец дзіўны. З Заходняй Беларусі, з Дзятлава. Адукацыя ў яго яўрэйска-польская, некалькі класаў хедара, пасля — апошнія класы польскай сямігодкі. Гаварыў ён, калі прыехаў у Мурманск, на такой мове, што рускія яго не разумелі: не знаходзячы рускія словы, ужываў беларускія, польскія, украінскія, яўрэйскія, нават літоўскія. У вучэбную батарэю Хаіма залічваць не думалі: які з яго камандзір! Па-першае, рост — вераб'іны, а потым і акцэнт. Але хутка Хаім паказаў сябе лепшым байцом: майстар на ўсе рукі і надзвычайная кемлівасць і спрытнасць. Хутчэй за яго ніхто не выбягаў да гарматы па вучэбнай трывозе, пры гэтым абмоткі ён ніколі не выносіў у кішэні ці за пазухай, як мы, грэшныя. Пасля, на вучэбнай батарэі, хлопцы яму прыгразілі: будзеш даваць такі шалёны спрыт — пакамечым бакі. Хаім выбраў такі аптымальны тэмп, які і камандзіраў задавальняў, і курсантаў не падводзіў.

Калі я падышоў да гарматы, Шыманскі сядзеў на снараднай скрынцы, сашчапіўшы далонямі галаву,ківаўся з боку ў бок і паўтараў:

— Ай-вай-вай! Што будзе? Што будзе?

— Што будзе, Хаім?

Ён зірнуў на мяне.

— Я ў цябе пытаюся: што будзе?

Але тут жа ўспомніў пра субардынацыю, падскочыў, выцягнуўся.

— Як гэта здарылася?

— Каб хто толкам мог сказаць, як гэта здарылася. Як ён падсунуў туды свае няшчасныя пальцы. Ай-вай.

— Хто вінаваты?

Ён зноў схапіўся за галаву, але перайшоў раптам на «вы».

— Вы пытаецеся — хто вінаваты? Дык я вам скажу: Шыманскі вінаваты. Не давучыў. Не дагледзеў,— і пасяброўску ўжо, таемна і даверліва: — Маю я права пасля гэтага насіць ордэн? Як ты думаеш?

На гімнасцёрцы яго ззяў навенькі ордэн Айчыннай вайны.

— Не рабі трагедыю, Хаім.

— Лёгка табе казаць.

— Нялёгка. Дзе Данілаў?

Камандзіра батарэі Сашу Данілава я знайшоў на беразе Анежскага возера. Два гады ён у дывізіёне, а я ўсё яшчэ не перастаю любавацца гэтым чалавекам, усё роўна што дзяўчынай. Чартоўскі прыгожы цыган! Сярэдняга росту, вельмі ладна зляплены — кожны мускул рук, плячэй, ног вырысоўваецца пад адзеннем і простатакі

спружыніць, і ў той жа час стан падзявочаму тонкі, зграбны. Чорныя да антрацытавага бляску кучаравыя валасы, быццам бы ён завіваўся ў лепшага цырульніка. А вочы... не чорныя, вочы — што спелыя каштаны, росныя. Можна іх назваць карымі? Не, вочы яго, бадай, мянялі колер. Яны бясконца прамяніліся і як бы сыпалі іскры: то блакітна-вясёлыя, то шэра-задумлівыя, то гнеўна-агністыя.

Данілава любіў не адзін я. Данілава любілі ўсе. Дзяўчаты закаханы ў яго. Але ён, як ніводзін з афіцэраў, не дае падставы пераступіць мяжу субардынацыі і сам ніколі ні ў чым не пераступае. Гэта тым больш дзіўна, што афіцэр ён не строгі, не фармаліст. Весялун. Жартаўнік. Гітарыст. Спявака. Цыганскімі песнямі заварожваў не толькі дзяўчат і нас, маладых рамантыкаў, але нават сівых строгіх правяраючых — палкоўнікаў, маёраў. Пасля казалі, што хітры Кузаеў, у яго выявілі нямала прамашак, знарок падказаў ім паслухаць цыгана. Размякчыў наш Саша іх душы. Але пасля яго ледзь не забралі ад нас — у нейкі франтавы ансамбль, сам Данілаў не згадзіўся.

Данілава са штаба корпуса прыслалі камандзірам батарэі, што здзівіла і Кузаева: такі маладзенькі лейтэнант, цыган, толькі што гусарскія вусы адрасціў,— і так узняўся раптам. Але хутка пераканаліся: у штабе не памыліліся. Дваццацідвухгадовы камандзір валодаў усім: і тэорыяй артылерыйскага агню, і матэрыяльнай часткай, складанымі прыборамі, і ўменнем камандаваць людзьмі.

Не доўга быў я камандзірам узвода ў яго, і мы хутка і хораша пасябравалі. І напэўна адзін я ведаў яго тайну, ён сам па сакрэту і даверліва выказаў яе:

«Я страшны, калі гневаюся. Я дзікі. Як бацька мой. Ён засек тапаром маладога цыгана, прыраўнаваўшы да жонкі сваёй, нашай маці. Нас было ўжо трое, я і дзве сястры. Бацьку пасадзілі. А мама — ён каўтнуў слёзы — утапілася. Нібыта незнарок. Пайшла па тонкім лёдзе... Нас забралі ў дзіцячы дом. Мне ішоў восьмы год. Я тройчы ўцякаў. Але старэйшына табара вяртаў мяне назад. Гэта пярэчыла цыганскім законам. Каб цыганскае дзіця вярнулі ў рускі дзіцячы дом! Ніколі не было! Але думаю, што мяне проста баяліся, каб не нарабіў бяды. Я прашу цябе: ты сачы за мной, калі што. Я сам сябе баюся». Аднак за два гады дзікі гнеў, за які ён сам баяўся, не праявіўся. Было, што Данілаў злаваўся. Але звычайна — як усе нармальныя людзі: пакрычыць, вылаецца, ды і то па-цыганску, увогуле грубыя словы ён не ўжываў і караў падначаленых, калі тыя беспадстаўна лаяліся, асабліва ў прысутнасці дзяўчат.

Праўда, нядаўна Данілаў напалохаў нас — мяне, Калбенку. Нават Кузаеў устрывожыўся. Дайшлі чуткі, што ён выкінуў са сваёй зямлянкі старшага лейтэнанта Зубрава, прадстаўніка «Смерша».

Адна з прыбарыстак стаяла на пасту і бачыла ўсё, а Ліда па сакрэту расказала мне з яўнай гордасцю за свайго камандзіра: вынес з зямлянкі госця свайго і кінуў на бруствер, усё роўна што мяшок з мукой. Што адбылося паміж імі — невядома. У Зубрава хапіла розуму прамаўчаць: ніякай скаргі, ніякага рапарту. І Данілаў на маё пытанне адказаў коратка і рашуча:

«Маўчым!»

Данілаў хадзіў паміж штабялямі дошак, брускоў, шпал, удыхаў востры смалісты пах нагрэтага сонцам пілоўніку і яўна любаваўся ўсім багаццем, ад якога і на мяне патыхнула мірам і спакоем.

— Ты паглядзі, якія дошчачкі! — радасна, неяк па-хлапчукоўску крыкнуў Данілаў, угледзеўшы мяне.— Як распілаваны! Як складзены! У гаспадарлівасці і акуратнасці фінам не адмовіш. Не, ты паглядзі! Столькі ў іх лесу! А нідзе не валяецца ніводнага бярвенчыка. Штабялі. Штабялі.

— Адкуль у цябе такая гаспадарлівасць?

У Кандалакшы яго батарэю ставілі ў прыклад за бытавую ўладжанасць: лепшыя зямлянкі, лепшыя НП[1] і КП[2].

— Ад бацькі.

— Ад бацькі?

— Чаму вы ўсе здзіўляецеся? Думаеце, калі цыган, то не гаспадар? Мой бацька быў лепшы каляснік. Яго ведалі ва ўсіх табарах ад Кішынёва да Мінска. А можа, далей ці глыбей. А называю гарады, якія запомніў, куды прыязджаў наш табар. Я ў дзіцячым доме сталярнічаў. Во хаджу, гляджу, што трэба для батарэі, калі асядзем на гэтай мядзведжай гары. Тут, брат, не зявай. Пакуль камендант лапу не налажыў ці не з'явіліся цывільныя гаспадары. Хадзі тады — здымай шапку. А мы адвучыліся перад цывільнымі шапку здымаць.

— Ты ведаеш пра гісторыю з Рослікам?

— Ведаю.

— І што?

— Што, што? Шкада хлопца. А больш — што? Кузаеў дасць па штанах мне. Я — Унярху. Ён... Не, і Шымайскаму сам уляплю на ўсю катушку. Няхай павойкае.

— Унярха гаворыць, што гэта... самастрэл... самазнявечанне.

---

[1] Назіральны пункт.
[2] Камандны пункт.

— Што? — вочы ў Данілава ўміг змянілі колер.— Каму ён сказаў? Табе?

— Мне.

Вочы яго сыпанулі вогненныя іскры.

— У-у! — і вылаяўся па-цыганску.— Ды ён сам мне дакладваў як пра няшчасны выпадак. Во подлая душа! Ну, я з ім пагавару!

Данілаў шмаргануў гімнасцёрку, падцягнуў папругу, ляпнуў па кабуры пісталета і трохі не ўподбег кінуўся ў бок батарэі.

Я спалохаўся, што выклікаў той прыступ гневу, якога ён сам баіцца.

— Саша! Толькі спакойна!

Ён азірнуўся і сказаў, бадай, разважліва, з заспакаеннем:

— Не ідзі за мной. Я сам! Не бойся.

Я спыніўся і глядзеў на яго спіну, дзе пад потнымі плямамі гімнасцёркі ад хуткай хады прыгожа выгіналіся спружыністыя мускулы.

Я доўга глядзеў яму ўслед, і мне ажно да нязвыклых спазмаў у горле, да салодкіх слёз зрабілася суцешна і радасна, што ёсць такія людзі, як Данілаў, і што чалавек гэты — мой сябар.

## 3

Ціха, ласкава, нязвыкла для агрубелых ад стрэлаў вушэй, неяк вельмі ўжо па-мірнаму журчала вада, плёскалася аб борт. А навокал цішыня. Дзіўная цішыня. Складаная. Адначасова і спакойная і трывожнападманлівая. І тут, на баржы. І над усім гэтым бяскрайнім у прыцемках белай ночы возерам. Ноч — белая-белая. І ўсё-такі ноч. На небе відно некалькі цьмяных зорак. Адна — яркая. Яна плыве ў чорнай... не, не ў чорнай, нейкай дзіўнай шызай вадзе. Ніколі не бачыў такой вады, такога адцення яе. Ад белага неба? Ад блізкага паўночнага сонца, такога знаёмага там, у Мурманску? Тут яно схавалася на нейкія тры гадзіны. Ззаду ў нас, за кармой баржы, неба зусім белае. І на яго фоне вырысоўваюцца фантастычныя абрысы чорнага страшыдла з адзіным зялёным вокам. Гэта яшчэ адна наша баржа. Абрысы дзіўныя ад зліцця буксірнага параходзіка і баржы. Такі ж буксір і ў нас наперадзе, даволі далёка. Каб не яго натужлівае пыханне, шлёпанне лопасцяў аб ваду, сапраўды нічога не парушала б першароднай цішыні былiннай Анегі.

Ледзь прыкметна плыве «залатая рыбка» ў шызай вадзе. Так мы плывём. Вельмі павольна. Не хапае сілы ў буксіра? Ці няма куды спяшацца?

Сапраўды, спяшацца няма куды. Ворага мы не дагонім. Наўрад ці хто-небудзь марыць яшчэ пастраляць па танках.

Толькі занялі пазіцыі ў Мядзведжагорску — каманда: грузіцца на баржы. Ніхто не бачыў, калі і адкуль яны прыплылі, гэтыя доўгія, дзіравыя, з прабітымі бакамі, з абпаленымі палубамі пасудзіны. Грузіліся без таго энтузіязму, як у Кандалакшы ў вагоны. Людзі змарыліся. Двое сутак працавалі без перадыху. Капалі катлаваны пад гарматы, пад зямлянкі, абсталёўвалі ў падвале згарэлага дома артсклад, а ў іншым месцы — харчовы і абозна-рэчавы склады. Энтузіязму не было і па іншай прычыне — ад невядомасці: дзе нас могуць высадзіць з нашымі цяжкімі гарматамі, з вялікім запасам снарадаў? Ды і небяспеку адчулі большую, чым калі-небудзь. Не тую, што ў баі. У любым, нават з танкамі. А тую, калі баявая часць па сутнасці бездапаможная. Абараняцца ад авіяцыі мы можам толькі батарэяй МЗА, на кожнай баржы па дзве гарматы, ды зенітнымі кулямётамі. Але баяліся не самалётаў, хоць асноўная зброя наша — васьмідзесяціпяткі і накрыты чахламі, на баржах батарэі не разгорнеш. Гаварылі пра міны, што плаваюць у Анежскім возеры. Я спачатку чамусь не падумаў пра міны. Пачуў пра іх ад байцоў — пажылых мужчын, гаварылі яны тайна і ўстрывожана. Настрой іх занепакоіў. Сказаў Калбенку. Той здзівіў адказам:

— Настрой як настрой. Як у жывых людзей. Табе хочацца прагуляцца на дно Анежскага возера? Мне не хочацца. Самая крыўдная, самая недарэчная смерць. Адразу патануць дывізіёну. Хто нас падбярэ?

Непрыемны холад працяў ад гэтых слоў. Хадзіла суцяшальная чутка, што суправаджаць баржы будуць ваенныя катэры, марылі нават пра мінны тральшчык, які нібыта будзе расчышчаць водны шлях. Афіцэры ведалі, што нічога гэтага не будзе. Анежскай флатыліі ў гэты гарачы час не да нас. Дзе толькі знайшлі трухлявыя баржы і гэтыя два, розныя па выгляду і сіле, параходзікі?!

Той, што цягне заднюю баржу, часта высыпае са сваёй трубы іскры. Яны, напэўна, далёка відаць? Хоць якое гэта мае значэнне? Самалёты нас угледзяць з любой вышыні, асабліва калі белая ноч зменіцца сонечнай раніцай. А міны — сляпыя. Міна — гэта фаталізм, лёс.

Адплылі з Мядзведжагорска з наступленнем ночы. Хоць якая гэта ноч? Газету чытай. Тады ж радысты прынялі паведамленне Саўінфармбюро: вызвалены Петразаводск. Асаблівай радасці не выказвалі. «Ура» не крычалі. Звыкліся людзі і занадта змарыліся.

Але добрая вестка прынесла пэўнасць і заспакаенне: усё ідзе па плану, як стала вядома яшчэ ў Кандалакшы, мы становімся ў

Петразаводску. Ад таго так моцна спяць людзі ў гэтую дзівосную белую ноч. Спяць у труме на снарадных скрынках, на цюках шынялёў і гімнасцёрак. Спяць на палубе — дзе хто прыладзіўся: пад скрынкамі з пяском, пад чахламі, якімі накрыты гарматы; старэйшыя афіцэры — у цеснай і душнай каюце каманды. Я таксама паляжаў там. Але заснуць не мог. Не спіцца. Ад нейкага дзіўнага, узнёслага і адначасова чамусьці сумнага настрою — ад белай ночы, ці што? Можа, нават ад глыбока стоенага страху: не сонным сустрэць міну, убачыць сваю смерць. Паспрабаваць пазмагацца з ёй. Я ж плаваю, на Дняпры вырас. Але хто паможа тут, хто падбярэ? Колькі да бліжэйшага берага? Якая глыбіня возера? Як доўга прыйдзецца апускацца на дно? Дурныя думкі. Гнаць іх прэч! Ніколі ж раней такіх не было. Хіба ў сорак першым на Петсамскай дарозе?

Разлікі МЗА спяць тут жа, каля сваіх гармат. Спіць і дзяжурны разведчык, абапёршыся на вінтоўку. Трэба ўмець спаць стоячы. Не пачуў нават маіх крокаў. За сон на пасту — суровае пакаранне. Але мне шкада байца — дзяўчына. Лёгка дакрануўся да яе пляча. Яна ўстрапянулася. Вельмі спалохалася. Хацела нешта дакладваць.

— Ша-а,— прашаптаў я.— Але не спі, Роза. Не спі. У такую белую ноч яны могуць прыляцець.

— Дзякую вам, таварыш малодшы лейтэнант. Не буду.

Не, не аднаму мне не спіцца. На носе баржы пад чахлом, якім накрыты неразабраны дальнамер,— стоены шэпт, пацалункі.

— Вася, мілы, як я люблю цябе... як люблю... Не кідай мяне, родны мой,— як маленне богу.

— Ну, што ты, дурная.

У мяне здрадліва скрыпяць боты, я нядаўна пашыў іх у дывізійнага шаўца, афіцэрскія, хромавыя. Аднак гэтыя двое не пачулі маіх крокаў.

Я замёр на месцы, стаіў дыханне. Па абавязку службы я мусіў выявіць гэтых дваіх, што гэтак парушаюць загады... А іх нямала, загадаў наконт гэтага, а яшчэ больш слоў, якія гаворым мы, палітработнікі.

Ды мне раптам стала сорамна і за загады тыя, няхай яны падпісаны хоць самім Сталіным, і за словы свае, а сказаў я іх столькі, што імі, напэўна, можна было б загаціць усё Анежскае возера. Не ўпершыню... Не, не ўпершыню мяне захлынула дзівосная гарачая хваля радасці ад таго, што яно ўсёпераможнае, неадольнае, каханне, і што тут, на вайне, яно набывае нейкі асаблівы сэнс, асаблівую сілу.

Было сорамна падслухоўваць, інтымныя адносіны дваіх заўсёды тайна, і тайна гэтая ахоўвалася людзьмі сталымі, сумленнымі, з

чыстымі душамі. Але я баяўся спалохаць іх скрыпам сваіх ботаў. І я стаяў зачараваны. Не іх пацалункамі. Сваімі пачуццямі. І думкамі. Я думаў пра Ліду. Як ніколі раней, мне хацелася вось так прыгарнуць яе, так пацалаваць... Але паспрабаваў бы я гэта зрабіць. Які гвалт узняў бы Тужнікаў: камсорг займаецца любоўю, замест таго каб весці работу, якая папярэджвала б «выхад са строю» байцоў. Упершыню такая вось «выхаваўчая работа» здалася абразлівай. Ёсць у ёй нешта такое, што пярэчыць жыццю, неадольнай сіле яго і як бы памагае... смерці. Жах! Праўда, цяпер «вастрыня пытання», як любіць казаць Тужнікаў, спала. Паразумнелі і тыя, хто выдае загады, і тыя, хто выконвае іх. А было ж упачатку: страшылі штрафнымі ротамі. Прыгадаўся выпадак, які я часта ўспамінаю і за які мне даўно ўжо сорамна.

Хутка, можа, праз нейкія два-тры месяцы пасля таго, як у дывізіёне з'явіліся першыя дзяўчаты, урач выявіў цяжарнасць разведчыцы з НП. Не помню яе прозвішча, засталося ў памяці імя — Ліза. Ні ў кога не было сумнення, што «віноўнік» — камандзір НП малодшы сяржант Валерый Клубковіч, бо акрамя яго на НП быў усяго яшчэ адзін мужчына — прызыўнік апошняй катэгорыі, які не толькі бацькам гэтым дзяўчатам мог быць, але і дзедам. Ды і сяброўка Лізіна выдала іх тайну. Але сама Ліза катэгарычна адмаўляла бацькоўства Валерыя: маўляў, яшчэ дома быў у яе жаніх. І Клубковіч з незвычайнай упартасцю, адмаўляўся: загады былі суровыя, а тлумачылі мы іх проста страшна. Баяўся хлопец. Каб прызнаўся, напэўна, абышлося б яму дысцыплінарным пакараннем. Але ўпартасць яго ўсіх узлавала: камандзіра батарэі, нампаліта, мяне, бо быў я ў той час толькі што абраны парторгам батарэі. Сорамна ўспамінаць, як мы дапытвалі і дзяўчыну і яго. Лізе яшчэ неяк даравалі: баба ёсць баба. На Клубковіча моцна злаваліся: выкарыстаў сваё становішча камандзіра, нашкодзіў, як кот, ды яшчэ і не мае мужнасці прызнаць сваю віну! Выключылі хлопца з камсамола. Добра, што тагачасны камандзір дывізіёна капітан Коласаў аказаўся разумнейшы за нас. Не даў «раздувать дело», а паспяшаўся ціха сплавіць Клубковіча ў рэзервовы полк; нават выключэнне яго з камсамола не паспелі аформіць. Ліза не вельмі, мабыць, разумела розніцу паміж рэзервовым і штрафным батальёнам і ў дзень адсылкі Валерыя выдала сябе рыданнямі, ледзьве не галашэннем, як па нябожчыку. А праз год ці паўтара на імя нампаліта дывізіёна прыйшло пісьмо з Яраслаўскай вобласці. Пісаў Клубковіч, паведамляў, што мае два ордэны, два раненні, па раненню камісавалі, прыехаў на радзіму Лізы, аформіў шлюб і радуецца, што ў яго расце сын. Пасля такога лірычнага ўступу назваў усіх, хто дапытваў яго і выключаў з

камсамола, хто прымусіў пакутаваць жонку і яго, ёлупамі, дурнямі, баранамі... Словам, эпітэтаў не пашкадаваў.

Гісторыя з Лізай і Валерыем здарылася да Тужнікава. Але пісьмо атрымаў Тужнікаў. Нампаліт любіў пісьмы з тылу, умеў выкарыстаць іх у сваёй палітычнай рабоце, праўда, можа, не столькі ў практычнай, колькі для рапартаў начальству. Пісьмо, якое пачыналася: «Таварыш намеснік па палітчасці, піша вам былы разведчык вашага дывізіёна», не магло не зацікавіць, але калі ён, не вельмі зразумеўшы сутнасць, дайшоў да эпітэтаў, то вельмі абурыўся. Паколькі ў ліку іншых называлася маё прозвішча, паклікаў мяне. Расказаўшы гісторыю, я паспрабаваў апраўдваць свайго земляка. Тужнікаў не зразумеў, апраўданне маё яму не падабалася: «Ліберал ты, Шыянок». Загадаў напісаць пісьмо ў ваенкамат, каб чалавеку, які так адзываецца пра сваіх камандзіраў, «прачысцілі» мазгі. Дзівак. Больш у ваенкамата няма спраў, як павучаць інваліда, падумаў я. Пісьма я, безумоўна, не напісаў. Тым больш што Калбенку, які таксама з'явіўся ў дывізіёне пазней, пісьмо Клубковіча падабалася, ён весела пасмяяўся: «Хораша ён вас ахрысціў, толькі залішне далікатна — «бараны». Баран павінен пакрыўдзіцца...»

...На насочках, каб скрыпам ботаў не спалохаць гэтых дваіх ля дальнамера, я адышоў на карму. Хто яны? Па галасах не пазнаў. А навошта? Лепш не ведаць. Хапае тых гісторый, якія ведаю, якія робяцца яўнымі ад балбатлівасці саміх жа дзяўчат ды і афіцэраў некаторых і якімі пасля такіх размоў, хочаш ці не хочаш, мусіш займацца. Калбенка ўсе «сардэчныя гісторыі» спіхвае на мяне: маўляў, гэта справа камсамола.

За кармой шыпіць і пеніцца вада. Тут выразна чуеш, што не стаім на месцы — плывём. А там, на носе, плыла зорка. Дзіўная гэтая зорка тут не плыве, а як бы пераскоквае праз хвалі. Зялёны агеньчык буксіра, што цягне другую баржу, пагас, і зніклі іх абрысы. Адсталі.

Трымаючыся за халоднае жалеза парэнчаў, я, напэўна, на міг таксама заснуў, я ўмеў спаць стоячы не горш за іншых, як кавалерысты ў сядле. Калі ў Мурманску ў марозныя ночы пад паласканне дзівосных сцягоў палярнага ззяння высока ў небе мы цэлую ноч дзяжурылі каля гармат, бо немцы пасылалі па два-тры самалёты, то ўсе навучыліся спаць ля гармат і прыбораў у паўзах паміж налётамі. Устаноўшчыкі трубак засыналі са снарадамі ў руках і, здаралася, абмарожвалі пальцы, за што камандзірам разлікаў моцна даставалася: глядзі не спі! А камандзір такі ж знясілены. Я звычайна ўтыкаўся тварам у плячо наводчыка, той усё-такі сядзіць, спаць яму лягчэй, і прачынаецца ён адразу — ад сакатання стрэлкі на шкале

азімута; стрэлкі сакаталі моцна: ПУАЗО на камандным пункце, каля прыбарыстаў начальства, якое іх будзіла, і яны тузалі ручкі прыбора.

Так, я заснуў, бо нейкі міг нічога не бачыў. Але пачуў, што побач са мной хтось стаў. Я, безумоўна, прачнуўся, але здавалася, што сплю і сню сон: побач стаяла Ліда. Там, на носе, я падумаў пра яе, і мне захацелася, каб яна была са мной, як тая дзяўчына са сваім каханым. І яна прыйшла ў мой сон...

Яна прашаптала, як маці малому:

— Спі!

Які сон?! Я здзівіўся:

— Ліда?!

— Цішэй ты.

Яна сціснула локаць маёй рукі, і дотык як разліваў ва ўсім целе маім хвалюючую цеплыню.

Я падумаў, што, калі ёй не спалася, яна думала пра мяне, яна сачыла, як я блукаў па палубе ў сонным царстве, і гэта ўсхвалявала мяне да дрыжыкаў. Я павінен ёй сказаць нешта асаблівае, нешта такое... Але што? Няма ў мяне такіх слоў. Я спытаў пра тое, што само сабой зразумела:

— Табе не спіцца?

Яна вельмі ціхенька засмяялася.

— Давай пастаім і памаўчым. Паглядзі на тую зорачку ў вадзе.

І гэта ўсё? Ды не! Не! Гэта, можа, адзіны выпадак, калі я магу... павінен сказаць табе нешта незвычайнае, асаблівае, ад чаго, напэўна, залежыць лёс твой, мой... Я шукаю словы. Я пакутліва шукаю такія словы. Але іх няма. У мяне на плячах шынель, але адчуваю, што мяне раптам пачынае ліхаманіць. Ад холаду? Ад нервовага ўзбуджэння? Ад холаду. Яна ж у адной гімнасцёрцы.

— Табе холадна?

— Накрый мяне шынялём.

Я накінуў шынель на яе плечы. Яго не хапае на дваіх, ён спадае з маіх плячэй. Але Ліда папраўіла яго так, што мы апынуліся пад адным шынялём, цяпер яго хапае. Дзіўна. Яе плячо прыціскаецца да майго. Я абдымаю яе за плечы, адчуваю пад рукой худзенькія, як у малой, лапаткі, па спіне яе праходзяць дрыжыкі.

А мне раптам робіцца горача: як апынуўся ў цёплай вадзе возера і плыву ўслед за казачнай зоркай, я даганяю яе, але не магу дагнаць, і мне робіцца сумна, што я ніколі не даганю яе, зорку. А дзесьці, як бы нада мной, на паверхні, у паветры, зусім рэальныя думкі — словы Калбенкі: «І любі, Паўлік. Плюнь на ўсё наша ханжаства...» Ах, каб можна было так! Усё гэта магло б здарыцца паўтара гады назад, як

толькі Ліда прыбыла ў дывізіён. Мы ж пасябравалі тады. Яна — мая зямлячка, з-пад Рагачова. Мы вучыліся ў адным тэхнікуме — індустрыяльна-педагагічным, толькі я быў на апошнім курсе, а яна — на першым, тады я, безумоўна, не звяртаў на яе ўвагі. Але адразу пазнаў: «Вы ў Гомелі не вучыліся?» — «А я таксама думаю: вы гэта ці не вы. Шыянок ваша прозвішча, так?» — зусім па-цывільнаму, надзвычай узрадаваная, што ў асобе камандзіра ўзвода сустрэла земляка, гаварыла яна больш, чым дазволена ў страі, бянтэжачы мяне перад камбатам, перад калегам — камандзірам узвода ўпраўлення старшынои Лысенкам, які аглядаў новае папаўненне хмура, незадаволена: «Многа клопату з бабскім войскам».

Камандзір узвода, я ні ў чым не пераступіў субардынацыі: шчыры служака! Хіба толькі ў думках сам сабе прызнаваўся, што дзяўчына падабаецца мне. А пасада камсорга давала магчымасць весці душэўныя размовы. І мы часта ўспаміналі з Лідай родную Беларусь. Расказвала, як яны, студэнты, працавалі на абарончых збудаваннях вакол Гомеля, як абаранялі нашы войскі і апалчэнцы горад, якія жахі яна перажыла, эвакуіруючыся. А бацькі, браты, сёстры недзе ў вёсцы паміж Рагачовам і Бабруйскам. Што з імі? А што з маімі на другім беразе Дняпра? У дывізіёне нямала беларусаў, і перад кожным стаяла гэтае пакутлівае пытанне: а што там з роднымі? Праўда, цяпер я ведаю, што маці і бацька мае жывыя, бацька партызаніў, толькі лёс сястры, якую вывезлі ў Германію, невядомы. А Ліда яшчэ не ведае. Толькі ў гэтыя дні ідзе вызваленне яе родных мясцін. Як яна, нябога, хвалявалася, калі прыйшла вестка аб пачатку вялікага наступлення ў Беларусі. І мы як бы набліжаліся да роднай зямлі. Па чыгунцы, па возеры. Можа, ад гэтага хвалявання і не спіцца ёй.

— Ты не баішся, Павел?

— Чаго?

— Мін.

— Навошта ім было ставіць тут міны?

— А я баюся. Ніколі не баялася. Ні самалётаў. Ні бомбаў. А сёння баюся. Загінуць у такі час... Калі мой Грыбавец, можа, ужо вызвалены. І мама... мама жывая. І ёй напішуць. Што пра нас напішуць, калі мы патонем?

— Ліда!

— Не буду. Гэта я так. Не думай. Я не баязліўка. Проста паміраць не хочацца. Давай памаўчым. Так хораша з табой. Цёпленька пад тваім шынялём. Так цёпленька, што і праўда страшна апынуцца ў вадзе. Глядзі, як нырае зорачка. Адна. Іншыя такія цьмяныя. Ледзь відаць.

Мы доўга маўчалі. І, можа, маўчаннем сказалі больш, чым маглі б гэта зрабіць нязграбнымі, нясмелымі словамі. Праўда, думаў я: што скажа Тужнікаў, калі хтось данясе (шмат хто, напэўна, не спіць!), што камсорг стаяў вось так... пад шынялём грэў камсорга батарэі. Але — дзіўна — боязі не было. Нават весела зрабілася ад такой думкі. Я спадзяваўся на абарону Калбенкі. Тужнікаў не вельмі любіць Канстанціна Панасавіча, але лічыцца з ім.

Аглушаны звонам крыві ад дзявочай блізкасці і думкамі, што гушкалі, як на арэлях, я не пачуў, як з другога боку ад мяне спыніўся чалавек. Пачула Ліда, мышкай вышмыгнула з-пад шыняля і ўміг знікла за снараднымі скрынкамі.

У той жа міг я пазнаў нечаканага сведку маёй «крамолы». Пазнаў, можа, раней, чым павярнуўся і ўгледзеўся,— па паху лекаў: урач дывізіёна капітан Пахрыцына! А ёй чаму не спіцца? Чаму яна блукае па баржы? Такі сведка, бадай, самы непажаданы. Хто-хто, а яна не змоўчыць напэўна. Баба ўедлівая, не па-жаночаму грубая, нястрыманая на язык. Праўда, афіцэры адносіліся да яе па-рознаму: адны кпілі, пасміхаліся, другія — шкадавалі. Смяяліся з яе закаханасці ў Шахоўскага — чалавека загадкавага: інжынер-электрык, вучоны, кандыдат тэхнічных навук, а выхваляецца сваім княжацкім паходжаннем, быццам служыць у царскай арміі. Хадзілі чуткі, што перад вайной ён сядзеў у турме. За што? За сваё паходжанне? Але ж, можа, таму і падкрэслівае свой тытул, што прапрадзед яго быў дзекабрыстам. Шахоўскаму ўсе верылі: сур'ёзны афіцэр, адукаваны. Адзін Кузаеў чамусьці сумняваўся ў яго княстве, хоць вельмі цаніў за тэхнічныя веды. А Калбенка здзівіў мяне, калі сказаў, што садзілі «князя» не за паходжанне — за розум.

Шкадавалі Любоў Сяргееўну, што «пакрыўджана богам»: ва ўсім жанчына як жанчына — зграбная, стройная, рухавая, дасціпная, праўда, зласлівa дасціпная, а твар пабіты воспай. З-за воспы і даравалі ёй гэтую злаславасць, грубасць усе тыя, хто адносіўся да яе добразычліва. Кунаеў, Калбенка...

У мяне адносіны да Пахрыцынай былі дваістыя. Неяк, калі меў яшчэ званне старшыны, прыйшлося ляжаць у медсанчасці з фурункулёзам. Яна ўскрывала скальпелем скулы і... жартавала. Пасля таго я чамусьці баяўся яе. Потым, атрымаўшы афіцэрскае званне, я як бы зраўняўся і дазваляў сабе не выструньвацца перад ёй — падумаеш, урач! — і нават пажартаваць з яе мог, хоць была яна ажно на дванаццаць гадоў старэйшая. Праўда, за жарты свае я заўсёды быў «біты»: яна ўмела адказаць больш дасціпна. Але гэта менш бянтэжыла,

бо куды важней было адчуваць сябе роўным з гэтай жанчынай, якая з самім камандзірам дывізіёна дзёрзка спрачаецца.

Я чакаў з некаторым страхам і цікаўнасцю, як урач пажартуе наконт таго, як з-пад майго шыняля вышмыгнула дзяўчына. Пахрыцына маўчала. Дзіўна. Няўжо зробіць выгляд, што нічога не бачыла? Не падобна на яе. Я ведаў, якая яна бязлітасная да слабасці сваіх сясцёр, якіх ёй прыходзілася камісаваць і адсылаць дадому. Я настрайваў сябе на дзёрзкасць. Калі яна не пазнала Ліду і пачне дапытвацца — хто, скажу пра яе закаханасць да Шахоўскага.

Гэтага яна не любіць. Няхай потым хоць крычыць на ўсю баржу!

Але ваенурач нечакана спытала зусім пра іншае:

— Што гэта за зорка? Такая яркая ў такую белую ноч. Планета?

— Не ведаю, Любоў Сяргееўна.

Сам здзівіўся, што звярнуўся проста так — па-цывільнаму. І яна, напэўна, здзівілася. Павярнулася, угледзелася мне ў твар.

— Усю вайну мы глядзім у неба і... не бачым зорак, не ведаем іх. Мы бачым крыжы. Чорныя крыжы.

Вельмі ўразілі яе словы. І неяк адразу змянілі ўяўленне пра гэтую жанчыну: не такая яна жорсткая і грубая, як выдае сябе перад іншымі. Не, не адразу яны змяніліся мае адносіны да яе, змена такая пачалася яшчэ ўчора.

З батарэі Данілава я пайшоў у санчасць, каб наведаць няшчаснага Росліка. Была яшчэ няпэўнасць, дзе зоймем сталыя пазіцыі, калі тут, у Мядзведжагорску, то — дзе размесцяцца тылавыя службы, таму медчасць пакуль што па-паходнаму раскінулася ў лесе, далей ад станцыі, бо станцыя пакуль што адзіны аб'ект, варты ўвагі варожай авіяцыі.

Пахрыцына сустрэла мяне непрыветліва. Відаць, яна ўжо з некім паспела пасварыцца, бо была змрочная, крычала на фельчараў, санітараў.

На маё жаданне ўрач спытала, бадай, злосна:

— А навошта вам бачыць гэтага байца? Вучылі б лепш! Менш нявечылі б. У нашых умовах. Мала калечыцца на перадавой...

Яна сказала суровую праўду, ад якой раптам і ў мяне з'явілася адказнасць за руку Росліка — гэтак жа, як адчуваў яе Хаім Шыманскі. Недзе і я схібіў у рабоце з гэтым хлапчанём.

— Таварыш капітан! Акрамя статута ёсць душа. У мяне — душэўная патрэба пабачыць гэтага няшчаснага хлопца, пакуль ён у нас...

Яна паглядзела мне ў вочы, як бы трохі здзіўленая, і моўчкі павяла ў палатку. Пасля яркага сонца ў палатцы, хоць яна і была

раскрыта, стаяў паўзмрок, пахла не медыцынай — сенажаццю, прывяленай травой.

Ваня Раслякоў ляжаў на зямлі, на матрацы, накрыты коўдрай,— такі маленькі, што, здавалася, пад коўдрай няма цела, проста коўдра трохі скамячылася. Прысутнасць чалавека выдаваў белы, як навалачка, твар, ды яшчэ бялейшыя бінты, якімі перавязана рука.

Па нейкім яго руху і па вачах з ненатуральна расшыранымі зрачкамі я ўгледзеў, што Ваню спалохаў наш прыход. Спалохала яго і тое, што я стаў перад ім на калені. І ён раптам спытаў:

— Мяне расстраляюць?

Спытаў, здаецца, спакойна, без страху, і ад гэтага стала жудасна да ўтрапення.

Я схапіў яго галаву, прыўзняў з падушкі.

— Ваня! Хто цябе расстраляе? Увесь жа разлік бачыў, што гэта няшчасны выпадак. Сяржант бачыў. Увесь разлік!.. І дзяўчаты — за цябе.

— А лейтэнант крычаў...

— А лейтэнант — дурань! — не мог я стрымацца, каб не даць Унярху вызначэнне, якое ён заслугоўваў.

І тады ў хлопца пакаціліся слёзы. Ён саромеўся іх, выціраў рукавом здаровай рукі. Спрабаваў, здаецца, нават усміхнуцца —у знак удзячнасці, напэўна. Нарэшце прашаптаў:

— Таварыш малодшы лейтэнант. Перадайце ўсім: я іх ніколі не забуду. Ніколі.

— Ачуняй, Ваня. Ачуняй. І ні пра што не думай.

Калі я падняўся, урача побач з намі не было. Яна

стаяла ля ўваходу ў палатку. Я падышоў і ўбачыў, што яна насоўкай выцірае вочы. Мне строга загадала:

— Не глядзіце на мяне. Я — сентыментальная баба.

А калі мы адышлі ад палаткі, раптам сказала:

— Вы нічога не ўбачылі. Нічога. А я... я зразумела ўпачатку, што ён падрыхтаваўся да хуткай смерці. Я нямала бачыла хворых, якія рыхтавалі сябе... Але гэта іншае. Калі рыхтуецца дзіця... да такой смерці. Ён ні разу не застагнаў, калі я ампутавала яму раструшчаныя пальцы. І пасля. Ні разу. Ён быў там... За мяжой... Няўжо ўсё гэта мы калі-небудзь забудзем?

А калі я развітаўся і пайшоў, Пахрыцына раптам дагнала мяне, спытала:

— Зубраў не з'явіцца?

Я зразумеў яе трывогу.

— Я скажу Калбенку, Кузаеву...

Учора Ваню адаслалі ў Беламорск, у франтавы шпіталь.

І вось зноў урач дзівіла мяне — словамі пра зорку і... пра крыжы. Безумоўна, яна мела на ўвазе крыжы на крылах «юнкерсаў», «месершмітаў». Але як сказала!

Мне раптам захацелася выказаць ёй удзячнасць. За што? За Ваню? За тое, што яна так далікатна змоўчала наконт Ліды? І за словы, за таемны сэнс іх — як у вершах. Але слоў удзячнасці я не знаходзіў. Хацелася пакласці сваю руку на яе, што ляжала на парэнчы зусім блізка ад маёй, лёгка пацiснуць ці пагладзіць. Але ці зразумее яна? Пра хлапечае заляцанне, безумоўна, не падумае. Але самае горшае, калі ёй можа здацца, што я шкадую яе... за воспу. Такое шкадаванне абразлівае, хоць афіцэры часам выказвалі яго ў размове паміж сабой. У мяне пачуцця такога ніколі не з'яўлялася. А тут разам з удзячнасцю з'явілася і яно, шкадаванне.

Але хочацца сказаць нешта асаблівае. Што? І раптам прыйшло: самае лепшае — шчырае прызнанне, яно можа даць паразуменне. Я паверыў, што тут Пахрыцына не можа пажартаваць наконт нашай з Лідай дружбы. Пасля слоў пра зорку і крыжы — хіба можна? Тут яна ўспрыме сур'ёзна. Але нейкі міг вагаўся: ці раскрываць імя?

— Дзяўчына...— я нацягнуў глыбей шынель, даўшы зразумець — пра каго хачу сказаць.

Але Любоў Сяргееўна перапыніла:

— Не трэба, Шыянок, лепш думаць, што ў цябе ёсць свая тайна. Лепш думаць так.

Гэта не падобна на словы Калбенкі. Дзіўна: доктар за тайну!

І раптам своеасабліва выкрыла свае пачуцці, напэўна, чула Лідзіны словы:

— Пры пагрузцы ўсе баяліся мін, аднак усе так моцна спяць. Сон мацнейшы за страх.

— Людзі змарыліся.

— А я нічога не баюся, а мне не спіцца. Аднак пайду, паспрабую заснуць. А вы застаецеся любавацца на зорку? Хутка яна пагасне. Глядзіце, як разгараецца неба. Наступіць дзень, узыдзе сонца. Такое ласкавае. А яго засланяюць крыжы... Вы бачылі міны? На іх таксама крыжы?

Зрабілася халаднавата ад гэтага другога напамінку пра крыжы. Невясёлы настрой у доктара. Зрабілася шкада яе, але ўжо зусім па іншай прычыне — не з-за воспы, з-за яе, па ўсім відаць, душэўных пакут. Ад чаго яны? Ад усенароднай трагедыі, што прадаўжаецца чацвёрты год? Не інакш. Але цяпер ужо хутка. Хутка! Вунь як імкліва наступаем! Іх многа, крыжоў. Як іх многа па ўсёй нашай зямлі! Аднак

у такую ноч не пра іх хочацца думаць. Не пра іх. Пра жыццё. З такімі думкамі я залез пад чахол у нішу паміж снараднымі скрынкамі, чамусьці знарок у самае небяспечнае месца, там ніхто не прымасціўся на начлег. Кожны хацеў быць далей ад снарадаў. Хоць што значыць далей на адной трухлявай баржы? Ці ёсць на мінах крыжы? А бачыў жа іх у Кольскім заліве. Але іх не паднімалі. Іх расстрэльвалі ў вадзе.

— Тры-э-во-о-га!

Слова гэта ўпершыню спалохала амаль чатыры гады назад, у мірны час, у ціхую палярную ноч. Прайшло тыдні два ўсяго, як нас, бязвусых хлопцаў, прывезлі ў Мурманск, абмундзіравалі, у каго сярэдняя адукацыя, тых залічылі ў вучэбную батарэю, пазнаёмілі, што такое вайсковая служба з яе суровай (вельмі нават суровай у той час) дысцыплінай, прывыкаць да якой учарашнім студэнтам, настаўнікам, тэхнікам было дужа цяжка. Але што асабліва ўздзейнічала — гэта штодзённае перакананне камандзіраў, што мы — не вучэбны, не рэзервовы, як нейкія пяхотныя ці артылерыйскія палкі ў Разані, Саратаве ці нават у Мінску і Вінніцы, а баявы дывізіён, якому даручана прыкрыць з паветра канкрэтныя аб'екты: порт, чыгунку, аэрадром, электрастанцыю. Значнасць аб'ектаў выпрацавала пачуццё вялікай адказнасці ў кожнага з навабранцаў: як многа нам даручана! Пра тое, што прыкрыць аб'екты такога маштабу ў радыусе амаль трох дзесяткаў кіламетраў трыма батарэямі 76-міліметровых гармат, кулямётнай і пражэктарнай ротамі — нерэальна, пра гэта не мог сказаць ніхто з камандзіраў, ды і ніхто з нас, рэалістаў і нават у пэўным сэнсе скептыкаў (пакуль не выбілі гэты скепсіс), наўрад ці думаў. Гэта мы, аглушаныя, ашаломленыя, зразумелі праз восем месяцаў — у нядзелю 22 чэрвеня.

Упэўненасці прыдаваў полк знішчальнікаў 1-153, 1-16, які прыкрывалі мы і які ў сваю чаргу павінен быў прыкрыць тыя ж аб'екты — сустрэць варожыя самалёты на падыходзе да Мурманска. Без ценю сумнення верылі мы ў сілу сваёй артылерыйскай тэхнікі, самалётаў, як і ў сілу ўсяе Чырвонай Арміі. І ва ўласную бясстрашнасць верылі. І раптам замест звыклага «Пад'ём!», які ўскідваў нас з цесных нараў, што спружыны,— сярод ночы, калі самы моцны сон,— злавеснае, страшнае — «Трывога!». Днявальны курсант крыкнуў спалохана — да зрыву голасу.

Пасля з гэтае першай трывогі нямала смяяліся, бо адзін курсант выскачыў без штаноў; без гімнасцёркі, без ануч, абмотак, без папруг — шмат хто.

Я выскачыў да гарматы не ў самым смешным выглядзе, здаецца, толькі абмоткі засунуў за пазуху, з чаго старшына незласліва

паздзекаваўся. Але на ўсё жыццё запомніў, як калацілася сэрца — да млоснасці — і як брыдка, ганебна, здавалася, на ўсю пазіцыю, ляскалі зубы і здрадліва брынчала пада мной сядзенне наводчыка.

Было марозна. На беразе Туломы трашчалі штабялі бярвення. У небе паласкаліся агромністыя палотнішчы палярнага ззяння. Іх рэзалі кінжалы пражэктараў — трывога агульнадывізіённая. Усё здалося злавесным. Знікла прыгажосць, якой я, рамантык, любаваўся ў папярэднюю ноч, стоячы на пасту.

Пасля безліч разоў прагучала вучэбная трывога. Тры гады падымае ўдзень і ўначы слова гэтае для сустрэчы варожых самалётаў. Да ўсяго можна прывыкнуць. Выюць над галавой пікіроўшчыкі, свішча фугаска — не сказаць, што не страшна (паміраць заўсёды страшна), але неяк звыкла: на вайне — колшаму сваё. А вось калі соннага будзіў пранізлівы крык гэты — «Тры-во-о-га!» — паўтаралася ў нейкай меры тое, даўняе, адчуванне; ва ўсялякім разе,пакуль не апынешся на сваім баявым месцы, гэтак жа здрадліва калоціцца сэрца. У апошні год, стаўшы камсоргам, я адвык ад гэтага крыку: штабныя службы паднімалі па баявой трывозе равуном. Амаль усе не любілі гэты агідны «бычыны роў», выказваліся за батарэйную форму — за голас разведчыка, маўляў, чалавечы голас падымае мякчэй. А я быў іншай думкі. Равун не палохаў мяне.

І вось зноў яно — гэтае злавеснае для мяне слова — «Трывога!».

Не адразу сцяміў, дзе знаходжуся. Звыклым рухам скінуў шынель, каб падхапіць яго на ляту і тут жа апрануць, але рука, адна, пасля другая намацалі сцены. І над галавой цёмна, дзіўныя, як шчыліны, прасветліны. Толькі адчуўшы на нагах боты, успомніў, дзе я,— паміж снараднымі скрынкамі.

Усе стаялі на палубе баржы, не ў страі, уроссып — хто дзе, і глядзелі ў неба. А яно было дзівоснае. Не, там, куды ўзіраліся людзі,— на захадзе яно не было такім прыгожым: звычайны ранішні як бы трохі засмужаны блакіт. Дзівосным неба было на ўсходзе: яркая чырвань над самым даляглядам паволі няўлоўна-мякка ў вышыні пераходзіла ў колеры, якім, напэўна, няма і назвы — сінь з чырванню, тонкі фіялет, ружова-шэры незвычайны блакіт — у зеніце.

Чамусьці я адзін паглядзеў у другі бок, не туды, куды ўсе. Але ўразіла мяне не неба. Уразіла, што я ўбачыў бераг. Ён яскрава праступаў сіняй сцяной на фоне чырвані, што разліло сонца, якое вось-вось узыдзе. Усходні бераг! Валагодскі. Значыцца, мы ішлі ўвесь час паўз усходні бераг? Капітаны буксіраў ведалі, дзе меншая рызыка наскочыць на міны. Дзіўна, блізкасць берага супакоіла, хоць пасля,

разважыўшы, я пасміхаўся са свайго раптоўнага адчування: якая блізкасць, кіламетраў пятнаццаць, не менш! Хто даплыве?

Нарэшце я павярнуўся туды, куды глядзелі ўсе. І адразу знайшоў тое, што прыцягвала ўвагу — белую паласу цеплавога следу, яна павольна расплывалася і амаль не раставала — там, у небе, было гэтак жа ціха, як і тут, на зямлі... не, на вадзе: наперадзе, за буксірам, возера што люстра. На шпільцы следу — алюмініевабліскучая птушка, ярка асветленая сонцам.

Блізкай небяспекі не было. Ішоў разведчык. Куды? У глыбокі тыл? Ці разведвае возера — што на ім? У такім разе мы, напэўна, станем мішэнню, на якую ён навядзе бамбардзіроўшчыкаў.

— А можа, гэта свой? — пачуў я дзявочы голас; у спадзяванні такім злавіў той страх, які спрасонку адчуў сам.

Надзея, што самалёт свой і ранішні сон перапынены дарэмна, была не толькі ў той не бачнай мне прыбарысткі ці сувязісткі, можа, нават кухаркі, але і ў афіцэраў. Яны стоўпіліся вакол Кузаева і пераводзілі погляды з далёкага самалёта на Шыманскага. Даўно ведалі: у камандзіра гарматы незвычайны слых, вушы лятучай мышы; калі большасць наогул не чула яшчэ шуму матораў, Хаім вызначаў па шуму марку самалёта, памыляўся рэдка.

Але цяпер і ён, трохі збянтэжаны, паціскаў плячамі. Самалёта не было чуваць. Празрыстасць ранішняга паветра стварала аптычны падман. Гэта таксама заспакоіла трохі: з такой далечы разведчыку нялёгка разгледзець нас. Ён — на фоне неба, у праменнях сонца, мы — на фоне цёмнай вады і пакуль яшчэ ў цяні.

Размытая сцежка белай пары ў небе павярнула направа: самалёт аддаляўся на поўдзень. Але ў гэты міг гучна і выразна далажыў Шыманскі:

— «Юнкерс» восемдзесят восем, таварыш капітан!

Ніхто не ўсумніўся: безумоўна, так. Але афіцэры раптам як бы павесялелі. Ад чаго? Пэўна, ва ўсіх, як у мяне, з рэшткамі сну знікла няпэўнасць трывогі. Сэрца ўваходзіла ў свой рытм. Падумаеш, «юнкерс»! Адзін. Бачылі мы іх не па адным. Наляталі па дваццаць, па трыццаць. У сорак другім, калі за адзін дзень спалілі Мурманск, у трох эшалонах, якія ішлі з інтэрвалам у некалькі мінут, разведчыкі налічылі дзевяноста машын. «Месеры», што суправаджалі бамбардзіроўшчыкі, абстрэльвалі нашы батарэі.

А тут нейкі адзін разведчык! Каб мы маглі звязацца з бліжэйшым аэрадромам знішчальнікаў. Там, на валагодскім беразе, безумоўна, яны ёсць, аэрадромы. Недалёка. І не адзін. Як бы ён, нахабнік, пакруціўся, атакаваны «якамі» ці «мігамі»!

Напружанасць знікла. Але не поўнасцю. Можна зразумець: адно — сустрэць ворага на баявых пазіцыях, зусім іншае — у такім незвычайным паходзе, калі галоўная зброя наша пад чахламі.

Бездапаможнасць нашу выявіў сам камандзір дывізіёна. Спытаў:

— Дзе мы знаходзімся?

Ніхто з афіцэраў не мог адказаць, дзе мы знаходзімся. Нават Шахоўскі, які, здавалася, ведаў усё на свеце: гісторыю, тэхніку, музыку, геаграфію.

Кузаеў як бы ўпікнуў яго:

— І ты, князь, не ведаеш?

За князя капітан не крыўдзіўся, наадварот, падкрэсліваў сваё дваранскае паходжанне, што ўсіх здзіўляла, а Тужнікава злавала.

— Скажыце, які там востраў, і я скажу, дзе мы,— Шахоўскі паказаў на ўсход, дзе была відна зямля.

— Скажы яму! — хмыкнуў Тужнікаў. — Вялікая мудрасць! Скажы мне — І я скажу табе.

— Вы так думаеце, таварыш капітан? — роўны па званню і па пасадзе, намеснік камандзіра па артзабеспячэнню звяртаўся да намесніка па палітыцы толькі так, па-вайсковаму афіцыйна, хоць вайскоўцам за час вайны «князь» стаў у меншай ступені, чым хто іншы.— У Анегі — каля тысячы пяцісот астравоў.

— Ды ну? — скептычна ўсумніўся Тужнікаў.

Калбенка штурхнуў мяне кулаком у бок, кіўнуў на нампаліта і выцер далоняй твар; такі знаёмы мне жэст.

Канстанцін Панасавіч з бацькоўскай паблажлівасцю дараваў нашаму з ім непасрэднаму начальніку яго невысокую культуру, сябе ён таксама не лічыў эрудытам. Але тое, што Тужнікаў часта выяўляў скептыцызм да ведаў кандыдата тэхнічных навук і больш таго — як бы падкрэсліваў сваю «класавую непрыязнасць» да нашчадка княжацкага роду,— гэта парторга абурала.

— Не, праўда — тысяча пяцьсот? — сур'ёзна зацікавіўся Кузаеў.— Цікава! І ты на ўсіх быў?

— Што вы! Для гэтага мала жыцця.

А я не першы раз падумаў: як мала мы ведаем! Хто яшчэ мог ведаць колькасць астравоў у гэтым возеры? Узіраюся ў твары. Маслоўскі! На фізіяноміі яго напісана. Шахоўскаму не зайздрошчу — вучоны, капітан. Віктару зайздрошчу: скончылі адзін і той жа пед-тэхнікум. Зайздрошчу і трохі адчуваю сябе вінаватым перад ім. Чаму перагнаў яго па званню? Чаму не яго, а мяне назначылі камсоргам? За якія якасці? А ён тры гады ўжо — камандзір прыбора, старшы

сяржант. Усе ж ведаюць, якая ў яго галава. Хваляць. Кузаеў, Быхоўскі, Данілаў... А росту няма. Загадка. Спрабаваў я гаварыць на гэтую тэму з нампалітам.

«На перадавой такія...»

«На перадавой — свае законы. У нас — свае»,— перапыніў ён размову, даўшы зразумець, што не мой гэта клопат — ёсць вышэйшае начальства.

Старшы лейтэнант Мураўёў пытанне камандзіра «дзе мы знаходзімся?» прыняў як загад. З незвычайнай акуратнасці начальніка штаба паважліва кпім. Тужыкаў кажа пра яго: «Яшчэ адзін арыстакрат»,— але не дзеля таго, каб зняважыць Івана Іванавіча, гэта ўсё — стрэлы ў Шахоўскага, Што датычыць Мураўёва, Тужыкаў добра ведае, што той — сялянскі сын, і псіхалогія ў яго сялянская. Ён і ў дывізіёне застаўся селянінам і настаўнікам. Ды і ў арміі ўсяго год; у ваенныя гады недзе ў глухой калужскай вёсцы, дзе засталіся адны жанчыны, дзяды ды дзеці, быў дырэктарам школы і адначасова старшынёй калгаса і сельсавета.

Мураўёў апынуўся ля рулявога баржы. У рубцы, ад якой застаўся адзін патрушчаны каркас — тырчыць над палубай, як шкілет, сведкай таго, што пабачыла гэтае судна,— сівы чалавек, ссутулены ад гадоў ці ад гора, з задубелай, прасоленай скурай на твары, пэўна, не ад паўночных вятроў — ад жыцця, можа, слязамі прасоленай. Увечары, калі рулявы з'явіўся на баржы, мы, афіцэры, змоўклі, уражаныя. Да чаго давяла людзей вайна! Калбенка прызнаўся, што яму нават зрабілася няёмка перад гэтым чалавекам. Мы — добра адзетыя, накормленыя. Няхай не так ужо сытна... улетку сорак трэцяга палавіна дывізіёна хварэла на «курыную слепату». І ўсё ж ні дня не галадалі. Мы ведалі, як жыве народ... ад жыхароў Кандалакшы, ад навабранцаў — валагодскіх і комі дзяўчат, ад таго ж Мураўёва. Але дзяўчаты з'яўляліся абмундзіраваныя, маладыя, ды ўжо трохі і падкормленыя. А гэты стары (ды ці такі ўжо стары?!) — як увасабленне пакут народа. Асабліва ўразіла яго вопратка: на ватоўцы няма жывой мясціны, яе і латаць немагчыма, тырчала клочча сапрэлай ваты. Кузаеў адразу загадаў начальніку абознарэчавага забеспячэння:

«Дасі яму новую ватоўку».

«Запакавана ж, таварыш маёр».

«Распакуеш, скнара».

А потым мы бачылі, як рулявы вячэраў. Еў ячную кашу з незвычайнай ашчаднасцю, як дзівосныя прысмакі, няспешна. Менавіта няспешнасць такая — сведчанне таго, што чалавек многа галадаў і ведае цану кожнай крупінцы; хапае прагна, спешна той, хто не ведаў

доўгага голаду, а проста прагаладаўся, перад тым як дарвацца да харчу.

Рулявы — выразна, коратка і — нечакана для нас — камандным голасам гукнуў:

— На буксіры! Дзе ідзём?

Адтуль адказалі адразу. Але рупар там так ненатуральна хрыпеў, што рабіў чалавечы голас падобным на выццё ветру ў коміне. Ніхто нічога не зразумеў. Засмяяліся. Але ў смеху была горыч: з якой тэхнікай плывём!

Аднак рулявы наш праз свой рупар гэтак жа выразна, толькі цішэй, як бы баючыся, што падслухае блізкі вораг, паведаміў:

— Выйшлі ў вялікае Анега. Справа — Вялікі Кліманскі.

— Нямнога прайшлі,— заключыў Шахоўскі і ўгледзеўся на захад, быццам убачыў у пасвятлелай далечы нешта незвычайнае.— Там — Кіжы,— і з трывогай: — Няўжо яны спалілі Кіжы?

— А што такое Кіжы? — зноў не пасаромеўся спытаць Кузаеў.

На твары Зубрава з'явіўся выраз здзіўлення, не скептычнага, не насмешлівага, мабыць, пра Кіжы ён і сам не ведаў. Я пра Кіжы чытаў яшчэ да вайны — нейкая царква. Ды да цэркваў тады мы, маладыя, праяўлялі так мала цікавасці, што ў памяці не засталося, чаму раптам царква стала прадметам увагі сур'ёзнага часопіса.

— Кіжы — востраў. На ім — унікальны, непаўторны помнік рускага дойлідства...— тлумачыў Шахоўскі.— Прэабражэнская царква...

— Царква? — расчараваўся Тужнікаў.

— Самыя выдатныя помнікі архітэктуры — культавыя пабудовы. Усюды. Але ж не папы іх будавалі — народ.— Шахоўскі адказваў Тужнікаву, і ў голасе яго ўпершыню пачулася стоеная раздражнёнасць: — Прэабражэнская царква — цуд з цудаў. Каб вы яе ўбачылі! Нельга адвесці вачэй. Дваццаць два купалы — галоўкі. Сорак метраў вышыні. І ўсё гэта — з дрэва, без адзінага цвіка... А якія прапорцыі! І стаіць гэтае рукатворнае хараство дзвесце гадоў...

— Дзвесце трыццаць,— удакладніў Віктар Маслоўскі.— Збудавана ў семсот чатырнаццатым.

— Дзякую вам, Маслоўскі,— як бы ўзрадаваўся капітан, што ёсць чалавек, які не толькі ведае пра помнік, але помніць дату збудавання, хоць фенаменальная памяць старшага сяржанта ўжо даўно перастала здзіўляць афіцэраў, здзіўляўся хіба адзін Мураўёў. Цяпер у знак удзячнасці Шахоўскі звярнуўся да Віктара, хацеў чалавек з некім падзяліць сваю трывогу: — Няўжо яны спалілі царкву?

Віктар пацірнуў плячамі: хто ведае?

Адказаў Тужнікаў, гучна — каб чулі байцы, што стаялі недалёка:

— Яны кіеўскія саборы ўзарвалі... Наўгародскія... Мураваныя. А тут — драўляная царква... Ілюзіі ў нас маглі быць у сорак першым. А сёння мы ведаем, што такое фашызм.

— Так, ведаем,— сумна згадзіўся Шахоўскі.

Я стаяў побач з Пахрыцынай і назіраў, як яна слухае капітана.

Даўно назіраю, як праяўляе сваю закаханасць гэтая немаладая ўжо жанчына. Якімі вачамі, з якім захапленнем глядзіць на Шахоўскага кожны раз, калі той нешта расказвае. Як вучаніца. Раней разам з іншымі я кпіў з таго, што доктар не ўмее стаіць сваю закаханасць. Пасля ж нашай начной размовы я зусім па-іншаму глядзеў на яе.

Яна сыпанула злыя іскры з вачэй на Тужнікава: навошта разбурае надзею, навошта робіць чалавеку балюча? Пятру ж Васільевічу баліць ад думкі, што Кіжы спалілі.

Кузаеў смачна пазяхнуў, пацягнуўся.

— Усё гэта чартоўскі цікава. І раніца — толькі любавацца. Салаўёў слухаць... Шахоўскі, ёсць тут салаўі?

— Безумоўна.

— Дзякуй богу, даехалі да родных салаўёў,— не зразумець было: ці то жартаваў камандзір, ці то радаваўся, гэтак жа, як і я, што мы наблізіліся да родных мясцін.— Аднак людзям трэба паспаць. Наперадзе — цяжкі дзень... Разведчык! Адбой трывогі.

Не помню, ці паспеў разведчык перадаць каманду адбою. Помню, я быццам уміг заснуў — так хацелася спаць. Рэфлекс! Адбой — і сон! Адчуванне знаёмае. Там, на Кольскім, у палярную ноч увесь час хацелася спаць. Засыналі, стоячы каля гармат, прыбораў, у кароткіх паўзах, калі ў небе сціхаў шум «юнкерсаў» ці «хейнкеляў». Аднойчы я так заснуў, узваліўшыся на бруствер, што разбудзіў мяне блізкі выбух бомбы; не было адбою, не было трывогі, не крычалі, не білі ў рэйку, моўчкі чакалі чарговую хвалю бамбардзіроўшчыкаў.

І раптам — як тады: разбудзіў выбух. Дзе? Адкуль? Не было ж... няма шуму матораў... Толькі пыхціць паравік буксіра. Ды і заснуць не мог: усе ж стаяць, як стаялі... Кузаеў... Калбенка. Не, выбух усіх скалануў. Усе трывожна павярнуліся ў бок кармы. Значыцца, грымнула там, ззаду. Міна? Пад намі? Ці пад той, другой баржай?

У рупар — ціхі, раптам ахрыплы, але спакойны голас нашага рулявога:

— Міна пад буксірам «Ладага-27».

Хвіліну памаўчалі,— пэўна, думалі, што ўмомант гэты буксір ідзе на дно. Кузаеў так і спытаў:

— Тонуць?

Адказ, бадай, іранічны:

— Караблі не тонуць, як тапары.

Тады афіцэры сарваліся з месца, ім здалося, што калі актыўна дзейнічаць, то можна ўратаваць буксір, людзей на ім. Але, выконваючы загад, буксір і баржа адсталі на добры кіламетр. Баяліся ўдару з неба. А ён — з вады.

Камандаванне перабралася на карму.

Буксір гойдаўся на хвалях ад выбуху. А збоку, куды не даходзіць наш след, возера — што люстра. І цішыня, цішыня... З далёкай уратавальнай цвердзі зямлі вылазіў вялізны вогненны шар.

Адбою не было. Ці сам выбух абвясціў трывогу? Нумары гармат МЗА, зенітных кулямётаў — на сваіх месцах. Страляць няма па кім. Але выгляд у гэтых хлопцаў і дзяўчат звычайны — байцоўскі. Ды і тыя, у каго ў руках аўтамат ці вінтоўка,— напружаныя, устрывожаныя, але ўвогуле таксама звычайныя, як у час любой трывогі.

Мае абавязкі камсорга навучылі ўзірацца ў твары людзей з асаблівай пільнасцю. Ці, можа, гэта здарылася таму, што з тых, хто не меў зброі, чыя зброя была пад чахламі, першай я ўгледзеў Ліду Асташку. У яе былі спалоханыя вочы. Мне спачатку зрабілася ніякавата за камсорга батарэі — яна ж заўсёды была смелая. Але тут жа я ўгледзеў, што такія ж спалохана-разгубленыя ўсе прыбарысткі. Гэта таму, што ў іх — ніякай зброі. Нават сувязісткі ўзброеныя. Без зброі салдат перастае быць салдатам... А гэтыя дзяўчаты — тым больш. Тужыкаў любіў гэтае старое слова — салдаты. «Вы — салдаты Чырвонай Арміі! Не забывайце!» А я, грэшны, нават у думках не мог назваць дзяўчат салдатамі. Байцамі — мог. «Баец Родзічава»... І яшчэ аднаго звароту да дзяўчат не любіў — радавыя. Радавы Кухараў — натуральна. Але — радавая Пятрова. Чамусьці слова гэтае ў адносінах да дзяўчыны здавалася абразлівым. Сказаў неяк Калбенку. Баяўся — пасмяецца. Не, толькі хмыкнуў, але зусім не насмешліва — задумліва.

Кузаеў звязаўся па рацыі з камандзірам на другой баржы.

Міна ўзарвалася пад машынным адсекам. Загінулі два чалавекі — машыніст і качагар. Машыну не адрамантаваць. Але каманда не пакідае судна, ручной помпай адкачваюць ваду, лічаць, што прабоіну можна заладзіць, не першы раз; можна ўратаваць азёрнага працаўніка, не даць яму пайсці на дно. Нашы памагаюць камандзе.

— Во людзі! Цывільныя, а так ваююць! — выказаў сваё захапленне Тужнікаў. У кожнага з нас была не меншая павага да мужнасці рачнікоў. Яны зрабіліся падобнымі на рулявога нашай баржы — у маім уяўленні, хоць бачыў я і на адным і на другім буксірах матросаў — хлопчыкаў гадоў па шаснаццаць-семнаццаць.

Правялі «ваенны савет». Першы выказаў агульнае пажаданне Тужнікаў: цягнуць дзве баржы, няхай ціха, але дывізіён будзе набліжацца да мэты. Ды чыгуначнік Кузаеў лепш ведаў цягавыя магчымасці парахода.

— Хто пацягне? Мы з табой?

Запыталі капітана буксіра. Не, дзве баржы не пацягнем, запарым машыну.

Значыцца, пакідаць людзей, тэхніку, паўдывізіёна, пасярод возера, па сутнасці, бездапаможнымі перад магчымым налётам? Але хіба ў нас не тыя ж дзве гарматы МЗА і чатыры счацвяроныя кулямёты?

Але настаўніку Мураўёву, сухадолу, хацелася, каб «дочкі і сынкі» (і праз год службы старшы лейтэнант звяртаўся да падначаленых гэтак, маладыя афіцэры кпілі з «палашы») былі бліжэй да зямлі. Мураўёў думаў пра налёт. Ён рашуча прапанаваў: адвесці баржу да бліжэйшага вострава.

— А буксір? — адразу запярэчыў Шахоўскі.— Каманда не пакіне буксір, пакуль ён трымаецца на плыву. Я ведаю гэтых людзей!

— Узнімецца вецер і панясе баржу на скалы. А яна начынена снарадамі, што бочка порахам,— не здаваўся Мураўёў.

— А якары — для чаго?

— А глыбіня?.. Дастануць якары да дна?

Па-новаму раскрываўся маўклівы выканаўца Мураўёў сваёй нечаканай настойлівасцю.

Адказ капітана буксіра: на якары можна стаць.

Кузаеў задумаўся, аглядаючы афіцэраў штаба.

— Капітан Шахоўскі! Камандуеш баржай-два!

— Слухаюся, таварыш маёр!

«Ваенны савет» скончаны. Але да камандзіра ступіла Пахрыцына і... звычайна афіцыйная, «статутная», тут зусім не па-вайсковаму, як непаслухмяная школьніца, сказала:

— І я...— і прыкметна пабляднела.

Тужнікаў, добра разумеючы прычыну, іранічна скрывіўся.

— А вам чаго? А санчасць на каго пакінеце? — спытаўся нампаліт.

— На буксіры — раненыя.

— І вы! — нечакана згадзіўся Кузаеў, пацвердзіўшы прычыну: — На буксіры — раненыя.

Тады і я ступіў да камандзіра:

— Дазвольце і мне, таварыш маёр.

Калбенка незадаволена кракнуў — не параіўся з ім.

— Давай і ты, камсорг! Даю табе камісара, Шахоўскі!

Перад тым як сесці ў лодку, я кінуўся на карму, дзе паміж скрынкамі са штабной маёмасцю ляжаў мой рэчавы мяшок. Узяць яго. Але нейкае проста-такі прымхлівае пачуццё спыніла. Не, браць мяшок не трэба! Атрымаецца, што я сабраўся надоўга. Да сваіх жа іду. Трэцяя батарэя, тылавыя службы... Што ўзяць? Паперы. Трохі паперы, падабранай у Мядзведжагорску. Карандаш у кішэні. І кнігу. Якую? Іх дзве. «Ціхі Дон». І вершы Паўлюка Труса, з гэтай кнігай я не разлучаюся ўжо гадоў сем, з першага курса педтэхнікума.

— Паўлік! Навошта ты? Навошта?

Перада мной стаяла Ліда. Гэткая ж бледная, як Пахрыцына, калі прасілася на баржу. У вачах свяціўся страх, трывога, смутак.

— Што навошта? — не адразу сцяміў я.

— Плывеш туды.

— Ты што!.. Загад камандзіра!

— Не. Я чула. Ты сам папрасіўся...

— Ліда! Што з табой?

— Баюся я.

Дзіўна, нечаканае прызнанне не кранула мяне тады, а, бадай, узлавала. Што за цялячыя пяшчоты! А яшчэ камсорг! Яна баіцца... Чаго? Што я пераходжу на другую баржу, дзе добрая палавіна дывізіёна?

— Ты што — забылася, што мы на вайне?

— Не забылася.

Яна неяк сцялася, зрабілася маленькая, што дзяўчынка, а твар... твар дзіўна зморшчыўся і ўміг пастарэў, як у маці маёй, калі тая праводзіла мяне ў армію яшчэ ў мірны час, у саракавым. Сястра пісала: калі іх вызвалілі ў мінулую восень і прыйшло маё пісьмо, мама доўга плакала. «Другі дзень, братка, не можам суняць. Чаго гэта яна? Калі пад немцамі былі, ні разу не плакала. Тады не заплакала, як паліцаі вельмі бацьку пабілі ды і ёй сінякоў нагналі».

— Трымай хвост трубой, таварыш малодшы сяржант!— груба, бадай, недарэчна пажартаваў я і, выхапіўшы з мяшка даволі зачытаную, пацёртую, з падклееным марлевым карашком кнігу вершаў, кінуў мяшок дзяўчыне пад ногі,— Завяжы. Будзеце разгружацца — забярэш...

— Не буду браць! — упарта, амаль злосна адказала Ліда.

— Ты што гэта?

— Нічога. Не хачу.

— Не хочаш — не трэба. Парторг забярэ.

І пабег па палубе маладым казлом. Да трапа. Першы спусціўся ў човен.

4

Якое сонца! Ад яго няма куды схавацца. Шукалі хоць лапінкі ценю. Але на палубе яго нямнога. Ад кожнай гарматы — не больш як на двух чалавек, ад зачахлёных прыбораў — яшчэ менш. А нас многа. І ўсе на палубе, бо трумы так нагрэліся, што там увогуле немагчыма дыхаць — гараць лёгкія, здаецца. Тут, над возерам, усё-такі ёсць нейкі рух паветра, праўда, няўлоўны. У далечыні ад баржы, здаецца, рабаціцца водная гладзь: там прайшоўся вецярок. Вось даляціць да нас, прынясе прахалоду. Не, вятры, мабыць, гэтак жа разамлелі і паснулі, як мы, людзі, на сваёй нерухомай, загубленай у прасторы Анегі баржы.

А можа, так спякотна ад непрывычкі? За чатыры гады забыліся на цеплыню, марылі пра яе. Улетку сорак другога было ў Мурманску надзіва цёпла для такой шырыні, колькі дзён нават спрабавалі купацца — не ў Кольскім заліве, у азярку нейкім. Але потым было не да купання: у гарачы і ветраны дзень наляцела каля сотні «юнкерсаў», «хейнкеляў», «месершмітаў» і спалілі горад. Пасля, разведаўшы, што порт усё ж уцалеў, фашысцкае камандаванне са злоснай метадычнасцю, не даючы перадыху (палярны ж дзень), бамбіла яго. І горача было не ад сонца — ад агню.

Мінулае лета на Кольскім паўвостраве не радавала цеплынёй, бадай усё лета спалі ў шынялях. Ды і ў гэты першы летні месяц у Кандалакшы не пагрэліся ніводнага дня.

І раптам — столькі сонца! Як у Крыме. Не ўяўляў, што ў Карэліі бывае так спякотна. Дзіўна створаны чалавек: радавацца трэба, а некаторыя ўжо бурчаць, незадаволеныя.

Афіцэры сцягнулі са снарадных скрынь брызент — «Чорт іх не возьме, снарады, не расплавяцца!» — і на носе баржы абсталявалі тэнт. Пад ім і сядзім. Ляжым. Усе. Акрамя хіба, Шахоўскага. Дзе ён? Побач з намі — маленькі тэнт. Пад ім — лазарэт; двое раненых з буксіра, каля іх Пахрыцына і санінструктар трэцяй батарэі. Знаходзіўся там нейкі час і капітан. Але калі сонца паднялося, прыгрэла і мы, супакоеныя пасля драмы з буксірам, сцішыліся, разамлелыя, і — можа, так здалося доктару — паснулі, Любоў Сяргееўна непрыкметна ўзяла руку «князя» і паднесла да сваіх вуснаў. Угледзеў-такі малады лейтэнант Трухан, хіхікнуў, ашаломлены, пачаў шаптаць усім нам: — Бачылі? Бачылі? Яна пацалавала яго руку.

Засмяяўся яшчэ нехта.

Дайшло да мяне. Прыгадаў Ліду, яе страх, і... зразумеў, асэнсаваў глыбіню яе пачуцця. І свайго. Меў рацыю Калбенка, зрабіўшы выснову, што я там, у Мядзведжагорску, у доме раскрычаўся таму, што спалохаўся за яе — за Ліду. Успомнілася начная размова з Пахрыцынай. Я разумеў яе, кранула такая пяшчотнасць жанчыны, яе неадольнае жаданне пацалаваць чалавеку, якога кахае, руку. І я ўзлаваўся на бяздумнага лейтэнанта, сказаў Трухану:

— Няма з чаго выскаляцца.

— Ручку — князю... Хі-хі...

— Заткніся!

— Ты што, камсорг?

Іншых афіцэраў, хто не паспеў заснуць, таксама здзівіла мая грубасць, ведалі: мне гэта зусім не ўласціва, я, як ніхто, далікатны з любым байцом, не толькі са сваімі калегамі — афіцэрамі. Да таго ж я малодшы па званню. Між іншым, ад каго іншага Трухан пракаўтнуў бы і не такое, асабліва ад старэйшага, сам быў крыкун і мацюжнік. А тут палез «у бутэльку»:

— Знайшоўся мне ідэйны правадыр. Дзяк дывізіённы!

Сэнс нашага шыпення — з-за чаго! — пэўна, дайшоў да Шахоўскага, таму ён і пайшоў некуды на карму баржы і не вяртаецца.

Трухан як лёгка завёўся, так хутка і сціх. Храпе на ўсю баржу.

Дзіўна, як лёгка людзі засынаюць! Няўжо іх мала што хвалюе? А я ўначы, можа, якую гадзіну падмарыў, не больш. І цяпер не магу заснуць. Ад думак. Ад перажыванняў. Радасных і сумных. Простых і складаных. Ліда... Проста хіба? Ох, як няпроста. Для каго? Для яе? Для мяне? А чаму няпроста? Мудры Калбенка: «І кахай. Кахай. І плюнь на тое, хто што скажа!» Парторгу з вышыні яго вопыту ўсё проста... Не, і яму няпроста. А ў Пахрыцынай? Той жа пранiклівы Калбенка неяк сур'ёзна сказаў:

«Не любіць князь яе».

Успомнілася гэта і зрабілася да болю шкада жанчыну, да якой я адносіўся яўна несправядліва. Да сённяшняй ночы. Вунь з якой матчынай клапатлівасцю поіць яна вадой цяжка раненага качагара, хлопчыка. Мяняе мокрыя прымочкі на яго галаве.

Дзіўна і крыўдна мне, што ні Саўчанка, камандзір трэцяй, які ўзначальваў гэтую баржу, ні добры Кузаеў, ні разумны Шахоўскі, ні сама Пахрыцына не падумалі, што раненых варта было перавезці на першую баржу, каб хутчэй даставіць у шпіталь. Не. Любоў Сяргееўна гэта зразумела, калі мы з ёй падняліся на скалечаны буксір. Але было позна: буксір і баржа хутка аддаляліся. Спяшаліся, каб хутчэй вяр-

нуцца па нас. Кузаева можна зразумець: паў дывізіёна пакідаў пасярод возера.

А капітан буксіра?.. Нялёгкія мае думкі і пра гэтага чалавека, якога я ўпершыню ўбачыў гадзін шэсць назад. Няўжо буксір яму даражэй, чым гэты хлопчык, які па ўзросту яго ўнук? Але і ў мяне, здаецца, вочы былі мокрыя, калі я глядзеў, як «памірае» старое, як і яго капітан, судна — азёрны сухагруз «Ладага».

Капітан сядзіць недалёка ад нас — на самым носе, на якарнай тумбе, на санцапёку, з непакрытай галавой і глядзіць, пэўна, туды, дзе возера пахавала яго буксір.

За што я асуджаю капітана? Што не падумаў пра раненых? Як жа не думаў? Ён жа думаў, каб ўратаваць усю каманду і вельмі патрэбны — арміі патрэбны! — параход. Не, я разумею капітана, яго боль, і мне шкада яго. Як ён сказаў мне? «У мяне толькі і засталося, сынок, што ён». Ён — параход яго.

...Я і доктар падняліся на буксір. Шахоўскі — на баржу. Любоў Сяргееўна адразу занялася раненымі. А я спусціўся ў машыннае аддзяленне. Там знаходзілася ўся невялікая каманда і трое нашых байцоў з гаспадарчага ўзвода — старых цесляроў.

Тое, што я ўбачыў у цёмным труме, моцна спалохала мяне, сухапутнага чалавека. Людзі рабілі па пояс у вадзе. Прабоіна ў борце была закладзена мяшкамі з пяском, скрынкамі, дошкамі, бляхай. Праз шчыліны гэтай прымітыўнай і, здалося мне, зусім ненадзейнай латы фантанамі біла вада. Хіба могуць столькі вады адпампаваць адной помпай, якую я ўгледзеў на палубе? Ды і пампуюць два галодныя, знясіленыя хлопчыкі. Там, наверсе, я падумаў: папрасіць Шахоўскага, каб даў падмогу. Але ў машынным аддзяленні ўбачыў: ніякая падмога не ўратуе буксір.

Выскачыў на палубу, з капітанскага мосціка крыкнуў у рупар, безназоўна і, бадай, панічна:

— Мы тонем!

Шахоўскі, якога я добра бачыў, адказаў не адразу, і я ўзлаваўся: «Чортаў князь! Ён яшчэ думае! Веча сабяры!» Я растлумачыў «па-марскому»:

— Вада залівае трумы.

Раней чым даць каманду мне, капітан даў яе людзям на баржы: адчалілі два чаўны.

— Зняць людзей!

Я спусціўся да палавіны жалезнай лесвіцы і гучна закамандаваў:

— Пакінуць судна!

Пад лесвіцу, у паласу святла, што падала праз люк, ступіў стары, лысы, з маршчыністым тварам, вельмі ж падобны на рулявога першай баржы — усё роўна як браты.

— Ты чаго, сынок?

— Пакінь судна! — зноў крыкнуў я, не аднаму яму — усім.

— Ты адкуль такі камандзір узяўся? — стары пачынаў злаваць.

— Загад капітана!

— Капітан тут я!

— На вайне камандуе старшы! — ужо больш разважліва сказаў я, успамінаючы многа разоў вычытанае ў кнігах, што капітаны пакідаюць судна, якое гіне, апошнімі, баючыся ўпартасці старога, лагодна пагразіў: — Будзеце супраціўляцца — ссадзім сілком.

Капітан — пасля мы даведаліся яго прозвішча, гучнае, як у Шахоўскага, Пляханаў — сумна ўздыхнуў, глуха сказаў:

— Пайшлі, рабяткі.

Параход «паміраў» цяжка. Здзіўляла яго плывучасць. Многім афіцэрам і байцам абрыдла чакаць, калі ж ён патоне. А я стаяў на носе баржы, можа, гадзіну — паднялося сонца — і не зводзіў вачэй з судна. Збоку ад мяне стаяў яго капітан, нерухома, як у ганаровай вахце каля труны нябожчыка, і толькі зрэдку ўздыхаў. І гэтыя яго ўздыхі рэзалі мне душу. Паспрабаваў суцешыць капітана, але вельмі нязграбна, пасля зразумеў:

— Бацька, што нам стаяць тут? Хадземце паснедаем.

Дыміла кухня. Байцы грымелі кацялкамі. Пахла трохі падгарэлай прасяной кашай. О, як паглядзеў стары: на мяне! Спапяліў позіркам! Пэўна, падумаў: блазнюк, нічога ты не можаш зразумець. А я зразумеў, больш таго, я адчуваў, як яго боль пераходзіць мне. Караў сябе, што паспяшаўся. Можа, меў рацыю капітан, што судна можна ўратаваць? Не, відаць, не спадзяваўся, бо інакш сказаў бы пра гэта Шахоўскаму, калі той запытаўся пра пашкоджанне. Але хіба ад страты надзеі яму лягчэй?

Параход «памёр», як чалавек: доўга змагаўся за жыццё, потым пачаў хіліцца на бок. І раптам — перакуліўся і адразу пайшоў на дно, знік пад вадой за колькі мінут. Ударылі ў борт баржы кароткія хвалі. Усплыла на паверхню вады вялікая масляная пляма.

Гібель карабля мяне хвалявала і ў фільмах не менш, як смерць чалавека. А тут я ўбачыў гэтую гібель наяву. Моцна ўразіла. Хацелася сказаць капітану нейкія асаблівыя словы суцяшэння. Але баяўся, што зноў скажу не тое, што трэба ў такой незвычайнай сітуацыі. Не адразу, праз пэўны час, калі масляную пляму хвалі падбілі да баржы, ста-

ры коратка перахрысціў тое месца, дзе знік яго параход, і павярнуўся да мяне, сцішаны, стомлены, з патухлымі вачамі, глуха сказаў:

— Вось так, сынок, паміраем,— памаўчаў і папрасіў: — Можаш раздабыць трохі гарэлкі? Вечная памяць яму...

Хацеў пашукаць Шахоўс ка. га.. Здзівіла мяне, што яго не было сярод тых, хто да канца назіраў гібель буксіра. Але мяне апярэдзіла Любоў Сяргееўна, якая была тут жа каля раненых.

— Я дам.

Наліла ў конаўку спірту.

— Развядзіце вадой.

Капітан выпіў чысты спірт і не скрывіўся нават. Ад снедання адмовіўся". Сеў на якарную тумбу. І сядзіць каторую гадзіну. З голай галавой. Я прапанаваў яму пілотку. Пілотку ён узяў, але трымаў яе ў руцэ. Я ўспомніў, што, пакідаючы буксір, кожны матрос нешта захапіў — фанерны чамаданным рэчавы мяшок... Адзін капітан спусціўся ў лодку, не маючы нічога.

Я думаў пра лёс гэтага чалавека. Хацелася пагаварыць з ім. Але не ведаў, з чаго пачаць, баяўся, што нетактоўна лезці ў душу чалавека, у якога гора, са сваёй цікаўнасцю, бо ў ёй ёсць пэўны эгаістычны разлік: не сумняваўся, што жыццё ў гэтага чалавека такое, што яго можна выкарыстаць для выхавання байцоў. З маёй прапагандысцкай шчырасці пасміхаўся нават Калбенка. Але і цаніў, што байцы, асабліва дзяўчаты, даверліва паказваюць мне пісьмы з дому ад матак, сясцёр, з фронту — ад бацькоў, братоў, жаніхоў — І я ўмела выкарыстоўваю факты з гэтых пісем у сваёй рабоце.

Аднак і пячэ ж! Здавалася, пачырванела жалеза палубы, тумбы: пад сонцам брудная ржавасць іскрылася, гарэла. Пад тэнтам не было чым дыхаць. Як можна спаць у такой спякоце? У нейкі момант я зайздросціў афіцэрам, якія заснулі. А цяпер зневажаў іх за бестурботнасць, цвердаскурасць. Такія падзеі! Не ў дывізіёне. На франтах. У свеце. Нарэшце, высадзіліся ў Францыі саюзнікі, адкрыўся другі фронт. Але галоўнае — наступленне ў роднай Беларусі. Шырокае, імклівае. Я разумеў яго значэнне для поўнай перамогі. Ужо вызвалены Віцебск, Орша, Магілёў...

У Мядзведжагорску знайшлі фінскія радыёпрыёмнікі. І ўчора на той баржы да позняй ночы слухалі радыё. Здзіўляюча блізка Масква. Да спазмаў у горле хваляваў голас Левітана, які чытаў загад аб вызваленні Бабруйска.

Нельга мне ляжаць пад тэнтам і слухаць багатырскі храп Трухана ці глядзець на сумную постаць капітана буксіра і лавіць хвалі яго болю. Кузаеў не жартаваў, што пасылае мяне камісарам на гэтую

баржу. Я павінен быць камісарам. Не даць людзям разамлець ад спякоты, расслабіцца, можа, нават заразіцца бездапаможнасцю. Незвычайнае становішча: шмат хто ніколі не бачыў такой вады, у якой, як акулы, плаваюць міны. Якраз, можа, добра, што няма і маленькага вецярка, хоць у возеры, як і ў моры, ёсць плыні. Трэба падбадзёрыць байцоў. А нішто так не падбадзёрвае, як добры расказ пра пераможнае наступленне наша!

Я ўмеў расказаць пра наступленні пад Арлом, Курскам, на Украіне. Як жа я раскажу пра вызваленне Беларусі! Мне не трэба карта, яна — у галаве маёй. У большасці гарадоў, названых у апошнія дні ў загадах Сталіна, я быў, плаваў па Дняпры, па Бярэзіне...

Не проста сорамна — злачынна ляжаць пад тэнтам у такі час, гэтак «распеpазаўшыся» — разутым, без гімнасцёркі. Следам за намі, афіцэрамі, разуюцца ўсе.

Але нават Пахрыцына, якая была ў поўнай форме, паглядзела на мяне, адзетага, падцягнутага, трохі здзіўлена. А ў мяне ажно дыханне заняло, калі я агледзеў прасторы возера. Якое хараство! Не тое што свінцовы Кольскі заліў і заўсёды хмурая Кандалакшская губа. Возера іскрылася, у колькіх месцах дзівосна карабацілася, хоць подых ветру ні разу не даляцеў да баржы. Але вочы мае тут жа ўзняліся ў неба, у зеніт. Тры гады мы глядзелі толькі ў неба. Толькі неба нараджала самыя моцныя перажыванні. Мы развучыліся любавацца блакітам. Больш даспадобы былі нізкія цяжкія хмары. Не, не зусім так. Было, што хацелася яснага неба. Калі я камандаваў яшчэ гарматным разлікам, у нялётную пагоду нам давалі замнога тэорыі, палітыкі і страявой, а гэта — нудна. Тады і камандзіры, і байцы, маладыя, нават дзяўчаты, прасілі пагоды, хіба толькі асцярожныя «дзяды» не хацелі халоднага палярнага сонца.

Дзіўна: такая спякота — і такая празрыстасць неба. Ніякай смугі. Ніводнай хмаркі... ідэальная лётная пагода. І ў сэрца нечакана ўдарыла трывога. Не, больш — страх. За каго? Не за сябе. Не за нашу нерухомую баржу. За тую, што паплыла да Петразаводска. За Калбенку, за Кузаева... Ды будзь жа ты шчыры з самім сабою! За Ліду. Але, у першую чаргу за яе, як там, у Мядзведжагорску, у доме, які мог быць замініраваны. Праніклівы Калбенка! Як ён адгадаў мае пачуцці! А навошта мне такі страх? Навошта? Тут жа прыгадалася: я часта сніў неба, усыпанае злавесна чорнымі букетамі разрываў. Ды не сны скалануль. У гэтай сувязі ўспомнілася, як яшчэ ў Кандалакшы Ліда спытала: «Чаму разрывы нашых снарадаў сталі такія чорныя?» Я адказаў тады: «Больш дымны порах». Пры бліжэйшым налёце ўгледзеўся. Разрывы як разрывы. Як заўсёды. Бадай што белыя, а не

чорныя. Не можа порах быць нестандартным, гэта раўнялася б дыверсіі, бо парушыла б дыстанцыйнасць разрываў.

Чаму ж букеты ў зеніце раптам здаліся ёй чорнымі?

Якая лухта лезе ў галаву? Бабскія прымхі. Сорамна, таварыш камсорг! Трэба заняцца справай, сваімі абавязкамі, а то ад сонца і бяздзейнасці і не такія фантазіі могуць узнікнуць. Не ў аднаго мяне. Вунь як ляжаць на палубе: маладыя байцы без сарочак, загараюць, толькі старыя ў гімнасцёрках, цiснуцца на вузкіх плямах ценю ад зачахлёных пушак, ад пражэктараў, пад снараднымі скрынкамі. Не баявая батарэя і рота, а цыганскі табар.

На карме — скрынак цэлы штабель, гара іншай маёмасці. «Паглядзі, як забарахоліліся»,— іранізаваў Калбенка пры пагрузцы.

Там, за снарадамі і рэчавым складам — дзявочы смех, піск. Ад чаго такая весялосць? Неўтаймоўны род. Мужчыны памлелі, а ім весела і ў такой сітуацыі, у такую нязвыклую спякоту.

Я зашпіліў каўнер і ледзьве не страявым крокам рушыў на карму. Павесялімся разам. Парадуемся. Перамогам, пра якія я вам раскажу. Але каля кучы накрытай брызентам маёмасці мяне спыніла вартавая Зіна Пятрова; акрамя нядрэмных разведчыкаў, што няспынна сачылі за небам, на баржах на час плавання ўстанавілі два пасты: як пажартаваў Данілаў — каля бюстгальтараў і каля кансерваў.

— Туды нельга, таварыш малодшы лейтэнант.

— Нельга? Мне?

— Дзяўчаты загараюць... І купаюцца...

— Купаюцца?!

У Зіны, пухленькай, беленькай, добрай кулямётчыцы, але са слабасцю — любіла, каб яе пацiскалі хлопцы, сама правакавала іх, ствараючы і свайму камандзіру і нам, палітработнікам, праблему,— гуллiва смяяліся вочы.

— Хто дазволіў?

— І тут дазвол? — шчыра здзівілася Зіна.

Я разгубіўся. Чортавы бабы! Ніводзін баец-мужчына не здольны на такія парушэнні дысцыпліны, як яны. Во Евіна племя!

Аб тым, каб пакупацца, выказаўся нехта з афіцэраў. Але Шахоўскі, які звычайна аддаваў загады залішне па-цывільнаму, па-вайскоў катэгарычна забараніў купанне. І ніхто з афіцэраў яго не ўпікнуў, калі ён адышоў.

Пажартавалі:

— Пакупаешся, калі і трусоў няма. У кальсонах палезеш? Возера забрудзіш. Міну прыцягнеш пахамі.

— Ідзі ў дзяўчат панталоны пазыч.

Потым накінуліся на начальніка рэчавага склада старшыну Біцяя:

— Вы са сваім Кумам (начальніка абозна-рэчавага забеспячэння Кумкова даўно перахрысцілі ў Кума) морды наелі, а паклапаціцца перад летам пра трусы не маглі. Палезу ў возера без штаноў — Кузаеў спытае: хто давёў да такой амаралкі? Скажу: Кум з Біцяем.

— Давайце, хлопцы, акунём яго. Перахрысцім.

— Ты якой веры, Біцяй?

— Таварышы, я праваслаўны,— пазбаўлены гумару, старшына спалохана адступаў ад афіцэраў: далей ад бяды, бо плаваць ён не ўмеў, а такія, як Ільянкоў і Трухан, могуць што хочаш адмачыць. Вясёлы рогат нават у старога капітана выціснуў кволую ўсмешку.

Я загадаў Зіне:

— Ідзі скажы, каб вылезлі з вады. І адзеліся.

— А мне нельга пакідаць паста. А вам... Таварыш малодшы лейтэнант! Няўжо вам не хочацца паглядзець на нас, голых? Мы — прыгожыя,— а вочы... вочы ажно круцяцца. Во чартоўка!

— Божа, ды вы пачырванелі. Няўжо не бачылі голай дзеўкі? Бедненькі вы мой!

— Пятрова! Перастань мянташыць языком. Распусцілі вас!..

— Абвясціце трывогу. Бо смеху будзе. Можа, каторая без бюстгальтара...

Толькі на вайне бываюць такія неверагодныя нечаканасці, супадзенні. Сказала дзяўчына пра трывогу — і я па трохгадовай звычцы ўслухаўся не ў блізкія смех і войканне, а ў недасягальную далечыню. Слых у мяне быў добры. У першы год вайны толькі батарэйны алень Алёшка раней за мяне лавіў шум нямецкіх самалётаў. Разумная жывёліна! Свае знішчальнікі патрулiруюць — ён вухам не вядзе, спакойна пасецца. А як толькі ўскіне ногі, навострыць вушы, а пасля кінецца на пазіцыю, да каманднага пункта — абвяшчай трывогу: ляцяць, гады!

За смехам і плёскатам мірнай цішыні над бязмежжу Анегі я пачуў далёкі-далёкі, але д'ябальскі знаёмы, з пералівамі — звонам, захліпаннем — шум матораў. «Юнкерсы-87»! Тыя пікіроўшчыкі, якія ўмеюць накрываць самую малую цэль!

— Тры-во-га!

— Трывога! — адразу падхапіў разведчык на штурвальным мосціку, шукаючы самалёты ў бінокль.

У Зіны расшырыліся вочы — не здзіўлена, спалохана: кулямётчыца адразу сцяміла, што нам пагражае. Зняла сябе з паста, кінулася да станкача, што там жа, на мосціку, глядзеў у неба чатырма каро-

ткімі варанёныміруламі. А я ўспомніў: першы нумар гарматы МЗА, што стаяла на карме,— Марфа Лосева, зацятая рыбачка. Напэўна, купаецца. Я ўмігі заняў яе месца на гарачым сядзенні «трыццацісямёркі».

Праз хвіліну я знайшоў іх у небе. Тры «юнкерсы» ішлі з поўдня на вышыні, з якой звычайна пераходзяць у піке. Ішлі прамым курсам на баржу. Няўжо на нас? Хто ж навёў? Не было ж ніводнага разведчыка. Той, што прайшоў на світанні, наўрад ці «засек» нас. А калі і ўгледзеў, то ўбачыў буксіры і баржы, якія плылі. За восем гадзін дзе мы апынуліся б нават пры чарапашай хадзе? Відаць, у Петразаводску... Разгружаліся б. Чаму ж яны так упэўнена ідуць на нас? Запеленгавалі радыёперадатчык? Не! Ён даўно не дастае першае баржы, а таму маўчыць — няма з кім звязвацца.

Абпаліла мозг страшная думка: наведзеныя тым, ранішнім разведчыкам, самалёты патапілі першую баржу і шукаюць другую. Як хутка яны набліжаюцца ў аптычным прыцэле! Але што гэта? Ведучы іх у прыцэле, я паварочваю рукаятку азімута. Значыцца, праходзяць міма? Павярнулі на паўночны ўсход, на той востраў, што відаць з баржы?

Адарваўся ад прыцэла. Вачамі ахапіў больш шырокае поле блакіту. Але, «юнкерсы» ідуць міма. Дзякуй богу. Адчуў, як моцна я спалохаўся іх магчымай атакі. Як у першы дзень вайны. Сорамна не стала: не за сябе страх — за людзей. Азірнуўся. Колькі іх — дзяўчат, хлопцаў, сталых дзядзькоў — сабралася вакол адной маленькай гарматы? Навошта! А куды ім дзявацца? Лезці ў трум? Няўжо пранесла?

Не, не пранесла.

Адзін з пікіроўшчыкаў рэзка адваліў ад сваіх і, зніжаючыся з характэрным свістам, пайшоў на баржу.

Во яно!

— Па самалёту над другім! — ахрыплым голасам закрычаў не камандзір узвода МЗА — камандзір зачахлёнай батарэі «васьмідзесяціпятак» Саўчанка.

Божа літасцівы! А я не магу злавіць «юнкерса» ў прыцэл.

— Аго-онь! Аго-онь! Такую вас!..

Гэта — мне, наводчыку, аўтаматычны спуск у мяне.

Чарга ў неба. Ганьба! Злавесны свіст у зеніце, над самай галавой. У вертыкаль не ўзнімаецца ні прыцэл, ні дула гарматы. Не, кулямёт б'е, ажно захлынаецца. Бухаюць вінтовачныя стрэлы. Вядуць агонь — хто з чаго можа. Па пікіроўшчыку. А я выпускаю снарады ў белы свет, як у капейку.

Глуха вухкае бомба. Абдае дажджом халодных пырскаў. Міма! У возера! Толькі б не ў баржу, не ў снарады нашы!

Рэзка разварочваю пушку. Адразу лаўлю «юнкерса» ў прыцэл. Фашыст заходзіць у другі раз. Вышыня ў яго пасля першай атакі такая, што калі ён прарвецца і спікіруе на нас зноў, то, напэўна, не прамахнецца. Узляцім мы ў неба, каб знайсці брацкую магілу на дне возера.

Ах, малайчына Зіна! Якімі шчыльнымі трасёрамі перасекла фрыцу дарогу! Ну, цяпер і я не выпушчу цябе з прыцэлу!

— Аго-онь!

Пасылаю адну чаргу. Другую... Крычу, што ёсць сілы:

— Зараджай хутчэй!

Са звонам коцяцца па жалезнай палубе гільзы.

Бачу... далібог жа, бачу, як снарады прашываюць самалёт. (Пасля ніхто не верыў, што я ўбачыў пападанне. Ды бывае, відаць, нейкі асаблівы зрок — унутраны, ці што.)

«Юнкерс» раптам не ўніз пайшоў, не ў піке на баржу, а, крута задраўшы нос, ірвануў угору і... выплеснуў у неба слуп полымя. Узарваўся бензабак? Ці, можа, снарад пацэліў у бомбу, што прызначалася для нас?

Абломкі самалёта, пырскі агню ўпалі на палубу баржы, ранілі двух чалавек. Але я не бачыў, як тушылі агонь, памагалі раненым. Я аглох ад радасці.

Людзі на карме крычалі «ўра». Саўчанка абдымаў мяне.

Шахоўскі пахваліў:

— Малайчына камсорг.

Трухан прайшоўся вакол гарматы на руках, уніз галавой.

— Дайце адвёртку, я пракалю яму дзірку для вялікага ордэна.

А Зіна Пятрова — ах, гэтая Зіна! — не пасаромелася пры афіцэрах, пры байцах пацалаваць наводчыка.

— Узнагарода ад мяне.

А сама мурзаценькая ад парахавой гары.

І — дзіўна! — нечаканы пацалунак дзяўчыны, якая лёгка цалавала іншых, здаўся сапраўды дарагой узнагародай.

5

Штаб дывізіёна размясціўся ў прыгарадзе. Рассяліліся шыкоўна, з камфортам, пра які не марылі не толькі ў вайну — у Марманску і ў Кандалакшы туліліся ў зямлянках, але і да вайны ў такой раскошы, напэўна, ніхто не жыў. Хіба Шахоўскі, ды і то наўрад. Сакратар райкома Калбенка, начальнік станцыі Кузаеў — вунь на якіх пасадах

былі! — і тыя мелі цесныя кватэркі з двух пакояў. А тут занялі цэлы пасёлак, дамоў пятнаццаць. Ды якіх дамоў! Новенькіх, з-пад малатка. На бярвеннях двухпавярховага асабняка — былой фінскай канторы, што стала камандным пунктам, не засохла яшчэ смала.

Трохі далей у полі тырчалі чорныя слупы з нацягнутым паміж імі калючым дротам, з высокімі вартавымі вежамі і нізкімі доўгімі баракамі. Там быў лагер нашых ваеннапалонных.

Пасёлак, мяркуючы па тым, што ў ім было, па дакументах, якія мы палілі, будавалі не ваенныя — цывільная фірма. У збудаванні такога смалістага раю побач з лагерам быў не толькі практычны сэнс, але і псіхалагічны разлік. Працуйце, рускія рабы, і глядзіце, як культурна ўмеюць гаспадарыць, жыць пераможцы! Любуйцеся на казачныя дамочкі, на клумбы, пасыпаныя пяском дарожкі! Любуйцеся і... памірайце, знясіленыя працай і голадам.

Фірма нарыхтоўвала лес. Паміж лагерам і пасёлкам паабапал вузкакалейкі ляжалі штабялі бярвення і пілоўніку — тысячы кубоў.

Акупанты ёсць акупанты. Колькі лясоў у самой Фінляндыі, але карэльскі — смачнейшы, больш выгодны. Лес, безумоўна, везлі ў Германію — многа дакументаў на нямецкай мове. Плата Руці, Танера, Манергейма Гітлеру. Плата за атрыманую магчымасць гнаць фінскіх рабочых і сялян у бойню. Плата за права служыць фюрэру, за жалезныя крыжы, якімі «сюзерэн Еўропы» ўзнагароджваў сваіх верных васалаў. Плата за вялікую Фінляндыю — да Урала. Ох, як гэтая мара туманіла галовы фінскім генералам, буржуазіі! Пра гэта мы гаварылі з Калбенкам, з цікавасцю аглядаючы з самай раніцы пасёлак, штабялі падрыхтаванага да вывазкі пілоўніку. Якое багацце!

Ад смольнага водару паміж штабялямі, дзе паветра здавалася густым, як сама смала, кружылася галава. Мы як бы рэвізавалі ўсё гэтае дабро, бралі на ўлік. Заглядвалі ў кожны дамок, каля якіх Кузаеў выставіў ужо вартавых. Не, па-гаспадарску рэвізаваў усё, бадай, адзін — былы сакратар райкома, мабыць, прыкідваў, як бы мог выкарыстаць гэтае драўлянае багацце ў сваім стэпавым раёне. Разам з ім я радаваўся трафеям — такім, як гэты вялізны лесасклад.

Ранішняя смуга, што прадвяшчала новы спякотны дзень, была ружовым туманам, у якім я не хадзіў — плаваў у казачных пахах. Я знаходзіўся ў стане дзіўнага ап'янення.

Я не спаў дзве ночы. Амаль не спаў. Буксір вярнуўся за баржай толькі пад вечар. Прыйшлі мы ў Петразаводск пасярод ночы. Яшчэ і цяпер недзе ў порце ідзе разгрузка. Але пра баржу, дзе пражыў, можа, самы хвалюючы дзень жыцця, я ўжо не думаю — не баюся за людзей, за гарматы, за снарады. Цяпер людзі разгружаюць баржу пад ахоўай

дывізіёна, які добра навучыўся збіваць налётчыкаў. Ды ці толькі нашага дывізіёна. Нядаўна, з недалёкага, за лесам, аэрадрома ўзляталі знішчальнікі. Яўна пайшлі на перахоп. Ці не тых фінскіх «юнкерсаў», што са спазненнем ідуць, каб патапіць нас?

Калбенка сказаў, што Кузаеў пры ім загадаў Мураўёву неадкладна пісаць прадстаўленне на мяне — да ордэна Айчыннай вайны.

Бадай, сорамна, што я так радуюся ордэну, якога яшчэ не маю; прадстаўлялі мяне ўжо раз на ордэн, а далі медаль «За баявыя заслугі». Але тады я і прадстаўленне і атрыманне прыняў вельмі спакойна. А тут абдало такой хваляй радасці, што хацелася падбрыкнуць і галёкнуць. Хіба не сорамна афіцэру, палітработніку, які тры гады праваяваў, гэтак узлятаць ад аднае думкі пра ордэн?

Захацелася — каб сцішыць, прызямліць гэтую сваю радасць — прызнацца Калбенку, што не такі ўжо я герой. Набраўся страху і да таго, як «юнкерс» атакаваў баржу, і асабліва пасля. Не было яго, страху, хіба ў часе бою. А пасля таго, як абломкі самалёта праглынуў заанежскі заліў,— не адзін я, усе — Шахоўскі, Пахрыцына, Трухан, які да таго бестурботна спаў, капітан, што ўвесь час глядзеў на ваду, дзе патануў яго параход,— з асаблівай пільнасцю сачылі за небам: ці не ляцяць? Ніхто больш не спаў, ніхто не загараў, не купаўся. Не сумняваліся — прыляцяць. Не могуць не прыляцець. «Юнкерсы», з якімі ішоў той рызыкант, маглі не ўгледзець гібелі таварыша, недзе адбамбіліся і прайшлі міма, упэўненыя, што трэці вяртаецца з больш відавочнымі вынікамі сваёй атакі. Але на аэрадроме зразумеюць, што адбылося. І загарацца, каб адпомсціць. Фіны зацятыя.

Не, не прыляцелі. Не да таго, значыцца, камандаванню, каб кідаць цэлае звяно бамбардзіроўшчыкаў на нейкую загубленую ў прасторах возера баржу. Есць цэлі больш важныя і блізкія — падтрымаць свае часці, што панічна адступаюць.

Усвядоміць такое — таксама радасць. Пра гэта я сказаў Калбенку. Пра страх жа свой змаўчаў. Аднак адчуваў сябе ніякавата, што ўтойваю ад «бацькі і настаўніка» згрызоту сваёй душы. Канстанцін Панасавіч яшчэ год назад прапанаваў: «Будзем жыць так, каб нічога не таіць адзін ад аднаго». Сам ён прызнаўся:

— Баяўся я за цябе.

Скупа сказаў, проста, але крануў моцна. Праўда, можа, не столькі словы кранулі, а тое, што ён і Кузаеў не спалі: у порце чакалі прыходу баржы.

Плаваю я, бадай, у розных туманах — то ў ружовым, то ў шэрым, можа, нават у чорным. Не, чорнага туману не бывае. Бываюць чорныя букеты разрываў. Ліда! Во выдумала! Яна, канешне, ужо

ведае, што мы вярнуліся. Супакоілася. Як яна ўстрывожылася, калі я папрасіўся на тую баржу! Расло неадольнае жаданне пабачыць яе.

— Сходзім да Данілава, Канстанцін Панасавіч? — не пытанне — просьба.

Па тым як Калбенка ўсміхнуўся, здагадаўся: «бацька» сцяміў, чаму ў такую рань мяне пацягнула на батарэю. Людзі, напэўна, спяць яшчэ: разгружаліся, зайгралі пазіцыі... Але мне не сорамна ад парторгавай здагадкі.

Я стомлены. Паміж пахучымі штабялямі захацелася легчы на дошкі і заснуць моцным-моцным сном. А падумаў пра Ліду — і санлівасць прайшла.

У Калбенкі настрой таксама няроўны. То ён вельмі ж хораша парадаваўся гэтым трафеям — бярвенням і дошкам, то ўедліва пакрытыкаваў Кузаева:

— Дзеліць дамы паміж службамі, як куркуль дабро паміж сынамі і зяцямі... Каго больш люблю... Быццам яно навечна яму, гэтае дабро.

Я разумею, што парторг паспрачаўся з-за месца для нас з ім, была ў яго слабасць: здавалася яму, што і камандзір і нампаліт прыніжаюць ролю партыйнага арганізатара. Мне трохі дзіўна, што ён раздражнёны з-за такой дробязі. Ды ўладзяць нас, як ніколі раней. Усім службам хопіць месца! Як спецыяльна для нас будавалі фіны гэты пасёлак. Успомніў я пра батарэю — і Калбенка зноў упікнуў «бацькоў дывізіёна», як ён часам іранічна называў камандзіра і нампаліта.

— А Данілава пасадзілі бяздумна. У лагеры.

— На магілах нашых людзей?

— Справа не ў магілах. На фронце ўсе стаяць на магілах. Ён думае: вышэйшае камандаванне — дурні. Ды і цывільныя ўлады, якія з'явіліся ці з'явяцца заўтра... Не спатрэбяцца ім тыя баракі? Пабачыш: папросяць адтуль батарэю. І будзе Данілаў капаць новыя катлаваны. Ды і нас могуць папрасіць.

На батарэю Калбенка не пайшоў, і я не адважыўся прасіць яго другі раз.

— Пойдзем у горад, пашукаем людзей, якія былі пад акупацыяй. Мёртвы горад. Але ўсіх яны не маглі выгнаць. Есць людзі!

Людзей, што жылі ў акупацыі, ён шукаў і ў Мядзведжагорску, шукаў учора ўвечары. Расказваў, што гутарыў учора з партовымі рабочымі, але яму перашкодзіў Зубраў: далучыўся, а гутарыць з людзьмі не ўмее — дапытвае, як пракурор. Натуральна, што рабочыя замкнуліся. Размова не атрымалася.

Калбенка ва жаданне самому пабачыць, пачуць, як жылі, як змагаліся нашы людзі, апынуўшыся ў няволі, я добра разумею. У мяне такой цікаўнасці не менш. Безумоўна, сорак чацвёрты год — не сорак першы і не сорак другі: аб жыцці ў акупацыі, аб барацьбе партызанскай кнігі напісаны, па радыё штодня расказваюць, пісьмы прыходзяць з вызваленых раёнаў... Але, як кажуць, лепш адзін раз пабачыць, чым дзесяць разоў пачуць. Ды, урэшце,, ёсць і адметная асаблівасць. На гэтай карэльскай зямлі гаспадарылі фіны. Усюды — немцы, тут — фіны. Ніхто з іншых васалаў не карыстаўся такім правам. Нам, палітработнікам, трэба ў дэталях, не агулам, ведаць палітыку акупантаў. Такі быў сэнс разважанняў парторга, якія я слухаў, здаецца, не вельмі ўважліва, напоўнены і радасцю, і трывогай, і стомленасцю, і цікавасцю. Я так «прыцёрся» да гэтага чалавека, што яго супярэчлівыя думкі перасталі мяне здзіўляць. Пры сур'ёзнасці стаўлення да палітычнай работы, строгай патрабавальнасці да ўсіх, хто яе вёў, ён мог нечакана выказацца пра гэтую работу са знішчальнай іроніяй. Цаніў маё ўменне выступаць з дакладамі і тут жа пасміхаўся з таго, як я рыхтуюся да іх — перачытаю газеты, пасля пішу на цэлы сшытак.

«Пішы, пішы, званар».

Сам ён не любіў лекцый і дакладаў і ў той жа час, як ніхто з нас, умеў пагутарыць з байцамі, з афіцэрамі. Асабліва не любіў Калбенка пісаніны. Усе справаздачы аб партыйнай рабоце пісаў я. Парторг захапляўся маімі «сачыненнямі». Перачытваў на два-тры разы, весела хмыкаў, задаволена выціраў далоняй твар, выгукваў: «Малайчына!» Але мог сказаць і вельмі крыўднае:

«У вялікага шамана ты вырасцеш. Здорава ты ўмееш загаворваць зубы».

«Пра што вы, Канстанцін Панасавіч?»

«Усё праўда і ў той жа час — палавіна няпраўды».

«Ды дзе яна, няпраўда?»

«У тым-то і сакрэт, што нават я не магу тыцнуць пальцам — дзе яна. Чытаю — і веру».

Не, пісаў я праўду. У палітаддзеле патрабавалі не толькі станоўчыя факты, але і адмоўныя, недахопы. Дык вось, кажучы пра негатыўнае, я ўмеў так яго вытлумачыць, так «акругліць», «загарнуць» у такую фальгу, што факт, які павінен быў працаваць супраць нас, працаваў на нас. Цяпер разумею: я ствараў яе, нашу работу,— пісаў не як ёсць, а як мне хацелася, каб было. А хаценне маё было шчырае і высокае. У палітаддзеле нязменна хвалілі нашы справаздачы, а значыцца, і работу ацэньвалі добра. Мы працавалі, як патрабавалася,

і дакладнымі такімі, напэўна ж, памагалі непасрэднаму начальству свайму паказаць работу перад вышэйшымі вайсковымі палітычнымі органамі ў належным выглядзе.

Пры інспекцыйных паездках па часцях недахопы не ўбачыш — іх спрытна ўмелі хаваць. А я іх падаваў як бы ў гатовым выглядзе, засмажанымі, з усімі патрэбнымі прыправамі — з перцам, соллю, часнаком, з мёдам, адным словам, на любы густ.

Тужнікаў спачатку выкрэсліваў некаторыя з маіх фактаў, Калбенка разы два спрачаўся з ім з-за гэтага. А пасля і нампаліт сцяміў, што такая самакрытычнасць не сапсуе рэпутацыі чырванасцяжнага дывізіёна, наадварот, бо яна даспадобы палітаддзельцам.

Узнімалася сонца; такая рань, а ўжо горача, дзень будзе такі ж спякотны, як і ўчора. Успамін пра перажытае на баржы цяпер ужо не ўзбуджаў, а неяк дзіўна расслабляў. Пасля таго пекла тут што ў раі. Сосны. Прыгожыя дамы. Штабялі бярвення, дошак. Колькі ценю! Колькі ўтульных куткоў! І па сутнасці — ніякай небяспекі. Усё больш адольвала стомленасць. Калі не ідзём на батарэю, то — спаць. Упаду зараз на гэтыя дошкі! Акунуся ў іх духмяны водар, як у цёплую ваду. І паплыву ў казачны свет сноў. Каб я сказаў парторгу, што гэтак хачу спаць, ён адпусціў бы мяне. Але я цягнуся за ім, як нітка за іголкай. З нашай неразлучнасці кпілі. Але кепікі яшчэ больш прывязвалі мяне да гэтага бадай што ўсё яшчэ загадкавага для мяне чалавека.

Горад пачынаўся аднолькавымі, як блізняты, дамамі, двухпавярховымі, драўлянымі, доўгімі, як баракі,— тыповая забудова трыццатых гадоў у лясных раёнах. Такія дамы на вачах маіх згарэлі ў Мурманску, галкі» прабівалі іх наскрозь, агонь пачынаўся ўсяродку, і полымя літаральна ўзрывала гэтыя драўляныя карабкі: высока ў паветра ляцелі гонта, кроквы, дошкі.

Я прыгадаў той пажар, угледзеўшы за ўскраіннымі дамамі, у глыбіні вуліц, коміны, якія заўсёды выглядаюць страшна — што шкілеты. Нямала і тут выкаціў пажар, нядаўні — папялішча чорнае, а з дахаў і сцен уцалелых дамоў не змыта яшчэ дажджамі сажа.

— Нашы сокалы папрацавалі,— паказаў я на коміны.

— Магла і артылерыя. Горад штурмавалі,— зазначыў Калбенка.— А снарад і бомба не разбіраюць...

— Такое драўлянае царства лёгка гарыць.

— Усё гарыць. Цяпер я разумею, чаму няма людзей.

На шырокай небрукаванай вуліцы не было свежых слядоў машын і танкаў — зялёны мурог.

— Тупіковая вулічка.

Калбенка накіраваўся да ганка аднаго з дамоў, дзверы якога былі гасцінна адчынены. Але я спыніў яго.

Ён спыніўся, хмыкнуў, але згадзіўся:

— Не пойдзем, калі не ўбачым людзей. Хоць бачыў там, ка занятым намі хутары? Ля кожнага дома гасціннае запрашэнне: «Размініравана. Сяржант Пшанічка». Зямляк мой! — Калбенка сказаў апошнія словы з гонарам за мінёра.

Я падражніў яго:

— А можа, і мой?

— Дзе ў вас тая пшанічка?

— У нас усё ёсць!

— Ох, нацыяналіст ты, камсорг! Толькі сваё хваліш.

Не мог Пшанічка размініраваць там і не размініраваць тут, у горадзе.

Калбенка доўга глядзеў на чорны праём дзвярэй. Але пераадолеў спакусу. Пайшоў у разведку. Абышлі дом і... апынуліся ў прасторным двары, акружаным шасцю такімі ж доўгімі дамамі.

Двор здзівіў. Парадкам. Я, прынамсі, такі парадак бачыў да вайны толькі на тэрыторыі Туломскай ГЭС.

Паўз дамы пасаджаны алеі таполяў і бяроз, ды не проста бязладна, а ў пэўным спалучэнні, з улікам таго, што таполі растуць хутчэй, таму пасаджаны яны з паўночнага боку, каб не заглушалі бярозы. Пад прысадамі — пасыпаныя рачным пяском акуратныя дарожкі. Але не столькі алеі і дарожкі мяне ўразілі, як кветнікі. На двары — некалькі кветнікаў, не клумб,— пляцовак, агародчыкаў, размешчаных у пэўнай сіметрыі, з густам, з рознымі наборамі кветак. На некаторых пляцоўках яны буйна расцвілі, распускалі бутоны.

У любы іншы час, у любым іншым месцы нельга было б не залюбавацца такім хараством. Там, дзе мы размясціліся, каля новых фінскіх домікаў, я любаваўся клумбамі. А тут кветкі чамусьці абурылі мяне да таго, Што з'явілася дзікае жаданне — пайсці і салдацкім ботам стаптаць гэтую прыгажосць.

— Глядзіце, кветкі! Канстанцін Панасавіч! Кветкі!

А парторг яўна задаволена — як смачна з'еў — выцер далоняй вусны.

— Але, парадачак фінскі.

— Шыкоўна жылі, сволачы.

— Хто?

— Я не знаю, хто тут жыў.

— А не знаеш — не гарачыся, Паўлік. Можа, тым, хто тут жыў, кветкі гэтыя — у пячонках.

— Кветкі — у пячонках?!

— У лагеры — Данілаў казаў — таксама кветкі. Ды і ў іншых лагерах смерці — не чытаў хіба?..

— Глядзіце — бялізна!

Каля дальняга дома, што фасадам выходзіў на другую вуліцу, на вяроўках, прывязаных да маладзенькіх бяроз, віселі прасціны, сарочкі, кофтачкі.

— Ну во — і людзі. А ты казаў — няма. Не вісяць жа дамскія сарочкі ад фінскай акупацыі. Ранняя гаспадыня памыла. Хадзем дакранёмся да яе панталонаў, і пабачыш, як яна тут жа вынырне, як з вады, і дасць нам па руках.

Калбенка весела засмяяўся.

Усё адбылося дакладна так, як ён пажартаваў. Падышлі мы да бялізны, памацалі вільготную прасціну, ад якой прыемна пахла свежасцю, рэчкай і... хвояй, чамусьці хвояй,—і адразу з акна другога паверха высунулася ўскудлачаная жаночая галава. Жанчына Калбенкавых гадоў загарнула халацік на грудзях і спытала не вельмі гасцінна:

— Вы чаго там?

Тон яе абурыў, як кветкі: так сустракае вызваліцеляў сваіх?

— Баішся, што ўкрадзем твае панталоны? — лагодна пажартаваў Калбенка.

— Ведаю я вашага брата.

Тут я ўжо не вытрымаў — узлаваўся:

— Якога брата ты ведаеш? Фашысцкага?

— А ты мяне фашысткай не называй, малакасос! Не тыцкай. Бачу, які ты ваяка. Тылавы смаркач!

— А ты... ты хто?..— зрываліся з языка вельмі крыўдныя словы, але ўзрост яе затрымаў іх. Ды і Калбенка спыніў строгасцю старэйшага:

— Таварыш малодшы лейтэнант! — і перапрасіў у жанчыны: — Прабачце. Малады. Гарачы.

— Гарачаму трэба — на перадавую. Там астудзяць.

Хіба не зараза-баба?!

Але ўтаймавалі мяне не толькі Калбенкавы словы, колькі галовы ў іншых вокнах. Жаночыя. Дзіцячыя. Галоўным чынам — дзіцячыя. І яшчэ падсвядома, мабыць, тое, што ніводная мужчынская галава не высунулася.

Калбенка зняў пілотку і як бы пакланіўся жанчынам. Спытаў проста, паважліва, бадай спачувальна:

— Ну, як вы тут жылі?

— Жылі,— стрымана адказала старэйшая з жанчын у акне першага паверха.

— Як жылі? — усё яшчэ «заведзены» на падазронасць, папракурорску спытаў я.

— Як вы нас пакінулі — так і жылі,— зноў з выклікам, бадай са злосцю кінула з вышыні, што камень, гаспадыня бялізны.

Ох, адказаў бы я ёй, каб не старая, што з адлегласці якіх трох метраў глядзела на нас добрымі, як у маці маёй, сумнымі і ў той жа час шчаслівымі вачамі.

Мабыць, адчуваючы, як я кіплю, Калбенка адказаў жанчыне спакойна і разважліва:

— Пакідалі мы не па сваёй волі, а вярнуліся —па сваёй. Гонім фашыста на ўсіх франтах — ад Карэліі да Чорнага мора. Чулі, якое наступленне ідзе ў Беларусі? Ану, Павел, раскажы.

Але — дзіўна — расказваць мне не хацелася. Хацелася паслухаць іх.

— Многа нашых палягло ў тым лагеры?

— Мы туды не хадзілі,— паспяшалася адгарадзіцца сварлівая.

— Многа, сынок. Не хадзілі, а ведалі. Ад народа не схаваеш.

— Расстрэльвалі палонных?

Зноў першай адказала яна, сварлівая, але не злосна, не агрызліва, а нечакана ахвотна:

— У сорак першым і другім гадах стралялі, канешне, палонных, калі тыя бунтавалі ці ўцякалі. А пасля таго, як нашы далі пад Сталінградам Гітлеру па зубах, не пазнаць было фінаў. Не расстрэльвалі яны палонных. Можа, хіба партызан. Паёк павялічылі і палонным і нам, хто ў іх рабіў. Фіны хітрыя. Пачулі, што не туды вецер падзьмуў.

Дасведчаная баба! «Нашы далі па зубах». Не аддзяляе сябе — нашы! І ўсё, што яна сказала, не назавеш маной, вельмі можа быць праўдай. Але дасведчанасць яе зноў насцярожыла. Не, бадай, не дасведчанасць — дзіўна было б, каб тут людзі не ведалі пра Сталінград, увесь свет ведае! — не спадабалася тое, што жанчына гэтая як бы апраўдвала фінскіх акупантаў: маўляў, «замалілі» яны свае грахі.

— І які паёк вам давалі?

Адказалі некалькі, чалавек адразу, аднак усе парознаму. Спрачацца пачалі. Ледзьве не пасварыліся. Але я слухаў, бадай, толькі яе — тую, у акне другога паверха, старая назвала яе добрым рускім іменем — Праскоўя. Адзначыў, што ў параўнанні з іншымі ёй давалі больш і хлеба, і круп, і маргарыну. І яна не баіцца прызнацца ў гэтым. Але ж суседкі, безумоўна, ведаюць, дзе яна рабіла, і не асуджаюць, не папракаюць. Значыцца, не лакейская работа. Напэўна, нялёгкая.

Можа, на той лесапілцы. У мяне не хапіла духу спытаць, дзе ж яна працавала: каб не прагучала зноў па-пракурорску. Аднак тое, што за работу, якой яна не саромеецца, ёй давалі больш паёк, чым іншым,— трохі змянілі мае адносіны да гэтай крыкухі. Але ў той жа час насцярожанасць не знікала: а хіба паёк, які яна выстаўляе, не апраўданне акупантам? Варожыя лазутчыкі хітра ўмеюць весці прапаганду. Успомніліся рулявы баржы — як ён еў кашу, з якой ашчаднасцю, і капітан буксіра, падобны на дыстрофіка. Яны, лічы, плавалі тры гады ўздоўж перадавой лініі, пад бомбамі, а ці кожны дзень мелі свае трыста грамаў хлеба ?

Калі развіталіся з жанчынамі, адыходзячы, я азірнуўся раз, другі.

Калбенка пажартаваў:

— Што, упадабаў якую?

— Упадабаў... гэтую... Параску.

— Старая для цябе.

— Хачу запомніць акно. Трэцяе злева. Можа, яе Зубраў упадабае. Няхай пацікавіцца, што за птушка будзе ў суседзях у нас.

Парторг спыніўся. З твару яго знікла весялосць і заўсёды хітраватая, трохі іранічная ўсмешка.

— Ты што гэта, Павел?

— Руская баба, па-волжску окае, а хваліць фінаў. Спадабалася ёй пад імі.

— Нешта я не чуў, каб яна хваліла.

— А як жа! Добранькія: палонных не расстрэльвалі. А наш пост хто выразаў?! Кацю, раненую, сволачы гвалтавалі... Звяры! А гэтую б... маргарынам падмазалі...

— Ды ты бачыў... еў іх маргарын? Сурагат. Аўтол.

— Добра ж яна змазала тым аўтолам свой язык.

Калбенка паблажліва пасміхнуўся.

— Ну і ну!.. Больш як год разам з табой працую, жыву, а не ведаў, што ты такі... Не гарачыся, Павел. Не рабі паспешлівых вывадаў. І давай дамовімся. Мы самі... без Зубрава... калі ласка, без Зубрава... сходзім яшчэ раз... два, тры ў гэты дом і даведаемся... не сумняваюся — даведаемся, чым дыхае Параска і ўсе іншыя Параскі. Мы з табой выхавацелі, Павел. Няхай Зубраў робіць сваю справу. А мы будзем выконваць сваё прызванне. Мы — выхавацелі.

Калбенка даўно, у самым пачатку нашай сумеснай работы, вучыў мяне спрачацца з ім. Не любіў, калі я, верны вайсковай дысцыпліне, выцягваўся: «Слухаюся, таварыш старшы лейтэнант». Дамогся, што я даверліва выказваю яму, як і ён мне, любыя думкі, самыя

нечаканыя, супярэчлівыя, а то і зусім патаемныя. Але спрачацца з ім я не ўмеў. З-за павагі? З-за таго, што ў любой спрэчцы ён, як кажуць, лёгка заганяў мяне пад стол? Гэта біла па маім самалюбстве, бо ён не ўтойваў нейкай проста-такі дзіцячай радасці ад сваёй перамогі ў слоўнай баталіі. Аднак калі ён бачыў, што я ўхіляюся ад выказвання сваёй нязгоды, то злаваў, па-свойму, своеасабліва, можа, нават больш правільна сказаць — крыўдаваў.

У той раз ён не злаваў, хоць са сваёй праніклівасцю не мог не адчуць, што маўчанне мае зусім не значыла, што я згадзіўся з ім. Прыходзіць яшчэ раз, а тым больш два-тры разы ў гэты дом я не меў ніякага жадання пры ўсёй сваёй цікаўнасці да таго, як людзі жылі пад акупацыяй. Ды і цікаўнасць мая рэзка ўпала, усё роўна што ртуць у градусніку ў пахаладанне. Задаволіў яе, ці што? Выхоўваць баб? Есць нам каго выхоўваць. Сваіх вунь колькі дзяўчат! Хапае з імі клопату.

Калбенка зрабіўся сур'ёзны і задумлівы. Мы гаварылі пра іншыя рэчы. Зноў ён выказваў незадаволенасць Кузаевым, як той дзеліць дамы паміж службамі. І я падумаў, што для такога чалавека, як Калбенка, гэта дробязна.

І раптам на падыходзе да штаба ён зноў вярнуўся да нашай размовы:

— Вушы развешваць нельга. Вайна. Але скажу табе, друг мой... з горкага вопыту ведаю: залішняя падазронасць — гэта хвароба. Страшная, Павел.

## 6

Я заснуў у альтанцы. Адолела змора пасля снедання. Клюнуў носам у нефарбаваную дошку стала, хвойны водар якога дзейнічаў што «сонны газ», ды так і не здолеў узняць галавы. Была перад тым спакуса легчы пад соснамі. Але навокал заклапочана бегалі байцы гаспадарчага ўзвода, сувязісты, на пажарнай вежы абсталёўвалі камандны пункт, камандавалі там Шахоўскі і Мураўёў. А з вежы той далёка відаць. Што падумаюць байцы і афіцэры? Усе ў клопатах, заняты баявой падрыхтоўкай, а камсорг спіць.

З маёй цнатлівасці, з майго «няёмка», якое я часта паўтараў, практычны Калбенка кпіў: «Няёмка, калі боты ціснуць, штаны цераз галаву надзяваць няёмка...»

Я сасніў сон. Незвычайны — такога ні разу не бачыў. Я хадзіў па дзівосным музеі. У вялізных залах з мноствам беласнежных мармуровых калон залатыя люстры ззялі ад святла многіх тысяч лямпачак. Бясконцымі шарэнгамі — з залы ў залу — стаялі антычныя статуі.

Казачна прыгожыя Венеры, Апалены, іншыя багі, багіні. Неяк цьмяна я здагадваўся, што знаходжуся ў Эрмітажы. Але думаю, што бачыў Эрмітаж у саракавым годзе, калі нас, навабранцаў — беларусаў, везлі ў Мурманск, і што ён не такі. Меншыя залы, менш калон і ўсюды карціны. Куды падзеліся карціны? Фашыстам жа не ўдалося ўзяць Ленінград. Яшчэ зімой знята блакада. Чаму ж няма карцін і так многа статуй, залішне многа?

Побач са мной ідзе Любоў Сяргееўна Пахрыцына ў белым халаце, памаладзелая, без рабацінак на твары, на здзіўленне прыгожая. Яна нячутна коўзае па інкруставаным паркеце у музейных лямцавых тапачках. І я слізгаю гэтак жа бясшумна, з бояззю пакаўзнуцца. Мне нават хочацца ўзяць яе за руку — для ўстойлівасці. Але не адважваюся. Яна шэптам мне расказвае пра статуі: міма якой багіні ідзём, чым яна славілася ў старажытных грэкаў ці рымлян. Мне нясцерпна хочацца спытаць: куды схавалі карціны? Але я баюся. Навокал ніводнай жывой душы. Але ззаду гулка — ажно ад сцен адбіваецца адгалосак — бухаюць па паркеце цяжкія падкаваныя салдацкія боты.

Ведаю: гэта — Шахоўскі. З абурэннем думаю: «Які дзікун! Варвар! А яшчэ князь. Хіба так можна хадзіць у музеі?»

Я ведаю: ён сочыць за намі. Узброены. З пісталетам. І як толькі выдам сябе голасам — ён стрэліць у спіну. Дурань! Няўжо не разумее, што я не кахаю гэтую жанчыну. Я кахаю іншую... Але і ў думках баюся назваць імя той дзяўчыны — каб ён но пачуў.

Я перастаю слухаць шэпт доктаркі. Запяты адным: як сказаць капітану, што мы апынуліся тут выпадкова і што я пальцам не кранаў гэтую жанчыну. Як сказаць? Першае слова — і першая куля. Безвыходнае становішча. Спрабую зачыніць за сабой залатыя дзверы, што раздзяляюць залы, але дзверы такія цяжкія, што не хапае сілы скрануць іх. А крокі — што разрывы снарадаў, усё бліжэй і бліжэй...

А потым — правал. І — новы сон. Я сплю гэтак жа, як у сапраўднасці,— за сталом, праз сон адчуваю, што навокал стаіць многа людзей, цывільных жанчын, сярод іх Параска, і бачу: яны паказваюць на мяне пальцамі, але прыкладваюць далоні да вуснаў: маўчы, маўляў; аднак хітра пераглядваюцца паміж сабой, яўна задумваючы нейкі нядобры жарт. Не даць ім пажартаваць, бо з мяне пасля будзе смяяцца ўвесь дывізіён!

Я прачынаюся.

Перада мной стаіць Калбенка. Весела пасміхаецца.

— Каго сніў?

— Пахрыцыну,— прызнаюся шчыра.

— Доктара? — здзіўляецца Канстанцін Панасавіч, пасля смяецца: — І што яна табе выразала?

— Мы хадзілі з ёй па музеі.

— Культурныя ты сны сніш. Камсоргаўскія. А я думаў — ты добрую дзяўчыну ціскаеш. Ажно слінка цякла на стол. Шкада было будзіць цябе. Але хадзем абжываць свой палац.

Бачу: задаволены парторг памяшканнем, якое нам выдзелілі. Не хавае свайго задавальнення. Па дарозе пахваліў Кузаева, якога нядаўна назваў куркулём.

— А крыкун наш бывае аб'ектыўным.

Нам аддалі цэлы дом. Самы маленькі, праўда, непрыкметны, але менавіта гэтай някідкасцю і прывабны, утульны. Акрамя двухпавярховага бярвенчатага асабняка — канторы фірмы, якую заняў штаб, усе іншыя дамы — шчытавыя, новенькія, пафарбаваныя ў светлажоўты колер,— як паненкі на гулянні. А наш дом таксама з бярвення зрублены, больш падобны на звычайную сялянскую хату. Пачарнелы ўжо. Няма сумнення, з яго пачыналася пабудова пасёлка, ён — самы крайні, бліжэй да дравянога склада, да штабялёў дошак. Напэўна, у ім у апошні час размяшчалася фінская ахова.

У доме ўсяго два пакоі, без кухні, якія меліся ў шчытавых дамах. У першым пакоі стаяў просты даўгаваты стол, на глухой сцяне — паліцы, закрытыя, з секцыямі: кожнаму — свая шафка. Пад паліцай — піраміда для вінтовак.

— Акуратны народ,— адзначыў Калбенка.

Амаль тыя ж словы ён сказаў каля кветак, але
прагучалі яны неяк інакш — іранічна, ці што.

А тут мне здалося, што парторг пахваліў фінаў, і зрабілася непрыемна: у мяне расла раздражнёнасць, якая з'явілася каля кветнікаў. Парадачак гэты побач з лагерам, дзе пакутавалі і паміралі нашы палонныя, здаваўся мне пачварнасцю, здзекам.

У другім пакоі — пяць драўляных канап, голых. Ашчадныя захопнікі — нават матрацы, выходзіць, вывезлі. Але дзіўна, дробязь гэтая амаль узрадавала, бо я адчуў, што спаць на матрацы, на якім спаў салдат варожай арміі, мне было б гідка.

Матрацы вывезлі, а добры сталовы сервіз застаўся. Пэўна, украдзены, не апрыходаваны інтэндантамі, таму і кінуць не было шкада. Рабаўнікі, калі ўцякаюць, анучы не пакінуць сваёй — уліка! — але лёгка развітваюцца з нарабаваным дабром.

Дом увогуле не забруджаны. Але здзівілі нас раскіданыя ў абодвух пакоях паперы — на падлозе, на канапах, на стале, на

падаконніках. Навошта пажарнікам ці салдатам такія бланкі? Улік чаго яны вялі?

Мы вынеслі лішнія канапы, сабралі збольшага паперы. Куды іх? Вядома ж, у грубку. Вялікая галандка стаяла пасярод дома — так што абагравала два пакоі. Грубка дала падставу Калбенку выказаць меркаванне, што дом будаваўся не фінамі,— рускімі. І быў ён звычайнай хатай з рускай печчу ў пярэднім пакоі. Але печ выкінулі, А грубка засталася, таму і паліцца яна з таго, другога, спальнага пакоя. Каб будавалі фіны, то такой непрактычнасці не дазволілі б.

Зноў жа дробязь, як тыя матрацы, але мне таксама здагадка такая была па сэрцу — наша хата і жылі ў ёй нашы людзі. Можа, і Канстанцін Панасавіч таму задаволены, што мы атрымалі такую хату?

Але ўсё ж і яму, як і мне, захацелася вычысціць, вымыць чужы варожы дух.

— А хто б нам тут добра памыў?

Мы — не беларучкі, але мыць падлогу афіцэрам у прысутнасці байцоў, што снуюць навокал,— ні тое што не да твару, а проста-такі не дазволена.

— Са штабнога ўзвода не выпрасіш. Мураўёў крэкча, што мала людзей. Паравознік абсталёўваецца, быццам думае прастаяць тут да канца вайны.

— У Данілава! — падказаў я.

Па тым як Калбенка смачна выцер далоняй вусны, бачу, што ён адгадаў маю таемную надзею.

— Разумны ты хлопец, Павел. Толькі лапух. Скачы, звані цыгану.

Сувязісты ўсе ў разгоне. Ля апаратаў на камандным пункце — машыністка штаба Жэня Ігнацьева. Дзіўная дзяўчына. Не, не яна дзіўная — мае адносіны да яе. Жэня перанесла ленінградскую блакаду, з цяжкай дыстрафіяй яе вывезлі па ледзяной дарозе ў канцы першай ваеннай зімы. Лячылі ў Волагдзе. А ў сорак трэцім яна папрасілася ў армію і прыехала да нас з новым папаўненнем. Дзяўчына з сярэдняй адукацыяй, з уменнем друкаваць на машынцы была знаходкай для штаба. А яна рвалася на батарэю, ёй хацелася страляць. Блакада ўсё ж падарвала яе здароўе: упачатку разы два яна самлела, адзін раз — калі Кузаеў накрычаў на яе. Хацелі камісаваць. Як яна прасілася, каб не выганялі з арміі! Шкада яе стала, амаль усе афіцэры выказаліся за яе. Але пасля бадай ніхто не звяртаўся да яе па-вайсковаму, загадна: «Баец Ігнацьева». Усе казалі ёй — Жэня і прасілі — «Калі ласка, надрукуйце вось гэта». А яна бянтэжылася ад такога звароту, чырванела, і, прынамсі, мне здавалася, ёй хацелася

заплакаць. Але слёз яе ніхто не бачыў. Неяк я сказаў ёй пра гэта. Яна адказала панура: «А яны высахлі ў мяне там, у Ленінградзе».

У мяне з Жэняй сяброўскія адносіны, яна таксама, як і Ліда, камсорг штабной арганізацыі. Але якое гэта рознае сяброўства! Як на дзяўчыну я ні разу на яе не глянуў. Ды і наўрад хто-небудзь па-мужчынску падумаў пра яе. Высокая ростам, на паўгалавы вышэйшая за мяне, была яна вельмі ж худая, плоская, ніякіх жаночых форм. У час хваробы ў яе вылезлі валасы, адрасталі няроўна, і яна закрывала галаву, адной ёй дазволілі абпінаць касынку — у штабе, за машынкай. Але твар у Жэні надзіва прыгожы. Такім тварам хацелася любавацца. Аднак я баяўся любавацца, чамусьці здавалася, што гэта непрыстойна. Асабліва ўражвалі яе вочы: блакітныя, шырокія, і ў іх як бы назаўсёды застыў глыбокі смутак, і смутак гэты не дазваляў угледзецца ў яе твар, у вочы, сказаць камплімент пра іх прыгажосць. Любой дзяўчыне прыемна пачуць такое. Але толькі не Жэні, думаў я, яе гэта, напэўна, абразіць. Таму, гутарачы з ёй часта і падоўгу, я, па сутнасці, ніколі не глядзеў у яе вочы, размовы нашы нагадвалі размовы людзей, якія стаялі па розныя бакі шчыльнага плота.

Жэня сядзела без касынкі, з расшпіленым каўняром гімнасцёркі: коратка падстрыжаная, каб валасы раўней адрасталі — галоўка яе на доўгай, што трасцінка, белай шыі вельмі ж была падобна да. галоўкі хлопчыка, запомніўся такі на карціне ў тым музеі, які я толькі што сніў.

Дзяўчына ўзяла касынку, але ў нейкі міг як бы перадумала і не накінула яе на галаву.

— Дзе ў вас тут апарат на першую?

Я весела круціў ручку. Здзівіўся, што не пазнаў па голасу батарэйную сувязістку, усіх жа ведаю, асабліва на першай, як некалі ведаў аднакласніц сваіх.

— А я вас адразу пазнала, таварыш малодшы лейтэнант,— гуліва прапішчала Таня Балашова, «кнопка», як яе называлі, смяшлівая, балбатлівая, бестурботная дзяўчына. Такой дай зачэпку — загаворыць.

— Паклічце камандзіра...

— Якога?

— Батарэі.

— А больш вам ніхто не трэба?

— Разгаворчыкі! Распусцілі вас там?

— Які вы строгі сёння, таварыш малодшы лейтэнант.

— Выконвайце загад, Балашова!

Чуў у трубку, што сувязістка нешта перакуліла — ці не табурэт, на якім сядзела.

Воддаль ад апарата весела гукала — усё роўна што спявала:

— Таварыш старшы лейтэнант! Вас да тэлефона. Камсорг дывізіёна!

Хутка трубку ўзяў Данілаў.

— Саша! Канстанцін Панасавіч просіць цябе. Прышлі ты байца... каб памагла нам тут памыць. Нам камдзіў адваліў цэлы дом. Харомы, брат, пасля кандалакшскіх зямлянак.

— Каго табе прыслаць?

— Каго? — я запнуўся, міжволі зірнуў на Жэню, якая стаяла побач, усё яшчэ трымаючы вельмі ж цывільную на выгляд — у гарошынку — касынку.— Ну, каторая там у цябе вальнейшая. І ўвішная...

— Добра. Прышлю табе самую ўвішную.

Таня гаварыла — ледзь чуваць было. А цыганскі бас Данілава загудзеў на ўвесь штабны пакой.

Жэня, якую, здавалася, нішто ніколі не здзіўляла, глядзела на мяне яўна з павышанай цікавасцю.

— Чаго ж вы не сказалі: каго вы хочаце, каб Данілаў прыслаў? Пры мне можна.

Рэдка што гэтак бянтэжыла. Як? І яна, штабная машыністка, здагадалася, каго я хачу пабачыць?! Ну і ну, таварыш камсорг! Вазьмі ў рукі свае пачуцці, інакш хутка будзеш стаяць перад Тужнікавым. Нампаліт не праміне паздзекавацца з тваіх пачуццяў. З маіх — што... Спалохала думка, што ён можа абразліва выгаворваць Лідзе. Аднак успомніў словы Калбенкі: «Плюнь на ўсё, Паўлік»,— і адагнаў раптоўную трывогу.

Весела паглядзеў на Жэню і — о дзіва! — першы раз не ўбачыў у вачах яе смутку, яны, вочы, паменшалі ад смяшлівага прыжмуру, і ад іх у бок скроняў пырснулі праменьчыкі зморшчынак, зусім не дзявочых, нейкіх... матчыных. І мне зрабілася д'ябальскі радасна, што знік з Жэніных вачэй смутак, і я смела, не баючыся абразіць, гляджу ў іх.

Нечакана для сябе і для яе я сказаў:

— Якая вы прыгожая, Жэня!

Вусны яе нядобра перасмыкнуліся.

— Вочы ў вас прыгожыя,— папраўіўся я.

Яна лагодна ўсміхнулася і згадзілася:

— Вочы ў мяне прыгожыя.

І зноў-такі простай шчырасцю сваёй падарыла мне новую порцыю радасці. За яе. За сябе. За Ліду. І смеласці. Чаго мне баяцца Тужнікава, калі ў мяне такі абаронца, як Канстанцін Панасавіч?!

Атрымаў у сакрэтнай часці скрынкі з дакументамі партыйнага і камсамольскага бюро. Ababітыя бляхай, напакаваныя паперамі, важылі яны пуды па два, але нёс я іх з надзвычайнай лёгкасцю, забаўляючыся. Ледзьве не падскокваў. Мураўёў, якога сустрэў, спыніўся і глядзеў мне ўслед: пранiклiвы настаўнік, на ляту злавіў незвычайнасць настрою вучня.

Спадзяванні мае спраўдзіліся. Прыйшла Ліда. Прыйшла так хутка, што я нават разгубіўся. Бегла ад батарэі, ці што? Напэўна, бегла, бо з'явілася расчырванелая, хоць зусім незадыханая. Вочы яе весела іскрыліся, калі, пастукаўшы ў дзверы, атрымаўшы Калбенкаў дазвол, яна спынілася на парозе, з салдацкай бравасцю кінула руку да пілоткі.

— Таварыш старшы лейтэнант. Малодшы сяржант Асташка прыбыла ў ваша распараджэнне.

Мы з Канстанцінам Панасавічам разбіралі паперы, кожны — сваё, каб пачысціць скрынкі ад непатрэбшчыны: ад чарнавікоў, старых газетных выразак, бо адчувалі, што пачынаецца новы этап нашага ваеннага жыцця, а ў новае жыццё няма чаго цягнуць старое хлам'ё. Парторг падняўся з-за стала, паправіў партупею, падцягнуўся. Агледзеў Ліду ўважліва і сур'ёзна — так, што яна збянтэжылася і таксама зірнула на боты свае, на спадніцу. Боты былі запыленыя, і яна апраўдалася :

— Пыльная дарога, таварыш старшы лейтэнант.

Калбенка ў адказ засмяяўся.

— Паглядзі, Павел, якую прыгажуню прыслаў нам Данілаў. Во шчодрая душа! Ажно няёмка загадваць табе падлогу мыць. На баль бы цябе, каралевай.

— Заўсёды вы жартуеце, таварыш старшы лейтэнант,— і зноў паглядзела на свае ногі.

Але гэты раз, напэўна, ад таго, што на іх, на ногі яе, глядзеў я. Адно калена было забінтавана, і гэта прыцягнула маю ўвагу. Мне карцела спачувальна спытаць, дзе яна збіла калена. Але саромеўся парторга.

— Танцаваць любіш?

— Люблю.

— У такім разе давай дамовімся: першы танец — са мной. Згодна?

— Калі?

— Пасля вайны,— сказаў я.

— Ну, і сухар ты, камсорг. Ты ж замучыў іх сваімі нуднымі дакладамі. Ты хоць раз арганізаваў танцы? Прыйдзецца мне ўзяць тваё

абавязкі. Абяцаю: у бліжэйшыя нялётныя дні зробім дывізіённы вечар танцаў. Конкурсны. З прызамі. Прымусім Кузаева раскашэліцца. Так і перадай дзяўчатам. Няхай рыхтуюцца.

Не, глядзеў я не на бінт — на здаровае калена: якое яно белае, прыгожае! Ад дзіўнага пачуцця ажно заняло дыханне. Разумеў: непрыстойна так глядзець на дзявочае калена, але пераадолець сябе не мог. Звінела ў вушах, і я прапусціў нейкі парторгаў жарт, ад якога Ліда хораша засмяялася.

Мая таямніча-незразумелая хвалюючая ўвага да Лідзіных каленяў адразу знікла, як толькі Калбенка проста з камандзірскім клопатам спытаў:

— А калена дзе ты збіла?

— Аб снарадную скрынку пры разгрузцы баржы.

— Не баліць?

— Не. Драпнула.

— Тады бярыся за работу. Сёння, як бачыш, не да танцаў.

Канстанцін Панасавіч падняўся, прыхапіў пачак адабраных для знішчэння папер, пайшоў у другі пакой.

Я па-дзіцячы ўзяў Ліду за руку — так мне захацелася дакрануцца да яе, прывітаць, што я не пабаяўся нават, што Калбенка заўважыць і пажартуе, і павёў яе следам за ім, у той пакой — як нявесту.

— Не магу ўцяміць, навошта яны накідалі ўсюды столькі паперы. Сабяры ты гэтыя іх бланкі... Што яны падлічвалі тут? Дзяжурствы? Выпітую эрзац-гарэлку? — і як бы даючы зразумець — куды іх, гэтыя фінскія паперы, Калбенка адчыніў дзверы грубкі і сунуў туды свой пачак — чарнавікі дакладных, над якімі я «скрыпеў» не адну ноч. Парторг, як бы ашчаджаючы мой аўтарскі гонар, ніколі не знішчаў рукапісы адразу пасля таго, як Жэня Ігнацьева передрукоўвала іх на машынцы. Але не ўпершыню абвяшчаў «стаханаўскую вахту» па ачыстцы нашых жалезных скрынак, і тады ўжо рабіўся бязлітасны да любой паперкі, якую не трэба было вяртаць у штаб ці палітаддзел,— выкідваў «мазню» з саркастычнымі прымаўкамі. З'яўлялася ўражанне, што паперы ён увогуле ненавідзеў.

Некаторых дакументаў было шкада: у іх жа гісторыя дывізіёна. Аднойчы я сказаў Калбенку пра гэта, але ён іранічна засмяяўся:

— Не заражайся ад Тужнікава. Таму хочацца хоць як уціснуцца ў гісторыю. А гісторыя — баба мудрая, яе не ўлашчыш. Яна сама выбірае сабе ўлюбёнцаў.

Ліда расперазала рэмень, закасала рукавы гімнасцёркі, расшпіліла каўнерык.

— Можна боты скінуць? Ногі гарань. Так хочацца пахадзіць босай.

Калбенка гарэзліва прысвіснуў.

— Давай. Прымаем любыя твае ўмовы.

Мне хацелася застацца з Лідай. Але я чамусьці пасаромеўся глядзець, як яна будзе разувацца, хоць сто разоў назіраў, як дзяўчаты абуваюцца, разуваюцца, калі быў камандзірам гарматнага разліку, мусіў вучыць устаноўшчыц трубкі правільна паматваць анучы, каб не нацерлі мазалёў на страявой; тады яшчэ не выдавалі дзяўчатам цёплых шкарпэтак, толькі простыя панчохі.

Скрынкі свае мы пачысцілі, але Калбенка, напэўна ж знарок, з не ўласцівай яму педантычнасцю складваў у фінскія папкі-скорасшывальнікі патрэбныя паперы. Мяне трохі нават раздражняла, што ён як бы любуецца гэтымі папкамі, якія мы назбіралі яшчэ ў Мядзведжагорску. Мне карцела пайсці пагутарыць з Лідай, памагчы ёй. Хоць былі ў нас самыя шчырыя даверлівыя адносіны, але ўсё ж я адчуваў сябе перад ім, як сын перад бацькам,— далёка не ўсё мог дазволіць сабе. І я мусіў, па прыкладу свайго парторга, сшываць пратаколы камсамольскіх сходаў на батарэях, у пражэктарнай роце, у штабе, у паркавым і гаспадарчым узводах. Рабіў выгляд, што прачытваю некаторыя, хоць цікавыя пратаколы пісалі Ігнацьева ды камсорг другой батарэі Хаім Шыманскі. Хаім па-руску пісаў фантастычна непісьменна, аднак з камічнай вобразнасцю, з такімі дэталямі, што Калбенка не толькі сам акуратна чытаў гэтыя пратаколы і рагатаў, але часам весяліў імі і Кузаева, і Тужнікава, і Шахоўскага: малодшым афіцэрам не чытаў, бо былі сярод іх балбатуны, нельга, каб смех іх абразіў добрага хлопца, лепшага камандзіра гарматы.

Калбенка, як бы выпрабаваўшы маё цярпенне, зачыніў сваю скрынку і пайшоў на двор. Я адразу ж шмыгнуў у той пакой, дзе працавала Ліда. Яна стаяла на каленях паміж канапамі, падмятала пад імі фінскім венікам з нейкай заморскай паўднёвай травы. Мы з Калбенкам, калі выносілі канапы, падзівіліся з веніка: гэта ж трэба лясной краіне купляць бог ведае дзе венікі. Вымудры праклятага капіталізму!

Ліда, убачыўшы мяне, хутка паднялася, папраўліла спадніцу і застыла, босая, з венікам у руцэ, у расшпіленай гімнасцёрцы, у разрэзе бялеў ліфчык. Яна глядзела на мяне ласкава, запрашальна, але крышачку і спалохана. А я пачуў, як загрукала сэрца, кроў ударыла ў скроні, перад вачыма закалыхаўся блакітны туман. Хіба не ружовы? Не, блакітны. «Я пацалую яе. Зараз я пацалую яе. Першы раз».

Яна прачытала маё жаданне. Яна чакала. Але я, відаць, стаяў у нерашучасці залішне доўга, той час, які патрэбны, каб першы парыў, стыхійнае пачуццё змянілася развагай; дзяўчаты ніколі не трацяць развагі ці разважлівасці.

Урэшце я ступіў да яе ў тым жа тумане, палохаючыся стуку ўласнага сэрца.

Ліда кінула венік, развяла рукі, паказваючы мне далоні. Сказала спакойна, проста:

— Не трэба, Паўлік. Пасля. Глядзі, якія брудныя ў мяне рукі. Хіба можна з такімі рукамі?

Рукі не намнога чысцейшыя і ў мяне. Калі я іх мыў? Пасля разгрузкі баржы апаласнуў у возеры. Дык сапраўды: хіба можна з такімі рукамі? Думка — што халодны душ. Я спыніўся. Спіхнуў звон крыві.

— Я так рада, Паўлік, што ты паклікаў мяне.

«Не я. Данілаў прыслаў».

Але няхай думае, што я.

— Мне так хацелася пабачыць цябе. Як я баялася, калі ты паплыў на тую баржу! Вас бамбілі? Праўда, ты збіў самалёт?

— Збіў.

— Табе дадуць ордэн. А для мяне няма большай узнагароды, каб пачуць, што вызвалілі мой Грыбавец. Як ты думаеш, маглі ўжо нас вызваліць? Магілёў узялі. І Бабруйск. А мы паміж Магілёвам і Бабруйскам. Каб ты ведаў, як я хвалююся: ці жывыя яны там? Мае. Маці. Браты. Калі я прыбяру, дазвольце мне застацца тут на гадзінку і напісаць пісьмы. На батарэі не дадуць. Я пачала пісаць на баржы. Але напісала толькі маме ды сястры ў Кіраўск. А я хачу напісаць усім сваякам — у Магілёў, у Бабруйск. Цёткам сваім. Дзядзьку — у Асіповічы. І ў свой сельсавет. Калі што, каб далі адказ з сельсавета. Паўлік! А калі іх немцы? — яна прыціснула рукі да грудзей: — Як жыць пасля? Як жыць?

— Супакойся. Не маглі ж яны ўсіх... Мае колькі там ад вас? Толькі што па гэты бок Дняпра... Жывыя ж! Двойчы далі шампалоў бацьку, але не расстралялі.

— Ты шчаслівы, Паўлік. Ты шчаслівы.

Стукнулі дзверы. Мы прыціхлы Ліда глядзела на

дзверы трохі збянтэжана. А я слухаў знаёмыя крокі Калбенкі з гарэзлівай весялосцю: цікава, што скажа Канстанцін Панасавіч на тое, што я кінуў паперы свае і збег да дзяўчыны? Няўжо змаўчыць? Наўрад, не ў яго характары.

Загрымеў яго голас, нечакана строгі:

— Малодшы лейтэнант Шыянок!

Які жарт Калбенка падрыхтаваў, што пачынае гэтак? Кінуў Лідзе, бадай, недарэчна, як бы загадзя апраўдваючы сябе:

— Працуй!

Дзверы за сабой зачыніў шчыльна, каб Ліда не пачула, калі парторг пажартуе саланавата. Але Калбенка глядзеў на мяне без смяшынак у вачах.

— Ты што гэта губляеш галаву?

Я не разумеў.

— Усе дакументы пакінуў ка стале. А каб сюды не я... хтосьці іншы прыйшоў? Зубраў толькі што міма праходзіў.

— Зубраў свой чалавек.

Калбенка паківаў галавой.

— Лапух ты, хлопча! Не даходзіць да цябе мая навука. Разжоўваць трэба... Свой! Я некалі такому сваяму, куды больш сваяму... даверыўся... Карацей кажучы: не лаві варон, мой малодшы брат. Ясна?

— Не вельмі.

— Дзеўбане табе смажаны певень у азадак — тады зразумееш. Але не чакай, калі дзеўбане. Варушы кацялком, Павел. Варушы.

— Варушу.

— Часта, мне здаецца, ён у цябе перапоўнены, кацялок, і з яго варыва без карысці выліваецца... А зрэдку, прабач, узнікае ў мяне трывожная думка, што ён пуставаты ў цябе... З добрай кашай, але няпоўны.

— А чаго вам трывожыцца?

Калбенка нярэдка жартаваў грубавата, калі-нікалі добра вымаўляў за памылкі, за ідэалізм, як ён называў некаторыя мае ўчынкі, але розум мой заўсёды цаніў. Таму словы пра пуставаты кацялок пакрыўдзілі.

У іншых абставінах я, пэўна, не звярнуў бы на іх увагі. Але тут... пасля такога лірычнага настрою, пасля прызнання дзяўчыне ў каханні, не словамі — жаданнем пацалаваць, якое яна так чуйна зразумела... раптам такая праборка. З-за чаго? З-за камсамольскіх пратаколаў? Падумаеш, сакрэты! Непрыемна было думаць, што словы Калбенкі магла пачуць Ліда. Напэўна, пачула.

Але і «дзядзька Косця» — што сейсмограф:

— Пакрыўдзіўся? Ну і дурань! А трывожуся я таму, што люблю цябе,— і тут жа засмяяўся, паказваючы зялёны ўмывальнік, які трымаў: — Во, палюбуйся. Дзе, ты думаеш, раздабыў? Зняў каля дома Кузаева. Павесілі, падхалімы, на бярозе. Нічога, камандзіру знойдуць

другі: няма ў раскладзе рэчавага забеспячэння. Такія прадметы — дабывай, як хто ўмее. Кемлівасць і лоўкасць рук!

У іншы час я пасмяяўся б таксама, бо даўно здзіўляла і забаўляла мяне такая нечаканая рыса сталага чалавека — проста студэнцкая гарэзлівасць, якая дзіўна спалучалася з яго сур'ёзнасцю, а часам і са змрочнасцю. А тут яго выхадка здалася да крыўднага недарэчнай: парторг зняў умывальнік у камандзіра! Крый божа — хто ўбачыў! Будуць зубаскаліць. Ды і Кузаеў можа ўзлавацца. А Тужнікаў, напэўна, зробіць палітыку.

Зноў Калбенка як прачытаў мае думкі:

— Не бойся. Я сам не здымаў. Байца папрасіў, старога Трацяка. Прынясі, кажу, брат, вунь той умывальнік, ён там без патрэбы, а мне няма дзе рукі памыць. «Слухаюся, таварыш старшы лейтэнант».

Не вытрымаў я — усміхнуўся.

— Зачыняй свой сейф. Будзем арганізоўваць быт. Заслужылі пажыць па-чалавечы. Напоўзаліся ў норах.

Безумоўна, Ліда слухала нашу размову, не мог яе не ўсхваляваць строгі кліч Калбенкі. Пасля яна пачула іншы голас, вясёлы, жартаўлівы. І тады выйшла да нас, таксама вясёлая, босая, з закасанымі рукавамі. Звярнулася не па-вайсковаму — не ў форме ж — па-жаночаму і па-беларуску:

— Мужчыны, у каго запалкі ёсць?

— Сярнічкі? — засмяяўся Калбенка.— На, падпальшчыца. Запалі сэрца земляку.

— Усё вы жартуеце, Канстанцін Панасавіч,— Ліда, беручы запалкі, пачырванела, і мяне румянец яе радасна ўсхваляваў.

Я сшываў рэшткі пратаколаў.

Калбенка корпаўся ў рэчавым мяшку, дзе ў яго хаваліся не толькі ніткі, іголкі, Ножніцы, але і цвікі, невялікі малаток, абцужкі: чалавек гаспадарлівы!

І тут грымнула. Ударыла па галаве. Напэўна, я страціў прытомнасць. Але хутка апрытомнеў. Я ляжаў на падлозе каля дзвярэй. У доме было поўна дыму і пылу. Але яго хутка выцягвала ў акно, з якога высадзіла раму, і я ўбачыў замест грубкі з зялёнымі пліткамі кафелю груду цэглы і чорны праём.

Сцяміў, што здарылася. Закрычаў:

— Ліда!

Паспрабаваў падхапіцца. Але мяне зноў як ударнай хваляй адкінула да сцяны. Ударыўся патыліцай, асунуўся на падлогу і сеў у куце, напаўняючыся яшчэ большым страхам, што я не маю сілы

памагчы Лідзе. Дзе Калбенка? Дзе вы, Канстанцін Панасавіч? Куды вы дзяваліся? Памажыце! Памажыце!!

І тут я ўбачыў яго — у праёме паміж грубкай і дзвярамі, перагародку разбурыла, віселі раструшчаныя дошкі. Парторг, здалося мне, выйшаў, як з далёкага туману. Не. З чорнага дыму. Але што ў яго ў руках? Калбенка наблізіўся, і я ўбачыў: ён нясе Ліду. Ён шэпча:

— Дзіцятка маё, дзіцятка...

Я такі сабраў сілы, каб падняцца насустрач ім.

— Ліда!

— Паўлік? Ты жывы? Жывы? А я аслепла. Я аслепла, Паўлік!..

У нямой жудасці адступіў я ў кут, бо не вочы яе ўбачыў — іншае...

Дзяўчыне разарвала жывот, грудзі...

* * *

*Прэзідэнт «пажартаваў». Даючы пробу перад выступленнем па радыё, сказаў, што ён толькі што падпісаў дэкрэт, які ставіць Расію па-за законам. «Бамбардзіроўка пачнецца праз пяць мінут».*

*Я пачуў гэта па тэлебачанні і... здранцвеў. Мая жаночая каманда, сарокі-стракатухі, перашкаджалі мне слухаць уважліва, і я не адразу сцяміў, што да чаго. Пра што ён, каментатар? Жарт? Які жарт? Хто мог так пажартаваць? Прэзідэнт такой краіны?! Але і пасля таго, як Сейфуль-Мулюкаў паведаміў, што прэзідэнт пасля мусіў тлумачыць, што ён «проста пажартаваў», я не адразу апамятаўся. Халодны страх ледзяніў кроў. І першая думка — пра дзяцей. Дзеці! Дзе мае ўнучкі? Як уратаваць дзяцей?*

*Дайняе ўсведамленне, што ўратаваць дзяцей будзе немагчыма, напоўніла халодным страхам. Божа! Што ж гэта робіцца?*

*Цыкнуў на дачок і нявестку:*

*— Вы слухаеце? Чуеце — што там? А вы — пра свае анучкі.*

*Нявестка — хітранькая, заўсёды іграе пакорлівасць і сціпласць.*

*— Прабачце, тата.*

*У Марыны ніколі не было такой пакорлівасці, тым больш. — робленай. У маленстве. У юнацтве. А цяпер ёй слова не скажы, бо ў адказ пачуеш дзесяць. Не дзіва. Сталая жанчына. Мастак-дэкаратар. Маці траіх дзяцей. Маці маіх унучак, улюбёнак, пястух Вікі і Мікі — Вікторыі і Міхаліны, двайнятак, ім чацвёрты годзік.*

*— Не пра анучкі, бацька, а пра моды. Што можа больш хваляваць маладых жанчын у наш час, акрамя моды?*

*— Мода — і ніякіх праблем? Ніякіх праблем для вас няма? — пачынаю злаваць, баюся, што сарвуся і накрычу.— Ты бачыш, што ў свеце?*

*— А што ў свеце? Што новага, чаго б мы не чулі мільён разоў?*

*— Ты чула, як «пажартаваў» прэзідэнт?*

*— Ад яго ты пачуеш яшчэ і не такія жарты. Няхай ён толькі застанецца ў сваім жоўтым доме.*

*— У Белым,— паправіла рацыянальная, дакладная Святлана.*

*— І цябе гэта не хвалюе?*

*— Хвалюе, але не так, як цябе. Я не чытаю так уважліва пятую старонку «Правды», як ты.*

*Даўняя яе іронія наконт маёй цікавасці да міжнародных раздзелаў газет, часопісаў. Але я прывык на гэта не звяртаць увагі.*

*— ...Мала слухаю палітычныя перадачы, больш гляджу дэтэктывы. А «Глобус» ты ад нас хаваеш у сейф. Здзіўляюся, як ты «За рубежом» не хаваеш. Мы ж — маленькія, не зразумеем. Свецік, дзіцятка маё, табе даюць у гэтым доме «За рубежом»? Ці толькі «Піянерку»?*

*Святлана — наша «малая», ёй усяго дваццаць тры, аспірантка кафедры мовы.. Яна — супрацьлегласць старэйшай сястры: маўкліўка. Праўда, у яе рэдкіх заўвагах у часе нашых спрэчак не менш дасціпнасці, чым у Марыніным мнагаслоўі.*

*Аднак наконт «Глобуса» нешта новае. Чаму раптам?*

*— Паслухай, лапатуха, разумнага каментатара.*

*— Фарыда? Пра Блізкі Усход? Татарын паездзіў там, ведае. Але мне ўсё роўна нецікава. Баюся, што мне прыйдзецца слухаць гэта да канца жыцця...*

*— Гадоў паўсотні,— хмыкае Святлана.*

*— Дай бог,— уздыхае Зоя, нявестка, яўна прытворна — каб сур'ёзнасцю сваёй дагадзіць мне.*

*Сваё пажаданне яна адносіць да Марыны, зусім не думаючы, што ў кантэксце з перадачай яе «дай бог» недарэчнасць: не дай бог, каб сіяністы катавалі няшчасных арабаў цэлае паўстагоддзе.*

*Кончылася «Сёння ў свеце». Пачалася эканамічная Перадача. Мне і гэта цікава. Праўда, бываюць пустыя перадачы — інфармацыя, статыстыка. Але часам у вучоных эканамістаў бліскаюць разумныя думкі, нечаканыя, да якіх я не магу дапяць уласным розумам. Гісторыя эканомікі сацыялізму — гэта адно, пра гэта я пісаў, чытаў лекцыі; праблемы навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, сучасная арганізацыя, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі — зусім іншае, тут патрэбны спецыяльныя веды, якіх у мяне, чыстага*

*гісторыка, няма. Набываць іх позна — цяжка чытаць: папсаваў зрок. Глядзець тэлевізар лягчэй, а ў такіх перадачах галоўнае — слухаць. Балюча толькі бывае: пачуеш разумную ідэю, праблемную, карысную і часам простую (усё геніяльнае проста!), а пасля даведаешся праз тры-пяць гадоў, што і дагэтуль яна не здзейснена ці «адкрыта» ў нашых палітычных і эканамічных канкурэнтаў.*

*Пад старасць мне стала моцна балець ад безгаспадарнасці, кансерватызму. Чуллівы зрабіўся, усё роўна як скуру здзерлі.*

*Што сёння скажуць мне вучоныя калегі?*

*— Ты што, і гэтую нуду будзеш слухаць? Здзіўляеш ты мяне, татачка. Не абрыдла табе? — у Марыны смяюцца вочы.*

*— А я люблю вучоных,— ліслівіць Зоя.*

*— Таму ты пяць гадоў паступаеш у інстытут,— у Святланы не хапае дыпламатыі, увогуле адносіны яе да братавай складаныя: яны нібыта і сябруюць, але, мне здаецца, не надта любяць адна адну, і ад гэтага мне таксама баліць: адна сям'я, а ўзаемаразумення, павагі і любові не хапае. У маіх дачок, у сына. У Зоі сярэдняя адукацыя, яна выхавацелька ў дзіцячым садзе. Прыйшоўшы ў нашу вучоную сям'ю, кожны год абвяшчае, што паступае ў інстытут, але ні разу не падала дакументы. Баіцца? Лянуецца? Ці гэта вынік Марыіных жартаў:*

*«Навошта табе сушыць мазгі, Заюха? У тваім узросце! Славутая эмансіпацыя, за якую мы, дурніцы, так ваявалі, яшчэ больш заняволіла нас. Паглядзі на мяне з маёй. гарой ведаў. Зайздросціш ты мне?»*

*Між іншым, свякроў яе, жонка мая Валя, таксама не надта хоча, каб нявестка ішла на вячэрняе аддзяленне! Маці думае пра сына: якое ў яго будзе жыццё, калі жонка будзе штовечар у інстытуце пасля работы?*

*Я трымаюся нейтралітэту — хапае ў мяне сваіх праблем.*

*Але Святлане трэба выгаварыць: нельга так бестактоўна ўпікаць! Сама яшчэ зорак з неба не схапіла. Аспірантачка!*

*Марына цяжка ўздыхнула. Прытворна, канешне.*

*— А мне захацелася паспрачацца з табой.*

*— Пра што?*

*— Пра моды.*

*Перадачу я слухаю няўважліва, бо з галавы ўсё яшчэ не выходзяць страшныя словы: «Бамбардзіроўка пачынаецца праз пяць мінут». Кроў стукае ў скроні так, што разбалелася галава. Зноў — ціск. Хто толькі і што толькі не наганяе яго, гэты злавесны ціск!*

*Дзеці, жонка, калегі, студэнты, прэзідэнты... Праборкі начальства, спрэчкі, скаргі, лекцыі, кнігі, перадачы...*

*Марына выказваецца парадаксальна. Нярэдка гэта раздражняе, але часам і забаўляе, цешыць і тым супакойвае. Можа, і на гэты раз неяк адвядзе мае думкі ад злавеснага «жарту»...*

*— Давай,— дазволіў я Марыне.— Гарадзі свой агарод.*

*— Во! Фіксую вашу першую бацькоўскую памылку: ігнараванне думкі дзяцей. Мы ўмеем гарадзіць агарод, не больш. Не пазнаю цябе, бацька. У лекцыях ты ўзнімаеш нас да нябёс: якая гераічная ў нас моладзь! Не дваіся, тата. Раздвоіш уласны характар.*

*— Цікава.*

*— Хіба могуць у такога бацькі быць нецікавыя дзеці? Ты не цэніш нас.*

*— Без іроніі, калі ласка.*

*— Ніякай іроніі. Я вельмі сур'ёзная. Хіба можа маці траіх дзяцей быць несур'ёзнай? Па гэтай сур'ёзнасці я дагнала вас з мамай.*

*Святлана засмяялася.*

*— Бачыш, Свеце смешна.*

*— Бо Светлячку трэба яшчэ набірацца сур'ёзнасці.*

*— Ты набралася жа дзядоўніку.*

*— Бліжэй да тэмы, Марына.*

*— Да цяжкай тэмы трэба лёгкія рыштаванні. Па закону сцэны.*

*— Навучылася ты ў тэатры.*

*— Не ў тэатры. У жыцці. У тэатры я працую. А балдзею ў жыцці.*

*— Толькі без жаргонаў. Не люблю.*

*— Добра. Шаную твой прафесарскі слых. І так — пра моду. Дарэмна ты так зняважліва адзываешся пра яе... Не пра адну. Увогуле пра моды. Пра ўсе моды. Іх даяце нам вы!*

*— Хто — мы?*

*— Ідэолагі.*

*— Цікава.*

*— Вядома ж, цікава. Паглядзі вакол. Сур'ёзную кнігу не купіць. Падручнікаў для студэнтаў не хапае; сам ты. абураўся. А ўсе кіёскі забіты модамі. Якія выпеставаныя жанчыны... Ды і мужчыны... у савецкіх, нямецкіх, польскіх, балгарскіх часопісах! У якіх одеяниях! Шык! Куды былым графіням і княгіням! Бледны ў іх выгляд на літаграфіях мінулых стагоддзяў. Можна купіць часопісы і з сучаснымі князямі. Французскія. Італьянскія. У турыстаў-спекулянтаў. Гані рублііСаў пяцьдзесят за шматкаляровы рай зямны!*

*— Асабліва калі яны бацькавы, рублікі.*

*— Выкладаюць і бацькавы, і свае. Мода! Не ў часопісах толькі:.. Стала зместам жыцця. А шмат каму — і сэнсам. Вы ж нам паказалі не толькі тэорыю, але і практыку. Патрусілі перад вачамі імпартнымі анучкамі, як ты называеш гэтыя добра зробленыя рэчы шырспажыву. Умее праклятьы капіталізм іх рабіць, сам ты казаў. Але імпарту мала, і ён куслівы ў цане. І — божа мой! — як гэта распаліла нашы страсці, нашы нізкія пачуцці. Мы ж па псіхалогіі яшчэ анучніцы. Зайздросныя, прагныя. Калі я, мастак з дыпломам, маю французскія боты за сто сорак рэ, то Зойка вунь, сярэдні педагог, гатова памерці з голаду, прадаць мужа, абы набыць гэткія ж боты.*

*Зоя пакрыўдзілася.*

*— Каго я прадаю? Думай, што кажаш,— і, абураная, выйшла.*

*— Сапраўды, думай,— упікнуў я Марыну.— Ты бываеш бестактоўнай, пані мастачка.*

*— Нічога, перажыве.*

*— Твае налёты ўсе перажываюць. А скажы што табе...*

*— Светлячок, сапі носікам-курносікам. Кладу яшчэ колькі мазкоў на шырокае палатно «Моды». Ды што мы, анучніцы, як ты, дарагі тата, называеш наша племя! Мы — слабы пол. Я гляджу на некаторых тваіх калег. На іх... хіба што трусы... шкада, не відаць іх... нашы, пашытыя у Бабруйску, а ўсё астатняе — яно, заразнае,— імпарцёрчык. Мужчыны — проста-такі з журнала мод, французскага, не абы-якога.*

*— А гэта ўжо нешта горшае за бестактоўнасць.*

*— Цынізм.?*

*— Не маю слова.*

*— Я сама даю вызначэнне сваёй злой філасофіі.*

*— Ты называеш гэта філасофіяй.*

*— У двукоссі. На цынізм у нас таксама мода. Але табе я скажу камплімент: ты ў нас старамодны. А вунь твой лепшы сябар Пятроўскі. Во мадняга! Сам абвешаў сваю кватэру дыванамі, абставіў югаслаўскімі гарнітурамі. А пасля друкуе ў часопісе даўжэзны артыкул супраць спажывецкіх тэндэнцый. Разносіць нас, няшчасных, ушчэнт. Ажно страшна стала. Хіба не новая мода?*

*— Цябе блыха не ўкусіла сёння?*

*— Клешч упіўся ў макаўку. Мама ледзь выцягнула. Свярбіць дагэтуль.*

*— Яно і відаць.*

*— Ты знаеш, а гэта карысна, каб нейкія, кляшчы ўпіваліся... не ў галаву... у іншае месца... Можа, мы Рухавейшыя рабілісяб. І навучыліся б шыць добрыя боты.*

*— Мы навучыліся рабіць касмічныя караблі.*

*— Стоп, тата! Так ты загоніш мяне ў кут. Я — пра моды. А ты — пра караблі. Караблі — не мода. Неабходнасць. Як хлеб. Хто назаве добрую булку модай?*

*— А ты разумнееш.*

*— Дзякую. У тваім узросце я буду самай мудрай бабуляй.*

*— Ды ўжо ж!*

*— Што «дзюжож», Святляк? Да мяне не даходзіць твая аднаскладовасць. Трэба вас вучыць рыторыцы. А то развучыцеся гаварыць. Будзеце мукаць.*

*— Памацай галаву: другога кляшча няма?*

*Малайчына Свецік! Доўга маўчыць, але трапна цаляе. Аднак Марына больш вынаходлівая на гумар:*

*— Мама шукала ў маёй галаве. Пуста.*

*— Што праўда, то праўда.*

*— Гэта ты, дзіця, пра пустэчу ў галаве старэйшай сястры? Чуў, бацька? Не ўпікай адну мяне ў бестактоўнасці. Во дзеткі растуць!*

*Спрачацца з Марынай не хочацца. Ды і што сказаць? Няма чаго. Пра моду можна пачуць і не такое. Асуджаем, а самі знаходзімся ў яе палоне. Марына падабаецца мне, што моднічае яна па-свойму: напрыклад, адзяецца не па часопісах: мод, сама і малюе, кроіць, шые. Нярэдка выходзіць нешта маскараднае, тэатральнае, а часам і нішто — арыгінальна.*

*Сваімі разважаннямі яна пацешыла, развеяла мае думкі, мой страх — ад «жарту» прэзідэнта і... ад спакою — іх, дарагіх мне жанчын. Усхвалявала мяне іх абыякавасць да таго, што робіцца ў свеце. Устрывожыла. Спалохала, Дзякуй богу, уляглося. Настрой узняўся да плюсавай адзнакі — да жадання жартаваць:*

*— Давай, дачка, практыкуйся ў красамоўстве. Для цябе гэта сапраўды філасофія. Канкрэтная. Жыццёвая. Мастацкае мысленне тваё абстрактнае, тэатральнае. Цяжка зразумець, як ты сама адносішся да моды.*

*— Да якой? На што? Моды розныя. Я — за моду на адзенне, на мэблю. Не абвінавачвай у апалітычнасці. Нават за буржуазную моду. У іх ёсць чаму павучыцца, І мы заваявалі права не толькі на робу. Але некаторыя моды .мяне палохаюць. Ка,лі мой трынаццаці гадовы сын гуляе па лесе з транзістарам, мяне гэта не вельмі радуе. Я два гады*

*не магу купіць швейнай машынкі, каб пашыць дзяўчаткам сукеначкі, не напасешся купляць на іх. А на тры сям'і нашы, якія ўлетку зліваюцца ў адну, шэсць прыёмных апаратаў, калі не лічыць тэлевізараў. Во дзе вы, ідэолагі, пастараліся. Ах, як мудра пастараліся!.. Пакланіцца вам, трэба.*

*— Табе хочацца ў каменны век?*

*— Святлана! Не лезь у размовы старэйшых! І слухае мой сын галасы ўсяго свету. Ты многа пісаў пра гэтыя «галасы», не мне табе расказваць пра іх. Але каб іх і не было «галасоў», дык у нас ёсць яшчэ адна мода — на замежныя мовы. Вунь твой сын і мой брат роднае мовы не ведае, а па-французску грасіруе, як Жорж Санд. Я па-англійску так і не навучылася, але іх палітычную балбатню разумею. Знаеш, якое я зрабіла адкрыццё: прасцей за ўсё зразумець паклёп, лаянку, любую брыдкасць. Гэта разлічана на людзей, якія не прывыклі думаць.*

*Я варухнуўся ў крэсле: зноў нешта, неўсвядомленае яшчэ, устрывожыла.*

*— Пачакай, тата. Канчаю. Да транзістараў вы далучылі магнітафоны. І... пачынаючы з такіх, як мой сын, і канчаючы, такімі, як я... не, нават як ты... мы тыражыруем мільёнамі экземпляраў не толькі песенькі Высоцкага і Пугачовай. Што слухае зараз ля Мінскага возера мой Саша? Якія «рокі»? Якія «попы»? Выстаўляюць нам «попы», а некаторыя цалуюць іх...*

*— Ну, панесла цябе...*

*— Святлана! Не лезь! Во, бацька, моды, ад якіх робіцца страшна. Табе не страшна?*

*«Бамбардзіроўка пачынаецца праз пяць мінут».*

*Зноў ударыла ў галаву. Што гэта са мной?*

*А тут яшчэ заплакала дзіця. Мая ўнучка. Каторая? І ў мяне ўс-пыхнула раздражнёнасць супраць Марыны. Чаму раптам? Здараецца, што яна гародзіць глупства. Але сёння яна гаварыла зусім не глупства. Варта парадавацца Марынінай сур'ёзнасці, я раней перажываў, што яе не хапае ў старэйшай дачкі.*

*— Паглядзі, чаму плачуць дзеці?*

*— На тое яны і дзеці, каб плакаць.*

*— Дзеці не павінны плакаць!*

*— Не будуць развівацца лёгкія.*

*— Займіся дзецьмі, філосаф!*

*— Ты злуеш? Чаму?*

*Крычала Віка. Яўна ад болю. Падхапілася Святлана, пабегла. За ёй — я, забыўшыся на болі ў суставах, ад якіх пакутую не першы, год,— во калі адгукнуўся палярны, холад!*

*Шпарка пайшоў па садовай дарожцы да дзіцячай пясочніцы, дзе разыгралася драма. Ды Святлана ўжо несла на руках Вікторыю і дзьмула ёй на вушка. Малая ажно заходзілася.*

*— Што здарылася?*

*— Твая агрэсарка ўкусіла яе за вуха.*

*— Міхалка?*

*— А хто ж!*

*Міка, смешна набычыўшыся, сядзела ў альтанцы пад сталом — схавалася ад кары. Яна ніжэйшая ростам за сваю сястрычку, але паўнейшая, шыракатварая — «выліты дзед», адзначаюць госці,— і намнога больш рухавая, спрытная і хітрая. А дзіцячая хітрасць заўсёды забаўная. Бабуля, бацькі, цётка больш шкадуюць Вікторыю, але ўсе цешацца з нястомных прыдумак, нярэдка шкадлівых, таўстухі Міхаліны.*

*— Міхалачка! Як жа гэта так? Глядзі, як Вікачцы баліць. Хіба можна кусацца? У цябе ж зубачкі, як у мышкі, востранькія. А каб ты адкусіла ёй вушка?..*

*Перапыніў строгі матчын голас:*

*— Пасюсюкай, пасюсюкай з гэтай бандыткай, дык яна ўсім вушы паадкусвае. Ходзь сюды, паразітка!*

*— Не хацу!*

*— Міця!*

*— Сама Міця!*

*Часам бацькі ў жарт называюць дзяўчатак хлапечымі імёнамі — Віця і Міця. Віка прымае гэта, а Міхалка пратэстуе, ад яе нязгоды быць Міцем усім пацешна.*

*Не паспеў я агледзецца, як Марына груба і злосна выцягнула дачку з-пад стала, заціснула пад пашку і моцна, з размаху, шлёпнула па попцы раз, другі...*

*Міка завішчала на ўвесь дачны пасёлак.*

*Я выхапіў малую і... сарваўся на крык:*

*— Не смей біць дзіця! Не смей! І не называй яе гэтак! Сорамна! Інтэлігентка! Лезеш у высокія матэрыі, а дзяцей выхоўваць не навучылася!*

*— Ты нас па ідэальнай сістэме выхаваў!*

*— Марына! — зляцела з гарышча «галубка міру», мая жонка Валянціна Пятроўна, адразу ўзяла на рукі дзвюх унучак, якія заліваліся*

*плачам, дакарала нас, дарослых: — Што вы раскрычаліся? Вунь Пятроўскія вушы навастрылі. Смяяцца будуць.*

*Добры жнівеньскі вечар, можа, самы цёплы за ўсё халоднае лета, быў сапсаваны. Я перажываў дэпрэсію, якая ў апошні час наведваецца ўсё часцей і часцей. Незразумелы страх і поўная апатыя. Хоць чаму незразумелы? Вельмі нават зразумелы. Ва ўсялякім, разе, цяпер.*

*Схаваўся ў сваю «галубятню» — у маленькі, але ўтульны кабінет у мансардзе, дзе ліне заўсёды добра працавалася.*

*Але ў той вечар я баяўся развязаць папку з рукапісам сумных успамінаў. Праўду кажучы, баяўся я не толькі ў той «дэпрэсіўны вечар», баяўся, бадай, тыдзень ужо. Трэба расказаць пра смерць Ліды. Сорак гадоў я ўспамінаю яе, жывую. Неяк удавалася адганяць жахлівы прывід яе разарванага жывата. А гэты тыдзень, удзень і ўначы, стаіць крывавая мешаніна, крывавы туман перад вачамі, і наганяе страх — за жывых, за блізкіх — за ўнучак, жонку, дачок — і за ўсіх дзяўчатак, дзяўчат, жанчын. Чаму толькі за жанчын? І яшчэ боязь: здавалася, напішу яе смерць і тады ўжо заўсёды пахаваю яе, жывую. Памяць сваю пахаваю. А гэта, можа, самае страшнае — па хаваць памяць.*

*Я сядзеў на балкончыку ў крэсле-качалцы і стараўся расслабіцца, супакоіцца, думаць аб прыемным, шчаслівым, вясёлым. Аб той жа гарэзе Міхалінцы. Як ніхто іншы, яна заўсёды развейвала мае цяжкія думкі.*

*Устрывожыла, што не чуваць яе шчабятання: няўжо неразумныя дарослыя, так пакаралі малую, што яна дагэтуль маўчыць?*

*Раздражняла музыка на суседняй дачы. Тая самая, пра якую гаварыла Марына! Шалёны кашэчы віск. На сходзе дачнікаў дамаўляліся, каб дзеці не ўключалі так гучна транзістараў, магнітафонаў. У пасёлку гэтым, імя якому Акадэмічны, не толькі адпачываюць, тут некаторыя апантаныя, як я, спрабуюць тварыць ці, ва ўсялякім разе, думаюць над праблемамі сваіх навук. Але хто з нас, старых, мае ўладу над сваімі дзецьмі, унукамі? Некаторыя калегі і суседзі лічаць, што я маю гэтую ўладу. Валя ўпікае: «Ты іх пясочыш, а людзі кажуць, што ў нас самыя, добрыя дзеці». «Ад таго і добрыя, што не даю ім распусціцца». Пацешся са сваіх уяўных сіл і ўмення! У той вечар я думаў пра свае здольнасці, навуковыя, педагагічныя, вельмі скептычна.*

*Спалохаў захад. Ярка-чырвоны дыск сонца выкаціўся з-за лясістага ўзгорка ў асушанае балота.. Колькі разоў я любаваўся такілі*

*захадам! А тут раптам зноў ударыла: «Бамбардзіроўка пачнецца праз пяць мінут». Напасць нейкая! Больш вар'яцкага жарту не ведае гісторыя; нават Гітлер таіў свае чалавеканенавісніцкія задумы.*

*Я адвярнуўся, каб не глядзець на расплаўлены шар, на чырвань, што крывава расцякалася, па небе.*

*Неба на ўсходзе чыстае, сіняе. Паміж стромкіх сосен віднеецца люстэрка рукатворнага мора.*

*«Пайду на Мінскі акіян»,— жартуе мой унук Саша, «вялікі рыбак»: на дачы не знаюць, што рабіць з яго яршамі: бабуля пакалола рукі, чысцячы іх, варыць юшку, якую вымушаны Саша ж і есці, але ўлову ніколі не выкідвала — не педагагічна, адбіць можна ахвоту ад карыснай для здароўя справы. А Марына можа і выкінуць улоў: «Абрыдлі мне твае яршы!»*

*Яшчэ адна прычына маіх і маміных канфліктаў з ёю.*

*Прыйшла жонка. Добрая і вясёлая.*

*— Ты чаго зашыўся ў сваю нару?*

*— Нічога.*

*— Зноў сапсавалі настрой?*

*— Не.*

*— Бачу ж я. Па дыханню тваім чую. На кухні чую. Што ты з кожнага глупства робішпраблему? Штось нагарадзіла Марына? Знайшоў на каго злаваць.*

*— Яна гаварыла, разумныя, рэчы.*

*— Дзякуй богу,— Валя засмяялася: больш за ўсё яе расстройвалі мае канфлікты з Андрэем і Марынай, а нашы мірныя размовы — для яе радасць.— Дык з-за чаго ты? З-за малых? О божа! Яны ўжо даўно забыліся і цалуюцца. Хітру н ня твая першаяаблізала Віку. І тая, добрае цялятка, і растала, і, што хвосцік, бегае следам за лідэркай. Якія яны розныя — дзіву даешся. Міхаліна камандуе старэйшымі за сябе. Марыя Міхайлаўна скардзіцца, што яна дрэнна ўплывае на іх пяцігадовага Юрку.*

*— Трохгадовае дзіця ўплывае? Глупства! Няхай яна менш уплывае на свайго мужа: быў чалавекам, а стаў мешчанінам. Не без яе ўплыву.*

*— Ты стаў строга судзіць людзей.*

*— Самы строгі я да самога, сябе.*

*— Гэта праўда. Але навошта? Будзь, Паша, добры. Ты ж добры.*

*— Пагладзь мяне па галоўцы.*

*Жонка засмяялася.*

*— Спускайся. Італьянскі фільм.*

*— Ану яго...*

*— Не хандры.*

*— Не буду.*

*Нічога асаблівага. Звычайныя словы, звычайная жончына ўвага, а настрой адразу ўзняўся. Не да самай высокай адзнакі. Але дзікі жарт прэзідэнта больш не біў у галаву. Сціхла пульсацыя, ў скронях. А яшчэ весялей пацешыла тая ж малая Міхаліна, калі пазней Валя прывяла яе наверх, каб укласці спаць. Дзіця гэтае нават у тым, з кім спаць, праявіла хітрасць. Толькі з бабуляй! Яшчэ ў мінулым годзе, у двухгадовым узросце, сцяміла, што з бабуляй вальней — менш строгасці, маці гэтак не ліберальнічае, можа і нашлёпаць. А Віку, наадварот, не зацягнеш, сюды, у мансарду. Баіцца лесвіцы.*

*На гарышчы два пакойчыкі: мой кабінет з пісьмовым сталом,, кніжнай паліцай, канапай і наша з Валяй спальня. Наша? Па назве. Яшчэ малая Света, выціснула мяне на канапу. Пасля яе месца заняў унук, якога бабуля нікому не давярала і так прывучыла, што да школы хлопец не мог без бабулі ні спаць, ні есці. Цяпер, пасля перапынку ў некалькі гадоў, месца ўнука заняла ўнучка. З істотнай розніцай. За ўнука я, ўпікаў Валю: не адлучай дзіця ад бацькоў! А без Міхаліны не магу. Калі жывём, на гарадскіх кватэрах, не бачу дватры дні і... стомлены лекцыямі, у дождж, у холад, еду ў дальні мікрараён, каб пацешыць душу. Да ўласных дзяцей гэтак, не цягнула. Укласці малую гарэзу — вельмі нялёгка. Тысячу выдумак — абы не спаць. Здзіўляюся жончынаму цярпенню. Спачатку Валя дае ёй уволю нагуляцца. Пасля я цалуюся з малой. Не заўсёды яна рабіла гэта адразу.*

*— Давай пацалуемся.*

*— Пець.*

*Але потым ператварыла, штовячэрні абрад у забаўку, у гульню. Цалую я яе. Цалуе яна мяне. Кранальна абнімае ручкамі за шыю. Павісае. Панасі.*

*— Ну, усё! Спаць!*

*Якое там спаць!*

*— Дзеду!*

*— Ау. Што, Міхалка?*

*Валя ўпікне:*

*«Каб ты не абзываўся, яна сцішылася б».*

*Але ў мяне не хапае вытрымкі, каб не абазвацца на яе кліч.*

*— А ножку?*

*Цалую ножку.*

*— Другую.*

*Цалую другую.*

*— А лобік?*

*Потым яна дзесяць разоў прыходзіць у кабінет — і ўсё пачынае спачатку. Так было і ў той вечар.*

*У бабулі лопнула, цярпенне:*

*— Зачыніся і не пускай гэтую хітруху. А ты ляжы і не пікні! А то пойдзеш да мамы. Яна — не дзед, чыкацца з табой не будзе.*

*Колькі хвілін стаяла цішыня.*

*Супакоены. — дзіўна, дзіця супакоіла трывогу за лёс свету!— я вярнуўся да сваіх успамінаў, да сумных старонак, якія не мог напісаць ужо добры тыдзень.*

*На святло настольнай лямпы ляцелі матылі. Я зачыніў дзверы, на балкон, хоць у кабінеце душна — нагрэла за дзень. Але не ад матылёў я зачыніўся. Ад музыкі недзе каля мора. Раней яна раздражняла мяне, сёння спалохала — пасля жарту прэзідэнта і Марыніных слоў. На гарышчы — цішыня. Заснулі і бабуля і ўнучка? Не. Далікатненькімі, маленькімі пальчыкамі стук у дзверы. Без слоў. Няўжо бабуля спіць? На насочках падышоў да дзвярэй. Спытаў шэптам:*

*— Хто там?*

*У адказ змоўніцкі тоненькі шэпт:*

*— Я.*

*— Хто — ты?*

*— Я. Твая Валянціна Пятроўна.*

*Нельга не засмяяцца ад такой хітрасці; чую, як прыглушана смяецца жонка.*

*— Ну, калі ты Валянціна, Пятроўна, то я не магу не адчыніць.*

*Адчыніў — Міхалка ў начной сарочачны да пятак таксама заходзіцца ад смеху: перахітрыла дзеда!*

*— Дай вушка, я штосьці скажу.*

*Узяў яе па рукі, дзяўчынка зашаптала ўлюбёна, шчыра:*

*— Дзеду, хочаш, я на табе ажанюся?*

*Як тут не засмяешся?*

*— Чым яна цябе рассмяшыла?*

*— Наша тайна.*

*— Тайна! Тайна! — Міхалінка ручкамі закрыла мне рот.*

*Я напісаў у тую ноч пра смерць Ліды. Без асаблівых эмоцый у час пісання — засяроджана, сур'ёзна, як пісаў свае гістарычныя манаграфіі. Эмоцыі з'явіліся, калі я перачытаў напісанае. Мае вочы набрынялі слязамі. З'явілася дзіўнае пакутлівае адчуванне: жудасна разарвала жывот не дзяўчыне, якую я некалі кахаў... хацеў пакахаць — не паспеў... а маёй дачцэ... маёй унучцы...*

*Я ўвесь сцяўся, закрыў вочы далонямі, быццам заплюшчыўшыся, можна не бачыць страшнага прывіду.*

*Не пачуў, калі падышла Валя. Можа, яшчэ тады, калі я пісаў, яна стаяла за спіной?*

*— Плачаш над лёсам сваіх дзевак?*

*— Не трэба, Валя.*

*Я ведаў, што жонка чытае тое, што я пішу,— кожную порцыю, напісаную за вечар ці за ноч, бяссонную. Мне гэта не падабалася: да маіх навуковых прац такой цікавасці не было. Хавацца было б абразліва. Але такое з-за спіны падглядванне перашкаджала выказвацца з той шчырасцю, у якой я пакляўся самому сабе.*

*У маладосці Валя раўнавала да маіх «ваенных прыгод», так яна ўедліва жартавала і неяк у прыступе рэўнасці кінула ў печ мае ваенныя дзённікі. Цяпер мне здавалася (напэўна, памылкова, бо нічога асаблівага ў іх не было), што для напісання ўспамінаў мне не хапае тых дзённікаў. І ў мяне раптам успыхнула раздражнёнасць супраць жонкі. Ледзьве не вырвалася: «Не смей чытаць, як тайны цэнзар!» Але хвілінай раней Валя начапіла мае акуляры, напэўна, прачытала апошні абзац, уздыхнула і сказала:*

*— Прабач.*

*Потым ласкава правяла па маіх рэдкіх валасах і нечакана пашкадавала, вельмі па-свойму, па-жаночы:*

*— Сушыш ты сваю сівую галаву.*

*Праз колькі хвілін, калі я зноў застаўся адзін, з'явілася жаданне запісаць падзеі таго жнівеньскага вечара — сусветныя і нашы сямейныя, звычайныя, будачныя,— кавалак сучаснага жыцця людзей.*

7

Я сядзеў у маленькім пакойчыку за сталом, заваленым газетамі. Мне належала падрыхтаваць даклад аб вызваленні Беларусі, Мінска. Даручэнне Тужнікава. Дывізіён заняў пазіцыі, абсталяваўся. Налётаў няма. Самы час для палітычнай работы, перапыненай перадыслакацыяй. «Каму як не табе, беларусу, зрабіць такі даклад?» — сказаў нампаліт на нарадзе батарэйных парторгаў і камсоргаў. Па логіцы даклад такі належыць рабіць самому намесніку па палітчасці. Але Тужнікаў, як і Калбенка, не ўпершыню перадаручаюць даклады мне. Толькі робяць гэта па-рознаму. Калбенка шчыра прызнае, што ў мяне гэта можа атрымацца лепш. Тужнікаў выстаўляе аб'ектыўную прычыну, якая быццам бы вынікае з высокіх меркаванняў, часцей з яго клопату пра палітычнае развіццё маладога камсорга.

Сапраўды, каму, як не мне? Ганарова. І радасна. Тры гады чакаў я гэтых падзей, гэтага часу!

Газеты перачытваў, бо тады, калі вызвалілі Мінск, я не мог чытаць іх. Я нічога не мог рабіць. Ды і ў той дзень неаднойчы зводкі Саўінфармбюро, рэпартажы з месца баёў з роднымі назвамі гарадоў, вёсак засланяліся то жывым воблікам Ліды, босай, з закасанымі рукавамі, такой хатняй, цывільнай, поўнай радасці і трывогі, то прывідам крывавай раны ў жываце. У каханых мы бачым іх твар, вочы, валасы... Пра жывот думаць сорамна, неэстэтычна. Можам хіба пакпіць наконт сваіх уласных жыватоў, худых ці тоўстых, галодных ці сытых. Зусім інакш мы пачынаем думаць пра жывот, калі там нараджаецца новае жыццё — наша будучае дзіця. (Як я пасля асцерагаў жывот, у якім расла Марына! Валя смяялася з маіх страхаў).

Часам здавалася, што мне было б лягчэй, каб Ліду забіла неяк інакш, а не гэтак — разарваўшы жывот. На вайне звыкаешся са смерцю. Мы, зенітчыкі, безумоўна, не хавалі сяброў столькі, як на перадавой, але ахвяры былі і ў нас, асабліва ў пачатку вайны. Да майго болю далучаўся нейкі незвычайны смутак ад таго, што ніколі не народзяцца дзеці — яе дзеці. Не, я ні разу не падумаў — нашы, такая думка здалася абразлівая для ее памяці. А вось яе дзеці, маленькія, беленькія, як анёлачкі, паўставалі перад вачамі наяве, з'яўляліся ў сне.

Я нават прызнаўся ў гэтым Калбенку і не мог не заўважыць, што ён устрывожыўся. Параіў: «Схадзі да Пахрыцынай,— але тут жа перадумаў: — Не. Не трэба. Проста не думай пра нябогу. Не паможаш. Думай, колькі іх, смерцяў, колькі гора... Пра маці не думай».

«А ці жывая яна, яе маці?»

Яшчэ адна цяжкая пакута: я не мог напісаць пісьмо пра яе смерць. Раён вызвалены... Але хто там застаўся? Яна так баялася... апошняя яе трывога, апошнія словы. Я спалохаўся, калі даведаўся, што такое пісьмо напісаў Данілаў. Бацькам яе. А калі і праўда іх няма? Хто атрымае вестку аб смерці іх дачкі? У нас ёсць толькі яе хатні адрас. А яна ж хацела напісаць і ў Магілёў, і ў Асіповічы... Пачакаю адказу на яе пісьмо. Пісьмо ёй, жывой. Ад каго яно будзе? Але халадзеў ад думкі пра такое пісьмо.

Выпісваў з газет баявыя эпізоды, а перад вачамі стаяла яе маці... са страшнай пахаронкай. Чамусьці вырашыў, што лепш напісаць, што Ліда загінула на баржы ад бомбы.

Пра ўсё прачытаў, усё запомніў. Але даклад не атрымліваўся, не мог я з цаглін руінаў збудаваць палац. Рассыпаліся патрушчаныя цагліны, ператвараліся ў пясок, ён цёк у маім мазгу крывавым плывуном.

Скажу Калбенку, што не магу. Ён зразумее і пераканае Тужнікава. Не! Нельга даваць волю сваім пачуццям! Ты ж на вайне! Даклад пра вызваленне нашай зямлі хіба не ўшанаванне яе памяці?! Але як скласці вычытанае ў газетах і тое, што помню пра сваю зямлю, пра свой народ, у расказ, які ўсхваляваў бы байцоў? А выступіць я мушу толькі так, а не з казённай палітінфармацыяй! Разумеў, што хачу большага, чым магу, чым здольны, але не адступаў, не здаваўся.

Заміналі думкі. Заміналі шумы — крыкі тэлефаністак з вузла сувязі, стракатанне Жэнінай машынкі.

Я сядзеў на другім паверсе дома, занятага пад штаб. Часовы наш з Калбенкам прытулак. Але ці часовы? Тужнікаў сказаў, што адрамантуюць дом, пашкоджаны ўзрывам. Я жахнуўся, што прыйдзецца жыць там. Узмаліўся Калбенку: «Не пойдзем туды. Не магу, Канстанцін Панасавіч!»

Ён зразумеў мяне, бо і яму не хацелася ў той злашчасны дом. І Тужнікаў аднёсся з разуменнем. Ці, можа, Кузаеў.

Я думаў пра сваіх камандзіраў з удзячнасцю.

...Калбенка нёс Ліду на руках да санчасці — у зялёны дамок.

Во яшчэ адна прычына, чаму я не магу засяродзіцца: прыгожы і жалобны дамок перад маімі вачамі, двойчы на ганку з'яўляецца Любоў Сяргееўна ў белым халаце. Хіба ж можна хоць на хвіліну забыцца, калі бачыш гэта? Трэба павярнуць стол да другога акна, у другі бок.

Калі я, кантужаны, аглушаны (кажуць, колькі разоў падаў), дабраўся да санчасці і, затрыманы санінструктарам на ганку, азірнуўся, то ўбачыў, што пад соснамі стаяць усе, хто мог быць блізка ад штаба. Дзяўчаты плакалі. Хутка прайшлі ў санчасць Кузаеў і Мураўёў. Праз колькі мінут яны самі паехалі ў франтавы шпіталь па хірургаў, бо везці туды раненую нельга было. Калі да мяне дайшло заключэнне Пахрыцынай аб нетранспартабельнасці Ліды, агеньчык надзеі, які было засвяціўся, пачаў згасаць. Жахліва, калі памірае надзея, ды яшчэ так — пакутліва доўга. Час быў разарваны на шматкі, на асколкі, і я не ўяўляў, колькі яго прайшло — мінуты, гадзіны.

Хірургаў прыехала трое.

Кузаеў узлаваўся, што каля санчасці ўсё яшчэ тоўпіцца нямала людзей. Загадаў усім заняцца сваімі справамі. Але печаў не паліць, склепы, каморы не адчыняць да з'яўлення мінёраў. Загад не мог датычыць нас з Калбенкам. Не выканала яго і Жэня Ігнацьева, машыністка штаба. Яна засталася з намі на ганку зялёнага дома. Сам, напэўна, не лепшы з выгляду, я, аднак, звярнуў увагу — якая Жэня бледная; ён і так усё яшчэ абяскроўлены ад дыстрафіі, твар яе, а ў той

час быў што абсыпаны мелам. Дзяўчына, прысланіўшыся да касяка дзвярэй, трымалася за жывот: яна бачыла Ліду, калі тую нёс Калбенка, і ў яе хворым жываце, на болі ў якім яна скардзілася, пачаліся страшныя спазмы.

— Табе дрэнна, дзіця? — спытаў Калбенка.

Жэня толькі балюча перасмыкнула вуснамі.

Канстанцін Панасавіч паўтараў: Я знайду цябе, Пшанічка. Я знайду цябе, бісаў сын».

Не адразу да мяне дайшоў сэнс яго слоў. У нейкі міг прасвятлення ці, можа, зацямнення, бо ў маім мазгу то ззяла святло ліпеньскага дня з самымі нечаканымі водбліскамі ўспамінаў, то наступала цемра сутарэння, раптам, як на кінаэкране, усплыло: «Размініравана. Сяржант Пшанічка».

Я, бадай, спалохаўся, што ў мяне няма той злосці, як у Калбенкі, на незнаёмага сяржанта і зусім не хочацца шукаць яго. А потым з'явіўся Данілаў, запыханы, спацелы. З'яўленне камандзіра батарэі кранула да слёз, я ўдзячны быў сябру, што яго так усхваляваў Лідзін лёс.

Данілаў распытваў, як гэта здарылася, Калбенка шэптам... усе мы перамаўляліся шэптам... расказваў. Жэня яшчэ больш пабляднела. Данілаў моўчкі курыў.

Вярнуўся Кузаеў. Пастаяў перад адчыненым акном, услухаўся ў галасы дактароў. У галасы гэтыя і мы ўслухоўваліся, але нічога не пачулі, прынамсі, я не пачуў, у вушах маіх звінела; дзіўны звон — вельмі ж знаёмы, але забыты, і я натужліва, да ўзрываў болю ў галаве, намагаўся ўспомніць, дзе, калі я чуў гэты звон.

Кузаеў угледзеўся ў Жэню.

— Што з вамі, Ігнацьева?

— Нічога, таварыш маёр. Гэта — ад блакады. Жывот.

— Данілаў, дай закурыць.

Чаму запамінаюцца дробязі? Колькі больш істотнага не ўбачыў, не пачуў! А вось як Данілаў сыпаў з кісета ў адарваную Кузаевым ад газеты паперку махорку і як цыгарэтная порцыя двойчы ці тройчы высыпалася долу,— гэта запомнілася. Я прасачыў за махоркай і ўбачыў на пафарбаванай у жоўты колер падлозе плямы крыві. І зноў мяне павяло. Падтрымала Жэня. Пасадзіла на лавачку. Насупраць сеў камандзір дывізіёна, але ўглядаўся ён не ў мяне — у Жэню. Зацягнуўся прагна цыгаркай. Сказаў:

— Хварэць я вам не дам. І паміраць не дам!

У доме, дзе ішла аперацыя, разбілася нешта шкляное, вялікае. Звон гэты патушыў кволенькі агеньчык надзеі. Я паволі падняўся. І

Кузаеў падняўся. А Жэня, наадварот, села і... быццам зламалася, што сухая бярозка,— нахілілася ледзьве не да падлогі.

Данілаў сказаў, напэўна, пракляцце, але не па-руску, мабыць, па-цыганску.

Калбенка як застагнаў:

— Ах, Пшанічка!

Першай выйшла з дома Пахрыцына. Спынілася перад камандзірам. Акуратная, дысцыплінаваная да педантычнасці, наконт чаго афіцэры нярэдка кпілі, яна хацела, відаць, далажыць па форме, сказала нават «Таварыш маёр»...— але голас яе перарваўся, вусны задрыжалі. Любоў Сяргееўна павярнулася да мяне і... нечакана зусім па-мацярынску правяла далонямі па маёй шчацэ. Чым пахла яе рука? Дагэтуль чую той пах, але назваць не магу: ні ў шпіталях, ні ў бальніцах, ні на вайне, ні пасля яе ні разу ён не паўтарыўся. Але гэта не быў пах небыцця.

Ліду пахавалі на гарадскіх могілках.

За ўсю вайну мы нікога гэтак не хавалі. Усё неяк похапкі, па-франтавому. Калі зімой сорак трэцяга фінскія лыжнікі выразалі наш НП, пяць чалавек, трох дзяўчый зверскі закатавалі, нам чамусьці не далі іх пахаваць: хавалі з франтавога шпіталя, куды прывезлі іх целы. Ад дывізіёна была невялічкая дэлегацыя. Але ў вялікім шпіталі, дзе раненыя паміралі штодня, мелася спецыяльная пахавальная каманда, і людзі ў ёй, хоць і пажылыя ўсе, выконвалі абрад пахавання паспешліва, здалося мне, непаважліва, як вельмі будачную і абрыдлую справу.

Абразіла мяне тое пахаванне, але я не быў яшчэ афіцэрам — усяго старшына, толькі назначаны камсоргам, і не было побач такога чалавека, як Калбенка, якому можна было выказаць абурэнне. Але асабліва абразіла Глаша Васіленкава: хавалі яе родную сястру Кацю. Ведаю, адчуваю: Глаша і дагэтуль не можа дараваць усім, хто быў тады на дывізіённых камандных пастах, а заадно чамусьці і мне, што так пахавалі сястру яе і ўвесь разлік паста. Глаша як накінула тады на сябе «жалобную вуаль», так, здаецца, і не здымае яе амаль год: рагатуха, танцорка, зрабілася маўклівай — слова не выцягнуць, замкнутай, адзінокай. У штабе нават Пагаварвалі неяк, каб знайсці прычыну і адаслаць яе дадому. Але Данілаў рашуча запярэчыў: лепшая прыбарыстка! А я неаднойчы прасіў Ліду:

«Ды разварушы ты яе. Няўжо не можаш знайсці ключык?»

...Труна з целам Ліды стаяла на памосце пад соснамі, дзе ў фінаў была тэнісная пляцоўка. Дзяўчаты абсыпалі памост і труну кветкамі, але мне непрыемна было глядзець на гэтыя кветкі — з клумбаў,

пасаджаных тымі, хто пасля закладваў у гэтыя клумбы міны. Развітваўся з нябожчыцай увесь дывізіён: прайшлі строем штабныя службы, дэлегацыі батарэй, рот, а яе родная батарэя прыйшла ўся,— аддзяленнямі, каб у выпадку налёту батарэя магла весці агонь. Развітаўшыся, аддзяленне шпарка бегла на пазіцыю, а праз колькі мінут адтуль строем беглі новыя людзі — афіцэры, сяржанты, радавыя.

Глыбока кранула, што Кузаеў адгукнуўся на просьбу Данілава — дазволіць усяму саставу батарэі развітацца з Лідай.

У дзень пахавання нахмурыла, пачынаў ісці дробны дождж. Плакала неба. Плакалі дзяўчаты — і тыя, што знаходзіліся ўвесь час каля труны, і тыя, што прыходзілі строем. Збівалі нагу. Кідалі кветкі.

Глаша выйшла са строю. Хоць Унярха, які камандаваў чарговым паўузводам, аклікнуў яе строга:

— Васіленкава!

Глаша стала побач з намі — са мной, з Калбенкам, з Жэняй, з Мураўёвым. Яна не плакала. Але, памаўчаўшы, сказала ўголас:

— А Кацю пахавалі не так.

З дакорам. Каму? Мне?

Вельмі ж балюча разанула па сэрцу. Быццам папрок, што Ліду хаваюць вось так, па-людску. Я сціснуў яе халодную, дзіўна халодную ў такі цёплы дзень руку.

— Глаша, не трэба. Прашу.

Яна здзівілася.

— А што я сказала? Хіба я на нябожчыцу? Яна была маёй лепшай сяброўкай.

І раптам упала на калені, грудзьмі на памост, тварам у кветкі, загаласіла па-жаночаму, па-сялянску:

— А Кацячка, сястрычка мая! А Лідачка, сяброўка мая! А навошта вы мяне пакінулі адну? А як жа я буду без вас? А што я скажу нашай маме, Кацячка? А што я скажу тваёй маме, Лідачка?

Тужнікаў паморшчыўся.

— Адвядзіце яе.

— Не чапайце,— не папрасіў, а бадай што загадаў малодшы па званню і пасадзе Іван Іванавіч Мураўёў.— Няхай паплача.

Я адчуў, што яшчэ міг — і загалашу гэтак жа, як Глаша, хіба што без слоў. Схаваў свае слёзы ў карэльскіх соснах.

На могілкі многа людзей не магло пайсці — воблачнасць высокая, метэазводка лётная. Але ўсё ж пайшло нямала. І сам Кузаеў.

Везлі труну праз той драўляны прыгарад, які мы з парторгам наведалі раніцою перад няшчасцем. Да пахавальнай працэсіі далучыліся яго жыхары,— сярод іх былі жанчыны, з якімі гутарылі мы. Я пазнаў

тую, што непаважліва адазвалася пра нас і па сутнасці добразычліва пра акупантаў. Мне не падабалася яе прысутнасць, асабліва тое, што яна адбілася ад сваіх цывільных і апынулася сярод нашых вайсковых дзяўчат, шэпчацца з імі, распытвае. Пра што? Многія гарадскія жанчыны плакалі. Яна ж, Параска гэтая, не выраніла слязінкі, толькі твар яе застыў, як у каменнай статуі. Ад чаго? Ад жалобы?

Прамовы гаварылі перад штабам.

На могілках развітваліся моўчкі.

Дзяўчаты цалавалі нябожчыцу ў лоб. Калбенка пацалаваў яе рукі. А я не мог пацалаваць ні рукі, ні лоб. Баяўся. Чаго баяўся? Каб не заплакаць? А хіба гэта ганьба? Хіба людзі не ведаюць, што Ліда кахала мяне. Сваё каханне мы мусілі таіць пры жыцці. Якая недарэчнасць! Што ж, і пасля яе смерці таіцца?

Не, так я думаў, седзячы над газетамі. На могілках я пра гэта не думаў. Увогуле не помню, пра што тады думалася. Помню толькі, як скалануў стук малатка, калі забівалі века труны. Не мог глядзець, як труну апусцяць у магілу, засыплюць зямлёй. Адышоў, схаваўся за бярозы.

Вінтовачны залп спалохаў бадай гэтак жа, як першы баявы стрэл гарматы. Пасля залпы батарэі сталі штодзённасцю, іх зладжанасць радавала. Радавала густата букетаў у небе. Але яны не чорныя, Ліда! Букеты ад разрываў нашых снарадаў. Чаму яны табе пачалі здавацца чорнымі? Злавесны знак? Прадчуванне? Выбух закладзенай у печ міны быў чорны! О, які ён чорны! Не толькі чорнымі зрабіліся сцены, столь, падлога ў доме. Перад выбітымі вокнамі пачарнела трава, кветкі, пясчаныя дарожкі, сосны.

Калі пачуў «Выхадзі строіцца!» і ўбачыў, што і нашы, вайскоўцы, і цывільныя пайшлі ад магілы, агарнуў мяне цяжкі смутак. Пойдуць з могілак людзі, пройдзе час — і забудуць чалавека. Няўжо забудуць? Не! Нельга забываць гэтыя магілы! Іх мільёны, брацкіх, адзіночных, вядомых, невядомых... І ўсе іх трэба помніць! Ад уяўлення грандыёзных могілак, краю якіх нельга было ўбачыць і ў думках, апанавала роспач, новая, незразумелая, такой не ведаў я ў самыя цяжкія дні вайны.

Да болю прыціснуўся лбом да шурпатай кары бярозы. Пэўна, тым, хто бачыў мяне, здалося, што я плачу. Не, плакаць я не мог. Пасля плакаў. Уначы. А ў той міг не мог.

— Пайшлі, Паўлік,— пачуўся ласкавы голас Калбенкі.

— Няхай пабудзе адзін,— сказала Любоў Сяргееўна.

Я застаўся, але доўга не падыходзіў да магілы — курганчыка белага жвіру, абкладзенага свежымі галінкамі карэльскай елкі, прывя-

лымі ружамі, піёнамі, з чырвоным драўляным абеліскам, з дзюралюмініевай дошчачкай на ім, на якой граматныя майстры выгравіравалі да болю знаёмае, роднае, усё яшчэ жывое для мяне прозвішча ў беларускай транскрыпцыі — АСТАШКА — і амаль незнаёмае, як бы чужое, імя і імя па бацьку Лидия Трофимовна.

Калбенка пасля трагедыі з Лідай усе дні быў розны — нечаканы, незразумелы. Ён як бы шукаў ці то форму выяўлення сваёй уласнай жалобы, ці форму сваіх адносін да мяне. У дзень бяды і на пахаванні ён апякаў мяне, як хворага. Пасля як бы забыўся на мяне, бо сам, са спазненнем апынуўся ў цяжкай дэпрэсіі. Выпрасіў у начальніка прадсклада грамаў трыста гарэлкі — на памінкі. Мне піць не хацелася. І ён, выпіўшы, вылаяў мяне, назваў слюнцяем, бабай.

Спалохаўся я. Укладаў яго спаць, прасіў, дакараў, як жонка мужа ці малы сын бацьку. «Ну, навошта вы, Канстанцін Панасавіч. Калі ласка, не хадзіце нікуды. Убачаць,— што скажуць, што падумаюць?» — «І ты туды ж — «што падумаюць?», Ды напляваў я на ўсіх, хто будзе думаць пра мяне так, як ты баішся, каб не падумалі. Хто падумае? Тужнікаў? Дык я табе скажу, што я пра яго думаю...» — «Не трэба, Канстанцін Панасавіч. Калі ласка, не трэба нічога гаварыць» .

Раніцою наступнага дня Калбенка быў ціхі і вінаваты. Але калі прыйшлі газеты, ён у нейкім паведамленні прачытаў прозвішча знаёмага, які дарос ажно да генерал-лейтэнанта і заняў пост ва ўкраінскім урадзе. А гадоў дзесяць назад чалавек гэты быў другім сакратаром таго райкома, дзе Канстанцін Панасавіч рабіў першым.

Нязначны эпізод ускалыхнуў душэўны сасуд з горыччу ўспамінаў, усплыла горыч на паверхню. Не, кепскага пра генерал-лейтэнанта старшы лейтэнант нічога не сказаў. Наадварот — бязлітасна знішчаў сябе, проста таптаў, здзекліва высмейваў, выходзіла, што самы большы недарэка і бездар у свеце — гэта ён. Мяне такое самапрыніжэнне спалохала: Калбенка заўсёды трымаў высока чалавечую, партыйную годнасць, умеў пастаяць за яе і мяне вучыў ні перад кім не хіліць галавы.

Баючыся, каб ён зноў не здабыў дзе гарэлкі, я не адступаў ад яго ні на крок. Ён разумеў, чаму я гэтак «прыліп», і незласліва высмейваў:

— Чаго ты ходзіш за мной, як жарабя за маткай? Я магу і ўбрыкнуць.

Я адказваў сур'ёзна — не да жартаў.

— А мне з вамі лягчэй.

Такое прызнанне я мог зрабіць толькі Калбенку, ды яшчэ хіба Жэні Ігнацьевай. Магчыма, Данілаву. Але батарэі я баяўся: там усё нагадвала яе.

Камбат сам падбіраў замену Лідзе — першы нумар дальнамера. Натуральна, што ніхто не мог нават наблізіцца да той дакладнасці, якую давала Ліда. Не было на батарэі дзяўчыны з такой адукацыяй — тэхнікум! — і з патрэбнымі дальнамершчыку матэматычнымі здольнасцямі. А хлопцы даваеннага прызыву даўно пасталі камандзірамі. У вайну маладых хлопцаў нам не давалі.

Данілаў, як, можа, ніхто, надаваў значэнне тэорыі. Іншыя, нават Кузаеў, лічылі, што зладжанасць і трапнасць агню даюцца няспыннымі вучэбнымі трэніроўкамі. Данілаў разважаў інакш:

«Зладжанасць залпаў можна дасягнуць трэніроўкай. Але гэта трэба для салюта, а не для паражэння праціўніка. Для трапнай стральбы трэба перш за ўсё разлік. Галава трэба... Не толькі камандзіру».

Відаць, і ў школе і ў артвучылішчы Данілаву лёгка давалася матэматыка. Але педагог быў юны, таму злаваў, калі хтось не разумеў, здавалася яму, простай задачы.

Добры, вясёлы, дасціпны ў «ціхія дні», ён лютаваў у часе бою: кідаўся з КП да гармат, крычаў, лаяўся, калі што не так, праўда, залішне «моцныя» словы хаваў у цыганскую мову, але батарэйцы даўно іх ведалі. Здаралася, што пасля налёту эшалонамі, доўгай стральбы, Данілаў валіўся на бруствер зняможаны да непрытомнасці. Аднойчы гэта здарылася ў прысутнасці прадстаўніка штаба дывізіі, і той спалохаўся: ненармальная псіхіка ў чалавека! Кузаеў ледзьве абараніў свайго лепшага камандзіра батарэі.

Данілаў перажываў, што без дальнамершчыка яго батарэя пры налёце будзе «дзіравіць неба», а не біць па цэлях. У яго нават вырвалася ў адносінах да дзяўчат: «Тупіцы!» Такога ад яго ніхто не чуў.

Калбенка зрабіў яму вымову:

— Данілаў, не зарывайся. Што ты хочаш аддзяўчаткомі? У іх па пяць класаў нацыянальнай школы. Добра, што яшчэ твае каманды разумеюць. Не ўсе ж такія акадэмікі, як ты і твой Унярха. Паставіш яго на дальнамер. Дрэнна ты выконваў загад аб замяняльнасці нумароў.

Данілаў пабялеў, сыпануў з чорных вачэй белыя іскры, але змаўчаў. Па дарозе з батарэі парторг тлумачыў мне:

— Злуе цыган таму, што сам усё ўмее, а даць дакладнасць на дальнамеры не ўмее. І ніхто не ўмее...

— Маслоўскі ўмее.

— Думаеш, умее?

— Ён жа быў першым нумарам.

— Дык чаму Данілаў псіхуе?

Урэшце, здаецца, мне ўдалося выйсці са сваёй жалобы ў падзеі радасныя, вялікія, што прынеслі вызваленне майму народу. Але ўсё адно ва ўяўленні маім стаялі ўздоўж родных гасцінцаў незлічоныя абеліскі. Я напісаў пра гэтыя магілы, хоць ведаў, што Тужнікаў выкрасліць, ён катэгарычна выступаў супраць таго, каб у дакладах, гутарках палітработнікі, камандзіры гаварылі пра нашы страты. «Гэтым не ўзнімеш баявы дух». Аднойчы нампаліт моцна ўзлаваўся на мяне. Ала Родзічава атрымала паведамленне, што загінуў яе брат. Гора ашаламіла дзяўчыну, яна аслепла ад слёз, нічога не магла рабіць. Мне здалося, што дарэчы будзе гутарка пра вечную славу герояў. І я сказаў пра гэтую славу так, што разрыдалася не толькі Родзічава — іншыя дзяўчаты, нават мужчыны, бацькі іх. А разам з імі плакаў і сам дакладчык. Пра такую слабасць звычайна далікатныя людзі маўчаць. А тут данёс нехта. А Тужнікаву гэта здалося ледзьве не палітычнай крамолай.

Ад уяўлення магіл вочы мае набрынялі слязамі. Зноў заплачу ў часе выступлення? Ну, і няхай! Усё роўна скажу!

Прыйшоў Калбенка.

Я адразу ўгледзеў: настаўнік мой у нейкім новым стане. Як бы заспакоены ад усяго, што бунтавала яго ў апошні час. Але прыкметна ўзбуджаны нечым іншым. Разуўся.

— Нацёр мазалі.

Сеў на падлогу ў кут, хоць у пакойчыку стаялі канапы — ложкі нашы.

— Сапеш? Не штудзіруй газеты. Пра сваю зямлю трэба расказваць экспромтам. Помніш, як я пра Кіеў?

— У вас вопыт. І веды. А я ў Мінску ўсяго два разы быў. Як даўні сон...

— Нічога. У цябе хапае фантазіі.

— Але ж трэба было пачытаць, што там рабілася ў гэтыя дні. Як наступалі...

— Трэба.

— Чытаю, а ў галаве — туман.

— Рассеецца,— Калбенка старанна расціраў чырвоныя, як у гусака, ногі.— Я ў мінёраў быў. Гэта — тэрмічная, падла. Яе мінашукальнік не бярэ. Вот жа гады манергеймаўцы! Якіх толькі не насовалі мін! Дадумаліся нават у электрапатрон. Завінчваюць лямпачку — узрыў, вочы выпякае, пальцы трушчыць. Я з камендантам гутарыў. Семдзесят чалавек падарвалася на такіх хітрых мінах. Тут, у горадзе, пасля вызвалення. Дзяцей многа пакалечыла. А ты кажаш: такіх гадаў вешаць не трэба!..

— Я ніколі гэтага не казаў.

— Як не казаў? Палонных...

— Дык то ж палонных.

— А каб табе трапіў такі мінёр?

Не думаў я, што зрабіў бы, каб той, хто паклаў міну ў печ, раптам, па волі выпадку, стаў маім палоннікам. Учыніў бы самасуд? Аднак думка пра магчымую самачынную кару непрыемна скаланула. Не мог бы? Не здолеў бы? Значыцца, не паспелі ў душы тваёй нянавісць да забойцы Ліды, прага помсты яму. І зрабілася нядобра: быццам няздольнасцю адпомсціць я здраджваў памяці пра яе. Увогуле я размазня: у большасці людзей усё проста, а перада мной ледзьве не кожная сітуацыя ставіць задачу выбару.

Ніколі той мінёр не трапіць мне, ніколі я не апынуся з ім адзін на адзін. Аднак жа пытанне, кінутае, безумоўна, між іншым, узбунтавала і раздвоіла мае пачуцці.

А Калбенка і не чакаў адказу на сваё пытанне. Ён казаў пра іншае. Пра што гэта ён?

— ...ваенком яго знаёмы. У гэтага арыстакрата паўсвету знаёмых.

— У каго?

— У князя.

— У Шахоўскага?

— Можна падумаць, у нас, як у арміі Кутузава,— адны князі. У нас ён адзін, ды і той выдуманы.

— А капітан кажа — праўда, што ён нашчадак дзекабрыста...

— Няхай будзе нашчадак. Князі цяпер у пашане. Князь Неўскі, князь Кутузаў... Дык твой нашчадак выпрасіў у свайго знаёмага ваенкома папаўненне. Прывёў двух хлопцаў і чатырох дзяўчат. Хлопчыкі — заморкі, як Ваня Рослік. А дзяўчаты, брат, гладкія. Красуні. Князь у бабах разбіраецца. Асабліва адна. Яе Данілаву пасалалі. Прозвішча рускае — Іваністава. А імя — карэльскае ці фінскае, я дык і не запомніў яго. Віялекі... Туарэкі... Кукарэкі... Біс яго запомніць. Шахоўскі дакладваў, што яна і яшчэ адна ў Хельсінкі вучыліся на настаўніц. Рыхтавалі фіны кадры, каб фінізаваць і карэлаў і валагодцаў. Марылі ж, ідыёты, аб «Вялікай Суомі» — да Урала. Цікава, пра што зараз мараць іх вярхі? Пра што народ — ведаю... Народ ёсць народ, у яго адна мара: сеяць хлеб, гадаваць дзяцей. Зубраў ажно спалохаўся, што дзяўчаты дзве зімы шпацыравалі па Хельсінкі. «Прывёў папаўненне!» Кузя аблізаўся, што кот: адукаваныя дзяўчаты! На гэтую... Туарэкі-Кукарэкі.... пакуль яны сядзелі ў штабе, нашы хадзілі паглядзець, як на дзіва заморскае. Яна і праўда што з пены

марской вылезла... Беленькая... Выпеставаная... Рэверансы робіць. Смешна. Але разам з тым, знаеш, неяк кранальна. Адвыклі мы...

«Што кранальна? Што кранальна? Канстанцін Панасавіч! Пра што вы? Каб на месца Ліды стала фінка?! Як можна? Як вы не разумееце?»

Ударыла ў сэрца такое нечаканае паведамленне. Ажно ў вушах зазвінела. Я закрычаў... Здалося, што мінёр той, якому сам жа Калбенка назначыў вышэйшую меру нават у палоне, становіцца замест Ліды, да яе дальнамера. І ўсе прымаюць такую замену? Я павінен пратэставаць! Супраць чаго? Супраць каго? Каму выказаць яго, пратэст свой?

Ашаломлены, аглушаны, як узрывам той праклятай міны, я, аднак, уголас не закрычаў. Сэрца крычала. Стрымала ж не толькі субардынацыя. Стрымала, што кашчунскую ў маім уяўленні замену прымае такі разумны чалавек, як парторг. Значыцца, вельмі можа быць, што думаю я не так, як іншыя. Кузаеў, Калбенка, Шахоўскі — яны на зямлі. Вайна ёсць вайна. Штодня і штохвіліны яна падносіць і не такія нечаканасці. Папаўненне даўно прасілі. Людзей не хапае нават у баявых разліках. Хлопцаў забіраюць у франтавую артылерыю. Дзяўчаты выбываюць дадому... А для замены нават «дзядоў» не прысылаюць: падмяла вайна за тры гады людзей. А яны ж і там трэба, дзе робяць снарады, росцяць хлеб.

Пракаўтнуўшы сухую сліну, я спытаў бадай шэптам:

— Яна будзе замест Ліды? Фінка?!

Калбенка, заняты сваімі мазолістымі пальцамі, адказаў між іншым:

— Няхай Данілаў вырашае — куды яе,— але тут жа здагадаўся, што творыцца з яго памочнікам, угледзеўся ў мяне і раптам падняўся, ступіў да стала: — Ты чаго пабляднеў? Не бунтуй, Павел. Ніякая яна не фінка. Фінаў, як і немцаў, у Чырвоную Армію не бяруць. А наконт тых, што былі ў акупацыі, мы з табой гаварылі. Трэць насельніцтва краіны трапіла ў гэтую бяду, хто на гады, хто на месяцы. Куды ж ты іх дзенеш? Канешне, пільнасць патрэбна... Але не такая, якую праявіў Зубраў у адносінах да Мальцава...

Прызыўнік з вызваленай Браншчыны, з тых, каго ў дывізіёне называлі дзядамі, Іларыён Мальцаў ні ад каго не таіў, што пад час акупацыі быў нядоўгі час старастам сяла, Калбенку першаму расказаў. А Зубраў... ці не апошнім даведаўся пра гэта... І павялі Мальцава пад вінтоўкай у «Смерці» арміі. Калбенка, як пачуў, што забралі дзеда, узбунтаваўся, бо ведаў, што рабіў Мальцаў па заданню партызан, а яшчэ ведаў, што два сыны яго загінулі: адзін, лётчык,

маючы званне Героя Савецкага Саюза. Зубраў, відаць, атрымаў вымову ад свайго начальства, бо неяк даверліва сказаў мне:

«Гэты недабіты ўкраінскі нацыяналіст калі-небудзь наскочыць. Хай дзякуе, што я добры».

Мальцаў — лепшы цясляр, у Кандалакшы ўсе камандныя зямлянкі збудаваў. Кузаеў інакш не звяртаецца да яго, як Іларыён Пятровіч.

— ...дзяўчына гэтая і табе спадабаецца. Такая не можа не падабацца.— Калбенка выцер вусны — прыкмета добрага настрою,— Я падышоў... Як тваё імя? Яна — рэверансік... Кукарэкі. Уяві. Я засмяяўся. А ў яе толькі вочы смяюцца. Якія вочы! Я, стары, патануў у іх. А вымаўленне якое! Мы з табой ніколі не навучымся так гаварыць па-руску... А ты кажаш — фінка.

І я адчуў, што жаданне маё пратэставаць адступіла. З'явілася неразуменне, здзіўленне. Аднак і гэта мяне спалохала. Што робіцца са мной? Што робіцца з людзьмі? Калбенка ні пра адну нашу дзяўчыну гэтак не адзываўся, для яго ў вайсковым плане яны былі байцы, у чалавечым — дочкі.

Пэўна, злавіўшы маё здзіўленне, ён спыніў размову пра новенькіх. Зноў сеў на падлогу, пачаў абувацца. І — зусім пра іншае:

— Горад збіраецца сустракаць першы поезд з Ленінграда. Хочаш — сходзім?

— Хачу!

Узрадаваўся я такой прапанове, бо зразумеў, што гэта можа пераключыць мае думкі зусім на іншае. Адбудзецца нешта новае, незвычайнае. Я ж не бачыў яшчэ яго, вызвалены горад. Даўно не бачыў цывільнага жыцця. Ды і падзея якая: першы поезд з Ленінграда! Як яго будуць сустракаць? Угледзецца ў твары людзей — хто як будзе радавацца? І тут жа ўспомніў Жэню Ігнацьеву. Абавязкова сказаць ёй!

— Трэба Ігнацьеву ўзяць, яна ж з Ленінграда.

Калбенка знаёма хмыкнуў:

— Дзіўны ты чалавек, Павел. Але за дзівацтва твае я і люблю цябе. Калі Мураўёў адпусціць — бяры.

## 8

Мы ішлі чацвёра: капітан Шахоўскі, Калбенка, Жэня і я. Выйшлі на вуліцу, што вяла да вакзала. На дамах яшчэ віселі дошчачкі з фінскай назвай гэтай вуліцы. Ніхто з нас не ведаў, як яна называлася да вайны. Вуліца Леніна? Сталіна? Не інакш. У цэнтры ж горада. Нават з разбуранымі дамамі, з непрыбраным друзам вуліца выглядала

прыгожай. Чырвоныя сцягі на ўцалелых дамах і першыя самаробныя шыльды савецкіх арганізацый надавалі ёй святочны і — што асабліва ўразіла — мірны выгляд. Ад чаго раптам? Ад цывільных людзей? Ад таго, што па адным ці невялікімі групамі ішлі яны туды ж — у бок вакзала? Як пасажыры. Адчуванне мірнасці магло з'явіцца і ад таго, што дзень, як на шчасце, хмурны. Дождж прайшоў раніцою. Ад таго, што хваляваў вільготны пах зямлі і яркасць абмытых кветак на клумбах, мог і з'явіцца гэткі мірны настрой. Здаралася, што і раней нешта падобнае наплывала. Заўсёды — у нялётныя дні, у летнія, калі імжэў палярны дождж і пахла зямлёй і іглiцай. Вайна памяняла і разуменне прыгажосці, і прычыны настрою.

Па іншых зенітных правілах той дзень нельга было назваць нялётным у поўным сэнсе. Але чамусьці звыклая, што нават пры такой высокай воблачнасці ўсё яе спакайней, чым пры ясным небе, хоць і ведалі нямала прыкладаў, калі «юнкерсы» і «хейнкелі» выкарыстоўвалі менавіта такое надвор'е. Бамбілі ўсляпую, але лёгка ўцякалі ад нашых знішчальнікаў: выходзілі з піке, хаваліся ў воблакі і беспакарана адляталі. З ростам нашых супрацьпаветраных сродкаў фашысцкая авіяцыя мяняла тактыку.

Але ў той дзень, не сумняваюся, ніхто з нас пра налёт не Дзімаў. За колькі дзён, як мы прыкрываем горад, не зрабілі ніводнага залпа. Аднойчы толькі трэцяй батарэі далі каманду абстраляць разведчыка. Разведчык з'яўляўся штодня, але залятаў на такую вышыню, што разумна было не траціць снарады і не дэмаскіраваць свае пазіцыі. Вайна прывучыла да ўсяго: да хітрасці, асцярожнасці, ашчаднасці.

Я азіраўся на цывільных, стараючыся адгадаць старажыла, які мог бы сказаць, як жа называецца гэтая вуліца. Ды тут успомніў Шахоўекі, ён жа неаднойчы быў у Петразаводску да вайны.

— Пятроўская. Вуліца Пятроўская. У гонар заснавальніка горада.

Каб паведаміць гэта мне, капітан павярнуўся — яны з Калбенкам ішлі наперадзе, мы з Жэняй за імі — і раптам саступіў убок, як бы жадаючы прапусціць нас наперад.

— Вы чаму такая бледная, Ігнацьева?

Жэня зрабіла нечаканы жэст, які мяне збянтэжыў: не зірнуўшы, яна знайшла маю руку, сціснула пальцы, як бы шукаючы падтрымкі; яе рука была дзіўна халодная — як з марозу. А можа, яна заўсёды ў яе такая? Ці вітаўся я са сваім камсоргам за руку? Не помню. Ад гэтага зрабілася нядобра, быццам я зрабіў непрыстойнае. Успомнілася Калбенкава: «Субардынацыя субардынацыяй, а людзі павінны заставацца людзьмі. На сваім баку барыкад мы — браты і сёстры».

Жэніна бледнасць спалохала, і я сціснуў яе пальцы, даючы знак: я падтрымаю цябе, сястра мая!

Шахоўскі, пэўна, здзівіўся, што мы, як дзеці, узяліся за рукі, але ў дывізіёне ведалі: намеснік камандзіра з арыстакратычнай далікатнасцю ўхіляўся ад абмеркавання, а тым больш асуджэння любых адносін паміж мужчынамі і жанчынамі — у нашых умовах.

«Бо ў самога рыла ў пуху»,— з'едліва кінуў неяк Тужнікаў.

Жэня адказала не адразу, ёй заняло дыханне, што мяне таксама спалохала: скажа Шахоўскі Пахрыцынай — і спішуць дзяўчыну.

— Я хвалююся, таварыш капітан. Поезд з Ленінграда!

Тады капітан стаў побач і ўзяў Жэню за локаць. Яна, збянтэжаная, выпусціла маю руку.

— Вы доўга жылі ў Ленінградзе?

— Два гады.

— О! У горадзе, які тады называўся Пецярбургам, нарадзіліся мой прадзед, мой дзед, мой бацька, маці, браты, сёстры і я, грэшны, ваш пакорлівы слуга. Вырас, вучыўся, працаваў...

— І вас не хвалюе?

— Што? Поезд? Відаць, у нас, мужчын, эмоцыі выяўляюцца інакш. Мяне, прызнаюся, больш кранула ваша хваляванне. Дзякую вам, што вы так любіце яго, наш горад, нягледзячы на ўсё, што вы там перажылі.

— Ад таго і люблю. Мы галадалі, мерзлі, рыхтаваліся заўтра памерці... а горад любілі ўсё мацней. Мяне вывозілі па лядовай «дарозе жыцця», а я плакала. Паверце, не ад радасці, што ратуюся. Ад думкі, што можа здарыцца, што ніколі не пабачу Ленінград.

— Цяпер пабачыш,— сказаў Калбенка.

— Цяпер пабачу!— і шчокі дзяўчыны пачалі набываць жывы колер, запунсавелі.

— Пры першай жа камандзіроўцы... думаю, нас перавядуць у ленінградскую зону ПВО... я вазьму вас з сабой. Гэта будзе маёй узнагародай вам...

— Дзякую, таварыш капітан. Я пастараюся заслужыць вашу ўзнагароду.

— Вы ўжо заслужылі яе. Сваёй любоўю да майго горада.

— А ты, капітан, прыватнік — цэлы горад прысвоіў,— пажартаваў Калбенка.

— Вы, Канстанцін Панасавіч, цэлую дзяржаву прысвоілі. Колькі разоў я чуў ад вас: «Мая Украіна»...

Я. засмяяўся. А парторг сур'ёзна і задумліва паўтарыў:

— Мая ненько Украіна!— і сказаў Жэні: — Ты толькі еш больш. А то кажуць, не з'ядаеш салдацкай порцыі. Мала нагаладалася? Капітан цябе возьме за ардынарца. Будзеш насіць яму чамадан.

— Ну, гэта я не дазволю сабе,— сказаў Шахоўскі.

А Жэня зноў знайшла маю руку, як бы шукаючы паратунку ці, можа, жадаючы папярэдзіць, каб я маўчаў: мне яна неяк прызналася, што, калі паесць, у яе баліць жывот.

— Недалёка ад нас ёсць сядзіба, у гаспадара — каровы... Я дамовіўся купляць малако. Вам... хворым...

— Мне?— збянтэжылася і спалохалася Жэня.— Навошта, таварыш капітан? Не трэба, прашу вас.

Мне таксама не спадабаўся такі незвычайны яго клопат. Небывалая раскоша — малако! Не дзіва, што Жэня спалохалася. Пэўна, ад доктаркі Шахоўскі даведаўся пра яе здароўе больш, чым ведае яна сама. Ці хоча памагчы Пахрыцынай вылечыць такіх хворых?

Я паспяшаўся перавесці размову на іншую тэму:

— Таварыш капітан, вы прывялі папаўненне? Адукаваныя дзяўчаты?

— Ігнацьева афармляла іх. Адукаваныя?

— Дзве вучыліся ў Хельсінкі, у педагагічным каледжы.

Пасля размовы з Калбенкам я быў настроены супраць той, што трапіла на батарэю Данілава, хоць і не бачыў яшчэ яе. Таму не ўтрымаўся.

— Не відно, што галадалі там?

— О но, не галадалі,— са стоенай непрыязнасцю адказала Жэня, і гэта яшчэ больш зблізіла нас.

Але павярнуўся Калбенка і пагразіў мне пальцам.

— Павел! Не заводзься! І камсорга свайго не настройвай. Галадалі — не галадалі... Думаю, у малацэ не купаліся.

— Вы супраць прызыву гэтых дзяўчат?— шчыра здзівіўся Шахоўскі.— Хто іх лепш перавыхавае, як не мы?

— А навошта іх перавыхоўваць?

— Вы памыляецеся, таварыш камсорг. Партыйны вопыт вашага парторга падказвае іншае. Верце яго вопыту. Хіба не так, Канстанцін Панасавіч?

— Я яго адукую,— весела паабяцаў Калбенка.

«Дзіўная ў яго весялосць сёння,— падумаў я.— Пасля смерці Ліды хадзіў што хмара, а тут раптам развесяліўся. Чаму?»

Я чакаў, што людзі, гараджане і вайскоўцы, запоўняць усю прывакзальную плошчу, нават вуліцы. Не, плошча, прыбраная, пачышчаная, была пустая.

Людзі, было іх нямала, хоць зусім не столькі, колькі ўяўлялася мне ў сувязі з такой падзеяй, чакалі на пероне, на пуцях. Там жа, на пероне насупраць цэнтральнага ўваходу ў будынак вакзала, стаяла чырвоная трыбуна, вузкі праход да яе ахоўвалі міліцыянеры, раздзяліўшы натоўп на дзве часткі.

Нас прапусцілі па гэтым праходзе, але папрасілі пайсці на пуці, дзе стаяла больш вайскоўцаў. Арганізаванай па-армейску была хіба рота сапёраў-чыгуначнікаў, што рамантавалі пуці. Але і яны не стаялі строем, бо некаторыя з іх працягвалі ўкладваць шпалы і рэйкі, нават не надзелі яшчэ гімнасцёрак, рабілі ў прасоленых да жаўцізны ніжніх сарочках. Але большасць з іх прыводзіла сябе ў парадак і рыхтавалася да пастраення — завіхаліся афіцэры, сяржанты. Адступаючы, акупанты папсавалі грунтоўна пуці, пад стрэлкамі, шпаламі, рэйкамі ўзарваліся сотні мін, ды і нашы бамбардзіроўшчыкі і артылерыя таксама «працавалі» ў час штурму горада.

Пастроеных армейцаў мы ўбачылі на пярэднім краі перона — вялікі, што было нечаканасцю, аркестр; такога аркестра ў ваенны час не прыходзілася бачыць. Каб свяціла сонца, іх надраеныя медныя трубы сляпілі б вочы.

Астатнія ваенныя былі такімі ж стыхійнымі ўдзельнікамі сустрэчы, як і наша чацвёрка,— тыя, каму служба дазваляла адлучацца з баявога паста. Штабісты, палітработнікі, інтэнданты тылавых складаў. Група ўрачоў і медсясцёр шпіталя, некаторыя з медыцынскімі сумкамі.

Сярод цывільных убачыў я тую языкатую жанчыну, з якой мы з Калбенкам пазнаёміліся ў першую раніцу — Параску, і зноў, як і на пахаванні Ліды, зрабілася непрыемна, што яна тут. Асабліва ўразіла, што Канстанцін Панасавіч памахаў ёй рукой — прывітаў як знаёмую. Але потым я ўгледзеў, што Параска падтрымлівае старую, якая плакала. Мая настроенасць супраць яе разбурылася, ва ўсялякім разе, раздвоілася. Вораг не заплача з радаснай для нас нагоды. Ад злосці хіба. Але старая плача не ад злосці — з тае прычыны, якая ліхаманіць Жэню, якая хвалюе Шахоўскага, хоць капітан па-мужчынску, па-афіцэрску тоіць свае пачуцці. Ды ці ёсць тут абыякавыя да падзеі, якая мае адбыцца? Угледзеўся ў твары. Плача не адна старая. Выціраюць слёзы медсястра і стары чыгуначнік.

У асабістым плане мяне нішто не звязвала з Ленінградам. Але і я ўсхваляваўся яшчэ ў той момант, як Калбенка сказаў пра поезд. І хваляванне гэтае расло тут, на пуцях, у людской гушчы. Асаблівая радасць, узнёсласць ад усведамлення незвычайнасці падзеі з'явілася,

калі ў праходзе ля трыбуны з'явіліся генералы, кіраўнікі рэспублікі, горада.

Аркестр грымнуў «Широка страна моя родная». Урачыстая і шырокая, як сама Радзіма, родная, якая, здавалася, заўсёды жыла ў душы, мелодыя давяла да слёз. Шмат каго. Я выцер вочы рукавом гімнасцёркі. Жэня неўпрыкметкі дала мне насоўку. Я ажно разгубіўся.

— У мяне дзве,— прашаптала яна.

Пасоўка пахла... духамі. І гэта ўразіла: пахла зусім іншым жыццём, якога я бадай што і не ведаў ці, ва ўсялякім разе, даўно забыўся на яго. Мірным жыццём. Я чуў толькі пах вайны. Нават тут, на станцыі, я перш за ўсё пачуў пах гары, пажарышча ды свежавыкапанай зямлі, а яна таксама пахла вайной, асабліва з дня пахавання Ліды. З таго дня і кветкі пахлі смерцю. А тут убачыў, што лсанчыны трымаюць кветкі. Пачуў іх водар. І — во шчасце!— гэта быў водар радасці і міру.

Жэня сказала са шкадаваннем:

— А я не дадумалася нарваць кветак.

Змоўкла мелодыя. І адразу ж пачуўся недалёкі паравозны гудок.

— Ідзе!

— Ідзе!

Калыхнуўся натоўп. Змяшаліся цывільныя і ваенныя — усім хацелася стаць бліжэй да таго пуці, на які прыйдзе састаў, а гэта чамусьці быў дальні ад перона пуць. Сапёры ўтварылі ланцуг небяспекі, адціскаючы людзей.

І вось ён, састаў, вынырнуў, як з падзямелля, ля дальняга семафора. Але ішоў не звычайны поезд — набліжаўся, плыў казачны бярозавы гай: так густа паравоз і вагоны ўтырканы бярозавымі, кляновымі, ліпавымі галінамі. Для маскіроўкі ці для прыгажосці? Некаторыя галіны паспелі пажаўцець, быццам там, адкуль ішоў састаў, лісце апаліла восень. На паравозе яно пачарнела ад пылу і дыму. Але надзіва свежа, быццам толькі што павешаны, палымнеў на буферных стойках паравоза чырвоны транспарант. Вельмі захацелася хутчэй прачытаць, якія словы на ім напісаны. Які лозунг, якія прывітанні? Калі поезд наблізіўся і надпіс вырысаваўся, то ўразілі і расчулілі мяне, Жэню... ды і ўсіх, безумоўна, мацней за любое самае гарачае прывітанне чатыры словы. Іх чыталі хорам:

— Масква — Ленінград — Петразаводск — Мурманск.

Якая пераможная геаграфія! Якая радасная!

Састаў падцягваўся вельмі павольна. Машыніст даваў кароткія гудкі, шумна выпускаў пару, папярэджваючы неасцярожных, гатовых у радасці і захапленні змяць ланцуг сапёраў. Людзі махалі рукамі,

кветкамі, крычалі, вітаючы тых, што выглядалі з адчыненых вокнаў вагонаў, з тамбураў і таксама крычалі, плакалі...

Аркестранты так стараліся, што гром іх вясёлага сустрэчнага Марша заглушаў усе іншыя гукі.

І ў гэтым шуме і громе я першы пачуў залп батарэі. Нашай, трэцяй: у Саўчанкі заўсёды адставала адна гармата, з чаго на нарадах часта кпілі, а камбат злаваўся і распякаў камандзіра трэцяга разліку сяржанта Вішняка.

Скалануў страх. Такі страх я перажыў хіба толькі пры налёце ў першы дзень вайны. Але тады, бадай, быў страх за сябе, за сваё жыццё. А тут — за людзей, за тое, што праз міг вялікая радасць можа змяніцца горам — крывёю, смерцю, слязамі.

— Тры-во-га!— што ёсць сілы закрычаў я па-батарэйнаму.— Тры-во-га!

Але мяне не зразумелі. Поезд спыніўся, з вагонаў высыпалі людзі. Цалуюцца. Плачуць.

Я выхапіў пісталет, стрэліў угору.

— Па-а-вет-р-ра! Паветра!

Змоўк аркестр — і ўсе пачулі і залпы батарэі, і мой крык, і шум матораў.

Першымі, кінуўшы барабан і цяжкія трубы, шуганулі шукаць укрыцця аркестранты, штурмавалі дзверы будынка вакзала. Пасажыры — жанчыны, дзеці — палезлі пад вагоны, відаць, па дарозе іх ужо бамбілі і абстрэльвалі. Ці нехта гэтак інструктаваў. Спрытна кінуліся ўроссып па пуцях і далей — за будынкі вакзала цывільныя петразаводцы.

Камандзіры сапёраў крычалі каманды, і байцы займалі месцы, вызначаныя на выпадак бамбардзіроўкі станцыі. Не зрушыліся з месца мы, неарганізаваныя вайскоўцы, ды прадстаўнікі рэспубліканскай і гарадской улады. Дзіўным здаўся мне такі запавольны рэфлекс у нас, зенітчыкаў,— у Шахоўскага, у Калбенкі, у Жэні. Я хоць крычаў, узнімаў трывогу. Не, я зрабіў яшчэ адно: піхнуў Жэню, загадаў:

— Бяжы!

Але яна не кранулася з месца, яна глядзела ў неба. Гэты рух і нерухомасць адбыліся ўміг, у адну хвіліну. Бо тут жа я ўбачыў іх — «юнкерсаў». Чацвёрка «87», на якіх у нас, зенітчыкаў, была асаблівая злосць — нечакана яны з'яўляліся і вельмі прыцэльна кідалі бомбы,— вынырнула з высокіх воблакаў і, здалося, залішне павольна і спакойна зніжаючыся, ішла над чыгункай, на гэты расквечаны галлём, як на сёмуху, састаў. На нас ішлі.

— Лажыся!— закамандаваў нехта з вайскоўцаў.

Я пацягнуў Жэню за руку, і мы ўпалі паміж рэйкамі на цёплыя шпалы, ад іх пахла дзёгцем і... міннай узрыўчаткай. Чаму ўзрыўчаткай? Дзіўная асацыяцыя.

Знаёмае брыдкае выццё, ад якога чамусьці заўсёды халадзела спіна да аняменння — як замарожваюць яе. Пікіруюць. Дзе ўпадуць бомбы? Чакай, што адна з іх упадзе на тваю застылую спіну. Дзіўна: я даўно не баяўся бамбардзіровак — калі бамбілі батарэі. Аднак я баяўся прамога пападання шалёнай бомбы, якая можа разарваць так, што шмаццё твайго гарачага цела ніхто не збярэ і не будзе каго хаваць. Якраз жа той выпадак. Цэляць жа ў састаў, а ён во — за дваццаць метраў. У поезд якраз нялёгка пацэліць. На мост праз Коўду, які прыкрывала наша батарэя, скінулі семсот бомб. Ніводная не трапіла ў мост. Але адна разнесла санінструктара Гольдзіна, ён лавіў ля моста рыбу. Хавалі не чалавека — часткі цела. Вельмі гэта ашаламіла дзяўчатнавабранак.

Знаю — мінулі секунды, але выццё пікіроўшчыкаў здалося бясконцым. Дзе вы, чортавы цацкі? Ірвіцеся хутчэй! Першая вухнула недзе наперадзе па ходу поезда. Ці не ў штабялі шпал трапіла? Над намі праляцелі не асколкі — цяжкія прадметы, глуха ўдарылі ў сцены вакзала, зазвінела шкло вокнаў. Дзве другія, адна за адной, ударылі ззаду, у канцы састава. Пранесла? Над кім пранесла? Над табой? Чалавек эгаіст, ён думае ў такі момант пра сябе. Але ж бомбы маглі пацэліць у іншых, у вагоны з людзьмі. Што там? Узняў галаву. І Жэня ўзняла. Але я тут жа схапіў яе галаву, прыгнуў да масляністай зямлі паміж шпаламі, бо пачуў свіст «нашай бомбы». Вось яна — над намі. Але не гэта не страшна, калі над намі: ёсць траекторыя палёту! Яна ўпадзе далей. Далей...

А-ах!

Гарачая хваля балюча ўдарыла ў спіну, здаецца, знесла яе, маю спіну, ці,ва ўсялякім разе,здзерла скуру. Можа, каб праверыць — ці жывы, я падхапіўся. Жывы! Жывы! Бачу і чую. Чую: б'юць усе нашы батарэі, захлынаецца кулямёт Бондара, ён тут, побач, на даху дыспетчарскай. Бачу: самы блізкі ад нас пасажырскі вагон перакулены ў наш бок. Значыцца, бомба ўпала па той бок поезда. Пашчасціла? Каму? Там жа людзі! У вагоне. Пад вагонам. Бачу яшчэ: у канцы састава гараць таварныя вагоны. Так хутка загарэліся? Акрамя фугасак «юнкерсы» кідалі тэрміткі — гараць дамы за станцыяй.

Падбег Калбенка, крыкнуў на вуха, нібы быў упэўнены, што я аглох:

— Дзеці!— і паказаў на вагоны.

А сам без фуражкі, галава ў крыві. Не паспеў я сказаць, што ён паранены, як парторг кінуўся да вагона.

Я падхапіў Жэню з зямлі — доўгую і лёгкую, што гутаперчавая лялька. Паставіў на ногі. Крыкнуў на вуха гэтак жа, як мне Калбенка:

— Дзеці!

Яна хісталася.

— Ідзі ў вакзал!

— Не, я з вамі.

«Юнкерсы» зрабілі другі заход. Але больш я не лічыў узрывы бомб. Не чуў іх.

Ні праз гадзіну, ні праз дзень, ні цяпер, праз сорак гадоў, я не магу ўзнавіць у памяці паслядоўнасць дзеянняў — што рабіў, з кім выцягваў жанчын, дзяцей, мужчын, цывільных, вайскоўцаў з вокнаў перакуленага вагона, перадаваў іх сапёрам, якія хутка згарадзілі памост са шпалаў. Хто з людзей, якіх я трымаў на руках, быў здаровы, хто ранены, хто, можа, мёртвы,— не помню. Добра помню толькі дзяцей, якіх мы з Жэняй насілі з суседняга вагона. Дзяцей паглушыла, парэзала шклом разбітых вокнаў. Але дзеці былі жывыя. І я радаваўся і ў той жа час уголас, моцнымі словамі, не саромеючыся Жэні, лаяў тых, хто так рана вёз сюды, на нядаўна вызваленую зямлю, дзяцей. Потым я згубіў Жэню. Здалося, яна засталася ў вакзале, куды зносілі раненых.

Насілі раненых з Калбенкам. Але і ён некуды знік. Мяне падхапіла медсястра з санітарнымі насілкамі.

— Памажы мне, младшой...

Ля дальняга таварнага вагона падабралі мы з ёю забітую жанчыну — лейтэнанта медыцынскай службы. Я ўгледзеў, што гімнасцёрка яе акрываўлена на грудзях, на жываце. Такое супадзенне ўразіла, ледзьве не да млоснасці закружылася галава, самлелі ногі. Я пастараўся ўзяць насілкі наперадзе, каб не бачыць нябожчыцу, не разглядаць яе твар, рану...

Не адразу здолеў падняць насілкі. Медсястра, не прызнаючы субардынацыі, вылаяла мяне:

— Бяры ж ты хутчэй, недарэка! Што ты, як кантужаны?

Не панеслі яе ў вакзал — вынеслі праз вароты на плошчу. Там, па асфальце, у адзін рад ляжалі забітыя, іх было чалавек дванаццаць, некаторых накрылі плашчпалаткамі. Твары накрылі, грудзі, а ногі тырчалі. Жаночыя. Дзіцячыя ногі былі босыя. І гэта было вельмі страшным і да пякучага болю кранальным — што смерць захапіла іх босымі. Яны ехалі па-мірнаму. Вярталіся дадому. На вызваленую зямлю. І не даехалі.

Хацелася запомніць твар той, якую я дапамог прынесці да гэтага брацкага ложа на асфальце. Куды яна ехала? Сюды, у Петразаводск, у Кандалакшу, у Мурманск? Ваявала? Ці, можа, толькі з інстытута? Не, гімнасцёрка і пагоны паношаныя. Я прыкмеціў. А ў твар пабаяўся ўгледзецца так, каб ён застаўся ў памяці. Пасля не мог дараваць сабе такой слабасці. Павінен быў запомніць яе аблічча, каб яно жыло са мной, як воблік Ліды, Каці, вобраз Любові Сяргееўны, пражэктарыстак. Мог і імя і прозвішча яе даведацца, хатні адрас — бачыў жа, як медсястра дастала з кішэні яе гімнасцёркі дакументы яшчэ там, каля вагона, а назад паклала медальён з адрасам. Дагэтуль дакараю сябе за тую хвілінную слабасць. Цяжка несці ў памяці безыменнага, безаблічнага чалавека. Стаіць перад, вачамі мёртвая ўрачыха, бачу яе ў сне, І заўсёды: замест твару — нешта жудаснае, часцей — крывавае месіва...

Але на вайне свая логіка: на полі бою ў першую чаргу шукаюць сваіх. І я кінуўся шукаць Калбенку, Жэню, Шахоўскага, бо апякала думка: а раптам хтось з іх пад палаткай?

Зала, прыбраная для сустрэчы першых пасажыраў, зноў была засыпана бітым шклом і тынкоўкай, Але на гэта я звярнуў увагу пазней. А як увайшоў туды — погляд на людзей. Іх было нечпадзявана многа. Раненых. Яны ляжалі, сядзелі на вакзальных лазах і проста на падлозе. Зрэдку нехта войкаў, але ніхто не стагнаў. Плакала дзяўчына.

Раненым аказвалі першую дапамогу ўрачы, сёстры, што, як і мы, сустракалі гэты няшчасны поезд. Ды і не толькі тыя. Відаць, прыехалі з бліжняга шпіталя. Камандаваў падпалкоўнік медыцынскай службы, якога дагэтуль я не бачыў. Камандаваў чамусьці злосна. Крычаў на сясцёр. Накінуўся на мяне:

— Не ранены? Памагай выносіць раненых!

— Я шукаю сваіх.

— Каго сваіх?

— Намесніка камандзіра дывізіёна.

— Не лавіце варон!

Пры чым тут вароны? І чаму я іх лаўлю?

— Павел!

Калбенка! Жывы! Як я ўзрадаваўся! Ён сядзеў у дальнім куце на лаўцы, таму я і не ўгледзеў яго адразу. Побач з ім, адкінуўшыся на спінку лаўкі, на знаёмы вензель «НКПС» паўляжаў чалавек без гімнасцёркі і сподняй сарочкі. Яму апаліла валасы, бровы. Апякло твар, грудзі. Немаладая ўрачыха ў гімнасцёрцы без пагонаў рабіла апаленаму прымочкі. Калбенка памагаў ёй — трымаў пасудзіну, у якую

ўрачыха мачала марлевыя сурвэткі і абкладвала імі галаву, шчокі, плечы, грудзі пацярпеўшага.

— Вам пашанцавала, капітан. Толькі во тут, на плячы, апёк другой ступені.

— Сарочка ратавала мяне. Не тая, у якой нарадзіўся... Казённая. Што мне скажа Кум за сарочку?

«Кум? Наш абознік?» Хто ж гэта з такімі апёкамі? Голас незнаёмы, асіплы. Калі наблізіўся, пазнаў Шахоўскага. І быў ашаломлены тым, як ён непазнавальна змяніўся. З абсмаленай галавой, бровамі, аблеплены марляй, ён нагадваў марсіяніна, якіх малявалі ў фантастычных раманах. І яшчэ жартуе? Што ж сказаць яму? Паспачуваць? Спытаць, чым памагчы?

— Што гэта ў вас за кум такі строгі?

— О! Гэта ўсім кумам кум. Вы любіце сваю кастэлянку?

Жанчына засмяялася.

— Я сама кастэлянка.

— Ды што вы! І так бязлітасна парэзалі казённыя сарочкі?

— Жывы, Павел?— поглядам ласкавых вачэй абняў мяне Калбенка.— А мне — ледзь не знесла макаўку. Не шкада было б — фінскім асколкам, а то роднай шыбкай... трэснула ад пажару — і па галаве парторгу. Несвядомая якйя!

— За гэтага малайца вы так хваляваліся?— спытала доктарка. І да мяне: — Пішы, камсорг, рэзалюцыю, я буду дыктаваць, як ваш капітан выносіў дзяцей з ахопленага полымем вагона... Я сведка аўтарытэтная.

— Вы праўда кастэлянка?

— Амаль. Намеснік начальніка эвакашпіталя.

— Усяго толькі палкоўнік?

— Усяго толькі. Слухайце, капітан, войкніце вы хоць разочак. Не люблю валявых раненых. Знаю. Баліць жа. І моцна.

— Я не ранены. Я падсмажаны. І лічу сябе вінаватым. Мы не выкінулі неабходную колькасць НП. І вось — вынік... Сумны. Аднак з якой дакладнасцю іх навялі. Не абышлося без радыста. Дзе нашы пеленгатары?

Я паспеў акінуць позіркам усю залу, усіх надзіва маўклівых раненых. Дзяўчынку, відаць, павезлі ў шпіталь. Знік шумлівы падпалкоўнік.

— А Жэня... Дзе Жэня?

— А дзе Жэня?— падняўся з лаўкі Калбенка, пэўна, каб пашукаць яе ў зале. Зморшчыўся ад болю, пахіснуўся. Нялёгкая, выходзіць,

рана ў Канстанціна Панасавіча. Недарма ён, дасціпны гаварун, не адказваў на жарты доктаркі. Яна пагразіла яму:

— Сядзіце ціха. Я такі забяру вас у шпіталь.

— Ігнацьева патушыла на мне сарочку,— сказаў Шахоўскі.— Во на каго трэба прадстаўляць. Знайдзіце яе, Шыянок.

Я кінуўся на перон. На ім было нямала людзей. Пасажыры, цывільныя, ваенныя, цярпліва чакалі, калі сапёры-чыгуначнікі сцягнуць з пуці пакалечаныя вагоны, стыкуюць састаў і поезд прадоўжыць свой пераможны ганаровы рэйс ажно да Мурманска. Кожнаму відно, што будзе гэта не скора, праз многа гадзін, можа, праз суткі, але людзі чакалі. Здзівіў спакой гэтых пасажыраў, а галоўнае — што яны не баяцца паўторнага налёту. А мяне палохаў новы налёт. Уцяльмяшыліся ў галаву словы капітана пра наводчыка. І я падумаў, што ваеннаму каменданту станцыі варта было б разгрупаваць гэтых людзей. Недалёка ад станцыі скверык — бярозавы гаёк, у гэтым горадзе ўсе скверы бярозавыя. Ды і бамбасховішчаў фіны не маглі не нарабіць. Але людзям, відаць, лягчэй чакаць, калі бачыш, як ідзе аднаўленне сродкаў іх руху да мэты.

Жэні нідзе не было відаць. Я прабег уздоўж усяго саставу. Зазірнуў у вагоны, з якіх чуліся галасы. У цяплушках ехалі армейскія каманды. У іншых везлі ваенную маёмасць. Суправаджаючыя вартавалі сваё дабро. Таварныя вагоны — у канцы саставу. Бамбёжка іх не кранула. Чаму фашысцкія пілоты цэлілі ў пасажырскія вагоны? Ведалі, што едуць высокія прадстаўнікі ўрада? Генералы, афіцэры? Дык не відаць жа было высокіх чыноў. Загінулі жанчыны. І дзеці. І сярод параненых больш жанчын. Ды тыя, хто іх ратаваў — як Калбенка, Шахоўскі.

Трывога мая за Жэню расла. Дзе яна? Гэта мая ідэя — узяць яе на сустрэчу поезда. Сустрэлі! З'явілася новае незвычайнае пачуццё адказнасці за яе — не камандзірскае, не, і не бацькоўскае, а як быццам табе даручылі чужое дзіця, а ты згубіў яго.

Дзіўна, што сорак гадоў я нярэдка сню адзін і той жа сон: я губляю дзіця... часам гэта нехта з маіх дзяцей — малая Марына, Света, Андрэй, асабліва страшна ў апошнія гады — я губляю Віку, іншы раз — гэта чужое дзіця. Але ўсё адно аднолькава страшна, я прачынаюся ўвесь успацелы, сэрца грукае, як не разаб'е грудную клетку, і пасля баліць. Мяняецца толькі месца, дзе я губляю дзіця: то гэта станцыя з мноствам эшалонаў, цэлых і разбомбленых, то сучасны, чужы і варожы горад, якія я пабачыў,— Нью-Йорк ці Токіо, з мноствам людзей, якія не разумеюць мяне, і я не разумею іх, то нейкія рыштаванні, якім не відно канца і якія ўвышыню сягаюць

ажно за хмары, то падземныя тунелі, вузкія, цесныя, загрувашчаныя бляшанкамі, скрынкамі. Асабліва страшна губляць дзіця ў гэтых кансервавых лабірынтах. Зрэдку губляю ў лесе. Гэта не самы страшны сон, ён як быццам бліжэй да рэальнасці, да жыцця і да выпадку з майго дзяцінства, калі я сапраўды згубіў у лесе сваю малодшую сястру.

Але сон яўна не ад гэтага факта. Сон — ад таго, як я шукаў Жэню на Петразаводскай станцыі, дзе пасля бамбёжкі ўсталяваўся парадак і дзе стаяў усяго адзін эшалон, калі не лічыць фінскіх вагонаў на дальніх пуцях.

Так урэзалася ў мозг нарастанне майго неспакою да панічнага страху. Расло адчуванне: я вінаваты ў тым, што згубіў чалавека. Усплыла нядобрая асацыяцыя: я сапраўды-такі (Калбенка гэта адразу зразумеў) моцна спалохаўся, пачуўшы ў доме ў Мядзведжагорску Лідзін голас. Як прадчуванне. Ці не яно ганяла мяне па ўсёй тэрыторыі станцыі, ад паравоза да апошняга вагона і назад? Няўжо маё страшнае прадчуванне зноў збудзецца? Жах!

Пачаў пытаць у сапёраў, ці не бачылі яны дзяўчыныбайца?

— Высокая такая,— я паказваў яе рост, паднімаючы руку над галавой, хоць не на столькі Жэня вышэйшая за мяне, проста худая, ад таго і здавалася ненатуральна высокай.

Сапёры смяяліся з такой прыкметы.

— Не дацягнешся пацалаваць, малодшы лейтэнант.

Жарты не толькі былі непрыемныя, яны ўзмацнялі трывогу. Невядома, як доўга я шукаў бы. Але стары сапёр, бацька мой па ўзросту, помню, ён рабіў у споднім сарочцы і ў разрэзе на грудзях быў відаць шрам, пэўна, прачытаў на маім твары трывогу, а перад тым, мабыць, пачуў жарты сваіх таварышаў, што малодшы лейтэнант згубіў дзяўчыну, спыніў мяне:

— Каго шукаеш, сынок?

— Сястру.

— Сястру? Ты прыехаў ці яна прыехала?

— Не... мы разам...

— Худая такая? Ленінградская?

Бацька! Колькі ў цябе празорлівасці» тактоўнасці, чуласці! Шмат хто галадаў, але такія, як Жэня, могуць быць толькі з Ленінграда.

— Яна!

— Дык яна ж... як занеслі мы з ёй забітую... вярнуліся... падлезла пад вагон і пайшла вунь туды, да тых вагонаў. Мабыць, нядобра ёй. Але па-рознаму бывае нядобра чалавеку. Следам не пройдзеш...

— Дзякую, бацька.

Знайшоў Жэню зусім недалёка ад эшалона, праз нейкія тры пуці. Яна ляжала за ручной дрызінай на грудку свежага жоўта-белага, ажно іскрыўся, пяску. Ляжала ніцма. Пясок гэты скалануў да жудасці — як быццам толькі што невядома кім выкінуты з магілы. Чаму яна ўпала на гэты пясок?

Я застыў над Жэняй, здранцвелы ад жудасці. Няўжо мёртвая? Няўжо яшчэ адна смерць? Ад чаго? Не ад асколка ж! Яна насіла раненых, забітых і... не вытрымала яе хворае сэрца.

Не! Трохі прыўзняліся яе худзенькія лапаткі. Дыхае!

Я ўпаў на калені. Схапіў яе за плечы.

— Жэня! Што з табой? Жэня!

Павярнуў дзяўчыну на спіну.

У шчаку ўпіліся пясчынкі, і шчака гэтая была ружавейшая за другую, палатняна-белую. Шчака была жывая. Я правёў рукамі па Жэніных грудзях, па жываце, не верачы вачам, што раны няма. У мазгу маім ззяла Лідзіна рана, і мне здавалася, што дзяўчына можа памерці толькі так — ад раны ў жываце.

Нечакана прагучаў суровы голас:

— Што ты мацаеш? Яна мёртвая.

Хто гэта? Нада мной стаяла... Параска.

Яна здалася мне вяшчункай бяды. І я закрычаў:

— Не! Не! Яна жывая! Жывая! Гэта табе хочацца, каб яна была мёртвая. Фашыстка!

— Што ты вішчыш, як баба? Калі жывая, то давай панясём у вакзал. Там — дактары. А фашыстку я табе, малакасос, прыпомню. Я табе пакажу, якая я фашыстка.

О цуд! Ад майго крыку ці ад нашых галасоў Жэня расплюшчыла вочы. Паглядзела няўцямна. І тут жа паспрабавала сесці. Я падтрымаў яе.

— Што з табой, Жэня? Што з табой?

Нейкую хвіліну яна як бы ўспаміназа, што ж з ёй. Потым аслабела-хворым голасам пачала тлумачыць, вінавата, апраўдальна, усё роўна як зрабіла штосьці нядобрае:

— Столькі я бачыла смерцяў... на санках вазіла на могілкі... маму завезла, сястру. Я ўсё роўна што чакала іх з гэтым поездам... А тут — зноў смерць, кроў... кроў. Мне стала блага. Баялася ўпасці там, на людзях... Падумалі б, што я з поезда. І панеслі б... Мяне панеслі б... А гэта страшна, калі нясуць.

— Няшчасныя дзеці,— уздыхнула Параска.

Глянуў я на жанчыну і ўбачыў... вочы, поўныя слёз.

Гэта ашаламіла. І стала сорамна за свае падазрэнні, за вельмі абразлівае слова, якое я толькі што кінуў ёй. Меў рацыю мудры Калбенка, калі раіў не спяшацца з вывадамі. Варта папрасіць прабачэння. Але на гэта — сорамна прызнацца — не хапіла духу.

— Вам памагчы?— спытала Параска.

— Памажыце,— гэта і было маё прабачэнне і маё прымірэнне з ёй.

— Я сама... Я сама,— Жэня спрабавала падняцца, але ногі не слухаліся, яна ўпіралася рукамі ў пясок, а ён цёк паміж пальцамі, поўз пад ногі.

Параска падхапіла Жэню пад пахі, лёгка і, здалося, груба, як абмалочаны сноп.

— Не ламайся. Бачыла, як ты сама. Усё роўна што бог паслаў табе гэтую кучу пяску, А то магла б галавой аб рэйку. Чаго ты баішся? Не на танцах самлела. Не адвернуцца кавалеры.

Аднак, калі падлазілі пад вагон, Жэня шэптам папрасіла:

—Павел Іванавіч, не кажыце нікому...

Я сціснуў яе руку: не скажу.

Але як. падвесці яе да Шахоўскага і Калбенкі? Даручыўшы Жэню жанчыне, якую колькі хвілін назад абразіў, я цяпер быў ёй удзячны, я кінуўся наперад, каб адцягнуць увагу афіцэраў ад Жэнінага стану.

Шастоўскі сядзеў на той жа лаўцы, забінтаваны з галавы да пояса, у накінутым на плечы шпітальным халаце. Калбенка ляжаў побач. Спаў ці страціў прытомнасць? Урачы зніклі. Яны аказалі першую дапамогу. Увогуле людзей у зале стала менш. Дзве сястры паілі раненых нейкім ружовым пітвом. І я адчуў раптам, як страшна мне хочацца піць. Не, у першую чаргу напаіць Жэню!

Шахоўскі далікатна ўпікнуў:

— Дзе вы зніклі?

— Шукаў Ігнацьеву.

— Знайшлі? Дзе яна? Жывая?

У гэты момант Параска падвяла Жэню, падтрымліваючы пад руку, і апалены капітан убачыў змярцвелую збялелую дзяўчыну.

— Што з вамі, Ігнацьева?

— Мы насілі забітых. І ў яе закружылася галава. І ў мяне закружылася галава...— садзячы Жэню побач з Шахоўскім, проста і праўдзіва растлумачыла Параска. І загадала, як гаспадыня, як старэйшая:— Сястрычкі! Вадзічкі сюды! Вадзічкі!

— Шыянок, бяжы на пазіцыю нашага кулямёта! І пазвані маёру. Няхай ляціць сюды Пахрыцына. А то «кастэлянка»,— ён балюча

пасміхнуўся,— забярэ нас у свой шпіталь. А нам з парторгам не хочацца. Свае раны вылечым дома.

Усхваляваўся я не столькі з-за Шахоўскага. і Канстанціна Панасавіча, хоць тое, што парторг ляжаў як у непрытомнасці, спалохала,— яны могуць палячыць свае апёкі і ў шпіталі. А вось Жэня...

Трубку ад тэлефаністкі выхапіла Любоў Сяргееўна. Яна сядзела на КП. Яна званіла кулямётчыкам. Шукала нас.

— Што з ім? Што з ім?

Я зразумеў з кім — з ім — і, бадай, узлаваўся. Ён жа не адзін. А што з намі — з Калбенкам, з Жэняй, са мной — гэта доктара, выходзіць, не хвалюе.

— Апякло капітана.

— Як апякло? Дзе? Ды вы што, анямелі там? Шыянок!

— Я аглох. Прыязджайце — пабачыце,— і злосна кінуў трубку.

Толькі паспеў прывалачыся ў вакзал — бегчы не мог, бо раптам, пасля тэлефоннай размовы, адчуў смяртэльную стомленасць,— як яны з'явіліся — маёр Кузаеў і яна, Пахрыцына.

Любоў Сяргееўна бегла наперадзе.

Санітары забіралі чарговую партыю раненых. Ледзьве не гвалтам, паказваючы паперку з прозвішчамі, хацелі забраць Калбенку і Шахоўскага.

Адштурхнуўшы санітараў, не зважаючы на свайго камандзіра, на Калбенку, на мяне, на радавую Ігнацьеву, капітан медыцынскай службы, строгая, валявая, без жаночых сантыментаў, у дывізіёне яе баяліся больш, чым непасрэдных начальнікаў сваіх, раптам упала на калені перад Шахоўскім, абняла яго ногі, толькі яны былі незабінтаваныя.

— Пеця! Пецечка! Жывы! Жывы!

Шахоўскі зняў з яе галавы пілотку, прыгладзіў бінтамі валасы.

Жэня прыціснула пальцы да вачэй.

Калбенка крактануў.

Кузаеў дакараў неяк вельмі па-цывільнаму, пабратняму:

— Любоў Сяргееўна! Ну, што вы! Людзі глядзяць.

Я дараваў начальніку медчасці яе пытанне «Што з ім?». З ім адным. Не з намі. З намі магло здарыцца ўсё, што здараецца на вайне. Абы не з ім!

Па дарозе на КП яна ўпікнула мяне:

— А вы жорсткі чалавек, камсорг. Хіба можна так дакладваць: «Прыязджайце — убачыце!»

* * *

*Не магу налюбавацца Мінскім метро. Пры адкрыцці яго, на мітынгу, горла сціскалі спазмы гордасці і радасці. За горад, дзе я пражыў дзве трэці жыцця, дзе нарадзіліся мае дзеці, унукі. За людзей, што будавалі гэты казачны — для мяне казачны — горад.*

*Помню, якім убачыў яго ў сорак пятым, вяртаючыся з Германіі, якім бачыў штодня, калі вучыўся тут і сам хадзіў на суботнікі.*

*Я старэў — горад маладзеў: вось што якраз казачнае. Але не ў меншай ступені, чым метро, я любуюся праспектам. З пускам метро ён як бы абнавіўся, памаладзеў, папрыгажэў, пашырыўся. Аднак быццам скараціўся: асобныя часткі яго ансамбля, якія раней здаваліся рознастылёвымі і выклікалі спрэчкі знаўцаў архітэктуры, раптам аб'ядналіся ў адзін ансамбль, у адну каменную гармонію. І нішто не рэжа вока, хіба толькі недарэчная тэлевізійная вежа, раней яна была хоць завершанай, завостранай, а цяпер усё роўна што перарэзаная напалам, і на тое, што засталося, насаджаны недарэчны круг. Але гэта дробязь. Можаш не любавацца тым, што не падабаецца. Лепш палюбавацца адноўленай акадэміяй, яе белымі калонамі, якія раптам — не баюся гэтага сказаць — упрыгожылі цэлы раён, разам з фасадам БПІ стварылі яўную плошчу. А якім апафеозам архітэктурнай сімфоніі гучыць рэстаўрыраваная плошча Перамогі!*

*Многа гадоў я ўціскаўся ў аўтобусы, у тралейбусы. А цяпер, калі можна хутка, з камфортам праехаць у метро, я часта хаджу пехатой. Вельмі часта. Пасля працы — амаль заўсёды. І маршрут гэты (дваццаць гадоў назад лічылі, што я атрымаў кватэру на ўскраіне горада) здаецца сапраўды на здзіўленне кароткі. Хатнія мае і калегі жартуюць, што, маўляў, пазнавата я пачаў умацоўваць сваё здароўе. Цяжка растлумачыць ім, што справы не ў здароўі, хоць умацоўваць яго ніколі не позна. Галоўнае — радасць, якую я перажываю ад гэтых прагулак. Але бывае, што часам апаноўвае страх. Ён б'е ў сэрца, у мозг нечакана, так жа нечакана, як гэта бывае (часцей усяго на дачы), калі любуюся гарэзлівай гульнёй унучак ці слухаю філасофскія, няхай сабе часам і блытаныя спрэчкі Марыны з Андрэем, Святланай, з Пятроўскім, з іншымі гасцямі.*

*Тады я замiраю ад жахлівай думкі: «Няўжо можа здарыцца, што атамны смерч спаліць усю гэту прыгажосць, створаную прыродай і розумам, працай людзей? »*

*Чытаў сам, чуў анатацыі па «галасах»: ледзьве не ўсе пісакі, што сачыняюць фантастычныя раманы пра будучую вайну, першы*

*атамны ўдар наносяць па Мінску. Чаму па Мінску? Даўся гэтым людаедам Мінск у знакі! Ці не з мінулай вайны?!*

*Аднойчы я спыніўся так незвычайна, што маладая жанчына, магчыма, мая былая студэнтка, заклапочана спытала:*

*«Вам блага? Памагчы?»*

*Мне такі блага. Але ад гэтай хваробы няма лекаў. Не! Есць! Уменне перамагчы страх. Здаецца, я яшчэ ўмею адолець гэтае цяжкае пачуццё. Калегі, студэнты лічаць мяне аптымістам і жыццялюбам. Прыступы дэпрэсіі, роспачы ведае адзіны чалавек у свеце — Валя. Хоць і яна, здаецца, не разумее ўсёй глыбіні маёй трывогі, нярэдка ўпікае:*

*«Чаго ў цябе баліць галава за цэлы свет? Жыві прасцей. Калі ты верыш у людзей, то вер у іх мудрасць. Чалавецтва не дасць сябе забіць».*

*Я зайздрошчу жонцы: на ўсё яна глядзіць значна прасцей. Што гэта — індывідуальнае ці агульнамацярынскае?*

*Пазаўчора ў мяне не было першай «пары», і я пайшоў пехатой. Была ціхая сухая і цёплая раніца. Час «пік», калі спяшаюцца на работу, мінуў. Гандлёвы бум яшчэ не наступіў — ЦУМ, ГУМ, прамтаварныя, магазіны пакуль што зачыненыя. І праспект здаваўся бязлюдным — рэдкія нетаропкія пешаходы ды імклівыя. «Волгі», «Жыгулі», яны не раздражнялі, наадварот, стваралі той натуральны рытм. Жыцця горада, які супакойвае, настройвае на добры лад, калі ідзеш пехатой.*

*Калі машын столькі, як у Нью-Йорку ці Лондане, ды і ў нас, у Маскве, у часы «пік», яны здаюцца стыхіяй, пачварамі, якія з'елі, раздушылі, заняволілі людзей. Пешаходы ў такім тлуме робяцца раздражнёныя, таропкія, разрозненыя — шаруюцца адзін аб аднаго, штурхаюць і ўсё роўна кожны сам па сабе, як у шкарлупіне ці панцыры. І думкі, жаданні, імкненні ў іх дробязныя, пабытавыя, эгаістычныя — хутчэй дадому, да міскі з супам, да біфштэкса, да шлёпанцаў, мяккай канапы і тэлевізара. У сваю ячэйку! Гэта — рэакцыя на нашэсце стальной, гумавай, газавай стыхіі.*

*У шалёным рытме вялікіх гарадоў людзям не хапае часу падумаць пра тое галоўнае, ад чаго залежыць іх будучыня, лёс дзяцей, унукаў.*

*«А што толку, што ты бясконца думаеш пра гэта?» — здаецца, Валіна пытанне. Можа, Пятроўскага. Не, хутчэй — Марыны.*

*Я спрачаўся з імі, седзячы за, адным сталом, спрачаўся ў думках у бяссонныя ночы і ў часе прагулак па праспекце, па парку Чэлюскінцаў.*

*Але ў тую раніцу мне нават спрачацца не хацелася са сваімі апанентамі — так хораша, прыемна пачуваў сябе. Бываюць, выходзіць, хвіліны, калі адступаюць усе трывогі, страхі, клопаты, згрызоты, глабальныя і маленькія,— накшталт учарашняй сутычкі з Марынай усё з-за тых жа Вікі і Мікі.*

*Любаваўся стрэчнымі жанчынамі, весела думаючы, што ўрэшце стары эстэт можа дазволіць сабе такую раскошу. Не часта з'яўляецца такое жаданне. Радаваўся, што нашы жанчыны навучыліся прыгожа адзявацца. «Не горш за францужанак»,— падумаў я, успомніўшы сваю мінулагоднюю паездку ў Парыж, на сесію ЮНЕСКО.*

*Увайшоў у пакой сваёй кафедры.*

*Вялікая кафедра — па колькасці людзей. Вялікі пакой. Стадола. Прасторна, але няўтульна, нягледзячы на ўсе мае і калег маіх клопаты. Па насычанасці сцен наглядным матэрыялам мы трымаем ледзьве не першае месца. Але ўтульнасць ствараюць не толькі стэнды, партрэты, дыяграмы. Кожная замкнутая прастора патрабуе свайго інтэр'ера, а інтэр'ер пакоя ствараецца адпаведнай мэбляй. А яна — казённая. «Ад казённай мэблі — казённыя думкі»,— пажартавала неяк наш,а вясёлая аспірантка Наташа Сялец.*

*У пакоі было мнагавата для ранняга часу, калі ішлі лекцыі,— электразванкі не абвяшчалі яшчэ перапынак — выкладчыкаў, хоць гэта не здзівіла: на канец дня я назначыў пасяджэнне кафедры, усе «падцягваюць» свае папяровыя справы, справаздачы і планы — наша слабае месца, за гэта нас неаднойчы крытыкавалі.*

*Я звычайна з парога лавіў настрой калег, калі здаралася нешта незвычайнае, нават калі сутыкнуліся паміж сабой дзве жанчыны. А тут нічога не заўважыў.*

*— Дзень добры, таварышы. А дзень такі добры. Я ішоў ад самага дома пехатою...*

*— Ты не чуў? — спытала Соф'я Пятроўна.— Забілі Індзіру Гандзі.*

*Падхапіўся заўсёды шумлівы, кідкі на сенсацыі і здольны да інтрыг, за што я не любіў яго, дацэнт Барашка:*

*— Яны ўсадзілі ёй восем куль у жывот.*

*Само паведамленне ашаламіла. А тон Барашкі — здалося, што ён смакуе трагедыю, як нярэдка смакаваў факультэцкія сенсацыі,— абурыў мяне, не, не абурыў — абразіў, усё роўна як бы не тым тонам, нетактоўна паведамілі пра смерць роднай маці.*

*Чаму я падняў партфель высока, да грудзей, і чаму, з-за якога рэфлексу выпусціў яго на падлогу з грукатам — уцяміць і растлумачыць не магу. Чаму крыкнуў — разумею.*

*— Не смейце так! Не смейце! Забілі маці! Маці!..*

*Крык мой усіх здзівіў, Барашку — ашаламіў. Ён тут жа звярнуўся да калег, пакрыўджаны, узлаваны:*

*— А што я сказаў? Таварышы! Што я такога сказаў? Што не скажу — Паўлу Іванавічу не падабаецца.*

*Соф'я Пятроўна глядзела на мяне сумна і дакорліва, вочы яе гаварылі: «Ах, Павел, Павел».*

*Сарваўся я, безумоўна, дарэмна: ніхто не можа, акрамя хіба Зосі, зразумець прычыну, і я не здолею растлумачыць яе ні цяпер, ні пазней. Але прасіць прабачэння не мог. Каб хоць неяк даць зразумець — з-за чаго ўсё ж гэтак, я, падымаючы, партфель, прамовіў ужо амаль шэптам:*

*— «Усадзілі»... Божа мойI «Усадзілі»... Нельга ж так пра смерць маці.*

*Дайшло? Не дайшло?*

*Ва ўсялякім разе, наступіла няёмкая і цяжкая хвіліна маўчання. Нават Барашка змоўк. Я сеў за свой стол, сціснуў далонямі скроні, у якія грукала кроў. Хвароба ўзросту: чуваць — што і крыві цесна ў склератычных артэрыях. А тут нечакана гэткая стрэсавая сітуацыя: сама трагедыя — і мая дзіўная рэакцыя.*

*Адняўшы ад твару рукі, я раптам убачыў, што Барашка круціць пальцам каля сваёй скроні — паказвае: маўляў, таго... «дажыў стары да пункціка».*

*Учынак на мяжы хуліганства, калі мець па ўвазе розніцу ва ўзросце і службовую субардынацыю. Але я не абурыўся. Наадварот, трохі, можа, нават супакоіўся, бо на міг думкі пераключыліся на ўнутранае, дробязнае. Каму нахабнік падае такія знакі? Наташы? Не. Тая ламае пальцы ад болю за мяне. Наташа разумная і, напалоханая аднойчы маім сардэчным прыступам., з кранальнай увагай ахоўвае мой спакой. Не Соф'і ж Пятроўне Барашка падае знак, што ў загадчыка кафедры заскок. Ведае добра нашы з Зосяй адносіны і баіцца я,е бескампраміснасці. Пятроўскаму? Няўжо Пятроў скажу? У іх наладзіліся блізкія адносіны? Дзіўна, на якой глебе? Міхаіл Міхайлавіч ніколі не дазваляў малодшым калегам фамільярнічаць з сабой. У яго больш, чым у каго, прафесарскага гонару; Зося жартуе, што ў яго нават паходка прафесарская.*

*Сябар мой і сусед па дачы гладзіў сваю лысую, як бубен, галаву і пасміхаўся. Гладзіў, здалося, задаволена, знаёмы жэст, яшчэ Валя*

нeяк даўно сказала, што Міхал у такі міг яўна шэпча сваёй галаве; «Ах, якая ты ў мяне разумная!»

«Чым жа ты задаволены, дружбак мой? Тым, што я сарваўся з-за трагедыі ў чужой краіне? Лічыш гэта... чым?, слабасцю маёй? Але я не саромеюся такой слабасці. Няхай саромеецца Барашка, калі яна кранула яго толькі як сенсацыя».

Варта сказаць гэта. Але нахлынуў прыступ фізічнай слабасці, які ўжо неаднойчы палохаў мяне, гаварыць не хочацца — цяжка.

Пятроўскі — дыпламат, хітры і тактоўны. Нярэдка, калі на кафедры збіралася навальнічная хмара, ён умеў так далікатна «расстраляць» яе, што яна пралівалася дожджыкам, ад якога кожны хаваўся пад свой «парасон».

Я лічыў гэта мудрасцю. Зося злавалася: «Ды няхай бы лепш грымнула. Навальніца ачысціла б атмасферу, дала б азон для новых узаемаадносін».

Міхаіл Міхайлавіч і тут адвёў увагу на іншае:

— Павел Іванавіч, дазволь не прысутнічаць на пасяджэнні кафедры. У партшколе абараняецца Зубровіч, наш з табой вучань. Я неафіцыйны апанент. Але мне хочацца выступіць. Ён зрабіў цікавыя сацыялагічныя даследаванні, як успрымаецца палітычная інфармацыя рознымі сацыяльнымі, і ўзроставымі пластамі насельніцтва. Але вывады робіць, па-мойму, залішне нечаканыя. Ці не паспешлівыя?

— Вам хочацца заваліць Зубровіча?

— Соф'я Пятроўна! За сваю прафесарскую дзейнасць я не заваліў ніводнага саіскальніка. Я ўсім памог.

Зосю ён далікатна сцёбнуў: а вось вы, маўляў, завальвалі. Зося, якая дзесяць гадоў назад сама адмовілася абараняць напісаную і ўхваленую мной, кіраўніком, доктарскую, была залішне патрабавальнай да ўсіх іншых. Яе баяліся.

Але і гэты дыялог, і ўсё, пра што пасля гаварылі выкладчыкі,— Пятроўскі прафесійнай размовай разварушыў калег,— даходзіла да мяне, як з суседняга пакоя, дзе размяшчалася кафедра замежных моў.

Разбалелася галава. Захацелася раптам легчы і... заснуць. Гэта ўжо зусім нешта новае, раней любая ўзрушанасць, наадварот, зараджала энергіяй. Толі стан спалохаў, але не тады — пазней, дома, кала ў бяссонную ноч я ўспомніў пра жаданне заснуць на кафедры. Я не пачуў нават званка — пачуў цішыню, якая наступіла ў пакоі.

— У цябе лекцыя, Павел,— сказала Зося.

*— У мяне лекцыя,— і ўсё роўна што праз мяне прапусцілі ток: уміг зарадзіўся незвычайнай энергіяй.— Я прачытаю гэтую лекцыю! Я прачытаю!..*

*— Я пайду з табой.*

*— Навошта?*

*— У мяне «фортка». А я даўно не слухала, як ты чытаеш! Не выбіваешся, з баразны, стары конь?*

*Зося засмяялася, і я засмяяўся.*

*Было прыемна ісці па доўгім калідоры побач з ёй. Нашы адносіны — узор чалавечых адносін. Мне даўно хочацца расказаць пра іх студэнтам, я ўпэўнены, яны, маладыя, зразумелі б. А вось некаторыя старыя могуць і плётачку пусціць. Я, як ні дзіўна, я, дзед, баюся гэтых брудных усмешачак. Той жа сябар мой Пятроўскі яшчэ гадоў пятнаццаць назад пажартаваў (брыдкі жарцік!) у прысутнасці Валі:*

*«А ён жыве, што шах. Яго даглядаюць дзве жонкі.*

*Ты — дома, на кафедры — Соф'я Пятроўна».*

*Маладая Валя не пазбаўлена была рэўнасці. Але ў тым узросце ў яе хапіла мудрасці даць належную ацэнку Міхалаву жарту.*

*«Што ён так пошла жартуе, твой лепшы сябар?»*

*«Не звяртай увагі. Не ўсе ўмеюць пажартаваць разумна».*

*«Я не звяртаю. Але калі ён такое разносіць на рабоце...»*

*А разнесці было лёгка: гады за два да таго Зося разышлася з мужам і жыла з дачкой-студэнткай.*

*Я ўдзячны жонцы, што яна не змяніла адносін да Зосі і не пазбавіла мяне ды і сябе такога вернага сябра. Хоць сяброўства яе было нялёгкім: бадай ніхто не крытыкаваў мяне за прамашкі на кафедры і нават за публікацыі так бязлітасна, як яна. І не толькі адзін на адзін. Але і на пасяджэннях, сходах. Часам было непрыемна. Зрэдку мы бадай што сварыліся з ёй. Але шумныя «объяснения» не парушалі нашай дружбы. Такім, відаць, і павінна быць сапраўднае сяброўства.*

*Студэнты шумна падняліся.*

*Я павітаўся з імі і ўзышоў на кафедру. У вялікай лекцыйнай аўдыторыі высокі амфітэатр, і ў мяне неаднойчы ўзнікала адчуванне, што тыя, увышыні, на апошніх лаўках, бліжэй да ліяне, чым тыя, што сядзелі пад самай трыбунай. Ва ўсялякім разе, я заўсёды звяргаўся да тых, дальніх, і на маіх лекцыях туды садзіліся не тыя, хто хацеў употай пачытаць дэтэктыўны раман ці закончыць практычнае заданне.*

*На кафедральным узвышэнні стаяў доўгі стол: акрамя лекцый у гэтай аўдыторыі праводзіліся сходы, на якіх выбіраліся прэзідыумы. Але Соф'я Пятроўна не села за стол, яна села ў трэцім радзе на*

*вольнае месца; так садзяцца члены кафедры на адкрытых лекцыях, а інспекцыйныя камісіі, наадварот, сядзяць за сталом. Між іншым, я даўно ўжо не баяўся ніякіх інспекцый, але мяне раздражняла, калі міністэрскія дамы садзіліся ў мяне пад локцем і ад іх патыхала духамі — ад духоў у мяне алергія.*

*Звычайна я пачынаў лекцыю адразу, каб не адцягваць увагу на што іншае. Часам я пытаўся: «На чым мы спыніліся ў мінулы раз?» І сам адказваў — перакідваў масток. Размовы пра што іншае я дазваляў толькі ў канцы лекцыі, за што мне начальства рабіла заўвагі — займаю час перапынку.*

*Перад той лекцыяй я доўга ўглядаўся ў маладыя, да радаснага захаплення прыгожыя твары будучых біёлагаў. Не гісторыкаў. Лекцыя па гісторыі партыі на біялагічным факультэце.*

*Студэнты насцярожыліся. Нават тыя дзявочыя твары, на якіх іскрылася вясёлая гарэзлівасць, рэшткі нядаўняга смеху, зрабіліся засяроджана-сур'ёзнымі.*

*— Дзеці! — нечакана для сябе, а тым больш для іх, студэнтаў, вельмі нязвыкла звярну ўся я.— Забілі маці. Устаньце.*

*Паўтараста чалавек падняліся ў адзіным парыве — ажно калыхнулася паветра. Але на тварах былі збянтэжанасць, здзіўленне, запытанне. А ў мяне здрадлівы спазм выціскаў слёзы, і я не здолеў адразу растлумачыць.*

*Павярнулася да аўдыторыі Соф'я Пятроўна, сказала:*

*— Забілі Індзіру Гандзі.*

*Кароткае «Ах!» — і глухое жалобнае маўчанне.*

*У грудзі хлынула цёплая хваля добрага пачуцця да сваіх выхаванцаў, якіх нярэдка я крытыкаваў за іх... апалітычнасць. І мне зрабілася лёгка. Кіўнуўшы студэнтам галавой, каб садзіліся, пачаў лекцыю. Лекцыю пра Індыю, пра барацьбу вялікага народа супраць каланіяльнага прыгнёту.*

*У Зосі спачатку выцягнуўся твар, расшырыліся вочы. Але ўгледзеўшы, што я заўважыў яе здзіўленне, яна з ухвалай кіўнула мне галавой: «Працягвай. Я разумею цябе».*

*Але больш, чым яе адабрэнне, натхняла ўвага студэнтаў, іх вочы, поўныя шчырай цікавасці.*

*Пасля я сам здзіўляўся, што, не займаючыся спецыяльна вызваленчым рухам, я так многа ведаю пра Індыю. Памагла, напэўна, паездка туды, хоць і даўняя ўжо — гадоў восем назад. Я прачытаў курс лекцый у Калькуцкім універсітэце. Па-англійску. Паўгода перад тым паглыбляў сваё веданне англійскай мовы.*

*Я расказваў пра Гандзі, якога народ называў Махат Май — Вялікая Душа.*

*Я расказваў, як, пасаджаны англічанамі ў турму, Джавахарлал Неру бадай штодня дасылаў дачцэ Індзіры пісьмы, у якіх выкладаў свой погляд на сусветную гісторыю. Пісьмы гэтыя сталі фундаментальнай працай не толькі па гісторыі, але і праграмай барацьбы індыйскага народа. Пасля дома праверыў і здзівіўся, што гэтак помніў Перу: асобныя месцы цытаваў ледзьве не даслоўна — не толькі тлумачэнне гісторыі, але і бацькоўскія звароты да дачкі, напрыклад такі (безумоўна, робячы запіс, я заглянуў у том Неру):*

*«...Ты была хворая, дарагая, і, наколькі я знаю, магчыма, яшчэ не ўстаеш. Праходзіць многа часу, перш чым навіны пранікаюць у турму. Я нічым не магу памагчы табе, і ты павінна сама падаглядаць сябе. Здзіўляюся, як усіх нас раскідаў лёс,— ты далёка ў Пуне, мама ў Алахабадзе, астатнія па розных турмах!»*

*Але яшчэ лепш я помніў, тут сапраўды ўжо амаль даслоўна, што пісаў Леру Індзіры пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, пра Леніна.*

*«Леніну былі неўласцівы хістанні ці няпэўнасць. Ён валодаў пранiклівым розумам, які пільна сачыў за настроем мас, яснай галавой, здольнай прымяняць добра прадуманыя прынцыпы да сітуацыі, якая хутка мянялася, нязломнай воляй, дзякуючы якой цвёрда трымаўся курсу, які намячаў, не зважаючы на непасрэдна дасягнутыя вынікі».*

*«З прыездам Леніна ўсё змянілася. Ён адразу ацаніў становішча і з геніяльнасцю сапраўднага правадыра выпрацаваў адпаведную марксісцкую праграму».*

*Такімі вось расказамі пра Леніна, пра рускую рэвалюцыю вучыў Бацька народа і сваю пятнаццацiшаснаццацігадовую дачку і сваю вялікую нацыю барацьбе, мужнасці і ўменню перамагчы. А потым я расказаў аб драматычнай барацьбе самой Індзіры Гандзі. Колькі рэакцыя пляла змоў супраць яе, супраць партыі, якую яна ўзначальвала пасля смерці бацькі. Ворагам не ўдалося перамагчы яе ў палітычнай барацьбе, бо за ёй ішоў шматмільённы народ,— яны падаслалі прадажных пачвар, якія. пасмелі страляць у жанчыну, у маці.*

*Гаварыў я ўсхвалявана, не па-прафесарску, у нейкія моманты мяне амаль ліхаманіла, і я то халадзеў, то абліваўся потам.*

*Гэтае хваляванне не магло не перадацца студэнтам — бачыў па іх тварах, вачах. Ды і Зосі. Яна глядзела на мяне... Як яна глядзела на мяне! Часам — з захапленнем, часам — са страхам. За што яна баялася? За маё сэрца. Можа, менавіта з-за яе вачэй я скончыў нечакана, без гучных слоў. Стомлена сеў да стала — як бы схамянуў-*

*шыся, што прачытаў не тое, што належала. Але раптам адтуль, з гары, з высокіх лавак, скаціліся воплескі і, набліжаючыся, нарасталі, што снежны вал. Яны, бадай, спалохалі. Здаралася, што мне апладзіравалі на лекцыях, але вось так — ніколі.*

*Я падняўся, з удзячнасцю пакланіўся і пайшоў да дзвярэй пад такт воплескаў, якія зрабіліся рытмічнымі. Зося дагнала мяне ў калідоры. Пайшла побач моўчкі.*

*— Я віншую цябе. Мяне заўсёды здзіўлялі твае веды... Але каб вось так... з ходу...*

*— Калі ласка, Зося.*

*Яна памаўчала.*

*— Але не кіўнуць нам за такі экспромт?*

*— Чаго ты баішся?*

*— Я нічога не баюся, Павел. Я стамілася. І гатова хоць заўтра на пенсію. Я за цябе баюся.*

*— А што мне пагражае? За расказ пра Індзіру Гандзі?*

*— Ты. ідэаліст, Павел. Ты ажно залішне верыш людзям. А ведаеш, што твой сябар Пятроўскі вядзе актыўную работу, каб сарваць тваё перавыбранне...*

*Я спыніўся.*

*— Пятроўскі? Зося! Смешна.*

*— Табе смешна, а мне горка, што ты ўсё яшчэ так верыш яму.*

*— Зося! Ты не ў сваім амплуа: ты ж ніколі не сутыкала людзей ілбамі. Што ж ён, сам хоча ў гэтае нізенькае і хісткае крэселка?*

*— Не. Яны хочуць выставіць на конкурс Цітавец.*

*— Марыю Раманаўну? Насмяшыла. Яна неблагі прафесар. Але арганізатар... які з яе арганізатар? Ты ж ведаеш... Тыповая кніжная дама.*

*— Арганізатар з яе ніякі. Але ў яе ёсць вельмі актыўны арганізатар — пляменнік. Вялікі камбінатар. Кіраваць будзе Барашка.*

*— Не ведаў, што ты майстар сюжэтаў. Лепшы наш раманіст не прыдумаў бы.*

*— Прыдумаць гэта немагчыма. Гэта трэба ўбачыць. А я ўмею глядзець.*

*— Але навошта Пятроў скажу?*

*— Няўжо ты не раскусіў, што ён з тых ігракоў, якія ўмеюць выбраць каня, на якога ставіць. Пераарыенціроўка на моладзь. На Мар'ю сярэдняга ўзросту. І на зусім маладога Барашку, які так крочыць у навуку, што ажно штаны трашчаць.*

*— А што ад гэтага будзе мець Міхал?*

*— Закідае наперад. Каб яшчэ гадоў дваццаць чытаць напісаныя чвэрць стагоддзя назад лекцыі.*

*— Зося, ты робішся злою.*

*— Я такі раблюся злою. Хоць адно ты ўгледзеў. І знаеш, на каго я больш злавала апошні час? Но, цябе.*

*— Дзякую.*

*— Спажывай на здароўе. Але агляніся хоць у нашай кафедральнай стадоле. Ты прабач. Я не злая. Я старая, пільная, але і сентыментальная баба. За лекцыю я даравала табе тваю курыную слепату. У мяне сціскалася сэрца. Я смактала валідол.*

*— Калі ты дастала цюбік, гэта мяне спалохала і збіла. Але ты палажыла яго назад...*

*— Па тым як запнуўся, я зразумела, што ты ўбачыў. Каб не палохаць студэнтаў, у мяне заўсёды ляжыць запасная таблетка ў кішэні кофтачкі. Яе можна ўзяць непрыкметна.*

*Мы падышлі да дзвярэй нашага пакоя. Я знайшоў яе руку і з удзячнасцю сціснуў.*

*— Не настройвай сябе на адыход. Мне будзе цяжка без цябе.*

*— Не раскісай, Павел. Ты хочаш, каб я ўвайшла сюды з вачамі, поўнымі слёз? Як бы гэта парадавала лысага асла і кучаравага барана.*

*— Не заводзься, калі ласка.*

*— Не буду. Я не злая, Павел. Я добрая. Як і ты. Але за гэта вунь тая прыма, незалежная за спіной мужа, узняўшыся на яго плячах над усімі намі, грэшнымі, называе нас з табой ёлупнямі цара нябеснага.*

*Удалечыні па калідоры ішла Раіса Сяргееўна, жонка высокага дзяржаўнага работніка, пасрэдная выкладчыца, але добрая жанчына, яе любілі на кафедры. Не паверыў я, што яна магла даць такую атэстацыю нам з Зосяй. Але, напэўна ж, нешта гаварыла, паміж Зосяй і ёй бадай што сяброўскія адносіны, наведваюцца ў госці адна да аднае. Мяне амаль развесяліла, як ахарактарызавала Соф'я Пятроўна Раісу. Тая ўмее нічым не падкрэсліць сваё становішча, умее памаўчаць, пасядзець у куточку. Аднак жа і ў куточку тым сядзіць яна вышэй за ўсіх — як на троне. Гэтае адчуванне нярэдка злавала, асабліва калі хацелася выказаць нешта пра агульныя недахопы ў кіраўніцтве эканомікай, ідэалогіяй, але прысутнасць жонкі кіраўніка стрымлівала. Дзіўна, што пасля, на нарадах, з трыбуны я выказваў шмат што з таго, што хацеў сказаць на кафедры і... не адважыўся з-за яе. Можа, таму мне захацелася, каб Раіса пачула Зосіна вызначэнне яе персоны і яе становішча. Выходзіць, і я бываю зларадным.*

*Нядобра, дарагі таварыш. Умей быць аб'ектыўным! Зосі я сказаў з усмешкай — першай пасля паведамлення аб трагедыі ў Індыі.*

*— Даўно знаю твой язык, але каб ты навастрыла яго, як сёння,— не пожню.*

*— Дрэнная ў цябе памяць.*

*На хвіліну затрымаліся перад дзвярамі. А выйшла чорт ведае што: Раіса Сяргееўна сваім надзвычай далікатным прывітаннем яўна выказала падзяку, што мы чакаем яе ў калідоры, каб разам увайсці ў пакой кафедры. З-за павагі, маўляў, чакалі. Я ўзлаваўся на Зосю: няўжо не разумела?*

*У часе перапынку — агульная размова. Пра подлае забойства. І пра нашы справы, вялікія і малыя. Набліжалася свята Кастрычніка. Удзел у факультэцкім вечары, у дэманстрацыі. Падвядзенне вынікаў спаборніцтва, але гэта папярэдне, перад пасяджэннем кафедры. Пра выкладчыцкае спаборніцтва выказваюцца скептычна нават у прэсе. Але вынікі яго, на нашай кафедры ў прыватнасці, не хвалююць хіба толькі адну Раісу Сяргееўну ці проста яна ўмее не выяўляць свае пачуцці. Стары Пятроўскі і малады Барашка апантана змагаюцца за кожны бал.*

*Пачаліся лекцыі — усе разышліся. Я застаўся адзін у вялікім пакоі. Паспрабаваў працаваць над справаздачай. Але апанавала дзіўная сумота. Падобны стан у апошні час — нярэдкасць. Але з'явіліся і новыя нюансы. Чамусьці толькі цяпер балюча кранулі словы Соф'і Пятроўны аб інтрыгах Міхала. Успомніліся дэталі, якія пацвярджалі праўдзівасць яе слоў. Але навошта яжу? Урэшце я адмахнуўся ад Пятроўскага. Драбяза! Добра, я ведаю Міхала! Хіснецца, як маятнік. Пасля, прыйдзе прасіць прабачэння. Аднак сумота не праходзіла. Яна сапраўды-такі нечаканая: глыбокае адчуванне адзіноцтва, нейкай касмічнай пустэчы — быццам я адзін-адзінюсенькі апынуўся на Месяцы ці Марсе.*

*Успомніўся нядаўні кранальны выпадак. Валя павяла ў паліклініку Міхалінку. А мяне аднаго пакінула з Вікай. Яна спакойная, ласкавая, паслухмяная, хвосцік сваёй шумнай сястры. З ёй няма турбот, лічылі ўсе. Я працаваў — пісаў артыкул. Малую пасадзіў на канапу, даў ёй лепшыя замежныя фламастэры, якія звычайна магла выпрасіць толькі хітрунння Міка, ды і ёй я даваў не ўсе адразу, па адным, Вікачцы яны даставаліся рэдка, яна «падлізвацца» не ўмела. Калі і давалі ёй такія рэдкія цацкі, то ўсё роўна праз хвіліну імі завалодвала Міхаліна. А тут я расшчодрыўся дзеля ўласнага спакою: чым бы дзіця ні цешылася — абы не плакала. І паперы даў цэлы альбом. У малой ажно вочкі загарэліся ад радасці. Прайшло дзесяць-дваццаць мі-*

*нут. Я заглыбіўся ў гістарычныя разважанні. Малая сапла за маёй спіной носікам. Пад гэтае дзіцячае сапенне хораша цяклі думкі.*

*І раптам — плач, гучны, так гэтае ціхенькае дзіцятка плакала толькі ад болю.*

*Што здарылася? Спалохана схапіў малую на рукі.*

*— Што з табой, Віка? Вікачка, ты ўкалолася? Чым? Дзе баліць? Дзе баліць, маленькая мая? Недагледзеў недарэка-дзед.*

*Віка залівалася слязамі.*

*Я цалаваў яе галоўку, шчочкі.*

*— Дзе вава ў Вікачкі? Дзе вава?*

*Паступова плач перайшоў у цяжкія, як у дарослага пры вялікай бядзе, усхліпы.*

*— Нікога няма.*

*— Што? Што?*

*— Нікога няма.*

*Ашаламіла. Дзіця прывыкла да вялікай сям'і, да кампаніі сваёй шумнай сястры. І раптам цішыня. Спалохалася адзіноты.*

*— Вікачка, слаўненькая мая! Як жа нікога няма? Мы ж з табой ёсць. Дзядуня твой ёсць. І ты ёсць! Ты ёсць! І бабуля з Міхалінкай зараз прыйдуць.*

*Ледзьве супакоіў. Дастаў з кніжнай шафы тыя прывабныя для дзяцей сувеніры, якія толькі ў выключных выпадках даваліся ім пад наглядам дарослых: вельмі ж спрытна і хутка яны ўмелі разбіраць, ламаць крохкія караблікі і лялькі, што прывезены з замежных падарожжаў. Разгулялася дзіця. І не ламала нічога. Выходзіць, разбуральніцай была няўрымслівая Міхаліна.*

*Безумоўна, стала не да працы, я азіраўся на малую кожную хвіліну. Але як толькі ўглыбіўся ў рукапіс, каб дапісаць сказ, дакончыць думку, як зноў пачуў усхліпы.*

*Ніякія цацкі не памаглі.*

*— Ну, чаго ты, Вікулечка мая?*

*— Нікога няма.*

*Далібог, самому зрабілася холадна ад гэтага дзіцячага страху, што нікога няма. Не адразу здагадаўся, што трэба зрабіць. Носячы яе па кватэры, каб супакоіць, у пакоі, што выходзіў на шумную Калінінскую, паднёс да акна, паказаў вуліцу:*

*— Глядзі — колькі людзей! Глядзі — колькі машын! І сабачку цёця вядзе. А ты кажаш — нікога няма. Дурнічка мая маленькая!*

*І дзяўчынка супакоілася. Нават засмяялася, асэнсавала, пэўна, што страх яе дарэмны.*

*...Чаму я падняўся з-за стала, чаму апынуўся перад вялікай картай свету, што вісела на глухой сцяне пад стэндам партрэтаў вядомых гісторыкаў? Ці доўга стаяў там? На каго глядзеў? На гісторыкаў? Не, на карту! На знаёмыя абрысы мацерыкоў, такіх блізкіх адзін да, аднаго. На самой планеце ў наш час — як на карце: толькі паспееш правесці вачамі ад Лондана да Мінска (не можам, не затрымацца па дубовым лістку сваёй рэспублікі), далей — да Масквы, да, Уладзівастока, Токіо, Сан-Францыска, Нью-Йорка... і гэтых мінут даволі, каб...*

*Апамятаўся ад таго, што адчуў, як да вострага болю заледзянела сэрца — як тады, калі пачуў дурны жарт прэзідэнта: «Бамбардзіроўка пачынаецца праз пяць мінут».*

*Нікога няма....*

*Вылезе дзіця чалавечае з шахты, з бункера, з касмічнага карабля, азірнецца і — нікога няма.*

*Бррр...*

*А мне і праўда холадна. Ах, адчынена фрамуга? Барашку ўсё душна, ён бясконца адчыняе фрамугі, не пытаючыся дазволу. З Пятроўскім яны з-за гэтага сутыкаліся. Але зачыняць фрамугу не хацелася. Ці не хапіла сілы? Што гэтак стаміла?*

*Сеў на канапу ў дальнім кутку пакоя, пад раскладам, дзе любіла сядзець Раіса Сяргееўна.*

*Як успрыме Валя, калі я раскажу, што быў на кафедры момант, калі мне, як малой Вікторыі, захацелася заплакаць ад таго, што нікога няма. Пасмяецца? З Вітчынага страху пасмяялася. Валя не любіць, калі мы з Марынай ці Пятроўскім пачынаем разважаць аб катастрофе, якая пагражае чалавецтву, калі яно не паразумнее. Пра гэта лепш не думаць, лічыць мая жонка, бо можна страціць сэнс жыцця.*

*Я разумею яе — Маці.*

9

У Данілава я быў проста ўлюбёны. Мне, маладому рамантыку, які са студэнцкіх гадоў ведаў на памяць «Цыганоў», ён здаваўся Алекам. Сучасным. Сапраўды, лёс у яго не менш драматычны, чым у пушкінскага героя. Толькі час іншы. Каб не вайна, ён, напэўна, паступіў бы ў інстытут — на «выдатна» скончыў школу. Але пасля апошняга экзамена ўсе выпускнікі, нават дзяўчаты, пайшлі ў ваенкамат. Данілава паслалі ў ваеннае вучылішча. Праз паўгода ён выйшаў адтуль лейтэнантам, бо вучыўся лепш за ўсіх. І вось, на два гады маладзейшы за мяне, ён ужо старшы лейтэнант і камандзір батарэі. Я

ганарыўся сяброўствам з Данілавым. Я быў удзячны яму, бо пасябравалі мы яшчэ тады, калі ён быў лейтэнант, а я — старшы сяржант, яго падначалены. Хіба не прыкмета розуму маладога камандзіра? І ўсё ж я жыў з бояззю. За яго. Адчуваў нутром, што цыган здольны на такі ж шалёны ўчынак, як далёкі продак яго Алека, як бацька яго. Пераканаўся ў гэтым двойчы. Нехта яму напісаў, што бацька, які адбыў зняволенне, прызваны ў армію. Ён даверліва падзяліўся са мной гэтай навіной, больш ні з кім, як я пасля даведаўся. Але якімі страшнымі сталі яго вочы, калі ён сказаў: «Я веру, ён будзе добра ваяваць. Але я ўсё роўна не дарую яму смерці маці. Не дарую!» І — другі раз. Батарэя прыкрывала ў Афрыкандзе аэрадром дальніх бамбардзіроўшчыкаў. Данілаву толькі што прысвоілі чарговае званне. Я паехаў да яго. Ён не таіў сваёй радасці і гонару. І раптам — у кароткі палярны дзень, надзвычай марозны, калі ўсё застывала,— масіраваны налёт «хейнкеляў», жаўтакрылых пачвар. Праўда, фашысты пралічыліся: большасць нашых ДБ[1] у гэты час бамбілі нямецкія караблі ў нарвежскіх фіёрдах. Аднак аэрадром — вялікая гаспадарка. «Хейнкелі» пацэлілі ў бензасховішча, усё пылала, гарэла, трашчала. Садом і гамора! А ў нас «заела» кабелі сінхроннай перадачы ад прыбора да гармат — мароз! Гарматы вялі агонь прамой наводкай. ПУАЗО бяздзейнічаў. Данілаў выхапіў пісталет з кабуры і кінуўся да Віктара Матоўскага, камандзіра прыбора, майго і яго сябра.

— Застрэлю, сукін сын! Куды глядзеў?!

Я выбіў у Данілава пісталет, даволі груба кінуў яго ў прыборны катлаван. Абяззброены, ён грыз лёд бруствера, стагнаў і — плакаў, з чорных вачэй яго ліліся, здалося мне, чырвоныя, крывавыя слёзы. Дзяўчаты, прыбарысткі, былі ашаломлены такім гневам свайго камандзіра, якога любілі.

Вось тады ўпершыню мне стала страшна за сябра майго Сашу Данілава.

Віктар пасля таго выпадку намерыўся падаць рапарт з просьбай перавесці яго на другую батарэю. Я ледзьве ўгаварыў яго не рабіць гэтага: толькі ён з яго разважлівасцю, спакоем мог уздзейнічаць на цыгана ці, ва ўсялякім разе, сачыць за ім, каб той не нарабіў глупства. Упершыню я сказаў Віктару, што Саша нагадвае мне Алеку. Прагматык і рацыяналіст, зямляк мой засмяяўся: «Знайшоў Алену! Абруселага цыгана, які рвецца ў генералы!» Між іншым, амаль гэтак жа, значна пазней, сказаў Калбенка, калі я прызнаўся, што баюся за

---

[1] Дальнія бамбардзіроўшчыкі.

Данілава: «Не бойся. Гэты цыган стане генералам, і мы з табой будзем стаяць перад ім навыцяжку».

Не спадабалася мне, як Данілаў расказваў пра новенькую: незвычайна гарэлі яго вочы. Абразіла, бадай, што расказваў ён так, быццам не было Ліды, лепшага ў дывізіёне першага нумара дальнамера. Не ўспомніў Ліду. Мне стала балюча. У той міг я ненавідзеў камбата.

— Знаеш, гэта знаходка! — мы хадзілі па асфальтавай дарожцы былога лагера ваеннапалонных; у дадатак да ўсяго я не пераставаў абурацца цынічнасцю фашыстаў: катавалі людзей — і стваралі выгляд клопату пра іх, для дэлегацый Чырвонага Крыжа.— Яна ўжо сёння давала правільныя замеры. Баражыравалі нашы самалёты. І мы перапраўлялі. Я, Маслоўскі. Матэматыку ведае лепш за нас з табой. Добра іх вучылі, будучых карэльскіх настаўнікаў. З фінскай грунтоўнасцю.

Данілаў засмяяўся.

«Чаму радуецца?» — зусім з непрыязню падумаў я.

— У князя нюх. Гэты арыстакрат агледзеў прызыўнікоў у ваенкамаце, іх там з паўсотні было, дзяўчат... мужчын прызыўнога ўзросту ў горадзе няма, можа і былі, але іх падабралі наступаючыя часці, людзі ўсім патрэбны... Ліка кажа: першую яе выбраў...

Ліка? Ужо Ліка?

Ажно кінула ў жар.

Данілаў не быў фармалістам, аднак, бадай як ніхто з камандзіраў трымаўся вайсковай субардынацыі і вельмі рэдка дазваляў фамільярнічаць з падначаленымі, толькі хіба з такімі, як Маслоўскі, з дзяўчатамі — ніколі. Саўчанка, стары камандзір, з даваенных, мог, напрыклад, паклікаць і так: «Анечка, ходзь сюды, галубка!» За гэта Тужнікаў неаднойчы здзекліва высмейваў яго на нарадах, на партсходах.

Ідучы на батарэю, я паглядзеў у штабе анкету навабранкі, але не мог успомніць яе поўнае імя. Дзіўна: зусім рускае прозвішча і такое чужое імя. Карэльскае? Фінскае?

Данілаў азірнуўся і, панізіўшы голас, сказаў даверліва:

— Скажу табе — у мяне нават узнікла падазронасць... на момант нейкі... калі яна пачала даваць такія дакладныя замеры: а ці не служыла яна ў фінскай артылерыі?

Узмакрэла гімнасцёрка на спіне, а ў горле захаладала, быццам хапіў ледзяной вады. Не паспеў разабрацца — чаму падазрэнне Данілава мяне гэтак усхвалявала? Чаго мне хацелася: каб гэта аказалася праўдай? У такім разе яе тут жа выставілі б з дывізіёна.

Нават разумная разважлівая Жэня, паказваючы мне дакументы, выказала асцярожнае здзіўленне: толькі капітан Шахоўскі мог адважыцца выбраць такіх, што вучыліся ажно ў Хельсінкі на курсах настаўнікаў. Ідучы сюды, я думаў пра гэта і, пры ўсёй супярэчлівасці пачуццяў, ухваляў Шахоўскага. Між іншым, і Калбенка ўхваліў яго смеласць, калі расказваў пра гэтую дзяўчыну. Дык няўжо ж мне хочацца выгнаць чалавека, якога я яшчэ і не пабачыў нават?

А Данілаў зноў капнуў на душу — што салянай кіслатой:

— Толькі Зубраву не кажы пра маю шалёную думку. У яго — прафесійная падазронасць. Я задаў ёй колькі пытанняў. Далёкая яна ад вайсковай справы. Ды і гэтая... як яе, Што ў пражэктарную роту паслалі?..

— Эва Пюханен.

Дзіўна, цалкам фінскае імя і прозвішча я запомніў адразу, глянуўшы ў спіс,— дзяўчыны, якая мала цікавіла, а тае, што цікавіла, не запомніў. Заблытала жартаўлівае Калбенкава «Ку-ка-рэ-кі», ці што?

— ...яны ж вучыліся на адных курсах. Якая там артылерыя! Глупства! Я зраблю з яе першакласную дальнамершчыцу!

У нейкі міг з'явілася злоснае пачуццё: сказаць усё ж Зубраву. Няхай праверыць. Як-ніяк, а гэтая фінка — не Мальцаў, бацька Героя Савецкага Саюза. Але тут жа апанавала злосць на самога сябе — за такое нядобрае жаданне. Слаба мяне навучыў Канстанцін Панасавіч!

Мы гаварылі з Данілавым пра іншыя батарэйныя справы, пра людзей. Раіліся, каго выбраць камсоргам батарэі. Мне размова была балючая — выбраць замест Ліды. Але яшчэ мацней балела ад таго, што, з глыбокай жалобай думаючы пра Ліду, я не мог адолець свайго недарэчнага нейкага, проста-такі дзіцячага — па цікаўнасці — жадання хутчэй пабачыць яе, гэтую новенькую, з незвычайнай для нас біяграфіяй дзяўчыну, што заняла Лідзіна месца на дальнамеры. Прыйшоўшы на батарэю, я ўбачыў яе на міг. Здаля. Незнаёмка, усіх іншых я пазнаваў за вярсту, з'явілася ў акне бліжэйшага ад пазіцый барака. Упершыню за вайну батарэя не будавала зямлянкі — размясцілі людзей па-казарменнаму.

Яна з'явілася ў праёме акна, з якога знялі краты, босая. Мяне ўразіла нечаканае супадзенне: такой бачыў Ліду за колькі мінут да выбуху ў тым злашчасным доме. Пэўна, гэтая таксама мыла падлогу ці вокны. Я не разгледзеў яе твару. Але перад вачамі стаялі яе ногі, белыя, прыгожыя. І мне здавалася, што гэта таксама абражала памяць Ліды. Я перажываў незнаёмую душэўную пакуту — ад думак сваіх, ад незразумелага жадання.

У мяне пачасціўся пульс, калі мы вярталіся на пазіцыю. Данілаў пайшоў у штабны пакой барака.

Іваністава была каля дальнамера. Адна. Я спыніўся на брустверы, а яна стаяла ў катлаване, фланелевым шматком працірала лінзы аптычных труб. Убачыў яе зблізку — і сэрца маё ўвайшло ў звычайны рытм. Нічога незвычайнага. Дзяўчына як дзяўчына. Невысокага росту. У кірзавых ботах. У шыракаватай у плячах, хаця падкарочанай ужо яе рукамі, непрыцёртай гімнасцёрцы. А пілотка, наадварот, бадай што малая. Не, проста валасы яе, дзівосныя па колеру — што адбелены лён — былі ззаду сплецены ў куксу, і пілотка не па-армейску, неяк прыгожа, тэатральна, была ссунута набок і на лоб. Гэта, бадай, адзінае незвычайнае, што ўбачыў я з першага позірку,— кукса валасоў, якая адлівала нават нейкім фіялетавым святлом. І я раптам чамусьці парадаваўся, што адмянілі недарэчны загад — абразаць дзяўчатам косы. Цяпер, калі ласка, насі касу, толькі заплятай яе ў такую вось куксу, каб не вісела на плячах. Справа іншая, што нашы дзяўчаты — і стараслужачыя і пазнейшага прызыву — самі падстрыгаліся: няма як даглядаць доўгія валасы, не было дзе мыць іх у палярную зіму. Быў строгі загад аб гігіенічных пунктах. Але на батарэях гігіенічныя зямлянкі існавалі часцей для правяраючых з корпуса, чым мелі практычнае прызначэнне.

Па-армейску павітацца яна не адважвася — не ўмела яшчэ ці баялася, што нешта зробіць не так. Але і ад цывільных рэверансаў, тых, што прывялі ў замілаванне Калбенку, яе за два дні адвучылі ўжо, можа, нават высмеялі — буржуйскія штучкі, ды яшчэ фінскія! Але выхаванне не дазваляла не павітацца з новым чалавекам.

Яна апусціла рукі, вельмі ж ужо па-свецку, як на балі, пра які я чытаў у класічных раманах, элегантна нахіліла галаву. А калені яе зварухнуліся ў звыклым: рэверансе. О, гэтыя калені над шэрай грубай кірзай халяў — кругленькія, беленькія! Яны прымусілі маё сэрца зноў тахкаць. Але ў мяне была браня — я падумаў, бадай, з непрыязнасцю. «Гладзенькая. Выпеставаная. Не галадала там. Не тое што нашы — маслы тырчаць».

Прыгадалася. На адной нарадзе камсамольскіх работнікаў падпалкоўнік з палітаддзела корпуса казаў: «Забудзьцеся на дзявочыя калені. Для вас яны не існуюць». І хоць Калбенка, калі я расказаў яму, са смехам назваў таго падпалкоўніка дубам, я, ідэаліст, прымушаў сябе не забываць гэты выразны інструктаж.

Мы, напэўна, залішне доўга разглядалі адно аднаго. Тварык — так сабе. Курносая. А вочы... вочы сапраўды прыгожыя — што паўночнае неба ў той ясны дзень. Я ішоў са страхам патануць у яе вачах,

не пасаромеўся ж прызнацца стары Калбенка, што патануў у іх. і я амаль узрадаваўся — за сваю трываласць і плывучасць: глыбіні карэльскіх азёраў не зацягваюць мяне. Не тануў я. Ніколечкі.

Больш выхаваная дзяўчына першая адчула няёмкасць нашага маўклівага разглядвання адно аднаго.

— Дзіўна, чаму пацее оптыка? — паказала фланельку.— Такі сухі дзень. У Карэліі кантынентальны клімат. Самы здаровы.

Меў рацыю Калбенка: рускае вымаўленне адменнае! Нам з ім не дацягнуцца.

Я ўрэшце звярнуў увагу на тое, як мы стаімо: яна ў катлаване, а я на брустверы над ёй; твар яе на ўзроўні маіх каленяў. Нядобра. Што яна падумае пра маё выхаванне?

Скочыў у катлаван. Павярнуў трубу дальнамера да сябе.

— Аптычныя прыцэлы трэба трымаць у чахлах.

— Дзякую. Мне сказалі пра гэта. Я трэніравалася па дальніх прадметах. Па пажарнай вежы... Я задаволена, што зразумела прынцып.

— Будзем знаёміцца. Я камсорг дывізіёна.

— Я здагадалася. Мне расказвалі пра вас. Вас любяць.

І зноў гэты ледзь прыкметны — толькі здрыгануліся калені — свецкі рэверанса. І свецкі нахіл галавы. А гузік гімнасцёркі не зашпілены — звярнуў я ўвагу. І ўсмешка, як пры знаёмстве на балі. Усё гэта разам... не, хутчэй мая павышаная ўвага да выяўленняў зусім не салдацкага этыкету чамусьці ўзлавала, настроіла супраць навабранкі. Вельмі нам патрэбны твае фінскія штучкі! Не дапамогуць яны ўмацоўваць дысцыпліну. І прызнанне ў любові да мяне — хто з дзяўчат нагаварыў такое? — на якога д'ябла мне гэта трэба! Тужнікаў і без таго раўніва высмейвае, што я ўсё роўна як поп сярод вясковых баб: дурніцы каюцца ў сваіх грахах. (Супярэчлівы мой камісар: афіцыйна патрабуе ўменння пранікнуць у салдацкія душы, Суворава прыводзіць у прыклад, а потым уедлівым выказваннем закрэслівае свае гучныя заклікі.)

Хацеў загадаць ёй зашпіліць гузік, а то, чаго добрага, ліфчык выставіць. Аднак не адважыўся.

— Вы ўяўляеце, хто такі — камсорг?

На твар яе ўпаў цень спалоху, неразумення ці, можа, нават болю. Яна сказала ўжо без гульні ў свецкасць, бадай, з крыўдай:

— Вы дрэнна думаеце пра мяне. Я канчала савецкую школу. І была камсоргам класа.

— Камсамолка? І паехалі на вучобу да... ворагаў?

— Яны далі невялікі выбар: або на лесараспрацоўкі, або...

— Канешне, у лесе трэба ўкалваць, а ў Гельсінгфорсе можна шпацыраваць з афіцэрамі,— пачуўся за маёй спіной да хрыпласці злосны голас.

У пяці кроках ад нас стаяла Глаша Васіленкава. Яна з выразнай нянавісцю глядзела на дальнамершчык. Я пахаладзеў ад думкі, што можа адбыцца паміж сястрой закатаванай дыверсантамі Каці, сяброўкай Ліды, загінуўшай ад фінскай міны, і гэтай... карэлкай. Але Глаша, напэўна, лічыць яе фінкай, сам я гэтак сказаў Калбенку, і Данілаў, здаецца, разы два абмовіўся. Чаму нікому не прыйшло ў галаву, што нельга ім быць разам? Батарэя ж — што адна сям'я, адзін дом, тут нельга не сутыкнуцца. Навабранка сцялася, неяк адразу паблекла, нават, здалося мне, кукса Валос пашарэла; па ўсім відно: за тры дні яна не ўпершыню чуе такія словы. Але адказала Глашы, бадай, смела, хоць падкрэслена ветліва:

— Навошта вы так? Вы ж не знаеце. Ніхто не шпацыраваў. На курсах былі строгія парадкі. Лагерныя. А я... я толькі там, у Хельсінкі, пачула пра карэльскіх партызан. І я думала, што, калі пайду сельскай настаўніцай, я памагу нашым людзям.

— Ды ўжо ж! Памагла б! — уедліва кінула Глаша і са знявагай не толькі да Іваніставай, але, бадай, і да мяне не па-салдацку павярнулася і пайшла ад нас. Каб была гэта не Глаша, любы іншы баец — я паказаў бы сваю афіцэрскую ўладу, павучыў бы статуту, каб паказаць новенькай, што такое дысцыпліна, што афіцэр не мае права патураць парушэнню яе. Але тут я быў бездапаможны. Я апраўдаў Глашу:

— Вам расказалі, што зрабілі з яе сястрой?

— Так,— прашаптала яна.

Я глядзеў на тумбу дальнамера. І раптам рука дзяўчыны лягла мне на грудзі, на ордэн Чырвонай Зоркі.

Не хапала яшчэ такой фамільярнасці пры першым знаёмстве! Але глянуў на яе і... не адступіў: твар яе спалатнеў, губы скрывіліся — вось-вось зарыдае.

— Слухайце! Вы адукаваны чалавек. Вы павінны зразумець. Есць фашысты. А ёсць народ! Просты народ... Ён добры! Паверце мне, ён добры!

Я мог адказаць, што палітграмату гэтую штодня паўтараю радавым, сяржантам, што пра гэта сказаў сам таварыш Сталін: «Гітлеры прыходзяць і адыходзяць, а нямецкі народ застаецца». Словы гэтыя адносяцца да фінаў, да венграў... Але я не сказаў — не пасаваліся высокія словы да сітуацыі. Адступіў ад яе і параіў:

— Не кажыце гэта Глашы.

У траншэі, што вяла да прыбора, я спыніўся, павярнуўся:

— Як ваша імя? Поўнае?

— Міэлікі.

Я пасміхнуўся з Калбенкавых «Ку-ка-рэ-кі»: зусім жа не падобна. Іваністава спыніла мяне ледзьве не каля прыбора, ля якога дзяжурылі дзяўчаты: забяспечвалі баявую гатоўнасць.

— Калі ласка, Павел Іванавіч.

Спыніўся, строга паправіў.

— Таварыш малодшы лейтэнант. У арміі — толькі так.

— Таварыш...— на доўгае званне ў яе як бы не хапіла дыху, яна хвалявалася так, што страціла сваё бездакорнае вымаўленне: — У мяне і да вас просьба. Мне параілі прасіць вас,— дзяўчына дастала з кішэні гімнасцёркі паперку, працягнула мне.— Вы ведаеце, куды пісаць. Мой бацька — камандзір Чырвонай Арміі. Памажыце знайсці яго. Тут даваенны адрас.

Я ўзяў паперку, прачытаў:

«Капітан Іваністаў Клаўдзій Антонавіч, Беларуская ССР, горад Полацк, паштовая скрынка... Нумар».

Моцна ўзрадаваўся, што бацька яе камандзір нашай арміі. Неяк нават зблізіла нас тое, што перад вайной ён служыў у маёй рэспубліцы, у горадзе, у які я двойчы ездзіў. Неяк самі адпалі пытанні, якія хацелася задаць ёй. Стала яна, як усе, у каго вайна разарвала сем'і, каго раскідала па франтах, па краіне і па чужых краінах. Сапраўды я меў вопыт пошуку ў арміі і ў тыле блізкіх нашых байцоў, асабліва тых, што прызываліся з вызваленых раёнаў і не ведалі, дзе бацькі, сыны, браты іх, што пайшлі ў войска ў пачатку вайны ці эвакуіраваліся. У адказ нярэдка прыходзілі трагічныя паведамленні. Здаралася, што я плакаў разам з бацькам ці сястрой таго, каго ўжо не было на гэтым свеце.

— Добра, Міэлікі. Я паспрабую пашукаць,— і раптам нечакана для сябе — каб запомніць, ці што? — паўтарыў: — Міэлікі. Што ў вас за імя? Фінскае?

— Гэта з «Калевалы». Мая маці была настаўніцай. Міэлікі — царыца лесу, ад яе пахне суніцамі і мёдам,— і раптам зноў ледзьве ўлоўны рэверанс — варухнуліся чашачкі каленяў, маланкай зіхнула прывабная ўсмешка:— Ад мяне таксама пахне мёдам. Я — дзіця лесу.

Гэта мяне ўзарвала, бо здалося недарэчным і нясціплым, калі нават яна і пажартавала. Не дазволена радавой гэтак жартаваць з афіцэрам! Безумоўна, мела значэнне прысутнасць прыбарыстак — тых, з якіх, як аднойчы з болем сказаў Калбенка, мы выбілі ўсё дзявочае. Але ж нельга, каб яны падумалі, што я заводжу «шуры-муры» з гэтай... фінкай.

Я сказаў не сваім голасам — голасам капітана Тужнікава:

— Вы насілі скрынкі са снарадамі? Калі паносіце, тады панюхайце сябе: чым вы будзеце пахнуць?

У вачах Міэлікі з'явіўся страх, яна сцялася і пашарэла.

Значна пазней я зразумеў салдафонства праборкі за бязвінны і ўвогуле дасціпны жарт дзяўчыны, якая жыла яшчэ ў іншым свеце. А тады, вяртаючыся з батарэі, адчуваў задавальненне сабой. І адразу сказаў Калбенку, бадай жа з дакорам яму і пахвалой сабе:

— А я не патануў у яе вачах.

— Ну і сухар! — адказаў ён, не праявіўшы асаблівай цікавасці ні да мяне, ні да яе, Міэлікі.

10

Каб перада мной з'явілася фея, баба-яга ці нават любы з тых, каго я сам пахаваў, здзівіўся б я, напэўна, менш, чым тады, калі нечакана каля штаба сустрэў... Ванду Жмур.

Няўжо Ванда? Во дзівосы! Ды і не тая — радавая. А старшына, У элегантных, з англійскага матэрыялу гімнасцёрцы і спадніцы, яўна пашытых па заказу, на яе фігуру, у парусінавых, у абцяжку на назе ботах. Нават пілотка ў чартоўкі асаблівая і надзета яўна з парушэннем статутных правіл. Але якіх — ніводзін самы прыдзірлівы страявік, бадай, не здолеў бы растлумачыць, каб яна раптам спытала: «А як трэба насіць? Пакажы!» А Ванда магла спытаць. У любога па званню чына. Між іншым, я даўно заўважыў гэтае няўлоўнае парушэнне формы адзення і нават формы адносін, якое ўмелі зрабіць беспакарана толькі дзяўчаты. Калбенка сказаў на гэта з мудрай разважлівасцю: «А што за жанчына, якая не ўмее памоднічаць?»

Адзенне Ванды не здзівіла, хутчэй я залюбаваўся ім. Здзівіла з'яўленне яе ў нас і ў такім званні,

— Ты?

— Ты? — у сваю чаргу спытала яна.

— Ты адкуль узялася?

— З неба зляцела.

— Ды ўжо ж! Такая, як ты, можа і з Анежскага возера вынырнуць.

— Баішся, што я стала русалкай. Не, русалкай я не стала. Інакш пацягнула б цябе за сабой. Я прыляцела на спатканне з табой.

— Вельмі ўсцешаны. Можа, раскрыць абдымкі?

— Абдыму. Пачакай. Думаеш, я забылася, як ты рукі мне выкручваў? Я табе сэрца выкручу.

Ну, гэта ўжо занадта! Хто б яна ні была, хоць сама генеральша,— але такі тон, такія словы! Я аглянуўся на адчыненыя вокны штаба. Пачуюць афіцэры, байцы — што падумаюць? Крый божа, Тужнікаў пачуе — гарэць мне ад сораму на першай жа нарадзе.

— Не забывай, што мы ў арміі,— і паказаў на свой пагон,

— Падумаеш, зорачку начапіў. У мяне заўтра па дзве будзе, І ты будзеш стаяць перада мной навыцяжку.

Не, ты будзеш стаяць перада мной на каленях.

— Не шляхціц я.

— Я зраблю з цябе шляхціца, калі захачу.

— Аднак якая самаўпэўненасць!

Ванда засмяялася.

— Ладна, давай лапу, мужлан. Рыцараў з вас не зробіш. А ўсё ж прыемна, што я сустрэла родную душу.

Я зноў азірнуўся на вокны.

— Якая я табе родная душа?

— Баязлівец ты, Павел. Такая панна прызнаецца табе ў роднасці, а ты азіраешся, як заяц.

Руку я ёй паціснуў. Але Ванда і гэта выкарыстала. Чортава полька! Нічога яе не змяніла за два гады. Ніхто яе не вымуштраваў, не навучыў вайсковым паводзінам.

Яна ўзяла мяне за локаць, па сутнасці пад руку ўзяла, як бяруць жонкі мужоў, і павяла па дарожцы ад штаба да сосен.

— Хадзем пагуляем.

— Ты прыехала сюды гуляць?

— Ай-яй, які недалікатны мужчына!

«Ды пайшла ты да д'ябла! Які я табе мужчына!» — я вызваліў руку, адступіў. Толькі і не хапала мне, каб дывізіён... Кузаеў, Тужнікаў, сувязісткі, разведчыкі, інтэнданты, кухары глядзелі, як камсорг пасярод белага дня прагульваецца пад руку з дзяўчынай... старшыной, што толькі што з'явілася немаведама адкуль. Нішто сабе — ціхенькі і сціпленькі! Пасля гэтага сапраўды хоць абвяшчай яе сваёй жонкай. Станавіся на калені і прасі рукі. Як у старых раманах. А між тым знаёмства маё з Вандай было нядоўгім. І даўнім — без малога два гады назад. Праўда, забыцца на яе я не мог, бо часам расказваў маладым афіцэрам пра пікантны эпізод з «баявога жыцця» дывізіёна.

...Ванду прыслалі ў канцы сорак другога з першай групай дзяўчат. Для батарэі, той у прыватнасці, дзе я тады камандаваў гарматай, «жаночая адысея», як яе нехта назваў, была катастрофай, горш за прамое трапанне бомбы. Цікавасць да незвычайнага папаўнення развеялася, што туман, за два-тры дні і ў камандзіраў і ў радавых —

мужчын. Хлопцаў, галоўным чынам агневікоў, якія за паўтара года вайны сталі майстрамі, забралі для арганізацыі новых зенітных часцей. А замест іх далі малапісьменных дзяўчат, якія баяліся наблізіцца да гарматы, абуцца не ўмелі — накруціць анучы. Іх трэба было вучыць, як кажуць, ад нулявой лініі. А калі вучыць? У Кольскі заліў увайшоў караван. Немцы шалёна бамбілі караблі, порт. Як на злосць, пагода стаяла ясная, з моцным марозам. Варожая авіяцыя трывожыла тры-чатыры гадзіны светлага часу палярнай ночы. Нярэдка рабілі масіраваныя налёты і ў поўнай цемры — вешалі асвятляльныя ракеты. Калі вучыць навабранак? Як? Позняй ноччу? Пры строгім загадзе эканоміць акумулятары? Куды ні кінь — дык. клін. Але мелі клопат не толькі з навучаннем. Узнікла безліч праблем, якіх ніколі не ведалі ў арміі, ніякія статуты не давалі тлумачэнняў, як камандаваць жаночым войскам. Загады-інструкцыі, якія атрымалі разам з дзяўчатамі, прадугледжвалі абсталяванне асобных памяшканняў. У нашых умовах — гэта зямлянкі. Але пабудуй іх, угрызіся ў скалу, калі бясконцыя баі, трыццаціградусны мароз і... ніякіх матэрыялаў. Раней, улетку, увосень, калі мянялі пазіцыю, у нялётны час мы спускаліся ў горад, разбіралі склады лесаматэрыялаў, падбіралі, што толькі можна, у разбураных бамбёжкай дамах. Але каго можна, было паслаць у той гарачы час, калі нумароў на ПУАЗО, на гарматах і так не хапала: паспрабуй не страляць — трыбунал.

Пазней некаторыя загады, сачынёныя ў высокіх штабах, адхіляла практыка. Гарматны разлік спаў у адной зямлянцы, як браты і сёстры ў адной хаце. Не раздзяваліся. Скідалі кажухі, шынялі і накрываліся імі. Іншае размяшчэнне аслабляла б баявую гатоўнасць: ад сігналу «Трывога!» да дакладу камандзіра «Чацвёртае гатова!» даваліся адна-дзве мінуты, не больш.

Дзяўчат, якіх не навучылі яшчэ валодаць звычайнай вінтоўкай, не ставілі на пасты. З-за недахопу людзей вымушаны былі стаяць сяржанты — камандзіры аддзяленняў. Мужчыны — і байцы і камандзіры — валіліся з ног ад стомы. Праклiналі баб. Гэтая мужчынская варожасць яшчэ больш палохала няшчасных, яны паводзілі сябе, што статак палахлівых авечак, ціснуліся адна да адной, плакалі. Але самым страшным было, што яны абмарожваліся. З паўночных жа краёў — з архангельскіх, валагодскіх сёл — і ўсё роўна абмарожваліся. А гэта ўжо ЧП. Стараслужачаму прышылі б «самастрэл». А за навабранак, якія яшчэ і прысягу не прымалі, зноў-такі адказвалі камандзіры. Такой суровай адказнасці не вісела на кожным з нас, бадай, і ў пачатку вайны, калі мы не ўмелі як трэба страляць. А што датычыць мяне, то на плячах маіх ляжала двайная адказнасць. Камандзір

гарматнага разліку, у які падкінулі дзвюх дзяўчат, на трэці і шосты нумары -— чытчыка і ўстаноўшчыка трубкі, я быў яшчэ камсоргам батарэі. Не помню, па якой прычыне якраз у гэты час адсутнічаў камісар, і камандзір батарэі ўзваліў на мяне ўсю палітыка-выхаваўчую работу. У перапынку паміж баямі ледзь заплюшчыш вочы, не ў зямлянцы — часцей схіліўшы галаву на бруствер, на снарадную скрынку — і тут жа крык днявальнага: «Камандзіра чацвёртага да камандзіра батарэі!»

Ванда адразу здалася знаходкай. Самая адукаваная — два курсы інстытута. Ого! У той час мала хто з камандзіраў рот, батарэй меў такую адукацыю. Гараджанка. Бойкая, без той вясковай цнатлівасці і сарамлівасці, якая вельмі цяжка пераадольвалася і чыніла камандзірам нямала клопатаў. А галоўнае — Ванда шмат што ўмела. Валодала вінтоўкай, пісталетам, аўтаматам. Умела не толькі страляць, але разабраць, пачысціць. Ведала званні, хоць, праўда, веданне такое не навучыла яе субардынацыі, звярталася яна да камандзіраў з фамільярнасцю, якая камандзіра батарэі выводзіла з раўнавагі. Ды яшчэ спалохала Воднева адно яе прызнанне, біяграфічнае. Пра тое, што яна праўнучка ўдзельніка польскага паўстання 1863 года, якога цар саслаў у Архангельск,— пра гэта яна расказала адразу, калі камандзір, парторг і камсорг знаёміліся з папаўненнем. Але пасля Ванда пахвалілася дзяўчатам, што прадзед яе — князь. Тыя глядзелі на яе шырока расплюшчанымі вачамі — жывая князёўна?

Воднеў, калі яму данеслі, проста спалохаўся, ва ўсялякім разе, узлаваўся, загадаў мне: «Скажы гэтай языкастай польцы, каб не сачыняла правакацыйных баек! А то я выб'ю з яе князёўну!»

А мяне захапіла яе смеласць: хто ў той час прызнаваўся ў сваім дваранскім паходжанні?! Да з'яўлення ў дывізіёне сапраўднага нашчадка княжацкага роду Шахоўскага я такое ўпершыню пачуў ад яе, ад Ванды. І гэта пацешыла.

Карацей кажучы, у параўнанні з тымі вясковымі «сунічкамі», што чыгунку ўпершыню ўбачылі, калі іх прызвалі і везлі ў Мурманск, Ванда была фігура.

Асабіста я падказаў камандзіру батарэі зрабіць Ванду пасыльнай у штаб дывізіёна, каб не адрываць нікога са старых байцоў, мужчын, якіх не хапала для нармальнага вядзення агню, каравульнай службы. Пасыльны быў заадно паштальёнам, дастаўляў пісьмы, газеты на батарэі. Яго з нецярпеннем чакалі.

Ванда ахвотна штодня хадзіла на КП. А гэта была нялёгкая задача, здаровыя хлопцы-сувязісты нярэдка прасілі, каб далі падмену. Па-першае, гэта добрыя кіламетраў дванаццаць дарогі ў адзін канец,

— з паўночнай сопкі, дзе стаяла батарэя, на паўднёвую ўскраіну, ледзьве не ў Нагорнаўскае. Ісці трэба праз увесь горад, да таго часу ўжо спалены, пусты. Аднак горад усё роўна бамбілі — порт бамбілі, станцыю, але з той вышыні, на якую мы загналі фашыстаў, бомбы рассейваліся па ўсёй гарадской тэрыторыі. Ды і не толькі трэба было асцерагацца шалёных бомб, пры масіраваных налётах пілотам, безумоўна, ставілася задача падаўляць нашы агнявыя сродкі. А іх у канцы сорак другога было ўжо нямала: толькі артылерыйскіх батарэй, мабыць, пятнаццаць, не лічачы кулямётныя ўстаноўкі, пражэктары, гукаўлоўнікі. Ды і армейскія склады, раскіданыя па ўсім горадзе, як іх ні маскіравалі, разведчыкі вышуквалі — паветраныя, ды вельмі магло быць, што і зямныя; чыталі нам загад, што ў горадзе злоўлены дыверсанты, таму ўзмацняліся пасты на ўсіх аб'ектах.

Ванда тройчы ўжо трапіла ў горадзе пад бамбёжку. Але не спалохалася, расказвала пра «гульню ў схованкі» ад бомб, як пра вясёлыя прыгоды, хоць у мяне халадзела сэрца: загіне, шалёнае дзяўчо, не паспеўшы павяяваць! Я нават спрабаваў угаварыць Воднева замяніць яе мужчынам, але на гэты раз ён заўпарціўся: наша пасыльная падабалася ў штабе, яе пахваліў па тэлефоне начальнік штаба Сямёнаў, а гэты чалавек рэдка каго хваліў.

Вандзе ставілася задача: пры любых абставінах вяртацца да наступлення цемры. Лезці на абледзянелую сопку ўначы — можна паламаць ногі, быў ужо ў нас такі выпадак; трактары на яе ўзбіраліся ў аб'езд, з паўночнага боку, а гэта далёка, ды і маракі патрабавалі спецыяльныя пропускі.

І раптам Ванда не вярнулася. Са штаба паведамілі: выйшла, як звычайна, яшчэ ў сярэдзіне кароткага дня. Светлага часу хапала, каб дайсці. Бамбёжкі ў той дзень не было: урэшце аслаб мароз, нахмарыла, прырода давала перадышку.

Я ўстрывожыўся адразу ж: куды магла дзецца дзяўчына?

Воднеў спачатку паставіўся да яе затрымкі спакойна. Але пасля згадзіўся з маёй просьбай паслаць насустрач двух сувязістаў. Я гатовы быў ісці з імі, але ён не адпусціў. А калі хлопцы вярнуліся, дайшоўшы ажно да цэнтра горада (да іх прычапіўся каменданцкі патруль), Воднеў паклікаў мяне і, як рабіў часта, істэрычна накрычаў, што гэта, маўляў, усё я, што я знарок угаварыў яго зрабіць пасыльнай шалёную дзеўку, каб падкласці яму, камандзіру, свінню.

— Усе вы хочаце падкласці мне свінню! Усе! Але ты падклаў не мне. Не, Шыянок, не мне! Сабе! Што, дрыжаць каленкі? Дрыжаць! Знайсці Жмур, жывую ці мёртвую! І далажыць. Выконвайце! Кругом! Марш!

Каб Воднеў быў адзін, я мог бы яшчэ паспрачацца — як шукаць, дзе? Але ён зрабіў гэта ў прысутнасці камандзіраў узводаў.

Загад ёсць загад. У такі час! Немцы штурмавалі Сталінград... Але загад — ёсць загад. Я гэта добра разумеў. Аднак яшчэ лепш разумеў Воднеў, бо з-за таго, як яны выконваюцца, загады, ён перажыў цяжкую душэўную драму.

(Цяпер, з вышыні жыццёвага вопыту, я схільны думаць, што яна, тая, можа, і непазбежная трагедыя, зрабіла яго хворым чалавекам.)

А было такое. У пачатку вайны Воднеў выконваў абавязкі начальніка штаба дывізіёна. Камандзіру пражэктарнай раты лейтэнанту Налівайку быў дадзены загад: сабраць пражэктары, якія знаходзіліся на летняй прафілактыцы — палярны дзень! — перабазіраваць з Колы ў Мурманск і ўстанавіць вакол порта, на тым баку заліва — у Дравяным. Указваўся час выканання.

Я не помніў Налівайку, не сустракаўся з ім, расказвалі, што гэта быў вясёлы і па маладосці бесклапотны хлопец. Не зразумеўшы ўсю сур'ёзнасць абстаноўкі канца ліпеня ці пачатку жніўня, калі асудзілі нават камандуючых акругамі — Паўлава, Бялова, Налівайка палічыў, што, паколькі палярны дзень яшчэ не скончыўся, цёмныя гадзіны не наступілі, спяшацца з устаноўкай пражэктараў няма чаго. Карацей кажучы, не выканаў у вызначаны тэрмін загад. Безумоўна, Налівайка заслугоўваў пакарання. Але якога? Камандзір дывізіёна маёр Рамашкін абараняў лейтэнанта. Але Воднеў раздзьмуў справу да асобага аддзела арміі. Час быў суровы, суд кароткі. Прыгавор трыбунала: расстраляць. Прыгавор зачыталі па ўсіх часцях, падраздзяленнях. Але Воднеў хутка адчуў, што ні камандзіры, ні чырвонаармейцы не даравалі яму смерці Налівайкі. Нават тыя, што прыйшлі ў дывізіён пазней, не любілі яго. Ды і самога» безумоўна, мучыла сумленне. «Воінскі высокі абавязак выконвай, але з розумам!» — так сказаў яму Рамашкін. Ад гэтага Воднеў стаў нервовы, палахлівы. Яго кідалі на розныя камандныя пасады. Нідзе ён не прыжываўся.

Батарэяй ён камандаваў месяцы два ўсяго. І ўсім нам было з ім вельмі нялёгка.

Я выскачыў з камандзірскай зямлянкі што апараны. «Знайсці і далажыць». Дзе знайсці? Што далажыць? У такой бязвыхаднай сітуацыі ці знаходзіўся хоць адзін падначалены?

А днявальнай каля зямлянкі стаяла Глаша Васіленкава. З першай дзявочай камандай прыбылі дзве сястры — Каця і Глаша, блізняты. Калі не лічыць Ванды, яны мелі добрую адукацыю — па дзевяць класаў, паходзілі з сям'і раённага работніка, які ў войску стаў

камісарам, у армію дзяўчаты пайшлі добраахвотна. З імі, камсамолкамі, я з першых дзён наладзіў шчырыя адносіны, трэба ж мець апору сярод маладога, ды яшчэ такога незвычайнага, папаўнення.

Я стаяў каля накрытага палаткай планшэтнага стала ў поўнай апантанасці, разгублены да памутнення памяці. З чаго пачаць? Куды кінуцца?

Глаша быццам у ганаровым караўле нерухома стаяла каля ўваходу ў камандзірскую зямлянку. Што прывід у белым кажуху. Варта напомніць ёй, што днявальны павінен хадзіць па ўсёй пазіцыі. Ды было не да таго. А яна раптам наблізілася, узяла мяне за рукаў кажуха, адвяла ад каманднага пункта.

«Хочаце, камандзір, я скажу, дзе яна?»

«Хто?»

«Жмур».

«Ты знаеш — дзе яна?!»

«А Ванда не рабіла тайны. Яна расказала нам, што пазнаёмілася з англійскім афіцэрам, яна ж трохі ведае па-англійску. Афіцэр запрасіў яе на танцы ў гасцініцу... Ёсць такая спецыяльная гасцініца для англійскіх і амерыканскіх маракоў...»

Ведаў я гэтую гасцініцу.

«Ну-ну...»

«Яшчэ гарадзіла, што выйдзе замуж за англійскага адмірала. І запрашала нас у госці ў Лондан. Называла палацы, якія пакажа. Во выдумшчыца! Некаторыя з дзяўчат ажно спалохаліся: кажуць, з «падушачкай» гэтая Ванда».

«З чым?»

«Ну, з вінцікам»,— Глаша крутнула рукавіцай каля шапкі.

З чым яна — з «падушачкай» ці з «вінцікам»,— гэта мяне не зацікавіла. Важная першая частка Глашынага паведамлення: безумоўная праўда! І такая простая! Я ўзрадаваўся, што Ванда жывая. Не з'ядуць жа яе англічане. І... не згвалтуюць. Культурныя людзі. Саюзнікі.

Калі прыслалі дзяўчат, я, наіўны хлопец, чамусьці больш за ўсё баяўся, каб не здарылася гвалту. Лічыў, што гэта была б самая страшная ганьба для дывізіёна, для ўсяго мужчынскага саставу.

Калі Ванда не вярнулася, я з жахам думаў, што на яе маглі напасці п'яныя матросы. Глупства думаў: сам неаднойчы хадзіў у горад і не бачыў ніводнага п'янага. Хто ў той час мог напіцца? Па-першае, дзе, за што? А па-другое, для вайскоўца — верны трыбунал у такім прыфрантавым горадзе, як Мурманск.

Я вярнуўся ў зямлянку і, бадай, весела, як анекдатычную гісторыю, далажыў Водневу тое, што пачуў ад Глашы. Пра Вандзіну

фантазію з адміралам змоўчаў. Хапіла розуму. Ці, можа, не паспеў? Не помню. Бо ў той жа міг адбылося такое, што ашаламіла, душэўна траўміравала.

У Воднева быў бранхіт, астматычны. Ён закашляўся, перапыніўшы мяне на паўслове. Закашляўся страшна, ажно пасінеў. Але цяжка ўзняўся з канапы, абапёрся адной рукой на хісткі столік, а другой тыцкаў у мяне. Не адразу я сцяміў, што гаварыў камандзір. Ды і ці гаварыў ён? Нарэшце разабраў словы. Воднеў не крычаў — шаптаў:

«...з пакетам... поштай, з пісталетам».

Пра гэта я не падумаў і згадзіўся, што Ванда зрабіла па-свінску, калі яшчэ пакет сакрэтны.

Воднеў сарваўся на крык і вылаяў Ванду бруднымі словамі.

«Навошта так, таварыш старшы лейтэнант?»— меў я неасцярожнасць запярэчыць.

Воднеў пасінеў яшчэ больш, вочы яго naліліся крывёю, ён зноў перайшоў на шэпт:

«Ты чуў, Салаўёў? Чуў? Цяпер я разумею. Цяпер я дацяміў. Яны змовіліся падвесці мяне пад трыбунал. Ён і яна, яго б... Ну, ты не мяне падвёў пад трыбунал, Шыянок. Не мяне. Ты сябе падвёў! Сябе! Во камузвода падсведчыць,— і раптам зноў нечаканы загад: — Вывалачы яе адтуль як сучку. Звязаць! Прывесці на батарэю! Я ёй трыбухі выпушчу. Ясна табе, камсорг?»

«Так точна».

«Што табе ясна?»

«Выманіць Жмур з гасцініцы і даставіць на батарэю ».

«Выманіць!» -— з абразлівай знявагай: — Бабскі заступнічак! А я іх..» — не сказаў, што ён зрабіў бы ім, але мне стала страшнавата, як гэтым няшчасным дзяўчатам будзе служыць пад яго камандаваннем.

«Дазвольце дзейнічаць?»

«Стой! — і раптам зусім іншым голасам, спакойным, з разумнай камандзірскай разважлівасцю: — Ты ж не ўздумай урывацца туды. Цяміш? Саюзнікі! Тады сапраўды не мінём трыбунала і я і ты. Каб дыпламатычна...»

Цяжка было разумець гэтага чалавека!

«Дазвольце ўзяць двух байцоў».

«Не мала?»

«Не бой жа мы будзем весці з англічанамі».

«Ну, глядзі мне!» — і пагразіў кулаком.

Я выйшаў з зямлянкі і спыніўся, асляплены цемрай і снегам, ён балюча сек па шчоках, па вачах. Пачыналася завіруха. Палярная. Нечаканая, як часта бывае на Кольскім паўвостраве. Хоць тая была

чаканая: цэлы дзень хмарыла, разоў колькі пачынаў ісці снег. Можна было адпачыць, паспаць. Паспаў!

Спускацца з нашай сопкі па яе паўднёвым схіле яшчэ цяжэй, чым падымацца. А ў такую завею... Але, урэшце, не завіруха непакоіла. Выманіць і прывесці... Да таго ж дыпламатычна. Лёгка загадаць. Лёгка паўтарыць загад. А як выканаць? Каго ўзяць у дапамогу?

І тут усё роўна што снежныя феі ўзніклі перада мной ажно дзве постаці. Сёстры Васіленкавы. Глаша паклікала Кацю, абедзве яны, безумоўна, чулі гучную размову ў камандзірскай зямлянцы, загад Воднева.

«Вазьміце мяне, камандзір,— папрасіла Каця.— Я выведу Ванду ад іх».

Спачатку я, бадай, узлаваўся: мала яны мне падкінулі праблем, гэтыя чортавы бабы! Дык яшчэ і яна, Каця, якую я лічу сваім камсамольскім памочнікам у дзявочай камандзе, дадае... Але ўнутранае пярэчанне выбухнула ад нежадання вяртацца да камбата, дакладваць, што просіцца Васіленкава, а ён не дазволіць. Але тут жа я разважыў: а навошта дакладваць? Мне дазволена ўзяць двух байцоў, і я бяру — каго хачу. Урэшце, «семь бед — один ответ». Абы я выканаў загад.

Другога я ўзяў свайго земляка, рэчыцкага трактарыста Васіля Пырха. Хлопец з кароткім лятучым прозвішчам быў сапраўдным асілкам, дужэйшага за яго, напэўна, ва ўсім дывізіёне не знайшлося б чалавека. Калі спатрэбіцца, ён на плячах, як авечку, данясе гэтую шалёную Ванду. Ды і любую з іх. Але не толькі таму я ўзяў яго — Васіль лепш, чым хто, ведаў горад, бо бадай жа штодня ездзіў па боепрыпасы, па прадукты, і дзяўчат гэтых ён прывёз на прычэпе — аўтамашыны на абледзянелую сопку не ўзбіраліся. Пасля расказваў: «Насыпаў, як мёрзлай бульбы. Толькі баяўся, каб якая не вывалілася».

Васіль, калі я расказаў, куды і навошта ідзём, страшна здзівіўся і ўсю дарогу, пакуль спускаліся ў горад, выяўляў сваё здзіўленне моцнымі словамі:

«А ё маё! У поршань яе і ў бабіну! Во зараза! Англічане ёй трэба!»

«Пасаромейся, Васіль,— дзяўчына!» — ківаў я на Кацю, якая хітра рабіла выгляд, што нічога не чуе, так, маўляў, шчыльна падвязала вушы шапкі. Каця хоць і з інтэлігентнай сям'і, а была вельмі практычнай, кемлівай, спрытнай; Глашы гэтых якасцей не хапала, армейскае жыццё яе напачатку ўскладняла залішняя цнатлівасць.

Вецер дзьмуў у спіну, падганяў, і шмат дзе мы не спускаліся на нагах, а з'язджалі на ягадзіцах, на спіне — на кажухах. Кацю гэта захапляла, смяшыла.

«Ух ты!»

Дзявочая, бадай жа дзіцячая весялосць дзіўным чынам супакойвала. ЧП з Вандай перастала здавацца такім трагічным, як уявіў яго Воднеў і настроіў мяне.

Трохі трывожыла думка, што каля гасцініцы ёсць ахова. Але Васіль помніў, што знешняй аховы няма.

У адпускным пасведчанні было напісана, што ідзём мы на станцыю на разгрузку снарадаў, іншае што прыдумаць для каменданцкага патруля я не здолеў: на разгрузку вагонаў пасылалі нярэдка і часцей за ўсё ўначы, пра гэта ў камендатуры ведалі.

Вось і знаёмы трохпавярховы дом, хоць завіруха ўзнялася такая, што ўсяго дома не відно было, адзін аднаго за два крокі не бачылі. Але ў іншых вокнах з-пад маскіровачнага кардону дзе-нідзе цадзіліся тонкія струменьчыкі святла. Больш шырока, чым святло, з вокнаў першага паверха лілася музыка. Прыгожая, але незнаёмая. Нам з Васілём незнаёмая. А Каця летуценна сказала: «Штраус».

Васіля музыка ўзлавала, ён мацюкнуўся. А я з расказаў маракоў і лётчыкаў нашых ведаў, праз якое пекла прарываліся караваны суднаў. Нямецкія падводныя лодкі сустракалі іх далёка ў Атлантыцы, а пры набліжэнні да нарвежскіх берагоў, да Рыбачага бясконца атакавалі пікіроўшчыкі, рассыпалі па курсу плывучыя міны. Людзі — і гандлёвыя маракі і каманды ваенных караблёў эскорта — рабілі подзвіг, выконваючы саюзніцкі абавязак. Нельга іх не паважаць і нельга асуджаць, што ў час адпачынку яны дазволілі сабе патанцаваць. Запрасілі нашу дзяўчыну? Ну і што? Чаму трэба думаць бог ведае што, як той Воднеў?

Расслабляўся камандзір. Я.

Знешняй аховы, на шчасце, не было. Пустэча. Свіст ветру. І музыка.

Практычная Каця -— я, напэўна, не дацяміў бы! — намацала кнопку званка. Дзверы адчыніліся. Каця мышкай шмыгнула ў іх. Але ў паласе святла я ўгледзеў міліцыянера. Слупок майго аптымістычнага настрою ўпаў: прагоніць ён Кацю. Не. Пабубнелі за дзвярамі галасы. Сціхлі. Ура! Малайчына Каця! Дабралася да англічан. Ці да амерыканцаў. Усё роўна.

Мы з Васілём сталіся за рогам дома. Але так, каб быць бліжэй да дзвярэй, таму не схаваліся ад ветру. Пакуль ішлі, узмакрэлі ажно, і нас, усна цел ых, ледзяны, народжаны, можа, на самым полюсе вецер за пяць мінут праняў да касцей.

Дзіўна, што астыламу чалавеку хочацца спаць, таму часта і замярзаюць насмерць. А я апошні тыдзень бадай жа не спаў —

бясконцыя налёты, а потым яшчэ гэтая навала — дзяўчаты. Вучы іх! А тут вецер ды яшчэ і музыка — вальс! І я засынаў. Васіль трусіў мяне за плечы: «Камандзір, не спі — адубееш».

Пасля чарговага правалу ў сон і Васілёвага штуршка я пасвяціў ліхтарыкам на наручны гадзіннік. Паўгадзіны, як пайшла Каця. Сон уміг знік. Ударыла ў галаву: а што, калі і Каця не выйдзе? Не ведаў я жанчын, але хіба мала чуў расказаў, ды і чытаў, якія яны каварныя, хітрэнныя, прытворныя? Што рабіць тады? Пад расстрэл за невыкананне загаду Воднеў мяне не падвядзе — не дадуць яму, камісар дывізіёна капітан Мірскі ў нас разумны, але калі давядзе да трыбунала, як, Налівайку,— у штрафны батальён можа загнаць. На ліха я ўзяў гэтую Кацю без яго дазволу?! Не са свайго ж разліку — з аддзялення сувязі. А разам з тым — што мы зрабілі б без яе? Выказаў сваю трывогу Васілю. Абураны, ён загрымеў на ўвесь Мурманск:

«Ты што, камандзір! Ды я ўсю гасцініцу разнясу, а выцягну іх, паразітак. Я ім пакажу танцулькі! »

Прайшло яшчэ дзесяць мінут. Дваццаць... Паўгадзіны...

Я ўмеў праяўляць зайздросны спакой перад атакай на батарэю армады «юнкерсаў». А тут паддаўся такой паніцы, што мог натварыць глупства, каб не мой добры зямляк. Васіль крыў адмысловымі мацюкамі Гітлера, вайну, Воднева, баб, Запаляр'е, завіруху, але рабіў гэта ў такіх нечаканых словаспалучэннях, што хацелася засмяяцца, ва ўсялякім разе, лаянка яго — во дзіўна! — не давала згаснуць надзеі, што ўсё скончыцца добра, грэла веру ў Кацю.

«Нельга ёй не верыць! Нельга! Дачка партыйнага работніка! Камсамолка. Разумная дзяўчына,— пераконваў я сябе, але тут жа і сумняваўся.— Разумная... Якой разумнай здалася Ванда. Зачаравала ўсіх. І — на табе!»

Урэшце, з дзвярэй упаў у завею, у снег сноп святла. І яны выскачылі абедзве — Ванда, за ёй — Каця. Некаму кінулі развітанне, засмяяліся. Ванда не паспела і апрануцца як мае быць: кажушок не зашпілены, рэмень і паштовая сумка ў руках. Такі яе знешні выгляд чамусьці асабліва абурыў мяне.

Я падскочыў, выбіў сумку, выхапіў рэмень, штурхнуўшы ў плячо, развярнуў дзяўчыну, заламаў ёй рукі назад і скруціў іх рэменем. Ванда не супраціўлялася.

Васіль даў ёй у плечы кухталя яе ж сумкай, набітай пісьмамі і газетамі, злосна вылаяўся.

Каця войкнула і спалохана папрасіла:

«Хлопчыкі, хлопчыкі, не трэба так».

«Мы вам не хлопчыкі! Мы — камандзіры! Ану, уперад! Бягом!»

Але прабеглі мы колькі крокаў, бо нават Васілю было не пад сілу — завіруха забіла дарогу на вуліцы, дзе ад летняга пажару засталіся адны падмуркі; збочыўшы, лёгка шуснуць у пограб пад былым хлеўчуком для дроў. Пра гэта папярэджваў камендант горада, на праезджай частцы выстаўляліся тычкі.

Акрамя таго, я пачуў, што ўсхліпвае не Ванда — Каця. Стала сорамна. «А на яе завошта цыкнуў? Ёй дзякаваць трэба».

Пайшлі цяжкай хадой, месячы снег. Ванда зацята маўчала. Я разумеў, што перавысіў уладу: звязваць рукі не было ніякай патрэбы. І я чакаў, што абражаная, ганарыстая полька выльe на мяне не адну бочку архангельскай партовай лаянкі. Маўчала. Дзіўна маўчала. Такая гаваруха! У першыя дні, пакуль трохі не навучылі, ніводнаму камандзіру не давала слова сказаць. Значыцца, адчувае віну. Ведала, што не з фанфарамі стрэнуць яе з «англійскага балю». Недурная ж дзяўчына. Аднак не ўтрымалася ад спакусы патанцаваць. Во таямніцы псіхалогіі, якія мне, камандзіру, камсамольскаму арганізатару, належыць пазнаць.

Сопка трохі прыкрыла нас ад паўночнага ветру. Але пратаптаную сцежку заваліла снегам. Добра, што яшчэ ў пачатку зімы пазначылі яе тычкамі, а на крутых спусках канатамі, за іх можна ўтрымацца. А так невядома куды выйшлі б. Спыніліся адпачыць. Павярнуліся да ветру. Змахнулі з твараў снег. А ў Ванды косы выбіліся з-пад шапкі, і набіты ў іх снег звісаў казырком на вочы, на нос.

Васіль і перад тым разоў колькі вылаяўся, і тут — мацюкнуўся, нязлосна ўжо, хутчэй ад здзіўлення.

Каця сказала:

«Таварыш камандзір, скажыце яму, што гэта непрыгожа».

«Пырх!»

«Пырх — і нема пана?» —раптам засмяялася Ванда.

Во чартоўка! Выходзіць, з яе — што з гусі вада.

Хацелася, каб яна плакала, а яна — смяецца.

«Што так доўга?» — спытаў я ў Каці.

«А мяне частавалі кавай. З лікёрам, з пірожнымі. А потым я патанцавала...»

«І ты?!»

Пырх зноў не вытрымаў — вылаяўся, можа, на гэты раз ад зайздрасці за каву, за лікёр.

«А як вы думалі? Не магла ж я хапіць яе на рукі і вынесці: Ванда ж — не дзіця. Вы не думайце, што мы там адны танцавалі. Там яшчэ дзяўчаты былі. Дзве ўрачыхі. Дзве перакладчыцы... Буфетчыцы. Жывуць яны там як не на вайне»,— Каця сумна ўздыхнула.

«Іх таксама падсцерагала смерць. Ад Англіі да Мурманска...»

«Ты ўмееш спачуваць, салдафон?» — спытала Ванда са здзеклівай насмешлівасцю.

Я не адказаў.

А Каця... слаўная Каця, яна і пасля была што галубка — усіх мірыла, тут жа пагасіла і Вандзін «салдафон» і мой магчымы ўзрыў — пачала амаль весела расказваць:

«А, знаеце, амерыканцы не ўмеюць танцаваць. Англічане — нішто. Але француз там быў з гандлёвых маракоў... Во мастак! Як я вальсіравала з ім!»

Васіль не вытрымаў зноў. Ды і я ўзлаваўся: і гэтая, лепшая камсамолка, радуецца, што патанцавала з французам?! Як жа іх трэба перавыхоўваць!

«Ну, няма чаго аблізвацца! І на батарэі язык не распускайце! Нічога не было! Зразумела? Ніякіх танцаў! Ніякіх лікёраў! Уперад! Марш!»

«Развяжыце ёй рукі, камандзір,— папрасіла Каця.— Паслізнецца — разаб'е твар. Вам гэта трэба?»

Не, гэта мне не трэба. І я развязаў Вандзе рукі. Успомніў, што яна без рукавіц: можа абмарозіцца, будзе яшчэ адно ЧП, ужо па маёй віне.

Ванда пахукала на рукі і раптам гучна і весела спытала:

«А што, камандзір, калі я адвешу табе аплявуху?»

Шчыра кажучы, я спалохаўся: такая вар'ятка можа ўсё зрабіць.

«Пойдзеш пад трыбунал».

«Сур'ёзна?»

«Як піць даць»,— пацвердзіў Пырх.

«Пад трыбунал не хачу. Але лічы, што аплявуха за мной. Скончыцца вайна — атрымаеш».

«Во каўтун на тваю галаву, зямляк,— засмяяўся Васіль.— Але пасля вайны і я падстаўлю сваю морду. Бі. А я буду цалаваць пані ручкі. А цяпер ты казырай нам. На мае рукавіцы».

«О-о! Пан такі гжэчны?» — здзівілася Ванда. А яшчэ мацней здзівіўся я: у Васіля, які не саромеўся пры дзяўчатах лаяцца патрактарысцку, раптам такая галантнасць? Дзівосы! Адкуль гэта ў яго? З кніг? Успомніў: ён расказваў, калі везлі нас з Гомеля, што палавіна іх вёскі — шляхта, кпіў са шляхетных суседзяў сваіх, асабліва з дзяўчат-шляхцянак.

Воднеў узрадаваўся, што страшнае для яго ЧП скончылася ўвогуле ціха, без скандальнай прыгоды.

«Васіленкавай аб'явім падзяку перад строем, за праяўленую ініцыятыву».

«Не трэба, таварыш старшы лейтэнант».

«Ты лічыш — не трэба?» — камандзір батарэі, можа, упершыню не загадваў — раіўся.

«Не трэба, каб было рэха».

«Правільна, не трэба рэха! Я даўно кажу Салаўёву, што ты разумны хлопец, Шыянок. Але скажы: а з гэтай... з гэтай што рабіць?»

«Папрасіце камандзіра дывізіёна «сплавіць» яе ў другую часць. А то яна выкіне не адзін фортэль».

Воднеў спачатку быццам здзівіўся, пасля задаволена засмяяўся.

Я разумеў камандзіра: яму хацелася ўвогуле «пахаваць» гэты прыкры выпадак, але не дакладваць начальству зусім ён баяўся. А я падказаў, як далажыць, каб даклад не стаў бумерангам.

«Не, Салаўёў, у нас праўда разумны камсорг».

Прыемнай была не сама пахвала, а тое, што выказваў яе камандзір батарэі пры камандзіры ўзвода, які дробязна прыдзіраўся да мяне, да майго разліку.

Сапраўды, з таго вечара адносіны да мяне значна палепшыліся і з боку Воднева і з боку Салаўёва.

А Ванду праз тыдзень, за які я, здаецца, і не пагаварыў з ёй ні разу, хоць і хацелася «павыхоўваць» былую студэнтку, сплавілі ў новы зенітны полк, які арганізоўваўся.

Прыгоду з ёй я расказваў Калбенку, Данілаву, іншым афіцэрам, якія прыйшлі пазней, як вясёлы анекдот, як гісторыю з лазняй. Не думаў, што калі-небудзь сустрэнуся з ёй. І вось яна перада мной. Гара з гарой не сыходзяцца...

І, выходзіць, няблага служыла, калі за паўтара года да старшыны дарасла.

Думаць дрэнна пра Ванду я не мог.

— З якой мэтай ты з'явілася да нас?

— Каб выйсці за цябе замуж.

— А што, з англійскім адміралам не выйшла?

Ванда зарагатала.

— Уяўляю, як валагодскія сарокі расказвалі табе пра адмірала. Помніш, якія ў іх вочы былі?

— Помню.

— Нават ты паверыў, так? Дурніца я, што клюнула на тыя танцы. Вясёленькае жыццё я вам наладзіла б, твайму спалоханаму камбату. Былі б яшчэ і не такія містыфікацыі...

— Што-што?

— Ты не знаеш, што такое містыфікацыя?

— Знаю.

— Глядзі, які адукаваны! Таму я цябе і выбрала. Магла выйсці за генерала. А пасля падумала: на якога чорта мне стары кот, калі ёсць такі перспектыўны жаніх, як ты.

— Чым жа я перспектыўны?

— Ты станеш прафесарам. Мне карты паказалі. Я ж умею варажыць. І карты маю,— яна паляпала па планшэтцы.— Хочаш — паваражу?

— З табой, Ванда, не засумуеш.

— А ты думаў, чаго я прыехала? Весяліць вас, засушаных бублікаў. Не ведаеш хіба? Уведзена пасада дывізіённай весялухі. Званне — не ніжэйшае,чым старшына.

— Так і будзеш займацца містыфікацыяй? Глядзі,— узбунтуюся і... звяжу папругай...

— Ты можаш узбунтавацца? Не! Ты добры. Таўстапятачкі тыя на другі ж дзень ахрысцілі цябе Паўлушкам.

Я падумаў, што Паўлушка забытае, прывілося Лідзіна, беларускае — Паўлік, ад успамінаў пра Ліду агарнуў смутак, і Ванда гэта ўгледзела:

— Няма хмары. А на цябе ўпаў цень. Што я сказала непрыемнае?

Сустрэлі капітана Шахоўскага, казырнулі. Ён спыніўся, з цікавасцю агледзеў Ванду:

— Адкуль такі бравы прапаршчык?

Я здзівіўся: чаму прапаршчык? Няма ж такога звання. Ванда стукнула абцасікамі, па-вайсковаму прадставілася:

— Старшына Жмур. Накіравана штабам корпуса ў ваша распараджэнне. Камандзірам СОН-3[1].

Шахоўскі засмяяўся.

— Дык гэта вы? А мне так далажылі, што я палічыў: Жмур — ён.

— Рада заставацца ў сваім жаночым званні, таварыш капітан.

— А вы — вясёлая. Вы знаёмыя?

— Гэта — Ванда.

— Тая Ванда? — зноў здзівіўся Шахоўскі.— Ну, шчасліва вам.

— Што ты наплёў пра мяне? — строга спытала Ванда, калі капітан адышоўся.

— Нічога не плёў. Расказаў праўду.

— Праўда — яна што гумка ў маіх рэйтузах. Дазнаюся, што ты расцягваў яе,— абскубу, як старога пеўня.

---

[1] Станцыя гарматнай наводкі.

— Моцна ты палохаеш мяне. Дык ты будзеш камандзірам СОН-3?

— Думаеш, я і капітана містыфікавала?

— СОН-2 камандаваў лейтэнант...

— Вучылася я з тваімі лейтэнантамі. Падпалкоўнік Чурко, доктар навук, схемы лакатараў выкладаў, называў іх — чыгунныя галовы. А пра мяне казаў: залатая галоўка. Залатая! Чуў?

— Ад сціпласці ты не памрэш.

— А я ўвогуле бессмяротная. Спадчынніца старажытнага роду.

— Між іншым, сапраўдны князь — вунь ён.

— Хто?

— Капітан Шахоўскі. Нашчадак дзекабрыста.

— Праўда? — Ванда спынілася, паглядзела ў той бок, куды пайшоў капітан, але ён ужо знік з дарожкі, і яна махнула рукой: — Не распыляю ўвагу. Ты, Павел, канечне, мужлан, здагадваюся, чаму ты сказаў пра гэта. Але ўсё роўна я зраблю з цябе князя.

З «князя» я засмяяўся.

Увогуле, нечаканае з'яўленне Ванды зрабіла на мяне дзіўнае ўражанне. Ва ўсялякім разе, Калбенка ў той жа дзень адзначыў, што я павесялеў. Сапраўды, мяне, бадай, узрадавала, што з'явіўся чалавек, з якім можна пагаварыць вось так вольна, на «ты», без усялякіх умоўнасцей, вайсковых, узроставых. Так я мог гаварыць толькі з Лідай, праўда, больш сур'ёзна — без гульні ў словы.

## Частка другая

I

Сямён Таміла — мой зямляк. Нямнога засталося ў дывізіёне тых, з кім разам прызываўся ў саракавым, разам ехалі з Гомеля ў Мурманск. Натуральна, што мы падтрымлівалі сяброўскія адносіны, зямляцтва моцна цэментуе людзей. А калі яшчэ землякі без малога чатыры гады сёрбалі з аднаго кацялка... хапанулі, як кажуць, і гарачага і халоднага — такіх не раз'ядноўвае ніякая субардынацыя. А з Сямёнам у нас і становішча аднолькавае: хоць ён яшчэ ў званні старшыны, але на афіцэрскай пасадзе — камандзір штабнога ўзвода ўпраўлення. Штодня сустракаемся, разам снедаем і абедаем у афіцэрскай зале сталоўкі. Праўда, не скажу, сябры мы — вадой не разліць. Не. Такой блізкасці, як з Віктарам Маслоўскім, з Данілавым, з Калбенкам, з Сямёнам у мяне не было. Розныя мы людзі. Ён прагматык, рацыяналіст, недарэмна скончыў фінансавы тэхнікум, хоць ад пасады начфіна, якую яму двойчы прапаноўвалі з абяцаннем прысвоіць афіцэрскае званне, ён рашуча адмовіўся. А я — рамантык, прыроджаны прапагандыст. Я люблю пагаварыць. Сямён — з маўчуноў. Красамоўнасцю і раней, да вайны, не вызначаўся. А з Мінулай восені ўвогуле змоўк — пасля весткі з вызваленай Доеўшчыны, што фашысты зверскі закатавалі маці яго, бабулю, дзвюх сясцёр, сваякоў, аднасяльчан: адплацілі за бацьку і брата, партызан, за іншых лясных мсціўцаў. Ранняй вясной яму дазволілі з'ездзіць на Гомельшчыну. Выканаў маю просьбу — заехаў да маіх. Пераадолеў усе цяжкасці: дзе Лоеў, дзе Рагачоў! А галоўнае — вёска мая прыфрантавая, за дзесятак кіламетраў ад Дняпра, пазіцыі за якім трымалі немцы. Але колькі радасці ён прывёз маёй маці, бацьку, сёстрам! А пасля — мне. Адно — пісьмы, што ішлі па паўтара месяца. Зусім іншае — жывы чалавек, сябар. Жывая нітачка. «Маці не знала, куды пасадзіць мяне»,— расказваў ён, даводзячы да слёз, бо ўяўляў я, што і яго маці, безумоўна, гэтак жа не знала б, як прыняць мяне.

Але пасля паездкі Сямён яшчэ больш змоўк і напісаў ужо два рапарты з просьбай паслаць яго на перадавую. Тужнікаў настроіўся было даць згоду, але параіўся са мной — рэдкі выпадак! — І я папрасіў не адпускаць Таміла: «Нямнога засталося старых камандзіраў». Сапраўды, хіба параўнаеш старшыну Таміла са спечаным за паўгода бязвусым лейтэнантам, такім, як Унярха, напрыклад?

Сямён не ведаў пра маю размову з намеснікам камандзіра па палітчасці. Пра загад Тужнікава я, безумоўна, не сказаў яму,— добры загад: «Разварушы ты свайго земляка». Лёгка сказаць: разварушы. Ты

яму — цэлую споведзь душэўную, а ён у адказ — адно слова малазначнае.

Сямён прапанаваў за снеданнем:

— Хадзем са мной пашукаем месца для НП. Пабачым карэльскі лес. Не хачу адрываць сувязіста — хапае ў іх работы. Аднаго мяне Мураўёў не адпускае.

Не вельмі далікатнае запрашэнне — як не пашкадаваў, што не можа пайсці адзін. Напэўна, пашкадаваў. Але я не звярнуў увагу на гэта, бо разумеў, што Сямён ахвотна пайшоў бы адзін — далей ад штабной мітусні. Я ўзрадаваўся запрашэнню. НП «выкідвалі» кіламетраў на дваццаць. Прайсці па ягадным лесе, зірнуць шырэй на лясны і азёрны край — моцная спакуса. Да таго не і настрой у мяне быў падобны Сямёнаваму, ва ўсялякім разе,не вельмі цягнула праводзіць палітгурткі. Тая ж Ванда ўчора развярэдзіла свежую рану.

Прыйшла СОН. Тэхнікі манціравалі яе. Камандзір станцыі старшына Жмур з няпоўным яшчэ разлікам сваім: памагала ім. Не, не памагала — камандавала, так, прынамсі, здалося мне, калі я празіраў за іх работай. Ванда проста захапіла мяне сваёй здольнасцю. Камандзіраваны з корпуса інжынер, старшы лейтэнант, чалавек, відно было, умелы — не адну станцыю зманціраваў — з гуллівай весялосцю падначальваўся Вандзе. Пакарылі тэхнікаў яе веды. А яна такі сапраўды разбіралася ў схеме, а галоўнае — чытала англійскі тлумачальны тэкст, больш падрабязны, чым рускі пераклад, дарэчы, няўмелы, асобныя сказы, перакладзеныя даслоўна, трацілі сэнс.

Ванда і гэта выкарыстала — з англійскім акцэнтам прачытвала бязглуздзіцу.

Тэхнікі смяяліся.

Я сказаў ёй як кампліментт:

— Здорава ты навучылася камандаваць.

— Ды ўжо ж не так, як ты камандаваў у сорак другім. Знайшоў каму рукі звязваць,— гэта цішком, паміж намі, а потым — да ўсіх: — А я, дарагі мой камсорг, нічога так не люблю, як камандаваць мужчынамі. Мяне хлебам не кармі, а дай пакамандаваць вашым братам. Асалода! Радасць зямная!

— Ванда! Ты з камандзірам корпуса не на «ты»? — спытаў адзін з тэхнікаў; з імі за два дні, выходзіць, яна завязала панібрацтва.

— Не. Старэнькі. А старых я паважаю і... шкадую.

— Во пачуў бы наш генерал! — рагатаў тэхнік, які сядзеў на даху станцыі — манціраваў антэну.

Камандзіру корпуса ПВО было гадоў сорак.

— Адкусяць табе язык,— сказаў я Вандзе амаль шэптам, а яна, чартоўка, зноў да ўсіх:

— Хлопчыкі! Камсорг лічыць, што я такая дурніца, што так проста суну язык у яго кусачкі.

І тая ж Ванда, праводзячы мяне ад устаноўкі, сказала вельмі сур'ёзна:

— Прабач, Павел.

— За што?

— За маю балбатню пры сустрэчы. Я не знала, што ў цябе гора.

Горкі камяк падкаціўся да горла; можа, ніводнае спачуванне нават у дзень пахавання Ліды не кранула гэтак, як яе.

— Яна была тваёй жонкай?

— Што ты! — я спалохаўся: кіне пляму на нябожчыцу.

— Ты любіў яе?

— Любіў.

— Даруй.

Ах, як развярэдзіла сэрца! Цэлую ноч я не мог заснуць. Нават Калбенка пачуў, што я не сплю, дакараў:

— Ты што там молішся? Дзячок.

Можа, праўда, я шаптаў. Можа, маліўся — за яе чыстую душу,

...Тужнікаў здзівіўся, калі я папрасіў дазволу пайсці з Тамілам.

— Табе няма чым заняцца? Пішы дакладную аб палітрабоце ў час перадыслакацыі, аб заняцці пазіцый у Петразаводску. Аб настроі камандзіраў, байцоў у сувязі з перамогай нашай арміі. Як яны ўспрымаюць вызваленую Карэлію...

— Мала яны ведаюць. І я не знаю яе, Карэліі. Таму хачу пабачыць, каб расказваць канкрэтна, з фактамі.

Сам Тужнікаў выступаў агульна, але ад нас, падначаленых, дамагаўся канкрэтнасці і фактаў. І я гэта выкарыстаў.

Капітан задумаўся. Адпускаць мяне не хацелася. Але разам з тым хацелася мець свежы факт — для дакладной, такі, якога не будзе ні ў адным палітданясенні.

Мінулым летам пасля карпусной камсамольскай канферэнцыі палітупраўленне флоту запрасіла групу сухапутных камсоргаў, па жаданню, пазнаёміцца з баявымі справамі маракоў — выйсці на тарпедных катэрах у Барэнцава мора насустрач каравану, наведаць легендарны Рыбачы паўвостраў. Я адгукнуўся першым. Тужнікаў прысутнічаў на канферэнцыі і не даў згоды на мой выхад у мора, ажно пакуль я не пагразіў, што звярнуся да намесніка начальніка палітаддзела па камсамолу. А пасля, калі я вярнуўся і, поўны ўражанняў, расказваў так, што ўсе, у тым ліку і сам ён і Кузаеў, слухалі, як

кажуць, разявіўшы раты, Тужнікаў распісваў мой расказ пра маракоў як новую форму палітработы, што з'явілася ў выніку мудрасці вышэйшых паліторганаў і яго ўласнай мудрасці.

Калбенка прачытаў копію адной такой дакладной і кпіў то бяскрыўдна, то ўедліва — у залежнасці ад настрою — з гэтай «мудрасці».

Між іншым, парторгу таксама не падабалася, што я сабраўся ў паход, ён, бадай, пакрыўдзіўся, што не параіўся з ім.

— Ад каго ты хочаш схавацца ў лес? Ад мяне?

— Што вы, Канстанцін Панасавіч! Захацелася паглядзець на зямлю.

— А тут ты глядзіш толькі ў неба? Мы з табой горад не агледзелі яшчэ.

Праз горад мы хадзілі на батарэі, на кулямётныя кропкі. Пакуль што малалюдны, горад мала цікавіў: я слаба ведаў яго гісторыю, не бачыў прыгажосці ў архітэктуры. Увогуле я прызнаваў толькі чары лесу. Паміж недалёкіх штабялёў пілоўніку я мог хадзіць ці сядзець не адну гадзіну, ап'янелы ад сасновага водару. Шкадаваў, што ў гэтага багацця, якое ў першыя дні ахоўваў дывізіён, з'явіліся, здавалася мне, не вельмі ашчадныя гаспадары: штодня вывозілі шалёўку, дошкі, шпалы на ваенных машынах. Добра ўсведамляў, што будавацца неабходна і ваенным і цывільным, чыгунку трэба аднаўляць, і, аднак, усё роўна шкада было. Во натура! Курыльская, сказаў бы, напэўна, Калбенка. Ды і сказаў, калі я пахваліў Кузаева, які, дамовіўшыся ці, можа, не дамовіўшыся з новымі гаспадарамі лесасклада, прыхапіў — на ўсялякі выпадак — дзесятак машын дошак, брускоў, схаваў на другой батарэі, якая стаяла на беразе Анежскага і недалёка ад якой чарнелі каробкі спаленых дамоў. Я разумеў гаспадарлівасць камандзіра: наперадзе зіма. Калбенка, які ў дывізіёне пазней, не помніць, не ведае, якой дарагой была кожная дошка, кожная стойка, калі ўвосень сорак першага будавалі зямлянкі на заходнім беразе заліва; пасёлак называецца Дравяное, а з дрэвам вельмі ж туга было, у самім Мурманску прасцей: там знаходзілі што зламаць, разабраць.

Выйшлі мы з Сямёнам разам з сонцам, якое толькі што паднялося з возера,— каб да паўдзённай спякоты дайсці да пункта, пазначанага начальнікам штаба на карце.

Спачатку ішлі па вузкакалейцы. Ці даўно ёй перасталі карыстацца, а яна ўжо зарасла травой. Як разумець: сіла жыцця ці сіла разбурэння? Падзяліўся сваімі разважаннямі з Сямёнам. Ён толькі гмыкнуў у адказ. Мяне не збянтэжыла, што ён маўчаў, я звыкся, ды і самому хацелася прайсці моўчкі, паназіраць, падумаць, пасмуткаваць у адзіноце. На людзях смутак мае адметнае аблічча. Кажуць, гора

перажыць лягчэй на людзях. Гора... А калі не хочацца пазбавіцца ад душэўнага болю? Я разумеў Сямёнава жаданне пайсці аднаму. У поўнай адзіноце мне, можа, і не вельмі хацелася застацца ў чужым лесе, але паход з такім маўклівым напарнікам — якраз тое, што адпавядала настрою.

Спачатку мне не падабаўся лес, не такі, як у нас у Прыдняпроўі,— драбнаваты.

— Не такі,— коратка згадзіўся Сямён.

Чаму маўчаць птушкі? Раніцою лес напоўнены птушыным гоманам.

— Адспявалі. Сярэдзіна ліпеня.

— Не кажы. У нас і ў ліпені...

— У нас, у нас... У нас — І ў вёдрах квас.

Такой была размова землякоў, якія чатыры гады

сёрбалі, лічы, з аднаго кацялка.

Павярнулі на вузкую пакручастую лясную дарогу — тую, што яшчэ ў маладняку, які лёгка прачысціць, пракладвае ляснік ці першы лесаруб на возе ці санях. Есць штосьці загадкавае ва ўзнікненні лясных дарог, таямнічае. Адзін след — і дарога жыве сто гадоў, пакуль расце лес. Толькі ў час парубкі дарога можа пабурыцца, знікнуць, бо пры тралёўцы лесу ўзнікае многа новых пуцявін. Але здараецца і такое, што людзі хочуць пракласці дарогу, каб праехаць прамей, а лес супраціўляецца, дарога зарастае, асабліва ў ліставых гаях, у маладым асінніку; лес перамагае чалавека, той саступае, і нейкім чуццём, можа, нават не чалавека — каня пракладваецца новы след, і лес дае права на доўгае існаванне новай дарогі. Грубая сіла тэхнікі, здольная зламаць, стаптаць маладняк, парушыла адвечныя, на здзіўленне разумныя адносіны чалавека на кані з лесам.

На карце лясная дарога не была пазначана. Але ў баку ад вузкакалейкі — вёска з цяжкай для вымаўлення карэльскай ці фінскай назвай. Населеныя пункты па шляху да будучага НП мы павінны вывучыць, даследаваць: хто там жыве? Што за людзі? Наладзіць з імі адносіны. Тут будуць хадзіць нашы людзі. Часцей за ўсё — па адным: сувязісты, пасыльныя за прадуктамі. На дрэвах павісне тэлефонны провад. Каб жыхары ведалі яго прызначэнне, не рвалі.

Дарога вельмі ж нагадвала дарогі ў нашых лясах, тыя, па якіх я, як і памятаю сябе, ездзіў з бацькам у лес, хадзіў з маці, з сёстрамі па грыбы, па ягады. Ад успамінаў я па-дзіцячы расчуліўся.

— Як у нас,— сказаў я Сямёну.

— Што?

— Дарога.

— Дарога як дарога.

Яго сяло палявое, бліжэйшы лес у іх вёрст за дзесяць, да таго ж — за Дняпром, улетку не часта туды перапраўляюцца, таму зямляк мой, пэўна, не адчуваў лясной прыгажосці гэтак жа, як я. А тут яшчэ і лес змяніўся. Пасля разнадрэўя — нізкарослая сасна, разлапістая елка, купіны закарэлых бяроз, якія выглядалі бабулямі, трапяткая, вечна маладая асіна, што раней за ўсіх прабівалася да сонца, аднак жыла ў дружбе і з елкамі і з бярозамі — раптам чысты бор: адна ў адну, высокія — шапка валіцца — магутныя, з чыстымі ствaламі, меднымі перад кронай галля, сосны. Як у нас над Дняпром. Ажно дыханне заняло — ад радаснага здзіўлення.

Узнялося сонца, і ў драбналессі было душна. А тут, у бары, усё яшчэ трымалася прахалода і паветра, здавалася, звінела, як звінелі, што туга напятыя струны, ствалы сосен. І валуноў, голай скалы пад соснамі амаль не было. Гэта таксама нагадвала родныя мясціны, Гомельшчыну, дзе цяжка знайсці камень, каб шпурнуць яго ў ворага.

Парадавала яшчэ адно адкрыццё. Мора чарнічніку слалася паабапал дарогі на ўсім шляху, але чарніцы былі зялёныя; мы гаварылі пра гэта: наколькі пазней яны паспяваюць тут, у Карэліі.

У бары чарнічнік рос не такі густы, кустоўем, але было нямала спелых чарніц. Мы наталілі імі смагу, але нагналі апетыт. Сямён прапанаваў:

— Давай паснедаем. Вёрст дзесяць адпалалі. Зарабілі снеданне.

Сямён скінуў з аднаго пляча вінтоўку, з другога — рэчавы мяшок, упаў на калені, лёг на жывот і пачаў збіраць з чарнічніку ягады. Ціха засмяяўся. Але тут жа, як апёкшыся, адарваўся ад ягадніку, перакуліўся на спіну, застагнаў.

— Ты што?

— Нічога,— праз хвіліну растлумачыў: — Успомніў... Некалі, малы, я з мамай хадзіў у лес. І во так еў ягады. А мама смяялася,— і як усхліпнуў: — Мама смяялася... Наша мама была вясёлая. Пявуння...

— Не трывож душу, Сеня.

— Лёгка табе раіць.

Шмат чаму я навучыўся, але аднаго не ўмеў — суцяшаць людзей. Калі загінула Каця, Глаша доўга, як толькі ўбачыць мяне, пачынала плакаць. І я плакаў разам з ёй. Нядобра, безумоўна: старшына, камсорг дывізіёна. Нехта — ці не Унярха? — далажыў Тужнікаву, і той грубавата выгаварыў мне: не распускай нюні. А вось Калбенка ўмее суцяшаць. Як далікатна, па-бацькоўску ён рабіў гэта пасля смерці Ліды.

Я развязаў рэчавы мяшок, зазірнуў у сяродак яго і расчулена здзівіўся. Калі на світанні ўскідваў мяшок на плячо, падумаў, што ў ім нібыта больш за тое, што я напакаваў увечары. І вось убачыў — што там.

— Во чалавек! — вырвалася ў мяне.

— Хто? — лена спытаў Сямён.

— Калбенка. Употай паклаў у мяшок свой дэпэ,— я дастаў банку амерыканскага бекону і пачак галетаў з яркімі этыкеткамі, якія не пераставалі здзіўляць нас: навошта на кожнай банцы, якую, з'еўшы бекон, выкінуць, такі шматфарбны малюнак? Здарыўся нават канфлікт праз гэтыя этыкеткі. У часе інспекцыйнай праверкі на трэцяй батарэі ў ранцы (правяраліся і асабістыя рэчы) устаноўшчыцы трубкі Машы Аюравай выявілі сшытак, зроблены з газет (сапраўдны сшытак з чыстай паперы там, у Кандалакшы, быў раскошай нават для камсорга); у тым дзіўным сшытку былі наклеены этыкеткі з амерыканскіх і англійскіх кансерваў, галетаў, цыгарэт, мыла. ЧП!

На афіцэрскім разборы вынікаў праверкі правяраючы, падпалкоўнік, трос гэтым сшыткам, паказваючы ўзровень нашай палітыкавыхаваўчай работы.

«Амерыканцы — нашы саюзнікі. Але не забывайце, што разам з галетамі яны вязуць сваю буржуазную прапаганду. Этыкеткі гэтыя робяцца знарок, каб паказаць: во ён які, капіталізм».

Калбенка шапнуў мне:

«Ну, гэты сацыяліст мудрэйшы за самога Маркса».

Бывае ж такое: што, здаецца, смешнага? Але мяне пачаў распіраць смех ад слоў парторга: уявіў маладога правяраючага з Марксавай барадой.

Падпалкоўнік угледзеў, падняў мяне, распёк: «Вам смешна? Ад чаго вам смешна, малодшы лейтэнант? Выкладвайце. Пасмяёмся разам».

Але ўсіх афіцэраў здзівіў Тужнікаў: ён, намеснік па палітчасці, дазволіў сабе не згадзіцца з высокім прадстаўніком штаба корпуса. «Аюрава — комі, з паўночных раёнаў, з-пад самага Ледавітага акіяна. Трэба разумець нацыянальную асаблівасць, псіхалогію малога паўночнага народа. Па музеях яна не хадзіла, карцін не бачыла. І мы ёй нават кіно не можам паказаць. Вось яна і цягнецца да яркага, ёй здаецца гэта высокім мастацтвам. Мы з вамі разумеем, што гэта звычайная рэклама. Але я не бачу таго, што ўбачылі вы, таварыш падпалкоўнік. Галава быка ці прыгожая негрыцянка з цыгарэтай не зробяць калгасніцу капіталісткай... За Машу я ручаюся».

Калбенка паказаў мне, што ён пляскае ў далоні, і зноў мышцы майго жывата напружыліся ад смеху.

Падпалкоўнік не пайшоў на ідэйную спрэчку з капітанам, можа, таму, што не быў палітработнікам — чысты страявік, але ў загад этыкетачкі трапілі, ды і ў палітаддзеле ўспаміналі іх і Тужнікаву, і Калбенку, і мне.

А Маша, наіўнае дзіця прыроды, не разумела, чаму з такой суровай праборкай забралі яе карцінкі. Дапытвалася ў сваіх камандзіраў, у мяне:

«Зачем нельзя? Зачем? Красиво же. Красиво».

І ніхто ёй, пэўна, талкова не мог растлумачыць.

Прыгадаў гэты эпізод, які выглядаў па-рознаму — адкуль паглядзець: камічным — у перадачы Калбенкі, сур'ёзным — у абурэнні Тужнікава, кранальным, як забаўка дзіцяці,--калі пераносіць на Машу... Прыгадаў — і бліснула ў мяне пад звон сосен і сонечных праменняў, пад пах ежы, якую я раскладаў «інтэлігентна» на фінскі папяровы абрус, гарэзлівая задумка.

Нехта з афіцэраў ці сяржантаў падарыў Жэні незвычайную кнігу — французскі альбом рэпрадукцый Рубенса, знайшлі ў адным з дамоў. Яна аддала мне проста, без сарамлівасці, растлумачыўшы, што за мастак, калі жыў, дзе. А я раскрыў альбом, і жар ударыў у галаву. Я абразіўся за Жэню: толькі дурань ці хам мог дарыць такую рэч ёй, дыстрафічцы. Якія паўнагрудыя жанчыны! Цяпер я не магу адбіцца ад маладых афіцэраў: «Пакажы Рубенса».

Дык вось з унутраным смехам я падумаў: а што, калі падарыць такі альбом Машы Аюравай?

Цешыла і весяліла ўяўленне: прыязджае той жа правяраючы і знаходзіць у ранцы дзяўчыны-комі Рубенса. Напэўна, узняў бы шум. «Адкуль? Што? Падарыў камсорг? Так камсорг змагаецца з «вывадам» дзяўчат са строю? Такую выхаваўчую работу вядзе?!» Але ж гэта класіка. Музей. І тут — дарослыя людзі. Што ты скажаш, таварыш падпалкоўнік? Аблізніся. Мая перамога!

...Што мяне пацягнула на такія гарэзлівыя ўспаміны — пра Машыны этыкеткі, пра Рубенса? Чарніцы, што вакол нас? Прыгажуні-сосны? Мярэжы ад сонечных праменняў?

Каб ляжаў на ягадніку не Сямён — хтосьці іншы, не агорнуты жалобай, можна было б пасмяяцца, прыгадваючы гэтыя і многія іншыя забаўныя, вясёлыя эпізоды нашага побыту і агнявых дзён — кур'ёзы здараліся і ў часе баёў.

З Сямёнам — нельга. Расказаў яму пра этыкеткі — здзівіўся, што Сямён не чуў пра гэта, а яшчэ больш здзівіўся, што ён асудзіў дзяўчат:

—Барахольшчыцы. Ты паглядзі, чаго яны тут напакавалі ў свае ранцы і мяшкі. За год не вычысціш.

Пачаў пра Рубенса, пра якога ён увогуле не чуў.

— Вернемся — паглядзіш, якіх Рубенс жанчын маляваў. Грудзі якія! Во! Бёдры...

Сямён зноў-такі не зразумеў, нядобра перасмыкнуўся, злосна ўпікнуў мяне:

— Вы ўсе як вывіхнуліся на брыдкім. А гэта ж — маткі нашы, сёстры... Не сорамна так разглядаць іх? І ты... гора ты не знаў...

Прыкусіў я язык, змоўк. Аднак гэта памагло мне добра-такі налегчы на апетытны бекон. А Сямён хіба з'еў маленькую лустачку, пажаваў чэрствы хлеб. Толькі вады з фляжкі многа выпіў.

— Еш, Сеня. Не дойдзеш.

— Не бойся за мяне. Я да Берліна дайду. І дайдутакі! — вочы яго страшна бліснулі.

«Пра што можна пагутарыць з такім чалавекам, каб не вярэдзіць яго рану?» — пакутліва думаў я.

...Бор перайшоў у бярэзнік — у малады, вясёлы гаёк, кожная бярозка — што нявеста, беленькая, у зялёнай накідачцы. Бярэзнік нечакана расступіўся — і высокае, трохі засмуглае, далёкае і... празрыстаглыбокае неба асляпіла нас. Неба над намі, перад намі і пад намі — каля нашых ног з перавернутымі ўніз кронамі бяроз. Мы выйшлі на бераг ляснога возера.

Многа я чытаў, што Карэлія край азёр. Але толькі там зразумеў: каб ацаніць ашаламляючую чароўнасць лесу, скалістай зямлі, бяздонных азёр і такога ж глыбокага неба, трэба ўсё ўбачыць у летнюю раніцу, можа, з такім настроем, як у мяне,— стоеным смуткам ад страт, гора і гэткай жа стоенай радасцю ад перамогі... ад перамогі на франтах, ад вызвалення зямлі, людзей і ад... перамогі жыцця ў самім сабе, калі хвалюе і па-хлапчукоўску падстрыжаная галоўка Жэні, і таямнічая, як гэты бор, як возера, Міэлікі, і шумная зямная Ванда, і Рубенс з яго аголенымі натуршчыцамі, таксама зямнымі, як нашы «дывізіённыя мадонны», так называе дзяўчат арыстакрат Шахоўскі, хоць мне яго высокія слоўцы не падабаюцца, здаюцца абразлівымі.

— Як прыгожа, Сямён! — вырвалася ў мяне.

— Прыгожа,— не адразу згадзіўся ён, добра агледзеўшы краявід.

— Вунь дзе пост пасадзіць бы — на астраўку тым.

— За дзесяць вёрст?

— Але, блізкавата.

Сямён між тым дастаў з планшэткі карту, разгарнуў.

— Тут жа, помніцца, ля возера,— вёска павінна быць.

Збоку ад нас узвышалася скала, усё роўна як галава лася, што напіўся вады і ўзняў яе, галаву з галіністымі рагамі — дзвюма нізкімі бярозкамі. З дзіцячай цікаўнасцю ўзабраўся я на «галаву» і пачаў у бінокль разглядаць берагі. На левым нізкім беразе, у палявой залысіне, што ўразалася ў лес, убачыў яе, вёску...

Бінокль упаў з рук, павіс на грудзях.

— Хадзі сюды,— паклікаў я Сямёна.

— Што там? Няма мне калі любавацца на тваю прыгажосць. Прыкідваю, куды лінію цягнуць у абыход возера. Вёска злева.

— Вёска злева,— слабым голасам сказаў я. І ён адразу пачуў, як змяніўся мой голас, мінуту назад зачараваны борам, гаем, возерам, небам.

— Што там?

— Хадзі сюды.

Я працягнуў Сямёну бінокль. Ён адразу ўбачыў голыя коміны на чорных папялішчах, абгарэлую пуню пад самым лесам. Не існавала карэльскай вёскі з загадкавай назвай, спалена, як спалены тысячы вёсак ад паўночных азёр да чарнаморскіх ліманаў.

Сямён моўчкі, не сказаўшы ніводнага слова, не зрабіўшы ніводнага руху, разглядаў недалёкае пажарышча ў бінокль, пасля без бінокля. І здавалася — на возера насунулася навальнічная хмара. Было сонца, цішыня, ідылія... былі хвіліны мірнай... амаль мірнай радасці, калі на нейкі момант мы забыліся на пісталет, вінтоўку. Я забыўся. Наўрад ці забыўся Сямён. І раптам зноў вайна — у самым жудасным вобліку яе: спалены прытулак людзей.

— Хадзем,— сказаў я.

— Куды?

— У-у... вёску.

— Навошта?

— А калі там людзі? І ім трэба дапамога?

Сямён зноў паднёс бінокль да вачэй і доўга разглядаў недалёкае пажарышча. Урэшце апусціў бінокль, заключыў панура, не пакідаючы іскрынку надзеі:

— Няма там жывых людзей. Больш як два тыдні прайшло. Калі людзі... пажарышча ажывае.

— Усё роўна трэба зайсці. А раптам...

— Што раптам?

— Раненых хто?

— Столькі часу раненыя? Гародзіш — як учора на свет з'явіўся.

Твар земляка майго перакасіўся, а вочы што бельмамі зацягнула, і ён, як асляплы, рушыў на мяне, ціснучы са скалы. Яшчэ крок, два — І я мог бы зляцець у возера.

Сямён хрыпеў, задыхаючыся:

— Там могуць быць людзі! Могуць! Мёртвыя. Хочаш паглядзець? А я не хачу! Не хачу! Я глядзеў. Пры мне камісія магілы адкрывала пад Рэчыцай. Ты не бачыў... Ты не бачыў, што гэта такое! А я не магу. Мне трэба выканаць баявую задачу: знайсці месца для НП, начарціць схему дарогі, лініі сувязі...

Я схапіўся за шурпаты ствол бярозкі.

— У возера спіхнеш.

Сямён азірнуўся, паспешліва саскочыў з гранітнага ўзвышэння. А я сеў на скале, дзіўна знясілены. З'явілася адчуванне, што я, старшы па званню, раблю нешта не тое, але што не тое — я не ведаў. Запярэчыць Сямёну не хапіла сілы і правоў. Урэшце, у гэтым паходзе ён — старэйшы, ён вядзе мяне. Сам Калбенка параіў: «Жарабком не падскоквай. Слухайся Тамілу — ён хлопец практычны».

Далей ішлі зусім моўчкі, быццам моцна пасварыліся, кожны са сваімі думкамі. Цікава, у чым яны разыходзіліся і ў чым сыходзіліся, нашы думкі?

Я думаў пра сваё шчасце — што бацькі мае, сёстры жывыя, вызваленыя, толькі брат, што пайшоў у войска ў сорак першым, калі нашы адступалі, не адзываецца, але разам з маці я не трачу надзеі, што ён жывы. Я думаў пра Сямёнава гора. Але з асаблівым болем — пра гора Лідзіных бацькоў. Калі яны жывыя, атрымаюць яе пісьмы, узрадуюцца. Напішуць адказ. І тады мы пашлём страшнае паведамленне. Я папрасіў Данілава, Мураўёва да атрымання пісьма з яе роднай вёскі — хто яго напіша? маці? сястра? сваячка? сельсавет? — не пісаць туды пра яе трагічную смерць.

Мы ішлі няхутка, але без супынкаў. Нават маю прапанову спыніцца на абед Сямён адхіліў. Я пажаваў галету на хаду. І рана, калі сонца стаяла яшчэ над лесам, прыйшлі ў раён, дзе павінны былі пашукаць месца для НП.

Дарогу мы згубілі каля таго, першага возера, толькі таму, пэўна, што не пайшлі налева, дзе жылі некалі людзі, а абышлі возера справа. Між іншым, мусілі раздзявацца, каб пераправіцца цераз неглыбокую, але бурную і пякуча-халодную рэчку. Потым мы выйшлі на больш утаптаную лясную дарогу, якая, бадай, пракладзена была невыпадкова, і міма ажно чатырох азёр выйшлі да пятага, вялікага возера. «Адмахалі» вёрст дваццаць пяць — і ніводнай жывой душы.

— Хаця б якога лася стрэць,— сказаў я.

— Хаця б зайца,— пакпіў з майго жадання Сямён.

— Дарэмна мы ў вёску не пайшлі. Калі там людзей няма, то жывёліна магла застацца. Сабакі не пакідаюць...

— Не стагні,— асек меня Сямён.— Адзічэлага сабакі табе не хапае?

Скажу шчыра, я пачаў ужо шкадаваць, што пайшоў з гэтым чалавекам. Хацеў развеяць уласны смутак. Хацеў памагчы яму хоць на нейкі час забыцца на яго гора.

Называецца памог. За дзень перакінуліся дзесяткам кароткіх слоў. Ідзём, як непрыяцелі. Яшчэ цяжэй на душы стала.

З берага возера мы адразу ўбачылі наш будучы НП. Гатовы. Сама прырода стварыла найлепшае месца, а людзі збудавалі жытло.

У возера ўразаўся мыс, доўгі, на паўкіламетра, і вузкі; збоку, дзе мы стаялі, ён быў падобны да ліса: перашыек — хвост, далей — цяжкі азадак, бо на ім раслі асіны, выгнутая спіна, шырокая галава і вузкая пыса, апушчаная ў ваду. І колер рыжы. Дзіўна. Навокал вада, а трава пажоўкла. Скала! За асіннікам мыс быў амаль голы — з рэдкім кустоўем. А на «лобе ліса» стаяла чорная хацінка. Рыбацкая, безумоўна. Адтуль, з носа мыса, ад хаціны, адкрыта ўсё неба, ад зеніту да далягляду, на захад — праз усё возера, ды і ўсход не закрыты — лес далёка. Лепшага месца для паветранага назірання не маглі б прыдумаць усім дывізіёнам.

У Сямёна ажно вочы загарэліся.

— Вунь! НП! Бачыш?

— Бачу. А калі там людзі?

— Людзі? Калі няма малых дзяцей — выселю. Сваёй уладай. Вайна! Людзі павінны памагаць ворага біць, а не хавацца ў глушы, каб сёмгу жэрці. Разлік будзе жыць, як у раі. Хопіць, намерзліся на Кольскім! Самі сябе карміць будуць... падбяру архангельскіх рыбакоў... і ў штаб прынясуць, калі па хлеб будуць прыходзіць. Паглядзіш, якая тут рыба! Пальцы адкусіш. Ах, дурань, не захапіў пару кручкоў і шнура. Сёння ж пачаставаў бы цябе такой юшкай, якой ты і ў сне не еў. Ды там, думаю, снасці будуць. Во пашанцавала! Ішоў праз лес, і галава балела: дзе пры такіх вуглах агляду пасадзіць НП?

Я не верыў уласным вушам: Сямён гэтак разгаварыўся! Тырада. Даклад. За цэлы дзень і пятай долі таго не сказаў. Я парадаваўся за яго. Парадаваўся, што ён з такой сур'ёзнасцю ставіўся да падбору месца для НП. Што пра людзей, якія будуць несці тут службу, гэтак думае — па-камандзірску, па-бацькоўску. Я, грэшны палітык, так не падумаў і не ўзрадаваўся, што лёгка знайшлося добрае месца для НП.

Хацінка была пустая і незачыненая, толькі клямка накінута, каб звер не адчыніў дзвярэй. Пра такія хаціны я чытаў, у тайзе паляўнічыя нават запас прадуктаў пакідаюць у іх — для тых, хто можа трапіць у бяду, заблудзіцца, знясіліцца. Вялікі закон чалавечай узаемадапамогі! Ці ёсць такі звычай у карэлаў — я не ведаў. Па месцу забудовы, па калах, што тырчалі за хатай,— на такіх на ўсім зямным шары сушаць сеці — халупа яўна рыбацкая. Аднак рыбай не пахла ні ў ёй, ні каля яе. Рыбу тут даўно не лавілі. Але нельга сказаць, што жытло пакінута і запушчана. Не. Акуратна падмецена. Ад грубкі з ляжанкай — гэткай жа, як і ў нас на Беларусі будуюць, хіба толькі меншай па памерах, плошчы не хапала на большую,— пахла нядаўнім дымам. Варанай стравы не чулася, але як бы пахла спаленым ядлоўцам, быццам нешта вэндзілі. Але што? Рыба і мяса пры зачыненых дзвярах і вокнах за месяц не выветрылася б. Аднак нешта ж варылася. Нейкая нішчымніца. Але што?

Маё даследаванне пахаў Сямёна не зацікавіла. Ён адразу размясціўся надоўга і, аглядаючы «гаспадарку», не перастаў захапляцца, што лёс падарыў такое НП. Чарціў схему. Прыкідваў месца для назіральнага пункта. На колькі чалавек можна паставіць нары? Не вельмі прасторна, аднак жа не зямлянка! Рубленая хата. Калі давядзецца зімаваць — ніякіх клопатаў: ні з дрывамі, ні з дастаўкай прадуктаў, поўная гарантыя захаванасці тэлефоннай лініі ў такім лесе. Хто яе тут парве?

Сямёнавы развагі і клопаты цешылі. Заўсёды прыемна, калі чалавек аддаецца справе так, што і на боль свой забывае. Ён і мне перадаў гэты «рабочы» настрой і простую радасць ад таго, што мы так лёгка знайшлі НП і што з хатай няма ніякіх клопатаў — не трэба кагось высяляць. Калі ёсць тут гаспадар, то адзін, без сям'і, без дзяцей. Аб гэтым сведчылі рэчы: адзін сяннік, вядро, адзіная алюмініевая міска і драўляная лыжка. А знойдзеныя ў дашчанай прыбудоўцы тапор, піла, не двуручная — нажоўка, лапата і мяне ўзрадавалі бадай гэтак жа, як і Сямёна. Мяне — не столькі тым, што гаспадарыў тут яўна адзін чалавек, колькі тым, што вельмі ж яны здаліся цывільнымі і мірнымі, гэтыя простыя рэчы штодзённага ўжытку. Без пілы і тапара і ў войску не маглі б абысціся, але ў нас яны — дадатак да зброі, да гармат, што кліны да лап, канат... Каманда ў настаўленні: «Канат! Орудие!» — каб прывесці гармату з паходнага стану ў баявы і наадварот.

А тут тапор сапраўды такі мірны — зваліць сухастоіну на дровы. Сямён абследаваў мыс і таксама застаўся задаволены. Сапраўды — знарок не прыдумаў бы, заключыў ён. Нават тое, што ў перашыйку ў

«хвасце» пракапаны кароткі канальчык — з якой мэтай? —і праз яго перакінуты кладкі, два бервяны,— таксама спадабалася.

— Крэпасць! Цытадэль! — гукаў ён.— Але не для абароны гэты канальчык пракапаны. Для рыбы. Глядзі, якім каменнем дно заслаў. І як яно рассыпана. Рыба ідзе сюды на нераст, як у малую рэчку...

— І ён біў яе тут трохзубцам.

— Няма трохзубца! І не мог такі гаспадар шкодзіць самому сабе. Ты — не рыбак. Лесавік.

Я такі лесавік. У асінніку знайшоў чырвонагаловыя падасінавікі і... уміг успомніў, чым пахла ў хаціне. Варылі грыбы. Нішчымныя. Без тлушчу. З травяной хіба прыправай. Гэта мяне трохі насцярожыла. Не самі грыбы. Адсутнасць прыкмет лоўлі рыбы — тае, ад якой «пальцы адкусіш» і якой Сямён марыць забяспечваць паўдывізіёна. А рыба сапраўды ёсць. З абрыву мы бачылі, як хадзілі паміж камянёў мянтузы.

Спусціліся на «нос», можна было б сказаць на «язык»: сапраўды «ліс» апусціў язык у ваду — даўгаватая каса водмелі, рудога падводнага пяску, што рэдка бывае ў карэльскіх азёрах.

Зноў-такі як знарок насыпаны маленькі пляжык. Раскоша! Мыз велізарным задавальненнем пакупаліся, радуючыся і здзіўляючыся, што вада цёплая.

— Як у Дняпры! — гукаў Сямён, паказваючы сваё ўменне плаваць — заплыў так далёка, што мне стала страшна, па-камандзірску загадаў яму вярнуцца.

Стала хораша і таму, што на нейкі час мы ператварыліся ў дзяцей: хадзілі голыя па беразе, куляліся ў вадзе, ныралі. Далучыліся да звычайнай радасці жыцця. А пасля распалілі касцёр і варылі суп з ячнага канцэнтрату. Але «гвоздам» была зялёная цыбуля (прапалоў Сямён недзе градку — ці не ў лагеры, дзе цяпер стаяла батарэя Данілава, там былі цяпліцы і адкрытыя грады з агароднінай, якія начальнік продзабеспячэння, па загаду Кузаева, узяў пад строгую ахову) і Калбенкаў амерыканскі бекон. Пах суп на ўсю Карэлію. Даўно ўжо мы не ведалі такой смакаты.

Палюбаваліся познім захадам сонца. І ў белы адвячорак размясціліся на начлег. На падлозе. На голай. Чужы вузкі сяннік узялі пад галаву. Сена ў ім было даўняе, сцёртае, без водару і шамацення. Знутры хата не зачынялася — не мелася ні кручка, ні засаўкі. Я выказаў здзіўленне. Сямён пасміхнуўся:

— Шчаслівы чалавек тут жыў — нікога не баяўся.

Я — няшчасны: калі зморaны сябар захроп так, што, здавалася, зазвінелі шыбы двух малых акенцаў, мяне ахапіла неспакойнае ўзбуджэнне. Гэта не быў страх. Не. Калі ўжо на нас нападуць, то

перастраляюць праз вокны. Няхай страляюць, абы не звязалі жывых. Во чаго баяўся. Скончылася тым, што я выйшаў на двор. У прыцемках знайшоў кол і падпёр ім знутры дзверы. Але і пасля гэтага доўга не мог заснуць. Не, пэўна, засынаў, але тут жа прачынаўся. Ад волатаўскага Сямёнавага храпу? Ці ўсё ж ад страху, які нядрэмным шашалем свідраваў мозг? Палохалі галасы начных птушак, яны нагадвалі чалавечыя паролі.

Я заснуў моцна пасля таго, як Сямён, наліты супам, сходзіў на двор, спатыкнуўся на падпорку, мацюкнуў мяне, назваўшы «саплівым афіцэрыхам», выкінуў дручок. Тады, не абразіўшыся за «сапляка», павесялелы і заспакоены, акунуўся я ў сон, што ў цёплае возера. І сніў возера. Плаваў там... з дзяўчатамі нашымі, дывізіённымі. Было ад гэтага прыемна і трывожна: даведаецца Тужнікаў — распякуць мяне на партбюро за амаралку: наладзіў купанне без купальнікаў, гэта табе не мурманская лазня. Потым побач са мной, голым, апынулася Жэня, у поўнай форме, і мне зрабілася нясцерпна сорамна — усё роўна што перад маці.

— Пад'ём, ваяка! Дручок твой сперлі! — нада мной стаяў Сямён, смяяўся, і мне, разбуджанаму, стала, бадай, гэтак жа, як у сне перад Жэняй, сорамна і за падпорку, і за бяссонныя паўначы.— Хадзем купацца! Жывём, як курортнікі.

Спалі мы адзетыя, толькі разуліся. А Сямён стаяў у адных чорных трусах, худы, але мускулісты.

Напарнік мой зрабіў зарадку адзін, але купацца, палічыў, зручней удвух.

— Раздзявайся тут.

Седзячы на падлозе, я скінуў гімнасцёрку. Хацеў было сцягваць споднюю сарочку. Але сон як бы прадоўжыўся — перада мной зноў узнікла Жэня са сваёй дзіўнай усмешкай; усмешка яе ніколі не была асуджальнай, але часта ў ёй свяцілася... не, не свяцілася — чарнела пакутлівасць, таму, відаць, яе саромеліся, ва ўсялякім разе,ніхто пры ёй не лаяўся, нават Кузаеў у тыя вострыя моманты, калі якаясь батарэя партачыла — давала «недапеты» ці «пералёты». Дзівосы, дый годзе, што Жэня з'явілася ў хаціне. Працягваўся сон? Ва ўсялякім разе, яе вочы, якія ўбачыў я, не далі мне раздзецца да трусоў. А так я стаў на ногі і падняў з сенніка партупею з пісталетам. Сямён пасміхнуўся, але нічога не сказаў.

Я спытаў:

— Вінтоўку не бярэш?

— А нахрана? Тут да самага Петразаводска жывой душы няма.

На двары ён агледзеў мяне, босага, без гімнасцёркі, аднак у партупеі, не без насмешкі. Не стрымаўся, каб не ўкалоць:

— Доўга ты пражывеш.

— Мая маці часта паўтарала: беражонага бог беражэ.

Напамінак пра маці «замкнуў» Сямёна. Ён пабег на «пляж» і, скінуўшы на хаду трусы, скочыў у возера з разгону, выкідваючы рукі сажнямі, хутка паплыў.

За ноч зямля і паветра астылі, і я без прыемнасці ступіў у возера. Але ў вадзе сагрэўся. Не хацелася вылазіць. Пэўна, гэтак жа не хацелася і Сямёну. Ён падплыў на водмель, пастаяў, адпачыў і зноў паплыў далёка, пэўна, каб пазлаваць мяне, бо я зноў, як і ўвечары, прасіў яго далёка не заплываць. Каб паказаць прыклад, я вылез з вады. Ранішняя прахалода апякла мокрае цела. Я пашкадаваў, што не захапіў ручніка. Выціраўся трусамі. Каб сагрэцца, зрабіў прабежку — узняўся на «лісіны лоб». І тут жа, як падкошаны, зваліўся на зямлю...

Яны беглі ад хаціны да асінніку. Двое. У чужых мышаста-зялёных мундзірах, у фуражках з высокімі вярхамі. Сагнуліся да зямлі. Але ў аднаго цераз плячо перакінуты знаёмыя мяшкі — нашы, толькі чамусьці папаўнелыя, пасля ўчарашняй вячэры ў іх мала чаго заставалася. Я скаціўся на «пляж». Пэўна, ужо тое, што я не стаяў, не бег, а поўз і махаў яму рукой, устрывожыла Сямёна. Ён хутка падплыў.

— Фіны,— прашаптаў я.

— Дзе?

— З хаціны пабеглі ў лес. З нашымі мяшкамі...

— А вінтоўка? Вінтоўка!

— Не ўбачыў.

— Не ўбачыў! Варона!

Збялелы старшына — стары служака добра ведаў, што значыць страціць зброю, у баі не дазволена, а тут — «праплаваць» — чамусьці не надзеў трусы,— забыўся на іх? — а на хаду, скачучы на адной, на другой назе, спатыкаючыся, нацягнуў мае штаны. І першы, не прыгінаючыся, рысінымі скачкамі рвануў да хаціны. Я — за ім. Выхапіў з кабуры пісталет, узвёў.

Дзверы ў хаціне — наўсцяж. Не было не толькі вінтоўкі, але і абмундзіравання нашага, ботаў. Нават пілотку Сямёнаву прыхапілі, толькі фуражку маю афіцэрскую чамусьці пакінулі.

Вось гэта дык уліплі! Страшэнная ганьба! Вярнуцца без зброі, без гімнасцёрак, некаму без штаноў, у адных трусах. І хто зяўнуў гэтак? Камандзір штабнога ўзвода ўпраўлення! Камсорг дывізіёна!

Праваяваць тры гады, мець баявыя ордэны — і пад трыбунал. У штрафным батальёне сорамна будзе расказаць, за што асуджаны.

Сямён застагнаў, заскрыгатаў зубамі, злосна падцяў нагой сяннік, выбіў пыл. Мяне ліхаманіла. Але я першы выскачыў з хаціны. Ён — за мной.

— Дай пісталет!

Бліснула жудасная думка: ці не хоча ён пусціць сабе кулю ў лоб? Віноўнік недаравальнай бесклапотнасці — ён: пакінуў зброю.

Я схаваў пісталет за спіну.

— Дай! Ты! Афіцэр, маць тваю! Я даганю іх. Загіну — дык у баі.

Выхапіўшы пісталет, Сямён што меў сілы кінуўся ў бок перашыйка. Ён не бег — ляцеў, што снарад, прыгнуўшыся. Мне моцна прыйшлося натужыцца, каб не адстаць.

Раніца была росная, і на траве выразна зелянеў след іх ног. Ворагі нашы праявілі не меншую, чым мы, бестурботнасць: не ўглыбіліся ў лясны гушчар, дзе след мог бы згубіцца, а ішлі па беразе возера, дзе амаль скрозь была трава. Відаць, мелі ўпэўненасць, што цалкам абяззброілі нас, а таму лічылі сябе ў бяспецы, не баяліся пагоні.

Але загубіў іх, бадай, голад: вельмі хутка яны пачалі снедаць.

На шляху нашым пачалося каменнае ўзвышша.

«Калі такі голы, без травы бераг працягнецца доўга, мы згубім іх след»,— з трывогай падумаў я, задыхаючыся ад шпаркасці і хвалявання. Але града раптоўна абарвалася. І там унізе, пад скалой, на роснай траве, сядзелі яны і, растрыбушыўшы нашы мяшкі, прагна елі хлеб і кансервы. Сядзелі адзін супраць аднаго. Бліжэйшы якраз схіліўся, каб зачэрпнуць скарынкай хлеба кансерваў, і ў гэты міг куля з майго пісталета, пушчаная Сямёнам, прашыла яму патыліцу.

Калі я падскочыў да Сямёна, другі фін, той, што сядзеў тварам да нас, стаяў на каленях з узнятымі рукамі. Сямён выстраліў у салдата тройчы, але, на яго шчасце, ніводная куля не пацэліла. Трапным стралком быў мой зямляк, лепшым у дывізіёне, але, пэўна, задыханасць, гнеў затуманілі вочы ці, можа, задрыжала рука. Я знянацку падскочыў і выхапіў у яго пісталет.

— Не страляй! Ён жа здаецца! Здаецца!

— Так, ён, сволач, здаецца? Я яму пакажу, як здаюцца!

Сямён скочыў уніз, схапіў сваю вінтоўку, якая стаяла крокі за чатыры збоку, прыхінутая да валуна (і ў гэтым праявілася іх бесклапотнасць, накшталт нашай — так далёка ад сябе ставіць зброю). Але я апярэдзіў сябра: скаціўся ўніз і стаў паміж ім і фінам.

— Не дам! Не маеш права!

— Адступі! — ён кляцнуў затворам, даслаў патрон у канал.— Адступі! Размазня! Гуманіст саплівы! Можа, яны і вёску тую... Ты не пeражыў! Ты не пеpажыў!..

— Каб гэтыя, у іх была б зброя! І нас з табой яны скасілі б у возеры. Што ім значыла! Падумай!

Аргумент мой трохі працверазіў Сямёна. Зніклі шалёныя іскры ў вачах, з'явіўся ў іх пробліск думкі. Аднак вінтоўкі ён не апускаў, і я баяўся адступіць.

— Такія звяры нашых на НП парэзалі... І вёску маю...

— Хіба гэтыя падобныя на фашыстаў, на. дыверсантаў? Звычайныя дэзерціры. І да сваіх баяцца, І ў палон баяцца... Каб ім хацелася забіваць, яны не кінулі б аўтаматы.

— А вінтоўка наша?

—Вінтоўка ім спатрэбілася для пракорму... звера падстрэліць, птушку... Апусці яе. Няўжо ты можаш забіць абяззброенага?

— Лёгка табе гаварыць: абяззброенага. Ведаю я гэтых абяззброеных! Можа, уласавец, сволач! Хапала іх і тут.

— Калі Ўласавец — сваё атрымае. А калі фін і здаўся ў палон, не можаш ты яго забіць. Не маеш. права. Цябе шкадую — будзеш: пакутаваць.

— Не станеш жа ты падводзіць мяне пад трыбунал. Але май на ўвазе: убачу, што гэты бязвусы шчанюк разумее па-руску,— усё роўна зрэжу. Да Петразаводска часу хопіць.

Сямён павярнуўся, падняў вінтоўку і стрэліў у бок возера. У ранішняй цішы стрэл грымнуў, як гарматны. З бліжэйшага чароту ўзнялася і прасвістала над намі чарада качак. А мне стрэл даў палёгку: пераканаў! Я павярнуўся да палоннага, угледзеўся зблізку і да нечаканай, неасэнсаванай радасці ўсцешыўся, што ратаваў яго. Перада мной стаяў на каленях спалатнелы хлопчык, гадоў семнаццаці, з тонкімі дзявочымі рысамі твару. Узнятыя рукі яго з чорнымі пазногцямі дрыжалі і хісталіся, як трасцінкі.

— Апусці рукі!

І ён адразу апусціў, спалохаўшы мяне: выдаў, дурань, што разумее па-руску! Не, Сямён не звярнуў на гэта ўвагі, пэўна, я зрабіў выразны жэст уласнымі рукамі, які нельга было не зразумець.

— Павярні свайго. Можа, ён жывы.

Фін не зварухнуўся. Тады я паказаў яму знакамі, што належыць зрабіць. Ён здагадаўся. Нахіліўся над таварышам, павярнуў яго. У забітага хлынула з рота густая чорная кроў. Крывёю быў заліты хлеб, мяшок.

Салдата званітавала. Ён адступіў ад нябожчыка, адвярнуўся, зноў упаў па калені, скурчыўся, закрыў далонямі рот, але непераваранаяхлебна-мясная мяшанка цадзілася праз пальцы, паўзла па барадзе, капала на грудзі.

— Ваяка, такую тваю!— злосна вылаяўся Сямён і пайшоў да возера.

Ванітавала не аднаго фіна, ванітавала і мяне, але страўнік мой быў пусты, і яго рэзалі балючыя спазмы. Бачыў я забітых. Сваіх. Фашысцкіх лётчыкаў, расплюшчаных, парваных на кавалкі, збітыя самалёты ўразаліся ў сопкі, узрываліся, гарэлі.

Яшчэ адзін забіты вораг не зрабіў бы такога цяжкага ўражання, каб не хлеб, заліты крывёю.

Пераадольваючы боль, я пайшоў да Сямёна.

— Глядзі — драпане.

— Нікуды ён не драпане. Трэба пахаваць таго...

— Ты што?— вызверыўся Таміла.— Больш табе няма чаго рабіць?

— Усё-такі — чалавек.

— Чалавек! Чалавек, канешне. Але не буду я капаць яму магілу.

— Выкапае таварыш...

— «Таварыш»! Назаві яго сваім таварышам.

— Скажы дзякуй богу, што яны не пахавалі нас у возеры.

— Добранькую параду дае мне камсорг — памаліцца.

— Не заводзься.

— А ты не каркай. Не дадумаліся расказаць свайму Калбенку, як мы зяўнулі. Ох, зяўнулі. Дараваць не магу сабе.

— Магіла.

— Ты скажы, навошта яны ўзялі наша абмундзіраванне?

— Натуральна: каб лягчэй хавацца, лягчэй здабыць харч. Зайшлі б у карэльскую вёску, у карэлаў жа — фінская мова.

— А што, сваёй няма? — здзівіўся Сямён.

— Есць дыялекты.

— А што мы стаім, як піраты? Малодшы лейтэнант Шыянок! Старшына Таміла! Воіны Чырвонай Арміі! Ганьба! Плюнуць на сябе хочацца! — Сямён мацюкнуўся шматпавярхова, пакручаста. — Прынясі абмундзіраванне. Не хачу глядзець на кроў яго паганую.

— Кроў чалавечая.

— Прачытай мне палітграмату.

Палонны ляжаў ніцма, але пры маім набліжэнні падскочыў і, відно было, узрадаваўся, што падышоў я, пачаў гаварыць яўна словы ўдзячнасці — вочы выказвалі яе, удзячнасць.

Крывёю быў заліты мой мяшок і Сямёнавы штаны. Ён вярнуў мае, а свае доўга паласкаў, у возеры, цёр пяском, галькай. Нацягнуў мокрыя. А калі, абуваючыся, выявіў, што зладзеі, акрамя маёй фуражкі, не ўзяліануч нашых — пагрэбавалі, ці што? — скрывіўся ва ўсмешцы.

— Гады! Чыстаплюі!

Спачатку дамовіліся, што Сямён сходзіць па лапату і забярэ маю фуражку, свае трусы, анучы. Але калі ён адышоў, я гукнуў яго і разам з палонным дагнаў.

— Ты чаго?

— Неразумна драбіць нашы сілы.

— А-а, дайшло да цябе, што ў гэтых лясах іх не двое. Тут можна да канца вайны прабадзяцца, асабліва калі такія разявы, як мы з табой, будуць варон лавіць.

Сямён быў гнеўна бязлітасны да сябе. Але да мяне яго адносіны прыкметна змяніліся. Ён не выдаваў іх словамі, у словах ён усё яшчэ быў дзёрзка грубы. Але ў тым, што ён казаў, а можа, больш у маўчанні, у позірку вачэй я адчуў, што зямляк удзячны мне. За што? Што я не пажадаў разлучыцца нават на кароткі час. Але гэта можна вытлумачыць і як праяву маёй уласнай боязі. А можа, за тое, што я не дазволіў яму забіць чалавека? Ворага, але абяззброенага.

Хаціну ён зноў агледзеў з руплівасцю гаспадара, асабліва з ласкавасцю глядзеў на возера. Сказаў, як бы адказаўшы на свае сумненні:

— Не! Пост будзе тут! Толькі ўгаворым Кузаева: баб сюды не пасылаем! Рыбакоў пашлём! Рыбакоў!

Месца для магілы выбраў я — пад бліжэйшай асінай, здалося, што там мякчэйшая зямля. Але грунт быў жорсткі, камяністы.

Палонны хутка знямогся: знясілены голадам, ды і нязвыклы да земляных работ, не селянін, па руках відно — інтэлігенцік.

— Трэба памагчы,— сказаў я Сямёну.

— Памагай,— адвярнуўся ён; у ім зноў адбылася перамена: ён змоўк і маўчаў больш зацята, чым у дывізіёне, чым учора, калі ішлі сюды. У сварцы са мной, у злосці на сябе чалавек як бы выгаварыў увесь запас слоў, што адводзіў на многа дзён.

Я памог выкапаць магілу. Насек яловых лапак, вымасціў жвірыстае дно. Папрасіў Сямёна памагчы апусціць у магілу нябожчыка. Ён сядзеў на беразе возера і не адазваўся.

Загадаў фіну абмыць запэцканы крывёю твар сябра. Той доўга не мог зразумець, што я патрабую. А калі зразумеў — яго зноў сагнулі спазмы. Я зрабіў гэта сам, без агіды, без прымхлівасці. Хлапчына быў

трохі старэйшы, бо аброс агністай барадой за дні блукання, а ў палоннага нашага нават барада яшчэ не расце — зусім дзявочы твар.

Я агледзеў кішэні: знайшоў салдацкую кніжку. Не выкінуў. На што спадзяваўся? На зварот да сваіх? Ці хацеў, каб нашы, калі здасца ў палон, ведалі, што ўзялі радавога.

На маё патрабаванне палонны аддаў такую ж кніжку. Але ў ёй знаходзілася фатаграфія жанчыны. Маладая. Прыгожая. Але ўсё ж па гадах — не нявеста.

— Мутэр?

— О, я, я,— радасна заківаў фін.

Я вярнуў яму картачку маці. І тут упершыню ўбачыў, як вочы яго зусім: па-дзіцячы напоўніліся слязамі. Здалося няёмкім глядзець, як ён заплача,— я адвярнуўся.

Нябожчык, бадай, больш схуднелы, чым яго жывы напарнік, але ўсё роўна апусціць яго ў неглыбокую магілу — не скаціць, не зваліць, а менавіта апусціць з павагай да смерці,— двум было нялёгка. Я нават узлаваўся на Сямёна: падумаеш, паказвае характар! Быццам мне прыемна хаваць непрыяцеля!

Старшына падышоў, калі фін няўмела раўняў магільны курганчык, узяў у таго лапату, параўняў хутка і ўмела.

— Якая ў іх вера? — спытаў у мяне.

— Хрысціянская.

— Хрысціяне — Сямён злосна вылаяўся.— Выдумалі бога, а людзьмі не сталі.

Вярталіся моўчкі. Кожны, безумоўна, маўчаў пасвойму. Фін, магчыма, у жалобе па прыяцелю, але, няма сумнення, і ў радасці, што лёс падарыў яму жыццё, а вайна для яго скончылася — вядуць у палон. Я — у развагах, даволі супярэчлівых, хоць у цэлым ухваляў свае паводзіны, адно хіба нядобра, што ўсяе праўды — як мы «зяўнулі» — не варта расказваць нават Калбенку, нават Жэні. Не з-за сябе. З-за Сямёна. Хапіла ў яго перажыванняў, болю, не трэба, каб яшчэ меў непрыемнасці па службе. Ідзе ён — што хмара цёмная. Па аблічча відно: пакутліва раздумвае, ці ёсць у яго апраўданне перад памяццю блізкіх? Адзін вораг за маці, за сясцёр, за сваякоў, за вёску — нямала?

На пачатку дарогі я баяўся Сямёна. Ён нёс вінтоўку ў руках. Калі маладзенькаму дурню прыйдзе ў галаву збочыць з лясной дарогі — Сямёна мне не стрымаць.

Ішлі цяжка. Ва ўсялякім разе, я адчуваў смяротную стомленасць, пэўна, ад перажыванняў, ад капання магілы, ад пахавання забітага. Дзень быў душны, як перад навальніцай. Каб ішлі самі, напэўна,

скінулі б гімнасцёркі, а можа, і боты. Перад палонным ніхто з нас такога расслаблення не дазволіў. Ішлі, як салдаты.

У палавіне дня Сямён прапанаваў:

— Перакусім.

У яго мяшку засталіся кавалак хлеба і кансерва.

Я свой мяшок не забіраў. Не мог. Пакінуў там, дзе яго абліла кроў чужога салдата. Сямён параіў памыць. Але і мыць я не мог.

— Ат, апраўдаюся перад Кумам. Падумаеш — страта!

І есці я не мог, хоць страўнік рэзалі спазмы.

— Еш! — загадаў Сямён.

Не сказаў, што не магу, сказаў, што з'ем, дай адпачыць. І падпоўз да крыніцы, ля якой прыселі, памыў рукі, акунуў твар, прагна напіўся халоднай вады, якая пахла... грыбамі. Дзіўна! Чаму раптам грыбамі?

Там, ля раўчука, я і прылёг, не зводзячы, аднак, вачэй з Сямёна і палоннага.

Старшына смачна еў хлеб, запіваючы з кацялка вадой, што мяне трохі нават уразіла. Але раптам Сямён перастаў жаваць. Утаропіўся ў палоннага. Здаля ўбачыў я, як той пракаўтнуў галодную сліну. З пэўнай насцярожанасцю я чакаў, што Сямён скажа фіну нешта грубае. Не. Чалавек, у якога фашысты спалілі ўсю сям'ю, разламаў свой кавалак хлеба напалам і працягнуў палоннаму:

— На. Ды скажы «дзякуй» вунь яму,— кіўнуў на мяне,— а то быў бы ты...— паказаў пальцам у зямлю.

Хлапчына прагна схапіў хлеб і сказаў нешта горача, узвышана — падзяку, безумоўна. Каму? Мне? Сямёну? Абодвум? Потым адкусіў хлеб, добры хлеб, смачны — у жытнёвую муку пекары дадавалі пшанічнай, амерыканскай,— і з вачэй яго сыпанулі слёзы, што буйныя драбіны. Слёзы салілі хлеб.

Ад халоднай вады, відаць, мне сцяла горла.

2

Я пісаў даклад — інструкцыйны, для ўсіх прапагандыстаў — да Дня Паветранага Флоту. Калі той дзень — праз месяц! Але Тужнікаў любіў, каб усё рабілася загадзя і грунтоўна. Я ўспрымаў гэта натуральна, а Калбенка кпіў з гэтай «бюракратыі ў палітрабоце». Але ў той дзень ён не кпіў, хутчэй — абурыўся: яму здавалася, што нампаліт прыдумаў мне кару — за паход мой з Тамілам, за гісторыю з фінамі. Чамусьці гісторыя гэтая не спадабалася Тужнікаву, магчыма, «унюхаў», што расказвалі мы з Сямёнам не ўсю праўду. Загад аб дакладзе ён перадаў праз Калбенку: «Няхай менш шлындае, а выконвае свае

непасрэдныя абавязкі». Пры гэтым ранейшага даручэння — напісаць разгорнутую дакладную аб маральна-палітычным настроі асабовага саставу ў сувязі з перамогамі Карэльскага, Беларускіх, Прыбалтыйскіх франтоў — не адмяніў. Хоць дзвюма рукамі пішы. Гэта і абурала парторга. Канстанцін Панасавіч спачуваў мне і, можа, трохі адчуваў сябе няёмка, што ў пісанні ён не памочнік.

Памог тым, што сам прынёс з бібліятэкі падшыўкі газет, гартаў іх і вышукваў факты гераізму лётчыкаў. Дапамога, безумоўна. Але прысутнасць яго замінала — не тая засяроджанасць, хоць за доўгае жыццё ў адной цеснай зямлянцы я звыкся з прысутнасцю гэтага чалавека і навучыўся рабіць пры ім любую работу — пісаць, дэкламаваць, спяваць, не маючы ні слыху, ні голасу. Але каб вывучыць новую песню і пасля навучыць камсамольцаў,— дзяўчаты любілі спяваць,— я слухаў радыё і запісваў тэкст. Спевы нашы падабаліся і Кузаеву, і Тужнікаву, камандзір лічыў іх лепшай формай палітработы. Любіў Данілава за яго цыганскія спевы пад гітару, ні ў аднаго камандзіра батарэі, роты не затрымліваўся так доўга, як у камандзіра першай, іншыя нават раўнавалі да Данілава: маўляў, хітры цыган, знайшо$ слабінку ў чыгуначніка. «Абрыдлі яму паравозныя гудкі — звону гітары захацелася»,— сказаў, здаецца, Саўчанка. Не, не гудкі абрыдлі,— гром гармат, свіст бомб,— таму песень хацелася. Глаша Васіленка ва заўсёды плача, калі слухае «Темную ночь», «Землянку», «Синий платочек». І сама кранальна спявае валагодскія вясельныя (чамусьці менавіта вясельныя) песні. «Замуж дзеўцы хочацца»,— сказаў Кузаеў, паслухаўшы яе. У камандзіра такія жарты ніколі не бываюць абразлівыя, заўсёды з нейкай сумнай заклапочанасцю за лёс «няшчасных дзяўчатак». Шчыра клапаціўся аб іх. «Не матчын ты сын, Кум,— упікаў Кузаеў начальніка абозна-рэчавага забеспячэння,— калі не можаш выбіць у таўстамордых лежабокаў (інтэндантаў) панчохі для гэтых няшчасных дзяўчатак, паглядзі, якія яны ў іх зацыраваныя».

«Разбіся ў блін, а няшчасных дзяўчатак памый»,— камандзіру батарэі МЗА, што стаяла на абароне моста на Коўдзе за трыццаць вёрст ад бліжэйшай лазні.

Мне: «Напісаў бы ты, Шыянок, у газету пра нашых няшчасных дзяўчатак».

Тужнікава слова «няшчасныя» курчыла і моршчыла.

«Чаму няшчасныя, Дзмітрый Васільевіч?»

«А мо скажаш — шчаслівыя?»

«Будзе ў іх шчасце!»

«Будзе калі-небудзь. Але позна».

«Чаму позна? Шчасце ніколі не бывае познім».

«Ты так думаеш? Шчаслівы ты чалавек, Генадзь Свірыдавіч» .

— ...слухай. Пра нашых палярнікаў. Звяно капітана Гаенкі патапіла нямецкую падводную лодку. Але дзе! Ля Новай Зямлі! Маюць, гады, яшчэ сілы, каб забірацца ў такую даль. Недзе ж хаваецца базавы карабель. Яго трэба знайсці! І лодкі, што зайшлі далёка на ўсход, не вернуцца ў Нарвегію. Не хопіць гаручага. Я ведаў слабасць Калбенкі: павышаная ўвага да марскіх аперацый. «Марская ў вас душа, Канстанцін Панасавіч».

«Марская,— згаджаўся ён і тут жа жартаваў: — Ля сяла нашага была копанка, купаліся ў ёй дзеці і свінні. Дык яна трохі большая за Ціхі акіян».

Калі ён вычытае што больш падрабязнае пра марскія баі — будзе каментарый на гадзіну, і прыйдзецца тады пісаць даклад уначы, пад яго храпенне з прысвістам..

Але Калбенка адарваўся ад газет, стаў каля акна, доўга за некім назіраў. Весела, бадай, радасна хмыкнуў:

— Не! Усё ж ты сухар, Павел. Не ацаніць такую дзяўчыну! Каралева! Паглядзі, якая пастава. А паходка! Паходка!

Я падняўся з-за стала, глянуў у акно. Ад штаба да нашага дома ішла Ліка Іваністава.

— За такую жанчыну аддасі паўцарства.

— Калі маеш яго.

— Ну і сухар! Ну і сухар! — смяяўся Канстанцін Панасавіч.— А ты знаеш, да каго яна прыйшла? Да цябе! Яна ўжо дзесяць мінут тут ходзіць. Але ўгледзела маю старую морду і баіцца зайсці.

Ліка павярнула на бакавую дарожку, да штабной сталоўкі, але сапраўды азіралася на наш дом.

— Хочаш пайсці ў заклад? Я выйду — і яна будзе тут. Глядзі, не стой, як аршын праглынуўшы. Будзь гусарам!

І ён выйшаў з пакоя.

Я паверыў, што Ліка ў такі час, калі з батарэй баявыя нумары не адпускаюцца, магла прыйсці да мяне, да мяне Данілаў адпусціў. І, прызнаюся, спалохаўся. З якой нагоды яна прыйшла? Поўнае «несумяшчзнне» з Глашай? Але ж тут большы клопат Данілава. А калі... з-за ўчарашніх фінаў? Вось гэтага спалохаўся. Зубраў і без таго праяўляе да апошняга папаўнення павышаную ўвагу. Праўда, Калбенка лічыць, што гэта таму, што петразаводцаў прывёў Шахоўскі: Зубраў з адкрытай падазронасцю адносіцца да нашчадка дваранскага роду.

“Пралаза! За два гады ў капітана вылез. Другі, сын рабочага, калгасніка, дзесяць гадоў служыць што медны кацялок”. (Шмат каму

тады было няўцям, што «медным кацялкам» не хапала адукацыі, а вайна патрабавала людзей адукаваных.)

«Няхай з-за бацькі, якога я шукаю. Няхай з-за Глашы. Абы не з-за фінаў»,— думаў я.

Стаяў у напружанасці. Чакаў.

І яна прыйшла. Пастукала ціха, нясмела. Павіталася зусім не па-армейску, але без збянтэжанасці і дзявочай сарамлівасці. За ўмела, па-акцёрску сыграным спакоем я ўгледзеў глыбокую ўсхваляванасць.

— Прабачце. Я да вас. Кажуць, вы ўзялі ў палон фінаў.

— Аднаго ўзялі, другога забілі.

— Забілі? Завошта? — яна ступіла да мяне, на шчоках яе выступілі непрыгожыя ліловыя плямы.

— Вы забыліся, што мы ваюем.

— Яны ваявалі? З вамі?

Стала прыкра і больш непрыемна, чым учора, калі мы дакладвалі камандаванню, расказвалі Зубраву... няпоўную праўду расказвалі.

Апанавала злосць. Не хапала яшчэ, каб і гэтая, фінская выхаванка, дапытвала!

— А вы думаеце, яны лезлі ў хаціну, дзе мы начавалі, каб пацалавацца з намі?

— Яны былі са зброяй?

Адкуль ведае?! Выходзіць, інфармаваная, што трафейнай зброі мы не прынеслі. Учора Кузаеў таксама «націскаў»: навошта нам было страляць, калі яны не стралялі? Пясчаны падмурак нашай легенды рассыпаўся пад пытаннямі камандзіра. Добра, што прадстаўнік «Смерша» прыняў нашу версію: раз лезлі ў хаціну — правільна, што мы адстрэльваліся.

— Каб мы не прачнуліся, яны нам фінкамі жываты ўспаролі б.

— Вы — як Васіленкава: лічыць, што кожны фін толькі і думае, як бы рускаму ўспароць жывот. Есць фашысты, а ёсць людзі... А чаму вы злуяцеся? Вам нядобра, што вы забілі чалавека? Вы забілі?

— Не.

Яна наступала. Я абараняўся. Яна падышла на крок і дзівоснымі блакітнымі вачамі глядзела ў твар. І я не ведаў, куды схаваць вочы.

— Як яго прозвішча?

— Каго?

— Таго, каго вы забілі.

— Я забраў яго салдацкую кніжку, але я не запомніў.

— А таго, што прывялі?

— І таго не помню.

— Вы ж адукаваны чалавек,— з дакорам, без звароту, без звання.

Я пачаў кіпець: каб нейкая радавая навабранка мяне, афіцэра, палітработніка, старога ваяку, прыціскала гэтак да сцяны. Ганьба!

А Ліка адышла да акна, хвіліну пастаяла там моўчкі, потым павярнулася да мяне, папрасіла пачціва, з жаночай далікатнасцю:

— Паабяцайце, што вы даведаецеся іх прозвішчы.

— Навошта вам?

Яна зноў наблізілася і сказала даверлівым шэптам:

— Адзін мой аднакласнік, фін, быў у іх арміі. Мог вяртацца ён. А ў яго маці... тут...

І тады я не вытрымаў — гнеўна зашыпеў:

— Калі твой аднакласнік... савецкі вучань... пайшоў у армію ворага, то — туды яму і дарога, калі ён застаўся там ляжаць. Ён — уласавец, здраднік!..

Ліка пабляднела. Але зноў сыграла спакой.

— А мне казалі: вы добры.

Тады я грымнуў:

— Да каго добры? Да фашыстаў? Да тых, што згвалцілі Кацю, а пасля забілі? Не, дабрыні да іх вы не дачакаецеся! Ні ад кога з нашых! Не!

Яна пабялела яшчэ больш — ад напаміну пра Кацю. І больш — ні слова. Ні развітання, ні дазволу пайсці. Выйшла — што выплыла, гордая, незалежная. І ў гэтым — сапраўды такі немагчыма прыгожая. Трэба ўмець так выйсці. А мне захацелася шпурнуць услед ёй каменне самых грубых салдацкіх слоў, якія я ніколі не ўжываў нават тады, калі пры вядзенні агню груба партачылі мужчыны — нумары маёй гарматы. Але я стрымаўся. А калі глядзеў, як яна паспешліва пайшла ад дома ў бок сваёй батарэі, гнеў мой хутка знік. З'явілася трывога. За яе. І за сябе. Пагарыць яна, калі будзе гэтак перажываць за фінаў. А я? Што мне рабіць? Маўчаць? Дакладваць? Каму? Зноў — у каторы раз! — пашкадаваў, што згадзіўся з Сямёнам не дакладваць таго, як мы «зяўнулі». Няпраўда цягне няпраўду. Пры поўнай праўдзе размова з Лікай склалася б зусім інакш, я не раскрычаўся б, як салдафон. Але бог з ёй — з Лікай. Падумаеш — каралева! Баба як баба. Трывожыла іншае. Палонным, напэўна, зоймецца «Смерш», і хлапчына раскажа ўсю праўду. Добра, што Кузаеву не прыйшло ў галаву выклікаць гэтую ж Іваніставу і дапытаць яго да таго, як здаць у камендатуру.

Як мы бесклапотна купаліся — у гэтым нельга не паверыць палоннаму. Пад суд нас не аддадуць, але каму-каму, а мне ўляціць: нампаліт «праесць плеш».

Чорт яе прынёс, дзяўчыну гэтую! Пісаў чалавек спакойна даклад... А цяпер думкі раскарачыліся, як кажа Калбенка.

На шчасце маё, парторг хутка вярнуўся. Вясёлы. Звыкла выцер вусны, быццам з'еў скаромнае.

— Ну, што?

— Што-што?

— Чаму яна ад цябе так хутка пабегла? Між іншым, усхваляваная.

— Усё вы бачыце. А вы ведаеце, чаму яна прыбягала? Дай ёй прозвішчы фінаў, тых — учарашніх.

— Навошта?

— Я таксама спытаў: навошта? Кажа, аднакласнік яе, фін, там, у іх арміі. Дык я сказаў, хто яе аднакласнік. Так сказаў, што яна выскачыла.

— Ну, і дурань! Мог бы даведацца больш, залезці ў душу. Наконт аднакласніка, відаць, зманіла, але некага чакае. Моцна чакае.

— Дык варта, каму трэба, спытаць, каго яна чакае!

Калбенка ўгледзеўся ў мяне са знаёмым насмешлівым дакорам.

— Эх, Павел, Павел! Няўжо ты, такі разумны хлопец, думаеш, што яна агента-сувязніка чакае, каб перадаць фінам, колькі ў нас трусоў і бюстгальтараў? Дык гэтага сам Кум не знае. Жаніха яна чакае. Ці, калі хочаш, мужа. Во што крыўдна: такую нявесту трацім!

— Канстанцін Панасавіч! У нас жа не ярмарка нявест, а баявая часць.

— У самай баявой часці — людзі, Паўлік. Да міру падступаем. Дай ёй прозвішчы — няхай супакоіцца.

— А дзе ўзяць? Не помню я.

— Няўжо ў штабе не запісалі?

Стоп! Кузаеў выклікаў Жэню і прадыктаваў ёй кароткі запіс аб нашым з Тамілам «подзвігу» ў «вахценным журнале» — так называлі дзённік баявых дзеянняў. Жэня, безумоўна, пісала і суправаджэнне на палоннага. Пры сваёй акуратнасці не магла не запісаць яго прозвішча, а заадно, напэўна, скапіравала і кніжку нябожчыка.

Магчымасць так проста даведацца прозвішчы фінаў нечакана ўзрадавала. Адчуваў, што зварот да Зубрава Калбенка не ўхваліў бы. З Зубравым у мяне сяброўскія адносіны, але, калі не выдаваць Іваніставу, прыйшлося б весці «дыпламатычную размову», нешта выдумаць. А маніць больш не хацелася, не мог. Ды і яму... ці так проста будзе ўзяць у аддзеле іх прозвішчы? Калі салдат не зацікавіў контрразведку, то яго адаслалі ўжо кудынебудзь у Волагду як звычайнага палоннага, якіх цяпер сотні тысяч.

Адразу стала хораша.

З удзячнасці Калбенку я парушыў слова, дадзенае земляку, і расказаў, як было ў сапраўднасці.

— Лапухі! Я такі ўчора бачыў, што ты цямніш, вочы апускаеш. Толькі не мані, што даганяў іх у трусах. Без трусоў ляцеў! Во гумарысты! — Канстанцін Панасавіч рагатаў, уявіўшы, як я, голенькі, як хрыстосік, даганяў сваю амуніцыю. Мне таксама зрабілася весела: няхай пасмяецца чалавек! Хораша мець побач такога настаўніка, такога бацьку!

Напішу я Тужнікаву даклад! Сення ж!

Пасля зверскай бамбардзіроўкі станцыі і першага поезда — ніводнага налёту. Амаль два тыдні. «Не вайна — курорт»,— жартуюць афіцэры. А Тужнікаў вельмі заклапочаны, каб такая бяздзейнасць не расслабіла людзей. Не Кузаеў, не Шахоўскі, не камандзіры батарэй, а ён, камісар, патрабуе трэніровак. А старыя ваякі, не толькі радавыя, сяржанты, але і афіцэры, не любяць «халоднага агню». «Па самалёту над трэцім! Цэль злоўлена! Зараджай! Есць сумяшчэнне! 132, 135, 138!» Равун. Клац затворам. «Аго-онь!» Баявы спуск — поўная цішыня. І — усё спачатку.

І нам, палітработнікам, нампаліт у гэтыя ціхія дні не дае паспаць. Даклады. Гутаркі. Нагналі аскому і сабе і слухачам. Але калі я паспрабаваў сказаць пра гэта — што было! Што было! Мне ўвогуле дастаецца больш, чым каму — за працавітасць, уменне і за... язык мой, які нярэдка бывае злосным ворагам маім. Кузаеў і той іранізуе: «Каго любяць — таго і галубяць, Шыянок».

У дажджлівы дзень сабралі камандзіраў узводаў, афіцэраў тылавых служб. Наладзілі экзамен. Хлопцы ганебна плавалі не толькі па гісторыі рэвалюцыі, Чырвонай Арміі, але нават па цякучай палітыцы, пасад Сталіна не маглі назваць. Я чырванеў за калег. Малапісьменныя дзяўчаты — комі,— з якімі заняткі праводжу я, такія простыя рэчы ведаюць назубок. Узлаваліся і Тужнікаў і Кузаеў.

Камандзір са сваёй грубаватасцю звярнуўся да мяне:

«Ты бачыш гэтых дурняў, камсорг?»

Што я магу адказаць — што бачу? Яны пасля заклююць мяне. Большасць — старэйшыя па званню.

«Таварыш маёр, я лічыў і лічу іх разумнымі людзьмі».

«Падхалім ты, Шыянок. Але калі ты лічыш іх разумнымі, то вось табе два тыдні тэрміну і — каб яны ведалі палітыку лепш за цябе., Ясна?» — «Так точна, таварыш маёр!»

З камандзірам не спрачаюцца. Але лёгка прыняць загад. А як выканаць? Тры батарэі, кулямётная рота, пражэктарная служба, да

некаторых пазіцый пяць вёрст. А сабраць людзей у адно месца — ніхто права не даў, ды ў лётныя дні і немагчыма. Добра, што загад Кузаева, камандзір часам забывае ці робіць выгляд, што забыў свае загады пад гарачую руку. Сказаў бы такое нампаліт — роўна праз чатырнаццаць дзён праверыў бы, гэты афіцэр ніводнага свайго слова не пакідае без праверкі.

...Жэня неяк сказала, што яе палохае ваяўнічы азарт, які яна назірае нават у дзяўчат: няма баявой стральбы — і батарэйцы сумуюць, у іх, яна сказала, свярбяць рукі. «А пры любым жа налёце варожай авіяцыі падаюць бомбы, гінуць людзі, знішчаецца народнае дабро». Я не думаў так, мне здавалася, што прага бою — натуральны псіхалагічны стан на вайне. Яшчэ ў Мурманску я сам, калі непагадзь зацягвалася на многа дзён, з нецярпеннем чакаў прасвятлення. Бою! Хачу бою! У Кандалакшы, дзе налёты былі радзейшыя, павялічылася колькасць рапартаў з просьбай пасланць у франтавую артылерыю. Тужнікаў лічыў такую з'яву «палітычнай недапрацоўкай». Мы з Калбенкам — праявай патрыятызму і гераізму.

Але Жэніны словы наконт дзяўчат тут, у ціхім Петразаводску, нечакана пахіснулі маё перакананне. Няўжо і дзяўчатам хочацца бою? Наведваючы батарэі, кулямётныя ўстаноўкі, я непрыкметна пачаў апытваць іх. Адказы былі розныя. Асабліва ўзрадавала, але і занепакоіла Глаша Васіленкава: «Не хачу. Хачу цішыні! Кожнай раніцы хаджу ў цяпліцу — на кветкі палюбавацца, агуркі прапалоць».

Лагерная цяпліца, як і лесасклад, лесапільня, мела ўжо гаспадара гарадскога, цывільнага.

Як ставіцца да Глашынага адказу? Ці не праява гэта дэмабілізацыйнага настрою? Камандзір сур'ёзнай устаноўкі — Ванда Жмур, адукаваная дзяўчына, падрыхтаваны вайсковец, здаецца, не мае іншай тэмы для размовы, як пра замужжа. Пры Калбенку не пасаромелася сказаць, што мэта ў яе — «ажаніць вашага камсорга» .

Калбенка пасмяяўся. А каб пры нампаліце такое ляпнула? Які вывад зрабіў бы той аб маральным стане «личного состава»? І аб маёй рабоце па гэтай часці? А ці не напісаць пра ўсе гэтыя назіранні, развагі, сумненні ў дакладной?

Канстанцін Панасавіч пасмяяўся з майго намеру: «Давай, давай, падсунь пад сябе міну. Яна і мне задніцу пасячэ. Лапух ты, Павел!»

Трывога! У часе абеду. Афіцэры штаба, акрамя дзяжурных, былі ў сталоўцы. Уміг апынуліся на сваіх месцах.

Я — на камандны пункт дывізіёна. Камандзір адтуль лішніх зявак прагнаў, але мяне ніколі не праганяў: я — летапісец, мне трэба ведаць гісторыю бою.

Выявілі ворага. З усходу, над Анежскім возерам, на вышыні тысяч, пяць мільгнуў паміж хмар срэбраны матылёк — ішоў адзінокі разведчык. Расчараваліся. Некаторыя нават уголас пашкадавалі пра апетытны боршч, бо падхопліваліся з-за сталоў так, што паперакульвалі міскі.

Кузаеў, заўсёды сур'ёзны на КП, цыкнуў на гумарыстаў, што смакавалі няз'едзены абед.

— Мураўёў! Пазвані Сухнатаву. Бачаць яны яго? Няхай падыме сваіх сокалаў. Мы не дастанем, зараз ён паверне... Ды і «вокны» ў воблаках рэдкія.

Дывізіён збіў больш за шэсцьдзесят фашысцкіх самалётаў, узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Але я не помніў, каб нашы батарэі збілі хоць аднаго разведчыка. Такія шпіёны, як правіла, былі здабыткам знішчальнікаў. Калі звяно «мігаў» яго даганяла і ў небе не было хмар, фашыст рэдка выкручваўся. Ва ўсялякім разе, на трэцім годзе вайны, калі хуткасць нашых знішчальнікаў перавысіла хуткасць «юнкерсаў» і «месершмітаў». Не тое што ў пачатку вайны, калі ў паядынак з фашысцкімі асамі кідаліся тупарылыя «1-16».

З трэцяй батарэі, што стаяла на беразе возера, перадалі марку: « Месершміт-110». Скараходная машына. Манеўровая. З буйнакаліберными кулямётамі. Такі пірат і ад знішчальнікаў умее адбіцца.

Кузаеў нерваваўся.

— Што там Сухнатаў? Боршч не даеў?

І тут даклад Саўчанкі, з тэлефоннай трубкі — што з рэпрадуктара:

— Самалёт у зоне дасягальнасці. Дазвольце адкрыць агонь!

— Адкрыць агонь?

Усе чатыры разрывы, што белыя букеты, прыгожыя ў ясным небе, бліснулі перад самым носам разведчыка. Пасля ўжо дакаціўся гром залпа. І ўжо тады, як «месершміт» рэзка спікіраваў уніз, даляцелі да КП слабыя разрывы снарадаў.

Самалёт павярнуў ка поўнач і знік за воблакамі.

— Другая! Другая!

— Няма сумяшчэння.

— Ах, такую вашу!..

— Саўчанка! Што змоўк? Дзе агонь? СОН твая дзе? Спіць твая Жмур!

— Пераходзім ка СОН! Агонь! — пачуўся ў тэлефоннай трубцы хрыплы голас камандзіра трэцяй.

«Месер» зноў апынуўся ў акне, і белыя букеты ўспыхнулі пад самым самалётам — небяспечныя разрывы, як нам расказвалі пілоты,— веер асколкаў ідзе ўгору.

— Малайцы! — узрушаны Кузаеў кінуў на планшэт фуражку.

«Месер» зноў развярнуўся — на захад. Зноў схаваўся за воблакі. Але залпы батарэі бухалі з гранічнай частатой. Рытмічна, зладжана. І раптам радасны крык разведчыка, які назіраў у бінокль:

— Гарыць! Таварыш маёр! Гарыць! Полымем!

Кузаеў выхапіў бінокль у Шахоўскага.

— Дай палюбавацца!

Але няўзброенымі вачамі відаць стала, як «месер» выкінуў Шлейф дыму ў воблака, пайшоў на зніжэнне.

З громам, набіраючы вышыню, праляцела над намі звяно «тамагаўкаў».

Пад доўгай паласой дыму ў небе закалыхаліся дзве чорныя кропкі.

— У небе парашутысты! — далажыў разведчык,— Двое!

— Мураўёў! Пакажы Сухнатаву і яго «кобрам» фігу.

Узбуджана смяяліся афіцэры, разведчыкі, сувязісты.

Кузаеў пацёр рукі, сарваў з маёй галавы фуражку, кінуў у неба.

— Малайцы! Якія малайцы! Камандзіра СОН — да ўзнагароды. І Саўчанку!

Маёр Тужнікаў (толькі ўчора атрымаў маёра) скрывіўся: месяц назад, у Кандалакшы яшчэ, Івану Саўчанку на партбюро запісалі вымову — за тое, што жыў са сваёй падначаленай сувязісткай Ірынай Мусаевай, прыгожай паўтатаркай. Саўчанка не адмаўляў сваю віну, адно паўтараў, што кахае дзяўчыну. «Кахае! Вы ж жанаты чалавек. У вас жонка»,— чамусьці залішне нервова абураўся Тужнікаў. «Няма ў мяне жонкі»,— змрочна адказваў камандзір батарэі, «А дзе яна? Дзе? »

Саўчанка не стаў тлумачыць — дзе. Увогуле, паводзіў сябе смела, незалежна, з гонарам. Кузаеў, калі Саўчанка выйшаў, не ўтрымаўся, каб не выказаць яму пахвалу:

«Добры ў мяне камандзір? А любоў, брат, штука такая. Кожны можа спатыкнуцца».

Вымову Саўчанка прыняў спакойна. А вось перавод Ірыны на прадуктовы склад, гнілую бульбу перабіраць,— не мог даравацъ ні Тужнікаву, ні Кузаеву. Неяк аднойчы, калі я наведаўся на батарэю, пачаставаў мяне спіртам, выпіў сам і выказаў абурэнне, праскланяў заадно і мяне: маўляў, сядзеў на бюро, а слова не вымавіў. Дзівак! Паспрабаваў бы я, малодшы па званню, абараняць яго ў такой далікатнай справе! Што было б!

...— Шыянок! Паехалі са мной. Павіншуем трэцюю. Шахоўскі! Застанешся за мяне!

Я ўгледзеў здзіўленне на твары нампаліта, і мне зрабілася няёмка. Але з нечаканымі рашэннямі камандзіра даўно звыкліся. І з яго адносінамі да мяне звыклая: часта выгаворваў, але — адзначала Жэня — любоўна, па-бацькоўску. Урэшце, чаму камандзіру не ўзяць з сабой камсорга для такой мэты — павіншаваць камсамольцаў з перамогай?!

— Завярні на першую,— сказаў маёр шафёру камандзірскага «віліса».

Я здагадаўся, чаму на першую: у блоках былога лагера размяшчаліся нашы склады.

Кузаеў задумліва курыў.

— Стоп! Да пазіцыі не пад'язджай. А то ўзнімуць трывогу. Ідзі забяры Мусаеву. Зробім Саўчанку падарунак,— і ўгледзеўся ў мяне, трохі азадачанага.— Што ты вочы вытрашчыў? Напіша нампаліт дакладную ў палітаддзел,— уздыхнуў, расцёр ботам недакурак.— Ну, ды хрэн з ім. Няхай піша.

Ірына, масквічка, адукаваная дзяўчына, ніколі не была сарамлівай і баязлівай, не тое што валагодскія дзяўчаты,— гаваруння, пявуння. Але маё «хадзем са мной» яе спалохала. Яна адважвала проса байцу кулямётнага разліку. Начальніка склада не было, яна не ведала, што рабіць, каму перадаць ключы.

«Хадзем, хадзем хутчэй — камандзір дывізіёна чакае!» Гэта яе зусім спалохала: ажно пабялелі вугальначорныя вочы. Але ўбачыла каля машыны вясёлага Кузаева — супакоілася. Ліха казырнула:

— Таварыш маёр! Па вашаму загаду...

— Сядай. Паедзем з намі.

У машыне павярнуўся з пярэдняга сядзення да нас з Ірынай:

— Ну, што? Усё яшчэ любіш свайго старога дурня?

Дзяўчына адказала дзёрзка:

— Ён не дурань. І не стары, таварыш маёр!

Кузаеў засмяяўся.

— Чуў, камсорг, што такое любоў? А ты вядзеш прафілактыку супраць яе.

СОН стаіць ад пазіцыі батарэі воддаль, каб сатрасенне зямлі і паветра ад стрэлаў не расстройвала тонкую апаратуру. Хітрая полька яўна чакала нашага прыезду — нехта, безумоўна, паведаміў на батарэю, што да іх паехаў камандзір дывізіёна,— бо не паспела машына спыніцца, як разлік СОН быў выстраены — дзесятак

прыгажунь і адзін вусаты «грэнадзёр» — выкладчык матэматыкі з запаснікоў трэцяй катэгорыі.

Ванда, бліскаючы каленкамі, зрабіла тры парадныя крокі насустрач камандзіру, ускінула руку да ўсё ж модна збочанай пілоткі.

— Таварыш маёр! Разлік СОН займаецца наладкай апаратуры пасля вядзення баявога агню па фашысцкім сцярвятніку.

— Ну, дзякуй табе, дачка, дзякуй, а я, грэшны, пасля СОН — адзін не вельмі верыў у вашу тэхніку. Лішнім дадаткам лічыў. Дзякуй,— патрос Вандзе руку, углядаючыся ў яе паружавелы ад задавальнення твар, і раптам сказаў: — Дай я цябе пацалую, разумніца,— і далікатна чмокнуў у адну шчаку, у другую і адступіў убок, як бы даючы дарогу мне: «Цалуй яе, камсорг».

Я, безумоўна, не намераны быў цалаваць і атрымаў «ляшча»:

— Хіба ад гэтага бязвусага ягняці дачакаешся пацалунку?

Кузаеў ляпнуў сябе далонямі па каленях і зарагатаў.

— Шыянок! Што гэта пра цябе такой нізкай думкі? Ганьбіш мужчынскае племя. Глядзі, пашлю начальнікам сталоўкі — кашу варыць.

Я ўпотай паказаў Вандзе кулак, а яна мне — кончык языка: з'еў?

## 3

«Лідачка, дзіцятка ты маё роднае! Крывіначка ты мая!»

Горка-салёны камок захраснуў у горле. Сціснула ў грудзях. Застукала ў скроні. А вочы засцілі не слёзы, іх, мокрых, не было,— а крывавы туман, сухі, калючы да рэзі, да болю. І праз туман той паўсталі ўсе самыя страшныя прывіды... Паўтонная бомба пацэліла ў катлаван трэцяй гарматы, на другі дзень вайны; сямёра хлопцаў, з якімі праслужыў у вучэбнай батарэі восем месяцаў, спаў на адных нарах, еў за адным сталом, хадзіў у адным страі, парвала на кавалкі, ніводнага не пазналі, не маглі пазнаць, дзе чыя рука, нага, не маглі сабраць целы, пакуль не прыехалі доктар і санітары з санчасці; нямецкія асы збілі «харыкейн» (англійскі «гроб», як мы называлі цяжкія непаваротлівыя знішчальнікі), самалёт упаў недалёка ад батарэі, было гэта ў сорак другім, калі мы лічылі ўжо сябе «зенітнымі асамі». Цела лётчыка разарвала так, што мне і старшыне Шкаруку, мы прыбеглі першыя да месца падзення, зноў-такі зрабілася млосна: пасля мы чамусьці саромеліся глядзець адзін аднаму ў вочы... Абсалютна абяскроўлены твар Каці Васіленкавай і жахлівае ўяўленне ад таго, што паведаміла камісія,— яны распаролі ёй жывот і набілі гільзамі тых патронаў, якія расстраляў, абараняючыся, разлік НП... І Лідзін жывот, жывы яшчэ камяк парваных унутраных органаў... Кроў, што заліла хлеб. Кроў фіна? А гэты чаму прыгадаўся? Нам не часта прыйшлося

бачыць кроў ворагаў. Усё — сваіх, блізкіх... Не трэба мне прывід чужой крыві!

«Крывіначка ты мая...»

Плывуць ліхтары ў крывавым тумане.

«Якую ж радасць ты прынесла, дочачка мая родная. Толькі калі нашы ўступілі тры тыдні назад, мы так радаваліся. Усе дні стаяла я на шляху, у нашых углядалася, у кожную салдатачку нашу — так цябе чакала... Ёта ж тры годзікі... тры гадочкі, дзень і ноч я малілася за цябе. І бог пачуў...»

«Не пачуў твой бог, мама! Няма тваёй крывіначкі!» Здаецца, я сказаў гэта ўголас. І тады пырснулі слёзы. Я не саромеўся іх.

Пашукаў у кішэнях хусцінку. Не знайшоў. Жэня працягнула сваю.

— Прабачце.

— Што вы, Павел, не звяртайце на мяне ўвагі. Хочаце — я выйду? Пасядзіце ў адзіноце.

— Не, не трэба. Застаньцеся. З вамі лягчэй. Я мог бы пайсці чытаць у лес... Вы чыталі?

— Не, я не магла да вас. Я баялася. Гэта — ёй пісьмо... Лідзіі Трафімаўне... Толькі вы, Павел, маеце права.

Успомніў, як нялёгка Жэня ўручала мне пісьмо. Перадала праз Сямёна Тамілу, каб я прыйшоў. Той недарэчна пажартаваў:

— Ідзі, цябе галоўны пісар выклікае. Не могуць без цябе дзеўкі. Спавядаюцца ўсё роўна што папу.

А я здагадаўся, навошта просіць мяне Жэня: ведаў, што прыйшла пошта. Не адразу пайшоў. Але папракнуў сябе за баязлівасць. Божа мой! Хіба гэта першая трагедыя сям'і? Іх мільёны. Прачытай жа хутчэй, хто ёй піша. Хто будзе аплакваць яе.

Жэня глядзела на мяне спалохана. Я ні пра што не пытаўся, нічога не прасіў. Я чакаў, стрымліваючы дыханне і слухаючы звон крыві ў вушах.

— Гэта — ад маці,— упэўнена сказала Жэня, узяўшы з-пад папкі трохкутнік і працягваючы мне.

Таму я палічыў, што яна чытала. Яе асаблівае, я сказаў бы, святое стаўленне да гэтага пісьма кранула.

— Прачытайце спачатку вы, Жэня.

— Уголас?

— Уголас? Не.

Я падумаў, калі я буду знаць, што хтось блізкі прачытаў і... Не. Усё гэта ад слабасці, ад таго, што ваявалі мы ў другім эшалоне. Хіба

пехацінец у акопе на перадавой плакаў бы над пісьмом ад бацькоў сябра, якога ўчора пахаваў?..

— Не думайце, што людзі так чарсцвеюць. Я перажыла ўсё. Аднак пісьма гэтага баюся.

— Я сам прачытаю. Слухайце... «Лідачка, дачушка, я ўсе тры гады верыла, што ты жывая, у снах гаварыла з табой. Цётка твая Міхаліна, царства ёй нябеснае, два гады хадзіла ў царкву ў Чыгіры, свечачкі ставіла за здравія сынкоў сваіх і за тваё. А потым мне сказалі, што памалілася яна за ўпакой твой. Пасварылася я з ёй, Лідачка, прасці мне госпадзі. Можа, і грэх ета. А можа, бог і яе пакараў. Застрэлілі яе паліцаі, калі яна ў Клічаў да дачкі ішла. Вот жа гады, старую кабету мішэней здзелалі, з пажарнай вышкі ў Гарадцы стралялі — хто пападзе. Дзетачка, ці чула ты пра такое — штоб стралялі па чалавеку для забавы?

Мы з Тонечкай пішам табе пісьмо, а тут прыбегла Ганка Ціткова, падружачка твая. Крычыць: «Цётка Ліпа, пісьмо ад Ліды! Мне пісьмо!» Яна думала, што яна першая палучыла, што нам не напісала ты! Дурная. Ей першай ты стала б пісаць? Не матцы? Падлізваецца етая Ганка! Курва яна — з паліцаямі круціла. Не вер ёй, Лідачка. Цяпер яна без мыла будзе лезці... Ды што я табе пішу пра ўсякіх... А пра сваіх не напісала... Брат твой родны Толік, маладзейшы ж за цябе на два гады, а партызанскім камандзірам быў. Ой, як нас трусілі за яго, як мучылі! Бацьку твайго, Трахіма Халімонавіча, месяц у бабруйскай цюрме дзяржалі, потым у магілёўскай, у Мінск павезлі. Ды ў Мінску нашы яго асвабадзілі, прыйшоў ён з Мінска тыдзень назад. Лідачка, на горкі яблык чалавека збілі. Чорны ўвесь. Кашляе. Ды ты не гаруй, дачушка мая. Бацьку я выхаджу. Кароўку ў нас забралі, парсючка забралі. Ды свет не без добрых людзей. Сёння ажно дзве гладышкі малака прынеслі. Сем'ям партызан усё нясуць. А Толік з войскам пайшоў. Мы ж шчаслівыя — нас не спалілі, толькі, калі партызанская блакада была, паўсяла згарэла. А во Прыдруцце ўсё спалілі, фашысты праклятыя, матак, дзетак маленькіх у царкву загналі, усіх спалілі. Лідачка! Якія звяры! Ты, можа, на фронце такога не бачыла! Тонька кажа: не трэба табе етага пісаць, а я кажу — трэба. Не саромейся ты ні за кога за нас. Усе ў нас былі дастойныя. Тонечка малая, дванаццаць гадкоў, а партызанам хлеб насіла. А я пякла яго. Адзін у нашым раду вырадкам аказаўся — твой брат стрыечны Мікалай, у паліцыі служыў. Цяпер матка яго Аўдоха поўзае на каленях па ўсім сяле: людзечкі, ратуйце Мікалаечку, сядзіць ён у Магілёве, валацуга, хапнулі яго нашы, відаць, партызаны яшчэ, не памаглі яму германцы.

Аўдоха кажа, што сам здаўся. А можа, і сам. А куды яму было дзявацца? Учора Аўдоха да нас прыпаўзла і галасіла: родныя мы, свая кроў, і нікога Міколка не забіў — то ета, можа, і праўда, што нікога не забіў у сваім сяле. А што там на старане было — адзін бог знае. Тоня не хоча пісаць бог, а я кажу ёй: пішы, дзетка, і бацька з печы кажа: пішы, дачка, усё, што матка гаворыць. Не забіваў ён у сваім сяле, і я дурная баба пагадзілася пайсці пасведчыць ета. Ох, Лідачка, як накінуліся на мяне бацька і Тоня. Ты, кажуць, у Толіка папытай і ў Ліды. Напішы ты мне, дачушка, як мне быць: як ты скажаш, так я і рабіць буду. Ад Толі ці дачакаешся — пайшоў ён з войскам на Берлін біць супастата ў яго бярлозе. А ты во дзіцятка як блізка, мы так панялі: блізка ад Ленінграда, ты ж пішаш недалёка самы вялікі, самы легендарны горад. Дык Тонечка кажа, ета так блізка, усяго тысяча вёрст. Дзетачка мая, каб не хворы бацька і каб адрасок ты прыслала, пайшла б да цябе пешачкі, свет не без добрых людзей, падвезлі б салдацікі, хлеба акрайчык далі б, калі свой увесь з'ем, Тонька дурная смяецца, што я хачу пайсці да цябе, а я не пайшла б, на крыллях паляцела б. Пісаць не хоча, кажа, спалохае ета цябе, а бацька з печы кажа ёй: пішы ўсё, што матка кажа, усё пішы, бацька знае, як табе дарага кожнае наша слоўца і як мы тут паміж сабой. Лідачка, то ета ж ад радасці ўсё, ад радасці, што пісьмо тваё прыйшло, што жывенькая ты, здаровенькая...»

Як маці гаварыла, так пісала школьніца, што тры гады не вучылася. Акрамя сэнсу было і нейкае магічнае ўздзеянне круглых дзіцячых літар і слоў, родных, беларускіх, напісаных бог ведае ў якой транскрыпцыі, тры класы скончыла Тоня да вайны, гэта я запомніў — расказвала Ліда. І словы гэтыя... не, не супакойвалі — дзіўна сушылі вочы і... душу.

У нейкі міг я адарваўся ад пісьма, спытаў у Жэні, ці ўсё яна разумее — па-беларуску ж.

— Хіба гэта можна не разумець?

Можна і не пытаць: твар яе, бледны і так, яшчэ прыкметней пабялеў. Мне варта было ўстрывожыцца. Але ці не такі спалатнелы я сам?

«...То ета ж ад радасці ўсё, ад радасці, што пісьмо тваё прыйшло, што жывенькая ты, здаровенькая...»

І — кляц. Жэня схіліла галаву на машынку.

— Жэня! Вам дрэнна?

Але ўспомніў, як яна баялася, каб яе не камісавалі, перш-наперш кінуўся да дзвярэй, павярнуў ключ. Няхай нейкі дурань думае што хоча, абы не даць ёй трапіць у санчасць.

Падняў яе галаву, сарваў касынку, набраў з кацялка ў рот вады, пырснуў у твар. Божа, якая стрыжаная галоўка! Проста дзіцячая! Боязна дакрануцца, узяць у рукі, пацерці шчокі. Але я зрабіў гэта. І Жэня расплюшчыла вочы. Даў ёй напіцца.

— Напалохалі вы мяне.

— Я хавала Ліду і... трымалася, а тут...

Сапраўды, на пахаванні яна суцяшала мяне. Палажыць бы яе куды. Але ў пакоі толькі адно крэсла, табурэты ды скрынкі са штабной маёмасцю. Куды яе, такую доўгую, паложыш? Падсунуў табурэт, абняў яе і гэтак падтрымліваў, паіў вадой.

Што вас так?..

— Мама. Убачыла маму там, у Ленінградзе... як яна памірала... Вы самі напішаце ім?

— Сам.

— Цяжка вам будзе. Але напішыце так, каб не забіла яе... Яны слабенькія, сэрцы ў нашых матак...

Пастукалі. Я адчыніў. Мураўёў. Мудры чалавек! Не толькі нічога не сказаў наконт таго, што зачыніліся, але і здзіўлення ніякага не выявіў. Па-цывільнаму папрасіў Жэню надрукаваць загад аб патруліраванні ў горадзе. Дывізіён павінен ахоўваць не толькі неба, але і сцерагчы гарадскія вуліцы. Нямнога ў горадзе засталося часцей. Тыл.

Войскі нашы выйшлі на дзяржаўную граніцу. Яшчэ колькі дзён назад я праводзіў гутарку на гэтую тэму, бачыў, як у байцоў радасна блішчалі вочы. На фінаў былі злосныя не толькі за гэтую вайну, але і за кампанію трыццаць дзевятага — саракавога. Фінаў варта сурова пакараць. Але павесіць трэба тых, хто пачаў войны, адну і другую, а не таго хлопца, якога мы з Сямёнам узялі ў палон, што яўна дэзерціраваў і хацеў у карэльскім лесе дачакацца міру.

Жэня сапраўды-такі акуратна перакапіравала іх салдацкія кніжкі — і жывога і мёртвага. І я выканаў параду Калбенкі — аднёс іх Іваніставай.

Ліка глянула ў паперку, на якую я буйна, літара ў літару, пафінску, перанёс усё, што выпісала з кніжак Жэня, і нечакана для мяне спакойна, з абыякавасцю, абразлівай для мёртвага,— так мне здалося,— скамячыла паперку.

Я, дурань, пакутаваў ад здагадак, меркаванняў, хваляваўся, даверліва гаварыў з Калбенкам, з Жэняй — а яна вось так проста... скамячыла, хоць, праўда, не кінула, трымала ў сціснутым кулаку. Але і кулачок гэты... усё роўна што гразіла камусь.

І я знарок сказаў помсліва, жорстка:

— Скора нашы будуць штурмаваць Хельсінкі.

Тут яна збялела, ступіла да мяне, вусны яе задрыжалі, калі спытала:

— Чаму вы такія злосныя?

Я ўзарваўся.

— Хто мы? І хто вы? Іваністава! Не аддзяляйце сябе... гэта дрэнна можа скончыцца... для вас. Вы дачка савецкага афіцэра! Мы злосныя? А тыя, што катавалі Кацю,— добранькія?

Яна панурылася, разгладзіла на другой далоні скамечаную паперку, пакорліва сказала:

— Прабачце. Я не тое сказала. Я ўсё яшчэ цывільная. Дзякую вам за прозвішчы. Майго аднакласніка тут няма. Ды і што мне да яго? Вы праўду сказалі: калі ён там — ён вораг.

А мінут праз колькі я меў размову з Данілавым. Цыган, узвінчаны, з пабялелымі зрачкамі, накінуўся на мяне так, быццам я быў вінаваты ва ўсіх бедах.

— Слухай! Што твой «Смерці» мае да Іваніставай? Знайшоў шпіёнку! Дурань! Яму няма чаго рабіць? Яму сумна, што няма чаго рабіць? Дык няхай папросіцца на фронт ці туды, дзе засталася сволач недабітая...

Зубраў — не дурны чалавек. Але гаварыць з людзьмі не ўмее. Былы пракурор, ён не толькі допыт — звычайную размову вядзе па-пракурорску. Але ніхто яму пра гэта не адважваецца сказаць. Я ўявіў, як ён мог гаварыць з Лікай, і зразумеў, што яна падумала пра мяне, чаму скамячыла паперку. Але ж не мог Калбенка перадаць яму маё абурэнне яе просьбай — даць прозвішчы фінаў. Чаго ж ён прычапіўся да яе? З-за чаго? Вучылася ў Хельсінкі?

— Калі ён з'явіцца яшчэ раз — буду гаварыць з ім я. А я — цыган! Я — цыган! Я з каменя высякаю агонь! Канешне, будзе дрэнна мне... Але скажы гэта Кузаеву, Тужнікаву, парторгу... каб зналі наперад.

Але думаў я не пра Зубрава. Ашаламіла іншае — мая здагадка. Глядзеў на Данілава, на яго ўзбуджанасць, у вочы, з якіх, здавалася, сыпаліся іскры, і ўсё больш пераконваўся, што здагадка мая правільная. Шырокая фізіяномія мая расплылася ад усмешкі.

— Саша! Ты закахаўся,— вырвалася ў мяне.

І тут жа пашкадаваў, што сказаў пра гэта.

Данілаў не пабялеў — ён пачарнеў да стану таго Атэла, якога я бачыў да вайны ў выкананні Папазяка. Схапіўся за кабуру.

— Пайшоў к чортавай мацеры! Безадказны балбатун! А то я адвяду цябе на КП з канваірам... За абразу старэйшага па званню.

— Дурань ты, Саша, дурань. Радуйся, а не злуйся,— сказаў я, выходзячы з пакоя барака, дзе асталяваўся камандзір батарэі.

У бяссонныя ночы я пісаў пісьмо Лідзінай маці. І бацьку. І сястры. Я плакаў ад звароту «Дарагая мама». І тут жа закрэсліваў яго. Якая мама? Чыя? Маю я права называць яе мамай? Магчыма, я шаптаў словы ці, можа, паўтараў, калі праваљваўся ў сон. У адну ноч Канстанцін Панасавіч, павярнуўшыся,— і яму не спіцца! — сказаў:

— Спі. Напішу я.

— Не, я сам. Калі ласка, я сам.

— Сам дык сам. Але не цягні, не палі сэрца. Будзь салдатам. Вайна ёсць вайна. А каб ты быў камандзірам пяхотнай роты? Уяві яго долю. Штодня прыходзіцца пісаць... у наступленні...

Нехта з іх — ён, парторг, ці Жэня — сказаў пра пісьмо Тужнікаву. Нампаліт прачытаў пісьмо пры мне, усё зразумеў, ніводнае слова не папрасіў растлумачыць. Нейкі час сядзеў у одуме. На твары маёра адбіўся глыбокі боль. Ён сказаў нечакана вельмі па-чалавечы:

— Што зробіш, мой баявы таварыш. У мяне загінулі два браты. І ў абодвух дзеці. Я высылаю ім атэстаты...

Ледзьве задушыў крык болю і... сораму. Як жа мы не ведалі, што ў намесніка камандзіра па палітчасці загінулі браты? Баявыя таварышы. Упершыню пачуў. Ці ведае хоць камандзір? Мы лічылі Тужнікава прыдзірам, педантам, фармалістам, «конікам», што скача па паверхні палітычных ведаў, у мее стварыць помпу, паказаць сябе. Маёра недалюблівалі і камандзіры за частыя праверкі, за прыдзіркі да таго, у чым ён не разбіраўся — напрыклад, у наладцы СОН; першыя ўстаноўкі часта разладжваліся, і Тужнікаў распякаў камандзіраў, чаго ніколі не рабіў высокі спецыяліст, вучоны электрык Шахоўскі, гэты капітан ні на кога не ўзвысіў голас, хоць часам мог уесці іроніяй. Тужнікаў параіў, менавіта параіў, а не загадаў, як звычайна, выкарыстаць пісьмо Лідзіных бацькоў у палітычнай рабоце. Я не адказаў: «Слухаюся, таварыш маёр!» — бо адчуваў, што не здолею чытаць пісьмо ні камсамольцам, ні «дзядам» — байцам, у якіх такія, як Ліда, як Глаша, Жэня, дзеці. Ва ўсялякім разе, у бліжэйшы час не здолею — пакуль не загоіцца рана.

З папрокам сабе, яму, усяму дывізіёну я сказаў Калбенку, што ў Тужнікава загінулі на фронце браты. Парторг папроку не прыняў і не здзівіўся такому паведамленню, што нядобра ўразіла мяне. Але праз мінуту ашаламіў лаянкай:

— Падлюга!

— Хто?

— Начфін. Хатнюк. Свіння! Пусціў плётку, што камісар дзеліць атэстат на трох жонак — і ўсе Тужнікавы, у розных гарадах. Вось за такое трэба біць морду. Я не паверыў. А хтось другі мог паверыць.

Дзіўна створаны людзі. Незразумела. Для мяне — незразумела. У той жа дзень Тужнікаў і Калбенка «падрапаліся». З-за Саўчанкі. Камандзіру батарэі на партбюро запісалі вымову, але, паколькі ніхто не падкрэсліў «з занясеннем ва ўліковую картку», парторг і я, яго пісар, схітравалі пры афармленні пратакола: не запісалі гэтае істотнае дапаўненне. Я папярэджваў Канстанціна Панасавіча, што нампаліт на такое не забудзецца. І ён не забыўся. Ён запытаўся, чаму не афармляецца выпіска на Саўчанку для палітаддзела корпуса.

— Дык без занясення ж!

— Хто сказаў?

— Ніхто не сказаў, што з занясеннем.

— Калбенка! Не палітыканствуй! Даскачашся! Прыпомняць табе!

— А ты мне не пагражай. Што ты мне ўвесь час пагражаеш? За што ты хочаш з'есці Саўчанку? Што дзяўчыну прыгрэў? Падумаеш — крамола! Дзякуй богу, паразумнелі. Яго Кузаеў да ўзнагароды прадстаўляе.

—Камандзір — чалавек эмоцый. А мы — палітыкі.

Тужнікаў кожную справу даводзіў, як кажуць, да лагічнага канца, сваю праўду даводзіў так, каб і шчылінкі не засталося для іншага тлумачэння. Ён выклікаў мяне і ўчыніў допыт у прысутнасці Калбенкі:

— Я даваў прапанову па Саўчанку — з занясеннем?

— Не помню, таварыш маёр.

— Не помніш? Адбіла табе памяць?

— Я акуратна запісваю ў пратакол усе вашы прапановы.

— Я знаю, як ты запісваеш! Летапісец Нестар! Я цябе не першы раз лаўлю на падобных запісах. Ты запісваеш, што дыктуе табе Калбенка! Глядзі — дапішашся!

— А што Калбенка! Праводзіць антыпартыйную лінію?

— Не знаю, што вы праводзіце.

— Ну, гэта ўжо недазволены прыём. Вы мяне кампраметуеце...

— Перад кім? Перад ім? — паказаў Тужнікаў на мяне.— Ён даўно тваім ценем стаў. Занадта вы спеліся. Вялікія палітыкі! Сёння ж склічце членаў партбюро.

— Навошта?

— Прагаласуем яшчэ раз: з занясеннем ці без занясення.

— Ну, калі ўжо пераглядаць, то я выступлю супраць вымовы ўвогуле.

— І я,— падтрымаў я парторга, радасна здзівіўшыся нечаканай смеласці, бадай, ніколі я не пярэчыў гэтак свайму начальніку. Але ж гэта — не баявая каманда, а партыйная справа, у партбюро ў нас роўныя галасы.

— Вам хочацца сарваць камбату ордэн? Зайздросціце? — дакануў Калбенка нампаліта.

Ашаломлены Тужнікаў доўга моўчкі глядзеў на нас. Я здагадваўся, як ішла яго думка: камандзір дывізіёна, напэўна, падтрымае нас, вельмі ж ён шчыра віншаваў Саўчанку з перамогай, Ірыну падарыў, плюс Данілаў, які і на мінулым бюро ўстрымаўся, за што пасля меў ад нампаліта добрую праборку. Пры такім павароце мОясна застацца ў меншасці, а гэтага Тужнікаў не можа дазволіць, бо лічыць, што такое галасаванне падарве яго аўтарытэт, які ён ахоўвае, бадай, з залішняй пільнасцю.

Якое выйсце выбера гэты супярэчлівы чалавек? У мяне ажно ўчасціўся пульс. І разам з тым стала шкада маёра — успомніў пра братоў, пра іх дзяцей, пра атэстат, які ён дзеліць на тры часткі. Вельмі хацелася, каб Генадзь Свірыдавіч (можа, упершыню звярнуўся я ў думках да яго гэтак — па-цывільнаму) прыняў разумнае рашэнне. І — на маю радасць — ён прыняў такое рашэнне:

— Можаце ісці.

— Бюро склікаць?

— Я сказаў: можаце ісці.

Калбенка казырнуў моўчкі. Я ляснуў абцасамі.

— Есць ісці, таварыш маёр!

Калбенка ў калідоры папракнуў мяне:

— Чаго ты падскокваеш, як малады казёл?

— Ад радасці.

— За каго?

— За кас з вамі. За Саўчанку. І за... Тужнікава.

— Сафіст,— кінуў мне Канстанцін Панасавіч, але, характэрна выцершы вусны, бараду, хораша засмяяўся.

4

Незвычайная падзея: да Мураўёва прыязджае сям'я. Дазволіў камандзір корпуса.

Дзіўна гэта ўзрушыла... калі не ўвесь дывізіён,— батарэі далёка,— то штабныя службы ўсе. Асабліва дзяўчат.

— Чула? Да начштаба прыязджае сям'я.

Я разумеў гэтую ўзрушанасць — сам усхваляваўся неяк нязвыкла з нечаканай і новай падзеі. Былі ў нас сямейныя, але без

дзяцей. Яшчэ ў Мурманску былы намеснік камандзіра дывізіёна па артзабеспячэнню капітан Сухадолаў выклікаў жонку ажно з Ташкента — «горада хлебнага» і цёплага. Прызвалі яе ў армію, каб залічыць на забеспячэнне, вучылі на машыністку — не навучылі, сядзела сувязісткай пры штабе. Не вытрымала жанчына нашага жыцця — захварэла. Некаторыя лічылі, што сімулявала хваробу, я так не думаў: бачыў яе ў пачатку і праз паўгода службы, няхай сабе і пад крылом мужа — змарнела, паблекла, бамбёжак спачатку не баялася, а пасля пападання бомбы ў артсклад дывізіёна — дрыжала, пад стол лезла. Не вытрымалі нервы. Камісавалі яе. Два Камандзіры — кулямётнай роты і агнявога ўзвода другой батарэі — жаніліся на сваіх падначаленых, афіцыйна абвясцілі дзяўчат жонкамі, у загс хадзілі ў Кандалакшы. Добры Кузаеў, які нават з бясшлюбнай цяжарнасці не рабіў праблемы, безумоўна, не без уплыву непрымірымага Тужнікава, абодвух гэтых камандзіраў паспешліва «сплавіў» у новы полк — каб не давалі дурны прыклад. «А так паўдывізіёна пажэніцца»,— не ўтойваў сваіх адносін да жанацікаў нампаліт.

І раптам — дзеці, двое дзяўчатак, адзінаццаць і сем гадоў. Як толькі Тужнікаў згадзіўся на такое? Ці ў яго не спыталі?

Гэта — з нашых размоў з Калбенкам. Але ўсяго я не выказваў нават яму. А ўвогуле, здавалася б, самая радавая падзея гэтая сапраўды моцна ўсхвалявала. Дзіўна. Што я — дзяцей не бачыў? У Мурманску пасля пажару іх малазаставалася, здаецца, усяго адна школа працавала. А тут, у Петразаводску, хаджу праз горад на батарэі і радуюся, што з кожным днём, тыднем на вуліцах усё больш сустракаецца дзяцей. Дык чаму мяне так хвалююць дзеці начальніка штаба? Не дзеці. Сам факт з'яўлення іх у баявой часці. Двайное пачуццё ён нарадзіў. Радасць: гэта ж як першыя ластаўкі вясны — прадвеснікі мірнага жыцця, калі ў гарнізонах камандзіры жылі з жонкамі, дзецьмі, старымі бацькамі. І трывогу: аднак жа працягваецца вайна, самы пераможны этап яе. Чырвоная Армія ўступіла на зямлю Германіі, Румыніі, вызваляе Польшчу; у Ванды Жмур няма зараз іншай тэмы, як пра вызваленне шматпакутнага народа. «Майго народа», кажа яна. Калі я паспрабаваў давесці, што даўно ўжо ў яе не засталося нічога польскага,— ледзьве не палезла з кулакамі, шалёная шляхцянка. І Ванда, і Жэня (нават Жэня!), і Глаша, і Віктар Маслоўскі, і Сямён Таміла, і Данілаў, і ўсе сяржанты, усе маладыя афіцэры, акрамя хіба якоганебудзь цюленя Унярхі ды дзядоў, усе не трацілі надзеі, што дывізіён перакінуць на такі фронт, на такі ўчастак, дзе знойдзецца «работа»... ну, калі не па танках, дык па самалётах напэўна; такая па гарачыні, як у Мурманску. Разважыўшы, я, безу-

моўна, разумеў, а Калбенка словамі выказаў: нездаровае гэта жаданне — каб былі налёты, каб бамбілі давераныя нам аб'екты, часці, нас саміх — дай толькі пастраляць, дай паказаць, што ўмеем — разведчыка збілі. Навучыліся! Безумоўна, навучыліся. Але налёт ворага — непазбежныя ахвяры. Неразумна забываць пра гэта ў тумане «спартыўнага азарту», як кажа парторг. І, аднак, хочацца... ой, як хочацца! У той час, калі будзем «дабіваць звера ў яго бярлозе», знаходзіцца ў шарэнгах тых, хто гэта зробіць, а не сядзець у тыле... у глыбокім тыле.

А калі камандзір корпуса дазваляе афіцэру прывезці дзяцей, значыцца, міжволі пачынаеш думаць, што будуць трымаць дывізіён тут. Безумоўна, сталіцу рэспублікі, чыгуначны вузел, азёрны порт трэба прыкрываць: да Фінляндыі рукой падаць. Але ўсё ж тыл гэта ўжо! Тыл! Пасля налёту на станцыю, калі не лічыць трапнага агню адной батарэі па разведчыку, месяц ужо маўчаць нашы гарматы. У камандзіра гарматы сяржанта Дзенісенкі затвор заржавеў. Тужнікаў, які гэта выявіў, закаціў і яму і камбату другой батарэі на «поўную катушку». ЧП! Мне трэба склікаць бюро, каб пакараць Дзенісенку па камсамольскай лініі. На вымовы не скупімся.

Нампаліт патрабуе баявыя паўзы запаўняць палітработай — каб не страціць «баявы дух». Лётае з. батарэі на батарэю, на кулямётныя, пражэктарныя ўстаноўкі — усіх ведае, ва ўсё ўнікае. Калбенка таксама не сядзіць у штабе, любіць батарэю Саўчанкі, але, я ведаю, ён часцей расказвае афіцэрам вясёлыя гісторыі са сваёй даваеннай работы, чым чытае даклады. А ў мяне ад палітінфармацыі гутарак млее язык. Добра, што ёсць пра што расказваць: наступленне нашых войск, наступленне саюзнікаў у Францыі. Вызвалены Парыж! А пра Парыж я многа чытаў і маю што расказаць. Нават эрудытка Іваністава слухае з цікавасцю.

...На палявую пошту тэлеграму даць нельга. Кузаеў дамовіўся з ваенным камендантам горада, што жонка Мураўёва пашле тэлеграму на камендатуру.

Па нейкай патрэбе я апынуўся на вузле сувязі, калі тэлефаністка запісала тэлефанаграму з камендатуры: «Мураўёву. Выязджаем Масквы дзесятага восем вечара. Страчай Маша»,— і выказала здзіўленне, працягваючы паперку мне:

— Вы што-небудзь разумееце, таварыш малодшы лейтэнант?

Я не ведаў пра дазвол і выклік. Але я чуў, як часам бедаваў добры настаўнік Іван Іванавіч: «Ах, Маша, Маша! Як яна там, гаротніца?» І пра дзяўчатак сваіх ён расказваў. І раптам: выязджаем. З дзецьмі? Ашаламіла мяне такое прачытанне. Здалося містыфікацыяй. Чаму з камендатуры?

І я пайшоў спачатку да Кузаева. Перадаў тэлефанаграму, безумоўна, з хітрасцю: ад камандзіра можна даведацца больш, чым ад самога Мураўёва.

— Не разумею.

— Чаго ты не разумееш? Да чалавека едзе жонка.

— З дзецьмі? — здзіўленне маё было шчырае, і Кузаеў заўважыў яго.

— Чаму ты здзіўляешся? Галадае, брат, сям'я. Дваіх дзяцей дывізіён як-небудзь пракорміць. Нясі дзеду тэлеграму. Няхай парадуецца.

З тае хвіліны пачаліся і радасць мая — за дабрыню чалавечую, і трывога — што адваявалі мы, не свецяць нам рашучыя баі, «страляць» нам больш па ўмоўных самалётах ды ўдасканальваць палітработу.

Мураўёву было ўсяго сорак, але ці праз тое, што прызвалі яго на другім годзе вайны, як запаснікоў апошняй катэгорыі, ці з-за яго выразнай цывільнасці, адметна настаўніцкай, не толькі Кузаеў і Калбенка (Тужнікаў і Шахоўскі такога не дазвалялі, адзін — ад вернасці службовай этыцы, другі — ад арыстакратычнасці), але і маладыя афіцэры і нават радавыя — штабныя дзяўчаты — называлі яго дзедам. Ён ведаў пра гэта і толькі пасміхаўся. Меў, пэўна, у школе розныя мянушкі.

Мураўёў не столькі ўзрадаваўся, колькі спалохаўся, калі я ўрачыста і весела (хацеў нават пажартаваць: «Танцуйце, таварыш старшы лейтэнант») уручыў яму тэлефанаграму.

— Ах, Маша, Маша! Так паспешліва, так паспешліва. Нічога ж не гатова,— паперка трымцела ў яго руках.

— А што трэба, Іван Іванавіч? — вырваўся ў мяне цывільны зварот.— Я памагу.

Ён — як спалохаўся:

— Не, не, я сам, я сам. Нічога не трэба, галубчык.

— Ды вы хоць ведаеце, калі поезд прыйдзе?

— Так, так, поезд. Калі ён прыйдзе? Выехалі ўчора...

— Дазвольце. Я паспрабую даведацца. Пайду на станцыю...

— Дзякую вам, дарагі мой, дзякую,— ён узбуджана хадзіў па застаўленым планшэтамі пакоі, паднёс тэлефанаграму да блізарукіх вачэй, як бы жадаючы схаваць іх ад мяне, і сказаў так, што і ў мяне ледзьве не пырснулі слёзы: — Анечка ж едзе! Анечка! Маленькая мая...

У прыфрантавой зоне рух усіх паяздоў трымаўся ў сакрэце. Ды ці быў ён — расклад пасажырскіх паяздоў? Быў, безумоўна. Але ці прыйшоў хоць адзін поезд па раскладу?

Я прабіўся да начальніка станцыі. «Чацвяртак» наш стаяў у яго на гарышчы дыспетчарскай. Неаднойчы ўстаноўку глядзеў сам

Кузаеў. Мы разумелі: цягне камандзіра на станцыю. Натуральна, што ён пазнаёміўся са сваім калегам: даваеннага начальніка вярнулі з арміі. Хіба чыгунка не армія?

Маючы шыфроўкі, начальнік здагадаўся, пра які поезд ідзе размова. Але калі ён прыбудзе — адзін бог ведае.

— Калі з Ленінграда выйдзе — тады скажу. Прыблізна.

Вярнуўся я з першага паходу на станцыю, а штабныя службы ўжо гулі: да Мураўёва едзе сям'я! Дзіўная ўсхваляванасць! І шмат хто гэтак жа, як я, прапаноўваў начштаба свае паслугі: прыбраць, памыць, неслі ў падарунак, як імянінніку, гравюры фінскія, трафейны посуд, хтось нават лялька прынёс. Жэня хадзіла ажно на першую батарэю — у цяпліцу па свежыя гваздзікі; на клумбах перад штабам жнівеньскія кветкі адцвілі, страцілі выгляд. Усе гэтыя клопаты і зацікаўленасць многіх людзей вельмі бянтэжылі Івана Іванавіча, і без таго збянтэжанага нечаканым шчасцем. Ён не прывык да такой увагі, дагэтуль быў самы непрыкметны афіцэр, ён нават ад ардынарца адмовіўся, хоць меў права на яго.

«Не магу я так, каб нехта прыслужваў... Я ўсё ўмею сам».

Шахоўскі тады паблажліва назваў яго народнікам, што не спадабалася Калбенку: маўляў, арыстакратычная высакамернасць да прасталюдзіна.

Парторг, як бы разумеючы тайную загадку чалавечай псіхалогіі, трохі іранічна пасміхаўся з усеагульнай узбуджанасці ад такой вельмі ж простай падзеі — да чалавека прыязджае сям'я. З маіх клопатаў кпіў:

— Харошы ты чалавек, Павел, але характар у цябе бабскі. Ці гэта ты тут абабіўся са сваім дзявочым войскам? З кім павядзешся — ад таго набярэшся.

Я не крыўдаваў: бабскі дык бабскі. Радаваўся сваім перажываннем і трывожыўся — за сябе і за ўсіх: вельмі ж гэта новае ў настроі, вельмі ж мірнае. Я нават спаў трывожна, прачынаўся за ноч дваццаць разоў: так спалі ў Мурманску, калі сціхала завіруха, і мы чакалі — праз гадзіну-дзве яны прыляцяць. Так яшчэ спяць, калі баяцца праспаць дальні поезд.

Раніцою я сходзіў на станцыю і прынёс прыкладны час прыбыцця поезда: тры-чатыры гадзіны дня.

Мураўёў паехаў сустракаць сваіх на «вілісе». Калі вернецца — ніхто не ведаў. Аднак жа — во дзіўна! — у той час, калі «віліс» спыніўся перад штабам, вольныя ад дзяжурстваў радавыя, сяржанты і нават афіцэры штаба і тылавых служб апынуліся на вуліцы. І я. Як

інтуіцыя падказала быць тут, выйсці з памяшкання якраз у гэты момант.

Іван Іванавіч выскачыў з «віліса» першы і падставіў рукі, падхапіў на іх маленькае дзяўчо, такое худзенькае, што, здавалася, свіцілася наскрозь, толькі тварык жоўценькі і вялікія-вялікія недзіцячыя вочы, якімі яна пранікліва агледзела новы свет — нас, вайскоўцаў,— і паспрабавала ўсміхнуцца, але ўсмешка атрымалася спалоханая. Паркалёвая старэнькая, але не лапленая яшчэ сукенка была яўна не з яе пляча, не па росту, мабыць, старэйшай сястры.

У мяне сціснула ў грудзях: няўжо гэтай дзяўчынцы сем гадоў?

У той дзень захаладала. І худыя жаночыя рукі высунуліся з машыны, працягнулі плашч.

Іван Іванавіч пад позіркамі дзесяткаў людзей любоўна захінуў у старэнькі залаплены плашч сваю Анечку.

Выйшла з машыны маці, маленькая і гэткая ж худая жанчынка ў старэнькай сукенцы. Калі выскоквала з машыны, у яе зваліўся чаравік — таксама, відаць, не з яе нагі, і яна страшэнна збянтэжылася. Іван Іванавіч упаў на калені і надзеў жонцы чаравік. Яе гэта яшчэ больш збянтэжыла.

Любоў Сяргееўна Пахрыцына, што стаяла побач са мной, неяк дзіўна ахнула — як усхліпнула. З-за машыны выйшла старэйшая дзяўчынка — Валя. Яна была ростам з,маці, з доўгай касой і не здавалася такой схуднелай, можа, таму, што была адзета ў шарсцяную кофтачку, зноў-такі не яе памеру — вялікаватую. Валя несла невялікі вузел у клятчастай хусціне.

Мураўёў узяў з машыны пацёрты чамадан. Лёгка ўзяў, лёгка панёс — як пусты. І сям'я пайшла міма нас у фінскі домік, дзе меў пакой начальнік штаба.

— І ўвесь набытак? — спытаў Кумкоў шэптам.

— З'елі набытак,— адказаў Калбенка.

— Як з'елі? — не зразумеў Кумкоў.

— Заеўся ты, Кум. Не знаеш, як жыве тыл. На прадукты маці выменяла ўсё шмоцце.

— Калі дзеці галодныя,— уздыхнуў стары Савелаў, ардынарац камандзіра.

— З прыездам сям'і, таварыш старшы лейтэнант! — грымнуў начальнік паркавага ўзвода Шкаруба.

Нечаканае віншаванне спалохала малую, яна наступіла на крысо плашча і спатыкнулася. Бацька апусціў чамадан, падхапіў дзіця на рукі.

— Што ты, Анечка?

А Марыя Аляксееўна спынілася і раптам... пакланілася нам.

— Дзякую вам, людзі.

Гэта збянтэжыла Мураўёва.

— Што ты, Маша! Вазьмі чамадан.

Але чамадан падхапіў Савелаў. Мне зрабілася няёмка, што з нас, маладых, ніхто не здагадаўся зрабіць гэта. І ўвогуле — навошта выйшлі? Знайшлі відовішча!

Сям'я знікла за дзвярамі дома. А мы працягвалі стаяць. Не моўчкі, безумоўна. Гаварылі, але пра іншыя дывізіённыя падзеі. Ды я адчуваў, людзі не разыходзяцца таму, што чакаюць, каб нехта сказаў штосьці асаблівае, незвычайнае менавіта пра гэтую падзею. Я разумею: прыезд дзяцей усхваляваў больш, чым збіты разведчык ці камісаванне па цяжарнасці тэлефаністкі штаба Маі Шабашовай, якую два гады ставілі ў прыклад за бездакорныя паводзіны.

Што хочуць пачуць людзі аб прыездзе сям'і?

Ды з будынка штаба выйшаў капітан Шахоўскі і ўпікнуў:

— Вы што, дзяцей не бачылі?

Сказаў, бадай, да мяне і Пахрыцынай. Але ўсе паспяшаліся хутчэй знікнуць. А Любоў Сяргееўна ўспыхнула, на шчоках яе выступілі бурачковыя плямы, і яна з папрокам паглядзела на свайго каханага. У чым папракала? Навошта разагнаў людзей? Ці ў нечым іншым?

Мне раптам стала чамусьці шкада доктара. Строгая яна. Дзяўчаты яе баяцца. А мяне, пасля размовы на баржы, цягнула да яе нейкая неасэнсаваная цікаўнасць. І пачуццё гэтае — такога ж незразумелага жалю — узнікала не ўпершыню. З-за чаго? З-за пабітага воспай твару? Але гэта ж не перашкодзіла ёй стаць добрым доктарам, капітанам і пакахаць такога прыгажуна, разумніка, эстэта, нашчадка княжацкага роду. Але ці гэтак жа кахае ён? Во пытанне, якое не давала спакою. І ніхто на яго, пэўна, не мог адказаць — ні разважлівы Калбенка, ні пранікліва назіральная Жэня Ігнацьева...

Дэмакрат, эрудыт, Шахоўскі мог з кожным, з радавым і з генералам, пагаварыць на любую тэму — ад арганізацыі арміі Аляксандра Македонскага ці Ганібала да марынавання рыжыкаў ці старажытнай рэцэптуры настоек. Але ён вельмі спрытна ўмеў адвесці размову ўбок, калі яна пачынала хоць як датыкацца яго асобы. Сам пра сябе гаварыў, пахваляўся паходжаннем, але іншым не дазваляў заглядаць у яго свет.

— Во так, брат, жывуць нашы сем'і там, у тыле. Галадаюць, мерзнуць, але куюць танкі, самалёты... Усё для фронту! Мы не ўяўляем, які для іх гэта святы лозунг. «Ваюй, Косця, пра нас не думай,

мы жывём добра»,— пісала мая Таццяна. Яна мудрая, мая жонка, у эвакуацыі на Урале ў школу не пайшла, на завод пайшла. Я іх год шукаў, радыё памагло. У першым жа пісьме яна і напісала гэта: мы жывём добра. Карміла траіх дзяцей адна, жылі ў бараку, чатыры сям'і ў адным пакоі; прагаварылася Ларыска, трэцякласніца, пачала пісаць мне штодня. Вунь колькі яе пісем валеу — паўмяшка. Самы дарагі скарб. Цяпер я веру, што яны жывуць добра. Валодзька ў чатырнаццаць гадоў стаў побач з маткай да станка. Асобны пакой атрымалі. Атэстат мой... А Мураўёў скардзіўся: у тым раённым пасёлку, дзе жыла яго сям'я, і за грошы ніякія прадукты нельга купіць, а на картачкі — дзевяць кілаграмаў аўсянай мукі на настаўніцу і па чатыры — на ўтрыманцаў. А ты, Паўло, здзіўляешся, што яны худыя...

— Не гэтаму я здзіўляюся, Канстанцін Панасавіч. Я, можа, больш здзіўляюся, што мы ніводнага дня Не галадалі. У сорак другім у Мурманску з паўмесяца хлеба не было. Але была траска і прасяная каша. На снеданне суп з траской, на абед — зноў суп з траской і каша з траской і на вячэру каша з траской, салёнайсалёнай. Па тры катлы адвару хвойнага выпівалі, як коні,— невядома чаму ўспамін пра траску рассмяшыў мяне.

Калбенка падцягнуў рэмень, смачна выцерся і, ходзячы па пакоі, успомніў пра іншае:

— А помніш, як у Кандалакшы мы хадзілі з табой на станцыю выменьваць нашу булку на маскоўскі хлеб з мякінай?

Была такая прыгода. Пэўна, каб не рабіць стрэчных перавозак, у Запаляр'е не завезлі жытнёвай мукі, а пакінулі амерыканскую пшанічную, адбеленую да ненатуральнасці. Спачатку мы ўзрадаваліся гэтаму хлебу: да вайны мала хто такую булку еў! На семсот грамаў нормы — паляніца. Але вельмі хутка «завылі»: не ішоў такі хлеб пад боршч, пад тую ж салёную траску, пад адзін хіба чай быў даспадобы.

— Канстанцін Панасавіч, давайце выпрасім у Клімент наперад нашы ДП[1] і аднясём Мураўёвым. Каб у дзяцей свята было. Іван Іванавіч з яго характарам гэтага не зробіць, калі Кузаеў не дадумаецца.

Калбенка ляпнуў мяне па плячы.

— Добры ты хлопец, Павел. І не лапух. Адшліфаваў я цябе.

— Ды і добра адшліфавалі.

— Не падхалімнічай. Да Клімент пайду я, ты са сваёй далікатнасцю ў гэтага скупердзяя не выпрасіш. А ты пашлі днявальную да Мураўёва з запіскай, каб ведалі.

---

[1] Дадатковы паёк, выдаваўся афіцэрам.

Парторг прысеў да стала, размашыста напісаў:

«Іван Іванавіч, хочаш ты ці не хочаш, а мы прыйдзем у госці. Не палохай Марыю Аляксееўну. Нічога на трэба, акрамя кіпятку, чай прынясём».

Атрымаўшы наша «пасланне», Марыя Аляксееўна ды і вонкава флегматычны Іван Іванавіч страшэнна расхваляваліся — самі пасля прызналіся. Якія госці? Чым страчаць? Чым частаваць?

Былы і будучы дырэктар школы, трэцяя асоба ў дывізіёне, пайшоў толькі на адно парушэнне армейскага парадку: папрасіў у сталоўцы два абеды, толькі два — на чацвярых. Кухар пасля расказваў, з якой збянтэжанасцю начальнік штаба прасіў гэтыя абеды. Кухару Калбенка даў у косці, што ў таго не хапіла розуму аднесці нешта дзецям.

Абеды сям'я з'ела адразу, да нашай запіскі,— згаладаліся ў дарозе.

Дзеці, безумоўна, з цікавасцю чакалі гасцей, хоць хваляванне бацькоў перадалося і ім.

Калі мы з Калбенкам падыходзілі да дома, сплюшчаны і ад гэтага яшчэ больш пажаўцелы носік Апечкі прыліп да шыбы. А крык яе ажно вырваўся на вуліцу:

— Ідуць!

У пакоі начальніка штаба былі невялікія змены: у дадатак да ложка, на якім ён спаў, пастаўлены дзве канапкі для дзяцей ды стол быў засланы папяровым фінскім абрусам; ён здаваўся жанчыне і дзецям вялікай каштоўнасцю — размаляванай, прыгожай. Марыя Аляксееўна ахнула, калі за чаем Анечка запляміла яго, а Кузаеў засмяяўся і сказаў, што ён дасць ёй два тузіны такіх каштоўнасцей.

Гаспадары стаялі збялелыя, калі мы далікатна, пацывільнаму пастукаўшы, увайшлі ў іх пакой, у дзяцей яшчэ шырэйшымі сталі вочы.

Калбенка ўвайшоў што сват — упэўнены, вясёлы, ён нават апырскаў сябе адэкалонам, прапаноўваў мне, але я адмовіўся, мне здалося гэта непрыстойным перад такой незвычайнай місіяй.

Я ішоў за ім з рэчавым мяшком, у якім схаваўся наш паўмесячны дадатковы паёк, не вельмі важкі, але для таго часу і той сітуацыі — немалы скарб.

— З прыездам, Марыя Аляксееўна. Будзем знаёміцца. Я — Канстанцін Панасавіч, званне маё вам без патрэбы, ды яно — на пагонах, аб пасадзе даведаецеся.

Калбенка падышоў і пацалаваў жанчыне яе загрубелую ад працы руку, ад чаго тая вельмі збянтэжылася. Сельская настаўніца. Хто і

калі цалаваў ёй руку?! Не, пасля прызналася: цалавалі — былыя вучні інваліды франтавікі, што вярнуліся дадому.

— З прыездам, дзеці,— парторг лёгка падкінуў Анечку, асцярожна апусціў, як бы са здзіўленнем спытаў: — Гэта і Ларыска мая такая?

Такая лёгкая — зразумеў я.

Я і Марыі Аляксееўне, і дзецям паціснуў рукі.

Калбенка ўзяў ад мяне мяшок і пачаў выкладваць з яго на стол прыпасы: дзве банкі бекону, дзве пліткі шакаладу, згушчонае малако, пачкі пячэння, чай.

Мураўёў бездапаможна запярэчыў:

— Канстанцін Панасавіч!..

А Анечка спытала з дзіцячай радасцю і здзіўленнем:

— Гэта нам?

— Анечка! — леахнулася маці.

— Вам, дзіця, вам.

— І мы будзем гэта есці? — усё яшчэ не верыла такому шчасцю малая.

— Канешне ж, дзіця маё.

Наш здзіўляюча спакойны — ніколі не выяўляў сваіх эмоцый: ні радасці, ні жалобы, ні злосці — начальнік штаба закрыў твар рукамі. Здалося, ён заплакаў. Гэта збянтэжыла нават Калбенку.

— Іван Іванавіч! Ты ж у нас самы мужны чалавек.

— Ваня! — ласкава папрасіла жонка.

А малодшая падбегла, абняла бацьку за шыю і кінула з папрокам старэйшай сястры:

— А што? Я казала, што наш татачка — герой. Чула, што дзядзечка сказаў?

І тады ўсе засмяяліся — і я, і Валя, і Марыя Аляксееўна, і сам Мураўёў.

Знікла няёмкасць.

— Як даехалі? Нідзе не бамбілі?

— Не. Дзякуй богу.

— Выдыхнуліся фрыцы,— сказаў я.

— Не праяўляйце залішні аптымізм, мой юны сябар,— запярэчыў Мураўёў.— Яны яшчэ могуць агрызнуцца.

— Не палохай дзяцей, Іван Іванавіч.

— Што вы! Нашы дзеці нічога не баяцца.

— І болю не баішся, Аня?

— Не! — бадзёра адказала дзяўчынка.

А ў мяне сціснулася сэрца: перад вачамі паўстала, як Канстанцін Панасавіч выносіў Ліду.

Калбенка распакаваў шакалад і пячэнне.

— Ешце, дзеці.

— Ой! Парадак жа трэба!

— Маша! Ты забаўляй гасцей. Хоць якія вы госці? Гаспадары! А я — на кухню. Там ёсць фінскі посуд. Чайнік пастаўлю. Чай! Паглядзі, Маша, які чай. Няўжо і цяпер з Індыі возяць?

Аня ела пячэнне на поўны рот, а Валя адломвала па маленькаму драбочку і не ела — як дэгуставала, хоць, бачыў я, есці ёй хочацца, як і сястры.

У час размовы, назіраючы за дзецьмі, я больш назіраў за Калбенкам: як ён глядзеў на дзяцей, з якой бацькоўскай радасцю і з якім болем, смуткам,— мы не ўгледзелі, як да дома падышлі Кузаеў і Тужнікаў. Пачулі стук у дзверы.

— Калі ласка,— ужо зусім смела дазволіла настаўніца.

Я трохі збянтэжыўся, убачыўшы камандзіра і нампаліта. І Марыя Аляксееўна адразу здагадалася, што прыйшлі начальнікі мужа, гаспадары, людзі, якія памаглі ёй з дзецьмі прыехаць, і ў разгубленасці спалохана паклікала:

— Ваня!

Кузаеў пажартаваў:

— Зараз мы вашага Ваню на «губу» пасадзім.

— Майго татку? — абурылася Анечка.— За што? Ён — герой!

Кузаеў падхапіў дзяўчынку, закружыў па пакоі.

— Правільна, дзіця! Бацьку ў крыўду не давай,— і паказаў Тужнікаву на нас: — А тваіх не абскачаш.

— А камісары ўсюды павінны быць уперадзе,— нечакана для мяне весела адказаў нампаліт і пачаў з партфеля выкладваць на стол. Той жа ДП, ды яшчэ і пляшку гарэлкі выставіў. Гарэлка чамусьці вельмі здзівіла Валю.

— Ух ты! — сказала яна.

Усе засмяяліся. А я падумаў пра тры сям'і, якім памагае Тужнікаў. Каб прымалі пасылкі, ён, напэўна, адсылаў бы дадатковы паёк сваёй сям'і і асірацелым сем'ям братоў. І, можа, упершыню я адчуў да нампаліта гэткія ж пачуцці, як да Калбенкі,— сыноўнія.

Кузаеў прапанаваў зусім разгубленаму Мураўёву паклікаць дзяўчыну — байца з кухні, каб памагла накрыць стол.

Марыя Аляксееўна шчыра спалохалася:

— Што вы! Што вы! Мы самі. Мае дзяўчаткі ўсё ўмеюць. Усё ўмеюць.

5

Тое, чаго я баяўся з першай сустрэчы з Іваніставай... не, з таго моманту, калі ўбачыў, як глядзіць на яе Глаша, з якім балючым гневам адказала на яе словы пра фінскі народ,— тое здарылася. Але я думаў пра слоўныя сутычкі, пра ўзаемную варожасць, што магло нездарова ўплываць на разлікі ПУАЗО, дальнамера. Баяўся я, што Ліка застанецца ў ізаляцыі, усе падтрымаюць Глашу. Але паназіраў і... бадай супакоіўся: яе прынялі, яна, як кажуць, улілася ў калектыў, з ёй лічыліся — з яе ведамі, уменнем усё зрабіць лёгка і акуратна, дзяўчатам імпанавала яе далікатнасць, таварыскасць, шчырае няробленае жаданне падзяліцца і ведамі, і думкамі, і рэчамі. Яна адпрасілася ў Данілава схадзіць у горад на сваю кватэру і прынесла цэлую кучу рэчаў, якія не выдаваліся інтэндантскай службай, але якія не былі непатрэбнымі, лішнімі для дзяўчат нават у іх вайсковым жыцці. Бяда, нястача можа звесці патрэбнасці толькі да таго, што неабходна для падтрымання жыцця — харч, грубае, але цёплае адзенне. Такой была наша патрэбнасць у Мурманску. Ужо ў Кандалакшы мы як бы пачалі багацець, ва ўсялякім разе, з'яўляліся дробязі, якіх не хапала, напрыклад, дзяўчатам выдавалі туалетнае мыла, грабяні, летнюю бялізну. Мы з Калбенкам часта гаварылі на гэтую тэму з пачуццём удзячнасці тым, хто рабіў у тыле: канчаўся трэці год вайны, пайшоў чацвёрты, а армія забяспечваецца ўсё лепш і лепш. Тут, у Петразаводску, я раптам заўважыў, што дзяўчаты папрыгажэлі, падцягнуліся, прыхарошваюцца — як бы пабольшала ў іх жаноцкасці і пяшчоты. Асабліва на батарэі Данілава. Ці не ўплыў «царыцы лесу»? Вельмі можа быць. З'явіўся ўзор, на які можна раўняцца.

І раптам такое... Усё дапускаў —любыя праявы Глашынай варожасці да фінкі. Але каб добрая, сумленная, дысцыплінаваная Глаша, якая ўсвоіла ўсе вайсковыя правілы паводзін, актыўная камсамолка — пасля смерці Ліды я рэкамендаваў яе ў камсоргі, але Тужнікаў чамусьці адхіліў, як адчуваў,— магла гэтак сарвацца! Яна цягала Ліку за валасы. Учапілася, як кошка, і цягала па траншэі.

Пра сваркі, сутычкі, нават бойкі,— чаго не было! — здаралася, што і кухталя давалі адзін аднаму — камандзіры батарэй рэдка дакладвалі вышэй, хапала ўласнай улады для пакарання. Пра гэтае ж здарэнне Данілаў далажыў камандзіру дывізіёна. І са мной не параіўся. Здзівіла гэта мяне і пакрыўдзіла. Намерыўся развесці дзяўчат? Баіцца больш непрыемнай сутычкі? Але ад каго пазбавіцца хоча? Далажыў, пераканаўся я пасля, абвінавачваючы Васіленкаву.

Кузаеў абурыўся. І Тужнікаў абурыўся. Супраць Глашы. І адразу вырашылі:

— На МЗА яе, кашу варыць.

Глаша добра гатавала, разоў колькі замяшчала кухара нават у штабной сталоўцы. Але заставацца кухаркай не жадала, настойліва прасілася назад на батарэю.

Я паспрабаваў абараняць дзяўчыну, якую апякаў пасля смерці сястры, а пасля смерці Ліды — як бы параднiўся: гора роднiць людзей. Мы не гаварылі на гэтую тэму, але я адчуваў яе спачуванне, глыбокае, сястрынскае, яе разуменне майго болю. А я разумеў яе. Мы маглі сядзець ці хадзіць па пазіцыі, гутарыць пра службовае, побытавае, другараднае ці ўвогуле маўчаць — і ўсё адно адчувалі роднасць душ. Як брат і сястра.

Я сказаў Тужнікаву:

— Варта разабрацца, з-за чаго ўсё адбылося. Васіленкава не тая дзяўчынка, каб хапаць за косы з-за дробязі. Іваністава залішне захапляецца фінамі. Культурная нацыя... Ведаем мы іх культуру!

Тужнікаў, заўсёды начынены палітыкай, што дынамітам, у той раз узлаваўся:

— Ты мне высокай палітыкі не падводзь. Дрэнна працуеш са сваімі камсамольцамі. Менш споведзей іх выслухоўвай, а больш дысцыпліны патрабуй. А калі будзем даравацьь такія выбрыкі, гэтую бабскую стыхію не ўтаймуеш. Ад дысцыпліны ашмоткі паляцяць.

— Не ляцелі ж,— сказаў я, а падумаў больш: «Не ляцелі, калі і цябе не было». Дадаў: — Не ляцелі, калі па пяць разоў за дзень вялі агонь... Бомбы на батарэі падалі...

— Няспелы ты работнік, Шыянок. Якраз агонь, бой і мацуе дысцыпліну. А тут — бяздзейнасць. Таму і за косы цягаць пачынаюць адна адну. Чорт ведае што такое! Сорамна сказаць, да чаго дайшла твая лепшая камсамолка! Іваністава толькі прыняла прысягу.

— Дазвольце пайсці пагутарыць з імі.

— Ідзі. Паплач са сваёй Глашай. Але не думай, што загад будзе адменены.

Дзіўна, што і мой ідэйны і жыццёвы настаўнік Калбенка не падтрымаў мяне. Ён увогуле паставіўся да гэтага факта бестурботна, са смехам.

— Во чортавы бабы! — і расказаў украінскі анекдот — як сварыліся дзве суседкі, з якой зацятасцю хацелі перастаяць адна адну ў агародзе.

Анекдоты яго мяне заўсёды смяшылі. Але тут было не да смеху. Расло ўсведамленне несправядлівасці пакарання Глашы. А нішто не

прычыняе такі боль, як несправядлівасць пакарання. Гэта я выпрабаваў на ўласнай скуры — ад Салаўёва. Во дуб быў! Малайчына Кузаеў: як толькі прыняў дывізіён, адразу сплавіў яго. Тонкае чуццё ў камандзіра дывізіёна. Але чаму ў гэтым выпадку не пачуў, не сцяміў, што тут не бабская сутычка? Пагутарыць з ім? Але трэба высветліць абставіны.

Я злаваўся на Данілава: няўжо не здолеў разабрацца? Мудры ж камандзір. І на Ліку. Падумаеш, лясная царыца! Без года тыдзень як на батарэі, і з-за яе выжываюць Глашу, якая сербанула ліха з усіх гладышак.

Баражыравалі знішчальнікі. Трэніровачныя налёты ці па каналу паветраных сіл — трывога? Здаралася, што артылерыі трывогу не абвяшчалі, а самалёты падымалі,— калі варожая авіяцыя была за сотню і нават за дзве сотні кіламетраў. Бамбілі Манчагорск, а ў Кандалакшы ўзнімаўся полк «мігаў». З такой гатоўнасці можна кінуцца наперарэз фашысцкім сцярвятнікам. Гэта ім не сорак першы год, калі яны панавалі ў паветры!

Данілаў праводзіў трэніроўку, выкарыстаўшы палёты. Чамусьці адпрацоўваў прамую наводку. Быў незадаволены гарматнымі разлікамі.

— Цэль злоўлена!

— Што ты злавіў, Сотнік? Варону? Куды глядзіць твая гармата? Ты чуў задачу? «Зняць» знішчальніка з сямю зоркамі!

Не спадабалася мне трэніроўка, хоць я разумеў яе неабходнасць. Мне заўсёды не падабалася каманда «Агонь»! — па сваіх. А тут яшчэ ловяць героя — сем фашыстаў зрэзаў гэты знішчальнік! Ён то паволі праходзіў над батарэяй, прывітальна качаючы крыламі, то са свістам, ледзьве не датыкаючыся вады, рассякаў густое паветра над Анегай, узнімаўся ў неба і выкручваў складаныя петлі вышэйшага пілатажу.

Трэніроўка не толькі не спадабалася па той прычыне, але здалася непатрэбнай. Далёка ў мінулым той час, калі фашысты пікіравалі на батарэі і атакі іх можна было адбіваць толькі прамой наводкай, бо ні дальнамер, ні балістычны вылічальнік, ні складаная схема прыбора, што сінхронна перадавала выпрацаваны азімут, вугал узвышэння, дыстанцыйную трубку на гарматы, не маглі дзейнічаць пры такіх вышынях.

Дзе і па чым думае весці Данілаў агонь прамой наводкай? Разумеў: калі б я выказаў гэтыя думкі — ох як палаялі б мяне за дэмабілізацыйны настрой. Вайна ідзе, і ўсё можа здарыцца. Невядома, дзе будзе дывізіён заўтра.

Камбат — што ў азарт увайшоў. Мне толькі кіўнуў і працягваў са свайго каманднага пункта распякаць камандзіраў гармат і наводчыкаў.

— Васіленкава! Ідзі замяні Куцака і пакажы гэтаму вусатаму кавалеру, як трэба лавіць цэль.

Хітры цыган! Глаша, з'яўляючыся нумарам прыбора, асвоіла работу ўсіх нумароў гарматы, акрамя зараджаючага — не па яе росту.

Але звычайна вельмі паслухмяная Глаша не скранулася з месца — як не чула, утаропілася ў шкалу прыбора, не глядзела на сваіх сяброўак. Як жа балюча яе раніла несправядлівасць, калі яна пайшла на такі пратэст!

Данілаў зразумеў, што даў прамашку, і вельмі можа быць, што нейкім чынам — ён гэта ўмеў — перайграў бы свой загад: звёў бы, напрыклад, на жарт. Але ўмяшаўся падхалім Унярха. Закрычаў:

— Васіленкава? Каму сказана? Вы чулі загад камандзіра батарэі?

Глаша лёгка выскачыла ка бруствер, але не пабегла, як звычайна, а павольна пайшла да гарматы, віхляючы бёдрамі, што зусім не ўласціва яе хадзе.

— Бя-го-ом! — завішчаў Унярха.

Але Данілаў раптам асек яго:

— Лейтэнант Унярха! Камандую я.

Я паказаў Данілаву, што салідарны з Глашай: пайшоў следам за ёй, адчуваючы спіной позіркі прыбарыстаў, разведчыкаў, сувязістаў — усіх, хто быў у цэнтры пазіцыі. Вельмі хацелася азірнуцца, каб пераканацца, што і яна, «царыца лесу», глядзіць. Няхай зразумее.

Глаша ўладарным жэстам змахнула з сядзення Куцака. Прозвішча ў чалавека, што мянушка: паўгода назад прызваны, мужчына гадоў сарака, быў ён кароценькі і крываногі, але ўвішны, неўзабаве пасля з'яўлення на батарэі здзівіў усіх, ліха станцаваўшы пад гармонік гапака, завяршыўшы танец праходам на руках.

Глаша ўгледзела, што закручваецца кабель, і крутнула ручку азімута ў другі бок з такой хуткасцю, што нацэлены ў зеніт ствол свістаў на ветры. Развярнула пушку на ўсе трыста шэсцьдзесят градусаў і адразу далажыла:

— Цэль злоўлена!

— Трубка дваццаць! Агонь! — закамандаваў камандзір гарматы сяржант Сотнік.

Знішчальнік, угледзеўшы, што па ім «страляюць», падтрымліваў гульню. Ён «атакаваў» нас: праносіўся над батарэяй на брыючым з такім звонам, што закладвала вушы.

Я ўвайшоў у гарматны катлаван.

— Дай, Глаша, я ўспомню даўніну.

Я лічыўся лепшым наводчыкам тады, калі нас ледзьве не штодня бамбілі і абстрэльвалі з кулямётаў.

Знішчальнікі зніклі, а Данілаў усё яшчэ «страляў». У пустое неба. Цяпер ён трэніраваў дальнамер і ПУАЗО. І зноў выказваў незадаволенасць.

Я разумеў: нервуецца і адцягвае размову са мной. Але што гэта яму дасць? Няўжо разлічвае, што, ідучы на батарэю, я «завёўся», а ў стыхіі трэніроўкі «выпушчу порах»?

Урэшце Данілаў даў адбой і сам пайшоў да мяне. Сустрэліся на паўдарозе ад КП да гарматы, моўчкі, не змаўляючыся рушылі за пазіцыю, за агароджу; калючы дрот здымаюць сапёры, скручваюць і вывозяць. Дрот патрэбен для перадавой.

Пэўна, ні разу мы так працягла не маўчалі. Я не ведаў, з чаго пачаць, а ён чакаў. Урэшце без дыпламатыі, без подступаў я рушыў наўпрасцяк, ударыў прамой наводкай:

— Ты ж справядлівы чалавек, Саша.

Данілаў павярнуўся да мяне, і смуглы твар яго нядобра перасмыкнуўся, натапырыліся вусікі, між іншым, рудыя, а вочы загарэліся; гэтага полымя ў яго цыганскіх вачах усе баяліся, нават Кузаеў неяк сказаў Кумкову, які паскардзіўся на камбата: «Калі ў Данілава запалалі вочы — уцякай, я табе памагу»,

— Не! Я несправядлівы! Я не магу быць справядлівым! Мяне секлі бізунамі. І маму маю секлі. І мужчыны ў табары секлі адзін аднаго. Ты бачыў дуэль на кнутах? Засякалі насмерць. Мяне білі ў дзіцячым доме: цыган! А я пасля смерці маці нікога не магу ўдарыць. Якой ты хочаш справядлівасці? «Палюбі бліжняга свайго»... Прапаведнік! Знаеш, што цябе называюць прапаведнікам? Прабач,— агонь у яго вачах пагас, і ён сказаў раптам зусім іншым тонам, бадай вінавата: — Я не магу глядзець, калі б'юцца свае.

— З-за чаго яны? Што яна сказала Глашы?

— Не знаю.

— Як жа ты мог судзіць? Суддзя! — узлаваўся я.— «Не магу быць справядлівым...» Табе даручылі сотню людзей. Ты ім начальнік, бацька, бог...

— Не чытай мне маралі! Не хачу слухаць! — Данілаў ажно крутнуўся на назе, махнуў рукамі, што касой, але агню ў вачах не высек.— Я, можа, сам сябе пакараў... лічы — за несправядлівасць. Але я не хачу, каб яны адна адной выдрапалі вочы.

— Чаму ж ты не адаслаў гэтую... «царыцу»?

— Павел, я разумею тваю любоў да стараслужачых. Ты з імі зжыўся. Але што падумала б пра нас... пра нашу справядлівасць, калі табе хочацца яе, навабранка, якая толькі асвойваецца? — Задумаўся і заключыў, яўна перамогшы сумненні, якія я абудзіў: .— Не, я зрабіў правільна! Камандзір і нампаліт мяне падтрымалі. Не разумею, чаму ты робіш трагедыю. Наша ж батарэя, нашы людзі... На вайне не выбіраюць — дзе я хачу...

— Ты забыўся, што яны з Кацяй з першага дня на гэтай батарэі і што перажыла Глаша. І раптам з-за фінкі,..

— Ты сам даказаў, што ніякая яна не фінка.

— Шкада мне Глашы. У яе — крыштальнае сумленне.

— Шкада, шкада... Мне, думаеш, не шкада? Але так лепш, Павел. Пасля ты зразумееш. Не адна гэтая прычына...

— Якая яшчэ прычына?

— Пажывеш — даведаешся.

— Цямніш ты, Саша.

— Я — цыган! Я — цыган! — у вачах яго зноў успыхнуў агонь.— Мы ашуквалі. Варажылі. Кралі...

— Што ты заводзішся? Разышоўся: я — цыган... Ты — чалавек! — я таксама ўзлаваўся: — Ты — чалавек, чорт вазьмі! Савецкі! І афіцэр Чырвонай Арміі.

Ён паслаў мяне... Пасля гэтага нам зрабілася няёмка. Я спалохаўся, што так і сяброўства можа трэснуць. Данілаў таксама, мабыць, адчуў гэта і, адступаючы, памяркоўна сказаў:

— Я прашу цябе. Не гавары ты з імі. Ні з адной, ні з другой. Не труці ім душы. Загада не адменіш.

Загада не адмяню — гэта так. Але ўсё ж мне хацелася высвет-ліць, што ж адбылося, з-за чаго пачалася такая сварка, што Глаша (ніяк не верылася, што гэта магла зрабіць Глаша) дайшла да такой апантанасці.

Я доўга хадзіў вакол батарэі, па былым лагеры. Мне тройчы трапілася сувязістка Таня Балашова. Весела казырнула і спынілася для размовы.

— Гуляеце, таварыш малодшы лейтэнант?

— Гуляю.

У другі раз:

— А чаго ў вас такі заклапочаны выгляд?

— Думаю.

— Над чым?

— Над дакладам.

— Аб міжнародным становішчы?

— І аб унутраным.

— Я так люблю слухаць вашы даклады.

Хітрая ліска. Прыжмураныя вочкі, здаецца, ажно круцяцца, як свярдзёлкі. Хочацца ёй пагаварыць са мной. І я разумею: яна нямала расказала б. Але гэтую балаболку лепш не чапаць, ёй толькі дай зачэпку — яна сачыніць пасля бог ведае што. Можа нават пахваліцца, што да яе заляцаўся камсорг.

— Балашова! Прышліце да мяне Іваніставу.

— Фінку?

— Яна не фінка!

— Не фінка, не фінка. Карэлка. Прыгожая яна, праўда?

— Звычайная.

— Ой! Ад першага вас чую. І я калеў: звычайная. А хлопцы... афіцэры ходзяць вакол яе, як каты.

— Балашова! Разгаворчыкі! Язычок у вас...

— Таварыш малодшы лейтэнант! А хіба я сказала што недазволенае?

— Параўнала...

— А што? Нельга? — прытворшчыца, якіх мала.— А я люблю коцікаў. Яны такія мяккія, пушыстыя, ласкавыя. Калі мурлыкаюць, ажно ў сон хіліць.

— Таня! Ты даеш свайму языку адпачынак?

— Не, Павел Іванавіч, не даю. А навошта яму адпачываць?

Не вытрымаў — засмяяўся. Хітрасць незвычайная. Тыпова жаночая. Выкарыстоўвае любую прамашку, каб пайсці на збліжэнне, якім пасля пахваліцца дзяўчатам. Я ёй — Таня, яна — Павел Іванавіч. Зраблю я яшчэ адзін крок да фамільярнасці — і яна скажа мне Паўлік, як называюць яны за вочы. Ох, цяжкае войска гэтыя дзяўчаты!

— Балашова! Вы не забылі, што я сказаў?

— А што?

— Бала-шо-о-ва!

— А-а, паклікаць Ліку-Міліку. Слухаюся, таварыш малодшы лейтэнант! — руку да пілоткі, крутнулася на абцасіках, але незадаволена перасмыкнула плечыкамі — як тузанула мяне. Здагадваюся, што падумала: маўляў, звычайная, а сам выклікаю яе, прыгажуню гэтую. Гаваруння такая не вытрымае, каб не сачыніць нешта наконт мяне. Часам здаецца: адна любоў у іх галовах. Часцей ад думкі такой рабілася хораша: во яна, сіла жыцця! Ніякая вайна не можа яе спыніць! Але нярэдка і раздражняла: засвоіць элементарную палітграмату не могуць, як гэтая Балашова, а наконт любові — прафесар. Выхоўвай іх, такіх! Засцерагай дзеля іх жа карысці!

На лагерным пляцы ўзведзены невысокі, на паўметра ад зямлі, памост. Якое яго прызначэнне? Мне ў самым пачатку здалося, што на ім каралі нашых палонных. І я параіў Данілаву зламаць яго, нават Тужнікава пераканаў. Але Данілаў не зламаў: ад мясцовых жыхароў, некаторыя з іх рабілі ў лагеры, даведаўся, што на памосце не каралі, увогуле фінскія фашысты стараліся не паказваць свае злачынствы, на ім стаялі лагерныя начальнікі ў часе паверак і «парадаў» палонных; на гэтых «парадах» палонных прымушалі спяваць старыя дарэвалюцыйныя, вясёлыя, са свістам, з галёканнем салдацкія песні, спецыяльна вывучвалі. Начальнік лагера служыў у першую сусветную вайну ў рускай арміі і гэтак выяўляў свой здзек над чырвонаармейцамі.

Я неяк заглянуў на батарэю пад вечар і... быў ашаломлены: па памосце танцавалі пад гармонік байцы, хлопцы і дзяўчаты. Хацеў абурыцца. Але менавіта тады Данілаў і яго нампаліт лейтэнант Лук'янаў расказалі аб прызначэнні памоста і аб начальніку лагера.

Я хадзіў вакол гэтага памоста. За паўдня набіў ногі: з раніцы наведаў трэцюю, самую дальнюю батарэю, узлаваўся на Вандзіна заляцанне. Паўзуць чуткі, сказала мне па сакрэту Жэня, што ў мяне з Вандай даўняя любоў. Во штукарка! Ведалі б, якой любоўю я палаў, калі забіраў яе ад англічан!

На памост прысесці не мог, перакананне, што на ім катавалі людзей, усё ж не развеялася. Лепш ужо легчы на няскошаны лужок паміж клумбамі; таксама своеасаблівы здзек — такая ўладжанасць у лагеры палонных: кветачкі, дарожкі...

Але лажыцца на вачах у батарэі... А Ліка не ішла. Мяне палохала, што яна не прыйдзе зусім. Што рабіць тады? Караць? Ці змоўчаць? Пры ўсім жаданні высветліць прычыну сваркі і хоць для сябе апраўдаць Глашу, я ў той жа час баяўся трохі размовы з Іваніставай. У яе таксама ёсць падставы сказаць горкія словы. Нарэшце яна прыйшла. Казырнула неахайна.

— Па вашаму выкліку...

Ні сябе не назвала, ні да меня не звярнулася.

Маладога байца варта вучыць. Але ці да гэтага тут — драбяза. Больш важна: як пачаць размову, каб атрымалася даверліва, шчыра?

Яна панурылася і не глядзела на мяне. Я не бачыў яе вачэй. А гэта ўжо дрэнна. Пры такой размове даверлівасці не дасягнеш.

Я сеў на край памоста: каб менш вайсковай фармальнасці.

— Ліка, што здарылася?

Яна паглядзела на мяне, і я сапраўды-такі спалохаўся: вочы яе не сыпалі іскраў гневу, злосці, яны былі затуманены роспаччу і болем.

— З-за чаго адбылася такая ганебная сварка?

І раптам — о жах! — Ліка, што падкошаная, апусцілася перада мной на калені. Я падскочыў. Бачаць жа з батарэі!

— Што вы, Ліка? Што з вамі? Устаньце!

Яна закрыла твар рукамі і села на свае ногі.

— Што вам трэба ад мяне? Што? Трэба, каб я сказала, што я шпіёнка? Дык я кажу. Вам! Я — шпіёнка. Я — дыверсантка. Я забіла яе сястру. Я маю заданне ўзарваць батарэю... дывізіён...

Я схапіў яе за плечы, страсянуў.

— Што ты гародзіш, дурніца? Хто так думае?

— Вы! Вы! І гэтая ваша любімая кошка. І ваш ветлівенькі капітан. Сем разоў адно і тое ж: што я рабіла ў Хельсінкі? Чаму нас вучылі?

Істэрыка. Звычайная істэрыка. Бачыў я іх, дзявочыя істэрыкі. Выбрыкваюць яны і не такое. Млелі. Нехта казаў, што ў такіх выпадках памагае добрая аплявуха. І ў мяне засвярбела рука: даць ёй такую аплявуху. Але я схапіў яе за плечы, памкнуўся падняць і закрычаў, не зважаючы, што маглі пачуць на пазіцыі, злосна закрычаў:

— Уста-аць, чорт вазьмі! Я табе не класная дама. І ты перада мной істэрыкі не закатвай! Падумаеш — пані! Драпнулі яе! Глашы сэрца прастрэлілі! Душу! Пра гэта ты падумала? Пра ўласную персону многа думаеш! А на іншых табе напляваць. «Царыца лесу»! Салдатам станавіся! Салдатам! А не «царыцай».

Ліка паднялася — ці то ад рыўка майго, ці ад слоў. Цяпер яна не хавала вочы. І яны пасвятлелі. Яна зірнула на мяне ашаломлена, здзіўлена. Потым мы доўга глядзелі адно аднаму ў вочы.

Прыгожыя вусны яе выдавалі ўнутраную ўсмешку. Я ў адказ усміхнуўся адкрыта.

— Чытаць правілы паводзін? Ці хопіць?

— Дзякую вам.

— Ліка! Ты ж разумная дзяўчына. І раптам такое глупства. Такая бабская істэрыка.

— Прабачце.

— Я прашу цябе: вядзі сябе разумна. Што б ні здарылася. Я твой сябар. Даверся мне...

— Расказваць? — у вачах яе бліснуў спалох.

— Не трэба. Усё і так зразумела.

— Дзякую.

З Глашай я не пагаварыў. Пабаяўся.

Колькі дзён Глашу не адсылалі, і ў мяне з'явілася надзея, што Кузаеў адмяніў свой загад; у камандзіра хапала мужнасці часам «спускаць на тармазах» загады, прынятыя пад гарачую руку. Ды і я

супакоіўся. Мае рацыю Данілаў: не такое ўжо жорсткае пакаранне — пераход на другую батарэю свайго ж дывізіёна. Каб батарэя знаходзілася тут, у горадзе, у мяне, відаць, і не ўзнікла б пярэчання, што Глашу пакаралі несправядліва. Але батарэя МЗА стаяла кіламетраў за сто: прыкрывала мост цераз раку Шую па чыгунцы Петразаводск — Суаярві. Месяц назад, калі фіны і немцы моцна агрызаліся, уцалелы мост гэты штодня бамбілі, як некалі мост на Коўдзе,— семсот бомб скінулі. Цяпер пацішэла. Але жылося нашым у гэтым бязлюдным — пасёлак ушчэнт спалілі — лясным краі недалёка ад фінскай граніцы няўтульна і цяжка. Было, што нават прадукты не завезлі, і батарэйцы два дні сядзелі на адных сухарах. Папала інтэндантам, Кузаеў кіпеў ад абурэння.

Між іншым, не ведаючы пра перагаворы, якія вяліся ў Швецыі па тайных каналах, ніхто з нас, палітработнікаў, не мог даць праўдзівы адказ на бясконцыя пытанні байцоў, афіцэраў, чаму нашы не ўступаюць у Фінляндыю? У Румынію, у Венгрыю, фашысцкія ўрады якіх уцягнулі свае народы ў гітлераўскую кааліцыю, уступілі, румынская армія нават павярнула свае штыкі супраць гітлераўцаў. А ў Фінляндыю не ўступаем. Кажуць, фіны спынілі ваенныя дзеянні. Але хіба можна верыць тым, хто так вераломна, разарваўшы дагавор, напаў на нас у саюзе з Гітлерам? Я прымаў сталінскія словы: гітлеры, як і танеры, руці, антанескі, Хорці, прыходзяць і адыходзяць, а народ застаецца. Розумам прымаў. А сэрца не магло дараваць смерць Ліды, смерці сяброў, што загінулі ў Мурманску, Кандалакшы, Афрыкандзе, Коўдзе, смерці многіх тысяч савецкіх людзей, што палеглі ў суровым паўночным краі на паўтаратысячакіламетровым Карэльскім фронце.

Калі я гутарыў на першай батарэі, Глаша задала гэтае пытанне — чаму нашы арміі спыніліся на фінскай граніцы? І я бачыў, з якім напружаннем і трывогай глядзела на мяне Іваністава, чакаючы, што я адкажу. Ніякіх інструкцый не давалі, але я адгадаў задуму Галоўнакамандуючага, і смела, як вялікі стратэг, адказаў:

«Мы ставім задачу: вывесці Фінляндыю з вайны без лішніх ахвяр».

Як яна прасвятлела — Ліка! Але мяне асабліва парадавала, што і Глаша прыняла гэты адказ натуральна — не пазмрачнела, не аспрэчыла. Хіба гэта не мудра — спыніць вайну без лішніх ахвяр з абодвух бакоў?

## 6

Пра адсылку Глашы мне паведаміла Жэня Ігнацьева. Прыйшла з МЗА машына, і перадалі на першую: Васіленкаву ў штаб з рэчамі.

Заглушаны пратэст мой абудзіўся. Але як я мог яго выявіць? Каму? Цяпер ужо яўна ніхто не адменіць загад. З іншым намерам пайшоў да Тужнікава.

— Дазвольце з'ездзіць на МЗА.

— Хочаш правесці сваю сімпатыю?

— Што вы, таварыш маёр! Сімпатыя-сімпатыя... Усе яны — мае сімпатыі.

— Не крыўдуй. Я ў добрым сэнсе. Мне якраз падабаецца твой клопат пра дзяўчат. А ў Качарана трэба пабыць. І табе. І нам. Мы з камандзірам намерваемся быць там у наступны панядзелак. Будзеш нашым разведчыкам. Пра наш прыезд не кажы. Хоць дзе ты вытрымаеш, добрая душа! Але партыйную і камсамольскую работу падцягні. А то Качаран — палітык, ведаеш, які! Ды і зямляк твой Яравец пагаварыць любіць, а пратаколы сходаў — вушы вянуць, калі чытаеш. Знайдзі яму там пісьменную камсамолку. Да нашага з Кузаевым прыезду папрацуй закасаўшы рукавы. Няхай не адчуваюць сваю адарванасць. Мы тут прахалоджваемся, а ім там горача было, нядаўна сціхла. Калі фіны паднялі рукі.

— Не паднялі яшчэ.

— Лічы — паднялі.

Не думаў, што Тужнікаў так лёгка згодзіцца, ды яшчэ так добра адзавецца пра маю работу. Рэдка ён хваліў.

А Калбенка зноў пакрыўдзіўся, што я з ім не параіўся.

— Парасё ты, Павел,— але праз мінуту пачаў даваць практычныя парады, не настаўленні — зрабі тое і тое, як загадваў нампаліт, а менавіта парады — што трэба людзям, якія так далёка і ў адзіноце; — Бібліятэку толькі што папоўнілі, забяры ўсе навінкі. У Кума на складзе штук пяць прыёмнікаў трафейных стаяць. Забяры лепшы батарэйны. Няхай слухаюць. А то Кум гатовы згнаіць, абы нікому не аддаць. Во псіхалогія кулака!

За прыёмнікам прыйшлося звяртацца да нампаліта. І зноў Тужнікаў здзівіў — нечаканай шчодрасцю:

— Бяры мой. Правераны.

Я нёс са склада скрынку для прыёмніка, калі ўбачыў Глашу. Яна сядзела на лавачцы перад штабам. Апранутая ў шынель. Побач стаяў поўны рэчавы мяшок, у дзяўчат заўсёды больш рэчаў, чым у мужчын. Схіленая постаць яе здалася мне панурай і адзінокай сярод прыштабной мітусні. Прайшлі два афіцэры. Глаша не падхапілася, каб прывітаць. Яны азірнуліся, але не паднялі яе. Гэта былі афіцэры з пражэктарнай роты, яны не ведалі Глашу і, зразумеў я, палічылі, што

дзяўчына — адна з тых, каго па пэўнай прычыне дэмабілізуюць, так што позна яе вучыць вайсковай дысцыпліне.

Ад гэтага мне асабліва стала крыўдна за Глашу. Яе панурая постаць разанула сэрца. Я не мог падысці да яе са сваёй недарэчнай скрынкай з-пад амерыканскага бекону. Я абышоў бокам, непрыкметна прашмыгнуў у будынак і накіраваўся да Мураўёва.

— Іван Іванавіч, пагаварыце вы з Васіленкавай. Каб яна не адчувала, не думала, што яе караюць. Несправядліва. Скажыце, што карміць людзей на такой далёкай батарэі, на баявой пазіцыі — пачэсная справа...

— Добра, галубчык. Знайду, што сказаць.

Толькі ён, педагог, мопса знайсці, што сказаць, каб атрымалася шчыра, даверліва, па-бацькоўску.

Сапраўды, калі я запакаваў прыёмнік і кнігі і выйшаў, Глаша, распрануўшы шынель, прагульвалася па дарожцы пад вокнамі штаба. Яўна — своеасаблівая дэманстрацыя. Але ў постаці яе зніклі самота і панурасць.

Я павітаўся першым, па-цывільнаму:

— Дзень добры, Глаша.

Яна адказала залішне па-салдацку — выклік, можа, нават іронія:

— Здравия желаю, товарищ младший лейтенант!

— Я еду з табой.

— Навошта? — здзівілася яна.

— Табе не хочацца, каб я ехаў?

Апусціла вочы, падумала, шчыра прызналася:

— Хочацца.

— Я там буду дзён пяць.

Яшчэ больш пасвятлеў яе твар. У процілегласць сваёй сястрынябожчыцы Глаша нялёгка збліжалася з новымі людзьмі, таму і з тымі, з кім зжылася, хто стаў сябрамі, братамі, сёстрамі, развітвалася пакутліва. На батарэі МЗА, якая заўсёды стаяла далёка ад іншых батарэй, яна магла ведаць хіба аднаго чалавека — былога камандзіра гарматы на першай, цяперашняга камандзіра ўзвода на МЗА старшыну Асадчука. Натуральна, дзяўчыну ўзбадзёрыла, што ажно пяць дзён буду побач я.

Кузаў трохтонкі быў запоўнены скрынкамі са снарадамі, а на іх — гара мяшкоў з мукой, крупамі, цукрам, скрынкі з кансервамі.

Калбенка, які праводзіў мяне, змрочна крутнуў галавою:

— Парахавая бочка.

Да вайны вучылі інструкцыі, у якіх забаранялася перавозіць людзей разам з боепрыпасамі. Але ў вайну інструкцый трымаліся хіба

на Урале. На фронце ўсе ездзілі на снарадах, на бомбах, на мінах. Што свае снарады ў кузаве, калі варожыя рвуцца побач, над табой і пад табой! Снарады мяне не трывожылі. Мяшкі. Прыйдзецца ўціснуцца і ляжаць паміж імі, сядзець — рызыкоўна. На такой вышыні, па такой дарозе хоць прывязвай сябе, як прывязаны мяшкі, а то і зляцець можна на ўхабіне.

З МЗА прыехаў лейтэнант Старавойтаў, бязвусы юнак, тры месяцы як з вучылішча. Але хлапчына даволі самаўпэўнены, гэта я заўважыў яшчэ ў Коўдзе і асабліва на баржы. Нават на нас, старых, але малодшых па званню, глядзеў зверху ўніз. Вельмі быў незадаволены, што на баржы не ён, а я збіў «юнкерса», але і баяўся: сам ён і яго разведчыкі праспалі, самлелыя ад спякоты.

Павітаўся Старавойтаў са мной добразычліва, аднак насцярожыўся, калі даведаўся, што мусіць везці не толькі кухара, але і камсорга дывізіёна. Я адвёў яго ў бок ад машыны.

— Слухай, Віталій, можа, дзяўчыну пасадзім у кабіну?

У яго вочы палезлі на лоб.

— Ты што?! — не мог і думкі дапусціць, што яму, лейтэнанту, можна ўступіць месца малодшаму сяржанту. Пераканаць яго немагчыма, зразумеў я. Можна сказаць Калбенку, і той яго загоніць на мяшкі, парторг з такімі ўмее пагаварыць. Але гэта ўскладніць мае адносіны з лейтэнантам, ды і супраць Глашы ён можа настроіцца, а ёй служыць і пад яго камандай. Не хапала ёй яшчэ непрыязнасці аднаго з афіцэраў батарэі.

Глаша шыбанула ў кузаў свой мяшок і прымяралася, як залезці самой.

Канстанцін Панасавіч узяў яе за плячо.

— Станавіся на маю руку, дачка,— і лёгка, як малую, падкінуў у кузаў. Адтуль яна падала руку мне і нечакана засмяялася.

— Пацяжэў ты, камсорг, на ДП.

Парторг на яе «ты» не звярнуў увагі, а Старавойтава такая яе фамільярнасць у адносінах да мяне яўна ашаламіла. Брудненькая ўсмешачка скрывіла яго вусны. Я зразумеў, што ён падумаў. Дурань бязвусы! Калі і хто паспеў адвучыць яго ад нармальных чалавечых адносін?

Канчаўся жнівень. Карэльскія бярозы і асіны скідалі першае лісце. Дзень быў халодны, ветраны. Насустрач машыне ляцелі непрыветлівыя, не нашы — чужыя, фінскія, воблакі, цёмныя, ірваныя. Секануў дождж.

Мы ляжалі ў паглыбленнях, раздзеленыя мяшкамі з мукой. І з-пад тоўстага брызенту мука прамяніла надзіва цёплы і смачны водар.

Ад гэтага хлебнага паху рабілася ўтульна і радасна. Я падумаў, што ўладзіліся мы лепш за Старавойтава, ён горш азадак наб'е.

Асцярожна вёў машыну шафёр, цягнуўся з хуткасцю дваццаць кіламетраў, кузаў падкідвала бязлітасна, вузкая брукаванка і ўзбочыны разварочаны танкамі, самаходкамі, артылерыяй, аб'ездаў, палявых дарог у гэтым лесе няма, уся тэхніка і немцаў, і фінаў, якія драпалі, і наша, што імкліва наступала, прайшла па гэтай адзінай дарозе. Дзякуй богу, што хоць такую пралажылі да вайны. Калі снарадныя скрынкі пад намі добратакі ляпалі, працавала трывожная думка: не высунуўся б дзе цвічок і не ўдарыў у капсуль (было ў нейкім палку такое здарэнне, чыталі загад па корпусу).

З Глашай праз мяшкі мы перакідваліся асобнымі словамі, хоць хацелася пагаварыць з ёй шчыра, душэўна — словамі прылашчыць, супакоіць.

— Не мерзнеш?

— Не. Цёпла.

— Ляжаць мякка?

— Скрынка на галаву паўзе.

Падняўся, зацягнуў вяроўку, каб умацаваць скрынкі, што стаялі каля кабіны. Калі пайшоў дождж, разгарнуў плашч-палатку, узабраўся на мяшкі і накрыў Глашу і сябе. Больш — Глашу, інакш прамочыць яе да касцей. Дождж сек — ажно балюча было голым рукам, якімі мы трымаліся за вяроўкі, каб не спаўзці па мяшках на край кузава; мяне такі магло кінуць з узвышэння.

Палатка як бы зблізіла нас. Я не звяртаў увагі, што мокры край яе балюча сцёбаў па патыліцы, па шчацэ.

— Едзем мы з табой з камфортам. Як у мяккім вагоне.

Глаша не адказала на мой жарт.

— Ты пакрыўджана?

— Пакрыўджана.

— На каго?

— На ўсіх.

— І на мяне?

— І на цябе.

Што громам ударыла. Вось табе на! Я за яе перажываю, а яна — гэтак бязлітасна, катэгарычна. А галоўнае — невыпадковае, знарочытае «ты». Ніколі яна так не фамільярнічала. А тут выкінула за борт усялякую субардынацыю. Гэта нешта незвычайнае, чаму я не мог знайсці тлумачэння. Толькі Ванда з яе характарам, пры яе званні і пасадзе магла пайсці на такое панібрацтва. А Глаша заўсёды была прыкладным байцом — ветлівай, дысцыплінаванай.

— На мяне — за што?

— Усе вы страцілі галовы ад гэтай белабрысай ведзьмы, заваражыла яна вас. Моліцеся на яе. Знайшлі багіню!

Катэгарычнасць і абагуленасць абвінавачвання ўзлавала.

— Хто гэта — усе?

— І капітан. І цыган. І нашы радавыя дурні. Ах, Ліка!.. І ты...

— Ды што ты гародзіш! Які капітан? Што ты мяне прыплятаеш? Калі я маліўся на яе?

— Дык яна — на цябе. На калені падала...

— У яе істэрыка была.

— Знаю я такую істэрыку! Артыстка! Авалодала ўсімі чарамі. А вы і вушы развесілі.

— Глаша! Ды лухта гэта! Як не сорамна?

— Мне яшчэ і сорамна! З-за яе мяне выгналі з батарэі, як фашысты з роднага дома людзей выганялі, і мне — сорамна.

— Васіленкава! У цябе выпадкова не гарачка? Ты ж проста трызніш!

— Вы яшчэ паплачаце ад яе, ад гэтай ведзьмы. Яна вам навяжа вядзьмарскіх вузлоў — да канца вайны не развяжаце.

— Ну і гародзіш! Чорт ведае што!

— Памянеш мае словы.

Беспардоннасць яе пачынала абражаць і абураць. На шчасце, дождж скончыўся, і я перакаціўся ў сваё логава, пакінуўшы ёй плашч-палатку. А тут якраз насустрач пайшлі танкі, даўжэзная калона, пэўна, не полк,— брыгада, а можа, і дывізія. Ішлі з усімі дапаможнымі машынамі — бензазапраўшчыкамі, майстэрнямі, зенітнымі кулямётнымі ўстаноўкамі. Зняліся з фронту. Перакідваюцца куды-небудзь у Польшчу.

Я асядлаў мяшкі. І Глаша паднялася. Танкісты махалі нам рукамі, нешта крычалі, але ў ляскаце гусеніц нельга зразумець — што. Танкі прыціснулі нашу машыну да ўзбочыны, і яна ішла з хуткасцю пешахода. Нават Старавойтаў высунуўся з кабіны.

— Цэлыя вы там?

— Тваімі малітвамі.

— Хутка спынімся — перакусім. Па чарцы ёсць.

Танкі прайшлі — і шаша апусцела. Залішне, можа, апусцела, раней і насустрач трапляліся машыны, і нас абганялі стосільныя «студэбекеры».

Глашына галоўка — пілотка прывязана картачкай, і гэта надавала ёй цывільны выгляд — паднялася над мяшкамі.

— Павел! Даўно хацела спытаць. Ты знаў, што Каця была цяжарная?

У мяне пераняло дыханне.

— Знаў?

Ведаў. Абурыўся супраць даносчыка — «дзеда» Анечкіна; прыйшоўшы на батарэю за прадуктамі, той далажыў, што камандзір НП сяржант Васіль Пырх жыве з разведчыцай Васіленкавай. Дамовіліся з Данілавым утаіць гэта ад камандавання, не хацелі заўчаснага разносу. Але выплыла ў медыцынскім заключэнні пасля геранчнай смерці састава НП.

— Чаму ж ты не напісаў? Ты ж пісаў у газету пра іх бой. Няхай бы ведалі людзі, якія яны — тыя, каго хваліць ваша Ліка.

— Не хваліць яна такіх!

— Ого! Няхай бы пахваліла! Не за косы я цягала б яе. Вочы выдрапала б.

Ніколі не думаў, чаму я не напісаў. Баяўся, што гэта кіне цень на Кацю? А Глаша пра гэта думае зусім інакш. І сячэ цяпер па вачах. Не халодным дажджом — усё роўна што кулямі.

— Ханжы вы! За чыны свае баяліся. Спалохаліся, што падумаюць пра вашу работу — яшчэ адна цяжарнасць! Дык усё адно ж начальству далажылі. Што вы так баіцеся яе, нашай цяжарнасці? Колькі вас палягло! Мільёны. Колькі нам раджаць трэба, каб папоўніць краіну салдатамі, людзьмі. Народ жыць павінен! Жыць!

Мяне ашаламілі яе разважанні. Вельмі ж нечакана. Сказала б гэта Ванда — справа іншая. У тае свой, часам шырокі і нават глыбокі, часам парадаксальны погляд на рэчы, на з'явы. А Глаша не вызначалася асаблівай схільнасцю да абагульненняў, вывадаў. На палітзанятках, напрыклад, яе больш цікавіў факт гісторыі, чым яго філасофія. Але яшчэ больш ашаламіла іншае. Я самаўпэўнена лічыў, што ведаю псіхалогію байцоў, дзяўчат, у прыватнасці — чым яны жывуць, што думаюць, пра што гавораць паміж сабой. Глаша размыла маю ўпэўненасць. А што, калі не адна яна так думае? Раней мяне палохалі выказванні Тані Балашовай, пасля — Ванды, якая, здаецца, зусім сур'ёзна хоча выйсці замуж. А тут і Глаша — лепшая камсамолка. Пачуў бы Тужнікаў! Што сказаў бы пра маю работу? Але гэта не толькі мая работа, але і ваша, таварыш маёр! Наша. Трывожныя сігналы! У якім палітданясенні напішаш пра такі настрой — як у Тані, як у Ванды, як у Глашы? Паспрабаваў бы я прывесці Глашыны словы: «Чаму вы так баіцеся яе, нашай цяжарнасці?» Уявіў твар, вочы нампаліта і ажно павесялеў. Мудры ўсё ж Калбенка, які пасміхаецца над гэтай часткай нашай выхаваўчай работы і паблажліва адносіцца

да вінаватых. Як да таго Саўчанкі. Камбат, між іншым, атрымаў развод ад першай жонкі і тыдзень назад аформіў новы шлюб у гарадскім загсе.

Доўга я так ляжаў са сваімі супярэчлівымі, сумнымі і гарэзлівымі думкамі.

Шаша апусцела, і машына набрала хуткасць, безумоўна, не такую, як у «студэбекераў», але не цягнулася, як калымага. Урэшце, шафёр і Старавойтаў не мелі права забываць на груз — снарады ёсць снарады.

Глашына галоўка зноў узнялася над мяшкамі, без касынкі, без пілоткі, сустрэчны вецер ускудлаціў яе коратка падстрыжаныя валасы. У вачах скакалі чорцікі. Яна, бадай, весела крыкнула мне:

— Дык ведай!.. Навару я вам кашы! Я праз месяц дадому паеду! І нырнула ў сваю нару. Сорамна стала? Напэўна, сорамна. Але, можа, яшчэ горш я сябе адчуў. Не, гэта не ашаламленне. Гэта нешта больш складанае... Даканала яна мяне. Аглушыла. Я не меў што сказаць. Ды і што на такое звышшчырае прызнанне?! Але яшчэ мацней аглушыла мяне першая здагадка — хто ён? Хто? Ведаў я і факты сур'ёзнага кахання, і мімалётныя захапленні. Але на Глашу ніхто пальцам не паказаў. Трэба ж умець так захаваць тайну сустрэч!

Што бліскавіца нечаканага гарматнага стрэлу: «Няўжо цыган?»

Падхапіўся, асядлаў мяшок з мукой.

— Хто ён?

— Так я табе і сказала! Каб вы распіналі яго на партбюро. Буду ад'язджаць — аформімся. Тады вымову яму не запішаце. Не маеце права, калі ўсё па закону...

— Я разаб'ю яму морду, калі гэта ён?

— Хто?

— Цыган.

— Не! — Глаша спалохана прыўзнялася, схапіла мяне за шынель.— Не! На яго не думай. Як ты можаш? Данілаў — сумленны чалавек, ён адзін ведаў...— дзяўчына апусціла вочы, падумала, уздыхнула і вельмі шчыра прызналася: — Добра. Я скажу табе. Толькі пакуль што паміж намі. Дай слова.

— Даю слова.

— Мой муж — Віктар.

— Маслоўскі?!

Ха-ха! Мой зямляк, мой сябар! Найбольшы, як лічылі яго, жанчынаненавіснік у дывізіёне. Як ганяў некалі нябог-прыбарыстак! Як яны баяліся яго! Афіцэраў так не баяліся. Ай ды Віця! Ай ды мастак! У

вольныя хвіліны пейзажы пісаў на палотнах са старых мяшкоў, філасофскія кніжкі чытаў. Намастачыў.

Стала нясцерпна весела. Сонца выглянула. Вецер пацяплеў. Машына прытарможвала. Справа пацягнулася возера. Можна і спыніцца, паабедаць. Схапіў Глашу за галаву, прыцягнуў, пацалаваў у лоб, весела крыкнуў:

— Чэрці вы паласатыя!

Весялосць мая ўзбадзёрыла дзяўчыну.

Шкада, што Старавойтаў не спыніўся каля таго возера. З якой асалодай і радасцю, здзіўляючы лейтэнанта, шафёра сваім настроем, выпіў бы я чарку паабяцанай гарэлкі за Глашына шчасце. Віцька парасё, што гэтак таіўся, але чалавек ён сур'ёзны, глыбокі. І верны.

Дай, Віталій, чарку! Заснуў ты там, ці што?

Дарога, як і большасць даваенных дарог у паўночных лясных краях, пятляла паміж скалістых пагоркаў, азёр, балот. А тут выпаў прамы адрэзак, вярсты тры-чатыры — як страла ў просецы сасновага бору. Просека шырокая, метраў па сто паабапал дарогі — высеклі акупанты для абароны ад партызан.

Наперадзе ў нас, кіламетры за паўтара, ішоў нейкі высокі фургон — рамонтны ці санітарны. Праз колькі хвілін за гэтай машынай, над самымі вершалінамі сосен, з'явіўся самалёт. Ішоў на нас. З носа сілуэт няпроста пазнаць, таму ў мяне, старога зенітчыка, нават не ўнікла думка, што самалёт — варожы, З лета сорак першага не бачыў іх на такой вышыні — літаральна прасуе дарогу. Ды раптам у тым месцы, дзе толькі што віднеўся фургон, узвіўся чорны султан. Бомба!

Я ўзваліўся на кабіну, забарабаніў кулакамі па версе.

— У лес! У лес! У лес!

У які лес? Ніводнага з'езду. Ніводнай прагаліны пасярод густых пнёў і парасткаў сёлетняга асінніку. Нідзе не праскочым. А галоўнае — час. Колькі «месеру» трэба на паўтара кіламетра? Ён набліжаўся з хуткасцю снарада. Ішоў у лоб, быццам хацеў тараніць нашу машыну. Бачу шлем, вочы пілота, яго рукі. Націскае гашэтку?.. Чаго чакаць? Штурмовачнай бомбы? Ці чаргі буйнакалібернага кулямёта? Наваліўся на Глашу, прыкрыў яе сваім целам. Кулямёт! Я помню гэтае глугое бомканне праз звон матораў. З першых дзён вайны помню, калі яны абстрэльвалі батарэю. Над намі ўзвіхрылася воблака. Чаго? Божа мой! Мука! Ён прабіў мяшкі. Значыцца, кулі прабілі скрынкі са снарадамі. І мы не ўзлятаем у паветра? Мы жывыя?

— Глаша! Глаша!

— Ай!

— Не ўзнімай галавы!

Можна дзейнічаць па камандзе «Паветра»: пакінуць машыну, разбегчыся, схавацца — дзе хто здолее. Але ў нас няма той хвіліны, якая патрэбна, каб спыніць машыну, выскачыць з яе, дабегчы да лесу.

Шафёр такі затармазіў, можа, з гэтым намерам. Але я зноў кінуўся на кабіну, павіс над бакавым шклом, убачыў спалатнелы твар Старавойтава.

— У лес! У лес!

Я чуў «месера» збоку, за соснамі. Ён заходзіў для новай атакі. Вунь ён, ужо наперадзе! Зноў — у лоб!

Фашыст закрыў машыну сваім ценем з вышыні некалькіх метраў. І, здаецца, не страляў. Можа, яго здзівіла мука? Машына цягнула белы шлейф пыльнай заслоны. Не, гэта вопытны ас, ён упэўнены, што адзінокая бяззбройная трохтонка — ахвяра пэўная. Нішто не перашкодзіць расстраляць нас, калі яму захочацца. Дык чаму не пазабаўляцца? Не патрэніравацца, не нагнаць страху, не нацэліцца? У сцярвятніка азарт паляўнічага.

Праскочылі міма фургона, які перакуліўся і гарэў.

У трэці раз «месер» зайшоў ззаду, і кулямётная чарга высекла іскры на камянях дарогі перад самым капотам машыны. Каб трохі — і зрэзаў бы кабіну.

Для чарговага развароту пілот заляцеў далекавата, каб легчы на курс, з якога немагчыма прамахнуцца па такой цэлі, як сустрэчная машына.

Шафёр са спазненнем прыняў тактыку зігзагаў: кідаў машыну ад узбочыны да ўзбочыны. Магчыма, у той паўзе якраз была хвіліна, каб пакінуць машыну. Але вельмі можа быць, што Старавойтаў не мог пайсці на такое ўратаванне. Як капітан судна, якое тоне. Гонар афіцэра. Я са страхам думаў: каб толькі не лопнула вяроўка, у якую мы з Глашай учапіліся да пасінення пальцаў. І цягнуў носам паветра: ці гараць снарадныя скрынкі?

«Месер» вынырнуў з-за сосен на павароце дарогі і, здалося, не ляцеў, а бег па брукаванцы, як па лётным, полі, затарможана, павольна... Да жудасці павольна. Усё! Гульня ў кошкі-мышкі скончылася. Цяпер ён не прамахнецца.

Страху за сябе не адчуваў. Страх за Глашу: як ратаваць яе? Як? Гатовы быў памерці тройчы, абы толькі ведаць, што яна ўцалела, цудам уцалела. Бліснула думка: расшчапіць пальцы і выкінуцца разам з ёй за борт. Але бандыт расстраляе і машыну і нас, калі мы і не разаб'ёмся насмерць.

Колькі ж секунд жыцця засталося? Пяць? Тры? Не, не павольна ён набліжае нашу смерць. Маланкава. Што гэта? Выбух? Кінула ўбок, угору. Я павіс у паветры. Але тут жа плёхнуўся на мяшкі. Праз момант атрымаў моцны ўдар у спіну. Не адразу сцяміў, што шафёр крута павярнуў машыну на лясную дарогу. У самы апошні міг перад сустрэчай з кулямётамі «месершміта». Няўжо ўратаваліся? Не адразу паверылася. Маці мая сказала б: як бог паслаў гэты з'езд, гэтую дарогу.

Сапраўды ўратаваліся! Не маючы бомб, самы зацяты ас не рызыкне атакаваць адзінокую машыну кулямётным агнём. Пабаіцца пікіраваць на лес, бо з такога піке можна і не выйсці.

Брыдка і злосна звінеў матор недзе ззаду, над шашой.

— Гла-а-ша! Жывём! Трымайся мацней!

Шафёр наш, ад страху ці ад радасці, гнаў машыну па лясной дарозе з шалёнай хуткасцю, можа, з большай, чым на шашы. Галлё дрэў сцёбала нас з Глашай па галаве, па нагах, па спіне. З мяне сарвала фуражку. Прарвала мяшок з прасянымі крупамі. Разбіла скрынку з кансервамі, і бляшанкі ляцелі на паваротах ва ўсе бакі, таксама балюча білі па нас. Падкідвала на каранях так, што снарадныя скрынкі грымелі аб дно кузава.

Жывём! А ці жывём! Уцяклі ад фашыста — можам лёгка павіснуць на першым сухім суку. Праткне наскрозь. Можам узарвацца на ўласных снарадах. Урэжацца машына ў дрэва... Ды і яшчэ адно: напэўна, ёсць прастрэленыя снарады, з якіх выцякае порах, як прасянка. Адна іскра ад ляскату рэсораў і — у неба, да анёлаў.

— Старавойтаў! Віталій!

— Хіба пачуе? А галавы нельга падняць — знясе галлём. Так усё ж мяшкі і скрынкі трохі прыкрываюць. Але гэта да першага вялікага сука... да схіленага дрэва, якое змахне і мяшкі і нас з Глашай.

— Куды ён гоніць? Куды? Ідыёт! Не чуваць жа «месера», паляцеў. Не ўзнімай галавы! Глаша!

Яна павярнула да мяне твар. Вочы яе радасна іскрыліся. Няўжо не разумее небяспекі? Хоць страху ў яе вачах я і там, на шашы, не бачыў. Дзіўны народ жанчыны: могуць нарабіць ляманту з-за мышы, а праз гадзіну ў сітуацыі, калі побач ірвуцца бомбы, спакайней, чым мужчыны, выконваць свае абавязкі на прыборы, у гарматных разліках, ля тэлефоннага апарата. Глаша заўсёды была такой.

— Не ўзнімай галавы, чорт вазьмі!

— Ух, злосны! Не дай божа мець такога мужа!

Яна яшчэ здольна жартаваць? Вы чулі, людзі? Яна жартуе.

Завішчалі тармазы. Узвіхрыліся рэшткі мукі. А разбітая скрынка вызвалілася з-пад вяроўкі і пераляцела цераз нашы галовы. Нават скрынка магла забіць. Во шанцуе!

Я ўзняўся. Сапраўды, шанцуе да неверагоднасці.

Машына спынілася за дзесяць крокаў ад абрывістага берага парожыстай ракі. Блізка, вельмі блізка была яшчэ адна магчымасць прыняць смерць — у халоднай купелі. З гарачага — у халоднае.

Ні Старавойтаў, ні шафёр не вылазілі з кабіны. Шок?

Глаша першая, са спрытнасцю ваўёркі, скочыла на зямлю — умела, мякка: адной нагой — на кола, другой — на мох. Аднак усё роўна з валасоў яе, з-пад шыняля пасыпалася прасянка. Яна ўзварушыла валасы пальцамі — крупы сыпаліся, як з рэдкага рэшата. І яна засмяялася.

— Колькі кашы!

Перагнуўшыся, я заглянуў з кузава ў кабіну. Калі на ходу валодаў страх, то тут успыхнуў гнеў на лейтэнанта і вадзіцеля: пра свае скуры думалі, а на нас ім было напляваць! Пляснуў іх, не зважаючы на жанчыну:

— Эй, вы там! У штаны не наклалі са страху?

А Глаша скінула шынель і цяпер ужо абтрасала

муку, якой надзіва многа набілася за каўнер гімнасцёркі. Расшпілілася так, што відзён быў бюстгальтар, і вытрасала муку з-пад гімнасцёркі. І зноў смяялася. Не, не падобна, што істэрычны смех.

— Добрыя блінцы з нас спёк бы Фрыц. Мука беленькая, амерыканская.

Старавойтаў тузаў ручку дзверцаў і не мог адчыніць — заклініла. Я саскочыў на зямлю, іірвануў дзверцы і разам з ёй выцягнуў камандзіра баявога экіпажа з кабіны. Твар яго мяне ўразіў: ён быў не бледны, ён быў шызы, быццам палопаліся вянозныя капіляры. Шафёр гладзіў баранку вусамі — як лашчыў яе за тое, што не сарвалася, вытрымала і... уратавала. Але злосць мая не знікала:

— Вы, ліхачы! Ці думалі, што можаце павесіць нас на першым суку?

— Не павесілі ж.

— Не павесілі! Усе мяшкі падрала...

— Хрэн з імі, з мяшкамі,— Старавойтава хістала з боку ў бок, як моцна п'янага, але ён ступіў да мяне, схапіўся за штрыфель шыняля: — У сарочках мы нарадзіліся, камсорг. Усе! — і больш гучна, больш натуральным голасам, хоць і асіплым — да Глашы: — У сарочцы ты нарадзілася! Чуеш, паварыха!

— А я даўно знаю... Сястрычка мая Каця без сарочкі, а я — у сарочцы. Таму і мука так прыліпла. Да мяне ўсё добрае ліпне.

Заплятаючы нагу за нагу, лейтэнант паплёўся ў гушчар, у калінавыя кусты. Не дзіва пасля таго, што перажылі. Няхай ідзе далей. Хлапечы сорам, можа, не страціў.

Злосць мая апала. Старавойтава варта было зразумець. А шафёру дзякаваць трэба, яго знаходлівасць уратавала нас. І выпадак. Шчаслівы. Сапраўды, што бог паслаў гэтую лясную паваротку. А як хораша жыць! Хараство якое! Цішыня якая! Адзіны гук — падаюць кроплі з дрэў ад нядаўняга дажджу. І рэчка... рэчка як булькае!

Толькі цяпер адчуў, што ўсяродку ўсё гарыць, а ў роце цеста. Зараз спушчуся да вады, упаду на валун і буду піць... піць. І Глаша будзе піць. У яе таксама гарыць, мала што яна смяецца.

— Піць хочаш?

— А дзе?

— Рэчка ж вунь.

— Божа! Рэчка! А мне здалося: у вушах булькае.

Я скінуў шынель. Сцягнуў боты. З іх пасыпаліся

мука і прасянка. Следам за мной разулася Глаша, ступіла на мокры мох і зноў засмяялася, ужо, напэўна, ад радасці жыцця.

— Пі-іць... пі-іць... Я вып'ю ўсе карэльскія азёры.

— Ах, дзеці-дзеці,— не то з дакорам, не то з захапленнем сказаў шафёр, усё яшчэ гладзячы шчакой, барадой аплецены ізаляцыйнай лептай руль.

Я загадаў яму:

— Агледзьце груз. Чарга прашыла мяшкі. Магла прабіць снарады. Адна іскра — і... Не ўздумайце курыць!

Шафёр уміг выскачыў з кабіны, палез у кузаў.

Мы з Глашай выйшлі на бераг. І з абрыву ўбачылі ў празрыстай вадзе рыбу. Дзве вялікія рыбіны стаялі ля валуна, лёгка гойдалі плаўнікамі і, здавалася, здзіўлена глядзелі на нас чырвонымі, што журавіны, вачамі. Хто мы? Адкуль узяліся?

— Глядзі — рыбіны! — зусім па-дзіцячаму ўзрадавалася Глаша.— Ой, якія прыгожыя! Сёмга? Так? Калі ты адыдзеш, я паплыву ўслед за імі. Чаго ты глядзіш на мяне? Праўда, пакупаюся. Я ж уся — што запечаная ў цесце рыбіна.

— Так я табе і дазволю. У тваім стане. Верасень на двары...

Пяглядзела на мяне з вясёлым здзіўленнем і сказала нечаканае:

— Дзяўчаты лічаць: з цябе будзе добры муж.

— У тваіх дзяўчат толькі мужы ў галаве.

— А што яшчэ, Павел? Мы — бабы. Мы дзяцей раджаць хочам.

І ў гэты міг ляснула. Я ніколі не чуў выбуху пяхотнай міны. Зусім не падобны на гарматны стрэл, на ўзрыў малой бомбы, снарада ў зеніце. Як дзіцячая ляскаўка. Таму не адразу сцяміў, што здарылася. А Глаша крыкнула:

— Лейтэнант!— і, пераскокваючы цераз камяні, пабегла ў той бок.

Над недалёкімі кустамі, над рэчкай кружылася зялёнае лісце, што чарада спалоханых вераб'ёў. Тады да мяне дайшло: міна!

Але — грэшны — спалохаўся я не за Стара войтава — за Глашу.

— Куды? Стой! Не бяжы! Што ты робіш?

Глаша не чула... не хацела чуць, яна рвалася хутчэй памагчы чалавеку. Нізка нахілілася, каб пралезці праз кусты.

Збоку, злева ад яе, за кустом каліны з чырвонымі ягадамі бліснуў агонь. Зрокава — звычайны ўзрыў, як бомбы, як снарада. Мяне абдало гарачай хваляй, сцёбнула па твары галлём,

Глаша спатыкнулася, але прыўзнялася, села на зямлю.

Я схапіў яе за плечы, выцягнуў з-пад куста. З жахам убачыў, што спадніцу на бядры, босую нагу залівае кроў.

«Толькі б не ў жывот! Толькі б не ў жывот!» — апякла думка.

Падняў яе на рукі і панёс да машыны. Яна абхапіла маю шыю, балюча ўсміхнулася, вочы яе напаўняліся страхам.

— Не было сарочкі. Не было, Павел. Ніхто не нарадзіўся ў сарочцы. Ніхто. І гэта ўсё, Павел? Як Ліду?

— Не! Не! Гэта пяхотная міна. Пяхотная... Нацяжная,— дзіўна і недарэчна суцяшаў я, думаючы пра адно: «Толькі б не ў жывот». Быццам ад раненняў у іншыя часткі цела людзі не паміраюць.

Паклаў яе на мох. Разарваў спадніцу. Глаша запярэчыла. А я ўзрадаваўся: на трусіках, беленькіх, пашытых з фінскай тканіны, не было крыві, значыцца раны ў жываце няма. І я закрычаў на поўны голас:

— Цэлы твой жывот! Цэлы! — і шэптам: — І дзіцятка ваша цэлае! Жы-вём, Глаша! Табе пасекла нагу. Тры асколкі. Усяго тры асколкі... Зараз перавяжам... Спынім кроў.

Глаша села.

— Ты чуеш, лейтэнант! Ён кліча нас.

Не чуў я Старавойтава, пакуль думаў пра яе раны. А лейтэнант сапраўды аслабленым голасам гукаў:

— Па-вел! Ант-о-он!

Дзе ён, шафёр? Куды знік? Чаму не бяжыць ратаваць свайго камандзіра?

— Ант-он! Антон! Шафёр! Таварыш радавы!..

Выглянуў з-за машыны вусаты дзяцюк, збялелы больш, чым тады, калі затармазіў машыну перад рэчкай.

— Вынесці камандзіра!

— Не пайду,— плаксіва заскуголіў шафёр: — У мяне — дзеці.

Я перацягваў Глашы нагу папругай ад планшэткі, каб спыніць кроў, з раны ў галёнцы яна біла фантанам. Адмова шафёра ратаваць свайго камандзіра страшэнна абурыла. Прыкусіўшы да крыві губу, закончыў накладваць жгут. А потым ступіў да кінутай на зямлю, перад тым як пайсці да рэчкі, партупеі. Выхапіў з кабуры пісталет.

— Застрэлю, сволач! За невыкананне загаду!..

Глаша закрычала:

— Не трэба, Павел! Не трэба! Ён пойдзе! Родненькі мой! Татачка! Ідзі, ідзі! Чалавек памірае. Ідзі! Не бойся.

Антон панура пасунуўся ў кусты.

— Пад ногі глядзі! Пад ногі! І перад сабой. Убачыш дроцік — адступай. Яны наставілі нацяжных мін. Баран — камандзір сапёраў! Няўжо не мог сцяміць, што паабапал такой дарогі перад рэчкай яны наставяць мін. Проста нашым не спатрэбілася пераправаўляцца тут. Ніхто тут не прайшоў да нас. Каму трэба было лезці ў гэтыя кусты?

Я бінтаваў Глашыну нагу і крычаў — лаяўся. На фінаў. На разяўмінёраў, якім не мог дараваць смерць Ліды. На шафёра:

— Не пайду. Я табе не пайду! — скланяў Старавойтава: — Прыперла табе ў кусты — пад ногі глядзі! Ваяка! — Нават на яе, Глашу, сварыўся: — Не навучыла цябе армія! Не кідайся наперад камандзіра!

Глаша ні разу не застагнала. Але па тым, як то высыхаў яе лоб, то зноў пакрываўся буйнымі кроплямі поту, відно было, што ёй моцна баліць. Перавязваў я няўмела. Тэорыю ведаў, а практыкі не меў.

— Праўда, мог бы застрэліць яго?

— А што — чыкацца? У яго дзеці, бачыце...

— А калі іх пяцёра?

— Слухай! Мы на вайне. Пяцёра-шасцёра! Ён што, адзін такі? Не разводзь цялячай філасофіі! Найбольшая здрада — кінуць раненага таварыша.

— Ты пакутаваў бы ўсё жыццё.

Гэта ўзлавала мяне.

— Не знаю, ад чаго я буду пакутаваць. Знаю толькі: хопіць мне пакут!

Антон вынес лейтэнанта. Нёс на руках вельмі асцярожна, быццам у целе яго тырчала міна. Шаптаў:

— Сынок... Сынок мой... Во як яно бывае. Во...

Старавойтаў стагнаў, плакаў, па шчоках яго цяклі слёзы. І я сарваў злосць на ім:

— Не хныкай, герой! Дзяўчыны пасаромейся. Радуйся. Ты ў сарочцы нарадзіўся.

Але мне стала сорамна, калі я агледзеў яго раны. Старавойтаву пасекла ўсю спіну. Дзесяткі асколкаў. Пэўна, разарвалася міна, падвешаная на дрэве. Адзін асколак у плячы тырчаў так, што я выцягнуў яго пальцамі. Віталій сцякаў крывёю. Страціў прытомнасць. Не хапала бінтоў. Мы з шафёрам парвалі свае ніжнія сарочкі. Але самае цяжкае было падняць раненага ў кузаў. Глашу пасадзілі ў кабіну. Баязлівец шафёр праяўляў здзіўляючую дзейнасць і вынаходлівасць.

— У шпіталь! Хутчэй у шпіталь!

Антон запомніў: кіламетраў пятнаццаць назад на дашчэчцы-ўказальніку «Хозяйство Антонова» нехта нарысаваў чырвоны крыж. Шпіталь! Пад абстрэл, відаць, трапляла не адна машына, і вадзіцелі ўказалі месца паратунку сваім таварышам. Туды! Хутчэй!

Хто з нас нарадзіўся ў сарочцы?

* * *

*Пазваніў у Маскву Маслоўскім. Як заўсёды — голас, які чую больш за сорак гадоў, дзіўна, што ён, здаецца мне, не змяніўся.*

*— Глаша?*

*— Ага.*

*Не, голас змяняецца — у інтанацыі усё больш гумару і — прыемна чуць ад бабулі — маладой весялосці:*

*— Як вам жывецца?*

*— На вялікую літару «Д».*

*— Штось новае.*

*— А я гавару па-беларуску. Добра! Шкада, што ты рэдка прыязджаеш. Хачу вывучыць беларускую.*

*— Дзе твой дыпламат?*

*— У мяне іх два.*

*— Стары.*

*— У Дар-эс-Саламе.*

*— Не, ты сур'ёзна?*

*— Хіба я стану жартаваць з такілі салідным чалавекам?*

*— Знаю тваю сур'ёзнасць.*

*— Дзякую табе. Ты не верыш, у маю сур'ёзнасць?*

*— Не абрыдла твайму дзеду цягацца па свеце?*

*— А я сама яго туды камандзіравала.*

*— Ты ўзяла лейцы ў камітэце?*

*— Не. Я зацугляла толькі свайго чалавека. Так па-беларуску? Віктар паляцеў цераз Адыс-Абебу, а там — Віцька.*

*— Твой Віцька хутка стане дзедам.*

*— Для мяне ён Віцька. А яшчэ там Кацька... Як Міка і Віка?*

*— Бабулю весяляць.*

*— А дзядулю цешаць? Дай мне Валю. Даўно не чула яе голасу.*

*— Скрыпіць яе голас.*

*— Ну-ну! Рана нам яшчэ скрыпець.*

*— Ты — аптымістка.*

*— Не, часам і я ныю. Каб мне далі злётаць у Адыс-Абебу,— як бы я ажыла! Здаецца, і дыябет свой вылечыла б. Дык дзе там Валя?*

*— Укладае ўнучак. Валя! На провад!*

*— Хто там? — выглянула з дзвярэй мая жонка з Вікай на руках.*

*— Глаша.*

*— О, патрымай маленькую.*

*— Не хачу.*

*— Будзем гуляць у хованкі.*

*— Не заводзь іх. Сам будзеш укладваць. Я, я, Глаша. І я цябе цалую. А як жа! Стары бывае горшы за малога. Хітрунні гэтыя знаюць дзедаву слабасць. Намардуюцца, а пасля ўкласці іх немагчыма. Дзед нырае ў кабінет, а баба да дурноты ў галаве чытае ім казкі.*

*Жанчыны гаварылі пра дзяцей. А пра што яшчэ? Яны калі і сустракаюцца, у апошні час рэдка, раз у год, можа, не больш,— Валі не вырвацца ад малых, ды і ў мяне камандзіроўкі нячастыя,— то тэма іх размовы адна, без пачатку і канца: дзеці, унукі. І мне падабаецца. Мне здаецца гэта самым важным і значным. Урэшце, тыя праблемы высокай палітыкі, эканомікі, якія мы тут жа, за сталом, абмяркоўваем з Віктарам, адказным работнікам Камітэта знешнеэканамічных адносін, не існуюць самі па сабе, а каб існавалі гэтак — грош ім цана, яны маюць сэнс і значэнне таму, што ёсць нашы дзеці, нашы ўнукі. Мы, мужчыны, умеем абстрагавацца ад гэтага, жанчыны больш мудрыя: любую з глабальных праблем — ракеты, космас, заявы высокіх кіраўнікоў — звязваюць з лёсам дзяцей ці, больш правільна, замыкаюць іх на дзецях. І тады ўсё працей вырашаецца ў спрэчцы дактароў навук, палітыкаў, дыпламатаў, якіх звычайна збіраюць шырокія і гасцінныя Маслоўскія. Некаторыя жонкі імкнуцца памагчы мужчынам у іх глыбокіх разважаннях. А памагаюць лепш за ўсё Глафіра Сяргееўна і Валянціна Пятроўна тым, што ў паўзах, калі зноў успамінаюць пра напіткі і закускі, вяртаюць*

*усіх мужчын з-за воблачных вышыняў пад стол, дзе мы поўзалі, да таго як узляцець.*

*Можа, такая адданасць дзецям і зблізіла іх, нашых жонак. Нікога з іншых маіх аднапалчан у спадніцах, з якімі я ваяваў, Валя не прыняла ў шырокім сэнсе. Прымала, безумоўна, з падкрэсленай ветлівасцю, але ў маладосці — раўніва і падазрона. А пасля, калі пастарэлі, мала хто падаваў голас. Ці не па маёй віне? Залішне многа ўвагі я аддаваў навуцы. Не! Навошта паклёпнічаю на сябе? У першыя пасляваенныя гады я шмат з кім перапісваўся. З дзяўчат самай актыўнай была Жэня Ігнацьева. І Валя найбольш раўнавала да яе. Пакуль не паехалі ў Ленінград і не сустрэліся. І праз пятнаццаць гадоў Жэня мала змянілася. Блакада як высушыла яе. Замуж, безумоўна, не выйшла. Таму Валя пашкадавала яе. Мы пісалі адно аднаму добрыя пісьмы, а сустрэліся — і не ведалі пра што пагаварыць, успаміналі дробязі.*

*Маслоўскіх я знайшоў не адразу, гадоў праз дзесяць пасля вайны. Абараняў кандыдацкую ў Маскве. З'ездзіў ажно ў Харкаў да Калбенкі, каб адзначыць гэтую падзею. Той сказаў, што Тужнікаў выкладае ў Ваенна-палітычнай акадэміі. Закарцела мне з'явіцца перад былым нампалітам, які так часта сварыўся на свайго камсорга, у званні кандыдата гістарычных навук. Падагравала трохі маладая ганарыстасць: няхай бы Тужнікаў не меў такога звання. Ён такі не меў яго, але стаў палкоўнікам і сустрэў мяне з нечаканай, здавалася, не ўласцівай яму шчырасцю і цеплынёй. Павёз на кватэру, пазнаёміў з жонкай, дзецьмі. І ён сказаў:*

*«А ты знаеш, каго я сустрэў паўгода назад на адным дыпламатычным прыёме? Камандзіра ПУАЗО, «дэзерціра» Маслоўскага. Міжнароднік. Але не ён здзівіў. Жонка яго. Ты здзівішся, калі я скажу, хто яго жонка. Васіленкава. Тая, якую ты не давёз да МЗА. Як табе падабаецца?»*

*Я зрабіў выгляд, што здзівіўся, але ў сапраўднасці вельмі ўзрадаваўся. Каго знайшоў! Жывы Віцька! Жывы, «дэзерцір» чортаў. І верны застаўся свайму тайнаму каханню. Ах, якія малайцы! Зараз жа лячу да іх! Шукаў земляка, маці яго па ўсёй Беларусі, Глашу — на Валагодчыне. Успомніў райцэнтр: пісаў жа пра Кацю. Нехта адказаў: былі да вайны Васіленкавы — выехалі. А яны — во дзе, у сталіцы роднай! «Адрас, тэлефон маеце, Генадзь Свірыдавіч?» — «Давай візітку. Пашукаю. Ты паглядзеў бы, што за гранддама стала. Язык — брытва. Стрыгла мяне ўвесь прыём, чортава баба!»*

*Жонка Тужнікава была надзіва маўклівай і ветлівай да таго, што я ўвесь вечар адчуваў сябе няёмка.*

*Візітку палкоўнік не знайшоў: не зацікавілі яго Маслоўскія. Але я на другі дзень знайшоў іх з дапамогай «Мосспраўки».*

*Больш радаснай сустрэчы ні з кім з тых, з кім мёрз у Мурманску, хапіў гарачага на Одэры, не было. Ішоў я па адрасу з незвычайным хваляваннем, бояззю нават; палохалі Тужнікавы словы: «Гранд-дама. Язык — брытва». Не верыў я, не верыў, каб Глаша так змянілася. Ціхая ж была, добрая. Але без малога дзесяць гадоў. Тады, калі мы Знаходзілі адзін аднаго і адкрывалі ў новых якасцях, гэта здавалася эпохай. А прайшло сорак — і здаюцца яны імгненнем, хоць на паверцы шмат хто не адзываецца ўжо.*

*Хвалявала мяне не сустрэча з Віктарам — з Глашай. Ці не так шукае брат сястру, якую страціў у віхуры вайны? Не, такое перажываць павінны тыя, хто ахрышчаны крывёю, што пралілі ў адным баі, хто вынес сябра на плячах. Але я не праліў крыві. Праліла яна. Я толькі перавязаў яе раны. Ах, вось ад чаго я так хвалююся! Успомніў, як спалохаўся ранення ў жывот. Ці ёсць ён, той, што пачынаў так жыццё сваё ў лоне маці?*

*Я пазваніў — і ён адчыніў. Я... анямеў.*

*Ён спытаў:*

*«Вам каго?»*

*І я адказаў нечакана для сябе і для яго:*

*«Цябе!»*

*І ён, дзесяцігадовы гумарыст, увесь у маці, як пасля я пераканаўся, весела крыкнуў:*

*«Мама! Тут дзядзька, які дзяцей крадзе. Дай яму мяшок!»*

*«Вядзі сюды, злодзея. Мы яго пасадзім у халадзільнік».*

*Глаша выглянула з кухні ў хатнім халаціку, у касынцы. Што гарадзіў Тужнікаў? Якая «гранд-дама»? Тая ж Глаша. Не, не батарэйная пакорлівая ціхоня. Тая, што ашаламляла мяне ў кузаве жаночай сталасцю, нечаканым прызнаннем.*

*«Паўлік! Паўлік! — кінулася цалавацца, абняўшы, выраніла слязу.— Які ж ты малайчына!»*

*Ажно Віцька раўніва засоп носам і з уедлівасцю дарослага кінуў:*

*«А я думаў: ён дзяцей крадзе».*

*«Віцька! Ён ратаваў нас з табой. Гэта — наш камсорг. Наш Паўлік...»*

*Хлапчына загарэўся цікавасцю: эпізод вайны!*

*«Ну, што ты, Глафіра!..— я не помніў яе імя па бацьку, і гэта мяне бянтэжыла яшчэ тады, калі я ішоў да іх, напалоханы Тужнікаў сваёй характарыстыкай.— Ратаваў не я. Той баязлівец шафёр...*

*Антон. А ты знаеш, колькі ў яго дзяцей? Калі ехалі са шпіталя, спытаў. Васьмёра. Во!»*

*Я засмяяўся. Не з шафёравых дзяцей. Ад радасці, што Глаша так сустрэла мяне. І яна смяялася. І Віцька.*

*Пасля яна пазваніла Віктару, і ён прыляцеў што на крылах, да сканчэння рабочага дня. Да позняй ночы ўспаміналі ваенныя прыгоды, сяброў.*

*Праз нейкі час Маслоўскія прыехалі да нас у Мінск.*

*Валя і Глаша з першай сустрэчы не сышліся. У жонкі маёй жыла яшчэ насцярожанасць да дзяўчат, з якімі я ваяваў, якіх выхоўваў; наконт маіх выхаваўчых здольнасцей яна іранізавала ці не да універсітэцкага прызнання майго педагагічнага таленту.*

*Маслоўскіх яна прымала з падкрэсленай ветлівасцю, але пра Глашу сказала: «Вельмі ж вострая на язык». Не верыла, што ў дывізіёне яна была зусім іншай да апошняй нашай паездкі, калі за кароткі час мы колькі разоў глянулі смерці ў твар, так блізка Глаша, напэўна, ні разу не глядзела, а я — хіба ў самым пачатку вайны.*

*А потым яны пасябравалі, Глаша і Валя,— вадой не разліць. У адзін з нашых прыездаў у Маскву, калі, не ўладзіўшыся ў гасцініцы, мы спыніліся ў Маслоўскіх. Пакуль Віктар наладжваў знешнеэканамічныя сувязі, а я засядаў на сімпозіуме гісторыкаў сацыялістычных краін, жонкі гатавалі нам «царскую вячэру». Што іх зблізіла — самі яны не маглі растлумачыць. «Псіхалагічная сумяшчальнасць»,— смяялася Глаша. «Дзеці»,— прасцей вызначыла мая жыццёвая спадарожніца. Тады, ажно праз дванаццаць гадоў пасля Віці, у Маслоўскіх з'явілася Алёнка. А ў нас Марына хадзіла ў трэці клас, а пяцігадовы карапуз Андрэй «памагаў» мне пісаць доктарскую.*

*Маслоўскія — і ў гэтым немалая заслуга Глашы — адшуквалі і былых зенітчыкаў і танкістаў, з якімі Віктар дайшоў да Берліна, наладжвалі сустрэчы бадай кожныя пяць гадоў, пачынаючы з пятнаццацігоддзя перамогі. Між іншым, пазней іх актыўным памочнікам стаў... Тужнікаў. Адстаўны палкоўнік. Мяне кожны раз здзіўляла, як ён, уладалюбівы і ганарысты, трываў Глашыны кепікі. А яна не прамінала, каб не праехацца па ім. Віктар і я ўшчувалі яе. Але я помніў, як Глаша расказвала пра іх першую пасляваенную сустрэчу.*

*«Гэта быў першы прыём, на які клерка Маслоўскага запрасілі з жонкай. Я ашалела ад шчасця — сорамна прызнацца. І млела ад страху за свой бедненькі гардэроб. Тры дні лётала па камісіёнках. І за сваю трохмесячную настаўніцкую зарплату купіла... ці не баярскае яшчэ? — плацце. Дзікая старасветчына! Адным словам, прыбралася як апошняя дурніца. Прыйшла туды і адразу адчула гэта.*

*Здранцвела і анямела. Зганяла злосць на Маслоўскім. Але ён наладжваў кантакты. Ох, былі б яму кантакты, каб не падвярнуўся Тужнікаў. Я адразу пазнала яго, але яшчэ больш спалохалася за сваё ўбранне... усё роўна што на батарэі прадстала б перад ім у такім плацці. А потым Віктар падвёў яго да мяне. І тут мяне апанавала злосць. Ажно ліхаманіць пачало: з-за яго мог загінуць Віцька! Асушыла цэлы бакал віна... І мяне панесла. Адкуль што ўзялося! Ён не знаў, куды дзявацца ад мяне»*

*«Чорт ведае што! — сур'ёзна дапаўняў Віктар. Я пачуў — жахнуўся: напілася жонка, калі хочаш, учыніць скандал. Прыйшла, называецца, на прыём! Гарыць мая дыпламатычная кар'ера».*

*Я ўяўляў Тужнікава і смяяўся. Разам са мной рагатаў малы Віця.*

*А вось што расказвала Глаша аб прыёмах гадоў праз дваццаць, калі Віктар займаў ужо даволі высокі пост.*

*«Абрыдлі мне гэтыя прыёмы. Але пазабаўляцца на іх магу, навучылася. Пасмяяцца ў душы над такімі, якой сама некалі была, над іх убраннем. Абвешаюцца золатам і выстаўляюцца адна перад адной, дурніцы. Ой, бабы, бабы! А я адзенуся пад валагодскую цётку: сарафанчык просценькі, касыначка... Замежнікаў не здзівіш — яны ўсё бачылі. А нашых шакіравала. Яны фыркалі, мужоў настройвалі выгаварыць Маслоўскаму. Знаёмых прывучыла. А незнаёмыя ігнаруюць мяне, на кантакты не ідуць. А мне і трэба гэта. Пакуль мой эксперт робіць подступы да будучых кантрактаў, я раблю выгляд адзінокай, забытай мужам, ні з кім не знаёмай і пераходжу ад аднае группы да другой. Мяне шкадуюць, спачуваюць. А я вастру вушы і слухаю: хто, як, за што перамывае косці бліжняму свайму. І замежнікаў слухаю, каторыя з англійскай. Ім у галаву не ўлазіць, што такая руская баба валодае іх мовай. Калі што цікавае, я пачынаю націскаць на бутэрброды з такой прагнасцю, быццам нічога для мяне, акрамя жратвы, не існуе! Няхай, дурні, думаюць пра мяне як найгорш...»*

*«Глаша! Не гарадзі. Падумаеш, разведчыца знайшлася!» — перапыняў жонку Віктар.*

*«А што? Хіба не падкідвала табе патрэбныя звесткі? »*

*«Ну, падкінула адзін раз... дробязь».*

*«Дробязь? Нахабнік ты, Віктар!»*

*«Слухай, Глаша, а дзе ты англійскую вывучыла?»*

*«Калі Маслоўскі вучыўся ў ІМА[1], я за яго ўсе заданні выконвала».*

[1] Інстытут міжнародных адносін.

*«Ну і ну! Гэтая жанчына даканае мяне! І ты верыш, Павел?»*

*«Павел яшчэ на батарэі верыў мне».*

*«А я не верыў?»*

*«Ты хітры кот, Віцька. Ты смятану злізваеш тайна».*

*«Паехала баба ў Вологду. Ідзі лепш нясі сваю піцу»*[1].

*«Не спяшайся,— няхай памлее,— і да мяне: — Павел, помніш тую модную прыгажуню, што сустрэў у нас? Рэгіну. Лепшая сяброўка мая. А ведаеш, як мы пасябравалі? Падпіла баба на прыёме і пачала нейкаму старому замежнаму хрычу хваліцца, чым яна займаецца. Адвярнуўся той. А я і кажу ёй, таксама па-англійску: «Так ты, даражэнькая, перадаеш звесткі пра свой інстытут?» Аглушыла бабу. Самлела тая. А пасля пішчом лезла ў сяброўкі. Я спачатку падумала, што яна пад Віктара кліны падбівае...»*

*«Ты яе паслухай. Яна табе нагаворыць сорак бочак» .*

*«О, каб я ўсё расказала! Сто тамоў можна напісаць. Прывядзі да мяне таго пісьменніка, з якім ты заходзіў да нас. Дам яму матэрыяльчык».*

*«Дай, Павел, ёй персанальнага раманіста. Во выдадуць сачыненне!»*

*Надоўга заставалася адчуванне асаблівай радасці ад сустрэчы з гэтымі сябрамі. З Віктарам і Глашай было проста, весела, цікава. Эканаміст расказваў шмат чаго такога, да чаго я, гісторык, не даходзіў сам і што пасля пэўным чынам адбівалася ў маіх пісьмовых працах; рэцэнзенты адзначалі свежасць думак, нечаканасць праблемных пастановак і вывадаў. Часам, праўда, даставалася і па лысіне.*

*...Унучкі добра пакаталіся на дзедавай спіне, пакуль бабуля расказвала маскоўскай сяброўцы пра іх штукі. Валя не дае мне адразу падымаць іх абедзвюх, а для малых самае большае задавальненне асядлаць абодва дзедавы плячы, і мне хораша ад таго, што ў іх знікае рэўнасць адна да адной.*

*Міхаліна заўсёды ўмее перахітрыць Віку і не любіць, калі сястра лашчыцца да яе. Але, седзячы на маім плячы, сама цягнецца пацалаваць «добрае ягнятка», як называе Марына сваю ціхую і ласкавую дачку.*

*Быў выпадак, што размова Валі з Глашай каштавала дванаццаць рублёў. Ашчадная жонка мая перажывала: «Чаму ты не перапыніў?»*

*— Разорышся, Валянціна Пятроўна.*

---

[1] Італьянская страва.

*— Будзь здарова, Глаша. Вырывае трубку твой камсорг.*

*— Слухаю, таварыш малодшы лейтэнант.*

*— Глаша! Ты часта ўспамінаеш той дзень?*

*— Той?*

*— Той. Калі мы маглі памерці. Колькі разоў?*

*— Паміраюць адзін раз. Раней не любіла ўспамінаць... Як гляну на Віцьку, падумаю, што ён мог не нарадзіцца... ажно сэрца застывала... што ў маразілцы. А цяпер успамінаю. Нага баліць. Раненая.*

*— Што я гаварыў тады?*

*— Ты лаяўся, калі мы з лейтэнантам напароліся на міны. Ух, як ты лаяўся! А я слухала і здзіўлялася: такі культурны чалавек... прафесар...*

*— Не блазнуй. Ты робішся падобнай на Ванду.*

*— З Вандай мяне не параўноўвай,— голас яе зрабіўся залішне сур'ёзны.— А то я скажу такое пра вашу Ванду, што расплавіцца провад ад Масквы да Мінска.*

*Не разумею, што яна мае да Ванды? Пасля звароту ў дывізіён у Петразаводску Ванда хіба можа адзін раз заглянула на сваю батарэю, з якой яе так хутка сплавілі. І сустрэча з Глашай была сястрынская, гэта я пэўна ведаю.*

*Няўжо раўнуе да Віктара, што яны разам «дэзерціравалі»? Не можа дараваць, што Ванда падбіла яе мужа на шалёную рызыку за тры тыдні да Перамогі?*

*У Маслоўскіх за сталом, калі я ўспомніў пра Ванду, размова неяк дзіўна перапынялася. Раз, другі... І на сустрэчы аднапалчан, якія арганізоўвалі Віктар і Тужнікаў, Ванда не з'яўлялася.*

*— Ты помніш, што сказала, калі я прыгразіў шафёру пісталетам?*

*— Што ты будзеш пакутаваць усё жыццё, калі заб'еш чалавека. Я, праўда, вельмі спалохалася. За цябе.*

*— І што я адказаў?*

*— Не помню.*

*— «Не знаю, ад чаго я буду пакутаваць. Знаю толькі: хопіць мне пакут». Так?*

*— Стоп, Павел! Стоп! Не гані. У цябе пакуты? Душэўныя? Ад чаго?*

*Валя, якая выйшла са спальні ў пярэднюю, дзе стаяў тэлефон, нахілілася да трубкі і сказала:*

*— У яго забралі кафедру.*

*— І ты ад гэтага пакутуеш? О, няшчасныя мужчыны! Наколькі мы, бабы, мудрэйшыя за вас. Ты хацеў вечна кіраваць кафедрай?*

*— Валя спрашчае. Кафедра — дробязь. Я расчараваўся ў вучнях. А гэта цяжка. Усё роўна што расчаравацца ва ўласных дзецях. Уяві, што ты расчаравалася б у Віктары-малодшым...*

*— Ой, няўжо так баліць за вучняў?*

*Не, не было ў мяне пакут. Маё пасляваеннае жыццё кацілася, што добра адладжаная змазаная машына. Сталінскі стыпендыят ва універсітэце. Адразу пасля заканчэння яго — аспірантура. Трыумфальная абарона кандыдацкай дысертацыі на тэму для пяцідзесятых гадоў новую, актуальную і мала тады яшчэ даследаваную — аб дзейнасці партыі па арганізацыі ўсенароднай партызанскай барацьбы. Пісаў я, франтавік, навуковую працу пра партызан, як раман, як песню. Кніга ацэнена была як лепшая для таго часу. І з доктарскай, хоць пісалася яна не так лёгка — трое дзяцей,— не зацягнуў. Падзеі больш далёкага часу — аб нараджэнні рэспублікі, тэма не новая, браліся за яе і да мяне гісторыкі, але ў «культаўскі час» больш зацямнілі, чым асвятлілі. Я выцягнуў з архіваў многа малавядомых фактаў і вытлумачыў іх па-новаму, з той аб'ектыўнасцю, якой усё больш і больш дамагалася гістарыяграфія. Супраць манаграфіі не выступілі нават тыя, з кім палемізаваў у ацэнцы падзей, фактаў. Вядомы гісторык, мой настаўнік, які выдаў некалькі работ на гэтую тэму, сам напрасіўся ў апаненты. Прызнаюся, гэта трохі ўстрывожыла, тым больш што сябар мой Міхась Пятроўскі падказваў: «Разнясе дзед тваю дысертацыю. Ён яшчэ нікому не дазволіў не згадзіцца з ім».*

*Дзед пры абароне даў вышэйшую ацэнку.*

*Пятроўскі сказаў на банкеце:*

*«Ты ў сарочцы нарадзіўся».*

*Тады я ўспомніў той дзень, калі за намі ганяўся «месершміт», сваю развагу над словамі Старавойтава: хто з нас нарадзіўся ў сарочцы? Пасля шпіталя Старавойтаў пайшоў камандзірам батарэі МЗА ў франтавы полк супрацьпаветранай абароны і загінуў пры штурме Кёнігсберга. Пра смерць яго паведамілі Глашы, відаць, толькі яе адрас знайшлі ў кішэні лейтэнанта: у Глашы хварэў двухмесячны Віцька, і маці яе, баючыся, што пахавальная на Віктара, хавала і не раскрывала канверт з палкавым штэмпелем ажно да таго часу, пакуль не прыйшло пісьмо ад Віктара — са шпіталя. Было гэта ўжо пасля Перамогі.*

*«У адзін дзень і радасць і бяда,— расказвала Глаша,— як я плакала, як па брату. Хлопчык мой слабенечкі пасля хваробы, і ў мяне знікла малако. А колькі я бачыла яго, нябогу? Разы тры сёстры звазілі мяне на каталцы да яго ў палату, у суседні барак; ён сам*

*папрасіў, быў у цяжкім стане. Павезлі нас у розныя тылавыя шпіталі — Ія забылася пра яго, твар добра не помніла. Пакуль не прачытала пахаронку. Тады ўспомніла. Які ён быў пасля ранення. І ў шпіталі. Бездапаможны, як дзіцятка. Яму хацелася ласкі. Па-мойму, ён быў сірата».*

*Мне, камсоргу, варта было б ведаць біяграфію маладога афіцэра, камсамольца. Я не помніў. І праз многа гадоў дакараў сябе за гэта. Доўга шукаў Качарана, камандзіра батарэі. Знайшоў. Не, Старавойтаў не сірата, наадварот, з мнагадзетнай сям'і, гарадской, Качаран добра помніў.*

*...Добра падвыпіўшы на банкеце, дабаўляючы ў мяне на кватэры Валінымі настойкамі на травах, якімі жонка націрала дзяцей пры хваробах, Міша Пятроўскі развіваў тэзіс аб тым, што мне д'ябальскі шанцуе:*

*«Ты заўсёды трапляеш у свежы струмень».*

*Разумная Валя далікатна заўважыла:*

*«Свежае трэба ўмець адчуць. Прадугадаць. Як пагоду».*

*«Во! — як узрадаваўся лепшы сябар мой.— Пра гэта я і кажу. У цябе — нюх. У цябе, Павел, нюх, прабач, як у паляўнічага сабакі».*

*Валя змоўчала, але я ўгледзеў, што не падабалася ёй «п'яная філасофія» чалавека, да якога яна, між іншым, хораша ставілася да таго, нават перада мной абараняла.*

*У той вечар, калі Пятроўскі пайшоў, Валя сказала:*

*«Ён зайздросціць табе».*

*Сказала з расчараваннем, з горыччу. Я запярэчыў. «Чаго яму зайздросціць? Ён на два гады раней абараніўся».*

*«Усё роўна зайздросціць».*

*І з таго часу ставілася да Пятроўскіх, да яго, да яе, нават да дзяцей са скептычнай крытычнасцю. Мяне гэта кранала, можа, нават крыўдзіла — калі сябраваць, то павінна быць поўная шчырасць — і я ўпікаў жонку. Яна прымала мае папрокі, была падкрэслена ўважлівай да Міхала, гасціннай, але я адчуваў: не, не тое гэта, што было раней.*

*У мяне даволі яшчэ цвярозага розуму, каб не ўсведамляць, што не магу я да глыбокай старасці ці да апошняга дыхання ўзначальваць кафедру. Я ведаю палажэнні і практыку. Ды і ўся мая трыццацігадовая навуковая работа была накіравана на тое, каб падрыхтаваць змену. Сабе. Сваім калегам. Я радаваўся адкрыццю кожнага таленавітага чалавека. З гарэннем кіраваў і кандыдацкай і доктарскай той жа Марыі Раманаўны Цітавец. Не прыняў яе пляменніка Генадзя*

*Барашку? Дык такіх заўсёды не прымаў — якія лезуць у навуку з дапамогай бацькоў, цётак, дзядзькоў.*

*Кафедра — дробязь? Не, сказаў я Глашы няпраўду. Глупства сказаў. Для мяне гэта — жыццё, з гадамі я ўсё больш прывязваюся да сваёй працы і не ўяўляю, што можна жыць без штодзённых зносін з калегамі, без студэнцкай аўдыторыі, без таго хвалявання, з якім кожны раз з'яўляешся перад імі, рознымі — цікаўнымі, старannымі і гультаяватымі, але аднолькава дарагімі — за іх маладосць, за іх будучыню, за тое, што яны прадоўжаць пачатае намі, зробяць тое, чаго мы не паспелі зрабіць — не здолелі ці не хапіла часу. Я люблю іх, маладых, розных — кудлатых, паголеных, у міні, максі-спадніцах, у джынсах, з гісторыяй у галаве і без гісторыі, «з царом» і «без цара». Каму колькі дадзена прыродай, бацькамі. Я веру ў іх будучыню. Я — аптыміст. Хоць тое, што адбываецца ў свеце, і палохае мяне. Пачуўшы дурны жарт прэзідэнта: «Бамбардзіроўка пачнецца праз пяць мінут»,— я доўга жыў са страхам — за Віку і Міку, за дзяцей маіх, за студэнтаў ды і за ўвесь род чалавечы.*

*На кафедры быў лад, спакой, панавала добрая таварыскасць. Ці, можа, мне толькі здавалася, бо я хацеў і дамагаўся гэтага? Я не бачыў глыбокай плыні?*

*Страсці разгарэліся, калі нехта вышэй — хто? рэктар, партком? — вырашылі, што я больш не перавыбіраюся. Пастарэў? Знасіўся? У даўнія часы рэдка прымалі такое рашэнне пра лёс чалавека, які меў прызнанне. Прафесары паміралі на кафедры.*

*Усё пачалося так, як прадказала ў дзень смерці Індзіры Гандзі пранікліва і бязлітасная — да сябе, да калег і нават да мяне — Соф'я Пятроўна.*

*Малады рысак Барашка, развіўшы нябачную да таго шпаркасць, настырнасць, з дапамогай старога палітыкана Пятроўскага ўцягнулі ў «гульню» Мар'ю. І гэтая ціхая кніжніца, якая, здавалася, ніколі не цікавілася, арганізацыйнымі справамі, раптам выбрыкнула. Выходзіць, і ў яе жыла прага ўлады? Але большасць членаў кафедры разумелі, што загадчыца з яе будзе ніякая, што фактычным кіраўніком стане Барашка. Былі ў яго прыхільнікі з моладзі, але ўвогуле над такой магчымай сітуацыяй іранізавалі, называлі «варыянтам цётка». Не толькі Соф'я Пятроўна, але і іншыя падбівалі мяне схадзіць да рэктара, у партком і расказаць пра «варыянт». Я не мог пайсці. Што я мог сказаць супраць Марыі Раманаўны? Даводзіць, што пры ёй будзе кіраваць пляменнік? А мы дзе, члены кафедры, камуністы? — мае права спытаць любы разумны кіраўнік. І ўвогуле: прафесар скардзіцца на вучня.*

*Сходзіла Соф'я Пятроўна. Мне не сказала — Валі прагаварылася. І тады ў спісе прэтэндэнтаў на замяшчэнне пасады з'явілася староння кандыдатура — малады доктар навук Выхода Сямён Герасімавіч, з «чужога» інстытута. Сямён — мой вучань, я кіраваў яго кандыдацкай дысертацыяй. Барашка адразу сцяміў, што «варыянт цётка» гарыць. І зрабіў вывад, што гэта мой «ход канём»: прыцягнуць свайго чалавека. І зноўтакі, хіба мог я тлумачыць, што нават не сустракаўся з Сямёнам. Выйшла б: апраўдваюся — не я, маўляў.*

*Слупок кіпення ўзняўся да чырвонай рыскі. Нават я пачаў адчуваць бурленне страсцей. Кафедра раскалолася не на дзве — на тры часткі. Большасць — за Выходу. Кандыдатура пэўная! Але матывы падтрымкі чужака былі розныя! Шчырыя прыхільнікі мае лічылі, што гэтым падтрымліваюць мяне. Тая ж Раіса Сяргееўна, жонка высокага кіраўніка, сказала мне камплімент:*

*«Вы мудры чалавек, Павел Іванавіч».*

*Простая логіка: калі ты ўжо не можаш выставіць сябе, то выставі вучня свайго ці «цётку». Але я не выстаўляў ні вучня, ні «цётку».*

*Пасяджэнне вучонага савета незразумела зацягнулася, можа, з-за страсцей маіх калег — не ўнікаў, нават Зосіны здагадкі не хацеў слухаць. Ія перажыў некалькі нялёгкіх месяцаў «падвешанага стану». Не выконваць свае абавязкі не мог. І выконваць было цяжка. Група Барашкі ігнаравала мае ўказанні, проста сабатавала. І гэта было да пакутлівасці крыўдна: я ж вучыў гэтых людзей, выхоўваў, стараўся зрабіць з іх вучоных. Выходзіць, усе старанні мае былі дарэмныя? Поўнае расчараванне? Цяжка было з гэтым згадзіцца. Асабліва здзівіла і ашаламіла Марыя Раманаўна. Ніколі ні з кім не сутыкалася. А тут проста дэманстратыўна падкрэслівала сваю варожасць. Я пачаў баяцца яе. Каб не Зося, якая раўніва асцерагала мяне ад праяў яўнага хамства, я, пэўна, не дачакаўся б свайго пераемніка. Чакаў яго з нецярпеннем. Прызнаўся Пятроўскаму. А ён выдаў мяне, і маё прызнанне давяло Марыю да шаленства, да істэрыкі. Калі я расказаў пра гэты інцыдэнт Валі, яна ўзненавідзела Пятроўскага, і гэты ланцуг варожасці, які ўзнікаў, на маю думку, без усялякай прычыны, па незразумелай для мяне, сівога чалавека, логіцы, скоўваў усё мацней. І душыў. Я пасварыўся з Валяй:*

*«Не пазбаўляй мяне даўняга і вернага сябра!»*

*«Вернага? Недарэмна цябе Калбенка называў лапухам. І Зося. Разумныя людзі! Ты — стары ідэаліст».*

*«Я веру ў людзей».*

*«А ты падумай, чаму Мар'я стала тваім ворагам? Геначка — зразумела. Гэты — з сучасных скакуноў. А Мар'я? Ей богу трэба маліцца. Яна да шаптуноў са сваім хворым ездзіць».*

*«Не збірай плёткі. Гэта яе бяда».*

*«У бядзе трэба быць добрай».*

*Як, якім чынам, якімі метадамі, захадамі група Барашкі даволі хутка перацягнула на свой бок новага загадчыка кафедры — пра гэта мне не хочацца пісаць нават. Прымітыўна. Апісана яшчэ за тысячагоддзі да нашай эры. Мне заставалася толькі здзіўляцца. Сапраўды — ідэаліст: пражыў жыццё, усё, здаецца, зведаў, і гэтую ніжэйшую праяву чалавечых адносін — падхалімаж — нярэдка бачыў, перажываў то з гідлівасцю, то з гумарам, але, выходзіць, толькі на старасці далі магчымасць пераканацца, якая гэта брыдкая і ліпучая рэч. Аднак нават гэтую слабасць я мог дараваць былому вучню. Хочацца табе слухаць «молитвы во славу твою»,— слухай на здароўе. Рана ці позна пераканаешся, што ўсё гэта робяць несумленныя людзі з адзінай мэтай — мець выгаду для сябе. Хоць, прызнацца, я не мог дацяміць, якую такую асаблівую выгаду можна .мець ад загадчыка кафедры. Аднак хутка зразумеў: не толькі выгада ім трэба была — помста. Мне. За што? За памылковае перакананне, што я сарваў «варыянт цётка».*

*Пры ўсёй фантазіі маёй я ў бяссонныя ночы і ў размовах з Зосяй і Валяй не мог змадуліраваць дыялогі паміж групай і Сямёнам, якія маглі б так настроіць яго супраць настаўніка. Але настроенасць яго балюча раніла. Такіх пакут я не знаў у сваім жыцці. Не, Выхода быў не дурань, дробных прыдзірак не рабіў, наадварот, падкрэсліваў пачцівасць вучня да настаўніка, хоць пазней я адчуў у гэтым здзеклівы гумар. Аднак ён метадычна, з незразумелай настойлівасцю закрэсліваў усё, што было зроблена мной не за год, не за два — за дваццаць. Нават вучэбныя планы прымусіў перарабіць. Потым мне сказала Раіса Сяргееўна, са смехам, як анекдот (а ёй нельга не верыць), што Сямён Герасімавіч кінуў фразу, якая лётае, што мыш — свіст чуваць, самой не відаць: «Я выкарчую гэты шыянізм».*

*Жанчына, якая ўмела назіраць збоку і прывыкла бачыць толькі знешнія праявы, не ўгледзела, што словы, якія сказаў вучань, няхай яны былі недарэчным жартам, ударылі так, што ў мяне здарыўся гіпертанічны крыз. Я тры дні не хадзіў на працу. Жонцы, якой расказваў усё, не адважыўся прызнацца, што нагнала ціск. Адчуваў, што яе абразіць і моцна ўсхвалюе гэтае дурное ўтварэнне ад майго прозвішча. Гумарыст Сенька, гумарыст! У «Крокодил» бы цябе! Ці не гэтае слова, сугучнае з вызначэннем злавеснай расавай тэорыі,*

*нагадала Барашку ці камусь з яго групы, што некалі я напісаў прадмову да кнігі аднаго тыпа, які ў той час быў скрытым сіяністам, а пазней здрадзіў Радзіме і паехаў... не ў Ізраіль, у Амерыку падаўся. У партком паступіла ананімка. Вось гэта мяне не кранула. Гэта мяне рассмяшыла, і сакратара парткома рассмяшыла.*

*«Павел Іванавіч! Вы прыхільнік сіяністаў?! Ну, даехалі ананімшчыкі! Як кажуць, да абрыву».*

*Сакратару парткома не сказаў, што гэтак на кафедры выкарчоўваюць «шыянізм».*

*Балела за Зосю. Мяне кусалі цішком, з-за вузла. Па ёй вялі адкрыты агонь, вымушаючы пайсці на пенсію. Тактыка правільная: аслабіць маіх прыхільнікаў. Соф'я Пятроўна была сярод іх самай актыўнай. Яна ўмела не толькі абараняцца, але і наступаць. «Агню» яе баяліся — занадта добра яна ведала слабыя месцы сваіх праціўнікаў. І Сямён яе баяўся. Зося секла, як кажуць, па вачах, не зважаючы на асобы, званні і пасады. Яна збянтэжыла нават Раісу Сяргееўну. Неяк мы засталіся ў пакоі ўтраіх, і яна секанула:*

*«Выгадная, Рая, у цябе пазіцыя. Ты глядзіш на нашу калатнечу, як на забаўны спектакль. Ці расказваеш хоць мужу сюжэты нашых забавак?»*

*«Не».*

*«Сур'ёзна? »*

*«А навошта? У яго хапае сваіх клопатаў».*

*«Доўга ты пражывеш, Рая».*

*За «доўгае жыццё» Раіса Сяргееўна, якая любую заўвагу прымала з паблажлівай згодай, пакрыўдзілася.*

*Зося сказала пасля:*

*«Нажываю я сабе ворагаў. Ды бог з імі. Я аэробікай займаюся. Мускулы і нервы ў мяне такія,што іх не ўкусіш. Паломяць зубы». Я разоў колькі з юнацкім запалам кінуўся абараняць Зосю. Не мог жа я маўчаць, калі шматкуюць вернага сябра! Але Зося сказала Валі ў маёй прысутнасці:*

*«Скажы яму, каб не лез. Мне ён не дапаможа, а сабе напсуе. Адкрытага агню ён не вытрымае. Слабая браня. А мафіі гэта толькі і трэба». За мафію ёй моцна дасталася. У партком напісалі, не ананімна. Яе выклікалі. Ушчувалі. Але і яна, відаць, разгаварылася ў афіцыйным органе. Пасля яе паходу ў партком «цёткаўцы» прыціхлы, стаіліся. Змянілі тактыку? Якая ж яна, іх новая тактыка? Зваліць галоўнага праціўніка? Мяне. Але чаму я, іх настаўнік, кіраўнік, таварыш, даволі далікатны,— увесь час, яшчэ ў арміі, мяне вінавацілі ў лібералізме,— стаў праціўнікам? Без дай прычыны. Не выступаў я*

*супраць «цёткі», не цягнуў Выходу,не хадзіў прасіць за сябе. I змагар я слабы — залішне ахоўваюць маё здароўе дзве Пятроўны, Валянціна і Соф'я.*

*Д'ябальскі крыўдна і пакутліва. Пазаўчора Мар'я выступіла ў рэспубліканскай газеце з рэцэнзіяй на маю новую кнігу «Трацкісцкія тэорыі на ўзбраенні буржуазных ідэолагаў». Цалкам знішчыць не адважылася — слабая яна ў гэтай тэме, а сааўтары яе ўвогуле прафаны. Але ўсё ж паскубла. Мар'я асцярожная. Аднак за адну думку я мог бы разграміць яе ўшчэнт. Сур'ёзна наблытала баба, бадай, спаўзла да трацкізму. Не магу. Ніколі не выступаў у прэсе ў абарону сябе. Падкінуць ідэю каму-небудзь з калег? Схопяцца. Ёсць аматары сенсацый. Марфіны ж былыя студэнты раздзяўбуць яе, прыпомняць, як яна прымушала пераздаваць яе прадмет па два-тры разы. Таксама не магу. Несумленна. Ды і шкада яе. Няшчасці зрабілі яе маўклівай і... цяпер пачынаю разумець: скрытна-зайздроснай. Мне ўсё давалася лёгка. У мяне ўсё ішло добра: дома, на рабоце, у творчасці. А ў яе... колькі яна перажыла, калі кандыдацкую, якой кіраваў Пятроўскі, ВАК двойчы вяртаў. Пятроўскі палічыў, што гэта выпады супраць яго, і сам папрасіў ліяне памагчы аспірантцы. Я зрабіў істотную падказку — і Мар'я прайшла ў навуку. А за доктарскую яе я проста змагаўся. Лічыў, што пры сваім сямейным становішчы ў пяцьдзесят гадоў яна зрабіла подзвіг. I жанчына была ўдзячная. Куды ж дзелася твая ўдзячнасць, Маша? Навошта табе кафедра? Такі груз на худыя плечы. На блізарукія вочы. Мінус дзевяць — хіба жартачкі? На пляменніка спадзяешся? Ён націскае? Ям.у-такі трэба і доктарская і кафедра. Бо на ўласную галаву не спадзяецца. Шукае вакольны, цёмны шлях.*

*Трэба мне пад старасць такія недарэчныя прычыны для цяжкай бяссонніцы?*

*Пазаўчора пагаварыў з Глашай — і пакуты мае як бы зменшыліся. Валі мала. Зосі мала. Трэба была яшчэ Глаша са сваім здзіўляючым аптымізмам. Што яна сказала? У голасе яе прагучала вялікае здзіўленне: «У цябе пакуты? Душэўныя? — і пасля Валінага паведамлення пра кафедру: — Наколькі мы, бабы, мудрэйшыя!»*

*У бяссонную ноч яшчэ раз пракруціў успамін, як за намі ганяўся «месер». I стала мне, як Глашы, калі яна прачытала пахавальную, да сардэчнага болю шкада Старавойтава. I сорамна, што некалі пры першым знаёмстве я нядобра падумаў пра яго — за афіцэрскую ганарыстасць. Вельмі захацелася даведацца, як ён загінуў. Праз сорак гадоў? Каго знайду? Часці не ведаю, у якой ён ваяваў. Як загінуў — не*

*даведаюся. А ў Калінінград паеду і знайду яго прозвішча на адной з пліт сярод дзесяткаў тысяч імёнаў.*

*У Петразаводск, на магілу Ліды, я ездзіў двойчы. Першы раз Валя маўкліва раўнавала. А мінулым летам паехала разам са мной. І разрыдалася там.*

*«Што цябе расхвалявала, Валя?»*

*«Магіла запушчана»,— растлумачыла яна, хоць прычына яўна была іншая, больш глыбокая, яе, прычыну, жонка і пасля не сказала мне, там упікнула: — Як ты мог».*

*Пражылі мы ў горадзе, дзе я мала што пазнаваў, тыдзень, і ўстанавілі на магіле новыя пліты. На дзве магілы...*

7

Паклікаў мяне камандзір дывізіёна і ўручыў два білеты ў тэатр. Хіба не сюрпрыз? Жыццё хутка аднаўлялася, і ў сталіцу рэспублікі вярнулася трупа музычнай камедыі з прымай Калінінай. Мой зямляк, Лёня Фрэнкель, музычны хлопец, ажно стагнаў ад жадання паслухаць Калініну. Помнілі спявачку і Мураўёвы, нават Анечка, у іх дома была грамафонная пласцінка з яе песнямі.

І вось мне шчасце — прысутнічаць на адкрыцці тэатра.

Дабрыня Кузаева не здзівіла. Тыдзень назад і да яго прыехала жонка, і ён сапраўды-такі надзіва добры. Як пераўтварае чалавека шчасце! Здзівіў яго нечаканы загад:

— Запрасі дзяўчыну. Самую прыгожую. На твой густ. Паглядзім, хто табе падабаецца.

Жартуе камандзір? З прыездам жонкі ён часта жартуе. Я недаверліва паглядзеў на яго: уліпнеш з гэтымі жартаўнікамі; ён добры, а Тужнікаў пасля будзе распякаць.

— Што ты глядзіш так? Я, брат, не жартую. Не ўздумай аддаць білет скакуну Фрэнкелю. Толькі з дзяўчынай! Гэта загад. І, калі хочаш ведаць, не мой — генерала, начальніка гарнізона.

Дзівосы, ды толькі! Пераходзім на мірнае жыццё? Яно ўжо адчуваецца пры нашым штабе — з прыездам Мураўёвых, Кузаевай. З першага верасня пачаўся навучальны год. І я кожную раніцу з замілаваннем і нейкім незнаёмым дагэтуль хваляваннем гляджу, як Марыя Аляксееўна са старэйшай дачкой, абедзве з цыратавымі партфельчыкамі, бягуць у горад, у школу, маці настаўнічае, дачка пайшла ў трэці клас.

Сказаў пра гэтае сваё хваляванне Калбенку. Ён адказаў зусім сур'ёзна:

— Жаніцца табе, Павел, прыйшла пара. Таму хвалююць дзеці.

— Якая жаніцьба! Канстанцін Панасавіч! Жартуеце?

Згадзіўся:

— Але, пакуль што не да жаніцьбы. Хоць калі нас пратрымаюць тут да канца вайны...

Не дагаварыў — што ў такім разе можа адбыцца. Паражэнімся?

Бачыў, як са з'яўленнем чужых дзяцей парторг пачаў сумаваць па ўласных. Раней гэта не адчувалася. Анечка Мураўёва стала яго лепшай сяброўкай. Далікатны Іван Іванавіч лічыць няёмкім, каб дачка была пры ім у штабе, хоць малая ўсё роўна ўвесь дзень круціцца там, яе апякалі Жэня, тэлефаністкі. Ішла вясёлая гульня: схаваць дзяўчынку ад бацькі, які выганяў яе з памяшкання штаба, ад строгага Тужнікава, з ім Анечка хітра і пацешна дражнілася. Праўда, у нампаліта хапала розуму не злаваць на дзіця. Аня знайшла схованку ў нас, у партбюро. Сцяміла, што Калбенку ніхто не адважваецца рабіць заўвагі, нават прыдзірлівы маёр. А нам з Канстанцінам Панасавічам хораша працавалася над дакладамі і данясеннямі ў палітаддзел, калі ў куточку на падлозе, смешна сапучы носікам ці ціхенька шэпчучы, размаўляючы з уяўнымі персанажамі, Анечка малявала амаль натуральныя зеніткі, страшныя нямецкія самалёты, з якіх, што гарох, сыпаліся пабітыя фашысты. У творчасці яе пераважалі тры тэмы: вайна, мама і кветкі. Калбенку захаплялі яе малюнкі. Ён нават загарэўся паказаць выстаўку іх на батарэях. Парторг захоўваў малюнкі на тэму «мама» і аддаваў Марыі Аляксееўне. Тая збянтэжана дзякавала.

— Бог мой! Як мне няёмка. Анечка ператварыла вас у няньку.

Начальнік штаба таксама бедаваў:

— Распесціце вы, Канстанцін Панасавіч, і вы, Павел, нам Анечку. Вы не ведаеце дзіцячай псіхалогіі. Яны — геніяльныя хітруны да пэўнага ўзросту.

Але менавіта дзіцячая хітрасць больш за ўсё і цешыла агрубелых салдат.

З-за Анечкі ў мяне адбыўся канфлікт з чалавекам, з якім я служыў з саракавога года на адной батарэі, некалі, можна сказаць, сябравалі — з Кумковым, начальнікам абозна-рэчавага забеспячэння.

Мураўёў, чалавек надзвычайнай сціпласці, лічыў, што збавіць дзяцей ад галадання, калі раздзеліць з імі свой паёк. Ён не мог папрасіць больш за тое, на што меў права. Разлічваў толькі на свой паёк ды на картачкі жонкі-настаўніцы. Але і Кузаеў і любы з нас лічыў бы сябе апошнім чалавекам, крыхаборам, каб не накармілі дзяцей, якія столькі галадалі. Безумоўна, афіцыйна на забеспячэнне не залічыш. Але камандзір праз мяне — мне даверыў — даў кухарам указанне:

наліваць начштаба так, каб хапіла на ўсю сям'ю. І тыя стараліся, Мураўёў нават пачаў пратэставаць. Ні Мар'я Аляксееўна, ні Валя ў штабной сталоўцы ні разу не з'явіліся. Снеданне яшчэ да пад'ёму прыносіў сам Іван Іванавіч, па абед і вячэру нязменна хадзіла Анечка.

І вось аднойчы сустрэў яе каля сталоўкі з кацялком.

— Узяла кашу, Анечка?

— Узяла,— сумна адказала дзяўчынка.

— Чакай! А голас чаму такі?

Вечар быў халодны, дажджлівы. Дзіця надзела старэнькае паліто старэйшай сястры. Яно было ёй да пят. І гэтая маленькая фігурка каля салдацкай кухні нагадала мне тых сірот,— колькі іх на нашай зямлі! — што чакаюць кавалачка хлеба, чарпака капусты. І хацелася крыкнуць на ўвесь свет: «Салдаты вялікай арміі! Раздзяліце з імі свой хлеб!»

— Анечка! Што здарылася?

Дзяўчынка ўтаропілася ў мокры пясок сцежкі і доўга не адказвала. Нарэшце прашаптала:

— Мала.

— Кашы мала?

Я заглянуў у кацялок. Тры лыжкі на дне. Порцыя, якую ў афіцэрскай зале накладвала сабе хіба што Пахрыцына. Невядома, для чаго доктар марыла сябе голадам. Злыя языкі кпілі: «У княгіні рыхтуецца».

— Хто даваў?

— Дзядзечка Кум.

Я выхапіў кацялок, кінуўся ў пустую сталоўку. Так, дзяжурны па кухні Кумкоў. І я адразу сцяміў, за што сябручок мой вырашыў так нізка, так брыдка адпомсціць Мураўёву: начштаба яшчэ ў Кандалакшы выявіў у Кума недахоп дзявочых сарочак і яшчэ чагось; пакруціўся ён тады, прасіў мяне падтрымаць яго пры разглядзе справы на партбюро; абмежаваліся вымовай.

У гнеўную ўспышку маю падліла масла сітуацыя, у якой я захапіў Кумкова; ён і кухар сядзелі за доўгім сталом і аплятаялі амерыканскі бекон.

Я схапіў Кума загрудкі.

— Табе кашы дзецям шкада? Сукін сын! Зладзюга! Наеў морду! Бекон ы жарэш!

Відаць, мы добра счапіліся б, каб не Анечка. Яна закрычала ззаду, спалохана, як дарослая:

— Паўлік, не трэба!

Кумкоў напісаў рапарт. Сцвярджаў, што ўдарыў яго. Запісалі б мне вымову пры спагадзе і спачуваннях усіх членаў партбюро, каб

кухар — сумленны салдат — не адмовіў, што я ўдарыў малодшага лейтэнанта Кумкова. Але і так Тужнікаў хапаўся за галаву і стагнаў:

— Да чаго дайшлі! Да чаго дажылі! Камсорг хапае свайго таварыша загрудкі!

Калбенка, праўда, адказаў яму:

— Ты не схапіў бы! А я схапіў бы! Ды і не так.

— Анархісты,— сказаў нампаліт, раптам супакоіўшыся; анархістамі ён называў нас не ўпершыню. Мяне гэта крыўдзіла, а Калбенка пасміхаўся.

Дык каго запрасіць у тэатр? Ванду! Лагічна. Ёй толькі што прысвоілі званне малодшага лейтэнанта. Мы цяпер роўныя па становішчу. Афіцэр запрасіў жанчыну-афіцэра. Натуральна. Нават строгаму маралісту Тужнікаву не будзе да чаго прычапіцца.

Ванду? Але гэтая бессаромная полька і без таго раззваніла на ўвесь дывізіён, што яна мая нявеста. Во язык! Слова не сказаў, якое дало б хоць якую-небудзь падставу, зачэпку. Руку не паціснуў так, як цiснуць дзяўчыне — з пяшчотай, хваляваннем.

Абвяшчэнне мяне жаніхом проста абражае: быццам узяла і прысвоіла, як бязмоўную рэч. Ды і загад камандзіра дывізіёна не выканаю: «Самую прыгожую. Паглядзім, які ў цябе густ». Маўляў, распараджэнне генерала. Дзіўны генерал! Хоча наладзіць конкурс прыгажунь?

А Ванда — падумаеш, прыгажуня! Але тут мне стала ніякавата: завошта ганю дзяўчыну, якой, напэўна, падабаюся? Яна па-свойму прыгожая. Ва ўсялякім разе, выглядам сваім не пасароміць мужчыну, няхай ён будзе хоць генерал. А вось бесцырымоннасцю, языком сваім можа пасароміць...

Шчасліваму Кузаеву можна жартаваць. А нампаліт можа да ўсяго прычапіцца. Камандзір не ведае, як ён выказаўся пра жонак. Дні праз тры пасля прыезду Кузаевай падаў рапарт камандзір трэцяй Саўчанка з просьбай дазволіць яму ўступіць у шлюб з малодшым сяржантам Мусаевай, прыклаў да рапарта афіцыйны дакумент аб разводзе з першай жонкай.

Я прынёс нампаліту сачынёнае мной і надрукаванае Жэняй на машынцы чарговае данясенне. Пісаць іх стала цяжка: няма баёў, мірная вучоба людзей, навучаных баявым агнём. Як гульня. Прыходзіцца сапраўды сачыняць — распісваць малазначныя факты.

Праглядаючы мае фантазіі, выкрэсліваючы высокія ноты, што рабіў рэдка, Тужнікаў працягнуў мне рапарт Саўчанкі:

— На, чытай. І зайздросці. Камандзір — за. Хутка я цябе назначу на новую пасаду.

Я ўстрапянуўся: што яшчэ за сюрпрыз? Ніякай іншай пасады мне не трэба. Гэтую люблю.

— Знаеш на якую?

— На якую?

— Начальнікам дзіцячых ясляў. Якраз для цябе служба. Слёзкі будзеш ім выціраць, як іх мамам выціраеш. Казачкі расказваць... Сачыняць умееш...

Тужнікаў нярэдка жартаваў грубавата, аднак я звыкся, не звяртаў увагі. Але гэты лсарт пакрыўдзіў ледзьве не да слёз. Як толькі стрымаўся, каб не адказаць непачціва. І на Калбенку пакрыўдзіўся: калі паскардзіўся яму, той зарагатаў. А што тут смешнае? Што нампаліт мае тую абразлівую думку пра свайго камсорга?

Магчыма, што менавіта тужнікаўскі жарцік настроіў мяне на пэўны пратэст пры вырашэнні нялёгкай задачы: каго запрасіць у тэатр? Не, не чарнавокую польку! А «купаную ў малацэ фінку» — так пра яе некалі сказаў сам Кузаеў. Ліку Іваніставу! Ніхто не скажа, што ў мяне дрэнны густ. Зайздросціць будуць. І няхай зайздросцяць! Калі пасля Тужнікаў і пажартуе нават так, як з яслямі,— ліха з ім, за такую дзяўчыну можна любы жарт стрываць.

Была яшчэ адна прычына. Тыдзень назад Ліка атрымала пісьмо ад бацькі. З якой радасцю яна паведаміла мне гэта! Па тэлефоне. Запрасіла да тэлефона. А калі прыйшоў на батарэю, проста каля дальнамера, у прысутнасці Данілава і Маслоўская, зусім па-сялянску, не саромеючыся, дастала пісьмо з-за пазухі і, пунсовая ад радасці, працягнула мне. Усхваляваўся я, як яна даражыць бацькавым пісьмом: носіць пры сабе, у самым патаемным месцы, у ранцы сярод рэчаў не пакінула. Я зразумеў, навошта яна так «публічна» паказала мне пісьмо,— каб я сказаў Зубраву. З капітанам у мяне добрыя адносіны. Ён любіў гісторыю, і я любіў, і мы як бы спаборнічалі, хто ведае больш гістарычных фактаў. Мы спрачаліся, тлумачачы кожны па-свойму гэтыя факты. Спрэчкі нашы любіў цікаўны Кузаеў, сам падбіваў на іх за абедам ці вячэрай: «Штось гісторыкі маўчаць» ці «А што сказаў бы на гэта Кутузаў? Ану, гісторыкі!»

У спрэчцы я нярэдка заклікаў у арбітры эрудыта Шахоўскага. Зубраў не прызнаваў яго аўтарытэту: «Немарксісцкія ў яго трактоўкі».

«Ён жа наш інстытут скончыў».

«Уласаў нашу ваенную акадэмію канчаў».

Параўнанні накшталт гэтага, якія Зубраў кідаў як бы між іншым, дзіўна бянтэжылі, я не ведаў, што адказваць на іх. Гэта — не колькасць і не пазіцыі войск Пятра Першага і Карла пад Палтавай, пра што мы маглі спрачацца да хрыпаты.

Зубраў мог шмат чым збянтэжыць.

«Пра што дзяўчаты яшчэ гавораць, акрамя таго, пра што ты пішаш у данясеннях?»

«Пра жаніхоў».

Без здзіўлення, без незадавальнення — як бы жартуючы, «Будзеш дыпламатам. Толькі не савецкім».

Што абухам па галаве.

Рэакцыя капітана на маё, безумоўна, радаснае паведамленне, што Іваністава атрымала пісьмо ад бацькі і што ён — палкоўнік інжынерных войск на Першым Беларускім, таксама збянтэжыла і ашаламіла: «І ты?! Глядзі ты, канспіратар! Ад мяне схаваўся. Абскачы ахвотнікаў клубнічкі. Жадаю поспеху».

«У чым?»

«Не прыкідвайся ягняткам, Шыянок. У гэтай справе ўсе мы — каты. Не пасаромі род мужчынскі. Фіначка — малпачка. Іграе недачэпу. Але гэта ненадоўга».

Абразіўся я — за Ліку, за сябе. Але абурыцца не здолеў. І пасля, можа, тры дні хадзіў як аплёваны. Брыдкі быў сам сабе.

Магчыма, што і зубраўскі жарт паўплываў на мой выбар — каго запрасіць у тэатр.

Безумоўна, спачатку я заглянуў да камандзіра батарэі. Данілаў здзівіўся, што я прыйшоў у канцы дня. Сам ён збіраўся на КП дывізіёна: Кузаеў пакідаў яго за сябе.

— Што цябе прынесла?

— Забяру ў цябе байца. На вечар.

— Куды?

— У тэатр.

— У тэатр?! — не, Данілаў не здзівіўся, ён неяк адразу падазрона насцярожыўся: — Каго табе даць?

— Я сам выбраў.

— Сам? Каго?

— Іваніставу.

— Ліку?

З незразумелай рэўнасцю я падумаў: «Для яго яна — Ліка. О, Саша! Зараз ты будзеш пярэчыць. Але я апярэджу цябе».

— Камандзір загадаў узяць самую прыгожую дзяўчыну.

— Ты лічыш яе самай прыгожай?

Голас дзіўна сцішаны — ледзьве не да шэпту, але ў сцішанасці я злавіў нешта незнаёмае, чаго ў самага галасістага камандзіра, спевака, скакуна яшчэ не чуў. Што гэта? Стоеная пагроза? Цыганскі гнеў?

— А ты не лічыш?

У прыцемках барачнага пакоя ўгледзеўся ў ягоны твар і... здаецца, адступіў, спалоханы. Вочы яго гарэлі, што ў начнога драпежніка, а смуглыя скулы няроўна і непрыгожа напяліся, быццам ён набіў рот неразжаванымі яблыкамі.

— Для мяне яна — роўная ўсім іншым. Баец! Нумар дальнамера!

Хлусіш, цыган! Чаму ты захадзіў па цесным пакойчыку, як тыгр у клетцы? І раптам злосна вылаяўся. Нечаканая грубая лаянка яго здзівіла і ашаламіла.

— Ты на каго так?

— На каго? На каго? — Данілаў, што сляпы танк, рушыў на мяне, гатовы, здаецца, збіць з ног.— На вас, штабных пацукоў! Даваяваліся! Абабіліся! Па тэатрах разгульваеце!

Першы раз за ўсю вайну выпала такое шчасце — схадзіць у тэатр, і — ён, разумны афіцэр, пратэстуе. Гэта мяне таксама ўзлавала.

— Разгульваем? Ха-ха! Хто калі ў ім быў — у тэатры? Думай, што гаворыш, Саша. Людзі пачуюць.

Але словы мае не ўтаймавалі яго, а, бадай, яшчэ больш узлавалі. Праўда, голас яго са звонкага, камандзірскага, зрабіўся глухім, як праз сцяну, але не менш гнеўным:

— Твой «стрэлачнік»... твойванючы князь! — ну, гэта ўжо занадта! — І гэты... барабаншчык, мараліст...— сцёбнуў і па Тужнікаву.— І правадыр твой... Хто з вас падумаў, каб запрасіць хоць аднаго камандзіра батарэі, узвода? Ніводзін не запрошаны. Ніводзін! Я званіў Саўчанку, Антонаву... А штаб увесь ідзе!

«Няўжо ты разышоўся з-за таго, што не запрасілі цябе? — падумаў я.— Не! Не мог ты з-за гэтага. Не круці, цыган!»

— Ды яшчэ дай ім прыгажэйшых дзяўчат...

«Вось гэта — справа іншая. Выдаеш ты сябе, Данілаў».

— А я захоўвай поўную баявую гатоўнасць...

— З-за адсутнасці дальнамершчыкі ў асеннюю ноч батарэя страціць баявую гатоўнасць?

Данілаў што спатыкнуўся, спыніўся, угледзеўся ў мяне. Паслаў далёка-далёка...

— Пайшоў ты!.. Мяне пакідаюць за камандзіра дывізіёна...

— Не бойся. Налёту не будзе. У такую хмарную ноч...

— Я баюся? Я баюся?! — скрыгатнуў зубамі.— Ды вы ўсе ў штаны накладзяце, пакуль я здрыгануся хоць раз. Стратэгі дзярмовыя! Не будзе! Маеш даныя са стаўкі Гітлера? За выхад Фінляндыі з вайны немцы шалеюць, гатовы ўкусіць дзе хочаш. У любую ноч. ДБ могуць прыйсці з Прыбалтыкі, з самой Германіі...

«Баішся адказнасці? Не. І ў гэта не веру. У любой іншай сітуацыі застацца за камандзіра дывізіёна ты лічыў бы гонарам. Хлопец ты сябелюбівы. Усётакі — Ліка».

Пераконанасць у гэтай здагадцы ўстрывожыла мяне. Незразумела чаму, але стала боязна і за Ліку і за яго, Алеку: крый божа, закіпіць у яго цыганская кроў — наробіць бяды, як бацька яго. Падумаў нават аб тым, каб адмовіцца ад запрашэння Лікі. Пераключуся на Таню Балашову. Прыгожанькая ж кнопачка. І вясёленькая. Можна толькі ўявіць, колькі дам ёй радасці. А колькі яна пасля выдумае самых неверагодных гісторый і аб тэатры і... аб маіх адносінах да яе! Але апошняе якраз і стрымала: Таня можа насачыняць такога, што не абярэшся пасля, як ад дзядоўніку.

Ды і Данілаў як нечакана ўзарваўся, так нечакана і сціх — вытхнуўся, што летні віхор, які слупам узнімае ў неба зямлю, выкручвае збажыну, перакульвае цялят, раскідвае гусей, але міг — і нічога няма, нават пылу, куды што дзелася.

Данілаў моўчкі надзеў шынель, падперазаў рэмень з пісталетам. Маю прысутнасць як бы ігнараваў.

— Дык можна... узяць Іваніставу?

Буркнуў:

— Ты ж маеш загад камандзіра дывізіёна.

— Дзякую.

Павярнуўся да мяне, твар яго ўзрадаваў: нармальны твар — прыгожы, вясёлы.

— І заўвага табе, таварыш камсорг. У тэатр не бяруць, у тэатр дзяўчыну запрашаюць.

— Дзякую, Саша. Ты гжэчны кавалер, як кажа Ванда Жмур. Між іншым, гэта яна пра цябе так сказала. Мяне яна называе беларускім лапцем.

— Яна любіць цябе.

— Ты ўпэўнены, што гэта любоў?

— Ванда сама сказала мне.

— Рэкламшчыца!

— Скажы, Павел: гэта — выдумка Шахоўскага?

— З чым?

— З запрашэннем... прыгажэйшай...

— Не. Шчыра — гэта Кузаеў. Пасля прыезду жонкі ён добры.

— Добры,— скулы ў Данілава зноў напяліся, і я паспяшаўся развітацца: не чапай ліха, пакуль ціха.

Хоць часу ў нас яшчэ хапала і дарога недалёкая,— ад батарэі да тэатра кіламетры тры ўсяго,— мы бадай што беглі. Такі тэмп задала

Ліка. Але яна ж і задыхалася. Адышка яе не падабалася: ці здаровае ў дзяўчыны сэрца? Прызыўныя камісіі не вельмі ўслухоўваліся. Ды і Пахрыцына магла не звярнуць увагі, калі радавая не паскардзілася. Пачысціць дальнамер — нагрузка невялікая. Снарады, дзякуй богу, дзяўчатам не прыходзіцца грузіць, з такімі стрэльбамі на кожнай батарэі хопіць баявога запасу на год.

— Што вы запыхаліся так, Ліка?

Яна спынілася, у вячэрнім паўзмроку твар яе здаўся ненатуральна белым.

— Гэта ад шчасця, таварыш... Гэта ад шчасця, Павел.

Я сам, як толькі выйшлі за пазіцыю батарэі, папрасіў яе звяртацца ў гэты тэатральны вечар пацывільнаму.

— Вам цяжка ўявіць, якая я шчаслівая. Пісьмо ад бацькі... Падпісаны мір. Мір! Павел! Якое шчасце! Якое шчасце!

Мне не вельмі падабалася такая яе радасць ад таго, што з Фінляндыяй падпісана перамір'е. У афіцэрскай зале сталоўкі я схіляўся да думкі тых, хто лічыў, што залішне ганарова фіны выйшлі з вайны, беспакарана. Афіцэры, не ведаючы дэталяў пагаднення, выказваліся, што варта было б патрабаваць суда над ваенным урадам.

— І я іду ў тэатр! Божа мой! Я ледзь не самлела, калі вы запрасілі. Я спалохалася, што гэта жарт. Злосны. Прабачце.

Спалох яе я ўгледзеў там, у казарме.

Была гадзіна асабістага часу. Я ведаў, дзяўчаты ў гэты час мыюць галовы, бялізну, шыюць, цыруюць панчохі, самае слабае ў дзявочым абмундзіраванні; Кум стогне: «Гараць яны ў іх, ці што? Да ануч трэба вярнуцца». Няшчасны анучнік!

Я пастукаў.

— Айн мамент! — крыкнула Таня Балашова панямецку. І тут жа прыадчыніла дзверы, напаўраздзетая — у адным ліфчыку, у панталонах. Войкнула, ляпнула дзвярыма, піскнула:

— Дзяўчаткі! Паўлік!

Зашамацелі, зашаркалі.

Адна мінута — і:

— Можна!

Я ўвайшоў.

Дзяўчаты стаялі кожная каля свайго ложка. У ботах на босыя ногі. Не ва ўсіх, праўда, гімнасцёркі зашпілены, рамяні падпяразаны. Адна Таня ў ботах, у спадніцы, але без гімнасцёркі, трымала яе ў руках, прыкрываючы грудзі. Рабіла, хітрунння, выгляд, што не паспела надзець. Але яўна знарок не паспела. На Таню нават Данілаў улетку скардзіўся: «Дазволіў пазагараць. Усе пахаваліся. А яна разлеглася

перад батарэяй і ліфчык скінула, бессаромніца. Ад такога відовішча любы хлопец завые».

Старэйшая ў пакоі — санінструктар Валерыя Грэкава. Яна паспрабавала далажыць:

— Таварыш малодшы лейтэнант! Разлікі прыбора...

— Вольна, вольна. Займайцеся сваімі справамі. Палітінфармацыі не будзе.

— Шкада. Мы любім вас слухаць! — сказала тая ж Таня, маленькая падхалімка, якая, аднак, неаднойчы ўцякала ад палітінфармацый.

У мяне заняло дыханне ад незвычайнасці місіі. Даўно ўжо я так не хваляваўся. Як запрасіць? Як звярнуцца? Можа, выклікаць на вуліцу? Маўляў, камбат выклікае. Ганебная баязлівасць. Ды і бачыць яны маглі праз акно, што Данілаў пайшоў у штаб.

Пракаўтнуўшы паветра, я ступіў да Лікі, самай акуратнай сярод дзяўчат,— зашпілена, падперазана.

— Ліка, я запрашаю вас у тэатр.

Ахнулі, па-мойму, усе — у адзін голас. Ліка пабялела, А Таня выскачыла наперад, стала паміж ёй і мной і сказала бесцырымонна, фамільярна, настойліва:

— Запрасіце мяне, Паўлік.

— Яфрэйтар Балашова! — але тут жа зразумеў, што недарэчна гэтак: да адной — Ліка, да другой — строгасць, з Таняй мы з сорак другога служым, пуд солі з'елі, падражніцца яна ўмее, але я ведаў, што не адзін нахабнік па мордзе дастаў ад яе.— Таня, я ж ужо запрасіў Ліку.— Тады яна апусціла гімнасцёрку і выставіла свае пругкія грудкі — як фігі паказала, адразу дзве.

...На гарадской вуліцы недалёка ад тэатра Ліка зноў спынілася. Зноў яна цяжка дыхала.

— Вы знаеце, ад чаго я яшчэ хвалююся. У мяне ёсць просьба да вас. Але я баюся... я баюся, што вы адмовіце. Не адмовіце?

— Сёння я вам ні ў чым не адмоўлю.

Падвяла мяне галантнасць!

— Дазвольце мне зайсці на кватэру і... надзець сукенку. У тэатр жа ідзём! У тэатр! І я такая шчаслівая. Я хачу быць у... той сукенцы... Я буду прыгожая ў ёй.

Вось дык просьба! Азадачыла. Чаго хочаш чакаў, а пра такое не падумаў. Маю я права? Што скажуць Кузаеў, Тужнікаў?

Яна сцішылася — зусім не дыхае. Стаілася. А я, відаць, доўга маўчаў.

— Вы ж паабяцалі, Павел.

Ах, было не было. Чаго не зробіш для жанчыны! — часта паўтараў Калбенка, сцвярджаючы, што гэта — з Бальзака. Не з'ядуць жа мяне за тое, што я дазволю дзяўчыне на адзін вечар, у тэатр, змяніць форму на сукенку. Падумаеш, крамола!

— А гэта далёка? Паспеем?

— Во тут,— паказала Ліка на трохпавярховы дом, каля якога мы стаялі.

— Тут ваша кватэра? І хто ў ёй?

— Нікога. Ключ — у суседкі. Калі вернецца бацька...

Я схапіўся за саломінку:

— Сукенку пад шынель?

— Я вазьму накідку. Пачакайце. Я — у адзін міг.

Пырхнула ў пад'езд.

А мяне ахапіў страх. Узнікла недарэчнае адчуванне, што Ліка дэзерціравала. І я буду за гэта адказваць. Ды не ж! Не! Зараз яна вернецца! Але ўсё ж гэта ўнутранае дэзерцірства — ад формы, як бы знявага яе, формы чырвонаармейскай, якую я столькі славіў. Адным словам, слупок майго ўзнёслага настрою ўпаў да нуля. Сапраўды, падвяла цябе галантнасць, таварыш камсорг.

А выскачыла яна з дзвярэй сапраўды вельмі хутка, мінут праз пятнаццаць,— і я зіхнуў ад здзіўлення і захаплення. Згусцілася ўжо цемра асенняга вечара, аднак я разгледзеў, што перада мной з'явіўся цуд. Да таго не бачыў я той яе прыгажосці, якую адразу ўбачыў Калбенка і іншыя. Дзяўчына дк дзяўчына, у гімнасцёрцы, у спадніцы, у ботах — як усе. А тут — нешта незвычайнае. З'явілася яна без пілоткі, і валасы колеру лёну, здавалася, выпраменьвалі святло. Ажно на вуліцы пасвятлела. Ад валасоў і ад белай накідкі. Дзіўная накідка — што панча без рукавоў, з тонкага сукна. (Пасля яна растлумачыла, што ткуць яго ў Ісландыі). А з-пад накідкі — доўгая цёмная сукенка. Па драўляным тратуары ляснулі тонкія абцасікі.

«Хутка ж яна «дэзерціравала». Калі паспела?» — ужо без усялякага страху, весела падумаў я.

— Вось цяпер я тэатральная.

— Вы дэмаскуеце ўвесь горад, Ліка: Вы — што ліхтар на тысячу свячэй.

Яна засмяялася, выдаючы звыкласць да кампліментаў.

Тэатральнае фае асляпіла святлом і аглушыла музыкай. Іграў ваенны аркестр. Танцавалі. Афіцэры і жанчыны. Кіраўнікі рэспублікі і начальнік гарнізона не проста адкрывалі тэатр, яны наладзілі свята пераможцаў — тых, хто выбіў з вайны яшчэ аднаго саюзніка фашысцкай Германіі. У буфеце можна было купіць шклянку партвейну і пі-

рожнае з жытнёвай мукі — без картачак (я, безумоўна, не пакаштаваў гэтых прысмакаў, не да піражнага мне было. А Ліку пачаставаў Шахоўскі).

Каб не прабівацца праз кола тых, што танцавалі, мы з Лікай спыніліся каля дзвярэй.

Сціхла музыка. Людзі адхлынулі ў глыбіню фае. Але тут жа я ўбачыў... не, хутчэй адчуў усёй істотай сваёй, што амаль усе позіркі, з усіх бакоў, скрыжаваліся на нас, што прамяні пражэктараў на злоўленай цэлі. А тут яшчэ Ліка сваім артыстычным жэстам кінула мне на руку сваю незвычайную накідку і сказала, здалося мне, залішне гучна:

— Аднясіце ў гардэроб.

Але я павярнуўся да яе і агледзеў з той жа цікавасцю, з якой глядзелі на яе — не на мяне ж! — напэўна усе. А потым я агледзеў іншых жанчын і адразу адзначыў розніцу паміж імі і... Лікай. Ва ўбранні. Нямнога жанчын было ў цывільным. Нават знаёмыя ўрачы і сёстры са шпіталя, што размяіпчаўся побач з нашай трэцяй батарэяй. Але ні ў адной з іх не было такой шыкоўнай сукенкі, як на маёй напарніцы. Вішнёвы аксаміт. А пашыта як! Мабыць, лепшай краўчыхай. Тыя, што вярнуліся з эвакуацыі, былі адзеты ўвогуле бедна, у даваенныя паношаныя сукенкі, спадніцы, кофтачкі, абуты ў стаптаныя чаравікі. На ўрачыхах былі новыя сукенкі, з багатай трафейнай тканіны, але шылі яны гэтыя сукенкі яўна самі — займаліся самадзейнасцю; ваенныя майстэрні наўрад ці бралі такія заказы. А вось на афіцэрах, у тым ліку і на жанчынах, кіцелі, як кажуць, з іголачкі. Ззялі золатам парадныя пагоны.

Ды нядоўга я разглядаў публіку — міг, бо раптам сустрэў позірк чалавека, які глядзеў на мяне і глядзеў зусім не так, як іншыя, незнаёмыя. Тужнікава. Здалося, твар яго пачарнеў — што хмара навальнічная. Але я не без зларадынасці падумаў: «Не, тут не грымнеш». Падумаў, бадай, трохі пазней, калі ўбачыў другога свайго афіцэра — Калбенку. Канстанцін Панасавіч весела маргаў мне, паказаў вялікі палец, яго яўна раздзьмувала ад смеху.

Не, грымнула. З другога боку — строгім голасам Кузаева:

— Шыянок!

Я перакінуў накідку ў левую руку, збянтэжаны няведаннем, як у такім публічным месцы падысці да камандзіра. Казыраць? Я ж у поўнай форме, у фуражцы,

У мяне памлелі ногі ад страху, што Кузаеў можа распекчы пры людзях. Не, не людзей я спалохаўся. Сораму перад Лікай. Тут яна не

радавая, не падначаленая. Запрошаная мной ў тэатр дзяўчына. Я хутка падышоў да камандзіра. Не казырнуў.

— Слухаю, таварыш маёр.

— Што гэта такое? — прыглушана спытаў ён.

— Мы ішлі міма яе дома. Яна папрасіла дазволу забегчы і... пераадзелася...

— А ты спрытнюга, камсорг. Ты глядзі — паспеў пераадзець. Як вам падабаецца? — звярнуўся Кузаеў да жанчын — да сваёй жонкі і да Марыі Аляксееўцы Мураўёвай.— Трэба ўмець.

Але жанчыны жарт не падтрымалі — у іх выцягнуліся твары. А мяне абдало гарачынёй: такое непрыстойнае абразлівае падазрэнне камандзіра пры... настаўніцы, маці дачок. І адказаць няма чаго. Як апраўдаешся?

— Многа ў вас такіх прыгажунь? — зноў-такі без ценю ўсмешкі спытала ў мужа Антаніна Фёдараўна.— Таму ты і не хацеў, каб я прыязджала.

— Ну, што ты, Тоня! — спалохаўся Кузаеў.

Але мне ад гэтага не стала лягчэй. Калі яшчэ і жонка падалье масла — няскора патухне агонь, і апячэ ён мяне: камандзір пастараецца паказаць усю сваю строгасць у дачыненні да маралі ў дывізіёне. Ды яшчэ маючы такога саюзніка, як Тужнікаў. Нялёгка будзе «хроснаму бацьку» майму абараняць мяне. Двух маралістаў, якія трымаюць уладу, не пераканаць. Вось табе — і запрасі самую прыгожую дзяўчыну. Зрабіў мне ласку!

— Дазволь чалавеку здаць у гардэроб адзенне,— строга сказала мужу Антаніна.

— Ідзі, ідзі, Паўлік,— але такая ўедлівая дабрыня паласнула, што шабля. Аднак адышоў я не па-вайсковаму, са зларадсасцю падумаўшы:

«Не буду я вам у тэатры стукаць абцасамі і выкручвацца на адной назе».

Ліка стаяла ў адзіноце. Аднак не разгубленая. Адчувала, што мужчыны любуюцца ёй, і ўмела, як казалі ў даўнія часы, па-свецку пазіраваць. Яўна адчувала сваю перавагу над жанчынамі. Такіх маладых, як яна, было нямнога — колькі сясцёр са шпіталя ды, можа, сакратаркі дзяржаўных устаноў. Але ніводная з іх не мела такой элегантнай сукенкі — тэатральнай.

Мне нават стала трохі страшна. А раптам нехта скажа, што сукенка гэта пашыта ў Хельсінкі. Тады жанчыны, якія пакуль што толькі раўнуюць, узненавідзяць яе: во дзе ты красавалася, пакуль мы хавалі блізкіх, марнелі, галадалі!

Але хто можа сказаць? Жэня Ігнацьева? Каштан. Пахрыцына? А больш з нашых нікога няма. Сказаць такое магла хіба Глаша Васіленкава. Ды пісьмо Глаша прыслала ажно з Калініна, са шпіталя Маслоўскаму. Ён прачытаў мне не ўсё, частку пісьма: тайна яшчэ больш зблізіла нас. Хоць наўрад ці было іх каханне тайнай для праніклівых дзяўчат, для Тані Балашовай, напрыклад; чуў, як падкалвала тэлефаністачка камандзіра ПУАЗО. Вясёлае пісьмо напісала Глаша, пра раненне сваё з гумарам пісала. Разумная дзяўчына.

«Як яна магла цягаць за такія косы? Ох, бабы!» — падумаў я, ідучы ад гардэроба да Лікі, любуючыся ёю ў ззянні святла. Пільнае вока «дзядзькі Косці» адразу ўгледзела гэтую прыгажосць. А я, сухар, тры месяцы не бачыў.

Абразлівы намёк Кузаева выбіў з каляі ненадоўга. З'явілася нейкая апантаная харобрасць. Нікога не баюся! Ні Тужнікава. Ні Кузаева. Ты мне, жартаўнік, загадаў прывесці ў тэатр самую прыгожую дзяўчыну, і я табе паказаў усю яе прыгажосць, якой ты, магчыма, таксама не бачыў. Паглядзі. Палюбуйся! Няхай жонка выскубе твае пасівелыя валасы, бісаў сын, як кажа Калбенка.

Але не паспеў я падысці да Лікі, як аркестр зайграў вальс. І да яе, што на «мігу», падляцеў палкоўнік у лётнай форме. Пакланіўся. Яна ўскінула яму рукі на пагоны. Яны першыя выйшлі на круг. І ўсе іншыя, каму хацелася патанцаваць, не адразу далучыліся да іх, нейкую хвіліну любаваліся бліскз?чай парай.

Кузаеў не танцаваў. Жонку яго запрасіў Шахоўскі. Марыя Аляксееўна таксама не танцавала, і я наблізіўся да іх — во асмялеў! Мабыць, жадаючы загладзіць няёмкасць ад слоў Кузаева і абараніць мяне перад ім, далікатная настаўніца сказала:

— Прыгожая дзяўчына. Кім яна ў вас?

— Дзе яна ў нас, камсорг? — ужо без строгасці спытаў камандзір, і я ўзрадаваўся: «Праўда, ты не звярнуў на яе ўвагу».

— Першы нумар дальнамера ў Данілава.

— Ага, так. Помню. Гэта тая, што вучылася ў Хельсінкі? Фінская настаўніца? Ваша калега, Марыя Аляксееўна.

Я пахаладзеў: выдасць камандзір паходжанне Лікінай сукенкі, яе ўменне так грацыёзна танцаваць.

Не, ніхто не пачуў. А Мураўёва сказала, уздыхнуўшы:

— У горадзе не хапае настаўнікаў.

Кузаеў засмяяўся:

— Ох, Марыя Аляксееўна! Вас бы — у наркомы асветы. Не ўводзьце ў вушы гарадскому начальству, вунь той даўгі танцор — сакратар гаркома, што прыгажуня наша — настаўніца. У мяне вялікі

недакамплект. Дальнамершчыка няпроста навучыць. А хто знае, дзе мы будзем заўтра.

— Не палохайце нас, Дзмітрый Васільевіч. Мы з Антанінай дамовіліся: калі вас кінуць у самае пекла, мы паедзем з вамі.

— З дзецьмі?

Марыя Аляксееўна пазмрачнела.

— Нам няма куды дзявацца.

Скончыўся вальс. Ды аркестр зайграў новы танец пасля вельмі кароткай паўзы, не даўшы танцорам аддыхацца. Але ў гэты раз першы да Лікі падляцеў капітан Шахоўскі. І яна расквітнела ад усмешкі — свой чалавек! Шахоўскі танцаваў непараўнальна лепш за лётчыка. Артыстычна танцаваў. Таму любаванне першай парай зацягнулася. Той жа палкоўнік запляскаў ім: маўляў, уступаю пальму першынства.

— Які талент,— сказала Антаніна Фёдараўна.

— У Пятра — гэта ад дзядоў і прадзедаў. Чым ім больш было займацца! — трохі, бадай, раўніва сказаў Тужнікаў.—Маім бацькам і мне, мужыку, не да танцаў было, калі хлеба не хапала,— хоць ён нядрэнна танцаваў і запрасіў жонку камандзіра.

— А вы не танцуеце, таварыш маёр? — спытаў я ў Кузаева не без хітрасці: трэба неяк улагодзіць.

Ён адказаў не адразу, і ў мяне зноў ёкнула сэрца: злуе. Не, успомніў чалавек сваё жыццё:

— Каму было не да танцаў, дык гэта мне.

І я падумаў: ненармальна, што мы не ведаем падрабязнай біяграфіі свайго камандзіра. Да вайны быў начальнікам станцыі і — усё. А да таго? З якой ён сям'і? Хто яго бацькі? Увогуле гаваркі чалавек, ён ніколі не расказваў пра сваё маленства, маладосць. Арыстакрат Шахоўскі не баяўся і не саромеўся расказваць пра сваіх продкаў, што былі военачальнікамі ў Пятра Першага, ён як падражніваў Зубрава: часцей за ўсё пры ім пачынаў успамінаць. Між іншым, не толькі Зубраў, але і іншыя афіцэры, той жа Данілаў, напрыклад, прымалі яго расказы непрыязна. «Чым хваліцца? На яго месцы я маўчаў бы». Толькі я слухаў яго з цікавасцю, здавалася — гісторыя паўстае ў жывым абліччы. Спрабаваў нават выкарыстоўваць продкаў капітана для патрыятычнага выхавання байцоў. А чаму не? У вайне з фашызмам уваскрэсла айчынная гісторыя. Вунь як узняты Неўскі, Сувораў, Кутузаў, Нахімаў! А ўсе — князі, графы. Але Калбенка параіў мне не рабіць гэтага — не чапаць продкаў Шахоўскага, бо невядома, ці яго продак дзекабрыст: Шахоўскіх нямала і ў Расіі, і на Украіне, і ў

Беларусі. Звычайных сялян. Зразумеў я, што не надта верыць парторг у арыстакратычнае паходжанне чалавека, які гэтым пахваляецца.

«На д'ябла мне яго паходжанне. З мяне даволі, што ён талковы інлсынер. Схему ПУАЗО вывучыў што свае пяць пальцаў. Лепшы гарматны майстар. Любы матор адрамантуе. Няхай бы гэтым пахваляўся. Дык не, на казкі яго цягне. Ды прыглядзься, як ён расказвае. Глохне, што цецярук. Нікога не чуе. Сачыніцель! Я ведаў аднаго паэта. Той як пачне свае вершы чытаць — нічым не спыніш. П'янюга, а тут на пітво нават забывае. Сачыніцельства — гэта наркоз, форма шызафрэніі».

Харобрасць харобрасцю, але жыла ўсё ж боязь, што пападзе мне за Лікіна пераадзяванне, і я, грэшны, трохі хітраваў — падлізваўся, каб утаймаваць камандзірскую злосць.

— Расказалі б вы, таварыш маёр, маладым байцам пра сваё жыццё. Няхай бы ведалі біяграфію свайго камандзіра.

Кузаеў як спалохаўся. Утаропіў на мяне пільны позірк, быццам хацеў разгледзець — шчыра я сказаў ці не. Нядобра ўсміхнуўся.

— У цябе, Шыянок, раскрываюцца ўсё новыя і новыя таленты. Недарэмна Жмур называе цябе прафесарам. Чаму не запрасіў яе?

— Вы яе загадалі: прыгажэйшую...

— Хітругай! Ванда табе пакалка, хто прыгажэйшы — яна ці гэтая...

Сціх аркестр. Жанчыны абмахваліся хусцінкамі. Ліка ў спешцы, відаць, забылася, і Шахоўскі непрыкметна паклаў ёй у руку сваю, бялюткую. Для каго непрыкметна? Я ж угледзеў. А хтось сачыў яшчэ больш пільна.

Капітан не адступаў ад Лікі, каб нехта іншы не перахапіў яе для новага танца. Калі ён пачаўся, танец, полька, да нас падышла Любоў Сяргееўна і... запрасіла мяне.

Разгубіўся я. Знайшла танцора! Танцаваў я толькі пад балалайку на вясковай вуліцы, увечары. Нават у тэхнікуме не заўсёды адважваўся. Ды і калі гэта было! Сто гадоў назад. А тут столькі святла і столькі людзей. Палкоўнікі, генералы. І танцоры — такія майстры, як Шахоўскі, як Ліка. Пачаў аднеквацца. Але Кузаеў піхнуў мяне ў плячо:

— Ідзі, ідзі, кавалер! — сказаў да крыўднага насмешліва.

Танцавалі мы пагана. Каб доктар была хоць у сукенцы, а то — у новым, непрыцёртым кіцелі, з новымі срэбранымі пагонамі, над зорачкамі якіх змяя п'е з кубка. Нават эмблема гэтая неяк дзіўна скоўвала. Я не ведаў, як абняць напарніцу. Мы наступалі адзін аднаму на ногі, штурхалі іншых. Хутка я сцяміў, што танцуем мы так няўважліва

яшчэ і таму, што і яна і я ловім вачамі пару, якая не шоргае нагамі па падлозе, як мы, а, здаецца, лётае ў паветры.

Пасаромленыя, выйшлі з круга каля дзвярэй. І тут, калі мы засталіся як бы адзін на адзін, Любоў Сяргееўна раздражнёна спытала:

— Навошта вы прывялі гэтую фінскую ведзьму?

Я пакрыўдзіўся за Ліку: у Глашы былі падставы ненавідзець яе. За Кацю. А ў гэтай — што?

— Ну, якая яна ведзьма, Любоў Сяргееўна! Прывабная дзяўчына.

— Ды ўжо ж — прывабіла вас.

— Мяне? Чаму вы так думаеце? Мне загадаў камандзір.

— Кузаеў? Кузаеў загадаў прывесці яе? — яна драпежна натапырылася. Ведаючы яе адносіны з Шахоўскім, я зразумеў, што жанчына запылала рэўнасцю. І тут жа зразумеў, што зрабіў нядобра, проста нізка, зваліўшы на камандзіра, не растлумачыўшы, як у сапраўднасці сказаў ён. Зразумеў, калі Пахрыцына злосна кінула:

— Зводнік! — і пайшла ад мяне.

Зноў я ўліп. Зноў стала трывожна на душы. Але тут жа ўзлаваўся: «Ды ну вас да ліха, баб'ё! Медыцыну вывучыла, да капітана дарасла, а раўнуеш, як вясковая баба,— і нават пазлараднічаў: — А чаго ты хацела? Каб такі прыгажун танцаваў з табой, васпаватай няўмекай? Ты ж танцуеш як карова на лёдзе».

Спектакль пачаўся са спазненнем на гадзіну. Не ведаю, ці то артысты не былі гатовы — першы спектакль, свята для іх, свята для гледачоў, — ці так планавалася, ці, можа, нават праз Ліку, праз захапленне ёй, бо на адзін танец яе запрасіў сам генерал, начальнік гарнізона. Між іншым, такі партнёр мяне ўстрывожыў: калі хочаш, забярэ дзяўчыну ў свой штаб. Для нас гэта — сур'ёзная страта. «Дальнамерычыка няпроста навучыць ».

Месцы нашы з Лікай аказаліся ў перадапошнім радзе, пад балконам, і гэта мяне ўзрадавала. Старшых афіцэраў блізка нікога няма. Навокал простыя людзі, пераважна жанчыны, цывільныя.

Пагасла ў зале святло, загучала вясёлая аперэтачная музыка. Але я слухаў толькі Лікіна цяжкаватае дыханне. І мне здалося, што мы апынуліся ў адзіноце, як у полі — паміж батарэяй і горадам. І гэтае адчуванне незвычайна ўсхвалявала.

Зала смяялася з жартаў Яшкі-артылерыста, Папандапулы. Я не смяяўся. І Ліка не смяялася.

Ліцы, напэўна, зрабілася холадна пасля танцаў, і яна прытулілася плячом да майго пляча. Я стаіў дыханне. Кружылася галава. Папрацавала яна ў танцах, што на выгрузцы снарадаў, але я адчуваў

не пах поту, а водар мёду і суніц. Толькі пасля, дома, прыгадваючы ў тую бяссонную ноч усе дэталі, я сцяміў, што смачна так пахла хусцінка, якую падарыў ёй Шахоўскі,— адмысловымі тонкімі духамі, відаць, трафейнымі: у арыстакрата ўсё адмысловае. Ліка часта падносіла хустачку да вуснаў — як цалавала. Відаць, ёй падабаліся духі. Таксама рабілася смешна, што я мала што запомніў з «Вяселля ў Малінаўцы», нават не разабраўся, каторая з актрыс Калініна. (Незадаволены маім расказам, Лёва Фрэнкель пусціў плётку, што я праспаў спектакль).

Не, у такім стане не засынаюць. У галаве маёй круціліся радкі з «Калевалы», якія Ліка прачытала мне па дарозе ў тэатр, зноў здзівіўшыся, што я не чытаў неўміручага эпасу; я спяваў іх, цяжкія, празаічныя, на мелодыю арыёза Ярыны.

А на другі дзень здзекліва дакараў сябе. Бяскрыўдна пасміхаўся з мяне Калбенка. Мудрэц! Штабныя паехалі на «студэбекеры». А ён пайшоў за намі. Хацеў адгарадзіць ад непрыстойных домыслаў? Стаяў разам са мной на вуліцы, пакуль Ліка ў кватэры мяняла адзенне. Вайсковую форму яна апранала даўжэй, чым тэатральную сукенку.

Але што асабліва здзівіла — ні Кузаеў, ні Тужнікаў не сказалі ніводнага дакорлівага слова. Чаму? Загадка, якую я так і не разгадаў. А Любоў Сяргееўна на другі дзень не адказала на маё прывітанне. Гэта і пакрыўдзіла і ўзлавала: неразумная баба! Але потым і яна стала незвычайна добрая. Проста шукала сустрэч са мной. І ў размовах не прамінала пахваліць Ліку: сапраўды прыгажуня.

Добра разумеючы жаночую тактыку, я ўпотай пасміхаўся з яе наіўнасці: сталая жанчына, а паводзіць сябе, што дзяўчынка!

Жаніцца ніякага жадання ў мяне не было. Найшлі час для жаніцьбы! Я абараняў Саўчанку, а пасля асуджаў, калі афіцэры пачалі кпіць, што батарэяй камандуе Ірына Хусаінаўна. Баявы афіцэр, а даў бабе ўзяць над сабой уладу.

Не хаваю: цягнула на першую батарэю. Але памятаючы, як раўніва паставіўся Данілаў да запрашэння Лікі ў тэатр, я хадзіў туды толькі па службе і не затрымліваўся каля дальнамера. Пажартаваць мог з Таняй Балашовай, цікава было, як яна падхоплівала прапанаваную гульню.

Ванда даведалася пра паход у тэатр і ў прысутнасці Саўчанкі, свайго камандзіра, і яго жонкі ўчыніла мне сцэну рэўнасці.

Аднавілася ў мяне «палярная хвароба». Не, не цынга — фурункулёз. З першай, яшчэ даваеннай, паўночнай зімы пакутаваў. Вясной знікала, а ўвосень, з наступленнем халадоў, нарывалі такія скулы, так іх называюць у нас у вёсцы, што не ведаў, як легчы, як сесці.

Тлумачэнне адно і ў медыкаў і ў людзей неадукаваных: не хапае сонечных праменняў, не хапае вітамінаў. Праўда, колькі там праменняў на краі зямлі, на беразе Ледавітага акіяна! Але тут, у Петразаводску, мы добра-такі пагрэліся. Бываючы на батарэі Саўчанкі, не прамінаў па яго прапанове пазагараць і пакупацца ў Анежскім возеры. Саўчанка нават у зямлянках умеў жыць з камфортам. Ірына яго — рэкардсменка Масквы па плаванню. Падабралася пара! Плавалі яны, што дэльфіны. Я нават Калбенку саромеўся расказваць аб нашых купаннях. Нішто сабе камсорг! Ідзе на батарэю і замест работы — загарае. Справу я, безумоўна, рабіў. Але хто мог пamераць маю работу? А раз плёхаўся ў возеры, то, значыцца, лынды біў. Так і сказаў Тужнікаў на адной нарадзе (данёс усё ж нехта) — здзекліва высмеяў і мяне і Саўчанку. Во, маўляў, як ваююць: штодня купаюцца, наперагонкі з бабай плаваюць. Чалавек проста перажываў, што няма баёў, няма цяжкасцей. Характар! Добра, што доктар запярэчыла: «А што тут дрэннае? Мы нячаста мыем людзей у лазні». Любоў Сяргееўну падтрымаў Шахоўскі.

Тужнікаў не любіў Шахоўскага, называў арыстакраткам і... ніколі не прыніжаў сябе да таго, каб спрачацца з ім,— пры роўных званнях і, па сутнасці, роўных пасадах. А, можа, проста баяўся спрачацца з такім эрудытам.

Чаму пасля такога сонца і агуркоў (у Данілава заўсёды былі агуркі ды і ў штабной сталоўцы — нярэдка) зноў вярнулася мая хвароба? На ўсё жыццё прыліпла? З хранічнай хваробай звыкаешся. Ды і хто на вайне надаваў асаблівую ўвагу фурункулу?! Сорамна паскардзіцца, калі мільёны ляжаць з цяжкімі ранамі. Толькі ў першую ваенную зіму я паляжаў з тыдзень у медсанчасці, калі фурункулаў выскачыла на спіне каля дзесятка, тэмпературу далі. А пасля абыходзіўся з дапамогай батарэйнага санінструктара. «Аспірын» — Алёша Спірын лячыў проста: выціскаў стрыжні мядзведжымі лапамі, прычыняючы дзікі боль, а пасля пёк ёдам. Памагала. Да доктара-жанчыны — Пахрыцынай — толькі аднойчы звярнуўся, хоць у мінулую зіму плакаў слязамі ад болю: нарывы пабілі ногі, і мне цяжка было хадзіць, а пасада камсорга вымушала штодня наведвацца то на адну батарэю, то на другую, да кулямётчыкаў, да пражэктарыстаў. А Тужнікаў яшчэ патрабаваў, каб і пра НП не забывалі: людзі ў снежнай пустыні ўсё роўна як на ільдзіне, дык у Паланіна радыё было, а ў нашых толькі тэлефонная сувязь. Многа мы навін перадаём па тэлефоне? Газеты раз у тыдзень забіраюць, калі прыходзяць па прадукты. А каго з палітработнікаў пашлеш за дваццаць вёрст? Самага маладога, камсорга. Асабліва нампаліт ганяў мяне на назіральныя пасты пасля таго, як

фіны па-зверску знішчылі разлік НП. Даказваў, што, маўляў, адбылося таму, што людзі страцілі пільнасць, камандзір сяржант Васіль Пырх любоўю займаўся. Такія яго вывады абражалі Кацю, усіх, хто геранчна загінуў. А што загінулі нашы людзі геранчна, пра гэта сведчылі гільзы ад аўтаматаў: адстрэльваліся да апошняга патрона. Здзіўляла і абурала непаслядоўнасць Тужнікава: сам жа загадваў мне напісаць як можна лепш пра іх гераізм і ў палітаддзел і ў газету, а пасля вінаваціць нябожчыкаў у страце пільнасці.

Я не адважыўся запярэчыць. Калбенка запярэчыў. Бадай, з-за гэтага яны ўпершыню моцна «падрапаліся». Але Тужнікаў — натура супярэчлівая. Сам прыйшоў да нас у зямлянку і неафіцыйна, амаль па-сяброўску, папрасіў Калбенку: «Давай, Канстанцін Панасавіч, дамовімся: узаемныя прэтэнзіі выказваем адзін на адзін, а не пры падначаленых. Такое армейскае правіла і, калі хочаш, такая партыйная этыка». Вайсковае правіла былы сакратар райкома прыняў, хоць наўрад ці выконваў пасля, а што датычыць партыйнай этыкі — аспрэчыў горача і доказна: «У партыі павінна быць публічнасць, а не сектанцкае шаптанне».

...Чаму з'явіліся фурункулы пасля паўднёвага, у Параўнанні з Мурманскам, сонца і вітамінаў — бадай, можна зразумець. Кастрычнік быў надзіва дажджлівы, і разы два па дарозе на батарэю ці з батарэі халодны дождж прабіў мяне, як кажуць, да касцей.

А вось чаму я вырашыў паказаць свае балячкі Пахрыцынай? Прымусіў Калбенка? Ці, можа, праўда, як упікаў нас Тужнікаў, заразіўся мірнай псіхалогіяй? Захацелася і скулку на мяккім месцы вылечыць.

Любоў Сяргееўна ў гэты раз аднеслася да маёй хваробы зусім нескептычна, чаго я баяўся, вельмі сур'ёзна, з клапатлівасцю не толькі ўрачэбнай, бадай, матчынай.

— Трэба вам, Павел, легчы ў шпіталь.

— З фурункуламі? У шпіталь? Ды ў мяне іх у перадваенную зіму было больш, і ніхто не заікаўся пра шпіталь.

— Дрэнныя вас урачы глядзелі. Гэта — цяжкае захворванне. Прычына яго не адна. У вас яўна стойкая інфекцыя ў крыві. А нядобрая кроў дае не толькі фурункулёз, а можа пашкодзіць і ўнутраныя органы — печань, ныркі... калі хочаце, мозг...

Доктар палохала. Але мяне палохала не хвароба — растанне з дывізіёнам, які стаў што дом родны, а людзі яго — што браты і сёстры. А раптам, пакуль буду ў шпіталі, дывізіён перакінуць далёка, і мяне адашлюць у афіцэрскі рэзерв, і траплю я ў другую часць. А ці сапраўды не ўелася і мірная псіхалогія? Раней я рваўся на перадавую,

рапарты пісаў, калі забіралі чарговую партыю добра навучаных байцоў, сяржантаў, афіцэраў у новыя артылерыйскія часці. А цяпер, выходзіць, нікуды не хачу і баюся сам сабе прызнацца ў гэтым? Страшна пазбавіцца Калбенкавай бацькоўскай апекі, вясёлага заляцання Ванды, любавання прыгажосцю Лікі, якой пры кожнай сустрэчы захапляюся ўсё больш, жартаў Тані Балашовай, філасофскіх размоў з Жэняй і нашай з ёй незвычайнай прывязанасці да дзіцяці — Анечкі Мураўёвай? Нават Тужнікаў з яго прыдзіркамі здаўся наймілейшым чалавекам. І гэтая доктарка, знешне строгая да байцоў, а ў сапраўднасці добрая жанчына, закаханая, душэўна ранімая — гэта я адчуў у тэатры,— была што маці, што старэйшая сястра. Як яе ўстрывожылі мае фурункулы! Не, не пайду я ў шпіталь! Падумаеш, скулы! Глупства. Яны і ў малога нярэдка ўскоквалі. І нічога — ні здароўем не аслаб, не падурнеў. Але як адмовіцца? З-за якой прычыны? Трэба выдумаць нешта такое, каб у доктара не з'явілася жаданне напісаць рапарт камандзіру, бо калі Кузаеў загадае шпіталізавацца — тады ўжо ніякія адгаворкі не дапамогуць.

Раптоўна прыйшла думка, адначасова і гарэзлівая па няпраўдзе сваёй, і сур'ёзная ў адносінах да гэтай жанчыны: «мая легенда» дасць ёй заспакаенне.

— Не магу я, Любоў Сяргееўна, класціся ў шпіталь.

— Чаму?

— Толькі вам. Па дружбе. Па сакрэту. Во тут,— паляпаў па сподняй сарочцы над сэрцам,— рапарт...

— Аб чым?

— З просьбай дазволіць ажаніцца.

У Пахрыцынай загарэліся вочы, але паглядзела яна на мяне пранікліва, усё ж, відаць, узнікла падазронасць, што я блазную.

— З Вандай?

— Не.

— Цікава. З кім жа?

— З Іваніставай.

У доктаркі заняло дыханне, здалося, што яна як бы спалохалася. Потым нядобра хмыкнула. Устала з крэсла, падышла да століка з лекамі, пачала перастаўляць бутэлечкі, усё роўна як шукала зелля ад майго глупства.

Я пашкадаваў, што не бачу твару яе: што на ім адбіваецца? Адзначыў, што ў яе прыгожая постаць, прыгожыя ногі, я рэдка бачыў яе ў чаравіках, на ногі ў ботах не звяртаў увагі.

Любоў Сяргееўна павярнулася да мяне. Твар яе быў сур'ёзны і заклапочаны.

— Вы, Павел, добры хлопец... чысты. Таму я вам скажу... між намі... Іваністава — не дзяўчына...

Мяне што варам абдало. Я трымаў пад пахай градуснік, і не было б дзіўна, каб іртуць разарвала трубку ад раптоўнага нагрэву і разнесла плячо.

Захацелася крыкнуць:

«Не трэба! Любоў Сяргееўна! Не трэба! Не прыніжайце сябе!»

Але зрабілася вельмі сорамна. Некалі маці на сенакосе захапіла мяне за тым, што я падглядваў, як купаюцца ў Дняпры дарослыя дзяўчаты, і агрэла па спіне лазінай. Але боль быў нішто ў параўнанні з пакутамі ад сораму, многа дзён я баяўся глянуць на маці, дрыжаў, што яна раскажа бацьку, суседкам.

Гэтак я баяўся глянуць на Пахрыцыну. Сорамна. За яе. За сябе. Дзіўна — чаму за сябе? А яна не прыдумала нічога разумнейшага, як пачаць тлумачыць, адкуль ведае такую таямніцу:

— У нас з ёй сур'ёзная сутычка. Яна адмовілася ад медыцынскага агляду...

Зразумеў, які агляд маецца на ўвазе, і новая хваля жару шуганула на мяне так, што, здалося, загарэліся валасы, затрашчала ў галаве.

— «Калі мне трэба будзе, я сама прыйду да вас». Падумаеш, арлеанская нявінніца! Сказала б, хто яна, але паважаю вас, Павел.

«О, божа! Што яна гародзіць? Як ёй не сорамна!»

Я прыціснуў свой фурункул на баку да стала: няхай забаліць так, каб я мог закрычаць, завыць, зваліцца на падлогу.

— Я напісала дакладную камандзіру...

— І што Кузаеў? — шэптам спытаў я.

— Размазня ваш Кузаеў. Гэта ваша справа, а не мая... Не выдаваць жа мне загад? Які цнатлівы! Не выдавай. Выконвай загад начальніка медслужбы арміі... Ён не толькі для медперсаналу...

«Малайчына Кузаеў!»

Выхапіў з-пад пахі градуснік, кінуў на стол. Паспешліва апрануў кіцель. Зашпільваючы гузікі, ахрыплым ад хвалявання голасам сказаў:

— Як вам не сорамна, таварыш капітан медыцынскай службы?

Пахрыцына вельмі здзівілася:

— За што мне павінна быць сорамна?

— Вы ж культурны чалавек... доктар... Вы не маеце права выдаваць урачэбную тайну... Вы ўзводзіце паклёп на дзяўчыну... на жанчыну... якая розніца. І я знаю з-за чаго. Усе ведаюць пра вашы... пра вашу любоў да Шахоўскага. Аднак...

Вочы яе ўспыхнулі гневам, злосцю, на васпаватых шчоках выступілі фіялетавыя плямы.

— Што аднак? Што?

— Аднак ніхто не гаворыць брыдкасці пра вас.

— Таму што я люблю па-сапраўднаму. І — запомніце — буду змагацца за сваю любоў...

— Такім чынам?

Твар яе заліла бледнасць, знік гнеў у вачах, можа, зрабілася сорамна, бо сказала яна амаль спакойна, неяк нават знясілена:

— Не вам мяне вучыць, Шыянок. Малакасос вы, а не жаніх. Яшчэ адзін асляплены дурань.

— А хто першы?

Пахрыцына адвярнулася і нічога не адказала. Прыём закончыўся. Мазі на мае скулы няма.

«Дазвольце ісці, таварыш капітан?» — але спахапіўся, што гэта мопса прагучаць здзекліва, і пасунуўся да дзвярэй, не развітаўшыся, занадта ўжо па-цывільнаму, бадай, некультурна.

У галаве працягвала гарэць салома, ажно вочы сляпілі іскры. Прыкра і балюча. Заспакоіў, называецца, знаўца псіхалогіі! Зігзагі яе самыя неверагодныя. Здаецца, Любові Сяргееўне было выгадна, каб у Лікі з'явіўся жаніх, гэта загарадзіла б дарогу Шахоўскаму. Але што яе штурхнула на тое, каб гэтак папярэдзіць мяне? Нянавісць да Лікі — не даць атрымаць ёй такога мужа? Ці матчын клопат пра мяне — каб не ўліп са сваёй жаніцьбай? Якія б ні былі яе матывы — нізкія ці высакародныя,— сродак, які яна выбрала, я не мог прыняць. Асуджаў Пахрыцыну жорстка і доўга. Залішне жорстка — у думках інакш не называў, як бабай. Але пра размову нашу — нікому ні слова.

## 8

Калбенка меў рацыю, калі сказаў у першы дзень нашага знаходжання ў Петразаводску, што дарэмна Кузаеў «садзіць» батарэю ў былым лагеры — выселяць. Выселілі. На баракі замахваліся даўно і цывільныя і вайскоўцы. Мы адбіваліся. Пакуль не аблюбаваў гэтыя баракі начальнік гарнізона пад нейкую сакрэтную службу. Ад генерала не адаб'ешся.

Прыйшлося Данілаву мяняць пазіцыю. Батарэю наблізілі да штаба дывізіёна, размясцілі па суседству, за якія паўкіламетра — абы ад залпаў не павыляталі шыбы ў дамах, дзе штабным службам было цёпла і ўтульна.

Батарэя акапвалася ў чыстым полі — каб мець кругавы агляд з нулявым вуглом. У першы год вайны ў Мурманску батарэям часта

мянялі пазіцыі. Наўрад ці такія замены павышалі эфектыўнасць абароны. Хутчэй гэта было вынікам інерцыі даваенных інструкцый, бо ўпачатку стваралі нават ложныя пазіцыі — устанаўлівалі гарматы з бярвення, праўда, хутка зразумелі, што гэта дзіцячая гульня, замаскіраваць зенітную батарэю, якая вядзе агонь, немагчыма, яе выяўляе першы ж разведчык.

Для камандзіраў гармат, прыбораў, разлікаў замена пазіцыі, асабліва ў зімовы час, у палярны мароз, была страшней за атакі пікіроўшчыкаў на батарэю. Паспрабуй выдзеўбці катлаваны ў скале і для гармат і для зямлянак, а тым больш збудаваць гэтыя зямлянкі: часта не было з чаго будаваць. На новых пазіцыях першыя дні спалі на снезе, на марозе. Варта скласці гімн не толькі адвазе салдацкай і цягавітасці, але яшчэ ў большай ступені — вынаходлівасці, кемлівасці! Калі хочаш жыць, мець нару, дзе можна адагрэць душу,— чаго не зробіш!

Пазней, калі набылі вопыт, і высокае начальства зразумела бессэнсоўнасць замены пазіцый, бо такія перамяшчэнні хутчэй аслаблялі баявую гатоўнасць, чым узмацнялі. У Кандалакшы за год не замянілі пазіцыю ніводнай батарэі.

Не заўсёды я і ў Мурманску разумеў логіку замены пазіцый, але начальства не асуджаў — у яго вышэйшыя тактычныя меркаванні. Абрываў байцоў, якія выказвалі незадаволенасць, а то і «хрысцілі» таго, каму прыйшла шалёная думка ў завею, у палярную ноч перамяшчаць батарэю з паўночнага боку порта на паўночнаўсходні, за адзін-два кіламетры; дальнасць жа агню нашых гармат восем кіламетраў. Хлопцы, асабліва даваеннага прызыву, любілі «хрысціць» начальства. Цяжэй было з дзяўчатамі: тыя не лаяліся — плакалі ад стомы, ад няўмення, ад бяссілля і ... абмарожваліся. Во бяда была! Кажуць, жанчына больш вынослівая. Праўда. Але толькі не на холадзе. Не пераносяць пальцы іх, шчокі палярных маразоў.

Я перажываў за батарэйцаў. Ды і не адзін я. Мураўёў проста хварэў за людзей. Нават Анечка яго. Каб самі мы не жылі з фінскім камфортам, як сказаў Тужнікаў. Між іншым, магчыма, адзін ён ледзьве не радаваўся, што хоць для часткі дывізіёна ўтварылася бадай жа ваеннае становішча: «Няхай згоняць сала». Ды Данілаў здзівіў: прыняў загад аб передыслакацыі надзвычай спакойна. Цыганская натура. Не трэба яму лагерны камфорт! Яшчэ ўлетку, у спёку, ён сказаў, што барачныя сцены яго гнятуць; у пакоі, дзе размясціўся камбат, усё сведчыла, што жылі афіцэры аховы, але ж і там маглі катаваць — во што прыгнятала савецкага афіцэра.

Між іншым, пра палонных. Незвычайнай была мая трэцяя сустрэча з жанчынай, якая ў першую раніцу расказвала нам з Калбенкам, што пасля Сталінграда фіны не расстрэльвалі палонных,— з той Параскай, якая выклікала ў мяне падазронасць і там, у двары, каля сваёй бялізны, і на станцыі, пасля налёту на першы поезд.

Цэнтральны Камітэт камсамола рэспублікі арганізаваў сустрэчу моладзі, вайсковай і цывільнай, з партызанамі і падпольшчыкамі. І ўбачыў я ў прэзідыуме гэтую Параску. А потым Юрый Андропаў, першы сакратар ЦК, які вёў сустрэчу, абвясціў:

«Слова мае праслаўленая падпольшчыца стрэлачніца чыгуначнай станцыі Праскоўя Іванаўна Пляханава».

Прозвішча якое!

Пасаромлены, я ліхаманкава канспектаваў яе расказ пра баявыя справы падпольшчыкаў. А на другі дзень на палітінфармацыі перадаваў яго байцам з нейкім асаблівым душэўным уздымам, так расказваў хіба што пра вызваленне Мінска.

Калбенка смяяўся, задаволены, калі я расказаў яму, хто такая Параска. «А што я табе казаў? Ніколі не спяшайся з вывадамі. Асабліва аб людзях».

...Канчаўся кастрычнік. Штодня лілі халодныя дажджы. На новай пазіцыі батарэі пад пластам пяску залягала гліна, яна не прапускала ваду; селі, можна сказаць, на падземнае возера, не маглі знайсці месца для артсклада, які трэба хаваць глыбей. Пасля таго як ужо выкапалі катлаваны, мусілі перамяшчацца з падманлівага пагорка ў пойму ручая. Нізіна, а сушэй, бо не было гліны. Падказаў Шахоўскі. Некалі, будучы студэнтам, ён хадзіў з геалагічнымі партыямі тут, у Карэліі, і ўведаў некаторыя тайны грунтоў і падземных вод.

Данілаву вымавілі, што пры выбары пазіцыі не параіўся з намеснікам камандзіра дывізіёна.

Камандзір батарэі, можа, упершыню абурыўся супраць свайго начальства:

— Чорт ведае з кім з іх раіцца! Мне начальнік штаба пальцам паказаў на той пагорак. Ды і сам я выбраў бы пазіцыю там, бо з часоў свайго вандроўнага маленства помню: чым вышэй, тым сушэй. Так усюды, толькі, выходзіць, не ў гэтым забытым богам краі.

Выказаў ён гэта, не звяртаючы ўвагі на байцоў, што капалі новы катлаван. Ліка, не просячы дазволу, умяшалася ў размову.

— Багі ніколі не забывалі гэты край, таварыш старшы лейтэнант. Багі заўсёды жылі тут, як на Алімпе.

Данілаў адразу падабрэў, засмяяўся:

— Чуў, камсорг, якія набожныя мае дзяўчаты?

Але паглядзеў на іх і зноў пазмрачнеў. Работа катаржная. Не дзявочая. Шынялі намоклі, зрабіліся цяжкімі, але не ўсе скінулі іх — холадна, ды і дзе высушыць пасля. На боты наліпала па пуду гліны. Увогуле карціна знаёмая, бачыў яе не ўпершыню. Але калі сам рабіў з байцамі, тады ўсё здавалася натуральным. Каму лёгка на вайне?! А тут прыйшоў з добра напаленага дома. Вунь ён, відаць адгэтуль. Прыйшоў з загадам нампаліта падняць баявы дух. Якім чынам? Расказаць пра паход Суворава праз Альпы? Тужнікаў ажно залішне верыць у сілу слова. І я верыў. Але перад гэтымі знясіленымі дзяўчатамі любыя словы, акрамя хіба добрага жарту, здаваліся недарэчнымі.

Паназіраў за Лікай. Думаў, што яна, інтэлігентка, не прывучана да такой працы, пры ёй катлаванаў не капалі і снарадаў не грузілі. Не. Ліка не адставала ад стараслужачых — ад дзяўчат комі, якія ў вайну замянілі сваіх бацькоў і братоў-лесарубаў. Здзівіла яна мяне. Дзе гэтак натрэніравалася капаць зямлю? Выходзіць, не ўсё яна расказвае пра сваю вучобу ў Хельсінкі. Але навошта таіць, што не толькі фінскай мове іх вучылі, але прымушалі і зямлю капаць?

У дзявочай камандзе найбольш знясілілася Таня Балашова. Задыхалася. Я ўскочыў у катлаван.

— Адпачні, Таццяна, я пакапаю за цябе.

Села пад скрынкамі з ПУАЗО, дальнамерам, схаванымі пад брызентам, прыкрылася ад дажджу рогам брызенту і ... адразу заснула. Што дзіця. Дзяўчаты пачалі хіхікаць. А мне да спазмы ў горле стала шкада яе, маленькай, мокрай, абляпанай глінай. Сапраўды дзіця. Сіраціна. Добра, што гаспадарлівы Кузаеў, пакуль улады не ўзялі лесасклады на ўлік, зрабіў запас піламатэрыялаў, развёз на батарэі. Першай дасталася нямнога — занадта навідавоку стаяла. Цяпер ёй памагалі. І матэрыяламі. І людзьмі — тымі сталымі мужчынамі, якія ўмелі трымаць пілу, гэблю, малаток. Але і я ўмеў гэта — яшчэ бацька навучыў, ён слыў добрым цесляром, асабліва ўдала ўмеў ставіць зрубы.

На другі дзень з самай раніцы пайшоў на батарэю ўзнімаць баявы дух і зачапіўся на будаўніцтве сталоўкі, яе, дашчаную нізкую будыніну, узводзілі за пазіцыяй, каля раўчука. Працаваў я з «дзядамі» з асаблівай радасцю, з якой у вайну, бадай, не працаваў ніколі, можна сказаць, з мірнай радасцю, быццам будавалі нешта фундаментальнае, што павінна стаць помнікам. Валагодскія і харкаўскія дзядзькі — неяк атрымалася, па таемных законах ваеннага прызыву, што папаўненне запаснікоў нам дасталося з тых абласцей, блізкай, паўночнай, і далёкай — хвалілі мяне: умелы хлапчына, працы не цураецца, хоць і мае зорачку на пагонах. Гэта таксама радавала.

Данілаў паназіраў, як я раблю, можа, пазайздросціў і тут жа як бы прынізіў маё ўменне:

— Я вам прышлю Іваніставу.

— Навошта? Рана яшчэ падмятаць стружкі.

— Яна навучыць цябе габляваць.

— Ліка? Мяне? Не смяшы, камбат.

— Ты дрэнна ведаеш яе. Не дзявочая работа. Але я прышлю яе. Яна будзе вашым архітэктарам.

Ліка прыйшла і сапраўды пасарамаціла і мяне і «дзядоў» — далікатна забракавала нашу тапорную салдацкую работу. І здзівіла ўменнем валодаць нажоўкай і гэблем. Пры гэтым умела развесці пілу, натачыць лязо рубанка. Такія маленькія ручкі, а так спрытна шугала рубанак; за нядоўгі час боты яе патанулі ў тонкіх пахучых стружках.

«Дзяды» ахалі. Я не зводзіў з дзяўчыны вачэй. Выходзіць, не толькі модна адзявацца і танцаваць яна ўмее.

— Дзе вы навучыліся, Ліка?

— Мой бацька інжынер, сапёр... І там...

— Вас вучылі гэтаму на курсах?

— Ставілі задачу, каб настаўнікі ўмелі навучыць дзяцей валодаць інструментамі апрацоўкі лесу. Карэлія — лясная краіна. Хоць вучылі не толькі гэтаму. Шыць... Гатаваць стравы. Але гэта я ўмела і да таго. Шэсць гадоў як памерла маці, бацька не жаніўся, і я была гаспадыняй...

З незадавальненнем я падумаў пра сябе: нярэдка гутарыў з ёй, у тэатр ішлі, абараняў перад Зубравым, а ведаю мала. І раўніва падумаў пра Данілава: калі, дзе, у якой сітуацыі ён даведаўся пра гэтыя яе здольнасці? Выказваў жа толькі пахвалу, як хутка яна авалодала дальнамерам. Але гэта мяне не здзівіла: дальнамершчык — самая тонкая, можна сказаць, інтэлігентная артылерыйская спецыяльнасць. А дзяўчына з такімі ручкамі — сталяр?! Гэта нават па цяперашнім ваенным часе рэдкасць. Ва ўсялякім разе, у нас, у дывізіёне. Комі выдатна пілуюць лес, але такія ўзорныя ліштвы ніводная зрабіць не ўмее.

Не спадабалася рэўнасць да Данілава, ад яе чамусьці зрабілася сумна, быццам толькі ў яго было права на Ліку. Нават пагразіў яму: «Ох, уліпнеш, чортаў цыган!» Хоць самакрытычна аналізуючы свае пачуцці, адчуваў, што ў тое, чым паграясаю Данілаву, і сам уліпнуў бы з радасцю. І Тужнікава не пабаяўся б.

А нампаліт тут як тут. Прыйшлі з Калбенкам таксама, мабыць, падымаць баявы дух, бо зноў пайшоў дождж, са снегам. Але практычныя дзядзькі паспелі накрыць шалёўкамі ўзведзены каркас будучага харчблока, і мы рабілі пад дахам. Пры начальстве я надзеў

шынель, падперазаўся. А Ліка працягвала працаваць. Ды і «дзяды» не надта выцягваліся перад афіцэрамі; даўно я прыкмеціў, што старыя выконвалі правілы вайсковых узаемаадносін акуратна, але са стоенай скептычнасцю, як бы падыгрываючы гульні маладых: паказыраем, маўляў, і мы.

Тужнікаў і Калбенка з цікавасцю паназіралі, як хораша ў дзяўчыны атрымоўваецца. Пахвалілі. Парторг употай паказаў мне вялікі палец — звыклы жэст яго высокай ацэнкі.

Але тут жа Тужнікаў сапсаваў мне настрой.

— А ты чаго тут аціраешся? — яўны намёк на маё заляцанне да Лікі. За мяне заступіўся штабны сталяр Мальцаў:

— Малодшы лейтэнант добры цясляр.

— Ты ўмееш габляваць?

— Я ўмею зрубіць дом.

— Глядзі ты! А мы не зналі пра твае таленты. Ты, Канстанцін Панасавіч, знаў? Выходзіць, не тую пасаду мы табе далі.

— Пасаду яму мы далі правільную! — амаль злосна запярэчыў Калбенка.— Вельмі важна, калі камсамольскі арганізатар умее не толькі пагаварыць.

— І партыйны,— сказаў Тужнікаў, выводзячы нас са сталоўкі пад дождж, палічыў, відаць, што размова — не для радавых.

— І партыйны! — з націскам, укладваючы у слова абагулены сэнс, пацвердзіў парторг.

Туяшікаў змоўчаў, бо вось так — са звычайных слоў — нярэдка пачыналася спрэчка, а тады ўжо Калбенка не трымаўся субардынацыі і нярэдка «заганяў у вугал» свайго начальніка. Аднак, калі адышлі далей, нампаліт ўсё ж упікнуў мяне:

— Ты не дошкі габлюй... мазгі габлюй.

Калбенка хмыкнуў.

— Ты чаго? — падазрона ўгледзеўся ў яго Тужнікаў.

— Уявіў, Генадзь Свірыдавіч, людзей з пагабляванымі мазгамі. Гэта твой ідэал?

Тужнікаў паблажліва і прымірэнча засмяяўся.

— Сафісты вы з Шыянком. Ой, сафісты! Нялёгка мне з вамі.

— А з кім лёгка?

— Во гэта праўда: з кім лёгка? Адзін сафіст, другі — ідэаліст, трэці — гультай. Пайшлі ў палатку, а то за каўнер лье. Пазваню Кумкову, разнясу, чаму дагэтуль не прывёз «буржуйкі». Дзе людзям высушыцца? Што маўчыць ваш Данілаў?

— Данілаў сам хадзіў да Кумкова,— сказаў я.

— Ну, Кум! Дабяруся я да цябе!

Я парадаваўся клопату нампаліта пра людзей і яго гневу супраць начальніка абозна-рэчавага забеспячэння. Нядобра. Але я не мог даравацць яму кашы для Анечкі.

Таня Балашова схапіла крупознае запаленне лёгкіх. Хварэла цяжка. З высокай тэмпературай. Я наведваў яе ў медсанчасці. Яна доўга была вялая і абыякавая. Калі пачала ачуньваць, я прынёс ёй свой, атрыманы ў той дзень, ДП. Таня як спалохалася:

— Што вы, таварыш малодшы лейтэнант!

А пасля заплакала, збянтэжыўшы мяне. Усе лічылі Таню бестурботнай гарэзай, вострай на язык, мірыліся з яе штукарствамі, бо жарты яе ніколі не былі злоснымі. У дзяўчат слёзы блізка, у некаторых ад бяскрыўднай заўвагі вочы ператвараліся ў азёры. Ці бачыў хто, каб плакала Таня? Наўрад. Пры мне — ніколі.

— Танечка, што з табой?

І нечакана амаль жа дзіцячы адказ:

— А мяне не любіла мачаха. Біла. І бацька біў, а потым, п'яны, плакаў...

О, божа! Яшчэ адна глыбока стоеная драма. Як жа я мала ведаю іх, сваіх камсамолак! Выходзіць, Таня пры сваёй весялосці і гаварлівасці нават сяброўкам не расказала пра мачаху. Во калі даўняя крыўда выплеснулася слязамі. На такую крыўду хіба можна знайсці слова заспакаення?

— Ты вернешся з вайны сталым чалавекам, і усё зменіцца, Таня... Усё зменіцца, павер...

— І тут ніхто мяне не палюбіў,— прашаптала яна, размазваючы схуднелай ручкай слёзы па шчоках.

Незвычайная скарга! Упершыню пачуў такую. А на яе што адказаць? Але калі скарга на сіроцкі лёс адазвалася болем і спачуваннем у сэрцы маім, то гэтая выклікала ўнутраную ўсмешку сваёй дзіцячай шчырасцю, хоць я добра разумеў прагу дзяўчыны стаць каханай.

— Палюбіць, Таня. Палюбіць.

— І ніхто не пацалаваў.

Ну і ну! Вось гэта прызнанне! Каб пачуў Тужнікаў, напэўна, самлеў бы.

У палаце ляжала дзяўчына з пражэктарнай роты — Поля Прышчэпава — таксама з запаленнем лёгкіх. Здавалася, спала. Не, не спала.

Адазвалася грубавата:

— Ну, на гэта ахвотнікі знойдуцца, толькі падстаўляй ім свае губкі.

Таня засмяялася. Відаць, ад таго, што яе пачуў староннi чалавек, для якога такое шчырае прызнанне не прызначалася. Таня хітра і

ўмела скаргі свае ператварыла ў вясёлыя жарты. Пачала расказваць, што і яна добрая цаца была. Аднойчы ў полі зачыніла мачаху, якая любіла паспаць, у вагончыку МТС; бацька цэлую ноч жонку шукаў, а мачаха пасля на ўсё наваколле кляла трактарыстаў, лічыла, што гэта іх штукі.

Таня жартавала. Збляднелы за час хваробы твар яе пачырванеў, і пухленькія вусны сталі пунсовымі. І ў мяне з'явілася неадольнае жаданне пацалаваць яе.

Яна сядзела на ложку ў споднім мужчынскай сарочцы, занадта вялікай для яе, па грудзі загарнуўшыся ў коўдру. Можа, я не адважыўся б на такі ўчынак, каб не ўгледзеў, што Прышчэпава адвярнулася да сцяны.

— Ну, дзяўчаты, я пайшоў. Не сумуйце. Папрашу для вас у жонкі камандзіра «Трох мушкецёраў». Такое вы ніколі не чыталі.

У вусны не адважыўся пацалаваць. У шчаку. Але Таня з дзіцячай шчырасцю абвіла сваімі гарачымі рукамі маю шыю, прыціснулася шчакой да маёй шчакі і, як бы захлынуўшыся ад шчасця, доўга не адпускала, ажно пакуль пад Прышчэпавай не скрыпнуў ложак.

Каварная дзяўчына! Ад зайздрасці, ці што, данесла пра наш пацалунак Пахрыцынай. Учынкам яе я не абурыўся: ведаў такіх даносчыц. Здзівіла і абурыла Любоў Сяргееўна. Навошта было расказваць пра такое надзвычайнае здарэнне Туншікаву? Так непрыгожа. Па-бабску. Помсціла за размову, ці што? Здаецца, нават нампаліту, які выкарыстоўваў любую зачэпку, каб прачытаць мараль, якім павінен быць палітработнік (з яго павучанняў вынікала — поўным аскетам), не падабаўся ўчынак доктаркі. Ні маралі, ні разносу не было — грэблівая заўвага:

— У медчасці хоць не ліжыся.

Быццам я толькі тым і займаўся, што цалаваўся. Увогуле ў апошні час Тужнікаў змяніў адносіны да мяне. Раней «школіў», як вучня, і ўсё папярэджваў наконт дзяўчат. Баяўся, ці што, каб яго непасрэдны падначалены не зрабіў грэхападзення? А цяпер калі і ўшчуваў за што, то неяк зусім інакш — як сталага чалавека, як іншых афіцэраў. Ці не пасля паходу ў тэатр адбылася такая перамена? Ці, можа, паўплывалі прыязныя адносіны да мяне Антаніны Фёдараўны і Марыі Аляксееўцы? Любілі сталыя жанчыны пагутарыць са мной, Мураўёва часта паўтарала: «Рамантык вы, Павел,— і ўздыхала: — Ці даўно, здаецца, і я была такой жа рамантычнай. Як састарыла нас вайна!»

Пахвала такая не вельмі падабалася: выходзіць, мяне вайна не кранула, і я мала пасталеў. Адзіная хіба праўда: не агрубеў душой. Здаецца, чатыры гады назад, калі я апынуўся ў суровых умовах

поўначы і Цімашэнкавай дысцыпліны, пачуцці мае былі больш грубыя. А цяпер я — што тонкі музычны інструмент. На вайне людзі грубеюць, а я, выходзіць, рабіўся рамантыкам. Сорамна прызнацца нават самому сабе. Што мяне шліфавала? Мала бачыў крыві? Тое, што камандаваў незвычайным войскам — дзявочым? Ці сама палітработа, што вымушае выпрацоўваць якасці, якія хочацца перадаць тым, каго выхоўваеш?

З хваляваннем шукаў я ў газетах паведамленні аб гуманізме байцоў і афіцэраў нашай арміі ў Румыніі, Венгрыі, Славакіі і там, на іх зямлі — ва Усходняй Прусіі... А як гуманна мы зрабілі з Фінляндыяй! Склалі зброю — жывіце, як вам хочацца. Нампаліт паслухаў мой даклад на гэтую тэму перад прапагандыстамі батарэй, служб і доўга маўчаў, калі людзей адпусцілі, хоць адчуваў, што я чакаю яго ацэнкі. Потым сказаў:

— Добрыя мы.

— Занадта добрыя. Евангельскае ўсёдараванне,— ці не першы раз не пахваліў мяне Калбенка.

Можа, і пасаромлены вызначэннем Марыі Аляксееўны, і цяжкай развагай двух сталых камісараў над маімі ўзнёслымі словамі пра гуманнасць, я, аднак, радаваўся, што не страціў матчынай дабрыні. З вайны вернецца рамантык? Магчыма, гэта? Не ганебна будзе жыць з такімі пачуццямі? А што ж ганебнае ў тым, што мяне да слёз расчуліла такое чалавечае жаданне Танечкі Балашовай — каб яе пакахалі, прылашчылі? Што дрэннага ў маёй радасці ад Глашынага пісьма, якое мне нядаўна паказаў Віктар Маслоўскі? «Скора ў цябе будзе сын». Сам Віктар шчасліва засмяяўся:

— Чаму яна так упэўнена, што народзіцца сын?

— Дзяўчаты ўпэўнены, што пасля такой вайны будзе нараджацца больш хлопчыкаў. Прырода павінна папоўніць страты. І Глаша пра гэта гаварыла.

— Калі?

— Ды там, у машыне. Хацела дапякчы мне за перавод. «Навару, кажа, я вам кашы. Праз месяц паеду, каб нарадзіць Маслоўскаму сына».

— Так і сказала?

— Так і сказала.

— Во язык! Дамаўляліся ж захоўваць тайну.

Сказала яна не зусім так, але мне прыемна, што

Віктара цешыць такая жончына смеласць. Я ўзносіў Глашу да нябёс: як кінулася на дапамогу Старавойтаву, як хвалявалася за яго, калі ўжо самую раніла.

Размовы пра яго жонку, даверлівыя і пакуль што тайныя — «пакуль не з'явіцца сын» — зноў зблізілі нас, даваенных сяброў. І гэта таксама радавала мяне.

— Не, быць рамантыкам зусім нядрэнна,— заключыў я ўголас свае развагі ў адзін з дажджлівых вечароў; мы ляжалі з Калбенкам на сваіх канапах у цёплым пакоі і слухалі па радыё музыку Бетховена.

— Ну і будзь на здароўе,—дазволіў Канстанцін Панасавіч, не ўткнуўшы на гэты раз у вытокі маёй нечаканай высновы, хоць звычайна любіў дакапвацца, чаму ў мяне ўзнікла тая ці іншая думка.

Жылі мы ў тую глыбокую восень сапраўды па-мірнаму. Правы фланг Карэльскага фронту, нядаўна яшчэ самага працяглага па даўжыні — ад Балтыйскага да Баранцава мора — выбіў немцаў з Запаляр'я, граміў іх на нарвежскай зямлі. А на савецка-фінляндскай граніцы цішыня. Станцыя Петразаводска забіта саставамі, у якія грузіліся пяхотныя, артылерыйскія, танкавыя часці, каб адбыць туды, дзе шугала яшчэ вайна. Не маглі не ведаць немцы аб такой інтэнсіўнай перакідцы падмацаванняў з фронту, які спыніў дзеянні, на франты, што назапашвалі сілы. Але — ніводнага налёту. Выдыхнуўся Гітлер. Заняпала хваленая авіяцыя Герынга, якая два гады назад даставала Баку і Новую Зямлю, руйнавала Лондан і Ковентры. Не да таго ёй цяпер, каб ісці праз Балтыку на Петразаводск. Не хапае «юнкерсаў» для ўдараў па франтавых цэлях.

Жылі мы сапраўды з камфортам. Шахоўскі адрамантаваў узарваную фінамі падстанцыю, аднавіў лінію да пасёлка і даў нам святло. Хіба не раскоша пасля ванючых газнічак! Толькі ўзнікла праблема электралямпачак. Ці то ашчадныя фіны, адступаючы, ці, магчыма, жыхары да нашага ўступлення павыкручвалі ў лесапасёлку ўсе лямпачкі. Як ні ганяў гаспадарлівы Кузаеў начальніка ОВС[1], ажно ў Ленінград пасылаў, ніводзін армейскі склад такой маёмасці не выдаў. Вастрэйшы дэфіцыт.

Лямпачкі даставалі — хто як умеў. Выпрошвалі ў жыхароў і проста... кралі. Сам я з-за гэтай капеечнай пляшачкі з дроцікамі адзіны раз у жыцці стаў злодзеем: умудрыўся выкруціць лямпачку ў калідоры гаркома камсамола. Пасля перажываў сваё грэхападзенне, а Калбенка рагатаў:

— Правільны ты аб'ект выбраў. Навошта ім светлы калідор? Маладыя марнатраўцы!

Лямпачка была добрая — ці не на ўсю сотню ват? Яна залівала святлом даволі-такі ўтульны пакойчык, добра абсталяваны намі:

---

[1] Абозна-рэчавае забеспячэнне.

Канстанцін Панасавіч сабраў мэблю, нават кніжную шафу аднекуль прывалок, я наклеіў на сцены карцінкі з нашых часопісаў — ваенныя сцэны, гістарычныя і сучасныя — і з фінскіх — рэпрадукцыі старых мастакоў.

Між іншым, за «Суд Парыса» Рубенса, карціну, якую я памясціў над партрэтам Суворава, мне моцна перапала ад Тужнікава; Калбенку ён не зачапіў, а мяне за тое, што павесіў над Суворавым голых баб, уедліва скланяў на некалькіх нарадах палітработнікаў, тыя смяяліся, зубаскалы: «Жывых больш мацай».

Тужнікаў наведаўся да нас і ўпадабаў лямпачку, у яго была цьмяная; пачаў рабіць намёкі, каб памяняцца. Ды Калбенка хітра астудзіў яго пажадлівасць:

— Зацягвае і цябе, Генадзь Свірыдавіч, мірная стыхія. А ты нас папракаеш.

Перасмыкнула Тужнікава: злавілі яго. Нампаліт жыў аскетычна. Злаваў, што прыкладу з яго не бяруць. Прыдзірліва агледзеў нашу ўтульнасць і... уеў-такі:

— Вам толькі пярыны не хапае.

— А не пашкодзіла б,— адказаў Калбенка.

Тужнікаў пайшоў, і мы пасмяяліся, як лёгка ўратавалі мой «трафей». Пакпілі, як яму хочацца вярнуць фронт у Петразаводск — каб не зніжаўся баявы дух. Але жарты жартамі, а сорам тачыў і маё сэрца, што мы жывём гэтак у той час, калі там, на поўдні, у цэнтры Еўропы, грыміць яшчэ вайна, гінуць нашы людзі.

— Канстанцін Панасавіч, а вас не грызе, што мы так жывём?

— Як?

— Ды вось так: святло, радыё, кнігі... Цэлы доўгі вечар свабодныя. Пушкіна чытаем.

— Не займайся самаедствам, Павел. За тое мы і ваюем, каб Пушкіна чытаць. Паслухай, якая ўрачыстая музыка.

— Хто гэта? Глінка?

— Не. Бах.

— Зноў немец?

— Вялікі немец.

— Столькі вялікіх — і столькі забойцаў.

— Парадокс гісторыі.

— Будзе гэтая вайна апошняй?

— Не, не будзе.

— Як?! Зноў ваяваць? Дзецям нашым?

— А ты што думаў? Пакуль існуе капіталізм...

— Але ж сталі мы саюзнікамі з Англіяй, з Амерыкай. Бастыёны ж імперыялізму, як нас вучылі. А супраць фашызму пайшлі на саюз з намі. Выходзіць, і з капіталістамі можна дамовіцца...

— Тут, брат, асобая сітуацыя. Апетыты Гітлера, яго замах на Англію спалохаў нават злейшага ворага сацыялізму Чэрчыля. Ты мала чытаў, як ён заклікаў да крыжовага паходу на Саветы і арганізаваў інтэрвенцыю.

— Чытаў.

— Амерыканцам таксама нявыгадна, каб Гітлер сажраў усю Еўропу. Рузвельт рэаліст. Фордам і Морганам лягчэй мець справу з многімі краінамі... з вялікай Францыяй і маленькім Люксембургам, чым з адным дыктатарам, апетыты якога разгараліся, Праз Каўказ Гітлер ірваўся ў Індыю. І да Афрыкі дацягнуў свае крывавыя лапы, У такой сітуацыі ўступіш у саюз, калі і не хочаш.

Часам мне здавалася, што парторг не так глыбока ўнікае ў палітыку, газеты чытае не так уважліва, як я, Скептычна хмыкаў на тое, што асобныя артыкулы я канспектую, Ільі Эрэнбурга, напрыклад. Але часцей Калбенка здзіўляў веданнем гісторыі, работ Маркса, Леніна (на Сталіна спасылаўся рэдка, што мяне бянтэжыла і вымушала да поўнай няшчырасці ў размове з ім) і веданнем таго, што называлася бягучай палітыкай. Пра кожную вялікую аперацыю Чырвонай Арміі мог без падрыхтоўкі прачытаць лекцыю. Праз колькі дзён пасля высадкі саюзнікаў у Францыі, калі паведамленні ў газетах і па радыё былі яшчэ скупыя, Канстанцін Панасавіч у сталоўцы выдаў такія звесткі пра месца высадкі — Брэтань, так сыпануў назвамі гарадоў французскіх — усё роўна як украінскіх, што нават эрудыт Шахоўскі ні ў чым не паправіў, Кузаеў і Тужнікаў слухалі сур'ёзна. А Зубраў уедліва пажартаваў:

«Калбенка, вы пры чыім штабе былі — Эйзенхаўэра ці Мантгомеры?»

Але калі Тужнікаў выказаў пажаданне, каб парторг падрыхтаваў лекцыю пра другі фронт, Калбенка астудзіў яго:

«Спытай у палітаддзеле: трэба нам праслаўляць фронт, які саюзнікі адкрылі са спазненнем на тры гады?»

— Байцы, асабліва дзяўчаты і «дзяды», часта пытаюць: будзе гэтая вайна апошняй?

— І ты адказваеш, што ўсталюецца мір і наступіць сусветнае прымірэнне? І мы з табой будзем цалавацца з Чэрчылем, як на вялікдзень?

— Так я не адказваю. Але хіба можна пазбаўляць веры ў мір? Жыць не захочацца...

— Гэта праўда: шчаслівы, хто верыць,

У мяне вырвалася бадай што роспач:

— А што адказваць? Канстанцін Панасавіч!

— Ты правільна адказваеш, Павел, Сэрцам і я веру, прагну... У мяне ж — дзеці. Розум у мяне паганы. Скептык я. Не рамантык, як ты. Выбілі з мяне рамантыку, як пыл з мучнога мяшка.

Спытаць, хто выбіў, я не адважыўся.

Бетховен, Бах, Чайкоўскі... Ніколі раней класічная музыка так не хвалявала. Я проста не разумеў яе. Пачаў разумець? Вельмі можа быць, што чалавек, паступова ці раптоўна, набывае розум ці такія душэўныя якасці, калі прыходзіць асэнсаванне галоўных каштоўнасцей жыцця. Ці, можа, для разумення некаторых з іх, той жа музыкі, патрэбны пэўныя ўмовы, пэўны настрой. Асенні позні вечар, дождж барабаніць у шыбы. Сосны шумяць за акном. А ў пакоі цеплыня. Кнігі ў шафе. Музыка з рэпрадуктара. Думкі пра блізкі мір, пра новае жыццё. Думкі яшчэ трывожныя. Але, можа, галоўнае ў іх — упэўненасць, што «со мной ничего не случится». Тры гады не было яе, гэтай упэўненасці. Не, проста даўно не думаў ні пра смерць — да вайны прывыкаеш, ні тым больш пра такую вось цішыню — з музыкай. Цішыня з музыкай. Дзіўнае адчуванне! Можа, праўда мае рацыю Тужнікаў: расслабіліся мы ад усведамлення, што не завые сірэна баявой трывогі, не ўпадуць бомбы, не параняць зямлю, не заб'юць людзей, не парвуць неба разрывы снарадаў.

Такая казачная музыка прымушае да маўчання, хоць увогуле хочацца пагаварыць, паразважаць.

«Цягне цябе на філасофію, Павел»,— яшчэ неяк раней пажартаваў Калбенка. У апошнія дні я шмат каго падбіваў на такую філасофію — як бы збіраў адказы на пытанні: што людзі думаюць пра будучыню?

Парадаваў Кузаеў. Яго думка: вайна ўсіх навучыла, і калектыўны розум чалавецтва развіўся да новай, вышэйшай ступені, гэта не можа не ўплываць на пошукі разумных узаемаадносін народаў, краін, людзей.

Шахоўскі сказаў катэгарычна:

«Свет мала зменіцца, але мы з вамі, мой юны друг, забіваць роўных сабе больш не будзем».

«Ты рана дэмабілізуешся»,— упікнуў мяне Тужнікаў.

А Данілаў пазмрачнеў:

«Баюся я яго, новага жыцця. Яно ўяўляецца мне цыганскім шчасцем. А ты знаеш, якое яно, цыганскае шчасце? Заўсёды — за гарой, за лесам. І ў тумане».

## 9

Пастукалі ў дзверы. Што за позні госць?

— Хто там?

— Сяржант Ігнацьсва.

Калбенка, раздзеты да споднягa, грэў ля грубкі хворыя ногі, нырнуў пад коўдру.

— Заходзь, заходзь, Жэня.

Узрадаваў мяне яе прыход: Жэня любіла музыку і разумела яе. Во з кім можна пафіласофстваваць.

— Таварыш старшы лейтэнант.

— Не казырай. Я без штаноў.

— Вас, таварыш малодшы лейтэнант, просіць пазваніць старшы сяржант Маслоўскі.

— Што прыпякло пасярод ночы? — буркнуў Калбенка.

— Не магу знаць.

Я ўступіўся ў боты, накінуў плашч-палатку: да штабнога будынка дваццаць крокаў, але сячэ дождж. Выйшлі ў цемру.

— Дзе днявальны, што вы за пасыльную?

— Мне не спіцца, і я сядзела ў тэлефоннай.

— Пра што вы думаеце, што вам не спіцца?

— А вы чаму не спалі?

— Прыводзілі да ладу скалечаны свет.

— Прывялі?

— Вы думаеце — гэта проста?

— О, каб я так думала — мне спалася б. Яшчэ адна збалелая душа!

Віктар чакаў ля тэлефона. Сам узяў трубку.

— Слухай, я прашу: прыйдзі зараз на батарэю.

— Што здарылася?

— Не тэлефонная размова.

— Запэўніваю цябе: фіны не падслухоўваюць. Навошта ім цяпер нашы сакрэты!

— Мне не да жартаў.

— Ты мяне палохаеш.

— Не бойся. Але трывогі не ўзнімай.

— Пароль?

Паведамляць пароль на тэлефоне забаранялася.

— Я сустрэну цябе.

Калбенка заснуў, пакуль я хадзіў на камандны пункт, і я, бадай, парадаваўся: не будзе бацька хваляваўцца за мой паўночны паход на батарэю.

Абуўся з анучамі, апрануў шынель. Многа запаленняў лёгкіх. Калі ваявалі блізка ад паўночнага полюса, не помню, каб нехта ляжаў з такой цывільнай хваробай. Ніякая трасца не брала, ніхто не псаваўся, як у халадзільніку. Пахрыцына тлумачыць хваробу наяўнасцю віруса, які маглі пакінуць фіны. Тэорыя ў большасці афіцэраў выклікала ўсмешку. Кузаеў забараніў даваць такое тлумачэнне радавому саставу. А ў Тужнікава свая тэорыя: псіхалагічна расслабіўся народ, таму і хварэюць.

Удзень я наведваўся на батарэю. Данілаў хадзіў з тэмпературай. Калі я пачаў настойваць, каб звярнуўся да доктара, узлаваўся камбат. «Я лепш за прафесара ўмею лячыць сябе. Цыганскімі сродкамі». Можа, з-за яго хваробы выклікае мяне Маслоўскі? Але чаму мяне? Знайшоў лекара!

Віктар сустрэў на паўдарозе: пасігналіў ліхтарыкам. Сышліся. Чамусьці па яго плашч-палатцы залішне шумна барабаніў дождж — як па бляшанцы.

— Што ў цябе гарыць у такі дождж?

— Яны хацелі страляцца.

— Хто?

— Князь і цыган.

— Ты што — ашалеў?

— Я? Яны ашалелі.

— З-за чаго?

— З-за бабы, канешне.

— З-за Лікі?

— Я ад такой спакусы даўно пазбавіўся б. Ліка ваша — шматаблічная. Табе хочацца падстрэліць кагонебудзь з-за яе?

— Не вярзі лухту! І не выдавай сябе за святога. Перада мной. Расказвай, што здарылася.

— Думаеш, я многа знаю. Мяне падняла днявальная Роза Бейліца. Я спаў. Бабы — што шпіёнкі, іх хлебам не кармі, а дай паслухаць, пра што гавораць камандзіры. Твая любіміца Балашова ўсе сакрэты выведвае.

Калі ў бараку лсылі, ажно хварэла — пад дзвярамі не станеш. А ў зямлянцы — стань каля каміна, з іскрамі словы ляцяць...

— Слухай! Ты сам падобны на бабу. Што ты пачынаеш з Гаршкоў? Што пачула твая Роза?

— Думаеш, можна было зразумець, што яна пачула? Яна выцягнула мяне соннага з зямлянкі на дождж. За каўнер цягнула. Добра, што я спаў у штанах...

— Ты што — здзекуешся з мяне?

— Які да д'ябла здзек! Дзяўчыну трэсла. «Вой-вой, камандзіра ратуйце! Яны страляюцца!» Я адразу здагадаўся, хто гэта яны. Уступіў у боты і ў сподняй кашулі — у камбатаву зямлянку. Яны стаялі адзін перад адным, трымаючыся за кабуры. Пеўні, дый годзе. Толькі не чырвоныя, а белыя... збялелыя. Ты ж ведаеш, Данілаў у гневе заўсёды бялее, мяне яго бледнасць неаднойчы палохала. Смуглы твар яго робіцца попельны. Я патрабаваў у іх пісталеты. Ох, такой яго шалёнасці ніхто яшчэ не бачыў! Ён не закрычаў — прашаптаў, але як прашаптаў! Ты пачуў бы! Закамандаваў мне: «Кругом». Ды мяне не спалохаеш. Я прыгразіў, што падніму батарэю па трывозе і выклічу камандзіра дывізіёна. Стаў паміж імі. І Шахоўскі моўчкі пакінуў зямлянку. А цыган выхапіў пісталет і хацеў кінуцца за ім. Але я загарадзіў дзверы. Ён тыцкаў мне дулам у зубы. Губу рассек, вар'ят... Мог застрэліць, як думаеш?

Віктар злаваўся. Але ў расказе яго прабіваўся смяшок. Мне ж было не да смеху. Я вельмі ўстрывожыўся. Былі за гады вайны, асабліва пасля з'яўлення дзяўчат, самыя неверагодныя гісторыі, часам і трагічныя. Але не на такім узроўні. Два афіцэры, капітан і старшы лейтэнант, камандзіры немалых рангаў па маштабах дывізіёна... Сітуацыя для трыбунала. Даведаецца Зубраў...

Я прыкідваў у галаве, як утаіць гэтую няхай сабе і рамантычную, але дзікую гісторыю. Такія разумныя людзі і такія дурні! А калі не ўдасца ўтаіць, калі выплыве, то як ператварыць у нявінны жарт, з якога маглі б толькі пасмяяцца? Трывожыў мяне і лёс трэцяга чалавека — Лікі. Не стала б яна без віны вінаватай. Кузаеў, калі гісторыя дойдзе да яго ў натуральным выглядзе, напэўна, у першую чаргу пазбавіцца ад яе. А гэта мне здавалася несправядлівым. Караць трэба вінаватых! Хто вінаваты, калі двое пакахалі адну? Гісторыя старая, як свет. І заўсёды новая, заўсёды незвычайная.

— Роза не змянілася з паста?

— Не.

— Папярэдзь — каб нікому ні слова. Хто дзяжурны афіцэр?

— Унярха. Спіць, як тхор.

— Пайшлі да цыгана.

— Не пайду. Пайшоў ён к чорту! Хопіць з мяне яго пісталета. Губа баліць. Во бацькаў сынок, зараза! У трыбунал захацеў.

— Не каркай. Думай, парторг, пра гонар батарэі.

Калі я ціхенька ўвайшоў у зямлянку, Данілаў сядзеў за столікам спіной да дзвярэй, трымаючы ў далонях сваю прыгожую кучаравую галаву — усё роўна як баяўся, што яе вось-вось знясуць. Пачуў. Падхапіўся. Вельмі здзівіўся, убачыўшы мяне. Але тут жа вочы ўспыхнулі шалёным гневам.

— Ты? Гэта ён, парторг?! Заўтра ж духу яго не будзе на батарэі!

— Не крычы,— прычыніў я дзверы шчыльней.— Невядома, каго з вас не будзе! Яго ці цябе.

— Сукін сын! — ён кінуўся па цесным бліндажы, ад сцяны да сцяны, гатовы, здаецца, разбіць галаву.— Я ўтойваў яго сувязь з Васіленкавай, а ён падняў дывізіён...— і доўгая лаянка на цыганскай мове.

— Нікога ён не падняў. Скалцы дзякуй, што Віктар пазваніў мне. Не кідайся як Марка па пекле. Расказвай, што адбылося. Толькі не цямні. А потым думаць будзем. Разам.

Але не адразу ўдалося ўтаймаваць гэтага дзіўнага чалавека. У розным стане бачыў я «свайго Алеку», якога палюбіў, як толькі ён прыбыў на батарэю,— вясёлага спевака, гарачага да апантанасці ў баі, разумнага ў размовах пра вайну і жыццё, добрага да людзей, небяспечнага ў гневе... Але такім раз'юшаным не бачыў. Што яго так абурыла? Нават і тады, калі, трохі супакоіўшыся, Данілаў расказаў, што адбылося паміж ім і Шахоўскім, я не адразу дапяў, што ж яго распаліла да такога стану.

А расказаў ён вось што.

Позні візіт намесніка камандзіра дывізіёна здзівіў Данілава. З якой мэтай? Што можна правяраць у такую глухую дажджлівую ноч? Наземную ахову?

«Вы прыбылі незаўважаным, таварыш капітан?» — устрывожыўся камбат.

«Ды не, ахова ў вас пільная,— засмяяўся Шахоўскі, здалося Данілаву, трохі ўзбуджана, адазваўся з пахвалой: — Спыніў і знешні паставы і днявальны на пазіцыі».

Здзівіла яшчэ больш. Сяброўскіх адносін паміж імі не было. Чыста службовыя. Хоць ІПахоўскі нікога не прымушаў выцягвацца перад сабой, нават радавых. Ён умеў з усімі быць аднолькавым — простым. Аднак людзі праніклівыя, як Калбенка ды і той жа Данілаў, Марыя Аляксееўна Мураўёва і я, навучаны імі, улоўлівалі ў яго адносінах нейкі паблажлівы скептыцызм да ўсіх іншых, нават да Кузаева, быццам глядзеў ён на людзей з вышыні, з якой відаць усе іх слабасці, усе прамашкі. Марыя Аляксееўна, скупа, з тактоўнай далікатнасцю адазваўшыся аб Шахоўскім пры мне, перасмыкнула

плячамі, як ад холаду, захінула хустку і заключыла нібыта жартам: «Арыстакрат-дэмакрат». І я адчуў у яе тоне зусім не ўхваленне яго дэмакратычнасці. Ці не пасля размовы з Мураўёвай я падумаў: «А з кім капітан сябруе так, як я з Калбенкам, з Данілавым, з Маслоўскім, з Жэняй Ігнацьевай? З Пахрыцынай? »

Псіхолаг Шахоўскі адчуў насцярожанасць камандзіра батарэі. «Кіньце, Данілаў, не выцягвайцеся, няхай сабе і ўнутрана. Пасядзім як таварышы, пагутарым. Лепш пазнаем адзін аднаго. Вы мяне даўно цікавіце. Чай любіце? Я захапіў індыйскі. З англійскіх ваенных запасаў. Мне яго падарыў яшчэ ў Мурманску інтэндант арміі. Дазнаўся, што я ленінградзец... Мы, піцерцы, людзі асаблівыя, з асаблівай псіхалогіяй. Я думаю, жыхары ніводнага горада ў свеце не з'яднаны так, як мы. Цяпер, пасля таго што перажыў горад, ленінградцы парадніліся яшчэ больш».

Сядзелі, пілі чай, гутарылі. Не, гэта быў не дыялог двух роўных. Гаварыў галоўным чынам Шахоўскі, чалавек у штодзённасці не вельмі гаманкі. Расказваў пра сябе. Не пра сваю дваранскую радаслоўную, гэта ў Данілава, напэўна, нарадзіла б насмешлівы скептыцызм: падумаеш, прыйшоў пахваліцца сваім паходжаннем перад цыгайскім сынам! Расказваў пра сваю вучобу ў інстытуце, у аспірантуры, пра абарону дысертацыі. І пра электратэхніку. Улюбёна. Папулярна. З прагнозамі, якія маглі б здацца фантастыкай каму іншаму. Але не Данілаву. Зусім нядаўна, яшчэ тры гады назад, сірата-дзетдомавец, лепшы вучань па матэматыцы, сам марыў пра падобную адукацыю. Пра ваенна-тэхнічную акадэмію марыў. Мала хто ведаў пра гэтую яго мару. Але да Шахоўскага, напэўна, дайшло. Ды і сам мог здагадацца па той цікавасці, якую камбат праяўляў да артылерыйскай тэхнікі. Калі, здаралася, Шахоўскі адладжваў электрычную схему ПУАЗО, Данілаў забываўся на ўсе свае шматлікія абавязкі, не адступаў ад інжынера, унікаў у кожную дэталь з прагнасцю стараннага вучня. За няпоўны год вучобы ў ваенным вучылішчы да ўсяго дайсці было немагчыма. А цяпер Данілаў, як мала хто з маладых камандзіраў, умеў сам адрамантаваць значныя пашкоджанні ў прыборы, балістычным вылічальніку, у гарматных сінхронных прыёмніках азімута, трубкі, вугла ўзвышэння. Механікай гарматы авалодвалі слесары сярэдняга разраду, а майстроў па электрычнай апаратуры, якая псавалася часцей, было нямнога. Іншыя дывізіёны, здаралася, па тыдню чакалі інжынера з рамонтных майстэрань корпуса. А невядзенне агню цэлай батарэяй — сур'ёзнае ЧП. Тлумачальныя данясенні пісаліся ажно ў штаб фронту. Вось чаму Кузаеў так цаніў Шахоўскага і ўтойваў тэхнічныя магчымасці свайго намесніка ад вышэйшага начальства —

каб не забралі. Хто іншы імкнуўся б у штаб корпуса: павышэнне, новае званне. Шахоўскі не рваўся туды. Адны афіцэры за гэта хвалілі яго, другія — пацiскалі плячамі: у арыстакратаў свая логіка, чорт іх зразумее.

Расслабіўся Данілаў ад індыйскага чаю, ад увагі кандыдата навук, ад яго даверлівага сяброўскага расказу пра сябе і сваю дзівосную навуку. Можа, толькі ў адным месцы насцярожыўся — калі той прызнаўся, што не атрымалася ў яго сямейнага шчасця: жаніўся ён на дачцэ вядомага мастака і хутка зразумеў, што памыліўся. Развяліся. Расказаў капітан пра гэта між іншым. Данілаву хацелася ведаць падрабязнасці яго інтымнага жыцця, але з-за далікатнасці не адваясыўся распытваць: у такой справе кожны сам вызначае, у якой ступені можна адкрыцца.

Цыганскі хлопчык, дабраўшыся да кніг, часам чырванеў ад вычытанага ў іх; за такое «раздзяванне» людзей, якое рабілі некаторыя пісьменнікі, у табары секлі б кнутом, лічыў ён.

Урэшце Шахоўскі пачаў пазіраць на гадзіннік. Аднак адыходзіць не спяшаўся. Данілаў заўважыў яго ўзбуджанасць: падымаўся з табурэта, кружыў па зямлянцы. Прасторная яна была ў параўнанні з тымі, у якіх жылі ў Запаляр'і, аднак зямлянка ёсць зямлянка, прастор яе замыкаўся трыма-чатырма крокамі. А такое кружэнне ў вузкай клетцы і думкі бунтуе. Робяцца яны непаслядоўнымі, ірванымі, пабльытанымі. І Шахоўскі пачаў скакаць з тэмы на тэму — ад высокай палітыкі да таго, як п'юць чай англічане, да крытыкі інструкцый медсанупра наконт жаночай гігіены. «Чаму раптам такая тэма»,— здзівіўся Данілаў,— не было не зачэпкі, ды і крытыка дзіўная, якраз таго, што ён, камандзір батарэі, якому прыходзіцца займацца гэтым практычна, лічыў разумным. Відаць, у таго, хто нарадзіўся ў шатры, і ў таго, у каго маленства прайшло ў палацы, былі розныя ўяўленні гіра гігіену.

Расслабленасць у Данілава знікла, ён насцярожыўся, з'явілася падазронасць, што арыстакрат прыйшоў з глыбока тайным намерам і хоча злавіць яго, прастака, на нечым і ашукаць. Але на чым? Здагадка не прыходзіла. І камбат сціснуўся, як спружына, стаіўся, што рысь, гатовы і да абароны і да нападзення.

Шахоўскі спыніўся перад гаспадаром зямлянкі, упершыню збянтэжана ўсміхнуўся.

«Я з незвычайнай місіяй да цябе, Данілаў,— і глыбока ўдыхнуў гарачае паветра.— Я хачу прапанаваць дзяўчыне выйсці за мяне замуж. І зрабіць гэта ў тваёй прысутнасці. Не хавацца ж мне... Каб усё было прыстойна, публічна».

Адлягло ў Данілава. Адлягло да таго, што хацелася засмяяцца. З аднаго боку. А з другога... якую буру нарадзіла ў яго душы! Што ён павінен зрабіць? Ад яго... так, ад яго рашэння залежыць лёс... не, не іх, яе і гэтага, яго ўласны. Ніколі не ўяўляў, што яму, афіцэру, прыйдзецца рашаць і такую задачу. І на вырашэнне яе даецца адзін міг. Як у баі, на перадавой — няправільны рух — і смерць. Няправільны адказ — і прысуд... Чаму? Свайму каханню? Сваёй чалавечай годнасці? Афіцэрскаму гонару?

Дзе ж тыя словы, што не прагучалі б прыгаворам і каханню, і годнасці, і гонару?

Данілаў зацягваў адказ. Спытаў, хоць сумнення ў яго не было, хто дзяўчына:

«Іваністава?» — і спалохаўся, адчуўшы, як перасохла ў роце, у горле, у сяродку.

«Так. Яна падабалася мне яшчэ ў ваенкамаце».

Адказ памог Данілаву прыняць рашэнне; у яго выбухнула злосць: «Ах ты, гусь... дык ты не дальнамершчыцу выбіраў — каханую сабе!»

Данілаў падняўся за сталом, але сказаў не па-вайсковаму — нечакана фамільярна і, бадай, весела:

«Ведай, капітан, я таксама люблю Ліку і маю намер ажаніцца з ёй».

У Шахоўскага сталі круглыя вочы: такога ён не чакаў, бо ніхто і слова не вымавіў, што ў камандзіра першай батарэі любоў, хоць тэму гэтую афіцэры любілі пасмакаваць, знаходзілі ёй месца амаль у кожнай размове. «Што ж рабіць, мой баявы таварыш?» — Шахоўскі хацеў сказаць гэтак жа весела, але голас яго пацішэў. Голас яго настроіў Данілава наступальна.

«Давай рассячом гэты вузел, як секлі яго вашы продкі».

Магчыма, гэта быў жарт. Магчыма... Сам Данілаў так і не здолеў мне пераканаўча вытлумачыць: ці былі словы яго жартам, ці сказаў ён іх сур'ёзна, са злавесным намерам; згаджаўся са мной, што не магла такая дзікая думка ўзнікнуць у савецкага афіцэра, але тут жа і сумняваўся: «Ты мяне не знаеш... Я сам сябе не знаю,...»

Кахоўскі скрывіўся ў зняважлівай усмешцы:

«Ніхто з маіх продкаў не страляўся з цыганам!»

Гэта была шалёная бомба, кінутая бяздумна. Яна ўшчэнт разарвала спакой і разважлівасць камандзіра батарэі. Узвіхрыўся смерч абразы, самай балючай, самай цяжкай.

Данілаў схапіў са сцяны партупею з папругай і пісталетам на ёй, накінуў на плечы; дрыготкімі рукамі падпяразваючыся, закрычаў на поўны голас, забыўшыся, што могуць пачуць на пазіцыі:

«Дык табе цыган — не чалавек? Смярдзючы феадал! Цяпер ты будзеш страляцца! Я цябе прымушу, недабіты эксплуататар! Я табе дакажу, хто з нас чалавек!»

Натуральна, што эпітэт да яго паходжання абразіў нашчадка дваранскага роду.

Шахоўскі збялеў, таксама схапіўся за кабуру. Але цалкам развага не пакінула больш сталага і вопытнага чалавека.

«Не шалейце, Данілаў».

І пацягнуўся рукой, каб зняць з цвіка каля дзвярэй шынель.

Але супакоіць Данілава такімі словамі было немагчыма. Ён крычаў:

«Не! Ты будзеш страляцца! А паспрабуеш уцячы, трус,— я пушчу табе кулю ў спіну».

Шахоўскі, безумоўна, не быў баязліўцам, але паварочвацца спіной пабаяўся: з шалёным цыганам, бацька якога з-за рэўнасці забіў чалавека, жартачкі дрэнныя. Магчыма, да яго дайшло, што ён сапраўды-такі абразіў Данілава. Паспрабаваў выклікаць саперніка на развагу:

«Дзе ж мы будзем страляцца? Тут, у зямлянцы?»

Ад такога пытання старшы лейтэнант трохі сумеўся: сапраўды — дзе?

«Не блазнуйце, Данілаў. На дварэ ноч. А да раніцы я не вытрымаю — скажу Кузаеву, і вас тут жа арыштуюць. Я падказваю вам выйсце: арыштуйце мяне. А раніцой застрэліце. Страляеце вы лепш, я ведаю. Але гэта будзе забойства. У секунданты да нас ніхто не пойдзе. Я памру з гонарам... за любоў. А вас расстраляюць. У вайну... З ганьбай... Як расстрэльваюць фашысцкіх памагатых».

Бязлітасная логіка і праўда гэтых слоў астуджвала гарачую галаву, але тое, што яго як бы гвалтоўна абяззбройвалі, заганялі ў кут, дало адчуванне новай, можа, яшчэ больш цяжкай знявагі: ён апынуўся ў дурнях. Больш, чым нацыянальную абразу, Данілаў перажываў пасля гэту знявагу — што ён сам сябе паставіў у дурні. З'яўленне Віктара Маслоўскага ратавала яго.

— Што ты зрабіў бы? — спытаў я, калі Данілаў расказаў, як яго пачала «заводзіць на новыя абароты» гэта знявага.

— Не знаю! Не знаю! Не пытай! Зрабіў бы штось дзікае, непапраўнае,— скрыгатаў ён зубамі.

— Застрэліў бы?

— Сціхні, чорт вазьмі! А то я разаб'ю табе морду! Забяры Маслоўскага. Перад ім я буду ўвесь час адчуваць сваю знявагу.

— Нічога. Паразумнееш.

Данілаў стагнаў.

— Што ты робіш са мной? Што ты робіш?

— Я раблю? Больш, як ты, нарабіць немагчыма,— я ўклаў у слова «нарабіць» грубы, але дакладны сэнс.

— Ты давядзеш мяне, што я пушчу сабе кулю ў лоб.

Гэта спалохала.

— Саша, павер мне. Прыйдзе раніца, сціхне дождж, і ты будзеш успамінаць гэтую начную падзею як сон, а яшчэ пазней — з гумарам. Толькі ніякіх тлумачэнняў ні з Розай, ні з Віктарам. Я паставіў кропку. Яны будуць маўчаць.

— А ён будзе маўчаць?

— Не сумняваюся. Ён разумны чалавек.

— Сволач ён, а не разумны чалавек! Чаму я не сказаў яму пра доктарку? Ён жа жыве з ёй як з жонкай. Пра гэта ўвесь дывізіён ведае. І хацеў спакусіць Ліку. Падлюга!

— І яму — больш ні слова. Усё забыта.

— Лёгка табе забываць. А калі ён усё ж зробіць ёй прапанову? І яна згодзіцца?

— Не згодзіцца. Не згодзіцца. Не бойся.

Дзіўна, але я сапраўды быў цвёрда ўпэўнены, што Ліка не згодзіцца выйсці замуж за капітана.

Мы хадзілі ў полі, у цемры, спатыкаліся аб камяні. Я вывеў сябра свайго за пазіцыю, каб нас ніхто больш не падслухаў і каб ён астудзіў свае паўднёвыя страсці пад карэльскім дробным, але спорным і халодным дажджом, які барабаніў па маёй плашч-палатцы, а яго шынель і кіцель прабіваў, напэўна, наскрозь.

10

Яшчэ на снеданні я зразумеў, што Пахрыцына хоча пагаварыць са мной яўна не па службовай справе. Я здагадваўся, пра што яна можа гаварыць і... не хацеў гэтай размовы, помніў яе бестактоўнасць у адносінах да Лікі. Ці баяўся? Чаго? Жаночай споведзі, скаргі? Я ўмеў выслухоўваць споведзі дзяўчат, недарэмна Калбенка, ды і Тужнікаў, называлі мяне папом. Але слухаць споведзь, а тым больш скаргу сталай жанчыны, капітана медыцынскай службы... На ліха мне!

Разлад паміж імі, Шахоўскім і ёй, афіцэры штаба заўважылі яшчэ дні два назад. Жанчына не ўтойвала гэтага... не магла іграць, што ўсё, маўляў, добра. Пачуцці яе былі што на вітрыне.

У афіцэрскай зале стаялі два доўгія сталы, і кожны з нас меў за імі пастаяннае месца – Любоў Сяргееўна сядзела заўсёды за адным сталом з Шахоўскім, але не побач, а насупраць, праз стол, тварам у

твар. Любавалася яго высакародным аблiччам з тонкiмi рысамi: вузкiя, трохi як бы мангольскiя вочы, тонкiя, як падведзеныя, бровы, нос — што ў грэчаскiх багоў, жаночыя вусны, глыбокiя залысiны, а памiж iмi даволi густая яшчэ капа рудаватых хвалiстых валасоў, заўсёды акуратна прычасаных; толькi мочкi вушэй у капiтана былi трохi абвiслыя, быццам iх адцягнулi цяжкiя завушнiцы, але i гэтае парушэнне прапорцый, якое каму iншаму магло папсаваць партрэт, яго аблiччу дадавала тае ж незвычайнасцi.

Пахрыцына перасела за наш стол. А потым парушыла загад Кузаева (бо сам ён з прыездам жонкi парушыў — не з'яўляўся ў сталоўцы) i перакусвала на кухнi, калi здымала пробу.

Начальнiкi служб не любiлi прынцыповую доктарку, па яе рапартах аб парушэннях санiтарыi не адзiн з iх схапiў спагнанне, але наконт таго, што памiж ёй i яе каханым «прабегла кошка», нiхто не кпiў, не зларадклiчаў. Ей спачувалi, бо нiхто i не верыў, што прыгожы арыстакрат ажэнiцца з васпаватай курскай мужычкай, няхай яна i доктар. Я таксама не верыў i даўно шкадаваў даверлiвую жанчыну. Але цяпер я ведаў тое, чаго не ведаў нiхто са штабных (нават Калбенку не расказаў я пра начное здарэнне на першай батарэi), i мае адносiны да Пахрыцынай змянiлiся дзiўна: не шкадаваў яе больш. Але — што асаблiва здзiўляла — не адчуваў я i абурэння супраць Шахоўскага. Хiба ў самога мяне не кружылася галава ў тэатры ад блiзкасцi... не ведзьмы — чараўнiцы, ад якой пахне сунiцамi i мёдам?

Пахрыцына села побач, ды яшчэ спытала дазволу :

— З вамi можна, Павел?

Я сумеўся. Iншыя афiцэры (за маiм сталом сядзелi ўсе малодшыя за яе па званню) таксама сумелiся, прыцiхлы Але яна разгаварыла нас. Яна была ў тую ранiцу нязвычна гаваркой, нават дасцiпнай. Але адзiн я зразумеў, што гэта ад нервовай узбуджанасцi. Ела яна ў тым жа тэмпе, што i я. Аднак мне ўдалося выслiзнуць са сталоўкi першым.

Доктар колькi разоў з'яўлялася ў штабе, але я пазбягаў яе. (Пасля перажываў, што дадаваў ёй яшчэ i гэтыя пакуты, яшчэ адну знявагу — лавiць нейкага малод шага лейтэнанта, каб спытаць у яго...)

Знарок пайшоў на батарэю, хоць пiльнай патрэбы не было. Абедаў у Данiлава. Пры ранейшых сустрэчах ён нi слова не казаў пра начную прыгоду, i я стараўся нiчым — нi жэстам, нi загадкавай усмешкай — не нагадаць яму. Кропка. Забыта. Нiдзе не выплыла. Малайцы Роза i Вiктар! А тут ён сам нагадаў: бадай, здаволена сказаў:

— А ты — псiхолаг. Праўда, цяпер мне прыкра i смешна ўспамiнаць тую дурную гiсторыю. З-за чаго я завёўся? Чаму мне здалося, што ён абразiў народ? Проста сталы i разважлiвы чалавек пасмяяўся з

майго дурнога жарабячага выбрыку. Сур'ёзна я сказаў? Жартаўліва? Чорт яго ведае. У стане афекту чалавек траціць галаву. Каб знайшоўся нехта разумны, майго бацьку можна было б супакоіць. А яны падбухторвалі, падлюгі — мужчыны табара. Я сам ненавіджу сваіх супляменнікаў. Колькі яны ад бяздумнасці рабілі зла! Чаму ж я ўзарваўся, дурань? Страляцца захацеў... Ідыёт! У той час, калі гінуць мільёны. Пугай няма каму адсцёбаць такога шаленца!

Разумна каяўся цыган. Але, слухаючы яго, я ўспомніў Любоў Сяргееўну. Расказаў, што яна хоча пагаварыць са мной, здагадваюся — пра што і... пазбягаю, разумеючы, што гэта нядобра. І ў Данілава, які толькі што здзекліва караў сябе за недастойны культурнага чалавека ўчынак, раптам зноў гнеўна загарэліся вочы:

— Ты яму скажы: на батарэю няхай не з'яўляецца! Калі прыйдзе і паспрабуе сустрэцца з Лікай, выведу пад канвоем. Няхай мяне судзяць.

— Ну і вар'ят!

— Сам знаю, што вар'ят. Але я люблю яе! Я!

— Прыватнік! А яна цябе любіць? Ты спытаў?

Скіс мой сябар. На ўсё ў яго хапала адвагі, на размову з дзяўчынай — не хапала.

Сумленне перамагло. Не стаў я зневажаць больш сур'ёзную жанчыну пошукамі сустрэчы са мной. Перад вячэрай сам пайшоў у медсанчасць. У асобным доме размяшчаліся прыёмны пакой, палаты, мужчынская і жаночая, і там жа, у былой кухні, жыла начальнік медслужбы дывізіёна.

Я пастукаў. Пахрыцына спытала:

— Хто там?

Атрымаўшы адказ, доўга не дазваляла ўвайсці, аднак я чуў яе крокі. Апраналася, ці што? Гэта збянтэжыла мяне. Я адчуў сябе ніякавата: у доме лёгкія перагародкі, і ў палатах маглі чуць мой голас. Цікаўная Таня Балашова, напэўна, ужо пад дзвярамі, каля замочнай шчыліны. Урэшце яна сказала прыглушана:

— Калі ласка!

Я пераступіў парог. Пахрыцына стаяла каля пліты ў хатнім халаце — не адзявалася, значыцца, і не спала — ложак па-жаночаму акуратна засланы. Выгляд мела нязвыкла разгублены, бадай, спалоханы, такой капітана, якая не гублялася ні перад якім, нават перад самым высокім начальствам, я ніколі раней не бачыў. Каго яна спалохалася? Мяне?

— Вам што, Шыянок? Захварэлі?

— Любоў Сяргееўна, раніцой мне здалося, што вы хацелі са мной пагаварыць.

Яна памаўчала, пільна разглядаючы мяне.

— Я памыліўся?

— Не.

Яна падышла, цераз маё плячо працягнула руку, шчыльней прычыніла дзверы. Ад яе патыхала спіртам. Але тады я не падумаў, што яна магла піць яго, ведаў, наіўны: урачы мыюць спіртам рукі. Але пасля якой аперацыі яна магла мыць так рукі — пра гэта таксама не падумаў.

Адышла да ложка, пагладзіла мярэясную накідку на падушцы. Напэўна, сама вязала.

Я агледзеў пакойчык. Вельмі ж утульны ён здаўся. Жаночыя рукі! На сцяне — фатаграфіі. У бярозавай рамцы (прыгожа рабіў іх штабны сталяр Мальцаў) — партрэт пісьменніка... добра ведаў, што гэта пісьменнік, а хто — успомніць не мог. Тургенеў? Не. Ганчароў? Не. Спытаць не адважыўся, каб не паказаць невуцтва сваё, пра мяне ж думаюць, што я шмат ведаю. Ды, урэшце, не Дастаеўскі, якога мы не вучылі ў педтэхнікуме, прыцягваў маю ўвагу. Яна, гаспадыня пакоя; яе ўсхваляванасць перадалася і мне. Што яна скажа? Будзе адно пытанне ці споведзь? Баяўся я споведзі, скаргі. Які я дарадца ёй!

Любоў Сяргееўна наблізілася, спытала шэптам, аглянуўшыся на сцяну:

— Скажы, Павел, праўда, што ён сватаўся да гэтай...— яна пашукала слова, але Ліку не зняважыла, як у тэатры,— вашай прыгажуні?

— Няпраўда! Не! — я адказаў шчыра, з ўпэўненасцю, перакананы, што пасватацца так, каб стаіць сваю сустрэчу з Лікай ад Данілава,, Шахоўскі не мог. Я спалохаўся яе пытання, яе тону і намерваўся даказаць, што нічога не было,— няхай супакоіцца. Але яна сказала з болем:

— Вы маніце, Шыянок! Божа мой, якія вы хлусы! Усе!

— Клянуся вам, таварыш капітан...

— Пасаромейся, хлопчык! Чула я і не такія клятвы.

— Любоў Сяргееўна!..

— Я верыла ў вашу шчырасць, Шыянок. Не дапускала, што і вы...

Я памкнуўся гаварыць. Яна закрылася рукамі, грэбліва растапырыўшы пальцы.

— Не трэба! Я вас не затрымліваю...

Выскачыў я на двор, як апараны. На марозе адчуў, што ажно мокры ўвесь.

Спачатку ўзлаваўся:

«Ну, і чорт з табой! Не верыш — не трэба!»

Але калі Пахрыцына не прыйшла ў той вечар у сталоўку, у мяне з'явілася пачуццё трывогі. Спіртны пах ад яе набыў злавесны сэнс.

Сказаў пра яе пытанне Калбенку. Парторг паставіўся да яго, бадай, гэтак жа сур'ёзна, як і я, хоць часта пра дывізіённыя «любоўныя гісторыі» адзываўся з іроніяй — як сталы чалавек пра дзіцячыя забаўкі.

— У доктаркі не хапае самакрытычнасці. Але што зробіш, брат. Мне яе шкада. У чалавека можа быць васпаваты твар, але душа тонкая, як дасканалы музычны інструмент. З самага пачатку іх сувязі я ведаў, што гэта дрэнна скончыцца. Для яе. Але я не люблю лазіць у чужыя душы. Хоць хлюсту гэтаму, што рэкламуе сваё дваранскае паходжанне, мне хацелася сказаць: якая табе пара гэтая сур'ёзная жанчына? Не той аб'ект для задавальнення твайго юру. Свіння ён, а не арыстакрат! Я адразу здагадаўся, што такую прыгожую ў ваенкамаце ён выбраў з прыцэлам. Доўга толькі ён нешта падступаў да яе. Там улсо ў цыгана галава закружылася. У таго гэта больш сур'ёзна.

— А вы адкуль знаеце?

— Лічыш, адзін ты ўсё бачыш? Дрэнна ты думаеш пра свайго парторга.

«Аднак пра начную сутычку ніхто не пранюхаў»,— падумаў я.

— І вось што я табе, Паўлік, скажу. Асабіста я параіў бы «Стрэлачніку» хутчэй сплавіць фінку ў другую часць. Няхай ідзе ў камендатуру свайго горада... Жыла б дома...

— А яе — за што? — зусім шчыра спалохаўся і бадай абурыўся я.

— А во за гэтае самае, што і ты, святы праведнік, забыўся на ўсё... і штодня бегаеш на батарэю.

— Што вы!

— За прыгажосць.

— Ну і ну! Не чакаў я ад вас. Караць за прыгажосць? Інквізіцыя не даходзіла...

— Не караць. А ратаваць ад яе такіх дурняў, як ты, як Данілаў... Чаго добрага, страляцца пачняце.

Я ажно сцяўся: «Няўжо знае?»

— А што датычыць інквізіцыі, то там усё было. Чытаў я пра аднаго езуіта, які паслаў на касцёр лепшую дзяўчыну горада толькі за тое, што пад яе акном многа хлопцаў спявала серэнады.

— Па-мойму, той пракляты фанатык сам баяўся, што спакусіцца... розум страціў ад грэшных думак. Таму, сабака, і паслаў яе на касцёр. Калі не мне, дык няхай нікому...

— Гэта ты, бісаў сын, так пляскаеш бацьку роднага? Дык я табе скажу: быў бы я маладзейшы, не звязаны дзецьмі, то вас, сасункоў, даўно б у дурнях пакінуў.

Не хадзіў бы паўгода, як кот каля гарачага сала. Такую, брат, дзяўчыну страчаеш раз у жыцці. Ї да болю шкада, што часта яна трапляе такому донжуану, як гэты твой асколак феадальнай фармацыі. Ён-такі абскача вас, паклоннічкаў. Такі танцор! Бачыў, як ён выкручваў яе ў тэатры? Кузаіха захапілася: «Ах, якая пара!»

— А што ж будзе з доктарам?

— З доктарам? Выпалашча ў слязах некалькі навалачак і... зробіцца злоснай... мужчынаненавіснай. У іншай абстаноўцы... пасля вайны можа, канечне, выйсці замуж. Але не дай бог стаць яе мужам...

— А мы, значыцца, будзем убаку? Дзе ж наш афіцэрскі гонар? Судзіць яго судом гонару!

— Ідэаліст ты, Павел! Спытай у яе: хоча яна, каб яго судзілі? Не, брат, тут больш тонка і складана. Гэта быў бы суд над ёй, а не над ім. Калі іх адносіны выплылі з барака медчасці, хто з нас асуджаў яго? Успомні. Ты адзін?

— Самае ганебнае... для мяне: і я не асуджаў.

— Вось бачыш! Асуджалі яе.

— А я і яе не асуджаў. За што? Хіба не вы так вучылі?

— Ах, Паўлік! Люблю цябе шмат за што і за гэта — што ты не заразіўся яшчэ ханжаствам. Я столькі патраціў пораху на барацьбу з ім. Але... перамагло яно...

— Што вы, Канстанцін Панасавіч! У вас і кропелькі яго няма!

— Не падхалімнічай. Самы чысты чалавек, знаеш, дзе? На вайне. Перад тварам смерці. Ачышчаецца ад усіх грахоў. Якімі мы будзем пасля вайны? У Мурманску ты думаў, які шынель адзенеш? А патыхнула на цябе мірным ветрам, і ты ўжо перажываеш, што Кум раздае афіцэрам тонкае англійскае сукно на мундзіры, а табе не дае. І не дасць! Усім не хапае. І ты не паскардзішся: у цябе гонар. Але чарвяк будзе цябе грызці. І пры першай магчымасці ты наступіш Куму на любімы мазоль.

Я пачырванеў ад сораму, бо сапраўды моцна настроіўся супраць Кума, які помсціць за кашу нізка і подла: знарок, свіння, Вандзе выдаў і на кіцель і на шынель, выдаў нават тым жа юначкам, што ўсяго тры месяцы як са школы, а мне — не хапіла гэтага няшчаснага сукна.

Абурэнне сваё я выказаў толькі яму, Калбенку. І — калі ласка — атрымаў пстрычку па носе. Так парторг выхоўваў мяне: часам, як дзіця, вадзіў за руку, часам з далікатнасцю разумнага педагога паказваў, што трэба і што нельга, а то і тыцкаў носам. Але я ніколі не крыўдзіўся. Я ўдзячны яму. За ўсё. Акрамя той вячэрняй размовы, якая развеяла маю трывогу за Любоў Сяргееўну — «выпалашча навалачкі ў слязах» — і скіравала думкі на сябе самога: які я? Як назваць мае адносіны да Лікі? Я прыемна захваляваўся, калі Калбенка сказаў, што з-за яе штодня бываю на батарэі. І спалохаўся ад яго прапановы адаслаць дзяўчыну ў другую часць. Сумленны я перад сабой? Перад Данілавым? Як пераадолець сваю непрыязнасць да Кумкова? Дараваў жа я шмат што Тужнікаву, калі ён сказаў пра братоў і пра тое, як дзеліць атэстат свой.

Трэба любіць людзей!

Усіх?

Неяк раней я сказаў пра гэта Калбенку, і ён еось так спытаў:

«Усіх?»

Я адказаў, што школьнік:

«Сваіх — усіх. Ворагаў... класавых... ненавідзець».

Парторг засмяяўся: «Калі ты паспеў заразіцца талстоўствам? Пляснулі па шчацэ — падстаўляй другую. Так?»

Не, не так! І аднак... Хачу, каб любоў мая ўзвышала мяне!

З такімі думкамі я варочаўся на жорсткай канапе ў тую доўгую асеннюю ноч.

Тужнікава выклікалі ў палітаддзел корпуса. У Мурманск. За тысячу з гакам вёрст. Поезд туды — ездзіў і я — ішоў без малога трое сутак. Тыдзень, калі не больш, маглі мы жыць без непасрэднага начальніка, які валодаў незвычайнай здольнасцю ўсіх прымусіць працаваць. Нават Калбенку, незалежнасці якога пабойваўся. Нават Кузаева.

Канстанцін Панасавіч так і абвясціў пасля таго, як мы весела памаглі маёру ўціснуцца ў перапоўнены вагон:

— Адпачываем, Павел! Няхай наш чыстаплюй панюхае тытуню і смуроду анучак.

Ды і пагода настройвала на адпачынак. Пасля першых нечакана моцных маразоў адлягло, ішоў мокры снег уперамешку з дажджом. З гармат і прыбораў не здымалі чахлоў. Парторг жартаваў:

— Без Тужнікава ўвесь дывізіён адпачывае.

Антаніна Фёдараўна дала мне «Ледзяны дом» Лажэчнікава, дарэвалюцыйнае выданне з яцямі, і я п'янеў ад чытання.

У Калбенкі не хапала цярпення на доўгае чытанне, газеты прачытваў за гадзіну. У прэферанс мог рэзацца суткамі. Між іншым, мяне, ідэаліста, спачатку ашаламіла гэтая страсць яго: стары партыец — і карцёжнік? Але не адзін ён гуляў. І Кузаеў, і жонка яго, і Мураўёў... Саўчанка за тры вярсты прыходзіў пад дажджом, каб пагуляць. На маладую жонку забываўся.

Пры нампаліце — хіба ўвечары «скідвалі» «маленькую пулечку». Тужнікаў змагаўся з буржуазнымі перажыткамі, усё асуджаў: выпіўку, курэнне, каханне, старыя рамансы, якія спяваў Шахоўскі... Але змагаўся як бы з «пераплюхам», так, што з яго старанняў іранічна пасміхаліся ды рабіліся больш вынаходлівымі ва ўтойванні сваіх грахоў.

У яго адсутнасць «пульку распісвалі» трэці дзень — на кватэры ў Кузаева. Калбенка нязменна выйграваў і вяртаўся вясёлы, узбуджаны, здзіўляючы мяне: як сур'ёзны чалавек можа радавацца такому глупству — выйграў восем рублёў? Буханка хлеба на гарадской таўкучцы каштуе дзвесце.

У той дзень я нават на абед не пайшоў — так зачытаўся. Ляжаў на канапе ў добра напаленым пакоі, жыў у ледзяным доме, жыў лёсам...

Пазнаваў Калбенку па кроках на лесвіцы. А тут не пазнаў — чужая хада. Дзверы адчыніліся як ад удару бота, з грукатам, усё роўна, што п'яны ўваліўся. І не зачыніліся. У праёме іх стаяў Канстанцін Панасавіч. У адным мокрым кіцелі. Без фуражкі. Твар яго здаўся страшным. Парторг выцер яго далонямі, як бы абуджаючы сябе ад кашмарнага сну.

Я падхапіўся, працяты страхам, якога, можа, ніколі не ведаў: чамусьці бліснула думка, што здарылася штось страшнае з таварышам Сталіным.

Стаяў босы і глядзеў на парторга на поўныя вочы, баючыся спытаць: удары ўласнага сэрца, што аддаваліся ў скронях, у кончыках пальцаў, здаліся абразлівымі для таго невядомага, жахлівага, што адбылося, пакуль я чытаў пра даўняе жыццё. Спытаць баяўся, што ж менавіта прывяло да такой несуцешнай роспачы чалавека, які ўмеў валодаць сабой у самых цяжкіх абставінах.

Калбенка зноў выцер бледны твар, апусціў рукі і з дзіўным усхліпам прашаптаў:

— Пах-х-рыцына... за-астрэлілася...

А ўва мне гэты шэпт-усхліп грымнуў залпам сотні батарэй. Аглушыў. Нейкі момант я няўцямна глядзеў на Канстанціна Панасавіча, быццам не даходзіў да сэнсу яго страшных слоў. Ды і як дайсці! За

вайну звыкніся са смерцямі. Ліда загінула... Як балела! Але загінула як салдат — ад варожай міны. А гэта — што? Што? Змяшаліся пачуцці. Вырываўся пратэст: як ты магла, Любоў Сяргееўна?! Як магла?! Кожнае жыццё патрэбна! Кожнае жыццё!.. Але ўсё глушыў боль. Боль... боль...

— Вось так, Паўлік, яно бывае...

Тады я ўпаў на стол. Ударыўся грудзьмі, застагнаў, заскуголіў, завыў. Скамячыў паперы. Біў падлогу нагамі.

— Я застрэлю яго! Я застрэлю яго!

## Частка трэцяя

1

Эшалон стаяў на невядомай станцыі. Яркая чырвань сонца, якое толькі, відаць, выкацілася з-за далягляду, заліла вочы. Сонца разбудзіла мяне першага ў купэ. Я спусціў галаву з верхняй паліцы і заглянуў у неба — прывычка зенітчыка. Яно было не па-лютаўску яснае і цёплае. Такога неба мы некалі не любілі. Але цяпер яно радавала. Абрыдла зіма. Хацелася вясны. Хацелася так прагна, можа, таму, што гэта будзе вясна Перамогі. Войскі Першага Беларускага фронту выйшлі на Одэр. І мы даганяем гэты фронт. Зноў даганяем фронт, як мінулым летам Карэльскі. Тады не дагналі. Дагонім цяпер? Упэўненасці мала: трэці тыдзень у дарозе. А колькі тае дарогі ад Петразаводска пад Брэст! Нас абганялі эшалоны з танкамі, з гарматамі. А нашы гарматы, выходзіць, камандаванню не вельмі патрэбны. Няўжо так аслабла фашысцкая авіяцыя? Ці так многа ў нас сродкаў супрацьпаветранай абароны? Але, цяпер неба вартуюць знішчальнікі! Яны-такі сапраўды знішчаюць непараўнальна больш варожых самалётаў, чым мы, зенітчыкі. Яны пануюць у небе. У якім небе! Над Германіяй. На галаве хочацца хадзіць ад радасці, усведамляючы гэта!

Як нашы ўзрадаваліся, калі даведаліся, што дывізіён накіроўваецца на Першы Беларускі. Стаялі недзе пад Невелем, калі маршрут рассакрэцілі. Афіцэры штаба ведалі яго яшчэ пры пагрузцы. Але больш за тыдзень трымалі ў сакрэце. Здагадваюся, што Кузаеў узяў адказнасць на сябе, каб узняць баявы дух людзей. Павольнасць нашага руху на поўдзень прыгнятала нават тых афіцэраў, што ехалі з камфортам — у адзіным пасажырскім вагоне. У цяплушках было цяжка. Цесна і чадна — калі палілі «буржуйкі», холадна — як толькі яны астывалі. Там, пад Ленінградам, ды і тады, калі трое сутак стаялі ў Полацку, трымаліся моцныя маразы. На адкрытых пляцоўках каля гармат МЗА і кулямётаў, што прыкрывалі эшалон, байцы дзяжурных разлікаў абмарожваліся. Асабліва цяжка было дзяўчатам — ні раздзецца, ні памыцца. Мужчыны снегам націраліся. Напэўна, ад кансерваў некаторыя захварэлі на жываты. Хто ехаў у цяплушцы з такой хваробай, той ведае, якія перажываеш пакуты, і не пасміхнецца, не пакпіць з далікатнай сітуацыі.

У гневе я ледзьве не выкінуў з паравоза лейтэнанта Унярху, які, дзяжурачы там, двойчы спыніў састаў у адкрытым полі, хоць толькі што праязджалі лес. Здзекаваўся, свіння. Зневажаў людзей. Ён напісаў рапарт, але сам Тужнікаў узяў мяне пад абарону і ўляпіў яму нечарговыя дзяжурствы, каля гармат МЗА.

«Памерзні! Каб цябе яшчэ пранесла»,— пажадаў я свайму нядобразычліўцу найбольшай непрыемнасці.

Санінструктары выявілі вашывасць, што ўстрывожыла штабны вагон не менш, чым жываты. У Полацку такі ўдалося памыць людзей у лазні. Цэлую ноч мылі. НЗ[1] сухой карэльскай бярозы спалілі. Запас гэтых дроў у закрытым вагоне, доўга такі быў недатыкальны — камандзірскі. Мудры Кузаеў! Чыгуначнік. Ведаў, што ў такую дарогу трэба браць. І не толькі ўзяць, але і схаваць.

Разы тры ваенныя каменданты станцый узбройвалі нас піламі і сякерамі (ды ў нас і свае меліся) і пасылалі ў лес нарыхтоўваць паліва для паравоза. Так і цягнуліся на сырых дрывах. Для літарных саставаў, што праляталі міма, выдаваўся вугаль, над кожным кілаграмам яго каменданты дрыжалі.

Адзін раз спыніліся ў бязлесным раёне. Чакайце падвозкі паліва! Вось тады камандзір распакаваў НЗ. Ды яшчэ і каменданта выручыў — даў сухія дровы для «буржуйкі». «Аслепнем, брат, ад дыму, пакуль распалім сыр'ё»,— скардзіўся падпалкоўнік. Камендатура ды і ўсе службы не абы-якой станцыі — вузлавой — змяшчаліся ў пакалечаных вагонах, бо ад чыгуначных збудаванняў нічога не засталося. Такія станцыі на кожным перагоне. Толькі што глыбокі снег закрыў руіны, папялішчы — страшныя раны спакутаванай зямлі.

...Стоена ляжаў я на верхняй паліцы — баяўся злазіць, каб не разбудзіць Калбенку, камандзіра паркавага ўзвода малодшага лейтэнанта Ляхновіча і Кумкова, з якім мы, здаецца, паразумеліся, ён нават паабяцаў мне сукна на кіцель. «Лепшы берлінскі кравец пашые». «Доўга чакаць». «Дачакаемся»,— і «пракручваў фільм» дарогі.

Нельга забыць той сіні адвячорак. Стаялі на глухім лясным раз'ездзе. Праўда, сосны былі паабапал высечаны — акупанты баяліся партызан.

Кузаеў нечакана сказаў у праходзе вагона, дзе стаяла большасць афіцэраў:

«Ану, Шыянок, скокні ў цяплушкі, абвясці, што едзем на Першы Беларускі».

«Сур'ёзна?»

«Глядзі — ён не верыць камандзіру».

«Не, праўда, можна абвясціць?»

«Забыўся ты статут, камсорг».

«Слухаюся, таварыш маёр».

---

[1] Непарушны запас.

Куляю кінуўся ў першую цяплушку. Дзявочую. «Таварышы! Едзем на Першы Беларускі!»

Дзяўчаты заспявалі працяжна «ўра-а-а!» Як на парадзе. Так ім хацелася, хоць у канцы вайны, апынуцца на пярэдняй лініі галоўнага напрамку — Берлінскага,

Слаўныя вы маедзяўчаткі! Якія цяжкасці вы ні пераносілі і зняваг нямала ад розных унярхаў! Але нішто не аслабляла вашай прагі бою, помсты ворагу. Сурова маўчалі на маё паведамленне хіба што «дзяды». Ды я не асуджаю іх: яны думаюць пра сыноў і пра іх, гэтых дзяўчат, дачок сваіх.

Успаміналася і прыемнае і непрыемнае. Але непрыемнае тут жа як бы растваралася ў святле дзівосных праменняў ранішняга сонца, у настроі маім, створаным раніцай і цеплынёй.

Соладка спаў Калбенка. Смешна пасвістваў у нос Кумкоў. За сцяной начальнік артзабеспячэння Савінец гаварыў спрасонку; ён кожную ноч расказваў пра снарады; з яго смяяліся: тайны выдаеш.

Вагон агульны, купэ адкрытыя. Але іх зрабілі закрытымі: завесілі плашч-палаткамі, і кожныя чатыры чалавекі мелі свой куток. Толькі камандзірскую, ці «сямейную», як яе пачалі называць, адгарадзілі фанерай — купэ Кузаевых і Мураўёвых. Але ў перагародцы былі нізенькія дзверцы, і дзеці, Анечка і Валя, гулялі па ўсім вагоне, гасцявалі ў кожным купэ, ствараючы асаблівы, нейкі зусім неваенны псіхалагічны мікраклімат. Дзеці рабілі ўсіх нас больш высакароднымі: ні салёных анекдотаў, ні лаянкі, ні сваркі. А галоўнае — любоў да дзяцей як бы яднала афіцэраў. Праўда, знайшоўся нехта злосны — пусціў чутку, што недзе, хутчэй за ўсё на дзяржаўнай граніцы, жонак цывільных і дзяцей з воінскіх эшалонаў здымаюць. Спалохалася гаротніца Марыя Аляксееўна. Прыціхлі дзеці. А мы, сур'ёзныя людзі, што змоўшчыкі, вышуквалі спосабы, як правезці іх, як схаваць, калі праўда здымаюць. Уцягнулі ў змову нават Кузаева. Дамовіліся: жанчын адзець у вайсковае, дзяцей схаваць пад нарамі ў дзявочай цяплушцы. Парадокс: ірваліся на фронт і не маглі расстацца з дзецьмі. А куды іх дзяваць.

Між іншым, паміж афіцэрскім вагонам і дзявочымі цяплушкамі ішла вайна за дзяцей. Дзяўчаты на доўгіх супынках літаральна выкрадалі малую Анечку. А той гульня была даспадобы. З маці ледзьве не здарыўся сардэчны прыступ, калі яе схавалі ў цяплушцы першы раз: састаў рушыў далей, а малой няма.

Як можна спаць пры такім сонцы?! Расслабіліся, разленаваліся, як кажа Тужнікаў.

Ціхенька злез я з паліцы, узяў боты і анучы — абуюся ў праходзе. Выйшаў туды. А нампаліт у поўнай форме ўжо ў адзіноце каля акна. Не спіцца чалавеку. Кожную раніцу ўстае першы. Калбенка жартаваў, сохне маёр, што не можа скамандаваць нам «Пад'ём!», каб не Кузаевы і не дзеці Мураўёва, напэўна, камандаваў бы акуратна ў шэсць, як у казарме. Тужнікаў чуў гэта і — о, дзіва! — паблажліва пасміхаўся, паўтараў даўні жарт: «Пяцёра кацапаў не выдумаюць таго, што адзін хахол. Недарма Гогаль напісаў такіх брахуноў».

Я збянтэжыўся: босы перад начальнікам, які ў форме.

— Прабачце, таварыш маёр.

— Ша! Абувайся.

Прытуліўшыся да сценкі, я спрытна накруціў анучу.

— Вясна, Шыянок.

— Што?

— Вясна, кажу.

У адным боце павярнуўся да акна. Там, у купэ, акно напалавіну было завешана ручнікамі, і не глянуў я на зямлю — у неба паглядзеў. А тут глянуў — і радасна зіхнуў. Хоць перад намі блішчалі рэйкі, некалькі запасных пуцей, што сведчыла — немаленькая станцыя,— нішто — ні будынкі, ні прысады — не засланяла шырокага прастору поля. А яно — голае, без снегу, толькі блізкія палосы азіміны былі не зялёныя, а срэбраныя — ад начнога інею.

Сапраўды — вясна. Здзівіўся я. Учора ўвечары стаялі ў Лідзе — і навокал ляжаў снег, разрыхлены адлігай, пачарнелы, але даволі яшчэ глыбокі. Я хадзіў па горадзе. Пасля гарадоў на ленінградскай, наўгародскай зямлі, пасля Полацка, Маладзечна ён здаваўся ўцалелым — працавалі цырульні, дробныя майстэрні, нават прадавалі піва. Але ў мяне балела сэрца — назва горада нагадала Ліду.

Няўжо за ноч мы праехалі так далёка — з зімы ў вясну? Сапраўды ўпершыню за ўсю дарогу не стаялі на кожным раз'ездзе — праз неспакойны сон чуў, як грукалі колы, качаўся, скрыпеў калека-вагон.

— Дзе мы, таварыш маёр?

— Не знаю.

— Не павярнулі нас на поўдзень? — гэта ўжо, бадай, з трывогай.— Глядзіце, дзе ўсход. Сонца б'е з таго боку састава ў вокны.

— Мы ад Петразаводска ідзём на поўдзень,— Тужнікаў пасміхнуўся.

— Ад Полацка — на паўднёвы захад.

— Чыгунка — не страла.

І тут перад намі з'явілася Ванда Жмур. У адной гімнасцёрцы, без пілоткі, непрычасаная. Цяплушка, у якой яна камандавала дзявочым

зборным войскам, была па суседству са штабным вагонам. Адтуль вылецела ранняя птушка ў пагонах малодшага лейтэнанта, з ордэнам Айчыннай вайны на грудзях. У наш бок не глянула. Так пільна ўзіралася наперад, з такім выглядам, быццам там стаяў нехта незвычайны — ці не маці родная? — якую яна пазнала, аднак не верыла вачам сваім. Раптам Ванда апусцілася на калені паміж пуцямі на мокры жвір, выкінула ўперад рукі і прыпала тварам да зямлі.

— Што яна робіць? — бадай спалохана спытаў Тужнікаў; дзявочыя нечаканасці яго заўсёды трохі палохалі.

— Цалуе зямлю.

— Цалуе зямлю?!

— Здагадваюся — чаму. Мы — у Польшчы.

Я разумеў Ванду. Калі мы вось так раніцою апынуліся ў Полацку, мне таксама хацелася пацалаваць заснежаную зямлю. Пасаромеўся — вакол народ, станцыя была забіта эшалонамі. Вандзе пашанцавала. Мы — адны! І такая раніца! Вясновая! Але ў Тужнікава гнеўна бліснулі вочы. Ён сказаў на поўны голас, забыўшыся, што побач спяць, сказаў з вымовай мне:

— Ідзі скажы, каб не ламала камедыю! А то яна яшчэ маліцца пачне. Маладая камуністка. Во яно, тваё выхаванне!.. Ці не ты рэкамендаваў яе?

Я. У члены партыі. Кандыдатам Ванда прабыла без малога год, не па-франтавому, бо яшчэ там, у корпусе, схапіла вымову за пярэчанне камандзіру. Выкладчыку курсаў. «Я з ім не спрачалася— па мордзе пляснула». Але за што — і мне не растлумачыла. І на партбюро, калі здымалі вымову, ухілілася ад шчырага прызнання: «Паспрачаліся мы».

«З-за чаго?»

«Па нацыянальнаму пытанню».

«Тэарэтык,— хмыкнуў тады Тужнікаў.— Уяўляю спрэчку, за якую вымову запісваюць».

У члены партыі Ванду прынялі тыдзень назад тут, у вагоне. Падабрэлі ў дарозе, азнамяноўвалі набліжэнне да фронту. Ды і яна паказала сябе добрым камандзірам цэлага дзявочага ўзвода, чалавек трыццаці, з якімі ў дарожных умовах, бадай, не справіўся б і афіцэр-мужчына. І вось маладая камуністка цалуе зямлю, укленчыла і, здаецца, не вельмі спяшаецца падняцца. Чаго добрага, сапраўды хрысціцца пачне... Я не мог забыць гісторыі з англічанамі.

Сігануў з тамбура да яе, гатовы падхапіць — зрабіць выгляд, што яна спатыкнулася на шпалах, і я памагаю.

— Спыні спектакль! Выставілася перад эшалонам!.. Людзі смяюцца.

Ванда глянула на мяне, у вачах яе блішчалі слёзы.

— Дурань! Я восемдзесят гадоў не была на гэтай зямлі.

— Не спіш яшчэ, бабуля? Ці ўчадзела? Восемдзесят гадоў...

— Без фантазіі ты чалавек, Павел.

Ванда паднялася. Крупінкі жвіру ўпіліся ў калені, яна не атрэсла іх — заняты рукі: у жменях трымала мокры пясок. З правай рукі паказала мне яго.

— Мая зямля!

— Абвяшчаеш, як каралева. Знайшлася ўладарка! Сышла з цяплушкі месія!..

— Павел! Я думала пра цябе лепш. Маеш хустачку? Дай. Я завяжу ў яе жменьку зямлі, да якой дакранулася ўпершыню, і буду насіць з сабой... каля сэрца. У мяне будзе талісман.

Так, я разумеў Ванду. І мяне кранула яе цалаванне зямлі і гэтая жменя жвіру, які яна трымала як крохкую каштоўнасць. Я сказаў: «Спыні спектакль!» Але мне зусім не здавалася гэта ігрой, разлічанай на публіку, хоць ведаў, што іграць Ванда ўмее і любіць, часам нялёгка разабрацца, дзе яна сур'ёзная, а дзе блазнуе.

З цяплушак не выглядваў ніводзін чалавек. І на пуцях пуста. Толькі на адным, з пакамечаных вагонаў, што стаялі ў канцы станцыі, у тупіку, хадзіў баец у кажуху: на даху пад камуфляжным чахлом — зенітны кулямёт, знаёмы па абрысах.

Не перад Тужнікавым жа наладзіла Ванда спектакль. Не. Гэта — покліч сэрца. Яе ліхаманіць ад усхваляванасці. Канешне, няцёпла, а мы ў адных гімнасцёрках. Але гаворыць яна — ажно захлынаецца:

— Ты паглядзі -— што там!

— А што? Будынак станцыі.

— А на будынку — што?

— Дзе? Над дзвярамі — сцяг.

— О божа! І сцяг! Я не ўбачыла сцяга! Паглядзі, які ён, сцяг! Чырвона-белы.

— Польскі, так?

— Польскі! Польскі, Павел! Але назва! Паглядзі, як напісалі яе на сцяне!

На сцяне, тарцовай, глухой, чырвонага будынка аршыннымі няроўнымі белымі літарамі напісана назва станцыі. Відаць, немцы пераймяноўвалі яе, бо ўгары, пад дахам, тырчаў іржавы каркас шыльды.

Прачытаўшы кожную лацінскую літару паасобку, я вымавіў нешта няскладнае, недарэчнае.

Ванда засмяялася.

— Кжыжовец! Кжыжовец! Як гучыць! Як гучыць! Я выглянула з цяплушкі... прачытала... І ледзь не самлела. Павел! Ты не знаеш. Я ад самага Полацка не сплю. Я баялася праспаць сустрэчы з зямлёй маіх продкаў. Як я рада, што сустрэлася так. У такую раніцу! І ніхто мне не перашкодзіў...

— Я не перашкодзіў?

— Не, ты не перашкодзіў, Паўлік. Я рада, што ты ўбачыў маю сустрэчу. Ты павінен знаць...— Ванда зрабіла паўзу, як бы падумала — што я павінен знаць? — Маю вернасць... зямлі гэтай... зямлі той, дзе я нарадзілася і вырасла... І... і... табе...

— Ванда, не гавары прыгожа.

— Ты сухар, Паўлік. Ты сухар. Манах. Як твой нампаліт. Дай хустачку. У цябе няма хустачкі? Недарэка ты мой! Я зраблю табе сто хустачак.

Сыпала словы, што гарох, смяялася і дрыжала ўся ад узбуджанасці і холаду. Я азірнуўся на вагон. Тужнікаў стаяў усё ў тым жа акне, не зводзячы з нас вачэй. Што мне было б, каб я падставіў Вандзе хустачку і яна высыпала б са жменяў сваіх жвір?! Шчасце, што нампаліт не сцяміў перайсці да акна, якое адчынялася,— перавялі яго ў летні стан загартаваныя ў Запаляр'і аматары свежага паветра. Каб пачуў ён нашу размову, якую палітыку вывеў бы? Я ўзяў Ванду за локаць.

— Пайшлі.

— Куды?

— Туды,— паказаў я на станцыю.

Тады яна таксама глянула на ваш вагон, убачыла нахмуранага Тужнікава, зноў засмяялася і ледзьве не ўподбег рушыла ўздоўж доўгага састава.

— Ты разумны, Паўлік.

— То сухар, то — разумны?

— Мне захацелася паказаць яму язык.

— Каму?

— Камісару.

— Ашчаслівіла б ты мяне.

— Я дам табе шчасце, любы мой. О, якое шчасце я табе дам! Не звяртай увагі, што ў мяне язык такі... што авечы хвост. Ты ў сэрца маё загляні. У мяне залатое сэрца, Павел.

— Самае ненадзейнае.

— А табе якое трэба — жалезнае? Каб іржавела? Дурань!

Вось так «усю дарогу» — то «любы», то «дурань».

У дывізіёне — з лёгкага Вандзінага языка — лічылі нас жаніхом і нявестай і забаўляліся з нашых незвычайных адносін.

Між іншым, апошні тыдзень мы амаль не размаўлялі — Ванда злавала на мяне.

...Стаялі на нейкім раз'ездзе. Паслухалі па радыёпрыёмніку «Ад Савецкага інфармбюро». Нашы войскі выйшлі да Одэра, захапілі плацдарм на заходнім беразе. Да Берліна восемдзесят кіламетраў. Усяго восемдзесят!

Марыя Аляксееўна расплакалася ад радасці, пачуўшы ўсхваляванa-ўрачысты голас Левітана.

Афіцэры — усе стратэгі! — спрачаліся аб тэрмінах штурму фашысцкага логава, аб планах бліжэйшых аперацый, некаторыя — з такой упэўненасцю і зацятасцю, быццам былі, па меншай меры, ад'ютантамі Жукава. А я пайшоў па цяплушках — расказаць байцам апошнія навіны. Пачаў з дальніх і ўжо даволі позна — ці не пасля адбою? — хоць які адбой у дарозе! — заглянуў у цяплушку, якой камандавала Ванда. Мяне ўсюды сустракалі хораша — у дарозе ўсе палюбілі палітінфармацыі, нават тыя, хто звычайна ўхіляўся ад іх. Але асаблівую прывязанасць я выяўляў да гэтае цяплушкі. Мужчыны размяшчаліся пабатарэйна. Дзяўчат жа Мураўёў, які складаў экспазіцыю размяшчэння ў эшалоне, перамяшаў не бяздумна, як ведаў, што будзем у дарозе так доўга. У гэтым вагоне ехалі прыбарысткі першай батарэі, абслуга СОН, тэлефаністкі штаба. Самыя адукаваныя дзяўчаты.

«Антылегенткі» — як з пэўнай доляй рэўнасці называлі іх малапісьменныя «дзяды». З гэтымі дзяўчатамі было цікава. І весела. З адной Вандай не засумуеш. А там яшчэ была такая рагатушка, як Таня Балашова, і сур'ёзныя эрудыткі Ліка Іваністава і Жэня Ігнацьева. Цяплушка за тры дні так спелася — у прамым сэнсе, што на чацвёрты дзяўчаты далі хсанцэрт на вялікай станцыі, дзе іх слухалі не толькі свае, але і з іншых эшалонаў, раненыя з санітарнага поезда на мыліцах чыкільгалі да перона, з гарадскіх зямлянак ішлі цывільныя жанчыны, дзеці. Скупы на добрае слова Тужыкаў пры мне параіў камандзіру абвясціць малодшаму лейтэнанту Жмур падзяку ў загадзе па дывізіёну.

Удзень паравоз даваў свісткі, каб сабраць людзей, каб ніхто не адстаў — за гэтым вельмі строга сачылі. А пасярод ночы навошта людзей будзіць свісткамі — вырашыў, напэўна, дзялсурны па паравозе афіцэр. І дровы, відаць, добрыя былі, пары пагналі, бо састаў скрануўся плаўна, адразу набраў хуткасць.

Жыхаркі цяплушкі весела зашумелі.

«Дзяўчаткі! Будзем цягнуць жарабкі — з кім камсорга палажым спаць».

«Дасць табе Ванда жарабкі! З сабой палажыць».

«Балашова! Разгаворчыкі! Зноў будзеш дняваліць каля печкі».

«Таварыш малодшы лейтэнант! Лажыцеся паміж мной і Розай. Во нагрэем! Да канца зімы не астынеце».

Рогат. Бессаромныя, чортавы дзяўчаты! Толькі выпусці дысцыплінарныя лейцы, дык яны табе адразу зазыкуюць. А лейцы... як іх накінеш у такой сітуацыі? Нават Ванда і тая разгубілася: няёмка прымяняць камандзірскую ўладу. Паспрабавала — не выйшла. Таня апынулася каля мяне і на Вандзіну пагрозу адказала з недазволенай фамільярнасцю:

«З Паўлікам гатова дняваліць усе ночы. Дазволь!»

Ванда разумела: цыкні — і выклічаш агонь на сябе. А я наогул на сваёй пасадзе страціў камандзірскую строгасць, за што неаднойчы выгаворваў мне Тужыкаў. На мужчын яшчэ мог павысіць голас, гэтых жа салдат умеў толькі ўгаворваць. Дурнем, накшталт Унярхі, паказаў бы сябе, каб скамандаваў «смірна»... у вагоне, пасярод ночы. Сам жа дазволіў ім на гутарцы сядзець з расшпіленымі каўнярамі, без папруг. Некаторыя, разуўшыся, падаліся на верхнія нары.

Ванда змяніла тактыку:

«Ладна... пачасалі языкі і хопіць. Пара спаць».

Дзяўчаты прыціхлы цікава ўсё ж, дзе яна палажыць мяне?

«Хто ў нас днявадіць? Клава? Можаш спаць. Мы з камсоргам пасядзім каля печы».

«Хітрая!»

«Не была б яна полька!»

«Дзяўчаты! Вы мяне выведзеце з цярпення,— і строга загадала: — Адбой!»

Падышла да «лятучай мышы», апусціла кнот, так, што агеньчык ледзь выбіваўся. Цяплушка патанула ў змроку. Але заціхла нялёгка. Узбуджаныя радаснай інфармацыяй і сваімі патаемнымі думкамі, не ў многіх вясёлымі, не стомленыя ў дарозе фізічна — некаторыя і ўдзень спалі, цяжка засыналі зенітчыцы. Шапталіся, уздыхалі, варочаліся.

Грукалі колы на частых стыках парваных рэек. Гойдаўся, скрыпеў, як стары інвалід, вагон. На хаду хутка астываў. Ванда падкінула ў «чыгунку» дровы. Праз шчыліны яе прабіваліся водбліскі полымя, зыркалі на столі, на сценах маланкамі.

Мы сядзелі на цурбанах воддаль адно ад аднаго, па розныя бакі пачырванелай печкі, што патыхала жарам. Маўчалі. Каб пачалі шаптацца, колькі вушэй навастрылася б, пра сон зусім забыліся б.

Я спадзяваўся, што на наступнай станцыі састаў спыніцца. Не спыняўся.

Прайшло невядома колькі часу. Пачало хіліць на сон. Я кляваў носам і, пасаромлены, прачынаўся. Самы шырокі водбліск праз шчыліну дзверцаў падаў на Ванду, і я хораша бачыў дзяўчыну. Яна ўсміхалася мне бледнымі вуснамі і агніста-іскрыстымі ад водбліску полымя вачамі. Адзін раз сказала:

«Не спі».

У другі раз — бадай, іранічна:

«Адсунься ад печкі».

Бывае ж такая напасць: калі не трэба, ён адольвае, усёмагутны сон. Мабыць, я зноў заснуў, бо не бачыў, калі Ванда села побач. Пачуў, што яна абняла мяне. Уміг прапаў сон. А яна сказала:

«Спі, я буду трымаць цябе».

Якое спі! Нішто сабе рыцар, які заснуў бы ў абдымках дзяўчыны! Хацеў, падняцца, але Ванда не адпускала. Сцяміла, што цяпер мне не да сну.

«Пацалуй мяне».

«Дзяўчаты...»

«Спяць. Тры гадзіны ночы».

Павярнуў галаву і далікатненька прыцiснуўся вуснамі да яе шчакі.

Ванда ціха засмяялася.

«Хіба так цалуюць? Анёлачак ты мой!»

Абшчапіла галаву і ўпілася вуснамі ў мае вусны. Цалавала ў засмок. Задыхалася сама. Задыхаўся я.

Але нейкая ўсё ж не спала і... цяжка ўздыхнула — ад зайздрасці ці ад дзявочага смутку па каханні?

Ванда выпусціла маю галаву і сказала бадай уголас, дзелавіта:

«Кладзіся спаць, а то нос спячэш. На маё месца. Здаецца, нарэшце паехалі, як людзі».

Няхай тая, што ўздыхае, падумае, што цалаванне наша яна сасніла.

Не дадаючы ў ліхтары агню, Ванда за руку падвяла мяне да нар.

— Во тут.

Месца яе было на ніншых нарах, крайняе, каля сцяны. Яшчэ ў першы дзень дарогі я звярнуў увагу, што, не ў прыклад іншым камандзірам, выбрала Ванда не самае цёплае месца — сцены цяплушак пры

моцных маразах прамярзалі да таго, што на іх выступаў іней. Папярэдзіў яе, кранужшы клопатам, каб не прастудзілася. Але па наладжванню жытла, быту дзяўчаты больш практычныя, чым нават запаснікі трэцяй катэгорыі — бацькі сямействаў. Дні праз два ў Вандзіным вагоне сценкі над нарамі былі ўцеплены саламянымі матамі. Дзе ўзялі — трымалі ў тайне. Безумоўна, не ўкралі — выпрасілі ў байцоў чужога эшалона; адна Таня Балашова можа рабіць за тры цыганкі — сам Данілаў гэтак пажартаваў наконт яе. Ніхто з нас не мог здагадацца аб прызначэнні саламяных пляцёнак. Для ўцяплення, безумоўна. Але чаго — якіх збудаванняў? А потым Ванда дастала старую коўдру — тут ужо Кумкоў раздобрыўся — і яшчэ больш уцяпліла сваю пасцель.

Смяялася:

«Я — што прынцэса на гарошыне».

Скінуў валёнкі і ціхенька, каб не разбудзіць суседку, залез на яе месца. Ванда клапатліва накрыла мяне кажухом — у печцы стухала і ў вагоне захаладала.

Сапраўды мякка, утульна — лепш, чым у купэ на жорсткай паліцы. Але што гэта? Праз густы настой цяплушачных пахаў — аўчыны, саломы, валёнак, панчох, анучак, дыму, чаду, чыгуннай акаліны і ўсяго іншага, што можа быць там, дзе жывуць, ядуць, спяць не адзін дзесятак чалавек, прабіўся незвычайны водар — той, што пачуў я ў тэатры, седзячы побач з Лікай — чысты, празрысты, сапраўды лясны — сасны, чабору, суніц і... мёду. Праўда, мёду. Во насланнё! Калі яна пажартавала, што пахне мёдам, і я чую гэты пах нават тут, у вагоне! У тэатры думаў, што пахне надушаная хустачка. А тут што? Выходзіць, і там не хустачка пахла, а сама яна. Так, пачуў я, што побач са мной Ліка. І здалося, што я лячу ў сінюю бездань, у празрыстае карэльскае возера. Радасна ад палёту — ажно галава закружылася — і страшна: што чакае ў гэтай водарнай сіні? Адным словам, усхвалявала такое суседства на нарах незвычайна. Калі цалаваўся з Вандай, не замірала так сэрца і не грукала шалёна, а тут — як сарвалася, усё роўна што неразумнае шчанё з павадка і... імчыць пад гару і... вось-вось кульнецца з абрыву ў невядомы вір.

Падумаў, што такі грукат і Ванда можа пачуць, але не спалохаўся — засмяяўся ў думках ад такой магчымасці. Ад радасці засмяяўся. Але стаіў дыханне, бо пачуў, як дыхае яна — Ліка.

Матка боска, як тая Ванда! Якую ж сілу мае гэтая дзяўчына!

Пасля трагічнага фіналу кахання Любові Сяргееўны я настроіўся супраць Іваніставай: яна вінаватая, няхай і ўскосна. Згадзіўся з Калбенкам, што ад такой небяспечна-спакуслівай персоны варта

пазбавіцца — каб не здарылася яшчэ якая бяда. За самагубства Пахрыцынай палітаддзел і асобы аддзел корпуса трэслі нас цэлы месяц, з лепшых па палітрабоце залічылі ў апошнія, што для Тужнікава было трагедыяй, ён ледзьве ўтрымаўся на сваёй пасадзе. Але — дзіўна — пасля таго не ўзлаваўся, наадварот, падабрэў, аднак страціў рашучасць, нічога не браў на сваю адказнасць.

Не я — хутчэй за ўсё Данілаў ці, можа, хто іншы з афіцэраў, напэўна, застрэліў бы «князя», каб мудры Кузаеў пад аховай вартавых не адаслаў яго на гарнізонную гаўптвахту; і на пахаванні не дазволіў прысутнічаць.

Не мог я не сказаць Данілаву, што маюць намер адаслаць Ліку ў другую часць. Уміг счарнеў і без таго смуглы цыган. Пачаў прасіць... проста маліць, ажно няёмка мне зрабілася, каб я паўплываў на Калбенку, на Кузаева — не адсылаць яе. Канстанціна Панасавіча я ўгаварыў — згадзіўся адстойваць дзяўчыну, хоць і пагразіў:

«Ох, уліпнеш, Павел. Ох, уліпнеш».

Але пагроза яго падказала мне хітры ход: няхай думаюць, што закаханы я, тым самым адвяду падазрэнні ад сябра свайго Данілава. Але з камандзірам на гэтую тэму гутарыць не адважыўся — баяўся яго грубаватага сарказму, пагаварыў з яго японкай, з жанчынамі аб сардэчных справах гаварыць лягчэй.

Антаніна Фёдараўна здзівілася:

«А Ванда?»

«Сэрцу не загадаеш».

«Гэта праўда: сэрцу не загадаеш. Але скажу вам шчыра, Павел, мне шкада вас: прыгажуня гэтая — не тая жонка, якая прынясе вам шчасце». Здзівіла такое прароцтва вопытнай жанчыны.

«Чаму? Яна ўсё ўмее».

«Вам што — работніца трэба?»

«Не вы давайце мяне, калі ласка».

«Ваша тайна застанецца паміж намі».

Разлік быў дакладны: Кузаеў захоўваў тайну, даверaную жонкай, а ідэю аб адсылцы Іваніставай на другі ж дзень, як кажуць, знялі з парадку дня.

Мае ж пачуцці да Лікі былі супярэчлівыя і складаныя: усё ж лічыў яе вінаватай у смерці Пахрыцынай, пры сустрэчах з'яўлялася нават нейкая глухая непрыязнасць да яе. Два з палавінай месяцы я пазбягаў хоць на хвіліну застацца адзін на адзін, проста баяўся, напэўна. Нават тут, у эшалоне, калі гутарыў у іх цяплушцы, стараўся не глядзець у яе бок, нічым не выдзяляць з усяе вагоннай каманды.

І вось зноў гэты дзівосны пах! Такім хмелем ударыў у галаву, што ад усіх іншых пачуццяў не засталося і следу,— толькі адно радаснае захапленне, як ад опіуму, хвалюючае чаканне нечага вельмі лі незвычайнага.

І яно адбылося. Неяк незнарок... далібог жа, несвядома... мая рука знайшла яе руку. Ледзьве датыкаючыся, я пагладзіў зусім не мяккую — шорсткую далоню яе. І сэрца маё на міг спынілася, але тут жа зноў кінулася наўскач: Ліка варухнулася і... лёгка сціснула мае пальцы. Можа, у сне... Можа. Але ўсе токі яе цела праз рукі ўліліся ў мяне І большым шчасцем я да таго ніколі яшчэ не напіваўся. І нічога не трэба было — толькі гэты ап'яняючы пах лесу і мёду, што заглушыў увесь цяплушачны смурод, і цудадзейны ток яе крыві, які, здавалася мне, чуў я ўсёй істотай. Наіўны фантазёр! Дзіўна, што і думак, уяўленняў, мар асаблівых не было. Наступіла нейкая сцішанасць. Чамусьці толькі падумалася, што такая сцішанасць будзе ў душы ў першую мінуту міру.

Не выпускаючы яе рукі, я заснуў.

Разбудзіла мяне Ванда, грубавата тузануўшы за нагу.

«Ідзі ў свой вагон. Я хачу спаць».

Не адразу страсянуў я чароўны сон, прагнаў хмель. Дзе я? У якой казцы? Цішыня. Не грукалі колы. Маўчала сэрца. На сценах і столі зыркалі бліскавіцы. Ах, печка!.. Ад яе патыхала жарам. І ліхтар гарыць больш ярка.

«Не молса прачнуцца дзіцятка»,— хмыкнула Ванда.

Нарэшце сцяміў, дзе я, што са мной. Але, хутчэй у свой вагон, пакуль састаў стаіць!

Сунуў босыя ногі ў валёнкі, анучы — у кішэні штаноў. Не апранаючы кажух, адчыніў цяжкія дзверы, скочыў у мяккі пух. Ішоў снег. Завейны. Холадам абдало галаву. Выскачыў без шапкі. Трэба забраць, а то будзе падставай для зубаскалаў: камсорг забыўся ў дзяўчат шапку. Пастукаў.

«Чаго табе?» — высунулася Ванда.

Доўга шукала маю шапку, хоць вісела яна на цвіку каля дзвярэй — заўсёды вешаў там. Не падала — выкінула ў снег.

«Галавы не забыўся? — і, здаецца, лёгшы на падлогу, бо галава яе апынулася на ўзроўні маёй, і ціха сказала: — Парасё ты, Павел. Цалуешся са мной, а ручку гладзіш другой».

Угледзела-такі, кошка, і ўпрыцемку! Але і ад гэтага мне стала весела. Я ледзьве не засмяяўся. Усё яшчэ ап'янелы, з асалодай прагуляўся ўздоўж састава. Астыў. Толькі ў сваім вагоне трохі ўстры-

вожыўся: не пачала б Ванда помсціць невіноўнай Ліцы. За дарогу яны пасябравалі. Неразлучная пара. Мне падабалася іх сяброўства.

Не, на доўгіх супынках па-ранейшаму малодшы лейтэнант і яфрэйтар увесь час гулялі разам. А са мной Ванда не размаўляла. Нават абразіла. Удзень я хацеў зайсці ў іх вагон. Ванда зачыніла перад маім носам дзверы, ледзь руку не адціснула.

«Да нас нельга. Мы ловім вошы».

У вагоне зарагаталі. Яўная мана яе, па-салдацку грубая, непрыемна ўразіла і пакрыўдзіла. «Пачакай жа! Ты яшчэ паскачаш!» I колькі дзён мінаў іх вагон, здзіўляючы іншых дзяўчат.

Прымірыла, зруйнавала дробязныя крыўды кранальнае цалаванне Вандай зямлі. Смешна дзьмуцца адно на адно з-за таго, што пагладзіў не тваю руку, ці з-за недарэчнай выдумкі перад велiччу таго, што адбываецца ў свеце і ў нашых душах.

З будынка станцыі выйшаў чыгуначнік, дзяжурны — у чырвонай фуражцы, у фірменным шынялі, форма знаёмая мне: у саракавым годзе група камсамольцаў педтэхнікума ездзіла ў Заходнюю Беларусь.

Ванда ўтрапёна спынілася.

— Ты паглядзі! Паглядзі! Які ён!

— Чалавек як чалавек.

— Не! Такім я і ўяўляла першага паляка, якога сустрэну. Ён падобны на караля Казімежа.

Найбольш прыкметнае, што праўда рабіла яго падобным на старажытных шляхціцаў, у чыгуначніка было хіба адно — вусы, рудыя, пышныя, на канцах распушаныя мяцёлкамі, яны закрывалі шчокі і трохі не даставалі да вушэй.

— Я пацалую яго! Патрымай зямлю.

— Слухай! Можа, хопіць тваіх дзівацтваў? Маёр сочыць.

— Няхай сочыць. На зямлю!

Высыпаўшы ў жменю маю жвір, Ванда ўподбег кінулася да чыгуначніка, але ў пяці кроках спынілася. Я дагнаў яе.

Чалавек з мінулага лета сустрэў тысячы савецкіх эшалонаў, бачыў і генералаў і воінаў-дзяўчат, і яго нічога ўжо не здзіўляла, нічога не цікавіла, акрамя службовых абавязкаў. Але не звярнуць увагу на Ванду было нельга — так яна глядзела. Спытаў па-руску:

— Таварышам афіцэрам штосьць трэба?

— Я хачу пана пацалаваць,— сказала Ванда без ценю жарту, нават без усмешкі. А я, бадай, узрадаваўся, што ўсё разумею па-польску.

— Пані харунжая полька?

— Так.

Чыгуначнік па-заліхвацку падкруціў вусы.

— О, то які поляк не адчуе сябе шчаслівым чалавекам, калі яго пацалуе такая гжэчная паненка? Я Марысі сваёй не пабаюся сказаць, усяму сялу пахвалюся. Чэсь! Ты яшчэ мужчына!

Ванда наблізілася да яго ўрачыстым крокам, асцярожна абняла і... пацалавала вусы — левы, правы, пасля — лоб пад бліскучым казырком фуражкі як перахрысціла пацалункамі. Служака застагнаў ад задавальнення.

— О, матка боска! З якіх краёў... пшэпрашам паненка... пані?

— З Архангельска. Я восемдзесят гадоў не была на гэтай зямлі.

Чыгуначнік не здзівіўся, толькі ўміг сцёр з твару гуллівасць, ад сур'ёзнасці адразу пастарэў, нават плечы апусціліся і вусы абвіслі.

— О, як я разумею таважыша! Праклятыя бошы вывезлі мяне на работу ў Нямеччыну... і калі я, змучаны, вярнуўся праз тры гады, я ішоў на каленях адсюль да свайго сяла... Вунь дзе таполі. Я цалаваў і зямлю, і кожнае дрэўца. А як цалаваў маю Марысю! Маіх дзетак! Я тыдзень плакаў ад шчасця. А што рабілася, я вам скажу, калі мінулым летам прыйшлі Саветы і з імі эшалоны з Войскам Польскім. Людзі ішлі за дваццаць... за трыццаць кіламетраў... спалі тут, на пероне, каб толькі пабачыць польскага салдата. О, ешчэ польска не згінела!..

— Дзе мы знаходзімся? — спытала Ванда.

— За трыццаць кіламетраў ад Менска,— зразумеў я і здзівіўся:

— Якога Мінска?

— Не бойся. Не твайго,— узбудяадна засмяялася Ванда.— Майго. Мазавецкага.

Гэта мне не падабалася. Хацелася кінуць зямлю, але не адважыўся — спыніла думка, што гэта абразіць Ванду.

У халоднай і пустой чакальнай зале я даў ёй сваю бруднаватую хустачку. Ванда разаслала яе на лаўцы з вензелем на спінцы, з літарамі КР. Я высыпаў са жмені жвір. Яна завязала ў вузялок, сунула за пазуху, папракнуўшы мяне:

— Столькі рассыпаў, недарэка.

— Табе трэба пуд? Што такое КР?

— Каляя панствова. Чыгунка дзяржаўная,— Ванда шчасліва засмяялася.

— Па-мойму, ты хварэеш на нацыялізм.

— Хварэю.

— Не надта выстаўляй сваю хваробу, а то Тужнікаў хутка вылечыць: выкліча на партбюро. Скажы дзякуй, калі цалаванне зямлі даруе.

Ванда пазмрачнела, змоўкла. Калі ж вярталіся назад да сваіх вагонаў, нечакана і неяк бездапаможна, што вельмі здзівіла мяне, папрасіла:

— Абараняй мяне, Паўлік. Пільнуй. Я — шалёная...

2

Папярэджанне маё мала памагло. У Празе Ванда сапраўды што ашалела. Без дазволу кінула сваю каманду, на маіх вачах узлезла на платформу з танкамі, атрымала зусім не ваеннае папярэджанне вартавога: «Я табе палажу, чортава дзеўка! Я табе палажу!»

Нырнула пад другі эшалон. Я кінуўся за ёй. Невядома не, колькі стаяць тут будзем, дзе апынёмся — на вялікіх станцыях часам заганяюць на такія дальнія пуці, што нялёгка знайсці свой састаў. Пільнуй такую вар'ятку!

Але я такі знайшоў яе на вакзале, перапоўненым людзьмі. Ні на адной савецкай станцыі людзей столькі не было, Вавілон! Змяшэнне рас, нацый, сацыяльных тыпаў — сяляне, паны, манашкі, ксяндзы, салдаты Войска Польскага, нашы воіны ўсіх званняў — ад радавых да генералаў.

Ванда спыняла цывільных палякаў, мужчын і жанчын, савецкіх афіцэраў — байцоў, якія, пазнавала, неслі службу на станцыі. Ведала, што без пропуску ў Варшаву не прайсці. А ў яе было адзінае неадольнае жаданне — пабачыць Варшаву. Чыталі мы яшчэ ў Петразаводску адразу пасля вызвалення сталіцы Польшчы — што засталося ад горада. Сказаў Вандзе пра гэта:

— Што ты хочаш убачыць? Друз?

Яна ажно дрыжала ўся, шчокі яе нездарова гарэлі.

— Тым больш я павінна пабачыць сама. Магіла? Няхай магіла. Але гэта магіла бацькі... маці... Да яе нельга не схадзіць! Ей нельга не пакланіцца.

— Ванда! Уліпнеш.

— Уліпну. Але Варшаву ўсё роўна пабачу. Не магу я праехаць міма. Не магу. Няўжо не можаш зразумець?

У тым і бяда мая, што разумеў.

Ледзьве ўгаварыў дзяўчыну вярнуцца ў эшалон, да сваёй каманды. Паабяцаў: даведаемся, што затрымліваемся (часам камандзіру паведамлялі час адпраўкі эшалона, хоць рэдка гэта спраўджвалася),— і сам папрашу Кузаева адпусціць нас у Варшаву. Але камандзір затрымліваўся ў ваеннага каменданта. А Тужнікаў, да якога я меў неасцярожнасць звярнуцца, накрычаў на мяне:

— Ты што — з глузду з'ехаў? Гэта яна падбівае, твая шалёная полька? Выявіліся мне турысты. Надай ім Варшаву на талерцы. А што там глядзець? Руіны? Вечарэе. Праз гадзіну-дзве каменданцкі час.

Апошняе — самы пераканаўчы аргумент.

— А калі «прымерзнем» да заўтрага?

— Не мылься — галіцца не будзеш. Націскае яна на цябе. Яшчэ не жонка, а ты ўжо ўвесь пад пятой у яе. Размазня, а не камсорг. Перадай ёй: будзе адлучацца без дазволу — не пагляджу на званне, пашлю анучы вартаваць.

У дарозе зрабілі своеасаблівую гаўптвахту: штрафнікоў садзілі ў халодны і цёмны вагон з маёмасцю Кумкова.

Перадаў Вандзе пагрозу нампаліта, ад сябе дадаў:

— Не блазнуй. Сорамна. Не дзяўчынка. Камандзір батарэі[1], За цяплушкай сачы.

Але Ванда не супакоілася. Яна як бы забылася на абавязкі начальніка вагоннай каманды. Мяне гэта трывожыла.

На станцыі, забітай вайсковымі эшалонамі і немаведама якімі людзьмі, дай гэтаму легкадумнаму войску волю — не збярэш. І так некаторыя дзяўчаты апынуліся ў цяплушках танкістаў, іншыя ўчынілі гандальмену з цывільнымі палякамі. А што за людзі сярод іх? Безумоўна, большасць — галодныя, гатовыя за буханку хлеба аддаць любую дарагую рэч. Але могуць быць і шпіёны. На сваёй зямлі, у Петразаводску, праяўлялі павышаную пільнасць. А тут адразу, як кажуць, не адаптаваўшыся да замежных умоў, усё роўна што на кірмаш трапілі. Не дзіўна, што некаторых афіцэраў ажно спалохала такая абстаноўка. Сам я, прызнаюся, разгубіўся. А тут яшчэ нагнаў страху, «накачаў, завёў» залішне пільны нампаліт, сабраўшы на нараду камандзіраў падраздзяленняў, цяплушак. Незвычайная нарада. Афіцэры стаялі ў праходзе душнага вагона, як у бліндажы на перадавой. Тужнікаў гаварыў трохі не шэптам, каб словы не выляталі праз шчыльна зачыненыя вокны і дзверы. Спытаў, ці тут малодшы лейтэнант Жмур, хоць не мог не бачыць Ванду. Завастрыў увагу, даў зразумець, што менавіта яна не выконвае таго, што павінен ведаць кожны, хто адказвае за людзей, таму ён вымушаны напамінаць лішні раз. Не прамінуў упікнуць, вачамі паказаўшы на мяне:

— А то некаторых на экскурсіі пацягнула.

З гэтага засмяяліся. Мне стала непрыемна. А маёра настроіла на іранічную дасціпнасць:

[1] СОН афіцыйна называлася батарэяй.

— Толькі я ніяк ім экскурсавода не знайду. Ніхто ў музеі не служыў?

Рагатнулі. Кумкоў, які ляжаў у купэ на верхняй паліцы, не хапіла месца ў праходзе, ажно нагамі, парасё, задрыгаў, задаволены, што нампаліт спляжыў мяне. А, здавалася, пасябравалі.

— Задача ясная?

— Ясная, таварыш маёр.

— Па вагонах!

Выйшлі разам з Вандай. Спыніліся перад яе цяплушкай.

— Чула?

— Чула.

Панурая. Злосная.

А ў вагоне — смех, ішло нейкае прадстаўленне. Камандны голас Тані Балашовай з заклікам грамадзянскай вайны:

— Даеш Варшаву!

Ванда ўсёй камандзе расказала пра сваё жаданне, і дзяўчаты яўна перадражнівалі яе.

— Чула?

Паблажліва хмыкнула ў адказ:

— Чым бы дзіця ні цешылася...

— Не бойся. Яны не плачуць. Яны смяюцца.

— Няхай пасмяюцца.

— Не баішся за свой аўтарытэт?

— Бойся ты за свой.

Да нас падышоў Калбенка. Не сцярпеў, каб не выказаць сваёй думкі пра звышсакрэтную нараду:

— Можна падумаць, што мы тут — самая сакрэтная часць. Такую зброю вязём? — кіўнуў на дзявочы вагон, адкуль чуўся рогат.— Дзе столькі было «кацюш» ?

Як адным махам сцёр з дошкі ўсё, што так старанна і таямніча пісаў Тужнікаў. Я ажно спалохана азірнуўся. А Ванда ўзрадавана засмяялася і — да мяне са сваёй зацятай уедлівасцю:

— Чуў, што кажа разумны чалавек? — Я, выходзіць, дурань.

Забыўшыся на субардынацыю, Ванда ўчапілася ў Калбенкаў рукаў.

— Канстанцін Панасавіч, родненькі мой... таварыш старшы лейтэнант!... Правядзіце мяне да Віслы, я хоць так, праз раку, гляну на Варшаву.

— То во яна, твая Варшава.

— Не, Прага — не Варшава. Не!

— Тут хоць што ацалела. А там, кажуць, каменя на камені не засталося,

— Таму і хачу глянуць. Таму і хачу. Ці ўдасца іншым разам? Праўдзіце, Канстанцін Панасавіч...

Калбенка смачна выцер далоняй вусны — усё роўна як намерыўся пацалавацца.

— Хіба такой дзяўчыне можна адмовіць? А, Павел! Хадзем?

Спалохаў мяне: яўна ж ідзе на абвастрэнне сваіх і без таго нялёгкіх адносін з Тужнікавым. Навошта яму так дэманстратыўна парушаць толькі што атрыманыя ўказанні? Але ўрэшце з ім нампаліт можа толькі пагаварыць «адзін на адзін», хоць я разы два ненаўмысна падслухаў і добра ўяўляў «цеплыню» іх размоў. А нас з гэтай рызыканткай калі і не пасадзіць Кумавы анучы вартаваць — абодвух у цёмны вагон не зачыніць — то, напэўна, запіша сутак па трое «для памяці», а то яшчэ і па партыйнай лініі ўклеіць.

— Ох, будзе нам ад маёра! — перасцярог я.

— А хто цябе цягне? Нікчэмны тхуж! Ідзі цалуйся са сваім маёрам.

Калбенка жартаўліва пагразіў:

— Ванда! Не крыўдзі майго сынка, а то не дам бацькоўскага блаславення.

— Ажэніцца — нікуды не дзенецца.

Канстанцін Панасавіч ажно спатыкнуўся на шпале ад смеху.

— Вясёлую ты будзеш жонку мець, Павел.

— Чуў, што раіць табе бацька?

— Язык у цябе, прабач...

— Язычок, што мінамёт,— у сваю чаргу блазнаваў Калбенка, нырнуўшы пад вагон чужога састава.

Я азірнуўся — ці не сочыць за намі Тужнікаў? Калі не стане шукаць каго-небудзь з нас, можа, пранясе: парторг і камсорг маглі весці работу ў любым вагоне доўгага эшалона.

Выйшлі на прывакзальную плошчу.

Прага з яе гераічнымі жыхарамі, якія за прыфрантавыя паўгода звыкліся з бязлітаснымі артабстрэламі і бамбёжкамі, мела выгляд звычайнага горада. Не, для нас — незвычайнага. Уразіла неваенная чысціня: прасохлыя тратуары падмецены, разбураныя дамы абгароджаны, парканы залеплены аб'явамі, афішамі, рэкламамі, самаробнымі, але па-свойму маляўнічымі. Асабліва ўразілі, прынамсі мяне, крамкі, іх было многа, і вітрыны не без густу аформленыя, хоць тавараў там, напэўна, было — кот наплакаў.

— Гандлююць,— вырвалася ў мяне.

— Палякі ўмеюць гандляваць,— Ванда як ажыла, як трапіла ў сваю стыхію і... смяялася, але, бадай, нервова: — Дзе ёсць паляк — яўрэю няма чаго рабіць.

А яшчэ прыцягнулі ўвагу рамізнікі, іх худыя коні, і брычкі, фаэтоны, розныя па канструкцыі, але ўсе — што з музеяў выцягнутыя, толькі некаторыя старажытныя экіпажы пастаўлены на колы ад матацыклаў. І яшчэ адзін дзіўны від транспарту — вялікія платформы на гумавых колах, у іх былі ўпрэжаны па пары ламавікоў, коні гэтыя побач з рамізніцкімі выглядалі што сытыя паны перад тымі франтамі, якія абвешаліся бліскучай мішурой, а пад ёй можна ў кожнага рэбры палічыць. Адна такая платформа, на якой чалавек дваццаць розных людзей, цывільных і вайсковых, у тым ліку і нашых афіцэраў, сядзелі на гары чамаданаў, мяшкоў, клункаў, пад'ехала да будынка вакзала. Пасля мы даведаліся, што гэта той адзіны транспарт, на якім перавозілі пасажыраў з варшаўскіх вакзалаў на пражскі і назад, бо пасажырскія паязды праз Віслу не хадзілі: узведзены сапёрамі мост не паспяваў прапускаць вайсковыя эшалоны. Гаспадары ўмяшчальных платформ мелі пропускі на праезд па пантонным мосце, рамізнікі такога права не мелі, лішнія коні заміналі б руху армейскіх грузавікоў. О, іх трэба было бачыць, ваенныя масты!

Ванда спыніла нейкага старога і спытала, як найкарацей прайсці да Віслы. Ён здзівіўся:

— Пані так добжэ муві па-польску?

— Пані — полька,— раней за Ванду адказаў я.— І не пані, а паненка.

— О, Паўлік! Ты такі рыцар?! Не думала. Дай я пацалую цябе,— і цмокнула ў шчаку.

У паляка вочы набрынялі слязамі, ён цяжка ўздыхнуў:

— О, дзеці, дзеці! Вы едзеце на фронт і — такія вясёлыя?

А Калбенка сказаў строга:

— Не дурэйце! А то наскочым на камендацкі патруль. Во тады ўжо з нас стружкі здымуць. Папрасі яго, каб правёў па ціхіх завулках.

Але перакладаць не было патрэбы — стары разумеў:

— О так, так.

І сапраўды, амаль па бязлюднай вуліцы хутка вывеў нас на бераг Віслы. Расчуліўся і вельмі дзякаваў, калі Калбенка прапанаваў пачаты пачак цыгарэт. А Ванда як абразілася за бытавізм — размову пра цыгарэты, прыкурванне — і адышла ўбок. Не зводзіла вачэй з таго, што віднелася за ракой. Стары наблізіўся да яе, каб развітацца.

Безумоўна, ён разумеў дзяўчыну, якая так добра гаворыць папольску. Уздыхнуў:

— Што яны зрабілі з нашай Варшавай! — але тут жа як спалохаўся, што сказаў не тое, і, зняўшы шапку, пакланіўся і пажадаў Вандзе шчасця.

Вісла не здалася такой шырокай, якой уяўлялася з нарысаў ваенных карэспандэнтаў і Вандзіных расказаў. Ванду няцяжка зразумець: яна вырасла на беразе паўнаводнай Паўночнай Дзвіны, аднак ёй хацелася, каб рака продкаў была шырэй за раку маленства.

Праз такую шырыню пры адвячоркавым святле маладым вачам лёгка было разглядзець, што горад сапраўды-такі мёртвы. Ва ўсялякім разе, уздоўж набярэжнай — як кінуць вокам — ніводнага ўцалелага будынка, усюды руіны, закураныя, змрочныя, хоць — дзіўна — некаторыя каркасы, пэўна, абмытыя нядаўнімі дажджамі, былі ненатуральна белыя, што аголеныя косці, і гэтыя белыя рэшткі былых тварэнняў чалавечага розуму, яго ўмелых рук чамусьці здаваліся асабліва жудаснымі.

Адзінае жывое на тым беразе — зенітныя батарэі, насупраць нас ажно тры з дзіўнымі пазіцыямі — выцягнутымі: не хапала прыбярэжнай паласы для нармальных пазіцый. І злева, за мастамі, віднеліся батарэі.

Мы стаялі над абрывам. Але не над самай ракой: унізе, у пойме, на нешырокай паласе паміне абгарэлых паль — відаць, быў некалі прычал — таксама стаялі гарматы МЗА і зенітныя кулямёты.

— Натыркалі,— сказаў Калбенка.

— Такія масты! Глядзіце, колькі варонак.

Вісла стаяла яшчэ. Але на рыхлым лёдзе адлівала стальным бляскам безліч палонак — ад бомбаў.

— Да-а, нашы тут не сядзяць без работы.

Бліжэй да нас — чыгуначны мост на высокіх драўляных рыштаваннях.

— Колькі лесу пайшло!

— А колькі працы сапёраў!

Пасля я прачытаў, што мост збудавалі за двое сутак. Такое магчыма толькі на вайне.

На тым баку зароў равун, замігала зялёнае вока семафора і з-за руін, што змяя, выпаўз на мост даўжэзны састаў вагонаў і адкрытых пустых платформаў.

— Адвёз танкі пад Берлін,— сказаў я.

— Ты знаеш, я пра гэта падумаў і... паслухаў, як учасціўся пульс. Адвёз танкі пад Берлін! Музыка, Павел! Паэзія! Не забывай гэтыя словы.

Эшалон ішоў па мосце чарапашым ходам. Паравоз на сярэдзіне, а задні вагоны яшчэ недзе паміж руінамі. Рытмічна падаваў нейкія ўмоўныя сігналы равун. Машыніст адказваў на іх кароткімі свісткамі.

Побач з часовым мостам тырчалі быкі і абрушаныя ў раку фермы старога моста. А далей — гэтак жа павольна, як поўз састаў, толькі ў іншы бок — туды, на захад, ішлі па пантонах машыны.

Мы з Калбенкам абмяркоўвалі ўбачаныя карціны — масты, састаў, батарэі, машыны. А Ванда стаяла збоку і маўчала. Яна глядзела на мёртвы горад.

Доўга я не адвальваўся перашкодзіць ёй. Толькі тады, калі неба за Варшавай закрыла снежная хмара. Пара вяртацца, а то хутка і каменданцкі час наступіць. Ды я не адважыўся сказаць дзяўчыне пра гэта, каб суровай прозай не абразіць яе душэўную энергію. Але Ванда сама прытулілася да майго пляча. Яе ліхаманка.

— Паўлік, я так хачу пабачыць яе...

— Ты не захварэла? Цябе ліхаманіць.

— Не. Не захварэла. Не бойся.

І першая пайшла ад ракі.

Эшалон зноў затрымаўся. Яшчэ нядаўна, пад Ленінградам, Полацкам, мы жартавалі — «прымерзлі». Але тут ніхто не прыдумаў ёмкага слова. Загразлі? Прыліплі?

У полі гразлі, бо пераможна наступала вясна. Звечара хмара высыпала мокрыя камякі, пабяліла наваколле, а ўжо раніцою снег паплыў яшчэ да таго, як праяснілася.

Састаў загналі ў далёкі тупік — на могілкі паравозаў і вагонаў. Чыгуначнік Кузаеў пры ўсёй нават для яго загадкавай таямнічасці вышэйшага кіравання грандыёзным рухам тысяч эшалонаў навучыўся прыкладна вызначыць, колькі можам «загараць», і не надта памыляўся. Але тут, у Празе, нават ён разгубіўся. Вельмі яму не падабалася, што нас паставілі на ржавыя рэйкі. Калі пры такой перагрузцы пуць доўга не выкарыстоўваўся — радавацца няма чаму.

Людзі нерваваліся. Пачуццё непатрэбнасці нашай балюча кранала пасля ўздыму, які перажылі, калі даведаліся, што едзем да Жукава.

Учора ўвечары ў паркавым узводзе здарылася ЧП: шафёры — ці не за бензін? — купілі ў палякаў самагоне і добра, лайдакі, смактанулі. Выдалі сябе «гапаком» ці «камарынскай». Пасярод ночы сабралі афіцэраў. Кузаеў хоць і ўпёк камандзіру ўзвода Ляхновічу на ўсю катушку,

але расказваў пра здарэнне не без гумару. Намеснік па палітчасці гаварыў пра п'янку як пра сімптом страшэннай хваробы: маўляў, пачынаецца разлажэнне — і ўсё з-за бесклапотнасці, нядбайнасці афіцэраў, з-за аслаблення партыйнай і камсамольскай работы. Сцёбаў не толькі па Калбенку, па мне, па нампалітах батарэй, парторгах, камсоргах, але самакрытычна каяўся ў тым, што і сам паслабіў патрабавальнасць.

Тужнікаву не спалася. У гадзіну ночы разышліся, а ў шэсць раніцы ён сабраў заспаных палітработнікаў.

Калбенка іранізаваў з яго апантанасці. А я лічыў неспакой, нястомнасць нампаліта вельмі патрэбнымі ў такой сітуацыі: шафёрская п'янка і мяне спалохала.

Але ў сем раніцы, калі на двары стаяла ноч, гаварыць з людзьмі ў зачыненых вагонах было нялёгка і... бескарысна. Спалі бязбожна.

Незадаволены поспехам сваёй асветніцкай місіі, валокся я ўздоўж састава, спатыкаючыся на слізкіх шпалах. Механічна адказваў на прывітанні байцоў, якія беглі з кацялкамі па ваду ажно некуды ў польскі дом. Цягнула пахам «бландзінкі» ад паходных кухняў, што дымілі на платформах. Хацелася есці. Дзіўна, ніколі не быў абжорам, а ў дарозе ўвесь час хацелася есці; толькі прачнешся — і ўжо думаеш: калі тое снеданне? Дакараў сябе, што ненажэрны страўнік перашкаджае палёту высокіх думак.

Ля каманднага вагона — Ванда. Не павіталася нават.

— Хадзем са мной да камандзіра. Паможаш угаварыць.

Раўніва заела: я пра кашу думаю, а яна... Безумоўна, не паважаць яе пачуцці нельга. Але я ўзлаваўся:

— Ты што — ашалела? Камандзір яшчэ спіць... з жонкай.

— А калі прачнецца — пойдзеш? Саўчанка дазволіў звярнуцца.

— Не пайду!

— Я табе гэта прыпомню! — і са здзеклівай; знявагай: — Нарачоны!

— Хто мяне наракаў?

— Згінь з маіх вачэй!

Пагаварылі, называецца, пасля ўчарашняй надвісленскай пяшчоты!

Ванда такі прабілася да камандзіра ў часе снедання.

Кузаеў мог і сыграць дэмакрата. Але нярэдка гаварыў зусім сур'ёзна не толькі з малодшымі афіцэрамі, але і з радавымі — з тымі ж «дзядамі», з дзяўчатамі. Ён паклікаў мяне.

Ванда, на маё здзіўленне, не стаяла перад камандзірам, яна сядзела побач з Антанінай Фёдараўнай — усё роўна, што ў госці

завітала. Не дзіўна, каб Кузаевы снедалі адны, але там жа, у купэ, сёрбаў рэдкую «бландзінку» Тужнікаў, не з кацялка — з фарфоравай талеркі. З'яўленне Мураўёвай і Кузаевай неяк непрыкметна палепшыла быт не толькі іх мужоў, але, бадай, усяго штаба. Раней, у Кандалакшы, Тужнікаў уедліва высмейваў гэта: маўляў, акулачваюцца ваякі, хоць прыстойная лыжка была праблемай.

— Слухай, Шыянок. Малодшы лейтэнант Жмур просіцца Варшаву паглядзець. Пусцім?

Вочы Кузаева смяяліся. Немагчыма было зразумець: ці камандзір вырашыў пацешыцца, ці пытае сур'ёзна.

— Адну?

— Не! — Ванда апаліла мяне ласкавым позіркам.— З Лінай Іваніставай.

Не мог пасля вытлумачыць самому сабе, чаму раптоўна ўзнікла рашуча адмоўнае стаўленне да іх паходу. Але паспрабуй выказацца супраць! Дык «нарачоная» мая з'есць. Маючы такі язык і такую зацятасць...

— Чаму маўчыш, камсорг?

Я перасмыкнуў плячамі.

— А ты, камісар, што скажаш?

Тужнікаў зусім па-сялянску — «Як можна перад жанчынамі?» — падумаў я — аблізаў лыжку.

— Хіба з ім... пад яго аховай,— вельмі ж нечакана для мяне разважліва згадзіўся нампаліт.

— З Паўлікам і я пайду,— сказала Антаніна Фёдараўна.

У Кузаева акругліліся вочы.

— Шыянок! Што гэта да цябе бабы ліпнуць? І хлопец ты несамавіты, а — глядзі — як мёдам намазаны!

— Дзіма! Салдацкі жарт,— упікнула камандзіра жонка.

— Ты, дарагая, нікуды не пойдзеш. З тваімі хворымі нагамі не за Вандай бегаць, гэта ж — антылопа. Не хапала мне яшчэ за цябе хваляваца. Мураўёў! — крыкнуў Кузаеў у суседняе купэ.— Аформі ім накіраванне ў штаб фронту. Тры гадзіны вам! Ні мінуты больш! Ясна!

— Так точна,— стукнуў я абцасамі.

Тры гадзіны... Мы беглі, задыханыя, да пераправы. Ванда ажно стагнала, калі на прапускной перад мостам нас трымалі мінут пятнаццаць. Абурылася, што цывільныя праходзілі без прыдзірак, у некаторых наогул не пыталіся прапускоў, пэўна, ведалі іх. Горад аднаўляўся, людзі хадзілі на работу; палякі жылі па еўрапейскім часе, армія — па маскоўскім. Для нас было позна, для іх — зарана; да

світання пешаходаў на мост не пускалі, акрамя вайсковых патрулёў і кур'ераў.

Побач з вялікімі пантонамі з насцілам для машын пакладзены малыя з дашчаным мастком для пешаходаў, усё прадугледзелі сапёры. Пантоны ўмерзлі ў лёд, пад нагамі людзей лёд пагрозліва страляў, над палонкамі рухомая секцыя мастка пагойдвалася, нырала, палохаючы тых, хто на такой пераправе ўпершыню.

Усе ішлі даволі шпарка. Мы ж проста беглі, абганяючы іншых прахожых. Зігзагі, якія мы рабілі, былі небяспечныя. Ад ракі масток адгароджаны вяровачнымі парэнчамі, але нямала дзе яны былі парваныя — ці не бомбамі? — і лёгка можна было сігануць у палонку. Ванда ішла наперадзе. Я і Ліка не маглі за ёй угнацца.

Масток гайдаўся, Ліка спатыкнулася. Я ўзяў яе за руку: а то, чаго добрага, нырне дзяўчына пад лёд. І зноў пачуў, як ад яе рукі заструменіў цёплы паток, а лютаўскі вецер над Віслай прынёс пах мёду. Ці не таму, што пра мёд сказаў Кузаеў?

Здаецца, Ванда не азіралася, але запаволіла крок так, што мы яе дагналі. І яна, нават не аглянуўшыся, са зласлівай насмешлівасцю кінула:

— Зноў за ручкі ўзяліся, дзеткі? Глядзіце — ад мяне не схаваецеся. Я вас на дне Віслы ўбачу.

— Не бойцеся за нас,— адказала Ліка, здзівіўшы мяне, што на вы.

— Я не баюся. Вы бойцеся.

Руку Ліка не адняла, наадварот, сціснула маю. Радасна ўзбадзёраны — сітуацыя, як вагонная, развесяліла,— я адказаў, бадай, з выклікам:

— Чаго гэта мы павінны баяцца?

— А во гэтага самага — ручак. Не ў цябе яны мёдам намазаны. У яе. А табе, каханы мой, яшчэ прыпомню, як ганебна ты вёў сябе ў камандзіра.

— Я — ганебна?

— Ты. Ты. Як язык пракаўтнуў,

— Ён не такі слізкі ў мяне, як...

— Ты чула, Ліка? І з гэтым чалавекам я звязваю свой лёс... на ўсё маё доўгае жыццё.

На батарэі на варшаўскім беразе ўдарылі ў звон. Трывога! Закрычалі вартавыя на пантонах — па-руску, па-польску:

— Бягом — з моста!

Ванда ступіла назад, схапіла Ліку за руку, вырвала ў мяне і пабегла па хісткіх сходах, цягнучы Ліку, што дзіця сваё. Абганяць нікога

не трэба — беглі ўсе, варшавяне зналі, што такое налёт, не горш за нас, зенітчыкаў.

Праз пяць мінут мы сядзелі ў руінах. Але бамбардзіроўшчыкі не прыляцелі, пэўна, перахапілі іх. Не сорак першы год!

Глядзець не было чаго: руіны, друз. Для таго, хто не ведаў горад, не чытаў нават пра яго, усё здавалася мёртвым. Але для Ванды яно жыло; я зразумеў гэта значна пазней, калі стаў гісторыкам. Ёй палацы, касцёлы здаваліся жывымі і рэальнымі ў большай меры, чым нават тым, на чыіх вачах усё гэта бязлітасна знішчалася, хто неаднойчы плакаў над гэтымі руінамі. Ванда ніколі не бачыла жывы горад. Яна чытала пра яго. Многа чытала, так многа, што старажытныя помнікі ведала, можа, лепш за тых, хто нарадзіўся тут і пражыў жыццё. Апісанні, гравюры стварылі яе ўяўленне пра горад, і тое, што было перад намі, не магло яго разбурыць.

Ванда, лічыў я, паводзіла сябе не так, як належала афіцэру Чырвонай Арміі. Пaглядзець на яе — у гарачцы чалавек ці... ненармальны. Бясконца спыняла палякаў, што расчышчалі вуліцы ад друзу, пыталася, дзе Маршалкоўская, дзе Стара Мяста, Крулеўскі палац, касцёл святога Паўла і яшчэ многа іншых палацаў, касцёлаў. Такая ўсхваляваная цікаўнасць савецкага афіцэра некаторых даводзіла да слёз — старых, жанчын. Яны ў роспачы і горы разводзілі рукамі і як бы прасілі прабачэння, што не могуць паказаць таго, што цікавіць нас:

— Пшэпрашам шаноўную пані. Ніц нема. Вшыстко герман зруйноваў.

Іншыя, маладзейшыя, глядзелі на Ванду чамусьці падазрона, як бы з недаверам да яе цікаўнасці, якая, вельмі можа быць, абражала іх: што ты пытаеш у хворага здароўя? Хіба сама не бачыш? Не чытала? Не чула? З неба звалілася, ці што?

Не надта разумеючы мову, злавіў я адценні такога настрою, такіх адносін да яе ўзбуджаных роспытаў пра помнікі, ад якіх засталося хіба адно старажытнае каменне.

Сказаў пра гэта Вандзе — што людзям баліць ад яе пытанняў. Спачатку яна ўзлавалася.

— Ты сляпы і глухі! Сляпы і глухі! Што ты разумееш? Табе даручылі ахоўваць нас — ахоўвай.

Я адказаў не вельмі тактоўна:

— Усё, што шукаеш, ты ўбачыш у Архангельску. У кнігах у бацькавай бібліятэцы.

І атрымаў:

— Невук ты, Павел! Невук. Мне сорамна за цябе. І ты хочаш нас выхоўваць? Змоўкні і сапі ў насовачку. Яе ты хоць маеш? — у мяне

быў насмарк, і я, джэнтльмен, сарамліва адстаючы, смаркаўся ў кулак.

Аднак нешта да Ванды дайшло. Распытваць яна стала менш. Але без людскіх падказак стала кідацца з боку ў бок, з вуліцы на вуліцу; мы пятлялі, вярталіся назад, бо часам упіраліся ў завалы, у тупікі.

У мяне ўзмакрэла спіна. Праўду сказаў Кузаеў: антылопа! За ёй немагчыма ўгнацца. Дзіўна паводзіла сябе Ліка — сцішана, насцярожана. Перш за ўсё, убачыў я, уразілі яе, можа, нават ашаламілі, нашы з Вандай адносіны. У вагоне, пры падначаленых, Ванда, безумоўна, ні такога тону, ні саркастычных наскокаў, хоць звярталіся мы адно да аднаго на ты, сабе не дазваляла, магла пажартаваць, але заўсёды ў межах вайсковай прыстойнасці і дзявочай цнатлівасці. А тут — і сляпы, і глухі, і невук, і што хочаш... Адбівала кожную заўвагу, якая не падабалася ёй. Па вачах Лікі ўбачыў: падумала, што мы даўно муж і жонка, бо толькі пры вельмі інтымных адносінах можна гэтак размаўляць. Відаць, пакрыўдзілася на Ванду: тая, напэўна, у даверлівых размовах, якія маглі весці сяброўкі, казала праўду, што мы яшчэ далёка ад шлюбу, што пры ўсім тым, што яна афішуе, мы ні разу нават не пацалаваліся як мае быць, ва ўсялякім разе да тае вагоннай ночы, калі Ліка, як і іншыя дзяўчаты, каму не спалася, магла чуць, што мы цалаваліся.

На мяне Ліка глядзела непрыязна і, бадай, з крыўдай, зразумелай: маўляў, што ж ты ручку мне гладзіш? Не сумняваўся, што каб захацеў узяць яе за руку зноў, яна зняважліва адвярнулася б. А тут яшчэ ў самым пачатку, калі мы, глыбока ўражаныя, стаялі на шырокай ачышчанай вуліцы, дзе — як кінуць вокам — не ўцалела ніводнага будынка, я, бадай, недарэчна, бадай, бестактоўна спытаў:

— Хельсінкі так не выглядаюць?

Іваністава ўздрыгнула і сцялася, угнула плечы, як бы чакаючы балючага ўдару. Я мог бы зрабіць яго, удар, бо варухнулася, як цяжкі валун, думка: «А наша авіяцыя магла б...» Але я спахапіўся: не, мы такога не зрабілі б!

Ад усяго разам адчуў сябе вінаватым перад Лінай і, бадай, груба пікіруючыся з Вандай, да карэлкі звяртаўся звышдалікатна, звышветліва, без субардынацыі.

Магчыма, што Ванда раўнавала і да гэтага. Не, наўрад ці думала яна пра свае ці мае любоўныя пачуцці. Залішне гэта было б дробным перад веліччу таго, што яна перажывала, убачыўшы зусім не тую Варшаву, вобраз якой, складзены па кнігах, насіла ў галаве і ў сэрцы з маленства.

Мне абрыдла гонка па мёртвым горадзе. Ды і час — ён ляцеў гэтак жа шпарка, як Ванда. Гадзіннік быў толькі ў яе, я колькі разоў пытаўся, каторая гадзіна; яна перастала адказваць.

Устрывожаны напружанасцю, якая ўзнікла паміж намі, і пагрозай спазніцца, за што Кузаеў не пахваліць, я рашуча загадаў:

— Пайшлі назад!

Ванда паглядзела на мяне як на бяздушную нікчэмнасць.

— Ты што гэта! Не пабачыўшы Стара Мяста, Каралеўскі палац?!

Што за Стара Мяста — я не ўяўляў. А класавая свядомасць мая нават бунтавала супраць яе жадання:

— Чаму табе так хочацца ў каралеўскі палац? — і здзекліва, насмешліва — каб уесці: — Каралева польская!

Ванда проста застагнала — як ад вялікага расчаравання:

— Памаўчы, калі ласка, калі нічога не разумееш. Я пра цябе лепш думала, неацэнны мой.

З лабірынта ачышчаных і неачышчаных вуліц і завулкаў мы зноў выйшлі на бераг Віслы. Тут яна была вузейшая, чым у раёне мастоў, і шкілеты дамоў, якія мы ўбачылі раней, чым раку з сінім лёдам і палонкамі,— балюча ўразілі і мяне. Знутры здавалася, што Прага адносна цэлая, і з ракі неяк не ўбачылі гэтых шкілетаў — не азіраліся, ці што? Не, набярэжная моцна разбіта. Але адразу відно, што характар разбурэнняў іншы — снарадамі, бомбамі, а не скіраванымі ўзрывамі, як тут, у Варшаве.

— Заблудзіліся?

— Не. Гэта Стара Мяста. Я пазнала. Але — матка боска! — што ад яго засталося! — жахнулася Ванда, і твар яе збялеў.

Нічога не засталося. Нават друзу менш, чым на магістральнай вуліцы, па якой ішлі армейскія машыны.

З другога боку нешырокай плошчы стаялі чырвоныя каробкі трохпавярховых вузкіх дамкоў са сляпымі вачніцамі вокнаў. Па гэтых каробках ці, можа, таму, што ўсё ж недзе бачыў у кнізе, я ўявіў прыгажосць старажытнага горада, і ў мяне таксама балюча сціснулася сэрца, я раптам зразумеў каштоўнасць усяго, што так бязлітасна знішчана. І Ванду зразумеў глыбей, загадаў сабе: ніводным словам не абразіць яе пачуцці. І Ліку разумеў, у вачах якой зацямнеў страх. (Калі праз дваццаць гадоў я прыехаў у Варшаву і ўбачыў адноўленае Стара Мяста, то вельмі здзівіўся, што менавіта такой плошча гэтая ўявілася мне ў хмурны лютаўскі дзень сорак пятага. Дзівосы чалавечай фантазіі!)

Уцалелыя шкілеты дамоў абгароджаны калючым дротам. На вялікіх лістах бляхі надпісы на польскай і рускай мовах: «Не хадзіць!

Не капаць! Міны!» Там, дзе ў друзе многа металу, мінашукальнікі не выяўляюць міны. Але, нягледзячы на папярэджанне, у руінах, не абнесеных дротам, корпаліся людзі. Не тыя арганізаваныя рабочыя, што прыбіралі друз на вуліцы — панурыя адзіночкі, як цені тых, хто жыў тут стагоддзі назад; такое ўяўленне ўзнікала, пэўна, па той прычыне, што некаторыя з гэтых жанчын і мужчын былі апранутыя ў старасвецкія сурдуты, палітоны, шынялі. Хто яны гэтыя людзі! Жыхары былых дамоў? Шукальнікі скарбаў? Што яны могуць знайсці? Свой набытак? Старажытныя каштоўнасці?

Папрасіў Ванду, каб запытала. Яна ахвотна і доўга гутарыла з імі, але нічога пэўнага яны не сказалі. Магчыма, іх насцярожвала веданне савецкім афіцэрам польскай гісторыі. Няхай бы Ванда не выхвалялася гэтым! Знайшла дзе лекцыю чытаць!

Зноў абвясцілі трывогу. У горадзе яе абвяшчалі трывожным бомам вялікіх званоў на нейкай уцалелай царкве. На гэты раз «юнкерсы» прарваліся. Знаёмы звон матораў. Але ніводзін з іх не адважваўся пікіраваць з-за воблакаў. Бамбілі ўсляпую. Масты. Там цяжка вухалі разрывы. «Не могуць яны прамінуць Пражскай станцыі. Столькі эшалонаў!» — з трывогай падумаў я. Але ўзрадавала шчыльнасць зенітнага агню. Білі дзесяткі батарэй і з таго, пражскага, і з гэтага берага. Такой шчыльнасці, бадай, не было і над Мурманскам у сорак другім, калі па загаду Галоўнакамандуючага туды кінулі з-пад Масквы цэлую дывізію ПВО.

Асколкі снарадаў сыпаліся з-за воблакаў з непрыемным свістам, шлёпаліся ў руіны, з шыпеннем прабівалі лёд на рацэ. Пры такім агні можна загінуць ад асколкаў уласных снарадаў; на батарэях абавязкова ўсе надзявалі каскі, і то меліся раненні.

Палякі, што корпаліся ў друзе, зніклі пры першым удары звона. Відаць, мелі блізкае сховішча. Я загадаў дзяўчатам схавацца. Але Ванда і брывом не павяла. Куды схавацца? Ніводнага даху.

— Пайшлі ў Каралеўскі палац!

Ну, каралева, ліха на цябе!

Пад залпы батарэй і свіст асколкаў мы нырнулі ў нейкі завулак і праз мінуту апынуліся перад руінамі, якія ўразілі, як нішто перад тым.

Па рэштках тоўстых сцен, па горах цагельнага друзу, па спляценню скарэжанага жалеза было відно, што разбурана незвычайная будыніна, вялікі помнік мінуўшчыны. Разбураны свядома, накіраванымі ўзрывамі. Ніякая бамбардзіроўка, ніякі артабстрэл не маглі гэтак дашчэнту зруйнаваць такі велічны гмах.

Ванда застагнала і... упала на калені. Мяне яе артыстычны жэст моцна ўзлаваў: знайшла месца і час дэманстраваць свой польскі патрыятызм:

«Перад кім? Перада мной? Перад Іваніставай? На пажарышчы Мурманска, перад руінамі Петразаводска ты не падала!» — з абурэннем падумаў я. Разгневала і іншае: з-за яе штукарства можна недарэчна загінуць. Але калі шчыра, то спалохаўся я не за сябе і не за яе — за Ліку: яна адна азіралася і бляднела ад блізкіх удараў асколкаў. Ліка паводзіла сябе натуральна: пад такім агнём ёй не давялося быць. Але і нам, абстрэленым, падстаўляць галаву пад свае асколкі — дурная рызыка.

— Ва ўкрыцце, чорт вазьмі! Ва ўкрыцце!

Схапіў Ванду пад пашкі і, не звяртаючы ўвагі на папярэджанне: «Не хадзіць! Не капаць! Міны!» — пабег па шырокай ачышчанай лесвіцы ўніз. Павінны ж у палацы быць нейкія сутарэнні, падвалы! Сапраўды, мы адразу трапілі ў вузкую галерэю, над якой захавалася цяжкае патрэсканае перакрыцце. Але ў гэты міг змоўклі батарэі. Усе адразу. Бухнула блізка адзіная гармата, такія запозненыя стрэлы — прадмет кпінаў і жартаў зенітчыкаў.

Ванда, расслабіўшы рэмень, абцягнула шынель і — о, чортава стрэмка! — гулліва пасміхнулася, яўна задаволеная:

— Таварыш малодшы лейтэнант! А хапаць так дзяўчат не дазволена. У арміі. Гэта вам не на вясковай вечарынцы. Ліка! Бачыла, як ён схапіў мяне? Які сорам! — і смачна пагладзіла грудзі.— Ажно баліць. Паскардзіцца хіба маёру на такога хулігана?

— Пайшла ты! Цябе не так трэба было схапіць!.. Распласталася... Перад чым? Перад каменнем?

Гуллівы бляск у карых вачах уміг змяніўся гнеўным:

— Да твайго ведама, таварыш камсорг, гэта — свяшчэнныя камені.

— Усё, што зроблена каралямі, для цябе — свяшчэннае,— уткнуў я.

— Не каралямі, а народам. Народам! Табе трэба чытаць такую палітграмату?! Эх ты, камісар! — і, зняважліва адхіліўшы мяне, пайшла па галерэі далей. Ліка пайшла за ёй.

Я застаўся на месцы. У дзяўчат магла ўзнікнуць патрэба на пэўны час адлучыцца.

Галерэя была нядоўгая і няцёмная: з таго канца таксама цадзілася святло. Дзявочыя постаці раставалі не ў цемры — у святле дня, хоць і воблачнага, але надзіва яркага, такая яркасць хмурных дзён пачынаецца з прадвесня.

Чакаў я сваіх спадарожніц спакойна. Упачатку нават задаволены па пэўнай прычыне — далі магчымасць пастаяць аднаму ў цёмнай нішы. Але і без гадзінніка я ўмеў дакладна вымяраць час. Доўга яны адсутнічаюць. Вельмі доўга... Даўно пара вяртацца назад. Працягваў трывожыць налёт: бомбы маглі ўпасці на станцыю, дзе наш эшалон. Маглі пацэліць у мост. Пакуль яго адрамантуюць. Надоўга рух, безумоўна, не спыняць. Але ж не пазіцыі заняў дывізіён у Празе, на колах стаіць, і сам Кузаеў не ведае, калі рушыць далей на захад.

Устрывожаны, кінуўся ў той бок, куды пайшлі дзяўчаты. Выскачыў на ўнутраны двор былога палаца. Пад ім, відаць, узрывалі падземныя хады, бо было многа глыбокіх правалаў. І тут мяне ахапіла паніка: як я мог адпусціць іх адных! Такая фанатычка, як Ванда, не спыніцца, каб палезці ў сутарэнне.

Гукнуў:

— Ва-а-нда! Лі-іка! Жму-ур! Іва-аністава!

Глуха, ціха, калі не лічыць іншых гукаў: далёкага

шуму машын, свісткоў паравозаў, галасоў на блізкай батарэі, дарэчы, польскіх — польская батарэя.

Я кідаўся з боку ў бок, у кожны праход сярод руінаў, у кожны завулак, галерэю. Палез на гару друзу. Наскочыў на мінёраў. Спытаў у іх: ці не бачылі яны тут двух дзяўчын — малодшага лейтэнанта і яфрэйтара?

Сяржант, ігнаруючы субардынацыю, накрычаў на мяне:

— А што вам тут трэба? Які вас чорт носіць? Каб духу тут не было! Загада не ведаеце?

Загада я не ведаў. А каб і ведаў, то, не знайшоўшы дзяўчат, хіба мог пакінуць гэтыя страшныя руіны?! Спусціўся назад, у галерэю, дзе чакаў іх. Няма. Зноў гукаў, не баючыся злоснага мінёра, які пагразіў услед, што адвядзе ў камендатуру, калі буду блукаць тут; другі мінёр, вастраслоў, пажартаваў уедліва і змрочна:

— Брат наш з дзяўчатамі каралеўскія спальні шукае. А мы з табой, сяржант, кашчавую шукаем. Ох, наскочым мы на яе!

Напамінак пра смерць разануў сэрца. Ад думкі, што Ванда і Ліка могуць загінуць, не хацелася жыць. Як можна жыць пасля, калі людзі... дзяўчаты... маці будучыя загінуць па тваёй віне! Ад тваёй бесклапотнасці — аднаму застацца захацелася! — нядбайнасці, мяккадушнасці... Слізняк, а не афіцэр! Табе даручылі, каб ты іх вадзіў. А яна, Ванда, вяла цябе, як барана. На д'ябла табе здаўся гэты палац!

Але цяпер я не мог пакінуць яго. Пайшоў на тое, што палез у падзямелле. Гукаў там. Апынуўся ў поўнай цемры — без ліхтарыка, без запалак нават. Наскочыў на нейкія скрынкі. Спатыкнуўся. Упаў.

Разадраў штаны, падрапаў калена, рукі. Дабраўся да месца, дзе над галавой бурліла вада. Ці не сама Вісла? Зараз абрынецца... Тут зрабілася жудасна. Ледзьве вылез з сутарэння.

Выгляд у мяне быў не выхадны. На батарэі, куды я заглянуў з надзеяй, што дзяўчаты маглі пайсці туды, да сваіх сяброў па зброі, паручнік, наш хлопец, баранавіцкі, параіў мне прывесці сябе ў парадак, даў шчотку, іголку з ніткай...

У Старым Мясце людзі, якія зноў корпаліся ў друзе, на пытанне мае адказалі ахвотна, асабліва жанчыны. Спрачаліся паміж сабой. Яны разумелі мяне лепш, чым я іх. Аднак усё ж зразумеў, што бачылі яны паўгадзіны назад двух вайсковых дзяўчат. «Тыя, тыя, што былі з панам,— запомніла адна з кабет.— Пайшлі вунь туды». І паказала ў бок пераправы. «Не, туды!» — другая кабета даводзіла, што паненкі пайшлі да палаца, дзе я згубіў іх. Каму з іх верыць? Праўду маглі сказаць абедзве. Ванда і Ліка, магчыма, кідаліся ў розныя бакі, шукаючы мяне, гэтак жа, як кідаўся я. Суцешыла, што бачылі іх адных, без мяне, значыцца, пасля палаца. Зменшыўся мой страх, што, лазячы ў руінах, яны маглі праваліцца ў якую-небудзь прорву, у бяздонне, у той бурлівы паток, які я чуў у падзямеллі.

Аднак дзе іх шукаць? У Ванды — гадзіннік. А час, які адпусціў нам Кузаеў, бадай, ужо скончыўся.

3

Я стаяў у штабным купэ каля дзвярэй. Састаў ішоў няхутка. Але вагон скрыпеў і больш, чым звычайна, гойдаўся, здавалася, увесь час хіліўся ў бок акна. У вачах мільгалі тэлефонныя слупы і як бы прыцягвалі да сябе. Са страхам думаў: хісне трохі больш — і я ўпаду на Тужнікава ці Зубрава. Яны сядзелі за столікам каля акна. Я абліваўся потам, перасохла ў роце, памлелі ногі. Можа, цэлую гадзіну ўжо нампаліт нібыта спакойна, але надзвычай скрупулёзна дапытваў, як я згубіў іх, дзяўчат. Нядобра дапытваў — неяк вельмі ж падазрона, як злачынцу, які мог скінуць людзей у Віслу. Дарэчы, да пераходу па мосце вяртаў разы тры. І асабліва цікавіўся нашай размовай з палякамі: пра што мы гаварылі?

— Спачатку пыталіся, як прайсці.

— Куды?

— Да Старога Мяста.

— А чаму менавіта туды?

— Гэта старажытны цэнтр горада. Помнік...

— А яшчэ пра што Жмур гаварыла?

— Таварыш маёр, я разумею па-польску з пятага на дзесятае.

— Так, разумееце вы, Шыянок, мала.

Дзіўны намёк. На што?

Спачатку я расказваў вельмі шчыра, падрабязна, з развагамі, здагадкамі. Гэта ўскладніла маё становішча. Абражаны падазронасцю, я на паўторныя пытанні адказваў коратка, эскізна, без дэталяў. Сам адчуў, што ад таго, як расказваеш, карціна мяняецца, і разгубіўся: як захаваць праўду? Фінал як я згубіў Ванду і Ліку — нават самому мне раптам здаўся непраўдападобным: як у дрэннай прыгодніцкай кнізе. Тужнікаў не выяўляў ніякіх эмоцый, што таксама было незвычайна — не падобна на яго. Недаверліва скрывіўся:

— Во так: адлучыліся дзеўкі у каралеўскі туалет і — як праваліліся.

— Як праваліліся,— сумна згадзіўся я.— Але іх бачылі — я казаў ужо — на Старамясцкай плошчы.

І зноў:

— Ну, і што яны вам сказалі? Шукальнікі скарбаў.

— Што бачылі іх... нашых...

— Чаму вы ўпэўнены, што іх?

— Яны на плечы паказвалі, на пагоны. У адной — з зорачкай... у другой — з лычкам... Жанчыны назіральныя. Адна запомніла, што афіцэр — тая паненка, што мувіла па-польску.

— Што яшчэ вам гаварылі пані?

Што яны маглі гаварыць. Каб я разумеў па-польску, як паруску...

— Чаму вы пайшлі на польскую батарэю?

— Падумаў, што Ванда магла пайсці туды.

— З якой мэтай?

— Магла падумаць, што я там.

— Камандзір лакатара ніяк не магла запеленгаваць свайго павадыра,— нібыта жарт, але ні ценю ўсмешкі ні ў самога Тужнікава, ні ў капітана Зубрава. Ад такой незвычайнай сур'ёзнасці кідала і ў жар і ў холад.

Таптанню — пытанням і маім адказам, у якіх я сапраўды пачаў блытацца, бо сам пачаў сумнявацца — а ці так яно адбывалася, ці пра тое мы гаварылі паміж сабой? — не відаць было канца. Але пракурорскую дапытлівасць Тужнікава, як бы яна ні абражала, я мог бы стрываць, бо ведаў і яго сур'ёзнасць, і яго выбуховасць, і яго ўедлівасць, уніклівасць, але і яго адыходлівасць. Колькі ён шумеў на мяне — крыўды я не меў, урэшце, у кожнага свой характар, свой стыль. А ў душы нампаліт добры чалавек.

Зубраў... сябар Зубраў, які любіў пагутарыць са мной, паспрачацца не без карыснага, здагадваўся я, намеру — вывудзіць ад мяне веды па палітыцы, гісторыі,— ён давёў мяне да таго, што аслаблі ногі, я хістаўся, а мільганне слупоў за акном ператварылася ў фантастычны танец прывідаў.

Зубраў маўчаў. Слова не сказаў. Толькі ўздыхаў — так, быццам я канаю, і яму вельмі шкада мяне.

У купэ ўвайшоў Калбенка, адхіліў мяне, засланіў сваёй спіной ад следчых.

— Доўга вы збіраецеся тузаць хлопца?

Твар у Тужнікава нядобра перасмыкнуўся.

— Мы не тузаем, да вашага ведама. Мы высвятляем ісціну.

— Якую ісціну? Знайшлі занятак. Для забавы, ці што? Нікуды не дзенуцца нашы прыгажуні. Не іголкі ў сене. Нумар эшалона ведаюць... нумар часці... месца дыслакацыі. Быццам яны першыя адсталі. Тысячы людзей адстаюць ад сваіх эшалонаў.— Зубраў падняўся, паправіў партупею.

— Дагоняць, кажаш? — свіснуў: — Ф'юць. Наіўны вы народ. Дэзерціравалі вашы прыгажуні. Дэ-зерціравалі! Любому дурню зразумела.

Што выбух бомбы, аглушыла мяне такое заключэнне. І я рашуча запратэставаў, крыкнуў:

— Не! Не!

— Адна полька, другая — фінка...

— Яны — савецкія!.. І не фінка яна! Не фінка! У яе бацька рускі, палкоўнік нашай арміі! А Жмур — камуністка!

Пры гэтым напамінку цяжка ўздыхнуў Тужнікаў. Яны як бы памяняліся ролямі: цяпер гаварыў Зубраў, Тужнікаў сумна ўздыхаў; пасля я зразумеў, як ён, службіст, перажываў з-за магчымага дэзерцірства дзяўчыны-афіцэра, якую тыдзень назад прынялі ў члены партыі.

— А зямлю цалавала...— упалым голасам прыгадаў ён.

Мяне абурыла іх страшнае падазрэнне. Забыўшыся на субардынацыю, я працягваў гучна, па-камсамольску аспрэчваць:

— Не! Не можа гэтага быць! Не можа! Галаву даю адсекчы.

— Не кідайся загадзя галавою. Высветлім, чаму некаторыя так настойліва ўпрошвалі камандзіра адпусціць іх.

— Я не ўпрошваў! Хіба я ўпрошваў, таварыш маёр?

Тужнікаў не адказаў. Не хацеў адказаць? Ці не паспеў? Мог не паспець, бо тут, гнеўна запунсавеўшы, сурова і пагрозліва сказаў Калбенка:

— Майце на ўвазе, Паўла я не дам вам з'есці!

— Дзіўная ў вас тэрміналогія, Канстанцін Панасавіч. Непартыйная. Хто каго хоча з'есці?

— Не ты будзеш вучыць мяне партыйнасці!

Яны стаялі ў вузкім праходзе купэ тварам у твар, абодва бурачковыя. Я рашуча ўціснуўся паміж імі.

— Не трэба, Канстанцін Панасавіч.

Ды і Тужнікаў як бы спалохаўся, мірна папрасіў:

— Таварышы, таварышы... Увесь вагон чуе...

Страшэнна пакутлівую — да сардэчнага болю ў дваццаць чатыры гады — ноч я правёў, першую ў жыцці бяссонную — ад думак. Былі бяссонныя ночы ад баёў у Мурманску. Але як там хацелася спаць! Засынаў стоячы, уткнуўшыся лбом у гарачы затвор, у плячо наводчыка ці ўпаўшы на гару пустых снарадных скрынак.

А тут — гойдаецца вагон, рытмічна стукаюць на стыках рэек колы, смачна храпуць суседзі ў маім і суседнім купэ. Спаць бы і спаць... І мне хораша спалася, калі састаў ішоў, горш — калі стаяў. Афіцэры жартавалі: «Далі нам санаторый на колах. За ўсю вайну адаспаліся».

Адаспаўся і я. А калі цяпер засну? Жорстка, мулка. І варочацца баюся, каб не разбудзіць таварышаў. І так Калбенка пачуў, што не сплю — відаць, і яму не спалася — і па-бацькоўску строга загадаў:

— Спі! Пастух!

Сапраўды — пастух. Некалі ў маленстве пасвіў цялят і часта губляў. І вельмі баяўся бацькавай лупцоўкі, не болю баяўся — сораму, хоць бацька ні разу не сцёбнуў мяне. Біў дзядзька, цяляты чамусьці найчасцей рабілі патраву яго пасевам. Дзядзькавай пугі баяўся, але не саромеўся, нават свавольна падражніўся: злаві, дастань!

Якой пугі і ад каго атрымаю цяпер? Не, страху не было. За сябе. Хоць Калбенкава ўстрывожанасць спалохала, бадай, больш, чым допыт Тужнікава, злавеснае маўчанне Зубрава. Працягваў жыць пратэст супраць яго неверагоднага падазрэння, што Ванда і Ліка маглі дэзерціраваць. Уся істота мая пратэставала. Каб гэта здарылася, крый божа, напэўна, я страціў бы веру ва ўсіх людзей, ва ўсе ідэалы і ў першую чаргу — у самога сябе, у сваё разуменне чалавечай... дзявочай псіхалогіі, у сваю спагадлівасць да іх, каму лёс наканаваў рабіць зусім не жаночую справу — ваяваць. Напэўна ўзненавідзеў бы ўвесь род Евін.

Так, я верыў, што Ванда і Ліка вернуцца! Аднак пасля глыбокіх перажыванняў, у бяссонную ноч — якія думкі толькі не лезлі ў галаву! Пракручваў па многа разоў, як ленту ў кіно, усё, што ведаў пра Ванду, што чуў ад яе, усе яе выбрыкі і ўсё разумнае, што зрабіла з'яўленне на

батарэі ўвосень сорак другога... Што яе пацягнула да англічан? Цывільная бесклапотнасць? Архангельская партовая «развязнасць»? Ніводная з нашых дзяўчат да гэтага не дадумалася б. А Ванда і ў рангу камандзіра СОН здзівілася майму пытанню: «А што тут такое? Падумаеш — крамола! Але, хадзіла ў порт і ў Архангельску, гутарыла з маракамі, каб папрактыкавацца па-англійску. Я лепш за настаўнікаў сваіх ведала англійскую».

І ў вайну вазіла з сабой падручнік англійскай мовы. Навошта ёй так патрэбная чужая мова? Не, гэта не маё бяссоннае пытанне. Тужнікаў і пра гэта пытаўся. Тады здалося недарэчным — падазронасць да вывучэння замежнай мовы. А вось жа круціцца. Ванда за два гады вырасла да малодшага лейтэнанта. Ванда лепш за многіх камандзіраў разбіралася ў схемах лакатараў. Не толькі сама пахвалялася ведамі — пацвярджалі інжынеры, выкладчыкі яе на курсах, якія прыязджалі ў дывізіён інспектарамі.

Для таго каб дэзерціраваць, яна траціла столькі энергіі? Адкуль ведала, што трапіць у Польшчу? Ды і бацькі яе ў Архангельску. Чаму я не сказаў пра гэта Зубраву на яго ўпэўненасць у здрадзе дзяўчыны? Увогуле паводзіў сябе ганебна. Бадай, спалохана крыкнуў: «Я не ўпрошваў!» Каб адпусцілі іх у Варшаву. І маёра ў сведкі заклікаў.

Аднак... чаму яе так цягнула ў гэтую Варшаву?

Стаялі на Маскоўскім вакзале ў Ленінградзе, у нябогі Жэні Ігнацьевай, ленінградкі, якая перанесла блакаду, пачалася гарачка. Я доктара паклікаў. А яна пасля даверліва шаптала мне: «Гэта ад Ленінграда, ад Ленінграда... Як я хачу паглядзець на яго!» Але ў яе і думкі не з'явілася папрасіцца глянуць на родны горад. Праўда, тады ніхто не ведаў, з якой хуткасцю будзем ехаць. Па зруйнаваным Полацку я хадзіў. І Ліду агледзеў, парадаваўся, што горад амаль уцалеў.

Я, рамантык, прыняў як нешта натуральнае, што Ванда пацалавала зямлю продкаў. А Тужнікаў здзівіўся і абурыўся. А ў яго вопыт, палітычнае чуццё. Аднак жа ён сам згадзіўся іх адпусціць, толькі не адных, са мной. Чаму са мной? Чаму Кузаеў і ён, нампаліт, раіліся са мной? Незвычайна. Дзіўна.

Адносіны камандзіра да ўсяе гісторыі і насцярожвалі і супакойвалі. Ён так лёгка згадзіўся адпусціць нас. Адкуль ведаў, колькі мы пастаім у Празе? Дзіўна паводзіў сябе і тады, калі я, усхваляваны, дакладваў яму, што згубіў дзяўчат. Ніводнага папроку. І ніякай узлаванасці ці трывогі, як у Тужнікава. Нават Калбенка больш устрывожыўся. Кузаеў жа, бадай, пасміхаўся. З маёй усхваляванасці. Толькі жонцы сказаў: «А ты хацела ўгнацца за гэтымі дзікімі козамі».

Аднак — чаму дзікімі? Ліка дзікая? Ніяк гэтае вызначэнне не падыходзіць да яе. Спакой, раўнавага, кожны крок, кожнае слова прадумвае, раней чым ступіць ці сказаць. А пераадзяванне? Бадай, і ў пераадзяванні была хітрасць, якую я не разумею. Увогуле Ліка — загадкавая, таемная. Можа, гэтая таямнічасць і цягне шмат каго да яе. І «князя», і Данілава... І мяне... І няшчасце з-за яе здарылася. З-за смерці Пахрыцынай настроіліся супраць яе, але хутка даравалі. Усе. Я — у першую чаргу.

Загадкавасць Лікі ў тую бяссонную ноч здалася мне падазронай. А ў Ванды падазроным было зусім не тое, што выклікала гэтую падазронасць у Тужнікава і Зубрава. Яе адносіны да мяне. Угледзела, што я гладзіў руку Лікі, і, выходзіць, зараўнавала прытворна, бо сяброўства з Лінай не парвала. Што ж, усе яе заляцанні, прызнанні, залішне адкрытае абвяшчэнне, што я жаніх яе — камуфляж, гульня? Калі гэта сапраўды рабілася для маскіроўкі... О божа! Я, відаць, застагнаў, бо Калбенка падняўся і паслухаў мяне, як маці хворае дзіця. Паправіў шынель. Расчуліў клопатам. І яму не спіцца! Але гэтая вернасць бацькоўская неяк як бы адцаніла магчымую Вандзіну вераломнасць. Ад таго, што яна вадзіла за нос мяне гэтак, не стагнаць хацелася,— завыць. Але пракруціў «фільм» яе паводзін, нашых адносін яшчэ раз, спыніў у разгарачаным мазгу іншыя кадры і — зноў:

«Не! Не магла яна здрадзіць! І Ліка не магла!»

Ад гэтага адлягло на душы. Але ўспыхнула злосць на Зубрава за яго бяздоказнае падазрэнне.

«Калі дзяўчаты вернуцца, я дам табе па мордзе. Не пагляджу ні на званне, ні на пасаду. Няхай мяне разжалуюць, пасадзяць...» А праз хвіліну — цвярозасць: нікому я нічога не зраблю, парадуюся і... пацалую іх, маіх мучыцелек. Знарок дваіх. І знарок пры Тужнікаву — няхай пазлуе. А Зубраву як насаліць? Яго пацалункамі не праймеш...

Надоўга мне запомнілася тая ноч. Пасівець я не пасівеў, але пасталець, безумоўна, пасталеў. Адбылося адно з тых узрушэнняў, што праводзяць чалавека ў вышэйшы клас, у новую якасць. На вайне гэта здаралася часта. Першы дзень вайны... Смерць Ліды... Паляванне «месершміта», Глашына раненне... А цяпер гэтая недарэчная прыгода. Буду я плакаць ад яе? Ці смяяцца?

І смяяўся. І плакаў.

За акном вагона пачало світаць. Замільгалі фантастычныя абрысы голых дрэў.

Салодкі сон на світанні. Храплі ўнізе, у суседнім купэ. Бестурботна спяць людзі, думаў я. Нікога не хвалюе, што дзесьці блукаюць, можа, едуць у тамбуры, на адкрытай плацоўцы, галадаюць без атэ-

статаў дзве нашы дзяўчыны. Любіў іх у тую ноч, як сясцёр, як нявест (во мнагажэнец), і злаваўся.

Камандзірам сваім, таварышам, што моцна спалі, зайздросціў, але і злаваўся на іх: да фронту набліжаемся, а вы дрыхнеце, як курапаткі!

Эшалон спыніўся на малой станцыі — не чуваць было грукату іншых саставаў, ні свісткоў, ні рускай гамонкі. Ціхая польская з далікатным «проша пана».

Вельмі Хацелася выйсці, астудзіцца. Калі не спіцца, то ад мулкай паліцы ўсе косці забалелі, як у старога. Усіх іншых, нават Кузаева і Мураўёва, не баяўся пабудзіць — Калбенку шкадаваў, бо ён таксама доўга не засынаў.

Ляжаў яшчэ нейкі час. Міма прайшоў паравоз. Наш, бо неўзабаве з вадакачкі палілася вада. Відаць, хутка не рушым далей, таму варта выйсці — ляжаць няма сілы.

Спусціўся моўчкі. У праходзе абуўся. Вышмыгнуў, што мыш,— нікога не патрывожыў, не разбудзіў. Але тут жа пераканаўся, што не ўсе бестурботна спяць. Камандзір батарэі МЗА Папік Качаран падымаў разлікі ў цяплушках. Надышоў дзень — трэба дзяжурыць каля гармат.

— І табе, Шыянок, не спіцца?

— Не спіцца.

— Хвалюешся за Ванду? Не бойся. Калі любіць — знойдзе, не згубіцца. Пабудзі куляметчыкаў. А то Стрыж... штурхаў яго, цягнуў за нагу — брыкаецца. Навошта шлюць інвалідаў?

— А дзе ўзяць людзей, Папік?

— Так, дзе ўзяць людзей? — сумна згадзіўся Качаран.

Лейтэнант Стрыж — камандзір кулямётнага ўзвода — прыбыў да нас, можа, за тыдзень да таго, як дывізіён зняўся з пазіцый у Петразаводску. Франтавік. Інвалід. Тры ці чатыры раненні. Моцна кульгае, ходзіць з кійком. Але да Стрыжа ўсе адносіліся з асаблівай пашанай — камандзіры, байцы: ведалі — мог камісавацца, сам папрасіўся ў баявую часць. Хіба толькі кпілі, што ў вагоне ён сапраўды як бы набіраў гадзіны сну, недаспаныя на перадавой.

Выканаў яго абавязкі — паставіў да кулямётаў людзей. Байцы ад ранішняга холаду курчыліся і дрыжалі. А мне было горача. Дзіўна. Пад нагамі трашчаў лядок, а мне хацелася скінуць шынель, хоць гарматныя і кулямётныя разлікі яшчэ ў кажухах. Ад чаго разгарэўся? Ад трывожных думак? Дык учора ўвесь дзень і вечар трасло, ліхаманіла.

Засігналіў ражок дзяжурнага.

На поўнай хуткасці, як кур'ерскі ў мірны час, уляцеў на станцыю літарны — з ліку тых, якім мы ўсю дарогу зайздросцілі: ёсць жа і ў нас свой літар! Танкі, танкі, танкі... Без чахлоў. Здалося, састаў праскочыць станцыю. Не. Завішчалі тармазы. З-пад колаў пасыпаліся іскры. Спыніўся. Стомлена засоп паравоз. Ды мне не да чужога эшалона. У афіцэрскі вагон вяртацца не хацелася. Пацягнула ў Вандзін, да дзяўчат. Учора яны далікатна спачувалі мне кранальна шчырым перажываннем за Ванду і Ліку: хопяць ліха, маўляў. І ні ў кога не ўзнікла падазрэння, што яны знарок адсталі. Але калі эшалон не затрымаецца на гэтай станцыі і не зробяць агульны пад'ём на зарадку, людзі маглі б паспаць, а я сваім з'яўленнем пабуджу. Хоць колькі можна спаць? Тужнікаў не дарэмна неяк кінуў: «Апухлі ад сну, хадзіць развучыліся».

Не, у дзявочую цяплушку не палез, пасаромеўся: хоць спяць адзетыя, у гімнасцёрках, спадніцах, аднак жа ёсць нейкі жаночы ранішні туалет...

Пайшоў паміж эшалонамі. Лічыў танкі. Здзівіўся, што састаў з такой тэхнікай і з людзьмі — вунь колькі цяплушак з комінамі! — ідзе без зенітнага прыкрыцця. Кароткі перакід з аднаго ўчастка фронту на другі? Адкуль — куды? Але пра такія рэчы на вайне не пытаюцца — ніхто не скажа.

Дзверы ў адной з цяплушак танкавага састава адчыніліся. На зямлю лёгка саскочыў падпалкоўнік, з выгляду хлапчук — невысокі, стройны, з белай непаслухмянай чупрынай, без шыняля, у кіцелі.

Працягнуў у шчыліну дзвярэй рукі і з незвычайнай лёгкасцю, як малую, падхапіўшы на ляту пад пашкі, спусціў з вагона... Ліку, потым гэтак жа — Ванду. Дзяўчаты засмяяліся. Я не верыў вачам сваім, вушам. Ці не сон? Ажно балюча ўдарыла ў галаву. Спачатку — ад радасці. Потым — ад злосці. Ім смешна? Ім яшчэ смешна? І да падпалкоўніка з'явілася злосная рэўнасць: які гжэчны кавалер! Пстрыкун! Лапай! Як высаджвае дзяўчат! Як хапае!

На пасадзе камсорга я голасу не павысіў на каго-небудзь, акрамя незвычайнага таго выпадку, калі Старавойтаў і Глаша падарваліся на мінах: шафёра «хрысціў», які ратаваў нас ад «месера». А тут... занятыя падпалкоўнікам, Ванда і Ліка не паспелі ўгледзець мяне, як я закруціў такога!..

— ...Шалёнае насенне! Дзе вас носіць, заразы?

Ліка першая павярнулася, вочы яе сталі, што супрацьтуманныя фары. А Ванда прысела, быццам хацела схавацца пад вагонам. Але я ведаў, бачыў, што блазнуе, чортава лялька, іграе, і ўзлаваўся яшчэ больш. Дапоўніў сваю лаянку цэнзурнымі, але страшнымі пагрозамі:

— З партыі вылеціш! Пад трыбунал аддамо!

Глупства, безумоўна, гарадзіў. За лічаныя секунды разрадзіў усё, што накапіў за бяссонную ноч — страх, роспач, гнеў. Адным словам, сарваўся хлопец. Пасля сароме́ўся зірнуць у вочы... Ліцы. Ванды не саромеўся, нявесце сваёй мог дадаць і адзін на адзін.

Падпалкоўнік крутнуўся на адной назе, звыклым рухам паправіў кіцель, стукнуў абцасамі наглянцаваных хромавых ботаў.

— Таварыш малодшы лейтэнант! Да мяне!

Я наблізіўся, але крок не чаканіў, перавальваючыся, падышоў, усё яшчэ злосна думаючы:

«Буду я перад табой выцягвацца, скакун! Што ты мне зробіш? Праз пяць мінут твой літарны павязе цябе немаведама куды».

— Малодшы лейтэнант! Як ходзіце? Як ходзіце? Як карова на лёдзе! Станьце як мае быць! — галасіста крыкнуў: — Рэмень падцягніце! Распусціў пуза, як цяжарная баба! А язык... язык як распусціў. Афіцэр пераможнай арміі! У Еўропе знаходзішся, азіят!

Зняважаў перад дзяўчатамі. Але спалохала іншае: пабудзіць нашых і будзе да адыходу эшалона «таптаць». Такія бязвусыя палкоўнікі любяць гэта рабіць. Не, у яго былі вусікі, малыя, рыжанькія, што ў гімназіста з чэхаўскіх апавяданняў. Але было ў яго іншае — што, калі я ўгледзеў, прымусіла мяне падцягнуцца: на кіцелі яго над ордэнскімі планкамі зіхацела Зорка Героя. Не, хлопец гэты не скакун і не з тых тылавых штабістаў, што нават на вакзалах прыдзірліва спыняюць кожнага малодшага за сябе па званню.

— Вось так! Такі бравы афіцэр і такі бескультурны! З якога вучылішча? — і да дзяўчат: — Многа ў вас такіх?

Ванда, бачыў, была гатова пырскнуць смехам, ажно рот прыкрыла каўняром шыняля. А Ліка глядзела надзвычай сур'ёзна і, бадай, спачувала мне, разумела, як многа я перажыў з-за іх.

— Далажыце камандзіру сваёй часці... Камандзір танкавай брыгады палкоўнік Сівашапка за нецэнзурныя словы пры дамах арыштоўвае вас на пяць сутак. Паўтарыце.

— Есць — пяць сутак, таварыш палкоўнік!

— І зарубіце на носе, малодшы...

— Ёсць — зарубіць на носе! — бадай, весела адказаў я, бо зноў цёплай хваляй абдала радасць ад звароту дзяўчат і з'явілася ўнутраная ўсмешка ад прозвішча камандзіра брыгады («Як у «Вяселлі ў Малінаўцы»,— хоць ведаў, што Сівашапкі там няма) і ад таго, што ён сам павысіў у званні («Любуецца сабой, палкоўнічак!»), і ад таго, што Ванда і Ліка — дамы («Ох, даліся мне гэтыя дамы!»).

— Таварыш палкоўнік! Не карайце яго. Гэта — мой жаніх,— бадай, без ігры, без блазнавання, сур'ёзна папрасіла Ванда.

— Ваш жаніх,— здзівіўся і, здалося, расчараваўся Сівашапка.— У вас такі некультурны жаніх, Ванда?

— Павел харошы,— сказала Ліка.

— Дык гэта ён? Ну, шчаслівчык, малодшы!.. Яны мне пра вас вушы прагудзелі,— уздыхнуў.— Шкада мне развітвацца з вамі. Але мушу перадаць такі скарб у рукі вашага Кузьміча.

— Кузаева.

— Кузаева дык Кузаева. Гэтаму не давяраю. Зноў не ўсцеражэ. Бя-гом — за мной! Час не чакае! Берлін чакае!

І сапраўды, як блазнюк, пабег да нашага штабнога вагона, сігаючы цераз чатыры шпалы. І дзяўчаты пабеглі за ім. Але перад тым Ванда азірнулася і паказала мне язык.

Ашаломлены, я стаяў па стойцы «смірна». Але праз міг апанавала новая злосць, скіраваная на іншага чалавека — на Зубрава. Я, камсорг, шчыра пашкадаваў, што знаходжуся ў 1945, а не ў 1813, калі рускія ішлі на Парыж.

Пасля мне расказала Антаніна Фёдараўна:

— Добра я прабрала таго гусара. Паслухайце, што надумаў залаты герой. Кажа майму Кузаеву: «Аддайце, маёр, мне гэтых дзяўчат — я вас азалачу, у мяне вагон трафейнага дабра». Убачыў, што маёр жонку вязе... Вы ўявіць сабе не можаце, Павел, як гэта абурыла мяне. Падумайце толькі: які прыгоннік выявіўся! За анучы хоча людзей купіць! Казак. Вольны чалавек! Але разгуляўся, лічыць, што ўсё яму дазволена. Ох выдала яму, ох выдала! Вы пачулі б. Мой Дзмітрый Васільевіч ажно спалохаўся, ушчуваць мяне пачаў: маўляў, госць пажартаваў. А госць выскачыў з купэ, што вараны рак. Дайшло, відаць, да яго ўсё ж...

Я зларадна пасміхаўся: так табе і трэба, хоць ты і герой! А пасля і самому сорамна зрабілася: таксама прыватнік, турак, не адну якую шкада аддаць, а дзвюх гатовы сабе прысвоіць. Адной ручкі будзеш гладзіць? З другой— язык мянташыць? Так? Ай ды Павел!

4

Надвячоркам таго ж дня пад'ехалі да даўно вядомага месца дыслакацыі. Лічылі, што сiганулі, як ні ў адзін дарожны дзень — за суткі ад Варшавы да Познані. Ці не змянілі нам літар? Ва ўсялякім разе, радаваліся такой хуткасці. Ішлі бадай жа без супынак; са спазненнем, пад вечар — здаецца, у Вжэсці — удалося накарміць людзей абедам.

На хаду па цяплушках не пагуляеш. А мне карцела пабачыць «дэзерцірак». Праўда, сорамна было перад імі — за лаянку. І боязна: ці хопіць у Ванды тактоўнасці змаўчаць пры дзяўчатах і не выгаварыць мне за брыдкае слова? Уласна, толькі гэтае слова мяне і турбавала, агульная лаянка — яна як бы абстрактная. А гэта — як сарвалася? Няхай лічаць — ад радасці. Так і скажу. За тое, што я, як ніхто, верыў у іх зварот, можна дараваць любыя словы. Падумаеш — слова! Не верабей? І верабей. Якія словы не чулі армейскія дзяўчаты. А ўвогуле хацелася пайсці і пацалаваць іх сімпатычныя мордачкі. І пацалаваў бы першую Ліку. Пры ўсіх. На злосць Вандзе — з-за яе паражыў гэтулькі хваляванняў. Ад уяўлення пра Лікіны вусны ажно салодкая цеплыня разлілася ў грудзях.

Але да дзяўчат не дабрацца. А ў праходзе афіцэрскага вагона маячаць перада мной Тужнікаў і Зубраў. Усе ж цэлы дзень стаяць каля вокнаў, глядзяць на чужую зямлю, на захад ад Варшавы ўцалелую,— так імкліва наступаў Жукаў.

На Тужнікава ў мяне асаблівай злосці няма. Ён заставаўся верны сабе, каламуту ў душы маёй ад допыту асадзіў дзіўным чынам:

— Усё роўна я ім уляплю на ўсю катушку. Ды і табе, думаю, варта мерачку аўса адсыпаць. Не лаві варон.

Сказаў — і як паразумеліся. Начальнік ёсць начальнік, яго не выбіраюць, прымай такога — які ёсць.

Кіпеў я ад выгляду Зубрава. Ён — хоць бы слова: тлумачэнне, жарт, развагу... Быццам нічога не здарылася і не было ніякай размовы. І нічога яго не цікавіць. А мне хацелася сказаць яму пару ласкавых слоў. Ды забараніў Калбенка. Раніцою, калі яшчэ стаялі на той станцыі, я сказаў яму:

— Мне хочацца сябручка майго выкінуць з вагона.

Канстанцін Панасавіч устрывожыўся, загадаў з бацькоўскай строгасцю:

— Не дурэй, Павел! І — ніякіх тлумачэнняў. Усё забыта! Самае разумнае — забываць такія падазрэнні.

Але асабліва супакоілі Антаніна Фёдараўна і Марыя Аляксееўна. Паклікалі ў купэ камандзіра, доўга трымалі. Расказалі пра казака Сівашапку, як ён дзяўчат таргаваў,— спачатку з абурэннем, пасля, бадай, з гумарам. Мураўёва нават неяк вельмі ж па-мацярынску пашкадавала яго:

— Цяжка будзе пасля вайны такім гарачым галовам. Куды яны скіруюць сваю бязмерную адвагу? Без прафесіі...

— Такога героя ў ваенную акадэмію пашлюць. Там яго адшліфуюць.

Жонкі радасна ўзбуджаныя: кончыліся страхі наконт таго, што на мяжы эшалон правяраюць і іх высадзяць. Здзіўляла мяне Марыя Аляксееўна: вязе дзяцей да фронту — і спакойная, бадай, узрадаваная. Неяк яшчэ раней яна сказала:

«Страх? Самае страшнае, калі дзеці галадаюць».

Пэўна, мая доўгая размова з жонкамі камандзіра і начальніка штаба астудзіла жаданне Тужнікава і мне «мерачку аўса адсыпаць» — за кампанію з дзяўчатамі. Ліку ён адаслаў на кухню бульбу абіраць, а кухні — на адкрытых пляцоўках, на ветры; і мне шкада было яе ручак — пасівераюць; не цураючыся ніякай працы, яна здолела, як ніхто з дзяўчат, зберагчы рукі, мяккія яны, што поўсць жывога трусіка, так і хочацца пагладзіць. Вандзе, афіцэру, нампаліт, відаць, узгадняў пакаранне з Кузаевым. І — здагадваўся я — напэўна, Антаніна Фёдараўна спытала: «А завошта?» А муж, безумоўна, услед за жонкай паўтарыў «завошта?» і, як кажуць у наш час, закрыў пытанне.

Эшалон не дацягнуў да Познані-таварнай кіламетры чатыры. Спыніўся на прыгараднай станцыі, на тым вядомым узвышшы, з якога горад — як на далоні.

Можа, як нідзе за ўсю дарогу, адразу ўвесь асабовы састаў батарэй, рот, служб высыпаў з вагонаў, акрамя хіба каравульных. Як па камандзе пабеглі за станцыйныя будынкі, за тапаліныя прысады ля блізкай шашы, што засланялі краявід, на гразкае поле, адкуль сапраўды-такі адкрывалася панарама горада. Выглянула вячэрняе сонца. Агніста гарэлі крыжы многіх касцёлаў. Але не на горад глядзелі нашы людзі — правей... На цытадэль. Ведалі: там яшчэ нямецкі гарнізон. Маршал Жукаў не стаў траціць сілы на яго знішчэнне. Савецкія арміі, часці Войска Польскага ўзялі горад і рушылі далей.

Я разумеў сваіх. У мяне самога ажно кроў ударыла ў скроні — да болю, да звону ў вушах. Дагналі. Фронт дагналі! Ніколі мы не былі так блізка ад гітлераўцаў, калі не лічыць лётчыкаў. Але яны — у небе, збітыя ж на зямлю апускаліся на парашутах і, як правіла, здаваліся без супраціўлення, адзін за ўсю вайну адстрэльваўся, апошнюю кулю пусціў сабе ў галаву, але прастрэліў толькі вуха; нашы смяяліся з яго, а ён санліва плакаў. Самы масавы адначасовы налёт на Мурманск — 80 «юнкерсаў» і «хейнкеляў», над нашымі галовамі кружыла дзве з палавінай сотні фашыстаў. А ў цытадэлі — атрымалі мы афіцыйную інфармацыю ў Варшаве — не менш як семсот. Безумоўна, гэта не фронт. Фронт вунь дзе — на Одэры. Аднак жа не здаюцца, сволачы, спадзяюцца на нешта. На славу, падобную славе абаронцаў Брэсцкай крэпасці? Не, не будзе вам ніякай славы — толькі ганьба і праклён усіх народаў! І вашага, нямецкага, народа. А слава Брэста, як і слава

Масквы, Сталінграда, Кіева, Мурманска будзе жыць вечна! Так я думаў, разглядаючы Пазнанскую цытадэль у бінокль і без бінокля — валы, фарты, вежы, голыя прысады старых ліп і тапаляў унутры прасторнай плошчы фартыфікацыйнага збудавання, якое ўзводзілася не адно стагоддзе. Гаварыў не я адзін. Усе гаварылі. У такія моманты ўсе становяцца вялікімі гісторыкамі і вялікімі стратэгамі. Але пра Брэсцкую крэпасць, пэўна, я сказаў, бо Тужнікаў падхапіў, тут жа на полі сабраў палітработнікаў і загадаў, калі ўвечары не будзе разгрузкі, правесці з байцамі гутаркі аб славутай абароне, аб якой ужо да таго часу што-нішто напісалі. Гэтае што-нішто ведаў я, і ў мой абавязак уваходзіла правесці інструктаж.

— Асабліва падкрэсліць аб істотнай розніцы паміж гераізмам чырвонаармейцаў, камандзіраў, якія ішлі на смерць за Савецкую Радзіму, і бяссэнсавым фанатычным супраціўленнем асуджаных, якіх маньяк Гітлер, як паленне ў топку, кідае без мэты, без ідэі. Я паміраю і вас цягну ў магілу — во прынцып чалавеканенавісніка.

Тужнікаў хараша гаварыў там, на полі, залітым жывым золатам сонца, што як бы нехаця, з болем і страхам, апускалася на зямлю недзе там, на захадзе, дзе яшчэ рэкамі лілася чырвань крыві.

Гутаркі не атрымаліся, бо камандзіры рыхтавалі матэрыяльную частку да разгрузкі. Застарэлы канфлікт: у камандзіраў — свая задача, у нас, палітработнікаў, якія павінны забяспечыць найлепшае выкананне баявой задачы,— нібыта свая, аўтаномная, для нас заўсёды не хапала часу або гутаркі, інфармацыі перапыняліся на паўслове. Някрыўдна, калі трывогай, боем, а то нярэдка праявай начальніцкага сваявольства якога-небудзь Унярхі. Ды і сябар мой Данілаў нярэдка зрываў мае гутаркі адсылкай людзей на тэрміновыя работы. І не прыдзярэшся: а што на вайне не тэрміновае?

Але разгрузкі не было. Познань-Цэнтральная не прымала. А міма без супынку праносіліся эшалоны. Сам Кузаеў не мог высветліць прычыны, чаму нас трымаюць на гэтым паўстанку, тут не было нават ваеннага каменданта. За дарогу мы нярэдка скланялі нашых чыгуначнікаў. У той вечар хапіла і польскім. Людзі, асабліва афіцэры, былі ўзбуджаныя, неяк дзіўна, уперамешку, і радасныя і злосныя. Культурны армянін Качаран накрычаў на мяне, каб я не блытаўся пад нагамі. А пасля па-сяброўску прасіў, каб я не дакладваў Тужнікаву. Камандзір батарэі МЗА, якая і ў Кандалакшы і ў Петразаводску стаяла на аддаленых аб'ектах, не ведаў, што я на ніводнага камандзіра ніколі не паскардзіўся, ні на кога не капнуў.

Схавалася сонца — і неяк адразу сцямнела. І як сцямнела! Глухая ноч. Зрэдку ў раёне цытадэлі ўсчыналася страляніна. Ці не

выбіраўся нехта з разумных немцаў, каб здацца ў палон ці, калі ўдасца, дэзерціраваць?

Зусім па-мірнаму на блізкай вялікай... вельмі вялікай станцыі свісталі паравозы, стукалі буферы вагонаў, якія счаплялі. І да крыўднага прывабна, заманліва свяціліся вочы семафораў, не толькі чырвоныя, але і зялёныя. Як заклікалі. Але не нас...

Кіраваць на такой станцыі ў цемры, пры захаванні святломаскіроўкі, сотнямі людзей — задача надзвычай складаная. Заглянуў у дзявочую цяплушку трэцяй батарэі — а там і палавіны няма; засталіся самыя ціхія, дысцыплінаваныя.

— А астатнія дзе?

Паціскаюць плячамі, апускаюць вочы. Устрывожыўся. Чаго добрага, уявяць сябе франтавікамі, пераможцамі — і разгуляецца стыхія, сігналам трывогі не збярэш.

І яна-такі разгулялася. На шчасце, не дзявочая. Мужчынская. У вагонах з'явіўся спірт. Адкуль? Во салдацкая кемлівасць! Спрытнюгі! Асаблівай бядой і Кузаеў і Мураўёў, ды і мы з Калбенкам, лічылі тое, што некаторыя афіцэры не ўтрымаліся ад спакусы — пакаштавалі гэтай праклятай трафейнай гары.

Камандзір тут жа арыштаваў дзяжурнага па эшалону лейтэнанта Пыльскага і пасадзіў на салдацкую гаўптвахту — сцерагчы анучы. Дзяжурным назначыў мяне. Я ажно разгубіўся — самы малодшы па званню. Як гэта зразумець? Давер? Пакаранне? Нішто сабе ўзнагарода: мець уладу над эшалонам у такой сітуацыі, калі свае разгуляліся, а побач — фашысты і, напэўна, не толькі ў цытадэлі, могуць блукаць навокал, хавацца ў сваіх — Пазнаншчыну ж насялілі немцамі, бо адарвалі яе ад Польшчы, уключылі ў рэйх. Пры імклівым наступленні нашых войск немцы, безумоўна, не паспелі эвакуіравацца.

Сам-насам разважай колькі хочаш. Але камандзіру не скажаш: «А чаму я?»

— Слухаюся, таварыш маёр!

І — выконвай.

Выконваў з пачуццём надзвычайнай адказнасці: няспынна хадзіў уздоўж даўжэзнага эшалона. На хвіліначку заглянуў у цяплушку, прызначаную для каравула, апрануў кажух — моцна пахаладала, марозіла, як бы вярталася зіма, паўночны вецер прабіваў шынель і кіцель наскрозь. Як ніколі, ніводзін начальнік каравула, хоць начальнік быў апрача мяне, дзяжурнага, правяраў пільнасць кожнага вартавога, зняў дваіх: адзін сядзеў пад вагонам, другая заснула, абапёршыся на вінтоўку. Сур'ёзная правінка, за сон на пасту аддавалі пад суд. Але не стану ж караць гэтую нябогу. Вырашыў увогуле дзяўчат

зняць з каравула. Пачуў, як у адной цяплушцы абурыліся байцы-мужчыны:

— Гэтаму бабскаму ўгодніку толькі дай уладу, дык ён сваіх лялек вызваліць ад усіх дзяжурстваў.

Непакоіла вельмі парушэнне святломаскіроўкі: дзверы ў цяплушках адчыняліся штохвілінна, выпускаючы яркае святло — ад «лятучых мышэй» яркае. Такім яно здавалася, бо навокал цемра ажно сляпіла, ніводнага агеньчыка ні ў блізкім горадзе, ні ў бяскрайнім полі. Толькі семафоры ды рэдкія ўспышкі стрэлаў ля цытадэлі. Як змагацца з парушэннем святломаскіроўкі?

— Таварыш баец! Вы куды?

— А я — у поле.

Не забаронена. А калі ў чалавека патрэба? Але чаму ледзь не ва ўсіх гэтая патрэба? Усё роўна як зноў напаў панос. Дзяўчаты хоць бегалі чародкамі, а мужчыны па адным. Ці не стаяць у іх там, за градой калючых акацый, каністры са спіртам? Але ж не ўнізішся да таго, каб нюхаць такога бегуна.

Дасталося дзяжурства! За ўсю вайну не меў такога. Стаяў на саракаградусным марозе каля артсклада, але, здаецца, такой адказнасці не адчуваў: часам ажно страх апаноўваў. Узнікалі самыя нечаканыя пытанні. Святломаскіроўка — абавязковая. А як з гукамаскіроўкай? Трэба яна тут? У нас яе нідзе не было. А тут у коланым жылым вагоне спяваюць. І хлопцы. Якія хлопцы? Дзяды. І дзяўчаты. Расспяваліся, як ластаўкі перад навальніцай.

На колькі часу паставіў мяне Кузаеў? Дзяжурныя па эшалону афіцэры назначаліся на паўсутак, але там, на сваёй зямлі, асабліва на хаду поезда, яны бестурботна спалі ў любой цяплушцы, далей ад штабной. А тут... Няўжо на ўсю ноч гэткая нечалавечая напружанасць?

Аднак сапраўды вяртаецца зіма. А хіба дзіўна? На — двары люты. Заўтра — дзень Чырвонай Арміі. Начальнік мой часта праяўляе непатрэбную актыўнасць. А ў гэты раз не падумаў, што заўтра разгрузка, і было б вельмі дарэчы зараз, увечары, правесці гутаркі ў цяплушках, другога часу не будзе. Але не мог жа я падказаць гэта, тым больш пасля таго, як камандзір прызначыў мяне дзяжурным: падумалі б, што адвучваюся. Тужнікава немагчыма зразумець: пазаўчарашні факт п'янкі, у Празе,— ох як узрушыў яго! А сёння ён дзіўна спакойны.

«Ці не прыкладўся сам?» — з гумарам падумаў я, хаваючыся ад ветру за станцыйны будынак. І добры кажух не вельмі грэў. Ногі

мерзлі. А валёнкі не абуеш: падмарозіла, але крохкі лядок лёгка ламаўся.

Цяжка засынаў эшалон. Калі трохі ўтаймаваліся, перасталі выкідаць з цяплушак снапы святла, я дазволіў сабе пагрэцца ў дзяжурнага па станцыі — у кампаніі старога, маўклівага, надзвычай засяроджанага чыгуначніка-паляка. Паглядзеў, як ён працуе, і суцешыўся, што яго дзяжурства не менш трывожнае, чым маё.

У акно ўдарыла святло фар. Ад шашы да станцыі ішла машына з уключанымі фарамі. Што рабіць з чужым даволі злосным парушальнікам святломаскіроўкі?

Выскачыў да эшалона, прыхапіў вартавога і з ім — на прыстанцыйны пляц. Там ужо стаяла трафейная чорная легкавушка — «опель-капітан», як даведаўся пазней.

«А раптам немцы?» — ударыла думка, і я, асветлены фарамі, пераклаў пісталет з кабуры ў кішэню кажуха.

Першым з машыны вылез высокі чалавек у казацкай бурцы, за ім з задняга сядзення — маленькі вяртлявы аўтаматчык, потым — два палкоўнікі. Нашы! Але што трэба рабіць пры з'яўленні сярод ночы на станцыі генерала? Безумоўна, я казырнуў.

Той, што ў бурцы, строга спытаў:

— Чаму не дакладваеце?

— Таварыш генерал! Дзяжурны па эшалону нумар...

— Адкуль знаеш, што генерал?

— Інтуіцыя, таварыш генерал.

— Ты глядзі, які майстар на інтуіцыю,— засмяяўся палкоўнік.

— Хто па пасадзе?

— Камсорг дывізіёна.

— У такім разе зразумела твая інтуіцыя. Камсоргу яна патрэбна. Эшалон семдзесят трэцяга зенітнага?

Я замоўк. Нумар часці — тайна, хоць гэта мне здавалася наіўным: і ў Мурманску, і ў Петразаводску, бадай, кожны дапытлівы хлапчук знаў, што горад абараняе асобны семдзесят трэці дывізіён.

Генерал пасміхнуўся з таго, што я не выдаю нумара нават яму, кінуў сваім:

— Добры палітработнік.

Аўтаматчык засмяяўся.

— Вучыся маўчанню, Рэваз. А то ў мяне галава пухне ад тваіх стратэгічных планаў. Але каб ты давяраў іх аднаму мне — паўбяды...

— Ужо навучыўся, таварыш маршал,— весела адказаў аўтаматчык, пры гэтым адзін палкоўнік засмяяўся, другі строга нахмурыўся. «Маршал? Няўжо Жукаў?» — я ледзь не самлеў ад страху і... ад ра-

дасці, во пашанцавала! Ступіў да яго, каб добра ўгледзецца ў твар, запомніць... А я ўяўляў яго ніжэйшым ростам. А ён — вунь які! Але шафёр... патушыў фары. Зноў асляпіла цемра. Пасля яркага святла не адразу і зоркі ўгледзеў — халодныя і буйныя.

— Дзе камандзір дывізіёна?

— У штабным вагоне, таварыш...— не хапіла духу вымавіць маршал.— Я правяду вас...

— Паклічце яго сюды! — голас набыў катэгарычную строгасць чалавека, які прывык загадваць.

— Слухаюся!

Я так грукаў ботамі ў праходзе вагона, што, напэўна, пабудзіў усіх сваіх калег. Без стуку ўварваўся ў купэ камандзіра, які ўжо соладка спаў, тузануў за нагу.

— Таварыш маёр! Таварыш маёр! Жукаў!

Кузаеў, звыклы да трывог, уміг падскочыў.

— Што з ім? — у нас быў свой Жукаў, старшына кулямётнай роты.

— Маршал Жукаў!..

— Што — маршал Жукаў?

— Кліча вас.

— Куды?

— Ён тут, на станцыі.

— Ты што, ашалеў ці напіўся?

— Клянуся.

— Тоня! Запалкі! Дзе запалкі?

Падхапілася Антаніна Фёдараўна, запаліла ліхтар, падавала мужу штаны, анучы, забыўшыся, што ў адной сарочцы. Я пахаладзеў ад думкі: добранькую паслугу зрабіў бы свайму камандзіру, каб прывёў у гэтае соннае царства, у сямейнае купэ камандуючага фронтам. Маршал не спіць, а афіцэры-зенітчыкі дрыхнуць, ды яшчэ з жонкамі. У Кузаева трэсліся рукі, і ён ніяк не мог нацягнуць боты.

— Тоня! Партупея! Дзе партупея?

Я выйшаў у калідор. Вагон заварушыўся. Афіцэры адзяваліся, як бы сцяміўшы, што вось-вось прагучыць баявая трывога.

— Што там, Шыянок?

— Камандзіра — на провад.

— Значыцца, паедзем.

— Хутчэй бы.

— Лепш у палатцы, чым у гэтым прапахлым анучамі вагоне.

— Не гняві бога.

Пры моцным хваляванні так перахоплівае дыханне, што не адразу можаш вымавіць словы. Колькі мы там прабеглі ад вагона да станцыі — сотню метраў, а залы халіся, як старыя.

Выскачылі на пляц да машыны. Але маршал і людзі, што суправаджалі яго, чакалі нас у пасажырскай зале, пустой і халоднай. Палкоўнікі свяцілі электрычнымі ліхтарыкамі.

Асіплым голасам, задыхаючыся, Кузаеў далажыў:

— Таварыш маршал! Камандзір... семдзесят... трэцяга АЗАД[1] маёр Кузаеў па вашаму загаду...

— У вас што, маёр, грудная жаба?

— Ніяк не.

— Доўга збіраецеся. У споднiках спіце? Ці пэпэжэ завёў?

— Не паложана, таварыш маршал. Уласную жонку маю.

Вясёлы палкоўнік і аўтаматчык засмяяліся. У другога палкоўніка перасмыкнуўся твар. А мне хацелася тузануць свайго камандзіра за крысо кіцеля: не зрабі глупства, не прагаварыся, што жонка тут, з табою. Мне шкада стала Кузаева: заўсёды такі ўпэўнены, а тут правае калена яго дзіўна матлялася, добра, што на нагі не свяцілі, і сам ён як бы хістаўся назад — наперад. Ці. мне здалося?

— Вам баявая задача, маёр...

І — о дзівосы! — Кузаеў упэўнена казырнуў і зусім іншым голасам сказаў:

— Прашу прабачыць. Але я павінен мець дакументальнае пацвярджэнне вашага звання і пасады.

— Правільна, маёр.

«Ай ды малайчына! — падумаў я.— Угледзеў, што не падобны ён на Жукава».

Прыгледзеўшыся, і я моцна засумняваўся.

Чалавек засунуў руку пад бурку, павольна расшпільваў кішэню кіцеля. Я насцярожана сачыў за кожным рухам, не яго — аўтаматчыка. А тут яшчэ строгі палкоўнік сказаў:

— Вы, камсорг, можаце ісці.

Я адступіў да дзвярэй, але не выйшаў, сціснуў у кішэні рукаятку пісталета. Смешна, безумоўна, было лічыць гэтых людзей пераапранутымі дыверсантамі. Што яны могуць зрабіць? Забіць камандзіра? Мяне? Але каля эшалона добры дзесятак вартавых. Адзіны стрэл — і трывога. Аднак вайна прывучыла да пільнасці.

---

[1] Асобны зенітна-артылерыйскі дывізіён.

Высокі працягнуў Кузаеву чырвоную кніжачку, палкоўнік пасвяціў ліхтарыкам.

Мой камандзір глянуў у пасведчанне і шчоўкнуў абцасамі, пачціва выцягнуўся.

— Прашу прабачыць, таварыш маршал.

Адлягло на сэрцы: усё-такі маршал! Які? Не падобны ж на Жукава. У мяне выдатная памяць на друкаваны тэкст і на партрэты.

За сцяной зазваніў тэлефон, закрычаў у трубку дзяжурны на чужой мове.

Маршал прыслухаўся, сказаў Кузаеву:

— Выйдзем з памяшкання.

Пайсці за імі пасля загаду палкоўніка я не адважыўся.

Камандзір вярнуўся праз колькі мінут. Сказаў мне з папрокам і крыўдай, успомніў, напэўна, свой вагонны спалох:

— Панікёр ты, Шыянок. Жукаў, Жукаў...

— А хто? Вы ж самі сказалі «таварыш маршал», калі паглядзелі дакумент.

— Маршал, ды не той. Маршал артылерыі Воранаў. Трубі трывогу.

— Зараз?

— Гэтую ж секунду.

— Навошта? Ноч — вока выкалі.

— Будзем разгружацца.

— Тут?

— Тут. Задачка, брат, я табе скажу,— разгрузка без платформы. Зрабіў я глупства; трэба было вагон са шпаламі і дошкамі чапляць да асноўнага эшалона...

Практычны Кузаеў вёз шпалы і ў гэтым эшалоне. Але мала. Больш у другім эшалоне, які недзе ішоў за намі (пасля высветлілася, што ён на чатыры дні раней прыбыў у Познань, зрабіўшы добры круг — на Оршу, Магілёў, Калінкавічы, Брэст); у гаспадарчым эшалоне везлі тую маёмасць, без якой можна абысціся колькі дзён баявых дзеянняў — артмайстэрню, НЗ боезапасу, пражэктары, аўтамабілі, будаматэрыял і людзей, без якіх таксама можна было абысціся нядоўгі час.

— А што ўсё ж здарылася, таварыш маёр?

— Збяру афіцэраў — скажу. Падымай людзей!

Кінуўся ад вартавога да вартавога.

— Тры-во-га!

Звыклае слова тут, на чужой зямлі, побач з ворагам, у глухую ноч, калі людзі спяць у вагонах, а асноўная зброя наша ў паходным стане пад чахламі на чыгуначных платформах, прагучала неяк зла-

весна, страшна. Бег я ўздоўж эшалона, і сэрца маё грукала гэтак жа, як у першы дзень вайны, пры першым налёце, і гэтак жа ліхаманіла. Ці не пачалося нямецкае контрнаступленне? Ці не прарвалі нашы пазіцыі? Сам маршал ездзіць сярод ночы. На вайне чаго ні бывае! Учыніла ж два месяцы назад гітлераўскае камандаванне разгром у Ардэнах свежанькіх дывізій саюзнікаў. Каб не наша наступленне, ім маглі наладзіць другі Дзюнкерк.

Яшчэ больш спалохаліся тыя, хто бестурботна спаў. Людзі як катапульціраваліся з цяплушак на прымёрзлы чыгуначны гравій — напранутыя, босыя, з чужымі ботамі ў руках, але з вінтоўкамі, аўтаматамі. Зброю ніхто не забыўся — у каго яна была; дзяўчаты не ўсе мелі асабістую зброю.

— Што здарылася?

— Дзе вораг?

— У каго страляць?

— З чаго?

— Займаць кругавую абарону?

— Вакол станцыі?

Кузаеў паспяшаўся, трэба было першымі падняць афіцэраў. А так недалёка было да панікі, бо толькі разлікі МЗА зналі свае месца — на платформы да гармат!

Я самастойна ўзяў на сябе ініцыятыву: бег з канца эшалона і што ёсць сілы крычаў:

— Усім заставацца каля сваіх вагонаў! Заставацца каля сваіх вагонаў!

Урэшце пачуў у цемры звонкі голас Данілава:

— Першая батарэя! Пастроіцца каля штабнога вагона!

— Трэцяя батарэя! — Саўчанка сарваў голас, і каманду скончыў яго нампаліт Гаркуша.

— Другая батарэя! Пастроіцца...

Адлягло: пастроіцца — значыцца, не гарыць, не ў атаку.

Кузаеў ішоў уздоўж строю, асвятляючы яго ліхтарыкам.

— Конюхаў! — у камандзіра дывізіёна была гэткая ж добрая памяць на прозвішчы, як і ў мяне,— усіх ведаў: — Што ты натаптаў за пазуху? У дзяўчыны пазычыў?

— Анучы, таварыш маёр.

Смех.

— Малчаноў! А бот... бот твой дзе?

— Хтось схапіў, таварыш маёр.

— Хто абуў тры боты? Прызнавайцеся!

Рогат.

— Ну і разгільдзяі! Ну і разгільдзяі! Пэўна, лыгнулі, чэрці, спірту? Вы паглядзіце на дзяўчат. Адзетыя — як на парад! Куцэнка! Шынель дзе? Хто яшчэ з адным ботам? Хто без шыняля? Без шапкі? Выйсці са строю! Абуцца і адзецца як мае быць! Камандзіры падраздзяленняў! Кожнаму з гэтых разгільдзяяў — па два нарады... Няхай будзе што ўспомніць і расказаць унукам.

Зусім адлягло: залішне вясёлы камандзір, не нервова — спакойна вясёлы. Значыцца, ніякіх «ардэн» няма.

— Баявая задача нумар адзін. Без шуму, без «Ану-ка, узялі!» разгрузіць гарматы, снарады, трактары. Шпал мала, дошак мала... Малодшы лейтэнант Жмур! Распытайце ў чыгуначнікаў, ці не ляжаць дзе-небудзь шпалы. Камандзіры батарэй і паркавага ўзвода! Праявіце ініцыятыву і кемлівасць. Усе праяўляйце ініцыятыву! Жаночы састаў выгружае боепрыпасы. Згатаваць гарачае снеданне да шасці нуль-нуль.

— Працаваць у поўнай цемры? — спытаў камандзір трэцяй Саўчанка.

— Шкада, пражэктары ў другім эшалоне, а то я табе даў бы святла,— іранізаваў Кузаеў.

— Пражэктары, канешне, жарт, я разумею. Але асвятленне ўстаноўшчыкаў трубкі трэба выкарыстаць, таварыш маёр,— заклапочана і ціха, каб не ўсе чулі, сказаў Мураўёў.— Можа, і «лятучыя мышы»... А то не было б траўм...

— З цытадэлі гакнуць па тваёй «мышы» з крапасных — будуць не такія траўмы,— але, прайшоўшы ўздоўж строю, падумаў, разважліва заключыў: — Асвятленне выкарыстаць, але з захаваннем маскіроўкі. На адказнасць камандзіраў. Таварышы камандзіры! Разводзьце людзей!

Шпал і дошак хапала толькі на збудаванне памоста да адной платформы, а платформ дванаццаць: цяжкія васьмідзесяціпяткі стаяць у паходным па дзве, а малыя МЗА па адной на платформе, бо знаходзяцца ў баявым становішчы — з боезапасам, з разлікамі.

Камандзіры батарэй цягнулі жарабок — хто першы забірае шпалы і дошкі. Выпала Данілаву.

— Шчаслівы цыган.

Але хіба маглі іншыя чакаць, пакуль памост можна перакінуць да другой платформы? Работа гэта нялёгкая — платформы з асноўнай зброяй у розных месцах састава: мы, тылавыя, строга трымаліся правіл перавозкі; у дарозе пераканаліся, што мала хто іх, правілы, захоўвае. Ды і як захаваць, калі часта ішлі эшалоны з аднымі танкамі, гарматамі, у такіх саставах крытых вагонаў было адзінкі.

Хутка я зразумеў хітрасць камандзіра, які не падказаў выйсце — як разгрузіцца хутчэй, але даў права на ініцыятыву. Права гэтае тут жа выкарысталі. Воддаль у цемры зазвінелі пілы і са знаёмымі мне, лесарубу, з маленства тупымі ўдарамі пачалі падаць на мёрзлую зямлю дрэвы. Прыгожыя пірамідальныя тапалі, што стаяць паабапал шашы. Я любаваўся імі, калі заходзіла сонца.

Знайшоў Кузаева каля платформы, з якой асцярожна скочвалі першую гармату, дзе ён сам нягучна камандаваў:

— Ану-ка, хлопцы, узя-а-лі!

— Таварыш маёр! Вы чулі?

— Не, не чуў.

— Не чулі, як падаюць дрэвы?

Кузаеў нечакана ўзлаваўся:

— Пайшоў ты, Шыянок, знаеш куды... За тапалі. Таполяў яму чужых шкада! Хочаш дайсці да Берліна і не запэцкаць ручкі? Ваш з Мураўёвым слінявы гуманізм сядзіць у мяне ў пячонках. Не бачылі вы вайны! Не бачылі! Полацк бачыў? Варшаву бачыў? Магілы бачыў? А ты — тапалі! Знайшоўся прыродаахоўны!

Крыўдныя не словы кузаеўскія, крыўдна стала, што байцы, якія пачулі гэта, весела засмяяліся, яўна ўхваляючы дасціпнага камандзіра і тую праборку, якую ён даў «сліняваму гуманісту».

Яшчэ не развіднела, а ўсе пятнаццаць гармат (узвод МЗА недзе прыкрываў другі эшалон) стаялі за паўкіламетра ад станцыі, бліжэй да цытадэлі: на ўзгорку ў нязвыклай для зенітных батарэй пазіцыі — у адзін рад, без катлаванаў, гармата ад гарматы метраў за дваццаць. Ззаду за кожнай гарматай у выкапаных акопах — скрынкі са снарадамі.

Задачу нумар два Кузаеў паведаміў толькі афіцэрам, але да раніцы не ведалі яе хіба «штрафнікі», што сядзелі за выпіўкі на гаўптвахце. І ўсе былі надзвычай узбуджаныя. Ніхто не з'еў свой ранішні сняданак — не да кашы было.

Быў загад прыбарыстам, кулямётчыкам, байцам і камандзірам тылавых служб застацца ў эшалоне. Але засталіся, напэўна, каравульныя ды кулямётчыкі — яны прыкрывалі нас з паветра. Астатнія, парушыўшы загад, наблізіліся да пазіцыі батарэй — тоўпіліся ля падножжа ўзгорка пад дарожнымі прысадамі, да якіх не дабраліся нашы начныя парубшчыкі.

Калі развіднела, з цытадэлі, відаць, угледзелі нашы гарматы. Ударыла цяжкая крапасная гармата. Але снарад разарваўся ажно за станцыяй. Другі ледзьве не накрыў нашых «гледачоў». Артылерыйская «вілка»! Трэцяга стрэлу ці не адбылося, ці мы не пачулі яго. З

прыгарада ўзвілася ў неба ракета. Такая ж ракета ўзляцела за цытадэллю як адказ, што сігнал прыняты. І трэцяя — побач з намі. Мы нават не паспелі разгледзець, хто нашы суседзі, толькі ўначы чулі, што побач прайшлі танкі і самаходкі, пракакаталі і змоўклі.

Па сігналу трэцяй ракеты гарматы далі залп. Гэткія ж залпы — гук іх дайшоў праз секунду — прагучалі злева і справа ад нас. Успышкі стрэлаў бліснулі на ўсім паўкругу з таго, другога боку цытадэлі. Крэпасць уміг ахуталася дымам і пылам.

Больш я не чуў «чужых» стрэлаў. Пачаўся беглы агонь, без каманды — па ўменню і спрыту зараджаючых, устаноўшчыкаў трубак. Знаходзіўся я каля сваёй гарматы, на якой некалі быў першым нумарам. Падносілі з Калбенкам снарады. Але раптам убачыў, як Данілаў адхіліў другога нумара — асілка Гарнастая — і пачаў страляць сам. Рабіў гэта з вялікім спрытам, ажно падскокваў, хапаючы ручку спуску. Пры гарызантальным дуле хвалі стрэлаў узрывалі прасохлую ад начнога марозу зямлю, вырывалі з каранямі азімую пшаніцу.

Да другой гарматы Падскочыў Кузаеў і, таксама адхіліўшы зараджаючага, пачаў страляць сам. Камандзір быў без шыняля, без фуражкі.

Злавіўшы момант, калі Данілаў перадаў снарад Гарнастаю, каб скінуць шынель, я падскочыў да зараджаючага:

— Дай мне!

На гармаце я ўмеў рабіць за любы нумар. Але з маім ростам на трэніроўках па зямных цэлях мне нялёгка было дасылаць патрон. Зараджаючым пры баявым агні мне прыйшлося быць толькі аднойчы, у Афрыкандзе, калі раніла байца. А тут я быццам трохі падрос ці пад мяне падставілі спружыну, і яна падгадавала мяне, я лёгка зараджаў, умела ўхіляўся ад адкату.

Хтось схапіў мяне за плечы.

— Дай мне!

Ванда! Яна чаму тут? Пасля нямецкіх стрэлаў быў загад Кузаева ўсіх лішніх людзей укрыць за насыпам чыгункі.

— Дай! — крычала яна на вуха.

— Ты ўмееш?

Яна адпіхнула мяне і выхапіла снарад у пятага нумара.

Першы ж стрэл сарваў з Ванды пілотку, ускудлаціў валасы, яна спатыкнулася, я спалохаўся, ці не ўдарыла ў часе адкату. Не, Ванда даслала другі патрон. Стрэл... Стрэл... Безумоўна, дванаццаці стрэлаў у мінуту, як вопытная зараджаючая, яна не давала. Але ва ўсёй яе постаці была нейкая велічная і адначасова страшная апантанасць. У вобразе дзяўчыны лунаў вобраз помсты. Чорныя валасы яе разляталіся,

вочы гарэлі, калі яна паварочвалася да нас, каб узяць чарговы патрон. У нейкі міг яна рванула каўнер гімнасцёркі, адарвала гузікі. У паўзе паміж стрэламі то захоплена галёкала, то стагнала, як ад моцнага болю.

Узвіхраная глеба набівалася ў рот, у ноздры, у вушы. А ўся зямля, здавалася, гойдалася, як у часе землятрусу. Гарматы білі па ўсім многакіламетровым кальцы вакол цытадэлі. Ці адказвалі немцы? — разабраць было нельга: над цытадэллю стаяла чорнае воблака пылу і дыму. У неба скакалі доўгія языкі агню. Што рвалася? Снарады? Ёмкасці з гаручым?

Перада мной, аглушаным стрэламі, аслепленым пылам, з'явілася жанчына ў цывільным паліто з двума снарадамі пад пашкамі. Я нават не адразу сцяміў, хто гэта — як прывід. Антаніна Фёдараўна! І яна тут! Спалохаўся: калі хочаш, дзеці Мураўёва могуць прыбегчы. І Кузаеў, пэўна, спалохаўся, падскочыў, накінуўся на жонку:

— І ты тут? Табе хто дазволіў? Згінь з вачэй! Мураўёў! Мураўёў! Убраць усіх лішніх людзей! Знайшлі прадстаўленне, такую вашу...— і да Ванды: — Малодшы лейтэнант Жмур! Ванда!

Ванда не чула.

Кузаеў загадаў Данілаву:

— Адхіліце яе! У вас што — мужчын не хапае?

— Яна помсціць,— сказаў я.

— Мы ўсе помсцім.

Я скочыў да гарматы, схапіў Ванду за плечы.

— Хопіць! Яфрэйтар Гарнастай! Выконвайце свае абавязкі!

Але Ванда так крутнулася, што мы абодва паваліліся на зямлю. Яе ліхаманіла, яна біла мяне прапахлымі парахавым гарам кулакамі па спіне.

Кузаеў... Мудры Кузаеў строга загадаў:

— Малодшы лейтэнант Жмур! Перадайце начальніку артзабеспячэння: падвезці боезарады!

Снарады везлі — блізка грукатаў трактар, узбіраючыся на ўзгорак. Але загад адразу астудзіў дзяўчыну.

— Есць перадаць, каб падвезлі боепрыпасы! — абцягнула гімнасцёрку, ускінула руку да «пустой галавы», але ніхто з-за гэтага не пасміхнуўся. Паспрабавала зашпіліць гузікі, але іх не было. Засаромелася.

— Прабачце, таварыш маёр... Дазвольце ісці?

— Бя-гом! Антаніна! Бягом з пазіцыі!

А гарматы рвалі паветра. Уздзьмулася пухірамі фарба на дулах, дыміла. Распаленыя гарматы МЗА пачалі «пляваццa». Агонь з іх спынілі: снарады могуць не даставаць да цытадэлі.

— Чырвоная ракета! — паказаў Мураўёў. Яна пырхнула там жа, у прыгарадзе, дзе размяшчаўся камандны пункт. Яе прадубліравала ракета справа — каб усе ўбачылі. І адразу стала ціха, бухнулі дватры запозненыя стрэлы. Але даляцелі іншыя гукі: у Познані ўрачыста званілі званы. Многа званоў. Ашаламіў гэты нечаканы звон.

Жэня Ігнацьева, якая дзяжурыла каля тэлефоннага апарата, чуў, як яна прасіла Кузаева дазволіць ёй пабыць на пазіцыі, радасна закрычала з акопа:

— Гарнізон выкінуў белы сцяг!

Пайшло ад гарматы да гарматы:

— Гарнізон здаўся!

— Гарнізон выкінуў белы сцяг!

Назад, ад гармат МЗА, радасць вярнулася перарывістым «ура».

Акуратны Тужнікаў пагледзеў на гадзіннік.

— Дваццаць сем мінут агню!

Спазм сціснуў горла, і вочы набрынялі слязамі гневу і шчасця — можа, адзіны выпадак такога спалучэння. Я сціснуў кулакі.

«Даваяваліся, ашалелыя звяры! На дваццаць сем мінут хапіла вам мужнасці».

Першы кінуўся за гарматы, за паласу дыму і пылу, выхапіў бінокль. За мной выйшлі афіцэры, хто меў біноклі, за намі — усе астатнія, замурзаныя гарам камандзіры гармат, нумары разлікаў. Хацелася ўбачыць белы сцяг і як яны, тыя, што маршыравалі па ўсёй Еўропе, хто дабраўся да Волгі, да Каўказскіх гор, будуць вылазіць са сваёй апошняй нары.

Нічога не ўбачылі: цытадэль ахоўваў дым, ірваўся склад боепрыпасаў.

На ўсходзе за таполямі падымалася сонца. Над наваколлем плыў сярэбраны звон.

5

Убачылі мы «абаронцаў» цытадэлі на пляцы каля таварнай станцыі. Іх было больш за тысячу. Аскубеныя. Пасінелыя ад страху і холаду. Ціснуліся адзін да аднаго, як статак спуджаных баранаў. Для іх вайна скончылася. І, безумоўна, шмат хто з немцаў радаваўся гэтаму. Але баяліся яны варожасці палякаў; натоўп акружыў палонных, гнеўна гудзеў: не маглі дараваць ім абстрэлу вызваленага горада. Кідалі камяні, пляшкі, змерзлыя камякі конскага гною. А канваіраў было мала, якія паўтара дзесятка. І за выключэннем двух-трох «дзядоў» — маладзенькія чырвонаармейцы, прызыўнікі апошняга года вайны. Камандзір іх — лейтэнант гэткі ж маладзенькі, чорненькі

хлапчук з прастуджаным голасам, з моцным насмаркам. У яго было высокае пачуццё адказнасці за жыццё палонных, і ён адзін адгароджваў іх ад абураных гараджан, стаяў перад натоўпам, гатовы сабой засланіць даручаных яму варожых салдат і афіцэраў. Лейтэнант ушчуваў палякаў. Але быў ён, напэўна, таджык — персідскае аблічча — па-руску гаварыў з акцэнтам, а па-польску не мог звязаць і двух слоў.

Пра адносіны ў Чырвонай Арміі да палонных, пра тое, што савецкія воіны ніколі не прыніжалі сябе пакараннем абяззброеных, як рабілі фашысты, я гаварыў многа разоў у сваіх гутарках і лекцыях — з гонарам за наш гуманізм. Ён узвышаў асабіста мяне, я хацеў, каб пачуццё гэтае жыло ў сэрцы кожнага байца. А ўбачыў іх у такой колькасці і зноў паражыў, цяпер ужо невысокую, неўрачыстую,— злую радасць і гнеў. Разумеў палякаў. Каб не мае пагоны і я апынуўся ў іх натоўпе, то, напэўна, таксама кідаў бы каменне ў аблезлых заваёўнікаў. Знайце і помніце! Унукам і праўнукам накажыце!

Кузаеў сказаў, кіўнуўшы на камандзіра канвою.

— Памажы, Ванда, гэтаму хлопчыку. Растлумач палякам нашу палітыку ў адносінах да ваеннапалонных.

Ванда ўміг апынулася каля лейтэнанта. І калі звярнулася па-польску: «Панове і таважышэ!» — людская хваля хлынула да яе. Але тут жа застыла. Патыкаўшы адзін на аднаго, утаймаваўшы задніх, якія цісануліся ўперад, людзі з кранальнай пачцівай увагай слухалі дзяўчыну — савецкага афіцэра. Палякаў зачараваў не толькі сэнс таго, што Ванда гаварыла, але, напэўна, і яе добрая літаратурная мова. Учора яна з гонарам сказала мне, што баялася, што мова яе архаічная, «архангельская», а ў Варшаве пераканалася, што гаворыць не горш за інтэлігентных варшавян.

У адным месцы палякі засмяяліся і запляскалі. Я, прапагандыст, убачыў тое, чаго да таго, пэўна, не назіраў — як ад слоў дабрэлі суровыя твары людзей. У палонных не паляцела ніводнага камяка гною.

Лейтэнант доўга трымаў Вандзіну руку. Калі яна адышла, многа разоў казыраў. Упэўніўся, што эксцэсаў не будзе; ведаў, што яму яшчэ доўга ахоўваць тут, на станцыі: да пагрузкі ў эшалон палонных павінны перапісаць, аддзяліць эсэсаўцаў, фашыстаў.

Ванда вярнулася да «віліса».

— Што ты сказала, што яны смяяліся і апладзіравалі?

— Чакай. Ад чаго палякі засмяяліся? А-а... Я сказала, што яны марылі дайсці да Урала. Мы даём ім магчымасць апынуцца далей — у Сібіры.

І я таксама засмяяўся — уявіў, з якім настроем тыя, хто лічыў сябе ўладарамі свету, будуць ехаць, лічы, з-пад самага Берліна ажно ў Сібір.

А Ванда, пастрэмка, ужо пра іншае — сваё, бабскае:

— Якога кавалера я сабе прыдбала! Які прыгажун — вачэй не адвесці. Персідскі прынц! Ён папрасіў у мяне адрас, і я сказала нумар пошты... Шувалаў вусы адрасціў — дык як па Гогалю: усё роўна што пацука ў роце трымае. Брыдка абедаць з ім. А ў лейтэнанта такія вусікі — пагладзіць хочацца.

— Толькі пагладзіць? — Кузаеў разумеў, што Ванда падражніваецца са мной, пасміхаўся і падыгрываў ёй: — Але помні, што ён, напэўна, мусульманін.

— О, я за паўгадзіны перахрышчу яго ў сваю веру.

— А якая ў цябе вера?

— Каб ты ведаў, якая ў мяне вера! Свая вера. Я пачынальніца яе. Як Магамет. Як Хрыстос.

— Трэба на партбюро спытаць пра тваю веру.

— Таварыш маёр! І вы хочаце, каб я выйшла замуж за гэтага чалавека? Палітсухар без гумару, фармаліст.

Кузаеў, задаволены, весела смяяўся, павярнуўшыся Да нас з пярэдняга сядзення. У мяне нават варухнулася пачуццё рэўнасці, што Ванда гэтак па-панібрацку з камандзірам. Каб не было тут Антаніны Фёдараўны, напэўна, рэўнасць была б брудназатая, а так — прыстойная, неабразлівая ні для каго з нас траіх.

Паслаўшы камандзіраў падраздзяленняў і штабных афіцэраў выбіраць пазіцыі для батарэй і кулямётаў, Кузаеў ехаў шукаць памяшканне пад штаб дывізіёна. Ванду ўзяў за перакладчыцу. А мяне ў якасці каго? Каб змыць асадак крыўды за свой начны крык? Але яго і не было, асадку. На кузаеўскі крык, праборкі з частым паўторам «разгільдзяй» мала хто крыўдзіўся. Я — ніколі. Праўда, трапляў я пад яго гарачую руку рэдка. Камандзір шанаваў мяне, з прыпарак, якія ляпіў мне Тужнікаў, забаўляўся, то заахвочваючы нампаліта, яго патрабавальнасць, то падбухторваючы мяне на выказванне смелых думак, нават на нязгоду з некаторымі рашэннямі непасрэднага начальніка.

Самавольнічаць у такім горадзе нельга, гэта Кузаеў разумеў, таму мы шукалі ваенную камендатуру. Пятлялі па вузкіх вуліцах, па прасторных бульварах. Горад уражваў уцалеласцю і мнагалюднасцю. Людзі на вуліцах — як на свята. Ванду захапляла гэтая мнагалюднасць. Мяне здзіўляла спакойная дзелавітасць гараджан. Колькі гадзін назад над галовамі іх праляцела тысяча снарадаў, а яны — вось

так, як і не было нічога. Каб не сустрэча з палоннымі, напэўна, здавалася б, што горад вызвалены не тры тыдні назад, а тры гады. Хутка людзі ўмеюць наладзіць жыццё!

Мы з Вандай гаварылі пра гэта, пакуль камандзір знаходзіўся ў ваеннага каменданта. Раптам галава яе схілілася на маё плячо. Дзяўчына заснула. Ноч жа не спалі. І так хораша было чуць яе ціхае дыханне ў цёплым «вілісе», што стаяў перад велічным старажытным будынкам з магутнымі атлантамі, якія трымалі на плячах цяжкія балконы. Мне стала шкада атлантаў: стаміліся, нябогі. Увогуле захлынула хваля дабрыні і пяшчоты. Адчуў незвычайнае пачуццё да Ванды, упершыню падумаў, што за яе вострым языком — чулае сэрца, і яна будзе клапатлівай жонкай, добрай маці.

«Скончыцца вайна — ажанюся з ёй»,— падумаў я, баючыся паварушыцца, хоць сядзець было і нязручна. Няхай паспіць. Гэта так прыемна і сімвалічна — ахоўваць сон дзіцяці, жанчыны.

Ванда прачнулася раней, чым вярнуўся Кузаеў.

— Я заснула? І, знаеш, што я сніла? Я ўзляцела ў неба. Як птушка. Не. Як анёл...

— Рэлігійныя ў цябе сны.

— Не смейся, Павел. Не разбурай маё адчуванне. Яно такое светлае, святочнае. Па-мойму, сёння свята. Якое? Вы не ведаеце, Селязнёў? — спытала ў шафёра, пажылога чалавека, адносна пажылога, гадоў на пятнаццаць старэйшага за нас.

— Я ведаю праваслаўныя святы. А тут — каталікі.

— Вы верыце ў бога?

Селязнёў збянтэжыўся.

— Мама мая верыць. А мы і без бога немцаў пабілі. А ў іх на кожнай пражцы напісана: «З намі бог». Чулі? Ды каб ён быў, бог, то іх, д'яблаў такіх, катаў праклятых, даўно спаліў бы агнём, затапіў бы вадой. Гэта вы, таварыш малодшы лейтэнант, правільна сказалі: хацелі да Урала — тупайце далей, у Сібір, пачысціце тайгу, хапіце нашых маразоў...

Вярнуўся камандзір, сеў на сваё месца.

— Направа, Пятро, праз тры кварталы налева. А там Ванда будзе пытаць,— паглядзеў у паперку: — Вуліца Славацкага. Камендант прапанаваў нам жаночы кляштар.

Ванда весела хмыкнула.

— Ён такі гумарыст, камендант?

Але Кузаеў не пасміхнуўся: быў засяроджана сур'ёзны.

— Кляштар пусты. У мінулую восень гестапа выявіла ў кляштары падпольную друкарню. Ігуменню і яшчэ шэсць пакутніц расстралялі ў двары, астатніх адаслалі ў канцлагер.

— Вось звяры! — абурыўся шафёр.— А яшчэ крычаць: з імі бог. Няма ў вас бога! Няма!

Ванда перасмыкнулася, як ад холаду, прытулілася да мяне і сціснула руку так, быццам нам паведамілі пра смерць матак нашых, і яна, больш трывалая, цярплівая, суцяшала і мяне і сябе.

Камендант даў Кузаеву ключ ад узорыстых веснічак у высокай цаглянай сцяне.

Увайшлі ў прасторны двор, засыпаны зляжалым пад снегам мінулагоднім мокрым лісцем. Здалося, што з таго трагічнага асенняга дня тут не ступала нага чалавека. Ад такога ўяўлення стала жудасна: навокал вялікі горад, а тут — бязлюдная пустэча, святая непарушнасць усяго, што было ўладкавана, дагледжана рукамі невядомых служак божых, што, аднак, жылі справамі зямнымі і змагаліся з ірадам як умелі. Пэўна, нядрэнна ўмелі, што фашысты гэтак сурова пакаралі іх.

Трохпавярховы дом не выглядаў змрочным і старадаўнім, не падобны быў на кляштар у звыклым уяўленні, у яго быў зусім свецкі выгляд — шырокія вокны без кратаў, пэўна, маліліся тут тыя, каго не трэба было зачыняць.

Па ўсходцах падняліся мы ў невялікі сад з густа пасаджанымі ўздоўж не такога, як ад вуліцы, высокага паркана вішнямі. У цэнтры саду — маленькая лялечная капліца-малельня. І тут убачылі нядаўнія сляды людскія: справа ад ганка ля сцяны ляжалі жывыя белыя кветкі, не апаленыя начным марозам, значыцца, пакладзеныя сёння з раніцы.

— Божа! Іх расстралялі тут! — пабляднела Ванда і зняла пілотку.

Кузаеў таксама зняў фуражку. І я. І Селязнёў. Пастаялі моўчкі.

— Глядзіце, як пабіта сцяна. Іх расстрэльваў цэлы ўзвод. Такія страшныя для іх былі гэтыя жанчыны з крыжамі.

Ванда апусцілася на калені, каб паправіць кветкі.

— Вой, глядзіце, што я знайшла! Куля!

Куля была з нямецкага кулямёта. Яны скасілі манашак з кулямётаў.

Агледзелі дом, здзівіліся, што мала абразоў, толькі невялікая зала распісана карцінамі на біблейскія сюжэты.

— Штось не хочацца мне займаць гэты кляштар,— сказаў Кузаеў.

— Чаму? — здзівілася Ванда.

— Баюся, што праз тыдзень-два з'явяцца гаспадыні, і не вызваліць ім будзе нельга. Прыйдзецца перасяляцца.

— Таварыш маёр! Я прашу заняць. Толькі мы не спаганім тут нічога. Пад вашай камандай...

— Хітрая вы, Жмур.

— Я ж жанчына, таварыш маёр. Да таго ж — полька.

— Усе полькі такія, як вы?

— Я іх мала бачыла. Толькі чытала...

— Шчаслівая нацыя, каб усе былі такія, як вы,— сказаў Кузаеў.

Ванда, якая, здавалася, ніколі нічога не саромелася, прывабна запунсавелася ад гэтай пахвалы. Мне хацелася смяяцца. Я пажартаваў:

— Вясёлая была б нацыя.

— Вясёлая,— сур'ёзна згадзіўся Кузаеў, разглядаючы распяцце Хрыста.— Дык што, атабарымся пад Хрыстом? Ну, што ж, пераканалі вы мяне, маладыя. Паехалі, заявім каменданту, што згодныя, а то кватарантаў у яго многа і на жаночы кляштар.

Зноў пятляючы па завулках, выехалі на плошчу, цэнтральную, бо акружалі яе прыгожыя збудаванні: велічны касцёл, кафедральны, знаёмы Вандзе па кнігах, старажытны будынак ратушы. Яшчэ больш здзівіла мнагалюднасць. Калоны моладзі са сцягамі, транспарантамі ішлі ў шырока адчыненыя вароты праезду пад ратушай. Бясконцы раўчук людзей, па адным, парамі, сем'ямі, з дзецьмі цёк у касцёл і з касцёла.

Усё гэта было цікава, своеасабліва хвалявала, бо нават масавы паход у касцёл здаўся выяўленнем радасці вызваленых людзей, я не сумняваўся, пры фашыстах гэтак не ішлі — цягнуліся панура, з аглядкай, моўчкі маліліся за збаўленне ад Гітлера. А сёння, безумоўна, моляцца за адраджэнне жыцця, за канчатковую перамогу. Безумоўна, Ванда хвалявалася яшчэ больш. Апусціла шкло, высунула з машыны галаву, хапала мяне за руку.

— Паглядзі, паглядзі!

Кузаеў адчуў нашу зацікаўленасць і нечакана прапанаваў:

— Хочаце паглядзець і паслухаць? Давайце, разведайце, што за фэст у іх. Пасля мне раскажаце. Толькі не губляйцеся, а то Тужнікаў з'есць мяне з трыбухамі, ён і так стагнаў, што я забіраю цябе,— трэба пісаць данясенне аб штурме цытадэлі. Некаторыя думаюць, што ад удару нашых гармат яна развалілася. Біла пяцьсот ствалоў. Уся зенітная артылерыя... палявая, часці якой апынуліся тут... танкі, самаходкі, што рамантаваліся, іх цягачамі буксіравалі на агнявыя пазіцыі...

Камандзір чамусьці са спазненнем расказаў пра тое, што пачуў ад каменданта, гаварыў, бадай, з захапленнем. А мне ранішні агнявы вал здаваўся даўняй гісторыяй, мяне цягнула ў гэты незвычайны натоўп.

Свяціла сонца. Плыла з усіх бакоў урачыстая музыка званоў. А з другога боку «віліса» калона з чырвонабелымі сцягамі весела спявала «Кацюшу», пераплятаючы рускія і польскія словы. І гэта кранала да слёз.

Кузаеву, відаць, таксама хацелася паглядзець на святочны натоўп, хоць турбот у яго безліч. Гарматы з паўстанка пойдуць на выбраныя пазіцыі сваім ходам. Натуральна, што пэўная колькасць камандзіраў і нумароў засталася там. Людзей другога эшалона, які прыбыў раней, тады яшчэ не знайшлі. Камандзір усю дарогу хваляваўся, што разгрузка боепрыпасаў і ўсёй даволі цяжкай маёмасці ляжа на дзявочыя плечы. Мяне даўно кранаў яго клопат пра дзяўчат, які ён, аднак, рэдка выказваў вось так адкрыта. Калі кожны чалавек на ўліку, вялікая шчодрасць з яго боку дазволіць двум малодшым лейтэнантам бадзяцца па горадзе. Асабліва камандзіру СОН — самай груваcткай устаноўкі.

«Віліс» з хуткасцю пешахода як бы рабіў ганаровы круг па плошчы, усё роўна што прымаў парад; Селязнёў без слоў разумеў свайго камандзіра. Але дарогу перагарадзіла чарговая калона моладзі, што з вузкага завулка вылілася на плошчу. «Віліс» спыніўся.

— Скачыце, зайцы. Толькі паляўнічым не трапляйце: каменданцкі патруль абыходзьце. А калі што — вы са станцыі ў штаб чэшаце, У кляштар. Адрас помніце.

Мы радасна выскачылі з машыны.

Спачатку на нас не звярталі асаблівай увагі — горад наводнены войскам. Але як толькі Ванда спытала па-польску, якое свята сёння, нас тут жа акружылі.

— Таважышу савецкі афіцэр — полька?

— Полька.

— О-о! Панове! Савецкі афіцэр — полька!

— То есць полька!

— Пані варшавянка?

— Не.

— У пані варшаўская мова.

— Ды не! Мазурка!

— Кракавянка!

Спрачаліся. Радаваліся. Смяяліся. Маладых як бы ўзвысіла тое, што іх равесніца, полька — афіцэр Чырвонай Арміі. Дзяўчаты абдымалі Ванду. Яна смяялася, перакладала мне іх паведамленні:

— Сапраўды свята. Заступніка Познані... А там, у двары ратушы,— мітынг моладзі. Хадзем?

Маладая хваля падхапіла нас і ўціснула ў прасторны двор, пры гэтым, заўважыў я, невялікая група спрытных юнакоў яўна выкарыстоўвала нас з Вандай. Уся дваровая плошча была забіта маладымі людзьмі. У адчыненых вокнах навакольных будынкаў, што прымыкалі да яе, свяціліся твары людзей. Праціснуцца наперад было нялёгка. Юнакі прабівалі праход Вандай і мной.

— Прапусціце савецкіх таварышаў!

— Дарогу савецкім афіцэрам!

І мы апынуліся недалёка ад прэзідыума.

На невысокім імправізаваным памосце за доўгім сталом сядзела чалавек дваццаць, у цэнтры — высокі лысы чалавек і маёр нашай арміі.

Выступаў паручнік Войска Польскага. Яго горача віталі, калі ён сышоў з трыбуны і заняў сваё месца ў прэзідыуме.

— Нех жые Войска Польске! Нех жые! — скандзіравалі тысячы галасоў.

Прамоўцы выступалі коратка, але палымяна. Але мы з Вандай хутка пачулі, што аўдыторыя раздзелена на дзве часткі, на большую — левую і меншую — правую. Мы апынуліся сярод правых. Калі выступаў хлопец у бедным рабочым адзенні, яму горача пляскалі яго таварышы, а побач з намі пачалі свістаць.

Ванда прашаптала мне:

— Трымай кабуру.

Да мяне не адразу дайшло — навошта трымаць, пасля сцяміў: каб у цеснаце не выцягнулі пісталет.

Выступіў не вельмі на выгляд малады, з вусікамі, але ў студэнцкай форме. Яго вітала правая палавіна, апладзіравалі ледзьве не пасля кожнай фразы. Рабочыя свісталі.

Нейкую частку слоў я разумеў. І сэнс папярэдніх прамоў злавіў, ва ўсялякім разе іх палітычную накі раванасць. З выступлення вусаценькага не мог зразумець нічога, бо і сам ён гаварыў неяк вельмі адмыслова, быццам і не па-польску зусім, ды і шумелі навокал. Старшыня сходу затрос званок.

— Пра што ён гаворыць? — спытаў я ў Ванды.

— Расказвае праграму лонданскага ўрада.

— Во свіння! Польшча мае рабоча-сялянскі ўрад — Камітэт нацыянальнага...

— Цішэй ты. Бачыш, як сціскаюць нас. Мы не на тую палавіну трапілі. На нас здзіўлена глядзіць маёр. Уцякайма. Пра пісталет не забывайся.

Назад нам праходу не вызвалялі, і мы з цяжкасцю прабіліся да варот.

На плошчы было вольна, прасторна. Калоны моладзі ўціснуліся ў двор. І ў касцёл не ішлі так густа, бадай, больш з касцёла. Мітынг пакідалі па адным, рэдка — па два-тры чалавекі. Мы з Вандай заключылі: расчараваныя нейтралы, абывацелі, якім хочацца застацца за палітыкай.

— Будзе ў іх тут калатнеча.

— Не будзе. Рабочы клас...

— Ты так верыш у рабочы клас? — здзівіла мяне Ванда.

— А ты не верыш? Дрэнна ты чытала Маркса, Леніна.

— Чытала, але мала.

— І я мала. Але я веру.

— Ты шчаслівы, Павел, бо ты цэльны... мэтаскіраваны. За гэта я цябе люблю. І не на жарт прарочу: ты станеш прафесарам.

— І за гэта любіш?

— Не за гэта. Так далёка я не закідваю,— і тут жа ашаламіла нечаканай прапановай: — Давай зойдзем у касцёл.

— Ты што гэта! Дазнаецца Тужнікаў...

— Пасаромейся, Павел! Ты ж культурны чалавек! Гэта ж помнік архітэктуры. А там убачыш, якое мастацтва — скульптура, жывапіс...

Мне і самому хацелася агледзець гэтую незвычайную ўстанову, дзе выпрацоўваюць опіум для народа; да таго я ніколі не быў у касцёле, ды і ў царкве — толькі ў маленстве. А мне ж, урэшце, па службе трэба ўсё ведаць, усё бачыць. Але я зрабіў выгляд, што глыбакадумна вырашаю складаную праблему: ісці ці не ісці? Няхай Ванда ведае, што я вагаўся. Усе мы любім трохі паламацца нават перад блізкім чалавекам.

— Езус Марыя! І то я кохам такего тхужа! — па-польску выгукнула Ванда. На нас адразу звярнулі ўвагу жанчыны, што выйшлі з касцёла. Спыніліся, з цікавасцю разглядалі, яўна гатовыя ўступіць у размову. І гэта мяне падагнала:

— Пайшлі,— працягнуў я сваёй спадарожніцы руку.

— Не забудзься фуражку зняць.

— Невысокай ты думкі пра мяне.

— Высокай-невысокай, не хвалюйся.

У касцёле было гэтак жа цесна, як і на мітынгу. Але мяне цікавілі не людзі — асляпіла багацце афармлення. Я разглядаў зіхатлівыя люстры, роспіс купала, сцен з нейкім асаблівым хваляваннем і хлапчукоўскай дапытлівасцю, сапраўды, як малы, задраўшы галаву. І як малога, як сынка, вяла мяне Ванда, моцна сціскаючы руку, каб не згубіўся ў натоўпе. Яна не прабівалася наперад гэтак жа, як на мітынг ці з мітынгу, яна неяк непрыкметна, ціха і далікатна ўшчамлялася паміж людзьмі. Крок. Паўза. Яшчэ крок. Мужчыны азіраліся на нас з цікавасцю, большасць жанчын — нядобразычліва: куды вы ціснецеся, бязбожнікі?

Спачатку незвычайна гудзеў голас ксяндза, ён удараўся ў высокі купал і там, угары, як бы ўзмацняўся невядомай тэхнікай, абвальваўся адтуль гулкім вадаспадам на галовы веруючых, якія хорам паўтаралі: «Навекі векуў! Аман». Хітры акустычны эфект. Ён яшчэ больш уразіў, калі ўсю прастору храма запоўніла ўрачыстая арганная музыка. Аднак мяне, бадай, больш цікавілі карціны. Яны такія ж, як у Эрмітажы, які аднойчы бачыў і многа разоў сніў. Вельмі захацелася прачытаць іх, карціны,— уведаць сюжэт кожнай.

Можа, упершыню зрабілася сорамна, што я так мала знаю, і тут, у чужой стыхіі, адчуваю сябе поўным невукам.

Ванда прашаптала:

— Ты непрыстойна разглядваеш. Не задзірай галавы. Слухай музыку. Гэта — Бах.

Яе паведамленне, бадай, ашаламіла: нямецкі кампазітар у польскім касцёле?!

Павадырка мая «заваёўвала» рубеж за рубяжом і мяне цягнула за сабой. І ўрэшце прабралася ў першы рад.

З кніг я ведаў, што ксяндзы не падобныя на кудлатых і барадатых папоў. Але ксёндз, перад якім мы апынуліся,— ён стаяў за маленькай трыбунай і зноў з тоўстай кнігі эфектна, акцёрскім голасам чытаў малітву на лацінскай мове,— здзівіў мяне нейкім залішне свецкім выглядам. Калі не лічыць адзення,— чырвонай сутаны з белай палярынай,— маладжавы, чыста паголены твар і рыжаватыя, па-цывільнаму падстрыжаныя валасы рабілі яго падобным на вядомага артыста, які здымаўся ў кіно да вайны і ў часе вайны. Такое параўнанне развесяліла, і ўвесь храм здаўся багатым тэатрам. Я нават не стрымаўся і ўсміхнуўся, ды якраз тады, калі ксёндз адарваўся ад малітоўніка і глянуў на нас. Яго, безумоўна, здзівіла з'яўленне двух маладых савецкіх афіцэраў перад самым амбонам. Ён разглядваў нас, бадай, з той жа цікавасцю, з якой я разглядваў яго і прыгожых хлапчукоў у белым адзенні, што стаялі за ксяндзом.

Ванда выпусціла маю руку, ступіла да ксяндза і... упала на калені. О, жах! Удар крыві ледзь не ўзарваў маю галаву, і ўзрыў гэты, здавалася, падкінуў мяне пад купал, да намаляваных анёлаў. Што яна робіць? Вар'ятка! Шалёная! І што рабіць мне? Нічога. Не схопіш жа за плечы, не пацягнеш у натоўп. Не вылаешся ў храме божым, не крыкнеш: «Устаць!»

— Благослав, пшэвелебны ойчэ, на вальку звыценску,— гучна сказала Ванда словы, якія мне добра запомніліся, хоць тады я не зусім зразумеў іх сэнс.

Ксёндз узяў маленькую тоўстую кніжачку, падышоў да Ванды і дакрануўся кніжкай да яе галавы.

— Бондзь благаславена, цурко моя.

Натоўп веруючых ускалыхнуўся, заднія націскалі на пярэдніх, разам з іншымі мяне пасунулі ўперад. Я апынуўся перад самым ксяндзом, тварам у твар, далібог жа, спалохаўся, што «пшэвелебны ойчэ» і мяне пачне благаслаўляць, а сярод веруючых, магчыма,— я не азіраўся назад,— ёсць нашы, гэткія ж разявы, як і я. Не, праніклівы псіхолаг, ксёндз убачыў маю разгубленасць і толькі пасміхаўся, пэўна, падумаў, што мы паспрачаліся, і дзяўчына выйграла заклад. І яшчэ ён, відаць, зразумеў, што адносіны ў нас больш інтымныя, чым тыя, што звязваюць аднапалчан, бо, калі Ванда паднялася, пажадаў:

— Шчэнсця вам, дзеці мое!

— Дзенькуемы вам, свенты ойчэ.

Кароткі дыялог паміж ксяндзом і Вандай мяне таксама ўзлаваў і спалохаў: чаго добрага, пачне размову. Не, Ванда ўзяла мяне за руку, і мы павярнуліся да выйсця. І тое, як нас праводзілі прыхаджане, кранула. Людзі расступіліся перад намі, утварылі калідор. Жанчыны, што пазіралі, бадай, варожа, калі мы праціскаліся да амбона, цягнуліся рукамі, дакраналіся да Ванды, як да святой. І злосць мая атухала, паблажліва, бадай, ужо з гумарам падумаў, што нарачоная мая — добрая акцёрка: ведала, якую рэакцыю выкліча просьбай благаславення.

Аднак, апынуўшыся пад сонцам, пад блакітным небам — лётным, я зноў абурыўся:

— Ну, любая мая, адмачваеш ты нумары. Больш я з табой нікуды не пайду. Хопіць з мяне! То ты засынаеш у каралеўскай спальні, то падаеш на калені перад кожным ксяндзом. Член партыі! Ганьба! Я скрозь зямлю гатовы быў праваліцца.

— Не праваліўся ж.

— Ты мяне давядзеш!..

— Давяду... да шчасця.

— Ха!

Ванда ішла сцішаная, як бы прасветленая, з ледзьве прыкметнай шчаслівай усмешкай. Гэта мяне выводзіла з сябе. Няхай бы яна блазнавала, смяялася, як звычайна. Тады было б зразумела, што выбрык яе з ксяндзом быў жартам, забавай, і я, магчыма, пасмяяўся б разам з ёй. А то ідзе як мадонна з прычасця. Такі выгляд не можа не навесці на думку, што яна «атручана опіумам» — верыць у рэлігійныя забабоны. Крыўдна было і за яе, і за маю... за нашу выхаваўчую работу.

Пасля майго «ха!» Ванда спынілася.

— Хочаш, скажу, чаму я цягнула цябе да ксяндза? Я, калі яшчэ апускалася на калені, думала папрасіць: «Павянчай нас, ойцец». Але спалохалася, што ты запярэчыш,— цяпер ужо ў яе ярка-карых вачах скакалі зялёныя чорцікі: — Што ты рабіў бы, каб я так сказала?

Ад нечаканасці яе прызнання, ад спалоху — што было б, каб яна гэтак зрабіла,— я разгубіўся.

— Не знаю.

— Прамаўчаў бы?

— Можа, і маўчаў бы.

— А ён спытаў бы: «Ці хочаш ты, Павел Шыянок, узяць за жонку Ванду Жмур?» Што адказаў бы?

— Слухай, адчапіся ад мяне!

— Ах, якая дурніца! Якая дурніца! Давай вернемся.

— Знаеш, што такое камбінацыя з трох пальцаў?

— Але мы з табой не пакажам такую камбінацыю адно аднаму. Праўда?

Не, з гэтай няўрымслівай полькай лепш не гаварыць: на нас азіраюцца людзі, прыслухоўваюцца, нехта з іх і па-руску можа разумець.

Хутка закрочыў уперад, не арыентуючыся, куды ісці. Ванда ляскала падкаванымі абцасамі па бруку ззаду ў мяне. Але тут жа я падумаў, што гэта непрыгожа. Што скажуць еўрапейцы? Савецкі афіцэр прымусіў жанчыну ісці ззаду. Сапраўды азіят!

Спыніўся, павярнуўся да сваёй сяброўкі. Раптоўна з'явілася вясёлая думка, якая, напэўна, памірыць нас, згладзіць маю грубасць з фігай, і мы хораша пасмяёмся.

— Уяві фізіяномію Тужнікава, каб мы прыйшлі і сказалі, што павянчаліся ў касцёле.

Засмяяўся. Ванда скупа пасміхнулася.

— У дзень перамогі мы пажэнімся,— яна жыла ў марах пра замужжа.

— Абавязкова.

У яе выцягнуўся твар.

— Ты смяешся?! Я ўтаплюся у Варце... у Одэры... у Шпрэе, дзе будзем, калі ты здрадзіш мне.

— Дабярыся хоць да Паўночнай Дзвіны. Яна больш паўнаводная.

— Не блазнуй. Я маме напісала, што прыеду з табой. Што громам ударыла. Было не да смеху: перад вачамі стала Любоў Сяргееўна Пахрыцына.

* * *

*Успаміны — што цёплае мора, яно прываблівае, з яго не хочацца вылазіць. Не, што алкаголь — ад іх п'янееш да галавакружэння, яны то ўзносяць у рай, то правальваюць у бездань. Прачнешся пасярод ночы і не можаш заснуць да раніцы — успамінаеш. А ўдзень, калі трэба чытаць лекцыі, баліць галава.*

*Раней я запісваў падзеі далёкіх гадоў, уваскрашаў вобразы амаль забытых людзей ад выпадку да выпадку, паміж сваімі навуковымі тварэннямі, часцей у выхадныя дні, у святы, яны як бы давалі адпачынак, памагалі забыцца на клопаты і трывогі неспакойнай сучаснасці. Цяпер пішу штодня. Папка з працай па гісторыі контррэвалюцыі ў Польшчы, якая вылілася ў антысацыялістычнай дзейнасці «Салідарнасці», запылілася, даўно не развязваў матузкі на ёй. Жыву не сённяшняй Польшчай. Жыву ў Познані перадапошняга месяца вайны. А можа, так хораша пішацца таму, што я адчуў спакой, пазбавіўся ад цяжкага грузу, які нёс дваццаць гадоў? Ды і на кафедры, здаецца, наступіла зацішша. Нават Мар'я стала вітацца са мной пачціва і паважліва. Кланяюцца вучні, якія нейкі час адварочваліся.*

*Ад успаміну пра першы пазнанскі дзень я сапраўды п'янеў. Валя ажно раўнаваць пачала да майго «рамана». Унучкі не заміналі, калі я пісаў сур'ёзныя тэарэтычныя працы па гісторыі партыі. А ўчора, можа, упершыню, калі яны ўзнялі вэрхал і пестушня мая Міхалінка зноў укусіла Віку, я, бадай, грубавата выставіў дзяцей з кабінета.*

*Раней Валя навучала:*

*— Не патурай ты ім. Выганяй. А то яны табе на шыю сядуць.*

*І садзіліся.*

*Унучкі выкідвалі за зачыненымі дзвярамі такіх «конікаў», што перашкаджалі ў сто разоў мацней, чым тады, калі гулялі ў кабінеце, і я мусіў пусціць іх зноў.*

*Але прыйшла Валя і забрала дзяцей.*

*— Пайшлі, дзяўчаткі, гуляць, дамо дзеду нацешыцца са сваімі гераінямі.*

*— З якімі гераінямі, буля? — так Міка скарацiла «бабуля». Спрабавала скараціць і «дзядуля» — дуля, але Марына накрычала на дачку: не смей!*

*— Ён раскажа вам. У вас дзед — майстар на ўсе рукі. Ён умее і на кантрабасе і на флейце.*

*Укалола жонка. Але ўкол гэты я, што бегемот, адчуў, калі яна павяла малых гуляць. Стала крыўдна. Аднак успаміны ўсё заглушылі. Пісалася з натхненнем.*

*Ды неўзабаве вярнулася Валя з адной Міхалінай, узлавана цягнучы малую за рукаў. Дзяўчынка ўсхліпвала, размазвала бруднымі ручкамі слёзы, і мурзаты, тварык яе нават у трагічным плачы здаваўся гарэзлівым, ва ўсялякім разе вочкі зіркалі вельмі хітра: хацела разжаліць дзеда, чакаючы майго прысуду.*

*— На, тваю цацу. Цалуйся з ёй. Вынікі вашага з Марынай выхавання. Сорамна ў двор выйсці.*

*Калі дзеці шкодзілі, бабуля вінавацiла маму і дзеда.*

*— Што яна натварыла?*

*— Няхай раскажа сама.*

*Памкнуўся ўзяць Міхалінку на рукі: вельмі ж жаласна яна ўсхліпвала. Але Валя крыкнула на мяне:*

*— Не падымай гэтую ляпёху. Хочаш, каб шоў разышоўся,— нядаўна мне апераравалі грыжу.*

*Я распрануў малую, хусцінкай выцер тварык.*

*— Што ты зрабіла, маленькая мая?*

*— Ніцога я не сказала.*

*— Чаму ж усхвалявалася бабуля?*

*— Не знаю.*

*— Вось жа лгуння! А ты, пасюсюкай з ёй, пасюсюкай, дык яна табе не такое выкіне.*

*— А што яна выкінула?*

*— Я нічога не кідала!*

*Валя вярну лася ў кабінет, цыкнула на Міхаліну:*

*— Станавіся ў кут і не пікні!*

*Дзяўчынка паслухмяна ўткнулася носікам у сцяну; нязвыклая яе пакорлівасць расчуліла да слёз.*

*— Заплач. Бачыш, як яна разумее сваю віну?*

*— А вялікая віна?*

*— Сорамна ў двор выйсці. Што людзі будуць казаць! Вунь як у сям'і прафесара выхоўваюцца дзеці!*

*— Ды што яна адмачыла?*

— Ды ўжо ж — адмачыла. Больш ёмкага слова не прыдумаеш. Яна нахаміла Маі Вітольдаўне. Тая спытала: «Каго ты, Міхалачка, больш любіш — бабулечку ці дзядулечку?» А гэтая «прафесара» сапла-сапла носам і бухнула: «Я магла б сказаць, што ты дурніца, але я не буду гэтага гаварыць».

Стрымацца было немагчыма, і я засмяяўся. Жонка абурылася:

— Ад твайго, таварыш прафесар, выхавання яна яшчэ і не такое змарозіць!

— Хіба я марозіла яе?

— Не пікні! Да вечара будзеш стаяць у кутку.

Выйшаў з кабінета, каб у прыхожай і на кухні пасмяяцца ў адзіноце. Уявіў манерную чапурыстую Маю Вітольдаўну, яе фізіяномію пасля Міхальчыных слоў, яе жах, абразу. Мая — балярына ў мінулым і самая маладая пенсіянерка ў двары. Адзінокая, бяздзетная, яна любіла дзяцей, але гаварыць з імі не ўмела. Ды і са мной дзіўна гаварыла — да непрыемнасці лісліва, быццам ад мяне залежаў яе лёс ці, самае малое, памер пенсіі. А з Мікай і Вікай занадта сюсюкала: «Карцінachкі мае! Ластавачкі!»

Гуляючы з малымі, я назіраў, як Міхалінка адносіцца да гэтага, і даўно баяўся канфлікту. Добранькая ласкавая Віка залівалася смехам. А Міка без усмешкі глядзела з-пад ілба са знявагай і на цёцю Маю, і на сястрычку сваю. І вось — выпаліла. Непрыгожа, але смешна.

— Я пайду да Віткі,— сказала жонка.— Мілае дзіцятка — сядзіць сабе ў пясочніцы, лепіць дамочкі. А гэта ж так і зіркае, каб якую шкоду зрабіць. Прашу цябе: не ліберальнічай. Дай зразумець, што яна зрабіла нядобра і яе трэба пакараць. Вярнуся і ўбачу, што яна ездзіць на табе,— май на ўвазе...

— Ты не знаеш, які я строгі бываю.

— Дзякуй богу, знаю. Пярун.

— Ідзі, ідзі, а то Мая не сцеражэ Віку.

— Там Марыя Міхайлаўна.

Ціхенька, на насочках, увайшоў у кабінет. Міхаліна стаяла там жа, але вывучала штэпсель на шнуры таршэра. Глянула на мяне з надзеяй. Але я як бы і не звярнуў на яе ўвагі — выконваў дадзенае бабулі абяцанне. Толькі праверыў, ці заткнута вілкай разетка, ад яе ж, непаседы гэтай, затыкалі ўсе разеткі.

Моўчкі сеў за стол. Але Ванда, маладая, вясёлая, гарэзлівая, здольная на самыя нечаканыя ўчынкі, аддалілася, растала ў тумане сарака гадоў. Думкі скіраваліся на ўнучак. Чые гены перадаліся Міхалінцы? Мы з Валяй такія спакойныя, ураўнаважаныя. Але ж маці яе, Марына, таксама была ў маленстве чарцянём. Ды і цяпер яшчэ

*вялікая выдумшчыца, здаецца, толькі і занята тым, каб каго разыграць. Дзіўна гэта. Як быццам ад Ванды перадаліся рысы і нашай дачцэ, і нашай унучцы. Думка патаемная. Валю яна пакрыўдзіла б.*

*Захацелася пачытаць сур'ёзнае даследаванне пра тыпы характараў, пра тое, як яны фармуюцца: што — ад дзядоў і бацькоў, што — ад асяроддзя. У маладосці, будучы студэнтам, я сур'ёзна цікавіўся псіхалогіяй. Хацеў нават у аспірантуру падацца па псіхалогіі. Міша Пятроўскі адгаварыў. І пасля, ажно да старасці нашай, ставіў гэта сабе ў заслугу: «Скажы дзякуй. Самы выдатны псіхолаг можа напісаць толькі адну добрую кнігу, а далей будзе паўтараць сябе. Псіхалогія чалавека — пастаянная велічыня, змены ў ёй занадта павольныя. Старажытныя грэкі рабілі гэтак жа, як мы, а можа, мы ў нечым і не дацягваем да іх».*

*Я спрачаўся з ім: «Ты — дагматык. Псіхалогія мяняецца разам з гісторыяй. Што ж, па-твойму рэвалюцыі нічога не змянілі? І навукова-тэхнічная рэвалюцыя не мяняе нашай псіхалогіі?»*

*«Маёй — не. Ды і тваёй — наўрад. Салаўёва мы з табой не пераплюнулі. Ды і Карамзіна... Не кажу ўжо пра Пушкіна ці Талстога. Хто з сучасных падняўся вышэй? »*

*Спрачацца з Пятроўскім цікава, але цяжка: ён як бы мысліць ад адваротнага, з «другога канца», і разважанні яго часам ашаламляюць, часам злуюць парадаксальнасцю, непаслядоўнасцю.*

*У тыя хвіліны, за сталом, я думаў, што ўсё ж, відаць, ёсць у псіхалогіі чалавека пастаянныя велічыні. І характары паўтараюцца значна часцей, чым аблічны.*

*Здзівіла Міхаліна: не паверыў бы, каб не бачыў, што яна можа так цярпліва несці пакаранне.*

*Азірнуўся. Усё зразумела. Яна-такі разабрала штэпсель. Цуд! Такімі маленькімі пальчыкамі, пазногцікам, пэўна, адкруціла шрубку. Шкадаваў яе: такая экзекуцыя для маленькай непаседы — стаяць нерухома. А ўбачыў, чым занятая,— супакоіўся. Чым бы дзіця ні цешылася...*

*Нялёгка Валі з імі, стогне, а ў дзіцячы сад не аддае — шкадуе, бо хварэюць там часта.*

*Гэтая гарэза Міхаліна нядаўна і мяне паставіла ў няёмкае становішча. Найшлі ў парк Чэлюскінцаў. І сустрэў я там сваю былую студэнтку, даволі маладую яшчэ бабулю, гады, сорак тры. Яна кацiла каляску. Павіталася.*

*— Унук? Унучка?*

*— Унук,— без эмацыянальнага ўздыму адказала бабуля.*

*Заглянуў у каляску і больш нічога не спытаў. Там ляжала казачнае негрыцяня. А я, маючы справу са студэнцкім інтэрнацыяналам, ведаў, як часам нечакана для бабуль з'яўляюцца такія ўнукі. Хацеў далікатна развітацца, але Міхаліну нельга было адарваць. Яна доўга кружылася каля каляскі, раз-пораз заглядаючы туды. Я, дзівак, не сцяміў, што ёй вельмі хочацца пазнаць тайну дзівоснай з'явы, ажно пакуль яна не выпаліла:*

*— А ад чаго гэта ён у вас такі мурзаценькі?*

*У неразумнай бабулі на твары выступілі фіялетавыя плямы, і яна, не развітаўшыся, апаліўшы і мяне і дзяўчат зайздросным поглядам, хутка пакаціла каляску на бакавую дарожку.*

*А часам Міхаліна здзіўляла незразумелай сталасцю. Былі госці. Гаварылі пра дзяцей. І спачатку ўсіх насмяшыла Вітка — папрасіла:*

*— Бабулечка, навучы мяне раджаць дзяцей.*

*А потым — Міхалка: яна стукнула сястру лыжкай па лобе і падаросламу сказала:*

*— Вось дурная!*

*Усе смяяліся, а мне страшнавата стала, я ўзлаваўся на віноўніка ранняга пасталення дзяцей.*

*— Выключыце гэты дурацкі тэлевізар! Пагаварыць па-чалавечаму нельга. Мы ж слухаем адзін аднаго на паўвуха. Адвучваемся засяроджвацца...*

*...Міхалінка не толькі разабрала штэпсель, яна сабрала яго назад і зіркала вачаняткамі — чым заняцца яшчэ. Гэта ўжо нешта новае ў яе характары — столькі прастаяць у куце, раней і мінуты не вытрымлівала.*

*Добрая гэтая новая рыса ці дрэнная? — разважаў я.*

*— Дзеду! Доўга яшчэ стаяць? У мяне ножкі забалелі.*

*Не стрываў — кінуўся, каб узяць яе на рукі. Але малая адгарадзілася ручкамі.*

*— Не бяры. У цябе пуп вылезе.*

*Зноў насмяшыла.*

*— Сядай на канапу і вось табе — «Варшава».*

*Абедзве дзяўчынкі вельмі любілі разглядаць альбомы гарадоў. «Будучыя архітэктары»,— цешылася бабуля.*

*— Не хачу Варшаву, хачу Парыж.*

*— Ну, дарагая, размах у цябе шырокі. На табе Парыж.*

*Многа разоў спрабаваў я прадказаць, што ў наступны бліжэйшы час могуць выкінуць дзяўчаткі. Дзеянні Віты адгадваў, Міхалкі ж — ніколі. Сапраўды, як многа ў яе агульнага з Вандай. Толькі яна, мая ваенная сяброўка (Ці было каханне? У яе? У мяне?),*

*магла ашаламляць нечаканасцю сваіх учынкаў і ашаламіла так, што, здаецца, іскры ляцелі з вачэй, не ў аднаго мяне. Толькі хіба цяпер, з вышыні гадоў, сталасці, ведаў і вопыту работы з моладдзю, бацькоўскага вопыту, я, магчыма, магу растлумачыць паводзіны афіцэра Ванды Жмур, камандзіра складанай для таго часу лакатарнай устаноўкі. Ды і то наўрад. Яна нядрэнна разбіралася ў тэхніцы, умела камандаваць, дысцыпліна ў яе на СОН была — камандзіры-мужчыны маглі пазайздросціць... І пры ўсім гэтым адмачыла, як казаў Канстанцін Панасавіч Калбенка, гэткі нумар.*

*Дзяды нашы казалі: жаночая душа — поцемкі. Не поцемкі — цёмная ноч.*

*Цяпер, калі пагрузіўся ў цёплае мора ўспамінаў, бадай, пакутую ад таго, што без малога трыццаць гадоў не бачыў яе. Меў жа адрас, пасылаў віншавальныя паштоўкі, ад яе атрымоўваў, а наведаць баяўся. Смешна, горка і брыдка... Дзіўна, чаму Маслоўскія, калі, бываючы ў іх у гасцях, я ўспамінаў Ванду, неяк хітра спынялі размову, адводзілі ўбок? Глашы, яна чым насаліла? Незразумелыя для нашага ўзросту загадкі.*

*Падступаю да зеніту маёй зенітнай эпапеі У Познані мы стаялі нядоўга. Трэцяя батарэя, пры якой была СОН, размяшчалася далёка. Зрэдку горад бамбілі, але заўсёды ў хмарную пагоду, з-за воблакаў — баяліся фашысты нашых знішчальнікаў. Налёты трымалі ў баявой напружанасці. Таму сустракаліся мы з Вандай рэдка і толькі ў службовых абставінах. Не, пачаў я не з таго: храналагічнасць расцягвае расказ. Трэба «пераскочыць». Куды?*

*...Міхалінка сапла носікам. Я азірнуўся: ці не заснула? Каб не звалілася з канапы. Засяродзіцца, калі трэба глядзець за дзіцем, немагчыма. Я ўмеў пісаць, нават гістарычныя працы, калі дзеці, малыя Андрэй, Святлана, а цяпер унучкі хадзілі на галовах. Але пісалася тады, калі за сцяной знаходзілася Валя, і я ведаў, што любыя свае канфлікты дзеці пабягуць вырашаць з мамай ці бабуляй. А вось Міхалка ціхенька гартае альбом — і ўся мая ўвага на яе, а не на апошнія залпы далёкай вайны. Ці далёкай? Не, нельга яе рабіць далёкай. Пакутлівая памяць пра яе — наша зброя ў сучасным трывожным свеце, дзе прэзідэнт краіны з гіганцкім атамным арсеналам жартуе: «Бамбардзіроўка пачнецца праз пяць мінут».*

*Раптам Міхалінка заспявала тонкім дзіцячым галаскам:*

*— Ай хацела ж мяне маць*
*Дай за шостага аддаць.*
*А той шосты — малы, недарослы,*
*Ой, не аддай мяне маць...*

*Адляцелі высокія думкі. Я ледзьве не споўз пад стол. Вось яе чарговы, нумар! Паспрабуй адгадаць!*

*Аднак чаму такая песня? Ніхто ж яе ў доме не спяваў. Хіба па тэлевізары?*

*Міхалінка паўтарыла адзін і той жа куплет другі раз, трэці, чацвёрты. Гэтая настойлівасць паўтору мне не спадабалася. Так яна рабіла са злосці. Але на каго яна злуе?*

*Падсеў да ўнучкі.*

*— Давай разам спяваць,— і праспяваў песню ад таго, што «той первы — няверны», да таго, што «той сёмы — прыгожы ды вясёлы». Але ніводнага з новых куплетаў малая не прыняла, настойліва паўтарала свой. І я з унутраным смехам падумаў:*

*«Ці не таму, што Мая Вітольдаўна — маленькая, худзенькая, і Міхалінцы такая «недарослацсь» здаецца ганебнай заганай? »*

*О, таямніцы дзіцячай логікі!*

*Была Соф'я Пятроўна. Яе візіты заўсёды радуюць не толькі мяне, але і Валю, і Святлану, і дзяўчатак. Ні з кім з гасцей яны так не дурэюць, як з бабай Завеяй (сама сябе так ахрысціла). Святлану Зося сватае за «князёў», і дзяўчыне, пры ўсёй сціпласці і сарамлівасці нашай малодшай дачкі, падабаецца гэтая вясёлая гульня; больш сур'ёзна сватае за «пралетарыяў» — сваіх любімых студэнтаў старэйшых курсаў ці аспірантаў. Але пакуль што Света не мае пэўнага жаніха. Валю такая «несучаснасць» дачкі засмучае, я смяюся: «Не бойся. Знойдзе свайго».*

*Для жонкі маёй Зося — інфармбюро: расказвае ёй усе навіны не толькі факультэта, але і горада. У Зосі здзіўляючая дасведчанасць, але пляткаркай яе нават зласліўцы ніколі не назвалі.*

*Мне ж у Зосі найбольш падабаецца чуласць і тактоўнасць. Ні разу яна не прынесла ў дом непрыемную звестку. Калі і даведвалася пра штосьці такое, то ніколі не паведамляла ў сям'і — толькі на кафедры. Узрушанасць сваю, абурэнне, неспакой выдавала хіба тым, што выпівала мндга кубкаў чаю. Сто гадоў мы. з ёй спрачаемся, у каго лепшы чай — у нас ці ў яе, хто лепш умее заварваць. Стараемся здзівіць адно аднаго, дастаём вышэйшыя гатункі, вычэрпваем сувенірныя запасы, дзелімся, мяняемся. Своеасаблівая гульня дарослых дзяцей.*

*Адна з маіх былых аспірантак, якая мудра, як кажа Зося, памяняла «сушку мазгоў» на замужжа, жыве і робіць у школе ў Грузіі, муж яе аграном у чайным саўгасе, і гэтая добрая душа, якую я нярэдка ўшчуваў за легкадумныя адносіны да гісторыі, акуратна шле мне пасылкі з чаем, а мы аддарваем грыбамі, на супы з якімі, як яна*

*піша, збіраецца ўсё саўгаснае начальства. Зося смакавала чай, як самы тонкі дэгустатар.*

*— Ірэначчын? Няважны чай. Развучыліся грузіны вырошчваць чай высокіх гатункаў.*

*Таксама добрая прыкмета, калі яна не хваліць мой чай, а ганіць і робіць выгляд, што такога пойла ёй не хочацца нават піць. У сапраўднасці чай быў выдатны. Водар яго і смак адчувалі нават Міка і Віка, дзяўчаткі сёрбалі чай са сподачкаў як купчыхі, задаволена цмокалі. Між іншым, абедзвюх вельмі смяшыла, калі Валя назвала іх купчыхамі, у малых, відаць, былі нейкія тайныя тэлевізійныя асацыяцыі, якія яны напаміналі адна адной на вушка.*

*— Што вы там. шэпчацеся, купчыхі?*

*Заліваліся смехам дзеці — смяяліся і дарослыя, без*

*дай прычыны, проста ад радасці за іх весялосць. Пэўна, гэта найвышэйшая радасць, якая можа быць у чалавека.*

*— Смецце яна табе прысылае, твая Ірэна Баляславаўна. Гультайка была, якіх свет не бачыў. Але разумная. Галовы кружыла нават прафесарам... Тыповая полька.*

*— Не адзываліся дрэнна пра полек. Павел зараз піша пра сваю франтавую любоў Ванду і... плача ад замілавання. Увесь рукапіс у плямах.*

*— Што ты. выдумала? Мае рукапісы заўсёды былі ў плямах — ад дзіцячых пальчыкаў. Там мурзілка Віта палазіла.*

*— Я не мурзілка, у мяне чыстыя пальчыкі,— дзяўчынка паказала ручкі з растапыранымі пальчыкамі,— Міка — мурзілка,— у Міхаліны ручкі запэцканыя варэннем.*

*— Укушу за вуха,— з дарослай сур'ёзнасцю папярэдзіла сястру Міхаліна.*

*Вітка закрыла свае вушкі далонямі. Зноў усіх рассмяшыла.*

*— Між іншым, дарагая жоначка, чытаць тое, што чалавек піша для сябе... для душы, нядобра.*

*— Мне нядобра? — здзівілася Валя.— А хто табе перадрукуе на машынцы? Акрамя мяне, ніводная машыністка не разбірае твайго курынага почырку.*

*— А навошта гэта перадрукоўваць?*

*— Ты не думаеш публікаваць свае ўспаміны? — бадай заклапочана спытала Зося.*

*— Не знаю.*

*— Дай мне пачытаць — і я табе скажу. Дасі?*

*— Табе — дам.*

*— Але знай маю думку загадзя: залішняя раскоша для чалавека, які ўмее пісаць, тры гады працаваць над ваеннымі ўспамінамі і... не надрукаваць. Недаравальная раскоша.*

*— Што падумаюць студэнты пра свайго прафесара?*

*— Павел! У цябе былі амурныя гісторыі? — здзівілася Зося.— Ніколі не паверыла б. Такі адналюб!*

*— Ён хітра піша: усе дзяўчаты трацілі галовы ад свайго камсорга, а ён толькі і ведаў адно — выхоўваць іх.*

*Зося зарагатала. Жончын жарт, няхай сабе і жарт, непрыемна ўкалоў.*

*— Пасаромейся, Валя. Я пішу шчырую праўду.*

*— Праўда — яна ў кожнага свая...*

*— А я веру, што ён піша праўду. Праўдалюбства яго, ты знаеш Валя, часам выводзіла мяне з раўнавагі. Нельга жыць без дыпламатыі... у наш добры час. Але гэта зрабіла Шыянка самым аб'ектыўным гісторыкам.*

*Зрабілася непрыемна, што жанчыны гавораць так, быццам мяне няма. Паспрабаваў адвесці размову і ад маіх успамінаў, і ад маёй персоны ўвогуле. Але зрабіў не той ход.*

*— Што там у нас на кафедры?*

*— Ты пытаеш, што на тваёй роднай кафедры, Павел! Я цябе разнясу на бліжэйшым партыйным сходзе, што ты ўхіляешся ад жыцця кафедры. Ты як чужы прафесар, прыехаў, адчытаў курс — і бывайце здаровы, жывіце багата. Неразумны пратэст!*

*— У мяне — пратэст? Як ты магла падумаць? У мяне і думкі такой не з'явілася. Проста мне хораша працуецца, і я спяшаюся дадому. Ніколі не думаў, што ваенныя ўспаміны могуць так захапіць. Не іранізуй, Валя, калі ласка.*

*— Адкуль ты ўзяў, што я іранізую? Траціш пачуццё гумару, Павел.*

*— О, о! Калі ты заўважыла такую хваробу, то прашу і цябе, і цябе, Зося, не давайце ёй перайсці ў хранічную. Страціць гумар — стаць падобным на Мар'ю.*

*— Між іншым, «цётка» зноў у бальніцы. І — ты знаеш — адбываецца цуд: усе раптам вельмі ж падабрэлі. Выходу хоць да раны прыкладвай. І Барашка — такі гжэчны кавалер, нават перад намі, бабулямі, кампліментамі рассыпаецца. А ўжо як завіхаецца каля Раісы Сяргееўны — смех і грэх. Ці не хоча, каб прадставіла яго мужу ? Дарэмна стараецца. Райка становішчам мужа, як высокім плотам, адгарадзіла сябе і ад добрых і ад благіх спраў. Ты помніш, каб яна хоць каму-небудзь зрабіла хоць такусенькую, з мой пазногаць, паслугу?*

*Праўда, і непрыемнасці не зрабіла. Ці помніш ты хоць адну яе заўвагу каму-небудзь? Ёй, майляў, нельга з-за мужа. Пазіцыя — хітрэйшую не прыдумаеш.*

*— Зося! Робішся зласлівай.*

*— Адкрыў Амерыку! Я ўсё жыццё ваявала і супраць «цётак», і супраць раёк, і супраць лібералаў такіх, як ты.*

*— Дзякую.*

*— Спажывай на здароўе.*

*— Не заводзьцеся, калі ласка, а то зноў пасварыцеся,— папрасіла Валя.*

*— Не бойся. Я сёння добрая. А «цётку» мы з табой недаацанілі. Пачынаю думаць, што не Барашка, а яна стварае атмасферу. З-за сваіх хвароб яна ненавідзіць нас, здаровых. Хоць хто з нас здаровы? З жахам думаю, што было б, каб яна дабралася да загадвання кафедрай. Кашмар! І для нас і для яе.*

*— Пашкадуй хворага чалавека.*

*— Калі хворая, няхай ідзе на пенсію.*

*— Разгоніш усю прафесуру, бо сапраўды: хто з нас здаровы? Ты? Я? Пятроўскі?*

*— Пятроўскі твой — што атамны ледакол, толькі без верталётаў на палубе.*

*Міхалінка пырснула смехам.*

*— Лысы ледакол. Без верталётаў. Ха-ха-ха,— ажно застукала ножкамі ў верх стала.*

*— Вы навучыце, што яна яму ляпне,— затрывожылася Валя.— Дзяўчаткі, напіліся чаю? Марш гуляць!*

*Але Міхалінка нешта шаптала Віцы, і тая ад смеху ўціснула галоўку ў плечы, сцялася ў камочак. У Мікі дурная звычка кусаць за вуха, але, навучаная не раз горкім вопытам, Віта ўсё роўна ахвотна падстаўляе сястры, сваё вушка. Гэта і смешна і кранальна. «Ды не будзь жа ты такой авечкай»,— вучаць яе бабуля і маці, але нічога не памагае. А мне гэтая яе мяккасць, лагоднасць падабаецца, хоць любуюся, безумоўна, больш невычарпальнай на выдумкі гарэзай Міхалінай, яна — лідэр не толькі ў адносінах да сястры, яна лідэр у двары, праз Пятнаццаць мінут робіцца ім на любой дзіцячай пляцоўцы. Часта жартую, што не я выхоўваю яе, а яна мяне. У жарце гэтым нямала ісціны: дзеці сапраўды робяць нас і дабрэйшымі і... разумнейшымі.*

*— Яшчэ гарбаты хочаш, Зося?*

*— Бурда, але добра — налівай.*

*— Прытупіўся ў цябе смак.*

*— На чай, можа, і прытупіўся, на людзей не прытупляецца. Каго не вазьму на зуб, адразу разгадваю, што за фрукт: лімон, банан ці хрэн...*

*— Хрэн горкі, фу,— нагадала сур'ёзна Віка.*

*— Таму я і выплёўваю яго, дзіця маё.*

*— У мінулы раз ты піла гэты ж чай і хваліла.*

*— Нельга чалавеку адразу адвальваць многа пахвалы. Яна. — што лекі, патрабуе дазіроўкі.*

*— Няўжо збіраешся пахваліць мяне? Даўно не чуў.*

*— Не я хачу хваліць. Людзі хвалілі.*

*— Яшчэ ёсць такія дзівакі?*

*— Ты дрэнна думаеш пра сваіх вучняў.*

*Пры такім павароце гуллівы тон не да месца, і я адказаў сур'ёзна:*

*— Ты знаеш, што я добра думаю пра іх. Нават...*

*— Вось гэтае тваё «нават» мне не падабаецца, тваё евангельскае ўсёдараванне. Ніякіх «нават». Добра думай пра добрых людзей.*

*— Дык хто мяне хваліў?*

*— Ім усё ж сорамна стала, што яны гэтак бесцырымонна расправіліся са старэйшым прафесарам.*

*— Чаму расправіліся? Агульная тэндэнцыя: абмалоджваць кадры. Сама кажаш: старэйшы. Ці не лічыш ты гэта. прыемным кампліментам?*

*— Абмалоджваць трэба з розумам.. З захаваннем пераемнасці. Дайшло да іх.*

*— Да каго?*

*— Да рэктарата і парткома.*

*— І. што? — выказала нецярпенне Валя.*

*— Рыхтуй рошчыну на пірагі. Купляй каньяк, а то, кажуць, скора ўвядуць сухі закон. А за акадэміка нельга не выпіць.*

*— За якога акадэміка? — мне здалося, што жонка спалохалася, на твары яе ажно плямы з'явіліся.*

*— Прынята рашэнне парткома рэкамендаваць твайго богам суджанага ў акадэмікі. Даўно пара. Важнейшы ідэалагічны факультэт і — ніводнага нават членкора, хоць бы якога-небудзь. А чаму ў вас кіслыя фізіяноміі? Я хацела прымусіць вас танцаваць за такую навіну.*

*— Баюся, выб'е гэта яго з раўнавагі,— нявесела сказала Валя.— Знаеш, Зося, мне вельмі падабаецца яго цяперашні спакой.*

*Малайчына, Валя! Як яна адчувае мой настрой, як адгадвае думкі!*

*— Пасадзі яго пад шкляны каўпак! — Соф'я Пятроўна ўзлавалася, так здаралася нярэдка, калі я праяўляў абыякавасць да ўласных выгод.— Няхай запрыгоненая табой, феадал, жонка не разумее. А ты чаму не радуешся?*

*— Я парадаваўся б, напэўна, каб ты сказала, што мяне выбралі. А так... Занадта добра я ведаю, якая агромністая дыстанцыя ад вылучэння да выбараў. А якая хваля ўзнімецца! На той жа нашай кафедры. На факультэце. У іншых інстытутах.*

*— Няхай узнімецца! Няўжо ты так баішся гайданкі?.*

*— Не баюся. Але я заплыў у ціхую гавань і стаў на прыкол. І мне хораша. Спакойна, як сказала мой добры лоцман,— я лёгка абняў за плечы жонку.— За трыццаць шэсць гадоў штормы, больш матлялі яе, чым мяне.*

*Соф'я Пятроўна не на жарт зазлавала.*

*— Штосьць пацягнула цябе на марскую тэрміналогію. Але марак з цябе, прабач... Не зведаў ты сапраўдных штормаў, таму рана і ў бухту сябе загнаў, на прыкол. Вельмі рана, Павел! Мне сорамна за тваю абывацельскую філасофію...*

*— Зося!*

*— Не бойся. Ён не пакрыўдзіцца. Я ўсё ж лічыла цябе байцом. А ты лапух. Не ўздумай адводзіць сваю кандыдатуру. Паважаць не буду.*

*Бываюць прыемныя звесткі, якія выбіваюць з раўнавагі мацней, чым іншая бяда. Нямала бяссонных начэй каштавала мне гэтае вылучэнне.*

6

Трэці тыдзень, як прыкрываем... Што будзем прыкрываць — пра гэта ў Познані не паведамілі нават афіцэрам. Магчыма, што і Кузаеў не ведаў. На вайне кожны аб'ект важны — мост, станцыя, армейскія тылы... А тут ёсць і мост, і станцыя, і складаў — не злічыць. Але калі прыбылі сюды, у параўнаўча невялікі гарадок Ландсберг на Варце (ёсць дзесьці на захадзе Германіі яшчэ адзін Ландсберг), то хутка даведаліся, што нам моцна пашанцавала. Праўда, гаварылі пра гэта амаль шэптам і афіцэры і радавыя. Але з радасцю. Па-першае, можна лічыць, дагналі перадавыя часці самага ўдарнага фронту, якому належыць штурмаваць Берлін,— да Одэра ўсяго нейкіх трыццаць кіламетраў, у вясновыя ціхія світанні чуваць кананада. Пэўна ведаем: акрамя мастоў прыкрываем аб'ект, які не пазначаны на картах —

штаб маршала Жукава. Але ніхто з нас не ведаў, дзе яна, стаўка камандуючага. Усе дзяржаўныя будынкі, школы, бальніцы, замак і некаторыя жылыя дамы былі заняты ваеннымі штабамі, вайсковымі ўстановамі. Усюды вартавыя.

Ходзячы з батарэі на батарэю, на кулямётныя ўстаноўкі, я не прамінаў, каб не прайсці па цэнтру, дзе немцаў, бадай, не засталося,— адны вайскоўцы. Спадзяваўся, што раптам па нейкай дэталі, па паводзінах вартавых, па звычайнаму эскорту машын здагадаюся, дзе канкрэтна штаб-кватэра маршала. Пэўна, мае частыя паходы не засталіся незаўважанымі, і аднойчы мяне затрымалі тры афіцэры — відаць, контрразведчыкі, званілі ў дывізіён, ці ёсць такі малодшы лейтэнант, нават прыкметы распытвалі — які я.

Тужнікаў даў мне праборку:

— Ты, аказваецца, не палітработу вядзеш, а бадзяешся па горадзе. Яшчэ раз затрымаюць — пасаджу пад арышт.

Да работы сваёй я сапраўды астыў. Вышэй баявы дух байцоў і афіцэраў-камсамольцаў не ўздымем, як узняты ён ходам вайны, нашымі перамогамі і тымі пазіцыямі, якія заняў дывізіён.

Блукаў я па горадзе яшчэ па адной прычыне: вельмі хацелася ўведаць жыццё немцаў.

Ландсберг (край гор) — увесь на ўзгорках, на вышэйшым з іх — старажытны замак, а ўся цэнтральная частка — вялікі парк, маляўнічы нават ранняй вясной, калі дрэвы яшчэ голыя.

Па логіцы КП наш варта было б размясціць на адным з узгоркаў, але нас туды яўна не пусцілі. Ваенны камендант паказаў чатырохпавярховы дом на ўскраіне, у пойме Варты. Жылы дом. Але жыхароў там засталося нямнога — большасць уцякла з гітлераўскай арміяй за Одэр. Пасля даведаліся, што ў доме, відаць, кааператыўным, жылі служачыя фашысцкага суда, пракуратуры, паліцыі. Тыя, хто застаўся ў доме, пераважна старыя, яўна адчувалі сваю віну. Ім далі тры гадзіны на высяленне — яны пакінулі дом за сорак мінут. Захапілі толькі тое, што можна было панесці ці павезці на тачцы. Нас, сялянскіх дзяцей, здзівіла багацце, што засталося ў доме. Якая мэбля, посуд! Якая бялізна! Ды і прадуктовых запасаў засталося нямала ў каморках, у падвале, асабліва шклянак з варэннямі і саленнямі, нават бурачнік быў закансерва ваны. Здзівіла гэта. Пры такой мэблі, пры такой кух ні — і бацвінне. Даваяваліся, гады? Але мацнейшай была злосць на іх багацце. Чаго ж ім не хапала? З-за злосці гэтай і ад няведання цаны рэчам, якіх ніколі не бачылі, байцы часам рабілі глупства. Аддзяленню «дзядоў» і юнакоў апошняга прызыву загадалі ачысціць верхні паверх пад штаб, КП. Зносіць рэчы ўніз, падымацца

на чацвёрты паверх — работа нялёгкая. І яны «рацыяналізавалі» сваю працу: крышталёвыя фужэры, чаркі, талеркі і салатніцы з саксонскага фарфору паляцелі праз акно дадолу. І ўсім, хто бачыў гэта, у тым ліку і нам, афіцэрам, здалася такая ачыстка натуральнай. А з'явіўся Тужнікаў і... страшэнна абурыўся. Даў камандзіру ўзвода спагнанне. Супярэчліва здзівіў мяне прыдзірлівы нампаліт. Гэта не прыдзірка, не, абурэнне яго шчырае. Ён доўга і катэгарычна гаварыў пра тое, што разбураць вынікі чалавечай працы — недаравальна, што толькі фашысты рабілі гэта. Але я, бадай, зласліва падумаў: «Такі праведны, а нямецкага буржуйскага дабра пашкадаваў». Але Калбенка, калі я выказаў яму свае адносіны да крышталю, нечакана падтрымаў Тужнікава, што рабіў рэдка.

Узбунтавалі яны мяне. Як жа адносіцца да іх, да немцаў? Прыгадалася, як мы сваім ходам ішлі ад Познані да Ландсберга.

На даваеннай польска-нямецкай мяжы, на доўгім будынку пагранічнай аборы двухаршыннымі літарамі было напісана: «Вот она, проклятая Германия!!!»

Надпіс гэты і ўзрадаваў — дайшлі, дайшлі мы да яе! — і неяк дзіўна ўсхваляваў — з'явілася прага помсты. Мяне гэта пачуццё, бадай, спалохала. Каму помсціць? Успомніліся словы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага: Гітлеры прыходзяць і адыходзяць, нямецкі народ застаецца, той народ, што даў свету вялікіх мысліцеляў, паэтаў, кампазітараў, даў узоры высокай тэхнікі. Але розум гаварыў адно, а сэрца — зусім іншае.

Яшчэ больш я спалохаўся, калі праз нейкія паўгадзіны адбыўся выпадак, які лёгка зразумець, але нялёгка мне, палітработніку, скласці пэўныя цвёрдыя і шчырыя, не афіцыйныя, адносіны да самога факта.

Я напрасіўся ехаць з першай батарэяй цягнула да Данілава. А можа, да Лікі? У Познані батарэя размяшчалася далёка ад штаба, на ўскраіне горада, і я не часта наведваўся на яе, стаяла ж там усяго тры тыдні. Раніцою перад ад'ездам звярнуў увагу на свайго земляка Сямёна Тамілу, камандзіра штабнога ўзвода ўпраўлення. Ён залішне завіхаўся, як быццам баяўся, што спозніцца ў эшалон, злаваў на байцоў, якія грузілі маёмасць на машыны, хапаў сам цяжкія рэчы, і... задыхаўся, як астматык. Я здагадаўся, чаму ён такі: праз колькі гадзін будзем у Германіі. І я ўстрывожыўся — як ён павядзе сябе. Папрасіў Калбенку, які ехаў са службамі штаба, прасачыць за ім.

Пра другога чалавека, які перажыў такую ж трагедыю, што і Таміла, я чамусьці не падумаў. Хаім Шыманскі паводзіў сябе роўна, толькі неяк даўно сказала мне шосты нумар яго разліку Галя Піскун,

што па начах камандзір плача. У даверлівай размове я сказаў Хаіму пра гэта. Здзівіўся камсорг батарэі.

«Табе сказала Піскун? Ха! Знайшоў каму верыць. Скажыце, калі ласка, яна чула! Яна спіць што забітая! Яе не можа разбудзіць трывога. Адзін раз пры начной стральбе я сказаў: не будзіце яе. І што ты думаеш? Батарэя зрабіла добры дзесятак залпаў. Яе засыпала ў зямлянцы пяском. Аднак яна не прачнулася. Зайздросны сон. Скажаш — не? Нам бы з табой такі!»

Сачыніў Хаім, як кажуць, на хаду. Заўсёды так рабіў: каб ухіліцца і не адказваць на нялёгкае пытанне, расказваў то біблейскую прытчу, то выпадак з местачковага жыцця, то вось гэтак нешта прыдумляў.

Кіламетраў за пятнаццаць ад мяжы — першы гарадок Шверын. Спыніліся напаіць людзей, заліць ваду ў радыятары падношаных машын. І раптам падбегла да нас з Данілавым спалоханая Аня Габава, крыкнула не па форме:

— Ой, таварыш старшы лейтэнант! Што там робіць Шыманскі!

Кінуліся ў дом, які яна паказала, знізу пачулі, як звініць шкло. Ускочылі ў кватэру на другім паверсе.

У вялікім пакоі Шыманскі прыкладам аўтамата крышыў шыкоўную мэблю, посуд. Падлога была ўсыпана асколкамі люстраў, чарапкамі, шклянкамі. А Хаім з непрытомнай апантанасцю разбіваў вялікі прыгожы шыфаньер, ён быў вельмі трывалы — ці не дубовы? — зроблены практычнымі немцамі, можа, паўстагоддзя назад. Але ад яго ляцелі трэскі. Ды і прыклад аўтамата раскалоўся. Мы з Данілавым, з Аняй, яшчэ з некім з байцоў схапілі старшага сяржанта за рукі, адабралі аўтамат. Але, маленькі, вяртлявы, Шыманскі вырваўся і кулакамі ўдарыў у шкло серванта.

Не адразу ўбачыў я, што ў кутку нерухома сядзіць стары немец з шапкай сівых валасоў, у цёплым карычневым халаце. Угледзеўшы немца, жахнуўся, што Шыманскі забіў яго. Не. Стары сядзеў роўна і, здалося мне, пасміхаўся. З чаго? Прымаў кару з евангельскай пакорлівасцю? Ці адчуваў сваю перавагу над маленькім яўрэем, што помсціў не яму — дабрабыту яго, уладжанасці, камфорту, які захаваўся пасля таго, як тут пракаціўся фронт.

Знясілены Шыманскі сеў на падлогу, закрыў твар акрываўленымі рукамі і плакаў, упершыню адкрыта — перад камандзірамі, байцамі і перад немцам. Ці не з гора яго і роспачы той пасміхаўся? І я ў гневе ступіў да немца:

«Што выскаліўся, старая падла? Ты ведаеш, што сыны твае зрабілі з яго сям'ёй, з мільёнамі нашых людзей?»

І немец, як бы зразумеўшы, спалохаўся — усмешка знікла, твар выцягнуўся, вочы напоўніліся страхам.

З пагрому пасміхаўся — слоў спалохаўся.

Дзяўчаты перавязалі камандзіру гарматы рукі, як маломy выцiралi вочы. Паднялі яго, знясіленага, павялі ў машыну.

Мы з Данілавым стаялі каля разбітага акна. Каля дома сабралася ўся батарэя. «Хто яго? Хто?» Каб нехта па неасцярожнасці сказаў «немец» — уяўляю, як бы кінуліся сюды хлопцы.

А вуліца вузкая, і па ёй няспынна імчалі ваенныя грузавікі — на фронт і з фронту. Каб не падбілі каго з нашых.

Данілаў з акна гучна закамандаваў:

— Па ма-шы-на-ах!

Немец прыўзняўся, як бы ў паклоне, калі мы выходзілі.

...Хадзілі з Калбенкам па горадзе гэтак жа, як некалі па Мядзведжагорску, Петразаводску, Полацку.

Нашы гарады разбураныя вайной, там мы разглядалі руіны, папялішчы, а нямецкі — цэленькі, чысценькі, проста нейкі святочны ў вясновы дзень. Ашчадна яго бамбілі, прыцэльна: ушчэнт зруйнаваны адзін вялікі будынак, а навокал усё некранутае. Кажуць, у будынку, ад якога застаўся адзін друз, размяшчаўся штаб паветраных сіл усходняга фронту — стаўка Герынга. Акуратна працавалі нашы сокалы. Больш відавочныя сляды вайны на рацэ — узарваныя масты. Але гэта зрабілі самі фашысцкія войскі, каб затрымаць імклівы рух Чырвонай Арміі. Нашы часці паспелі ўжо аднавіць чыгуначны мост, а замест шашэйнага навялі пантонны.

Каб дайсці ад штаба да бліжэйшай батарэі (быць бліжэйшай на гэты раз выпала на долю трэцяй, ці не таму, што Саўчанка ўсюды прасіўся на самую дальнюю пазіцыю, каб знаходзіцца далей ад начальства, Тужыкаў і ахрысціў яго «ўдзельным князем»),— трэба ўзабрацца на круты абрыў і ісці па гародах. Яшчэ ў першы дзень мяне ўразілі гэтыя гароды. Здзіўлялі і, бадай што, захаплялі яны і на другі дзень, калі мы выбраліся з Канстанцінам Панасавічам у доўгі паход; ён назваў гэта «экскурсійнай прагулкай», я — «інспекцыйным абходам», на што Калбенка хмыкнуў: «Навучыўся ты, Павел, апраўдваць бяздзейнасць, добры з цябе бюракрат вырасце».

Гароды здзіўлялі перш за ўсё абгароджанасцю: невялікія квадрацікі, соткі па тры-чатыры, і кожны абнесены сеткай. Дзе толькі сеткі набралі? Захаплялі дагледжанасцю: з восені не засталося ніводнага апалага лісточка, усе зграблі, спалілі, і зямля ўсё роўна што рукамі перацёрта і тлустая, як маслам намазаная.

Сувязісты нашы, калі цягнулі лінію, прарэзалі ў сетках шчыліны — абагулілі індывідуальныя ўчасткі, за два дні батарэйцы і штабныя пратапталі на вільготнай глiністай зямлі сцежку.

Асабліва ўразіла, што ў такі ранні час — сакавік, хоць, праўда, цёплы,— на гародах ужо завіхаліся Старыя мужчыны — падразалі ягадныя кусты, пладовыя дрэвы. Крушэнне гітлераўскага рэйха не выбіла іх са звыклага працоўнага рытму, верацъ, што прыйдзе мір, усталюецца жыццё і трэба будзе харчавацца. Паміраць збірайся, а жыта сей, так вучылі нашы дзяды.

Немцы віталіся, падымаючы кепкі і берэты.

— Гутэн таг.

Я адказваў гучна, гулліва, усё роўна што спяваў, успамінаючы школьныя ўрокі нямецкай мовы: — Гу-у-тэн та-аг, панове фрыцы!

Мне сапраўды было весела — ад вясновага сонца, ад цішыні, ад паху зямлі, ад гэтай пачцівасці старых немцаў. А Калбенка, па натуры сваёй аптыміст, весяльчак, гумарыст, пазмрачнеў да таго, што ажно соп носам.

— Ты чаго падскокваеш, як малады казёл?

— А што? — разгубіўся я.

— Здымі перад імі, свалачамі, фуражку.

— Фуражку я перад імі не здыму. Аднак мне прыемна, што яны кланяюцца. Вы думаеце, няшчыра?

— Хрэн іх знае — хто шчыра, хто — няшчыра, у душу не залезеш. Але верыць ім не магу. І табе раю: вушы не развешвай. А то можаш і кулю ў спіну атрымаць.

Выбраліся з «клетак» на шашу і пайшлі па ціхай ускраіннай вуліцы, з цікавасцю зазіраючы ў гэткія ж дагледжаныя, як садовыя ўчасткі, двары.

Калбенка змрачнеў больш. Раптам ён паказаў мне на двухпавярховы дом.

— Глядзі!

Я нічога не ўбачыў: дом як дом, хіба старэйшы за іншыя, і на атынкоўцы яго засталіся рэдкія шкрабіны ад куль; раней мы бачылі толькі вынікі работы нашых бамбардзіроўшчыкаў, слядоў наземных баёў не відаць было. Здалося, што Канстанцін Панасавіч і звяртаў маю ўвагу на гэта.

— Кулі? Канешне, ішоў бой. Ніводнага населенага пункта яны не здаюць без бою. А тут — горад!

— Якія кулі! Падэшва.

У акне другога паверха разбітыя шыбы былі заслонены ладным кавалкам дыхтоўнай падэшвеннай скуры, жаўцізна яе ажно зіхацела на сонцы.

— Сволачы! Нацягалі дабра з усёй Еўропы. Вокны падэшвамі засланяюць! Нашымі, канешне. Можаш уявіць, што ў такі час нехта ў нас выставіў бы ў акно скуру на пяць пар падноскаў. Пайшлі забяром. У мяне падэшвы прадзіравіліся. А калі Кум выдасць новыя боты! Не дачакаешся.

Я сумеўся.

— Няёмка, Канстанцін Панасавіч. Мы ж — не яны. Два палітработнікі...

— А такую тваю... Усё табе няёмка. Я табе неаднойчы казаў, што няёмка рабіць. Усё астатняе ёмка.

Калбенка рашуча пайшоў у дом. Не мог я не пайсці за сваім парторгам, бацькам і сябрам. Але ўзнімаўся на другі паверх з вельмі складаным пачуццём сораму, ніякаватасці за яго, боязі — каб не прынізіць нам сябе.

Адчынілі дзверы — убачылі, як шмыгнула ў дальні пакой маладая немка. У сціпла, але не бедна, па нашым разуменні, абстаўленай пярэдняй засталася, можа, і не вельмі старая яшчэ жанчына, але пасівелая да снежнай белізны. Яна гасцінна запрасіла нас:

— Бітэ, бітэ.

Але не гасціннасць яе, а менавіта сівізна нарадзілі ў мяне зусім новае пачуццё, якому нельга было знайсці вызначэнне,— спачуванне, ці што... нешта амаль сыноўняе, што, бадай, спалохала: глядзець на немку, як на маці?!.

Мы прынялі яе запрашэнне і селі, пры гэтым я адзначыў, што Калбенка, які не губляўся перад генераламі, збянтэжыўся, бадай, гэтак жа, як і я. Збянтэжыліся ад таго, што немка села насупраць і глядзела на нас сумнымі вачамі, ківаючы галавой. Потым пачала гаварыць — расказваць. Пра што? Неаднойчы ўпікалі сябе, што ўсе вучылі нямецкую мову, аднак ніхто яе не ведаў, акрамя Лікі Іваніставай ды лейтэнанта Кулагіна, масквіча, здзіўляліся, што ён вывучыў мову ў школе, бо ў інстытут не трапіў, працаваў на заводзе.

Па знаёмых словах «зонэ», «мутэр» здагадаліся, што маці расказвае пра сына ці сыноў. Мабыць, сцяміўшы, што мы «ніхтфэрштэйн», яна паднялася і ўзяла на стале таўсценную, як біблія, кнігу ў скураной вокладцы, з залатой зашчэпкай. Разгарнула. Сямейны альбом. На першым лісце фатаграфіі двух хлопцаў, падобных на маці, у армейскай форме, адзін унтэр-афіцэр, другі — радавы, партрэты ў жалобных рамках. Жылі хлопцы, радавалі маці, а пакінулі ёй адно

гора. Што можа суцешыць яе? У мяне, сентыментальнага, набрынялі слязамі вочы, Калбенка ўпотай паказаў мне кулак і строга загадаў:

— Не раскісай.

— Генрых — Вінніца,— паказала жанчына на адну фатаграфію.— Ёган — Брэст,— і заплакала.

Як суцешыць? Хоць які-небудзь кантакт.

— Брэст — я,— тыцнуў пальцам сабе ў грудзі.

— Найн,— сказала яна і паказала рукой на захад.— Брэтань.

— Не той Брэст — французскі,— растлумачыў Калбенка і сказаў жорстка, на маю думку, для такой сітуацыі, добра, што немка не разумела: — Таксама нічога: адзін — на Украіне, другі — у Францыі. Няхай запомняць.

— Канстанцін Панасавіч, падэшву не будзем браць.

— Пайшоў да д'ябла, слюнцяй! — і, нічога не крануўшы, здзівіўшы гаспадыню нечаканасцю, пайшоў да дзвярэй.

Я ветліва развітаўся з немкамі, бо ў апошні міг выйшла з другога пакоя і маладая, дачка ці, можа, нявестка. Глядзела яна на мяне з дзіцячым здзіўленнем.

Дагнаў Калбенку на вуліцы.

— Ну, што, гуманіст? Рукі ёй не пацалаваў? Слязу не пусціў?

— Што вы, Канстанцін Панасавіч!

— Баба ты, Павел! Бесхрыбетны! Размазня! Малюск! — і яшчэ ў дадатак дзесятак салдацкіх эпітэтаў.

Але я не крыўдаваў. Словы не абражалі, наадварот, радавалі — за парторга радавалі, бо адчуваў я нейкім патаемным чуццём: і яму лягчэй ад таго, што наш візіт у дом да асірацелай маці, няхай яна і немка, скончыўся ўзвышэннем, а не падзеннем, не прыніжэннем нашым.

Дні праз два-тры ў «Правде» з'явіўся рэдакцыйны артыкул аб памылцы Ільі Эрэнбурга, які заклікаў да помсты немцам. Я прыняў ідэю артыкула, але адмовіць таго, што пісаў вядомы пісьменнік, таксама не мог. Артыкулы Эрэнбурга праз усю вайну фармавалі тую нянавісць, што ўзнімала савецкіх воінаў на подзвігі, якіх мала ведала чалавецтва за ўсю сваю гісторыю. Такая публіцыстыка, як і прамовы, загады Сталіна, была зброяй палітработнікаў. Эрэнбурга чыталі ўсе, нават тыя, хто ў гарачыя дні ў халодным Запаляр'і рэдка браў газету ў рукі. Я навучыўся данясенні пісаць «пад Эрэнбурга», можа, таму ў палітаддзеле іх хвалілі.

Тужнікаў паклікаў нас з Калбенкам, паказаў нам «Правду».

— Чыталі?

Безумоўна ж чыталі і паспрачацца паспелі.

— Прынцыповы артыкул. Падрыхтуеш, Канстанцін Панасавіч, інструкцыйны даклад для прапагандыстаў.

Калбенка падняўся, чаго ніколі не рабіў перад нампалітам, пры ўсёй складанасці іх узаемаадносін яны былі на ты.

— Таварыш маёр, я не гатовы...

— Да чаго?

— Да такіх адносін,— паказаў вачамі на газету.

Мяне здзівілі і сутнасць і форма — залішне статутная — яго заявы. Тужнікаў не здзівіўся, не абурыўся, толькі цяжка ўздыхнуў, быццам на яго ўзвалілі непасільную ношку.

— Думаеш, я гатовы? Два браты...— панурыў галаву, памаўчаў.— А што рабіць такім, як Таміла, Шыманскі? Бачылі? Таміла счарнеў увесь, але ж не пайшоў з аўтаматам на тых старых, што корпаюцца на гародах. У гэтым наша маральная сіла, дарагія мае памочнік. А ты — «не гатовы». Мы, камуністы, павінны быць да ўсяго гатовыя...

Калбенка ўвесь той дзень недзе хадзіў, і мне не сказаў — дзе, якое падраздзяленне наведаў, што рабіў. Пакрыўдзіў мяне: я сядзеў над дакладам, ён зазірнуў праз плячо, хмыкнуў:

— Шрайбаеш, пісака? Давай страчы па прынцыпу «што вам трэба».

А крыху пазней даў нам урок Хаім Шыманскі. Ашаламіў. Мяне, Калбенку. Нават Тужнікава. Нампаліт паклікаў мяне і даў пачытаць дзіўнае пісьмо. Друкаванымі літарамі. Ананімнае. Між іншым, першае ў маім жыцці, да таго я не меў справы з падобнымі пісьмамі. Нейкі «высокамаральны дабрадзей» інфармаваў, што камандзір батарэі Данілаў жыве з яфрэйтарам Іваніставай, а старшы сяржант Шыманскі звязаўся з... немкай. Ажно літары заскакалі перад вачамі.

— Верыш?

— Ніводнаму слову, таварыш маёр! Лухта! Гнюсны паклёп! Чорт ведае што! Каб выявіць даносчыка...

— Які спрытны. Не бывае дыму без агню. Калі ёсць хоць пяць працэнтаў праўды...

— Што гэта за праўда... пяціпрацэнтная?! Не бывае такой праўды! Не можа Шыманскі! Не можа!

— Наконт Шыманскага і я не веру. Немагчыма ўявіць. А за Данілава не ручаюся, цыган на хаду падноскі адарве. Ім я сам займуся. Калі праўда,— прымусім ажаніцца. А табе даручаю твайго камсорга. Панюхай, ад чаго патыхнула такім ванючым дымком.

Не ішоў, а бег я на батарэю — як апантаны. А яна няблізка, на паўднёвай ускраіне, на другім беразе Варты.

Пра Шыманскага не думаў, бо цвёрда не верыў. А пра пачуцці Данілава ведаў, таму гэтай ананімнай інфармацыі не верыць не мог. Ведаў я нямала фактаў сувязі, адкрытай, як у Саўчанкі з Ірай, і тайнай, як у Маслоўскага з Глашай, і, не ў прыклад Тужнікаву, адносіўся да гэтага паблажліва, так вучыў Калбенка: на яго думку, было б дзіўна і ненатуральна, каб там, дзе разам жывуць, ваююць маладыя хлопцы і дзяўчаты, не было кахання, пацалункаў, а ўрэшце, і нараджэння новага жыцця. «Мы што, манахамі парабіліся, што ханжаствуем?» — не баяўся парторг выказаць свае адносіны да гэтай з'явы і Тужнікаву, і Кузаеву, і нават начальніку палітаддзела корпуса, на шчасце, чалавеку разумнаму, які адказаў: «Усё правільна, таварыш сакратар райкома (дзіўна звярнуўся!), але трымайце свае думкі ў рэчавым мяшку, да сканчэння вайны».

Каб Данілаў ажаніўся, як Саўчанка, я, напэўна, прыняў бы гэта спакойна. А магчымая іх тайная сувязь паліла сэрца — абурала і абражала. Адчуванне такое — бы мне нахабна здрадзіў блізкі дарагі чалавек. Хто? Данілаў? Не хітруй, тузаў я лейцы, якімі хацеў зацугляць свае ўзнятыя на дыбкі пачуцці. Ліка. Але чаму яна здрадзіла? Чаму я думаю так, быццам яна належала мне? Я яшчэ і сказаць не адважыўся, што яна падабаецца мне, толькі ручку пагладзіў. Але які ток працінаў сэрца, калі я гладзіў гэтую руку ў вагоне, трымаў яе на мосце цераз Віслу! Ліка здавалася мне незвычайнай, незямной, ледзьве не нябеснай істотай. І раптам такое зямное грубае падзенне — вось што бунтавала і абражала.

Дзень быў сонечны, цёплы, вайскоўцы хадзілі ў кіцелях, у гімнасцёрках, але неспакойны, як ні адзін з таго часу, як мы сталі ў Ландсбергу,— разоў пяць ужо абвяшчалася, трывога, хоць бамбардзіроўшчыкі не з'яўляліся, відаць, іх перахоплівалі нашы знішчальнікі. На подступах да горада адбыўся паветраны бой паміж «мігамі» і «месершмітамі». Парадаваў ён тых, хто бачыў такія баі ў сорак першым. Тады, як правіла, гарэлі нашы «ішакі». А тут за колькі мінут зрэзалі двух «мееераў»: адзін, мабыць, асляплены, цягнуў не на захад, а на ўсход і ўпаў у пойме Варты, недалёка ад нашага штаба; пілот не выкінуўся, гэта — смяротнікі, ім не выдаюць парашутаў. Гітлераўскае камандаванне кідае людзей у мясарубку без літасці, без жалю. Перадсмяротныя сутаргі.

Батарэйцы дзяжурылі «па гатоўнасці адзін». Я ведаў з чатырохгадовага вопыту, што не любілі зенітчыкі гэтай гатоўнасці, якая магла на дзень прывязаць да гармат і прыбораў. У такі час — о, грэшныя! — жадалі налёту, які рэдка абыходзіўся без разбурэнняў, ахвяр. Тут, у

фашысцкім логаве, пра разбурэнні не думалі, не сваё — іх, тым больш прагнулі бою.

Але ўвогуле атмасфера на батарэі мне не падабалася. Данілаў быў раздражнёны, злосны. І выглядаў не звычайна — не па-маладзецку, нейкі як бы пакамечаны, з мяшкамі пад вачыма, што ўзняло маю падазронасць і балюча кранула. Чаму ён такі? Але тут жа падумаў, што чалавек, якога пакахала такая дзяўчына, павінен выглядаць шчаслівым.

Звычайна камбат радаваўся майму прыходу, а тут сустрэў абыякава, ледзьве не з прыкрасцю, здавалася, вось-вось скажа: бадзяецеся тут, рабіць вам няма чаго...

Я адвёў яго ад каманднага планшэта, каля якога стаялі камандзіры ўзводаў. Сказаў пра Шыманскага. Камбат зрэагаваў гэтак жа, як я:

— Сабачае «гаў», ні больш ні менш.

— Напісалі з батарэі.

— Хто?

— Каб мы ведалі — хто! Не падпісаўся.

— З маёй батарэі такога не маглі напісаць!

Якая самаўпэўненасць! Каб я сказаў, што пра цябе напісалі! Але Тужнікаў забараніў. Між іншым, у дарозе я вырашаў і гэтую нялёгкую задачу: што вышэй — воінскі абавязак, загад камандзіра ці закон сяброўства?

— Я буду гаварыць з Шыманскім.

— Ты пытаеш у мяне дазволу?

— Не. Але каб ты ведаў.

Шыманскага я таксама адвёў ад гарматы; гатоўнасць — не трывога, можна камандзіру за дваццаць крокаў адысці.

— Слухай, Хаім, не здзіўляйся толькі...

— Не хвалюйся, я не самлею. Якія яшчэ непрыемнасці мяне могуць чакаць!

— Нам паведамілі, што ты... звязаўся з немкай.

— Харошая ў цябе інфармацыя. Я такі звязаўся з немкай,— спакойна адказаў ён.

Ашаламіў. Здалося, у мяне ўсе вантробы абарваліся.

— Ты? З немкай?

— Ты пра што думаеш, Павел? Вай-вай! І ты бачыш толькі ніжні паверх? Глянь вышэй! Дні тры назад мы з Віцем Маслоўскім прайшліся вунь там,— паказаў ён на ўскраінную вуліцу,— па дамах. Нам трэба цвікі. Ён узяў мяне за перакладчыка, хоць я ведаю так па-нямецку, як ён па-кітайску. Але не бойся, пра цвікі я ўмею запытаць. І

мы такі іх знайшлі. Але ў адным доме ўбачылі вельмі хворае дзіця, і маці сказала, што іх трое, малых, а ў яе няма хлеба. А нашы хлопцы... ты не знаеш нашых хлопцаў, гэтыя сарвігаловы з-пад зямлі дастануць... яны «раскулачылі» недзе вуллі, а ў іх яшчэ застаўся мёд, не спажылі за зіму пчолы... Хлопцы прынеслі цэлае вядро. У дзяўчат балелі жываты ад гэтага мёду... Дык я занёс слоік мёду, баначку згушчанага малака і буханку хлеба таму хвораму дзіцятку. Дзеці ёсць дзеці. Хіба не так, скажы мне?..

Трохі не падскочыў я ад радасці: як гэта сугучна маім думкам! Шкада, што не чуе Калбенка! Малайчына Шыманскі! Але гэта так натуральна, па-чалавечаму, што любая пахвала здавалася б недарэчнай. І я мог сказаць толькі адно, абагуленае, без акцэнту:

— Добрыя мы з табой людзі, Хаім.

— Ха! Ты раўняеш мяне з сабой! Што я? Як казаў мой бацька: я — бедны яўрэй.

— Не прыбядняйся. Ты багаты чалавек. Душэўна.

— Якая цана гэтаму багаццю?

— Яму няма цаны.

Відаць, Шыманскаму не хацелася гаварыць на гэтую тэму, таму ён спыніў, паказаўшы на неба:

— Як думаеш, яны прарвуцца?

— Наўрад.

— Знаеш, мне хочацца, каб мы збілі хоць аднаго сцярвятніка тут... над Ландсбергам. Я мог бы думаць, што збіла мая гармата. Як ты назавеш такое жаданне?

— Натуральным. Але лепш, каб яны но прарваліся. Ты ведаеш, што мы прыкрываем.

— Думаеш, што штаб на верхнім паверсе? Ён — пад зямлёй.

— У горадзе тры шпіталі.

— Так, шпіталі. Пра іх я не падумаў.

Вярнуўся на НП.

Размова з Данілавым не атрымоўвалася, ніколі ён не быў гэткім няўважлівым і ў той жа час прыдзірлівым да падначаленых.

Дзяўчатам было сумна каля прыбораў, яны шушукаліся, смяяліся: вясна, маладосць! Камбат наскочыў на камандзіра прыбора:

— Маслоўскі, што за базар? Раскудахталіся, як куры. У неба глядзіце!

Я спусціўся ў прыборны катлаван, адвёў земляка ў траншэю паміж ПУАЗО і дальнамерам.

— Віця, хто цыгану сапсаваў настрой?

— Каханне. Мне яго шкада. Нічога ў яго не будзе. Яна непрыступная. А добрая пара была б. Такая прыгажуня!

Раўніва ёкнула сэрца.

— Ну, ты не аблізвайся, што кот.

— Я ўжо аблізаўся. У мяне сын нарадзіўся.

— У Глашы?

— А ў каго ж! Дзівак. Я тут учора на руках хадзіў перад дзяўчатамі — ад радасці. А што яна пра цябе піша! Пацалуй, кажа, Паўліка за мяне. Я ажно зараўнаваў. І рашаю праблему, дзе цябе цалаваць — пры людзях ці за тымі вунь кустамі. Дык голыя ж яшчэ... Ці кухталя табе даць? Што больш даспадобы?

— Гэта ты ад радасці такі вясёленькі?

— А ты думаў!

— Маслоўскі! Чорт вазьмі! Супакоіце вы сваіх гусак?

— Не пазнаць чалавека. Быў як пластыр, стаў што ёрш. Як не датыкнешся — уколешся,— і весела гукнуў: — Бабы! Ша!

— Вы што, камандаваць развучыліся? Я вас навучу! Разбалбаталіся!

Сапраўды — не пазнаць. Гаварыць з ім немагчыма і не варта, бо можа паслаць «у далёкі табар». Ды і цікавасць знікла: усё растлумачыў Маслоўскі. Узрадаваў пераконанасцю, што «нічога ў яго не будзе, яна непрыступная». Нядобра — жадаць сябру няўдачы ды яшчэ і радавацца гэтаму.

Са мной так звыкліся, такім сваім я быў у кожным аддзяленні, што рэдка хто з малодшых камандзіраў дакладваў. Ліка далажыла:

— Таварыш малодшы лейтэтант, разлік дальнамера дзяжурыць па баявой гатоўнасці.

Была яна падцягнутая, спадніца і гімнасцёрка старанна адпрасаваныя, даўно заўважылі, што Іваністава, як ніхто, умее так падагнаць салдацкую форму, што яна робіцца элегантнай. Зрабіла яна гэта бадай жа ўсім дзяўчатам на батарэі; Кумкоў так і называў іх «данілаўскія модніцы» — з пахвалой за акуратнасць.

Але сама Ліка была нязвыкла насцярожаная — што палахлівая казуля. Не рабіла яна гэтага, а здалося — прыслухоўваецца і азіраецца.

Я пачаў гаворку — не з ёй адной, з усімі, але тут жа пачулася каманда Данілава:

— Дальнамер! Дальнасць да самалёта над чацвёртым!

А баражыравала там не адзін знішчальнік — некалькі. Да якога даваць дальнасць? Аднак Ліка тут жа выдала дальнасць, ды ў падзяку атрымала:

— Не лавіце варон!

Убачыў, як задаволена пасміхнулася другі нумар Галя Чуб; пра яе дзяўчаты пляткарылі, што яна даўно і безнадзейна закахана ў камандзіра батарэі.

Паміж паведамленнямі пра дальнасць і вышыню Ліка прашаптала мне:

— Я хачу пагаварыць з вамі.

Таямнічасць такая яшчэ больш усхвалявала. Адвесці яе ад дальнамера, як Шыманскага ад гарматы, немагчыма пры такой пільнасці Данілава. Раўнівы цыган можа накрычаць і на яе — хіба можна гэтак на чалавека, якога кахаеш: «Не лавіце варон!»? — і на мяне можа ўз'есціся. Паляцяць ад нашага сяброўства асколкі.

Разоў, можа, пяць адыходзіў я да гарматы, да прыбора, на КП і вяртаўся назад, ажно Маслоўскі папярэдзіў мяне:

— Не хадзі да дальнамера, цыган кіпіць.

Пагаварыць з Лінай, вельмі коратка, удалося ў часе абеду. Пры такой гатоўнасці абед разносілі да гармат і прыбораў. Данілаў паклікаў абедаць мяне і на нейкі час знік, адарваў свае пільныя вочы ад таго, што робіцца на пазіцыі. Я выкарыстаў гэта: зноў ускочыў у кароткую траншэю. Ліка тут жа пайшла насустрач і ўсхваляваным шэптам папрасіла:

— Таварыш малодшы лейтэнант, перавядзіце мяне на трэцюю.

Вельмі нечаканая просьба.

— Чаму?

— Хачу быць бліжэй да вас.

Можна было прыняць гэта як прызнанне. Але я не ўзрадаваўся, наадварот, устрывожыўся. Няўжо Данілаў — далікатны хлопец! — так груба дамагаецца яе кахання, што ёй захацелася ўцячы? У такім разе варта перавесці, па такой прычыне пераводзілі. Але хіба я магу данесці Кузаеву ці Тужнікаву на лепшага сябра? Ды і доказаў у мяне ніякіх, Маслоўскі, які, безумоўна, ведае ўсе нюансы іх адносін, пераканаў у адваротным: «Нічога ў яго не будзе...» Тым больш не скажаш: яна хоча быць бліжэй да мяне. Патыхае паклёпам на дзяўчыну. Ды і самаго ўзнімуць на смех.

Пашкадаваў, упершыню, што пасля смерці Любові Сяргееўны праз Антаніну Фёдараўну ўгаварыў Кузаева не адсылаць Ліку з дывізіёна — выканаў просьбу Данілава. Каб адаслалі, рассеклі б усе вузлы і вузялкі. А цяпер яны зацягваюцца тужэй. Г я не маю сілы памагчы ні ёй, ні сабе, ні Данілаву. А што? Хіба я вораг яму? Каб яны пакахалі адно аднаго, няхай бы пажаніліся, цяпер гэта дазваляецца. І я парадаваўся б іх шчасцю. У мяне ж ёсць Ванда, яна ўзяла з мяне

слова... Але пераконанасць праніклівага земляка і сябра, якому я не мог не верыць, незвычайна ўзбунтавала мае пачуцці. Вяртаючыся ў штаб, я выйшаў за горад і доўга хадзіў па лугавой касе, любуючыся разлівам Варты. Прыгадаўся родны Дняпро, і, як ніколі раней, нясцерпна пацягнула дадому. Чаму раптам? Вайна ж не кончылася.

На батарэях зноў прагучалі сігналы баявой трывогі. Хоць весці агонь мне не трэба, можна паназіраць за боем і збоку, але сумленне не дазваляла прахалоджвацца ў такі час. Паспяшаўся на камандны пункт дывізіёна.

7

Шашэйны мост з боку горада быў разбураны ўшчэнт, тырчалі адны быкі. А ля паўднёвага берага два пралёты ўцалелі, толькі аселі да самай вады, адарваліся ад бетоннай набярэжнай. І нейкаму камандзіру прыйшло ў галаву паставіць на рэштках моста ўзвод МЗА, дзве гарматы з выключна дзявочымі разлікамі, мужчын я налічыў тры чалавекі, «дзядоў».

У першы ж дзень, калі мы ехалі са сваімі гарматамі на пантонным мосце, мне вельмі не спадабалася гэтая пазіцыя. І Данілаў згадзіўся, што неразумна выстаўляць гэтак людзей. На зямлі месца не хапіла, ці што? Бамбіць будуць у першую чаргу масты. Калі нават не думаць аб прамым пападанні, то бліжэйшая бомба ўзрыўной хваляй змахне людзей у ваду. Ды і няшчасны выпадак можа адбыцца пры начной трывозе, бо жывуць разлікі на беразе, у вялікай палатцы,— добра, хоць палатку вынеслі на трывалую зямлю,— і мусяць па драўляным насціле бегчы да гармат: нетрывалая агароджа — канаты, якімі пераплялі пакарэжаныя парэнчы.

Ідучы неяк на батарэю Данілава, я заглянуў да суседзяў... да суседак. Дзяўчаты тут жа акружылі мяне, усе адна ў адну, здаліся прыгажэйшыя за нашых, да сваіх, пэўна, прыгледзеўся, чужыя заўсёды прыгажэйшыя. Большасць — украінкі. Як хораша яны загаманілі на блізкай мне мове, дасціпныя жартаўніцы! Камандзір узвода ў іх таксама жанчына, лейтэнант, намнога старэйшая — гадоў пад трыццаць, з ордэнамі Айчыннай вайны, Чырвонай Зоркі, медалём «За адвагу». Гераіня для нашых войск! У мяне нават пачуццё зайздрасці варухнулася. Сустрэла яна мяне не вельмі ветліва, хоць я прадставіўся ёй напярэдадні на беразе. Дзяўчат яна адагнала, недалікатна і крыўдна для мяне.

«Што, маладога пеўня ўбачылі?»

«Знутры» пазіцыя іх яшчэ больш не падабалася: аселыя пралёты трэснулі і нахіліліся, гарматы стаялі на драўляных насцілах. Калі вада

ў Варце пачне падымацца, іх проста залье. Пра гэта хоць хто-небудзь думае?

Спытаў у лейтэнанта:

«Не баіцеся вы .стаяць тут?»

Яна скептычна пасміхнулася і ўкалола:

«Мы ж не тылавая абарона, мы — франтавы полк».

Полк нашага корпуса, гэта мы ведалі, але месяцы тры прыкрываў Прагу — тады, калі з-за Віслы білі нямецкія гарматы. Адказ камандзіра нагнаў большага страху за гэтых любых прыдняпроўскіх дзяўчат, маіх зямлячак — колькі там ад Рагачова да Кіева! І я ў той дзень папрасіў Кузаева пазваніць камандзіру палка ці дывізіёна, якому належыць узвод. Ён згадзіўся, што пазіцыя не лепшая, на брыючым зараз немцы не паляцяць, пабаяцца, і дамы на тым раўнінным беразе, і гарысты парк не закрыюць далягляд, так што выносіць пазіцыю на сярэдзіну ракі не было патрэбы. Камандзір дывізіёна паабяцаў пазваніць. Але прайшоў тыдзень, а гарматы стаялі там жа: мост відзён з каманднага пункта дывізіёна.

Я зноў нагадаў Кузаеву. Ён адказаў амаль сярдзіта: «Не лезь у чужы прыход. Займайся сваім дывізіёнам».

Даў зразумець, што так адказаў яму сусед — камандзір палка, вышэйшы па званню.

...Я мінуў узвод, хоць мне і карцела зайсці ў часе трывогі, але стрымала няласкавасць гаспадыні. І ў гэты міг яны вываліліся з-за кучавых вясновых воблакаў— ажно дзевяць «юнкерсаў», імкліва спікіравалі на масты. Шум матораў заглушыў свіст цяжкіх бомб. Схавацца можна было толькі ў бліжэйшых дамах. Туды і шуганулі ўсе, каго бамбардзіроўка захапіла на набярэжнай — і нашы, і немцы. Я не ведаў, ці ёсць там бамбасховішча, а хавацца ад бомб у доме наіўна, дах і столь прыкрыюць ад асколкаў сваіх снарадаў, але не ад паўтонных фугасаў.

Я ўпаў за парапетам. Абдало фантанам вады. У раку! Яшчэ ў раку! Зусім іншы па гуку — глухі ўдар за спіной. У зямлю! Не! Сыпанула пылам, дробным друзам. У дом! Ці не ў той, дзе хаваліся людзі? І раптам справа залішне звонкі ўдар са свістам — быццам бомба трапіла ў метал і зрыкашэціла. Блізкі ўдар — у тым месцы, дзе ўзвод МЗА. Я падхапіўся. О, жах! Крайні з уцалелых пралётаў рэзка нахіліўся ў бок берага, як бы стаў на дыбкі. Адарваўся ад першага. Гармата з насцілам спаўзала ў раку. Байцы... дзяўчаты... хто па парэнчах лез на прыбярэжны пралёт, а некаторыя ўжо ў вадзе; ва ўспененых узрывамі хвалях ныраюць іх галовы, чорныя, бялявыя. Дзіўна раскідала іх плынь: адны ўжо па сярэдзіне ракі... Сёстры мае

дарагія! Хто вас уратуе ў гэтай халоднай чужой рацэ? Але адна змагаецца з плынню, імкнецца падграбці да берага. Уміг разуў я боты і кінуўся ў раку наперарэз дзяўчыне.

Плывец я не надта які, хоць і вырас недалёка ад Дняпра. Але пра гэта не думаў. Ўратаваць! Хоць адну ўратаваць! Паспець пераняць, каб не праплыла міма, бо тады не дагнаць.

Паспеў! Але яна так схапіла мяне за шыю, што мы абое пайшлі пад ваду. Аднак вынырнулі.

— Адпусці маю шыю? Адпусці! Ты душыш мяне! Трымайся за рукаў і грабі да берага. Там пляж! Там пляж! Мелка.

А яна шаптала пасінелымі вуснамі адно:

— Браціку мой родны! Браціку...

Непадалёку ад чыгуначнага моста была пясчаная каса, водмель; практычныя немцы зрабілі на ёй гарадскі пляж; калі я праходзіў там, мяне чамусьці больш за ўсё абураў гэты абсталяваны пляж з каркасамі тэнтаў, з дзіцячымі атракцыёнамі: «Іў вайну, сволачы, загаралі».

Уся надзея мая была скіравана на гэтую водмель. Ведала пра яе і дзяўчына, бо пачала грабці спакайней. Але загадкавыя павароты павадкавай плыні. Як ні стараліся мы, яна развярнула нас і панесла на сярэдзіну ракі. А наперадзе чыгуначны мост, пралёты яго былі ўзарваныя, упалі ў раку; пагнутыя, пасечаныя дынамітам бэлькі, прэнты пагрозліва тырчалі з вады. Наплыць на такі востры прэнт — горшай смерці не прыдумаеш, бо не адразу памрэш.

— Грабі да таго берага! Да таго!

Да берага дабрацца надзей мала. Каб праскочыць паміж быкамі ўцалелай часткі моста! А там недалёка пантоны, на іх — варта, людзі.

Але, спалоханая, дзяўчына зноў так ашчапіла і сціснула маю руку, што грабці я не мог. І яна знясілела, скарылася. Мы акунуліся, сёрбалі ваду. Як на ліха, я апрануў дурацкі кіцель, ён намок і стопудовай гірай цягнуў на дно.

Усё! Уратавання няма! Божа мой! Як недарэчы! У такі час — перад-самай перамогай! Застыла цела, не варушацца ногі, рукі, заледзянела сэрца. Няхай бы лепш ад бомбы, ад кулі «месера» на шашы... ад міны, як Ліда. Добра помню — прыгадалася Ліда, усё роўна што клікала да сябе. Ішоў паветраны бой. Але нашы там — пад сонцам, якое зноў свяціла. А мы ўжо ў халоднай падводнай бездані, у нябыцці. Ударыць дзяўчыну і адарвацца ад яе? Не! Лепш патонем абое!

Вынырнулі мы ля паваленай фермы, і мне ўдалося схапіцца за нейкую бэльку. Нас круціла вакол бэлькі, вострыя прэнты рвалі

адзенне, абдзіралі цела. Але вярнулася вера ва ўратаванне. О, магутная сіла жыцця!

— Цяпер трымайся за мяне мацней! Мацней! Сястрычка мая! Цяпер не бойся! Не бойся!

Яна адплюнула ваду мне ў твар — не адвернешся, вінавата ўсміхнулася. У вачах яе бліснуў агонь жыцця. Але я спалохаў яе злосный лаянкай, пакуль яна не сцяміла, што гэта — на іх камандзіраў.

— І гэтая бязмозгая дура, ваша камузвода!..

Не ведаў я, што лейтэнанта Вольгі Загорскай не было ўлад жывой. Сорамна пасля стала за тое, што лаяў мёртвую. Хіба яна ставіла ўзвод?

Убачыў: раку баразнуе ваенны катэр. Падляцеў да нас, крута развярнуўся. З кармы яго кінуўся ў бурлівую пену матрос у цяльняшцы. Падплыў да нас.

— Есці. сілы трымацца? Я вас падстрахую. Зараз падыдзе шлюпка,— і ўздыхнуў: — Пазнавата мы спахапіліся. Не ўсіх вашых падабралі.

Халодная Варта стала магілай чатырох зенітчыц.

— Ці мучыць каго сумленне за іх смерць? — спытаў я ў Кузаева.

Ён адвярнуўся ад мяне, хворага.

— Камандаванне разбярэцца.

Пасля ляжання ў санчасці я выйшаў у двор пад шчодрае сонца. Купанне ў сакавіцкай вадзе, якой я ў дадатак добра накаўтаўся, спачатку знясіліла мяне так, што матросы хацелі завезці ў шпіталь, ды я ўпрасіў іх адвезці дадому, а пасля, пад вечар, нагнала тэмпературу да сарака градусаў.

Доктар наш Рашыдаў ганарыўся, што за адзін тыдзень паставіў мяне на ногі. Малады ўрач, толькі з інстытута, не ведаў, што на вайне нават ад студзеньскага купання ніхто даўжэй не ляжаў: людзей падымала з ложка невядомая сіла. Ды і як можна ляжаць у нямецкай кватэры на мяккім матрацы, пад пуховымі пярынамі, калі цэлую ноч дом трэсла ад грукату? Міма па брукаванцы ішлі танкі, самаходкі, артылерыя — арміі Прыбалтыйскага фронту, якія закончылі разгром фашысцкіх войск ва Усходняй Прусіі, перакідваліся на Одэр, пад Берлін. Хіба гэта не сведчанне, што да апошняга штурму фашысцкай цытадэлі — лічаныя дні?

Удзень ішлі тылы — грузавікі, кухні, санітарныя.

Я стаяў, прытуліўшыся да цёплай сцяны дома, і з незвычайным хваляваннем глядзеў на паток машын. Мне крычалі:

— Гэй, малодшы, паехалі з намі!

У адкрытых кузавах радавыя, сяржанты, афіцэры сядзелі ў гімнасцёрках, расшпіленых. А я стаяў у кіцелі, у шынялі, зашпілены на ўсе гузікі,— такая ўмова доктара, які адпусціў на прагулку. На адно такое запрашэнне нехта непаважліва адказаў:

— Што ты! Штабіст прастуды баіцца! Кажух апрані, младшой!

Крыўдна чуць такое. Таму з'явілася неадольнае жаданне паехаць з імі. Ды і раней хацелася дабрацца да Одэра — усяго ж нейкія трыццаць кіламетраў, глянуць на іх хоць праз раку. І на тым баку ёсць нашы плацдармы, але туды — кажуць — перапраўляюцца толькі ўначы. Людзі з нашай артмайстэрні ездзілі туды — рамантавалі пашкоджаныя зеніткі. Вярнуліся героямі; тэхніка Малчанава раніла, ён ляжыць у шпіталі тут, у Ландсберг. Жэня Ігнацьева штодня наведваецца да яго. Каля мяне таксама сядзела ўсю ноч, калі жар паліў так, што я трызніў. Якая добрая душа, гэтая Жэня, усім ёй хочацца памагчы. Дзеці Мураўёва больш праводзяць часу з ёй, чым з маці, Марыя Аляксееўна ажно раўнуе. Робіць яна санітаркай у санчасці і... вучыць на батарэях дзяўчат комі рускай мове. Між іншым, школу яе ахвотна наведвае Шыманскі і здзіўляецца, захапляецца: «Вуй, колькі яна ведае! Каб я гэтулькі ведаў, то стаў бы міністрам».

Калбенка паслухаў яе ўрок і сказаў, што Мураўёва — лепшы за ўсіх нас прапагандыст.

У варотах спыніўся «віліс» камандзіра, каб, прапусціўшы грузавікі, выехаць на дарогу. Кузаеў сядзеў у ім. Я павітаўся. Ён адчыніў дзверцы.

— Ачуняў?

— Так точна, таварыш маёр.

— Выпісаў цябе Рашыдаў?

— Дазволіў...

— Сядай, паедзем. Арыштуем твайго дружбака.

— Каго?

— Данілава.

— За што?

— Там убачыш — за што.

Памлелі ногі — ад страху за сябра. З адышкай узлез у машыну.

— Што ён натварыў?

— Распусціўся, бісаў цыган, як кажа Калбенка.

Напэўна, пры шафёру Кузаеву не хацелася раскрываць учынак афіцэра, хоць даўно вядома, што ніхто так не дасведчаны, як вадзіцелі начальніцкіх машын. У люстэрка бачыў яго ўхмылку, што сведчыла: пра ўсё ён інфармаваны.

Адказ камандзіра трохі супакоіў: «распусціўся» — гэта не тое злачынства, за якое аддаюць пад трыбунал. Ды каб, крый божа, адбылося злачынства, то, безумоўна, ехаў бы арыштоўваць не камандзір. Што ўсё ж цыган учыніў? Вельмі трывожыла, што гэта звязана з Лінай. Няўжо мог абразіць яе?

Убачыўшы Данілава, спалохаўся я не менш, чым у пачатку. На батарэі гатоўнасць нумар адзін, а камандзір... Зямлянак не будавалі, праявілі знаходлівасць, дасталі трафейныя бранявыя вагончыкі, чыстыя і зручныя. Данілаў сядзеў у такім вагончыку на падлозе, на дыване, як турэцкі султан, сказаў пасля Кузаеў. Паспрабаваў устаць пры нашым з'яўленні, але яго моцна павяло, і ён прытуліўся да сцяны, вінавата ўсміхнуўшыся. Бравы, заўсёды падцягнуты афіцэр страціў усялякі выгляд, ператварыўся ў анучу — пакамечаны ўвесь, ускудлачаныя кучаравыя валасы, чырвоныя вочы, засмяглыя вусны. П'яны... Саша п'яны? Ён жа ніколі не выпіў свае франтавыя сто грамаў, аддаваў іншым афіцэрам. Што магло здарыцца? Добра, што прыехаў Кузаеў. А каб наскочыў хто са штаба корпуса ці фронту — не мінуць трыбунала.

— Шыянок! Забяры пісталет.

— Не аддам!

— Я табе не аддам! Скажы дзякуй, што не забіраю партупею і не павяду пад канвоем. Пакліч, Шыянок, старшыну.

Старшына батарэі Платон Каляда, таксама мой сябар і зямляк, пэўна, хаваўся за вагончыкам, шукаць мне яго не прыйшлося — тут жа з'явіўся сам.

— Таварыш маёр, па вашаму загаду...

— Спрытны! Ты дастаў спірт?

Вінавата апусціў старшына галаву.

— Дзесяць сутак гаўптвахты!

— Ёсць дзесяць сутак.

— Прыйдзеш на губу сам. З усім запасам гаручага, які маеш у капцёрцы.

Збялеў Каляда, мабыць, прынесці запас было не пад сілу.

— А зараз правядзі камандзіра ў машыну. Пахіснецца на вачах у батарэі — будзеш мець яшчэ дзесяць сутак. Я вас навучу «свабоду любіць».

На пазіцыі Кузаеў звярнуўся не да старэйшага па званню Унярхі — даў зразумець, што зневажае даносчыка,— а да малодшага лейтэнанта, камандзіра ўзвода ўпраўлення:

— Архіпаў, застаяцеся за камандзіра. Мы з Данілавым з'ездзім у Познань у штаб корпуса.

Малайчына Кузаеў — так умела і беражліва ахоўвае аўтарытэт камандзіра. Але ў машыне даў волю свайму гневу, не зважаючы на мяне і шафёра. Але пакуль скланяў Данілава ў дванаццаці склонах, той соп, ікаў, паўтараў, як сапсаваны патэфон:

— Вінаваты, таварыш маёр... Вінаваты, таварыш маёр... Вінаваты... Улічу...

П'янае прызнанне віны раздражняла Кузаева, злосць яго не атухала, ён пагразіў:

— Скончыцца вайна — вылеціш з арміі, што корак з бутэлькі. Коней пойдзеш красці!

Вельмі жорстка і абразліва — не падобна на Кузаева, шумнага, але добрага. Ажно я сцяўся, быццам знянацку сцёбнулі па мне.

Данілаў хацеў застацца ў арміі, пра акадэмію марыў, яму прарочылі высокія званні. Таму ён... заплакаў, натуральным чынам, зусім, як дзіця, затросся ў істэрычным рыданні, хапаючыся за ручку дзвярэй. Я абняў яго за плечы.

— Саша! Саша! Што ты! Жартаў не разумееш!

Кузаева яго плач таксама, відаць, ашаламіў, ён змоўк.

Данілаў ужо не шаптаў вінавата, а праз плач крычаў, гнеўна, роспачліва:

— Я — цыган! Я — цыган! Таму мной пагарджае...

— Хто табой пагарджае?

— Яна,— але тут жа спалохаўся, што выдаў сябе, крыкнуў: — Усе! Усе! Я — цыган! Я — цыган! Чаму Гітлер знішчаў цыган?

Кузаеў з пярэдняга сядзення павярнуўся да нас, пільна ўгледзеўся, сказаў спакойна:

— Чакай. Хто яна? І хто — усе?

— Усе! І вы!

Як толькі ўбачыў п'янага Данілава, я не сумняваўся, што прычына — Ліка; таму і прасіла перавесці яе. А да Кузаева здагадка прыйшла толькі зараз.

— Дык гэта ты праз дзеўку так раскіс? Слюнцяй! Гімназіст! Соплі вытры! Ты — не цыган. Ты — дурань. Баба! Цыганы — разумны народ. І ніхто табой не пагарджае. Дзяўчына яго не любіць, дык ён пераносіць на свой народ. Пагарджаюць! Шыянок! Дрэнна ты адукоўваў свайго сябра. Прачытаеш яму палітграмату аб нацыянальнай палітыцы!

Кузаеў трохі падабрэў, ало злоснай уедлівасці сваёй не страціў. У двары сказаў:

— Ну, што? Сам пойдзеш ці на насілках цябе панесці — нібыта ў санчасць?

Данілаў у адказ так скрыгатнуў зубамі, што зрабілася страшна. «Дарэмна маёр дапякае так дэмаралізаванага адхіленым каханнем хлопца,— падумаў я.— На вайне мы ва ўсім пасталелі, пасталелі нашы погляды і пачуцці, акрамя, напэўна, аднаго — кахання, у ім мы наіўныя юнакі, сапраўды гімназісты, неаднойчы я пераконваўся; пра дзяўчат гэтага, бадай, нельга сказаць, бо ў іх інстынкт мацярынства перамагае ўсё іншае, ад таго і здаюцца яны больш ураўнаважанымі і сталымі — як маці нашы».

— Глядзі ж... ідзі за мной, як добры ад'ютант за маршалам. Крок чакань! Сустрэчных вачамі еш! — не то сур'ёзна, не то кеплІва — не зразумець — загадаў размякламу падначаленаму камандзір дывізіёна.

Правёў ён Данілава на жылы паверх, ключом адчыніў двухпакаёвую кватэру, якая мела два прызначэнні — гасцініцы для інспектараў, якія маглі прыехаць са штаба корпуса, і гаўптвахты для сваіх афіцэраў, але пакуль што ні разу нікім не займалася. Крыўдна, што абжываць яе будзе лепшы камандзір батарэі. Перажываў я яшчэ і ад таго, што ў машыне Данілаў як бы не заўважыў мяне, хоць сядзеў я побач, і злосным рухам скінуў маю руку са свайго пляча.

— Выспіся ў нямецкіх пярынах... яны бабамі пахнуць... А заўтра я з табой пагавару. Толькі без фокусаў, «рыцарь печального образа». Баец прынясе вады — партрэт памый, а то ён у цябе што вытаптаны цялятамі поплаў.

Данілаў зноў скрыгатнуў зубамі. І я зноў моцна ўстрывожыўся; яшчэ ў машыне перада мной паўстаў вобраз яго бацькі, які ў бяздумнай рэўнасці зрабіў жахлівае злачынства — забіў чалавека. Я баяўся яго «фокусаў». І расказаў не Калбенку, які мог зрэагаваць зусім нечакана з-за свайго ўзросту — гэтак жа, як Кузаеў: маўляў, слюнцяй, хлюпік. Расказаў Жэні Ігнацьевай. І яна зразумела. Адносіны ў нас з Жэняй што ў шчырых брата і сястры. У яе адраслі валасы, на твары высыпалі кранальна смешныя вяснушкі, яна паздаравела, зніклі болі ў жываце, што яе асабліва радавала. Жэню можна было б назваць прыгожай, можна было б закахацца, каб... не яе рост. Вось жа парадокс: мужчын з такім ростам клічуць гвардзейцамі, удальцамі, а дзяўчыне ён загана. А Жэня, здагадваўся я, марыла пра каханне, у сяброўскіх пачуццях яе да мяне была душэўная тайна, якую яна знянацку выдала, асудзіўшы польку: маўляў, не па-дзявочаму Ванда паводзіць сябе, нельга гэтак афішаваць сваё каханне. Жэня лічыла каханне святым пачуццем і праяўляла незвычайную ўвагу і клопат да тых, у каго адносіны былі чыстыя. Пры ўсёй нашай узаемнай даверлівасці я не сказаў ёй пра каханне камандзіра першай, не сказаў, можа, таму, што баяўся: выдаўшы тайну, як бы аддаляю Ліку

ад сябе, саступаю другому. Вось жа ганебная прыватніцкая псіхалогія — на ўсялякі выпадак трымаць запас для сябе!

Жэню нечакана для мяне вельмі ўстрывожыў душэўны стан Данілава.

— І вы пакінулі яго аднаго?

— Не толькі пакінулі — на ключ зачынілі.

— Як можна? Там жа посуду поўна, шкла...

— Пры чым тут шкло?

— Павел, вы здзіўляеце мяне. Чалавек у роспачы аглушыў сябе спіртам. Ніколі ж не піў, вы кажаце. Хто ведае, што ён можа зрабіць яшчэ! Давайце сходзім да яго.

— Ключ у маёра.

— Ключ я падбяру, у доме ўсяго тры-чатыры серыі замкоў.

Убачыўшы, што я вагаюся,— закаціць Кузаеў пяцёра сутак за такое самавольства,— Жэня тут перадумала:

— Не, я пайду не з вамі. Мы пойдзем з Антанінай Фёдараўнай.

Яны пайшлі і доўга гутарылі з Данілавым. Вярнуліся задаволеныя. Жэня засталася задаволенай нават пасля таго, як Кузаеў уляпіў ёй чатыры нарады. «Плакальшчыцы!» — грымеў ён на ўвесь дом, хоць, здалося, мне, не вельмі злосна. Якое пакаранне атрымала жонка — сямейная тайна. Толькі Антаніна Фёдараўна ўвечары сказала мне, бадай, з гумарам:

— Ой, падвялі вы мяне, Шыянок! Мой і цяпер яшчэ грыміць.

Я падвёў? Чаму я? Усе гісторыі сыходзяцца на мне — сумныя і вясёлыя.

## 8

Побач са штабам, за плотам,— нейкі завод, невялічкі, але, напэўна, важны, ваенны, бо і немцы абнеслі яго высокім парканам з калючым дротам, і наш ваенны камендант трымаў на ім ахову. Завод не дзейнічаў, але, напэўна, засталося там нешта каштоўнае, хоць байцы, якія ахоўвалі аб'ект, ніякай каштоўнасці не выявілі і выказвалі неразуменне — навошта такая пільная варта? Сам камендант правярае. Заглянуў разы два. Але ўвогуле дзядзькі адчувалі сваю волю: больш «палявалі», чым пільнавалі.

Стаяў дзівосны красавіцкі адвячорак, такі ціхі, што далятаў гул кананады з таго боку, дзе села сонца. Мірная цішыня за нейкія трыццаць вёрст ад фронту па-асабліваму ўзбуджала, трывожыла. Можа, таму пасля вячэры афіцэры штаба не разыходзіліся, сядзелі ў вялікім пакоі сталоўкі і «рашалі» задачы, якія недзе зусім побач рашаў

маршал Жукаў, а ў Маскве — Галоўнакамандуючы. Кожны з нас у той момант быў і вялікім стратэгам, і прадбачлівым тактыкам.

За сцяной грымелі па брукаванай шашы танкі, цяжкія аўтамашыны. Пасля тыднёвага перапынку зноў цэлы дзень ішлі на фронт баявыя часці. Як кажуць, у паветры насілася прадчуванне блізкай вялікай бітвы, як прадчуванне навальніцы ў спякотны дзень, калі змора адольвае ўсё жывое. На нас таксама найшла змора пасля добрай вячэры і мы філасофствавалі з сур'ёзнымі выглядамі знаўцаў агульнай абстаноўкі.

Дарэчы, у красавіку сорак пятага яе, стратэгічную абстаноўку, няцяжкі было ўявіць нават малодшаму лейтэнанту.

Праз адчыненае акно відзён быў заводзік з нізкай трубой, громаадвод на якой залаціўся апошнімі праменнямі сонца. У куце пакоя ў паўзмроку адбіваў гучна секунды цяжкі маятнік вялізнага гадзінніка. Любяць немцы «грос». Любілі «грос» і «бліц». Бліснулі? Што вы любіце цяпер? Прыходзіла гаспадыня гэтай шыкоўнай кватэры, жонка фашысцкага пракурора, прапаноўвала залатыя завушніцы за буханку хлеба. Кавалак хлеба ёй далі. А завушніц ніхто не ўзяў.

— Цікава, што вырабляў гэты завод?

— Салдацкія анучы. Самая сакрэтная зброя.

— Асабліва калі іх не мыць месяцы два.

Смех. Так пераходзілі ад сур'ёзнага, глабальнага, узвышанага да лёгкага жарту.

І раптам аўтаматная чарга з боку завода. А ўслед за ёй вельмі блізкі звонкі стрэл гарматы. Снарад на вачах у нас раскрышыў вугал двухпавярховага дома, у якім, напэўна, размяшчалася дырэкцыя завода.

Трывога! Не паветраная — зямная.

З аголенымі пісталетамі выскачылі мы на двор. Байцы штабнога ўзвода займалі месца ў акопных ячэйках.

Па вуліцы штук дванаццаць застылых Т-34 насцярожана нюхалі хобатамі гармат парахавы гар і пыл, што ўзняўся над заводам. Адкінулася крышка люка пярэдняга танка, і з яго высунуўся... палкоўнік Сівашапка, нядаўні знаёмы. Пазнаў Кузаева. Весела прывітаў:

— О, старыя сябры!

Скочыў на зямлю.

— Гэта твае дзяўчаты забаўляюцца з аўтаматамі ці дзеткі за вайну падраслі?

— Не, гэта, відаць, ахова завода. А ў вас няма іншага сродку, як паліць з гарматы?

— Нас у Польшчы тройчы абстралялі. Чатырох чалавек стравілі без бою. Крыўдна да слёз.

— Ану, хлопцы, гляньце: ці жывыя там «дзяды»? — загадаў сваім Кузаеў.

Перапалоханых да смерці вартаўнікоў, з якіх уміг выветрыўся дух трафейнага шнапсу, знайшлі ў падвале, куды яны скаціліся пасля разрыву снарада на другім паверсе. На шчасце, нікога з іх не забіла, не параніла. Пасмяяліся з няўдалых ахоўнікаў, «адмералі» ім гаўптвахты па «палкоўніцкае права». А потым Сівашапка звярнуўся да Кузаева:

— Гасцей прымаеш, маёр? Паначуем пад аховай тваіх зенітак. А тым часам падцягнуцца мае архангелы. Адсталі. Баявыя батальёны я пусціў па іншай дарозе. А мне, анёлу, трэба з'явіцца заўтра на ясныя вочы Зеўса, атрымаць месца ў раю.

Вясёлы чалавек палкоўнік, аматар міфалогіі. Нават мне спадабаўся, хоць я не забываўся абурэння Антаніны Фёдараўны і сваё ўласнае, тым як ён хацеў «купіць» Ванду і Ліку.

Не мог Кузаеў адмовіць у начлезе людзям, якія ў танках «адбілі ўсе паляніцы» — ад высокіх грэчаскіх міфаў палкоўнік з выглядам парубка-зуха пераходзіў да гэткага ж высокага запарожскага фальклору.

Двор запоўнілі танкі, напоўніўшы вячэрняе прырэчнае паветра моцным настоем выхлапных газаў і гарачага металу.

Задыміла наша кухня — варылі гасцям вячэру. Але не салдацкай жа кашай частаваць камандзіра брыгады. Тут ужо стараліся, як кажуць, не ўдарыць тварам у гразь. Запыхкаў рухавічок, афіцэрскую сталоўку заліло святло крышталёвых люстраў. Стол сервіравалі не байцы, дзяжурныя па кухні,— Антаніна Фёдараўна і Марыя Аляксееўна.

Калбенку запрасілі на вячэру. Мяне не запрасілі. Я не пакрыўдзіўся — прывучаны да вайсковай субардынацыі. Мяне, безумоўна, цікавіў, прыцягваў да сябе гэты незвычайны малады, бадай што мой равеснік, палкоўнік, безумоўна, легендарны, інакш не прысвоілі б яму звання Героя.

Калбенка, што лакатар, улаўліваў любыя адценні майго настрою.

— Хочаш, я скажу Кузаеву, каб і цябе запрасілі.

Спалохаўся; заўсёды баяўся, каб хто не папракнуў
у нясціпласці.

— Што вы, Канстанцін Панасавіч! Не трэба! Прашу вас...

— Не трэба дык не трэба. А я скажу табе чэсна... пайду і ўрэжу, першы раз за вайну. Можна дазволіць сабе? За танкістаў. Яны шчыт і меч. Ім дастаецца.

— Толькі не задзірайцеся з Тужнікавым.

— Не бойся, мой хлопчык. Я пад чаркай раблюся найдабрэйшым чалавекам. Калі мяне даводзілі да белага калення, Аксана прасіла: «Выпі, Косця, чарку».

Я застаўся. Чытаў, узрадаваны, што ў наш пакой далі электрасвятло, не часта гэта здаралася, толькі пры баявых трывогах, але тады чытаць не станеш: у мяне меўся абавязак — кіраваць сувяззю з пастамі ВНОС[1].

Чытаў я ў тыя дні запоем. Хлопцы ў маёнтку нейкага фона выявілі цэлую бібліятэку рускіх кніг з грыфам Гомельскага педінстытута. Акрамя таго, што я дабраўся да сур'ёзных кніг, яны хвалявалі яшчэ і тым, што сустрэча з імі, усё роўна што сустрэча з роднай Беларуссю, больш таго — з маёй марай: меў некалі цвёрды намер пасля службы ў арміі паступіць у Гомельскі інстытут — бліжэйшы ад дому, мог бы ўжо два гады чытаць гэтыя ж кнігі. Лёс сустрэў мяне з імі вунь дзе — у Германіі. Апрыходуючы знаходку, я сам сачыніў загад камандзіра дывізіёна, у якім запісаў, што, па звароту дадому, кнігі будуць перададзены іх уладальніку — інстытуту. Кузаеў паківаў галавой, падкрэсліў гэты пункт, але загад падпісаў.

У дзверы далікатна пастукалі: гэты «почырк» я ведаў яшчэ з Петразаводска — так прасіла дазволу зайсці Жэня Ігнацьева.

Адразу ўбачыў, што ёй хочацца паведаміць нешта незвычайнае, але яна яўна не знаходзіла подступаў да тэмы. Гартала кнігі, сказала, што чытае ў трэці раз «Вайну і мір».

— Жэня, што здарылася?

— Яны запрасілі на вячэру Ванду.

Дзіўна, чаму гэта ўсхвалявала яе? Мяне ніколькі не кранула. А чаму і не запрасіць аднаго малодшага лейтэнанта — дзяўчыну, з якой Сівашапка пазнаёміўся яшчэ ў Варшаве? У прысутнасці жонак камандзіра і начальніка штаба, не сумняваўся я, будзе захоўвацца самая высокая афіцэрская прыстойнасць, рыцарская.

— Яна будзе ісці адна па гародах. А ўжо ноч. Давайце сустрэнем.

Во добрая душа — чым яна ўстрывожана! Ведаючы Жэніны адносіны да Ванды, я быў крануты яе клопатам і ахвотна згадзіўся сустрэць сваю нарачоную.

Сустрэлі Ванду на паўдарозе ад батарэі да штаба. Яна такі заблыталася ў «клетках», парвалі сетку дзе трэба і не трэба, а ўчарашні дождж расквасіў сцежку.

---

[1] Служба паветранага назірання, апавяшчэння, сувязі.

З'яўленне наша з Жэняй і ўзрадавала і ўстрывожыла Ванду, усхваляваную самім нечаканым выклікам у вячэрні час.

— Навошта мяне выклікаюць?

— Цябе захацеў пабачыць Шапка.

— Якая шапка?

— У пагонах палкоўніка.

— А-а, Сівашапка! — Ванда засмяялася, заспакоеная.— Жэня! А ён раўнуе, праўда? Як сказаў, чула? Ша-апка! Добра ён помніць прозвішча палкоўніка. Раўнуеш, Паўлік?

— Раўную,— узлавана адказаў я.

— О, божа! Муле мой будзе Атэла. Не задушыш сваю Дэздэмону? Не бойся, дуралей, я не памяняю цябе ні на якую шапку.

Ванда звыкла вастрыла язык.

Жэня стоена ўздыхнула.

— Хоць аплявуху табе калі-небудзь уляплю. Пры ўсім народзе. Не бегай на першую. Я яго, хворага, з лыжачкі паіла, а ён, як толькі акрыяў, так адразу паляцеў на першую.

Не паіла яна мяне з лыжачкі, не такі ўжо я бездапаможны быў, але наведвалася ледзьве не штодня — гэта праўда. Аднак лепш не аспрэчваць, не апраўдвацца, а то Ванда скажа яшчэ і не такое — пры староннім сведку.

— Што гэта рыцар Саўчанка адну цябе паслаў у такую цемру? Не мог байца даць?

Ты баяўся за мяне? Таму пайшоў страчаць? Паўлік! Дай я цябе пацалую.

— Гэта Жэня прапанавала.

— Прасцяк ты, Павел. Знаеш, як было б прыемна думаць, што такі клопат праявіў ты. За што я цябе люблю! А што ён, Сівашапка?

— Начуе ў нас. Госць. Камандзір вячэру дае.

— І танцы будуць?

Запытанне пра танцы моцна ўзлавала мяне.

— Табе толькі танцы ў галаве!

— Няпраўда, мой дарагі. У маёй галаве не менш, чым у тваёй. Але калі і ёсць смецце, то яно чысценькае, пахучае, як стружка з-пад рубанка. А ў цябе — старыя пыльныя лахманы, як у Плюшкіна.

— Цікавы вы чалавек, Ванда,— сказала Жэня.— Хацела б я паглядзець, як вы будзеце жыць, калі пажэніцеся.

— Весела мы будзем жыць. Я буду хадзіць за Паўлікам, што ласкавы сабачка. Ён будзе вадзіць мяне на павадку.

Уявіў Ванду маўклівай, паслухмянай і ад неверагоднасці такога пераўтварэння засмяяўся.

— Бачыце, як яму даспадобы такое жыццё. Жарты жартамі, а сур'ёзна адно: лепшай жонкі ты не знойдзеш. Я памагу табе стаць прафесарам.

— Ох, як табе хочацца быць прафесарыхай!

— Хочацца.

Каб дарога была даўжэйшая, то, напэўна, мы маглі б і пасварыцца і пamірыцца. Але бянтэжыла Жэня. Яна не пазбаўлена была гумару, але нашу з Вандай «перастрэлку» ўспрымала занадта сур'ёзна, са стоеным смуткам, які я чуў у цемры, можа, нават з зайздрасцю

А раніцою — што гром з яснага неба і снег на галаву сярод лета: зніклі чатыры чалавекі. Якія! Афіцэр, старшына, старшы сяржант і радавы. Ванда Жмур, Сямён Таміла, Віктар Маслоўскі і трактарыст Аляксей Кушалеў. Тры члены партыі! Тужнікаў назваў іх знікненне страшным словам — дэзерціравалі. Ён сінеў ад абурэння. Ніхто не сумняваўся, што людзей звёз на танках госць — Сівашапка. Ганебная гэта з'ява, дэзерцірства, для ўсёй часці, за вайну ў дывізіёне не было ніводнага выпадку. Але што такое дэзерцір? Баязлівец, у якога страх смерці перамагае пачуцці высокага абавязку перад Радзімай, народам, і ён кідаецца ў тыл, залазіць у падвал, у лясную зямлянку. А нашы куды пайшлі? З тылавой часці — у перадавую, самую ўдарную, танкавую, якая вось-вось пачне штурм Берліна. Хіба ж можна іх называць дэзерцірамі? Але паспрабаваў я сказаць адно слова наконт вызначэння іх учынка, як быў літаральна сцёрты ў парашок нампалітам, ён крычаў так, быццам у тым, што здарылася, вінаваты адзін я.

— Гэта яна! Яна, твая сучка... нявестачка, такую яе... звяла ўсіх! Яе работа! — і на Сівашапку: — А гэтага сукінага сына, якога кармілі і паілі, расстраляць мала. Запарожскі бандыт! Анархіст!

Інакш паводзіў сябе Кузаеў, ён быў здзіўлены, расчараваны, але ў словах яго прабівалася стоенае захапленне ўдаласцю і танкістаў і сваіх.

— Ай ды сівая шапка! Ай ды госць! Варажскі. Як ён, Мураўёў, нашых неонак яшчэ не звёў! У такіх разяў паўдывізіёна можна было звесці. Хто не пайшоў бы на Берлін?

Мураўёў прапанаваў напісаць на Сівашапку ў штаб фронту. Кузаеў не згадзіўся.

— Сівашапцы мы насыплем солі на хвост. А нам дадуць па хлапцы. А што! Нішто ён экіпаж падабраў! Лепшая, радыстка, артылерысты, вадзіцель... Малайцы — усе на падбор, а з імі дзядзька Чарнамор...

У Кузаева хапіла духу на жарт. Тужнікаў сінеў ад развažлівага спакою камандзіра, асабліва ад яго жартаў, і новымі заходамі

вінавацію мяне і Данілава. Астатнія афіцэры штаба выглядалі прыгнечанымі, так было, калі гінулі людзі. Нават Калбенка змрочна маўчаў.

Але найбольшая бура бушавала ў маёй душы. Я разумеў Тамілу, ён неаднойчы прасіўся на. перадавую і знаходзіўся тут, пры штабе. Але Ванда... што пагнала яе? Цяпер, як пасля Варшавы, у мяне не было ўпэўненасці, што яна вернецца. Не пакідала пачуццё свядомай здрады. Яе афішаванне сябе маёй нявестай здавалася злосным здзекам. І гэта балюча абражала. Я сціскаў кулакі і зубы ад гневу, роспачы, злосці. Але — во дзівосы! — адчуваў — не вытлумачальна! — захапленне ёй і нейкую новую пяшчоту, замілаванне, што, напэўна, можна назваць каханнем. Не хацелася верыць, што яна здрадзіла з-за палкоўніка — героя, як выказваў гэта Тужнікаў, што мяне асабліва раніла. Калі гэта не так, калі яна не выйдзе за яго замуж, думаў я, знайду яе і ўсё дарую. Урэшце, і яе ўчынак можна зразумець. Хто не рваўся на перадавую? Хіба «дзяды». Той жа Тужыкаў неяк яшчэ ў Кандалакшы прызнаўся ў такім жаданні, напэўна, пасля смерці брата.

Але яшчэ больш здзіўляў сябра мой Віктар Маслоўскі. Не таму, што ў яго толькі што нарадзіўся сын. Не. Здзіўляла і бунтавала іншае. Здавалася ж, што з Вандай у яго шапачнае знаёмства, яна — на адной батарэі, ён — на другой, калі не лічыць Вандзінага кароткага знаходжання на першай у далёкім сорак другім годзе. Але, выходзіць, Ванда ведала пра яго жаданне штурмаваць Берлін, Тайна ён жыў з Глашай, тайна звязваўся з Вандай. Бо хто яму мог пазваніць уначы? Батарэя за ракой, за тры кіламетры, на мосце ўначы — асобы рэжым, асобныя прапускі. Хто мог выпісаць пропуск? Данілаў нічога не ведае. Знік камандзір ПУАЗО на світанні. «Дэзерціраваў» самастойна? Неверагоднае супадзенне. Ды і тэлефаністка штаба, што дзяжурыла ўначы, выдавала сябе страхам: у вачах, хоць і адмаўляла, што малодшы лейтэнант Жмур з'яўлялася ў апаратнай. Або праспала і баялася суровага пакарання за сон па пасту, або баялася абвінавачання: чаму не далажыла адразу? І батарэйная сувязістка адмаўляла, што Маслоўскага выклікалі да тэлефона. Але там прасцей: Віктар у тую ноч дзяжурыў і мог падмяніць тэлефаністку — навошта дваім сядзець каля апарата? Дзяжурства яго сведчыла, што выпадковага супадзення не было. Але чаму Ванда пазваніла яму? Во пытанне, ад якога я пакутаваў найманнем. Раўнаваў да Маслоўскага больш, чым да Сівашапкі.

Пад вечар па загаду нампаліта Калбенка сабраў партбюро.

Будзем выключаць?

Здавалася, іншага рашэння быць не можа, ніхто ў падтрымку іх не выкажацца. Аднак у душы пратэставаў супраць выключэння з

партыі камуністаў з сорак першага года Тамілы і Маслоўскага і толькі што прынятай Ванды. Толькі што прынятай... Прыступ пяшчоты змяняўся прыступам балючай злосці, і, каб Ванда раптам з'явілася перада мной, то чорт ведае што зрабіў бы з ёй!..

Дзіўна адказаў Калбенка на маё пытанне:

— Спачатку выключым: Астравіка, потым будзем думаць пра тваю каханку. Паднесла яна табе пілюлю.

Сказаў так, што здалося: і бацька мой, які заўсёды засцерагаў і абараняў, таксама лічыць мяне вінаватым. У чым? Да слёз крыўдна.

Анатоля Астравіка, камандзіра кулямётнага ўзвода, будзем караць за сувязь з немкай. Сувязь яўная, ён сам не адмаўляў. Я рыхтаваў пытанне, і лейтэнант даверліва расказаў мне пра ўсё, нават пазнаёміў з гэтай немкай. Кулямёт стаяў на доме, у якім яна жыла, разлік хадзіў па ваду ў іх кватэру. Прыгожая дзяўчына. Я доўга даводзіў Канстанціну Панасавічу, што Астравіка за такі ўчынак нельга выключаць, і парторг пачынаў згаджацца. І раптам такая катэгарычнасць: «Спачатку выключым...»

Мой даклад па Астравіку не спадабаўся Тужнікаву, ён сказаў, спакойна, праўда:

— Не глыбокая ацэначка. Не партыйная.

Але даўно ўжо я спакою яго баяўся больш, чым раздражнёнасці, у злосці ён быў алагічны, непаслядоўны, несправядлівы і даволі часта — становучая якасць! — сам папраўляў сябе; у спакоі — жалезна цвёрды.

— Што вы скажаце, лейтэнант?

— А што мне казаць? — смела і, бадай, дзёрзка — во дзівак! — пачаў Астравік.— Шыянок усё сказаў. Я люблю яе.

— Немку? — чамусьці вельмі здзівіўся Тужнікаў.— Вы паспелі палюбіць немку? Менш чым за месяц?

— А што? Яна ж не фашыстка. У яе бацька антыфашыст, у канцлагеры загінуў. Трэба мацаваць сувязь з народам.

— У пасцелі? — хмыкнуў Кузаеў.

— Вялікі палітык! — падтрымаў сарказм Калбенка.

— І што ж вы думаеце далей рабіць? — спытаў Тужнікаў.

— Ажанюся.

— З немкай?! — ажно падскочыў нампаліт.— А закон, які забараняе шлюбы з іншаземцамі?

— Хіба ёсць такі неразумны закон?

Словам «неразумны» Астравік загубіў сябе.

Тужнікаў ажно падскочыў.

— Ты перад намі дурнем не прыкідвайся! Бачылі? Закона ён не ведае! Усё ты ведаеш! Нямецкую мову вывучыў. Навошта? Загадзя планаваў ажаніцца з немкай? Гісторыю сусветнага мастацтва вывучаеш, а закона, падпісанага таварышам Сталіным, не помніш! Што нам з ім важдацца? За палітычную слепату і глухату, за амаральныя паводзіны... Паглядзець, ці можна яму давяраць выхаванне байцоў...

Я ўстрымаўся пры галасаванні, і Тужнікаў, адпусціўшы Астра піка, перанёс агонь на мяне:

— Прапаную члену бюро, Шыянку за беспрынцыповасць, суб'ектывізм, за дрэннае выхаванне былога камсамольца вынесці вымову.

Ратавалі мяне Кузаеў і Калбенка. Бацька сказаў з той суровасцю, якой пабойваўся нават Тужнікаў:

— Не будзем раскідваць вымовы, таварыш маёр.

Камандзір адвёў удар больш дыпламатычна:

— Многа ў нас сёння персанальных спраў.

Калбенка ўскудлаціў вожык пасівелых валасоў і доўга глядзеў у паперу, у парадак дня ўсяго з чатырох пунктаў, як бы не знаходзіў патрэбнае ці, можа, думаў як перакампанаваць парадак, каб адцягнуць разгляд самага балючага.

Добра я ведаў гэтае яго маўчанне, так ён заціскае ў кулаку свае нервы; не кожны раз гэта ўдавалася яму, і я баяўся, каб ён не сарваўся на пасяджэнні партбюро. Не ўзнімаючы галавы, парторг глуха прамовіў:

— Аб камуністах Тамілу, Маслоўскі^, Жмур...

— Аб якіх камуністах? — абурыўся Тужнікаў.— Аб дэзерцірах!

Калбенка рэзка ўзняў галаву, выпрастаўся, гатовы кінуцца ў бой.

— Хто даказаў, што яны дэзерціравалі з Чырвонай Арміі?

— Яны дэзерціравалі са сваёй часці. Гэтага мала вам? Партызанам не дазволена было пераходзіць з атрада ў атрад. А гэта рэгулярная армія! Што тварылася б, каб кожны рашаў: дзе хачу — там служу. Анархія была б!

— Правільна. Але тут — асобы выпадак.

— Чаму ён асобы?

— Заўтра будзем штурмаваць Берлін.

— Значыцца, па-вашаму, можна зняцца ўсяму дывізіёну і кінуцца ў Берлін?

— Не ўтрыруйце, таварыш маёр. Мы з вамі сур'ёзныя людзі.

— А разважаем, як дзеці.

— Можаце называць гэта як хочаце. Але я вам скажу... Пакуль належныя органы не затрымаюць іх дзесьці ў Беларусі ці ў Архангельску, я не магу назваць іх дэзерцірамі і ў мяне не падымецца

рука... Давайце пашукаем іншае вызначэнне. Але тады, напэўна, знойдзецца і іншая мера пакарання. Завошта мы хочам палітычна расстраляць такіх людзей? Лепшых камуністаў! У канцы вайны!

— Ой, праўда! — зусім не па-вайсковаму выгукнула старшы сяржант Аня Рабава.— А можа, яны героямі стануць на Одэры ці ў Берліне! Ці... ці загінуць,— дзяўчына захлынулася.

І словы яе, па-жаночаму, па-матчынаму кранальныя, моцна ўразілі членаў бюро. Нампаліт не аспрэчыў іх, на яго твары ўбачыў я цень жалобы — прыгадаў, безумоўна, братоў. Нейкі момант усе маўчалі, нібы таварышы нашы загінулі. Напэўна, думалі, як і я: што мы будзем адчуваць, калі выключым з партыі тых, хто аддаў сваё жыццё за Радзіму?

Апошнюю кропку паставіў разважлівы Кузаеў:

— А можа, праўда не будзем спяшацца з рашэннем? Генадзь Свірыдавіч! Я далажыў начальніку штаба корпуса і папрасіў знайсці брыгаду... прызнаюся, згараў ад сораму, што нават нумара яе не ведаю... і прапанаваць гэтаму чортаву атаману — ох, разбойнік — вярнуць нашых людзей,— і паабяцаў з гумарам: — Вось тады мы з іх штаны здымем. Сам буду сцёбаць папругай.

Тужнікаў здаўся, але пасля пасяджэння сказаў Калбенку і мне з крыўдай і, бадай, з пагрозай:

— Ну, дарагія мае таварышы, працаваць з вамі немагчыма.

— Не бядуй, Генадзь Свірыдавіч, ужо нядоўга.

— Што ты маеш на ўвазе?

— Скончыцца вайна — і мы хутка раз'едземся. Я — хлеб вырошчваць, Павел — дзяцей вучыць. А табе жадаю дарасці да генерала.

І здарылася дзіўнае: чалавек, які толькі што кіпеў, уміг падабрэў, добразычліва пажартаваў:

— Як вас называе Кузаеў? «Чэрці вы мае паласатыя».

— Іў крапінку,— дадаў Канстанцін Панасавіч.

Што Тужнікаў памякчэў, палагаднеў — гэта, бадай,

заўважылі яшчэ ў Познані, пасля артылерыйскага штурму цытадэлі. А пасля пасяджэння партбюро і кароткай размовы з намі, сваімі памочнікамі, зусім стаў добрым. Заглядваў да нас у пакой, чаго ніколі раней не рабіў, раіўся ледзьве не па кожнаму пытанню. Калбенка на гэта выказаўся абагулена-філасофскі: — Перамога ўсіх нас зробіць добрымі. Каб толькі не сталі дабрачкамі.

* * *

*«Які ён, дабрачок? — неаднойчы думаў я.— Тыповы. З агульнымі рысамі».*

*Доўга ён здаваўся многааблічным. А цяпер маю яго вобраз. Ён — Пятроўскі, чалавек, з якім я сябраваў са студэнцкай лаўкі. Сапраўды, і трыццаць пяць гадоў назад, у групе, кучаравага Мішу і цяпер, на кафедры, лысага як бубен Міхала Міхалыча лічылі лагодненькім, добранькім. Нікому ніколі не наступаў ён на мазоль. Нават у той зацятай вайне, якую вяла супраць мяне «цётка», яе пляменнік, а пасля настроены імі мой пераемнік Выхода, Пятроўскі займаў надзіва зручную для сябе пазіцыю: нікога не асуджаў, але нікога і не абараняў, усім заставаўся добрым. Не, добранькім — сказаў бы я цяпер. Тады я ўхваляў яго, лічыў, што для вучонага гэта станоўчая якасць — уменне ўзняцца вышэй дробных чалавечых страсцей.*

*Соф'я Пятроўна, якая некалі таксама захаплялася сваім навуковым кіраўніком, у часе «аперацыі «цётка» рэзка змяніла сваю думку пра Міхала Міхалыча. Лаяла мяне за лібералізм, за мяккацеласць.*

*«Ці пайшоў бы ты, ў разведку з такім сябрам?»*

*«Ён пайшоў бы. І абараняў бы яго нават тады, каб дружбачок пакінуў яго, раненага, у варожым тыле»,— гэта мая дарагая жонка.*

*Раздражнялі папрокі блізкіх людзей.*

*«Што вы прыраўнялі звадку на кафедры да разведкі! Што вы. знаеце пра разведку? Там уключаецца зусім іншы душэўны механізм. Міхал хадзіў у разведку. У партызанах».*

*«Пасля таго як прасядзеў два гады ў бацькі на печы, паваяваў тры месяцы...»*

*«Бо быў паранены».*

*«Раненне адкрыла яму дзверы універсітэта, калі яшчэ ішла вайна».*

*Паранілі Пятроўскага сур'ёзна — прастрэлілі лёгкае, таму нават кропля скептыцызму да яго ваеннай біяграфіі не проста раздражняла — абражала, быццам гэта датычылася асабіста мяне. А ў Валі часам прабівалася з патаемных глыбінь: мая лёгкая рана — рана, а яго цяжкая — так сабе.*

*Гэтая душэўная раздвоенасць шчырай ва ўсім іншым жанчыны, жонкі маёй, у адносінах да даўняга сябра сям'і здзіўляла і засмучала. Валя памагала яго хваравітай жонцы, дзецям, гасцінна прымала самога Міхала Міхалыча, але я, што тонкі прыбор, улаўліваў касмічныя часцінкі яе насцярожанасці, быццам чакала ад яго здрады. Адкрыта яна выказвала хіба адно — што Міхал зайздросціць мне. Ён*

*таксама, пэўна, адчуваў, што яна, не ў прыклад мне, не цалкам давярае яму, не з той сяброўскай шчырасцю, з якой гэта раблю я. Ён з першага з'яўлення ў прыватным пакойчыку, які мы, маладажоны, здымалі, звяртаўся да Валі на ты. Яна да яго на вы. Многа разоў Пятроўскі прасіў яе перайсці на сяброўскае ты. Валю бянтэжылі такія просьбы, яна чырванела і, бадай, пакутуючы, упрошвала:*

*«Прабачце, Міхал, але неяк я не магу. Не атрымоўваецца ў мяне».*

*«Арыстакратка яна ў цябе,— крыўдзіўся сябар.— Яна не з нашай гжэчнай шляхты часам?*

*«Гэта яна з-за тваёй лысіны»,— жартам адводзіў я размову.*

*Тыдзень назад нечакана завітаў да мяне Мікола Снягір, мой былы аспірант. Я ганарыўся такім вучнем. У сорак гадоў паляшук стаў доктарам і выкладае ў Акадэміі грамадскіх навук. Ён наведаў на Гомельшчыне маці і вяртаўся ў Маскву праз Мінск, як высветлілася, знарок зрабіў круг, каб сустрэцца са мной. Сядзелі за сталом, пілі чай. Успаміналі сваіх калег — гісторыкаў, мінскіх і маскоўскіх. Абмяркоўвалі новыя кнігі, новыя тэорыі новых гістарычных свяціл. Радаваліся, што ацэнкі супадаюць.*

*— А нашым нядаўна даручыла высокая інстанцыя даць водзыў на вашу кнігу, Павел Іванавіч.*

*— Чаму раптам?*

*— Пакацілі на вас бочку.*

*— Ананімка?*

*— Ды не, падпісаўся. І каб вы ведалі — хто? Вельмі здзівіла мяне гэтае пісямко. Не сумняваюся, і вас ашаломіць. Я скапіраваў яго... Падумаў: калі падпісана — сакрэту няма. А вам будзе цікава.*

*Валя сядзела з намі, і я ўбачыў, як густая чырвань заліла яе шыю, скроні, лоб, а вусны і нос пабялелі. Жонка хварэла на гіпертанію, і я любымі сродкамі стараўся засцерагчы яе ад стрэсавых сітуацый, хоць іх няма ла стваралі дзеці. Здагадаўся, пра што яна падумала — хто аўтар пісьма. Я ўсё яшчэ не хацеў верыць.*

*Мікалай Іванавіч дастаў з кішэні тоўставаты канверт, перадаў мне. Чатыры лісты. Не ўтрымаўся, глянуў на апошнюю старонку — на подпіс. І мне таксама кроў ударыла ў галаву. Пятроўскі.*

*Валя глядзела на мяне спалоханымі вачамі. Прачытаў. Нібыта нічога асаблівага. Нават не крытыка кнігі, а як бы пастаноўка пытання (але перад якой інстанцыяй): маўляў, ці не атрымаецца, што такое дэталёвае выкрыццё сучаснага трацкізму можа стаць прапагандай варожых марксізму ідэй ва ўспрыняцці тымі чытачамі,*

*якія «не арыентуюцца ў тэарэтычных нетрах». (Якой думкі прафесар пра савецкіх людзей: невукі, маўляў!). І хітры падбор цытат з выказванняў буржуазных ідэолагаў, якіх я выкрываю. Цытат з майго тэксту апанент не даў.*

*Пачытаў да канца і неяк дзіўна супакоіўся, з палёгкай засмяяўся — усё роўна што прарвала гнеўная скула, якая нядоўга, але моцна балела. Ай ды Мішка, ай ды спрытнюга! Быццам бы і бяскрыўдна, але — у яблычка! Хіба маглі не разбірацца з сігналам доктара навук, прафесара? А пакуль будуць чытаць, рэцэнзаваць, вылучэнне маё ў акадэмію затрымаюць. Ужо, здаецца, затрымалі.*

*Валя працягнула руку. Не даць ёй пісьмо я не мог у прысутнасці госця. Каб Снягір перадаў опус адзін на адзін, то, безумоўна, я ўтаіў бы ад жонкі: навошта ёй лішнія хваляванні!*

*Мікола, між іншым, здзівіўся:*

*— Спакойны вы чалавек, Павел Іванавіч. Зайздрошчу я вам.. У мяне, маладога, пасля таго як я прачытаў гэтае подленькае сачыненне, тры дні ціск трымаўся. Вы што, пасварыліся?*

*— Не. Сябруем па-ранейшаму.*

*— Што ж яго прымусіла?*

*— Зайздрасць,— гнеўна сказала Валя, яна, як і я, глянула спачатку на подпіс.— Паўла Іванавіча хочуць вылучыць у членкоры.*

*Снягір пляснуў далонямі.*

*— О, святы Міхал! Мне ж казалі пра вылучэнне. А я, пусты вулей, не дапяў. Праклятая зайздрасць! Колькі яна калечыць душ! Што вы скажаце яму?*

*— Нічога гэты лопух не скажа! — я ажно здрыгануўся ад жончынай грубасці, ніколі яна пры гасцях так не «велічала» мяне. Ён будзе цалавацца з ім. Калі вы, Міколка, хочаце ўбачыць жывога талстоўца — дык ён перад вамі.*

*— Ды не, я не назваў бы Паўла Іванавіча талстоўцам.*

*Калі госць пайшоў, Валя ўзнагародзіла мяне такімі эпітэтамі, якія я рэдка чуў ад яе, хіба ў маладосці, калі яна магла яшчэ прыраўнаваць да іншых жанчын. Ажно малая Міхалінка абурылася:*

*— Буля-куля, не сварыся на майго дзядульку, ён будзе плакаць. І я з ім.*

*— Твайго дзеда трэба не лаяць, а кіем біць,— трохі палагаднела жонка.*

*— Я цябе за вуха ўкушу!*

*— Глядзі, якую абаронцу сабе выгадаваў! Але не думай, што яна будзе падобная на цябе. Яна ўжо цяпер разумнейшая. Божа! І ён яшчэ пасміхаецца, як нічога не здарылася.*

*— А што здарылася? Міхал не заўсёды прачытваў мае кнігі, а тут яўна прачытаў і даволі ўважліва.*

*— Не блазнуй! Памерай мне ціск.*

*— Калі ласка, не наганяй яго з-за глупства.*

*— Ты гатовы любую подласць назваць глупствам.*

*Урэшце, памераўшы ціск і даўшы Валі адэльфан,*

*я ўгаварыў яе, каб гісторыя з пісьмом Пятроўскага засталася нашай тайнай. Вывады наконт сябра зробім для сябе — на будучыню.*

*Але на другі ці трэці дзень чорт яго прынёс да нас: у зімовы час, жывучы на другім канцы горада, Пятроўскі не так ужо часта наведваўся, не тое што на дачы.*

*Адразу ўбачыў, як загарэлася мая Валя, і са страхам чакаў узрыву — са страхам у першую чаргу за яе, за сябе ды і за Пятроўскага. А ён, крэцін, хаця б маўчаў, гаварыў пра што-небудзь староннняе, анекдоты свае барадатыя расказваў бы, ці што. Дык не ж, не прыдумаў нічога разумнейшага, як хваліць маю кнігу. Відаць, мучыла яго сумленне.*

*— Сур'ёзную ты працу зрабіў. Грунтоўную. Якраз тое, што патрэбна зараз у плане пашай контрпрапаганды. Перачытаў я яшчэ раз і парадаваўся за цябе... Я вылучыў бы цябе не ў членкоры — у акадэмікі адразу. Дастойны!*

*Ды якраз жа ў прысутнасці Валі, пэўна, знарок, адчуўшы ее адчужанасць; яна, бачыў я, яўна не магла глядзець на гэтага чалавека, баючыся за магчымы свой узрыў. Заглядвала ў кабінет для таго, каб выправадзіць унучак, якіх даўно забаўляла лысая Міхалава галава, іх цягнула пагладзіць яе, слізкую, што раней усіх смяшыла, самога Пятроўскага таксама, асабліва яго жонку Клару Іванаўну, гэта былі іх дачныя забавы. Адна Марына ганяла за гэта дачок. У той вечар, адчуваў я, Міхалу было не да забавак з дзецьмі.*

*Пасля яго пахвалы Валя прытулілася да касяка і сціснула пальцамі скроні. Не забраўшы ўнучак, ціхенька выйшла. Я зразумеў, што жонцы блага. Пайшоў за ёй. Яна ўпала ў спальні на гару падушак.*

*— Што з табой, Валя?*

*— Нічога,— прашаптала яна,— ідзі да свайго ненагляднага,— і з гідлівасцю, жорстка: — Каб дзяўчаткі не чапалі яго галавы! Брыдота!*

*Але было не да Пятроўскага, я не мог не бачыць, што жонцы сапраўды-такі дрэнна. Кінуўся да тэлефона. Пазваніў у «хуткую дапамогу». Тэлефон у нас у прыхожай, я ніколі не пераносіў апарат у кабінет, але Міхал пачуў маю размову. Выйшаў у калідор, бадай, шчыра ўстрывожыўся.*

*— Што здарылася? У Валі — сэрца? — і намерыўся пайсці ў спальню.*

*Я, бадай, злосна крыкнуў:*

*— Не смей ісці да яе!*

*Нечаканае Валіна захворванне і мой крык, напэўна, навялі Пятроўскага на здагадку. Ён сеў каля тэлефона, пазваніў Клары, што хутка вернецца, і так застаўся сядзець у крэсле. Я прабягаў міма на кухню па ваду, па таблеткі і не заўважаў яго. Ён таксама маўчаў. Дзіўна — о, дзіцячая чуйнасць! — малыя таксама не чапалі яго. Дзеці, што спалоханыя птушкі, зашываліся ў спальні ў куток і ціхенька і надзвычай мірна шапталіся.*

*Пятроўскі, не развітаўшыся, знік, калі прыехалі ўрачы.*

*Валі намералі 220. Тройчы, пасля наведваліся ў той вечар, рабілі ўколы.*

*Пасля свайго самага цяжкага гіпертанічнага крызу мая дарагая Валянціна Пят роўна не стрымалася і без згоды маёй паказала пісьмо Соф'і Пятроўне. А тая, бескампрамісная, рашучая, ажыццявіла незвычайны, дасціпны акт помсты. Прабіла на множыцельнай машыне дзесятак ці больш копій. Прыйшоўшы на кафедру ў часе лекцый, перад перапынкам, паклала экземпляры пісьма на ўсе нашы сем сталоў, на той, які лічыўся за прафесарамі Пятроўскім і Шыянком, таксама.*

*Калі Міхал Міхалыч увайшоў у пакой, за кожным сталом сядзеў чалавек, а за плячамі ў яго стаяў другі — а то і двое. Чыталі цікавейшы дакумент, што зваліўся з неба. Прафесар не здагадаўся, што так уважліва чытаюць. Яго стол быў свабодны. Ён сказаў нейкі жарт, на які ніхто не зрэагаваў, сеў за стол, убачыў сваё тайнае пісьмо і... у яго здарыўся сардэчны прыступ. Трапіў у бальніцу. І я моцна перажываю. Ашчадна, каб не нагнаць ціск, упікнуў жонку. Пасварыўся з Зосяй. Лічу абавязкам наведаць Міхала ў бальніцы, але баюся, каб мой візіт не нарабіў яму шкоды. «Цётцы», якая наведала яго, ён нібыта сказаў: маўляў, заўсёды быў перакананы, што заб'юць яго не ворагі, а сябры.*

*Каго ж, Міхале, ты хацеў падстрэліць — ворага, сябра?*

9

Дзень быў не падобны на красавіцкі — амаль асенні, нават у поўдзень плыў туман, усё роўна як хтось усёмагутны і ўмелы пускаў дымавыя заслоны. На наша шчасце, думаў я. Туман, безумоўна, нараджаўся над Одэрам. Здавалася, што я чую дыханне вялікай ракі.

Вось яна — рукой падаць. Спытаў у камандзіра пражэктарнай роты старшага лейтэнанта Анюціна, ці чуе ён, што мы перад ракой.

— Чорт яго ведае,— адказаў ён.— Безумоўна, дзесь блізка. Гарматы ж б'юць блізка.

Нават камандзір не ведае, дзе знаходзіцца яго рота. Хто ж ведае? Тужнікаў? Але ён быў настолькі засяроджаны, што я не адважыўся турбаваць нампаліта пустым пытаннем. Ды і ён нямецкай «трохвёрсткі» не меў.

Ведаюць, безумоўна, афіцэры з таго «віліса», што вялі роту сюды. Вялі вузкімі дарогамі з частымі паваротамі, таму цяжка было вызначыць у тумане, наколькі далёка мы адхіліліся на поўнач, на поўдзень адхіліцца не маглі, бо магістральнай шашы з Ландсберга на Кюстрын, якую вылазкамі на трафейных матацыклах неаднойчы разведвалі, не пераязджалі. На брукаванках, што звязвалі невялічкія гарадкі, асаблівага руху не было, толькі насустрач нам ішлі пустыя машыны, не баявыя,— больш інтэнданцкія. Але лясок, куды нас прывялі, забіты баявой тэхнікай: танкамі, самаходкамі, «кацюшамі» і машынамі з пражэктарамі. Добры полк пражэктарных установак, але, па ўсім відаць, сабраны яны з розных часцей — камандзіры не знаёмыя паміж сабой. Людзі на вайне лёгка знаёмяцца, лёгка сыходзяцца, але рэдка пытаюць, хто адкуль, з якога палка, дывізіі. Пытацца, дзе знаходзімся, таксама няёмка, лічыў я. Могуць здзівіцца, насцярожыцца, а калі і скажуць, што блізка ад нейкага «дорфа» ці «берга», то што гэта дасць, калі не маеш карты. Рабі, як іншыя, выгляд, што ўсё добра ведаеш. А між тым усё было загадкавым. Пачалося з вельмі ранняй, па сутнасці, начной — яшчэ не світала — нарады ў камандзіра. Тэрмінова, за гадзіну, зняць усе пражэктары, прывесці ў паходны стан, выдзеліць навейшыя машыны і быць гатовымі рухацца па ўказанню афіцэра штаба фронту. Значыцца, рухацца не ў тыл — на перадавую. Але чаму толькі праяіэктары? Я нават не ўтрымаўся і задаў гэтае наіўнае пытанне. Кузаеў адказаў са звычайным гумарам:

«Спытай у маршала Жукава».

Афіцэры засмяяліся. Але мне было не да смеху. Жартам камандзір сказаў галоўнае: пражэктары спатрэбіліся фронту перад рашучай аперацыяй. Але навошта? Разведалі аб масіраваным начным удары фашысцкай авіяцыі? Малаверагодны такі ўдар. А калі і так, то чаму адны пражэктары? На фронце хапае зенітак і не хапае пражэктараў? Але ж даўно пераканаліся, што эфектыўнасць агню з пражэктарамі невялікая. Лепш нават па гуку. А цяпер, у канцы вайны, даволі ёсць радыёлакацыйных установак. Аднак жа нашу СОН

не забіраюць. Яшчэ на нарадзе падумаў я пра гэта і, між іншым, спытаў і пра СОН.

Кузаеў пацiснуў плячамі:

«Пры чым тут СОН?»

А Тужнікаў уедліва пажартаваў:

«Ён думае, з СОН знойдзе яе камандзіра».

Афіцэры не проста засмяяліся — рагатнулі. Я ведаў, што ў дывізіёне кпілі, што Ванда памяняла камсорга на камбрыга.

«З ротай паедзе маёр Тужнікаў»,— сказаў Кузаеў.

Нампаліт засвяціўся ад задавальнення. Ад чаго? Ад жадання камандаваць? Ад радасці, што паедзе на перадавую?

І я тут жа папрасіў камандзіра паслаць і мяне. Сцяўся ад магчымасці новага крыўднага жарту. Але ніхто не пажартаваў, толькі Калбенка крактануў незадаволена. Камандзір спытаў у Тужнікава:

«Бярэш?»

«Бяру».

Кузаеў апярэдзіў яшчэ адну просьбу:

«На час адсутнасці маёра Тужнікава абавязкі яго выконвае старшы лейтэнант Калбенка».

Пасля нарады Канстанцін Панасавіч усё ж упікнуў мяне:

«А цябе, казана, не абскачаш. Ты праўда хочаш яе шукаць? Забудзь!»

Разумеў, што наіўна спадзявацца на сустрэчу з нашымі «дэзерцірамі». Аднак жа думаў пра такую нечаканую сустрэчу. Людскі акіян — так, але і ў акіяне сутыкаюцца караблі. Занесла ж выпадковасць Сівашапку да нас. Уцекачоў, безумоўна, тут, на беразе Одэра, не вярнуў бы і сам Кузаеў. Але вельмі хацелася глянуць Вандзе ў вочы. Апошні раз. І спытаць... Пра што? Пра нашу жаніцьбу? Смешна.

Хадзіў па лесе паміж «кацюшамі» і Т-34. Не стрымаўся — спытаў усё ж у танкістаў, ці не з брыгады Сівагаапкі яны. Атрымаў кеплівы адказ:

— Мы з брыгады Чырвонай Шапачкі.

Ацверазеў. І думаў ужо пра іншае. Пра неба. Гэта ж шчасце, што яно закрыта воблакамі і туманам. Але ці будзе так цэлы дзень? Не восень — вясна. Прасветліцца — ох, якая здабыча для фашысцкіх сцярвятнікаў гэты, відаць, невялікі лясок, шчыльна набіты тэхнікай і людзьмі. І зенітак нешта не відаць. Пэўна, усе там, дзе грыміць артылерыя — блізка грыміць, вярсты за тры,— і дзе сканцэнтраваны танкі і пяхота. Няўжо пачынаецца вялікае наступленне? Пасярод дня? Якая ж роля адводзіцца пражэктарам? Узнікла трывога за роту, асабліва, відно нават тут, у лесе, падраздзяленне: дзве трэці

асабовага саставу — дзяўчаты. І якія! Апошняга прызыву, у Петразаводску паступілі. Неабстраляныя, ненавучаныя, бадай, укрывацца ад бамбёжкі; нават без асабістай зброі, на ўсю роту — дзесятак аўтаматаў, дзесятак вінтовак. Пачаў прыглядацца да гэтых дзяўчат, і ў мяне сціснулася сэрца ад жалю. Як яны адрозніваюцца ад дзяўчат прызыву сорак другога года! Дзеці галодных ваенных гадоў — дзяўчынкі.

Пражэктарная рота даўно стала пасынкам, малапатрэбным дадаткам, амаль год, ажно з Кандалакшы, пражэктары не асвятлялі цэлі. На роту мала звярталі ўвагі не толькі страявыя афіцэры штаба, але і мы, палітработнікі. Уся ўвага — агневікам-артылерыстам, кулямётчыкам. Таму і пасылалі на пражэктары новенькіх, слабенькіх фізічна. Назначалі іх туды яшчэ і па іншай прычыне — з-за адукацыі. Большасць навабранак як кончылі да вайны па пяць-шэсць класаў, так больш і не вучыліся — не да вучэння было, хоць яны і з сярэдняй Расіі,— расцілі і ўбіралі з маткамі хлеб для фронту. Тое, што вучылі, за вайну забыліся. Не паставіш іх на ПУАЗО, дальнамер, тым больш — на СОН. На пражэктарах жа прыжывуцца, няхай даваюць у засені, у большай бяспецы. Спакайней і ім і камандзірам.

Хадзіў паміж гэтых дзяўчат, і мяне ўсё больш апаноўвала трывога і... сорам, што мы забываліся на іх. Я неаднойчы выхваляўся, што ведаю ўсіх камсамольцаў дывізіёна. А тут раптам выявіў: у твар ведаю, а прозвішчаў, імёнаў некаторых, і нямала, не помню.

А яны, дзяўчаткі,— сапраўды што дзеці. Ім і камандзіраў давалі не лепшых, часта ў роту пасылалі штрафнікоў. А такія і выхавацелі не лепшыя. Аўтарытэт свой умелі трымаць толькі строгасцю. А тут, адчуўшы, што на перадавой ім прыйдзецца рашаць з гэтымі дзяўчатамі нялёгкую задачу, афіцэры, строгі старшына, сяржанты нечакана падабрэлі. І дабрыня іх зусім расплавіла дзяўчат. Знаходзячыся на розных установках, яны, землячкі, даўно не бачыліся — з эшалона. Сабраліся разам і абдымаліся, цалаваліся. А навокал хадзілі бравыя танкісты ў зашмальцаваных камбінезонах, шлемах, падкручвалі вусы, заляцаліся, ахвотна давалі сваю палявую пошту. Гэта яшчэ больш уздымала настрой дзяўчат; чатыры гады не ведалі яны мужчынскай ласкі, увагі, ні бацькоўскай, ні жаніхоўскай.

Я ўзяў у старшыны спіс роты, уважліва прачытаў дзявочыя прозвішч, імёны. Неафіцыйна, у паўзах гутаркі пра становішча на франтах, пачаў знаёміцца.

— Ты — Марына, так?

Спачатку яны адказвалі па-вайсковаму, падхопліваючыся з вільготнага шыгалу, на якім сядзелі.

— Радавая Марына Якушава.
— Радавая Ефрасіння Кругавых.
— Радавая...
Не ўставайце,— папрасіў я.— Хачу праверыць сваю памяць — ці ўсіх я вас ведаю.
І ўсё больш пераконваўся: не ўсіх. І гарэў ад сораму і незадаволенасці сабой. Як я ведаў людзей на першай батарэі! У каго якая сям'я, ведаў. Хто каго з блізкіх страціў на фронце.
Неафіцыйную пераклічку спачатку прынялі па-дзіцячы — жартавалі, смяяліся.
Раптам я спатыкнуўся на дзяўчыне, якая доўга хавалася за спінамі ў сябровак. Маленькая, як Таня Балашова, і тварык зусім дзіцячы, з вяснушкамі, з пухленькімі вуснамі, курносенькая. Прыкметны твар. А я не толькі не помніў імя-прозвішча, але і ў Твар не помніў — як быццам убачыў упершыню. Але ж добра ведаў, што пасля Петразаводска ў дывізіён не паступала ніводнага новага чалавека, выбываць выбывалі: чалавек пяць забраў штаб корпуса — кулямётчыкаў, двое трапілі ў шпіталь, чацвёра... «дэзерціравалі»...
— А вы... ты...— рабіў выгляд, што вось-вось успомню яе імя, тым, каго ўспамінаў, па-простаму казаў «ты», і гэта збліжала, гэта падабалася дзяўчатам.
Яна паднялася, залілася чырванню, апусціла вочы і... не адказвала, як бы даючы мне магчымасць успомніць. За яе адказалі іншыя, хорам:
— Надзя... Надзя,— і прозвішча назвалі простае, рускае, распаўсюджанае. А я пажартаваў:
— Надзея. Чыясь надзея.
І не стаў больш бянтэжыць дзяўчо, прадоўжыў расказ пра ліквідацыю нямецкай групіроўкі ва Усходняй Прусіі.
Раптам ударыла цяжкая артылерыя зусім блізка ад нас, з усходняй ускраіны лесу. Няўжо пачынаецца вялікае наступленне? Пачалі выязджаць на шашу «кацюшы». Але ж у лесе і не было нерухомасці, на лясных дарогах, прасеках увесь час ішлі розныя машыны. Ды і мінамётчыкі, не ў прыклад танкістам, не пакідалі свае ўстаноўкі, да дзяўчат не заляцаліся.
Над лесам узмахнулі крыламі тысячы птушак. І блізка, вельмі блізка — на паляне, дзе стаяў драўляны прыгонны дом, напэўна, лясніцтва, гахнулі глухія разрывы. Не адразу дайшло, што паляну накрылі варожыя рэактыўныя мінамёты «Фаўст», што з'явіліся ў немцаў у канцы вайны.

У лясніцтве, напэўна, размясціўся штаб танкавай часці, бо вакол стаялі кухні, фургоны майстэрань.

«Фаўсты» ўдарылі дакладна, выходзіць, туман не схаваў ад гітлераўцаў перамяшчэнне войск, а разлікі рабіць на сваёй тэрыторыі лёгка.

У роце абвясцілі трывогу. Камандзіры і байцы занялі свае баявыя месцы. Але што мы маглі — свяціць пражэктарамі? З разлікаў узялі мужчын выносіць раненых, пахаваць забітых.

Пасля другога залпа «фаўстаў» скаланулі паветра і віхрам пагнулі сосны залпы многіх батарэй нашай цяжкай артылерыі.

Я пусціў секундамер і, ведаючы хуткасць снарада і хуткасць гуку, падлічыў, што снарады рвуцца не далей як за тры-чатыры кіламетры. Усяго. Во як блізка!

А яшчэ праз колькі мінут над лесам, не ўвабраўшы нават шасі і ледзьве не кранаючыся імі верхавін дрэў, празвінелі штурмавікі — тыя «ілы», якія немцы называлі «чорнай смерцю».

І блізка на захадзе, вельмі блізка пачалася частая мінамётная і кулямётная страляніна. Няўжо пайшлі на фарсіраванне?

Я хадзіў ад машыны да машыны, углядаўся ў твары пражэктарыстаў. Кранула і парадавала, што ў дзяўчатак яны больш спакойныя, хоць і пасур'ёзнелыя, пасталелыя, чым у пасівелых бацькоў іх. Не асуджаў гэтых дзядзькоў: у іх дзеці, а вайна канчаецца. Сказаў пра дзяўчат Тужнікаву. Той хмура адказаў:

— Не ідэалізуй іх. Глядзі, каб яны не разляцеліся, што спалоханыя сініцы, калі трэба будзе выконваць задачу.

— А якую задачу мы павінны выконваць? Людзі павінны ведаць.

— Не спяшайся. Скажуць.

Выходзіць, і ён не знае. Не падабалася такая таямнічасць. Штурмавым ротам задачу ставяць — людзям, якія ў атацы могуць раненымі трапіць у палон. Нашы ж у палон не трапяць — ад немцаў нас аддзяляе Одэр.

Дзіўная чалавечая псіхалогія на фронце. Толькі што побач забіла людзей, іх таварышаў, а танкісты прынеслі трафейны баян. Камсорг роты масквічка Святлана Купцова ўмела іграць. Звярнулася не да свайго камандзіра — да мяне:

— Таварыш малодшы лейтэнант, можна патанцаваць?

Просьба проста-такі ашаламіла мяне. Спытаў дазволу ў Тужнікава. Той нечакана дазволіў:

— Няхай танцуюць,— і спыніў мяне, калі я павярнуўся, сказаў нечакана, нязвыкла, з бацькоўскай інтанацыяй Калбенкі: — Станцуем і мы з табой, Павел? Трасянём маладосцю.

І мы танцавалі. Пад музыку баяна. Пад гул артылерыйскай кананады.

У вячэрнім паўзмроку зноў з'явіўся ранішні «віліс», і тыя ж афіцэры штаба павялі нас займаць баявую пазіцыю, так і сказаў адзін з іх. Машыны ішлі, не ўключаючы фар, за сінім стоп-сігналам «віліса» спачатку па брукаванцы, потым па палявой гразкай дарозе. Буксавалі. Моўчкі, без галёкання — такі загад — людзі памагалі маторам. З-пад колаў на шынялі, у твары ляцела ліпучая гліна. Недзявочыя намаганні выпалі на долю дзяўчат. Але не непасільная праца хвалявала. Калі падняліся на ўзгорак,— недалёкія ўспышкі стрэлаў у наш бок.

— Немцы? — спыталі дзяўчаты, з якімі я ехаў, і шчыльней прыціснуліся да мяне і адна да адной.

Сапраўды, падобна на тое, што нас прывялі на самую перадавую. Дзіўна. Навошта тых, хто не можа адказаць залпам на залп, выстаўляць на самым пупе? Лавіць самалёты мы маглі б і адтуль, з лесу, прамяні нашы доўгія.

Спыніліся. І нарэшце атрымалі заданне: расставіць пражэктары ў адзін рад і па сігналу, які будзе дадзены па лініі сувязі, асвяціць нямецкія пазіцыі.

Расстаўлялі пражэктары паміж артылерыйскіх пазіцый. А пазіцыя гэтая здавалася суцэльнай, без пачатку і канца. Куды ні ступіш, убок, наперад, назад — гарматы і мінамёты. Закапаныя ў зямлю, яны маўчалі, але і ў густой цемры адчувалася прысутнасць мноства людзей, здавалася, чулася іх стоенае дыханне. Наша пазіцыя таксама расцягнулася: інтэрвал паміж пражэктарамі ў дзвесце метраў.

Артылерысты здзівіліся, разгледзеўшы папаўненне.

— А вам што тут рабіць? Свяціць будзеце нам? Дык у нас цэлі вызначаныя.

Па меры таго як згушчалася ноч, усё больш нерваваліся немцы. Пачалі пускаць ракеты. Яны асвятлялі шырокую гладзь вады. Одэр! Мы ў нейкіх двух сотнях метраў ад яго. Вось яна, перадавая. Наперадзе яе толькі вораг, што чакае рашучага штурму, апошняй хвіліны сваёй. Магчыма, я радаваўся б, што хоць пад канец вайны трапіў на самы пярэдні край, каб не страх — за дзяўчат. Чаго маніць праз столькі год — баяўся і за сябе, нязвыклае, невядомае заўсёды страшыць. Але ўласны страх тоіш нават ад самога сябе, а страх за блізкіх людзей — не ганьба. Пра яго сказаў камандзіру роты. Анюцін узлаваўся:

— Не распускай нюні, палітрук. Залазь у кабіну і спі.

Абразлівая парада. Як гэта можна спаць у такі час? Але тут жа пачуў, што і старшага лейтэнанта ліхаманцы і дараваў яму. Пэўна, не ад любові да фізічнай працы, не ад недаверу людзям ён хапаўся за справу, якую рабілі байцы. А можа, і яму хацелася хоць як-небудзь памагчы гэтым маласільным дзяўчатам.

Рабілі ў поўнай цемры. Строгі загад: ніякага святла, ніякага шуму. Апоўначы сціхлі і шумы матораў аўтамашын: усе занялі свае пазіцыі. Стаіліся.

Немцы часта ўсчыналі бязладную страляніну з мінамётаў і кулямётаў, нават вухалі цяжкія гарматы ці гаўбіцы. Наш бераг маўчаў, рэдка-рэдка адзываліся кулямёты, як бы падаючы гарэзлівы сігнал: не турбуйцеся, мы тут, на месцы, чакайце свайго часу.

Вярнуўся з артылерыйскага бліндажа Тужнікаў і даў каманду адпачываць.

Я застаўся з разлікам, у якім была Надзя. Як бы адчуваў віну перад гэтай дзяўчынкай — што колькі месяцаў не заўважаў яе. Сапраўды, я такі адчуваў віну не толькі перад ёй перад усімі пражэктарыстамі. Дарэмна мы так мала аддавалі ім увагі, лічылі архаічным відам зброі. А яна во дзе спатрэбілася! На самай перадавой. Хоць задума камандавання была ўсё яшчэ незразумелай. «Светить — и никаких гвоздей». А навошта? Пэўна, каб асляпіць праціўніка ў момант, калі пачнуць пераправу. Недзе там наперадзе, над абрывам ці ў залітай вясновымі водамі пойме, хаваюцца сапёры, пантоншчыкі і штурмавыя роты. Іх дыханне таксама адчуваецца. Як будуць разгортвацца падзеі — пра гэта ведаюць у самых высокіх штабах. Але несумненна адно: укладваемся адпачыць у гістарычную ноч. Ці чакаем гістарычнага ранку?

Сказаў пра гэта разліку пражэктара. Але мае пафасныя словы наўрад ці дайшлі да стомленых людзей. Ва ўсялякім разе, ніхто на іх не адгукнуўся.

Камандзір установкі аказаўся вопытны і прадбачлівы чалавек — захапіў у кузаў яловых лапак, калі днявалі ў лесе. Як ведаў, што спатрэбяцца. Лапкі гэтыя паклалі на сырую зямлю пад станінай пражэктара, і там леглі ўсе ў адзін рад — «дзяды», дзяўчаты, сяржант, я. Прымасціўся з краю, можа, менавіта таму, што угледзеў: крайняй лягла маленькая Надзя, з нямецкага боку. Прыкрыў яе ад ветру, ад шалёнай кулі.

Па-вясковаму п'яна пахлі ёлка і зямля. Але і праз гэты востры водар жыцця прабіваўся смурод вайны: калі свяцілі нашы пражэктары, пасля іх фарбавалі, а ўсё роўна пахла згарэлай фарбай. Ці, можа, пахла так ад блізкіх гармат, бо патыхала і парахавым гарам, і

бензінам, і — дзіўна! — конскім потам, салдацкімі анучамі. Няўжо хтось недалёка прасушваў анучы? Паранейшаму чуў я — неадчэпнае ўяўленне? — дыханне не аднаго разліку — многіх тысяч людзей. Гэта і ўздымала дух і страшыла: столькі нас на адным пятаку чужой зямлі, а за ракою — смерць, яна і не таіцца нават у начной цемры. Зразумела, чаму мы так скупа адказваем на іх агонь. Але ўрэшце ўсе дыханні патанулі ў адным, сцапаным, сапраўды-такі дзіцячым, у сапенні прастуджанага носіка.

Спытаў шэптам:

— Ты спіш, Надзя?

— Не, таварыш малодшы лейтэнант. Але я засну. Я засну, У мяне добры сон. Моцны.

— Ты з вёскі?

— З вёскі.

— З якой вобласці?

— З Арлоўскай.

— Немцы да вас даходзілі?

— Не, да нас не дайшлі.

— Якая ў цябе сям'я?

— Звычайная. Бацька ў калгасе робіць, ён інвалід, яму яшчэ маладому малатарняй руку пашкодзіла. Мама... Яна кароў доіць... Старэйшыя сёстры ёй памагаюць. А я ў палявой брыгадзе рабіла, Нас трое, сясцёр. І братоў трое. Але Ваню забіла на вайне, пад Сталінградам. Мама самлела, калі пахаронку ўбачыла. А Пецю ў маі будзе семнаццаць. Як вы думаеце: скончыцца да мая вайна?

— Скончыцца. Да першага мая скончыцца.

— Ой, праўда? Вы гэта знаеце?

— Сённяшняя ноч усё вырашыць.

— Ой! Іх усіх паб'юць?

— Каго?

— Немцаў.

— Ты маеш на ўвазе фашысцкіх салдат?

— Так.

— Усіх не заб'ём, канешне. Але яны здадуцца...

— Вы верыце, што яны здадуцца?

— А куды ім дзявацца?

— Гэта праўда. Столькі артылерыі нашай. Няма куды адысці — усюды пушкі і пушкі. А куды мы будзем сваціць?

— Далі б вы паспаць,— адгукнуўся побач незадаволены дзявочы голас.— Ваш шэпт горш за пушкі...

Мы змоўклі.

І я заснуў. Праваліўся ў тую глыбіню, з якой не бачыш нават сноў. Хоць, здаецца, усё ж сніў — сваё маленства. Ці, можа, гэтыя ўяўленні прыйшлі пазней — у кароткай яве ці пасля ў трызненні?

Разбудзіў нас сам камандзір роты не гучным і звыклым клікам «Трывога!», а ціхім голасам, амаль бацькоўскім, ласкавым:

— Пад'ём, дзяўчаты, пад'ём. Па месцах! Зараз свяціць будзем. Але да таго ніякага святла.

Глыбокая ноч. І дзіўная цішыня. Мы прывыклі да цішыні — у Петразаводску. Але пасля дзённай артылерыйскай кананады і вясёлай вячэрняй пераклічкі кулямётаў цішыня гэтая ў поўнай цемры здалася злавеснастрашнай. Адзіная жывая прасветліна: парвала хмары і дзе-нідзе з касмічных глыбіняў глядзелі на аглушаную зямлю адзінокія зоркі. Я знайшоў Вялікую Мядзведзіцу, ад яе — Палярную Зорку. Нізкавата яна тут.

Бязветрана, але ўсё роўна холадна. Ці гэта нервовае? Ліхаманіла. Не аднаго мяне. Пад наводчыцай па азімуту брынчэла сядзенне. Знаёмы гук — амаль той жа, што і на гармаце.

У сістэме гукаўлоўнік-пражэктар Надзя вычытвала каардынаты шуму матораў. Тут гукавых установак не было. І яе зрабілі сувязісткай. Але яна не сядзела пры апараце, яна насіла яго на плячы, раз-пораз слухаючы шумы на лініі — ці няма разрыву. Стаяў побач з ёй і чуў, што яе таксама ліхаманіць.

Камандзір папярэдзіў: сігнал пуску дынамамашыны будзе дадзены па тэлефоне. Таму баяліся сказаць слова, каб не прапусціць гэтага сігналу. Камандзір пражэктара аддаваў загады шэптам. Але здавалася, што і шэпт яго грыміць на ўвесь свет.

Не, ліхаманіла яе ад холаду — ад нецярпення: калі ж паступіць каманда?

Раптам... у чорнае неба ўзляцела тысяча рознакаляровых ракет. І ў той жа міг яно раскалолася — неба. Ці зямля? І неба. І зямля. Усё роўна што выбухнуў гіганцкі — на ўсю Германію — склад снарадаў.

Гарачая хваля сарвала з мяне фуражку. Сярясанта скінула з пляцоўкі пражэктара. Ударыла батарэя, што стаяла за намі, трохі ніжэй на ўзгорку. Білі чатырыста ствалоў на шырыні пазіцыі, якую займала пражэктарная рота. Вывяргалі смяротны агонь дваццаць дзве тысячы гармат і кулямётаў — ведаем мы цяпер з гісторыі, з мемуараў военачальнікаў.

На тым беразе забушавала на вялікую глыбіню суцэльнае полымя разрываў.

Да грому гармат, мінамётаў далучыўся знаёмы гул соцень матораў. Ішлі бамбардзіроўшчыкі, штурмавікі. Там, за ракой, над вя-

лікімі пажарамі, што кідалі полымя ў неба, высвечваліся на разваротах сярэбраныя сілуэты самалётаў і чорныя бомбы, што сыпаліся з іх.

— Во вам! Во вам! За Ваню! За Ваню! — разабраў я — крычыць Надзя, прыціскаючы тэлефонны апарат да грудзей — што дзіця.

Сэрца грукала, гатовае разарвацца ад шчасця, як рвуцца ствалы ад перагрэву. Я таксама, здаецца, крычаў:

— Во вам! Во вам!

А мне на вуха крычаў старшына роты Павел Манкевіч, зямляк, з ім мы прызываліся разам:

— Які аганёк, цёзка! Які аганёк! — і рагатаў, ажно мне страшнавата зрабілася за яго — ці не дрэнна ў чалавека з галавой?

У часе гэтага, здалося, вельмі доўгага агнявога шквалу, які, бадай, змёў на варожым беразе ўсё жывое, я зноў не разумеў, навошта ж пражэктары. Хапае святла і без нас!

Калі была дадзена каманда запусціць дынамамашыны — гэта я прапусціў, ды і не пачуў стракатанне матора ў гарматным гуле. У водбліску артылерыйскіх залпаў, якія, здаецца, пачалі затухаць, убачыў, як Надзя схапіла трубку апарата і замахала ёй, працягваючы сяржанту з радасным крыкам:

— Свяціць!

— Да будет свет! — весела паўтарыў я біблейскае выслоўе.

Асобная каманда, бадай, і не патрэбна была. Міг — і тысячы сонцаў успыхнулі над Одэрам. Асвяцілі на тым беразе кояшы кусцік, кожнае дрэўца, хоць нямнога іх там засталося, разварочаную чорную зямлю, вывернутыя бярвенні бліндажоў і... Маленькія постаці ў сівых шынялях, яны перабягалі з месца на месца, шукалі шчыліны, каб схавацца ад сонца ў мільёны свечак.

У водбліску пражэктараў было відаць, як на нашым беразе ўзняўся чалавечы дзевяты вал, скаціўся ўніз Да Одэра. Рака пакрылася платамі, пантонамі, чаўнамі.

Толькі тады, апамятаўшыся, адказалі далёкія непадаўленыя нямецкія дальнабойныя батарэі. Дайшла нарэшце да іх задума савецкага камандавання.

Фантан агню перад нашым пражэктарам. Звон. І ён патух. Я знаходзіўся за дзесятак крокаў, паміж устаноўкай і аўтамашынай. Гарачая хваля шыбанула мяне на зямлю. Але я падхапіўся і кінуўся да машыны, вырашыўшы, што пражэктар патух з-за няспраўнасці ў электрычнай сістэме. Ды тут жа сцяміў — яго разбіла. Кінуўся назад. І тут адчуў, як левую нагу працяў гарачы боль, у боце захлюпала цёплая вадкасць. Усе грымоты зліліся ў аднастайны глухі вадаспадны шум.

Ранены. Кантужаны. Але не да сваёй бяды. Што з людзьмі? Што з дзяўчатамі?

Убачыў сяржанта, ён ляжаў на платформе, звесіўшы галаву ўніз. Першы нумар Фрося Кругавых засталася на сядзенні, але галава яе ляжала на прыёмніку азімута. Я схапіў яе за плечы, і яна цяжка асунулася на платформу. Забіта. Няўжо забіта? Хацеў прыпасці вухам да яе сэрца, але зразумеў, што мяне аглушыла — не чую нават гарматных стрэлаў, выбухаў бомб. Узабраўся на невысокую пражэктарную платформу. А калі скочыў назад, нагу працяў такі моцны боль, што, відаць, на нейкі час страціў прытомнасць. Ва ўсялякім разе, узняцца на ногі больш не мог. Поўзаў па мокрай зямлі. Клікаў Надзю. Дзе Надзя? Чаму Надзю? Гэтага ніколі пасля не мог вытлумачыць.

Патух бліжэйшы пражэктар, хоць дальнія яшчэ свяцілі. Я поўзаў у паўзмроку. І я знайшоў яе, Надзю. Намацаў рукамі. Потым, здаецца, пачуў, што яна стогне. Паклікаў — не адазвалася. Але цела яе сутаргава білася пад маімі рукамі. Рана... дзе рана? Хутчэй перавязаць! Ірвануў гузікі яе шыняля. Правёў рукамі па грудзях, па жываце... І жахнуўся. Зноў у жывот! Як Кацю. Як Ліду. Чаму іх раніць у жывот? Што за напасць. Забіваюць не адну... Забіваюць тых, хто мог бы з'явіцца на свет.

— Надзя! Надзечка! Сястрычка мая! Жыві! Жыві! Прашу цябе. Прашу.

Абліваў дзяўчыну слязьмі, не вельмі ўмела перавязваючы па акрываўленай сарочцы, каб заціснуць рану, спыніць кроў.

Здаецца, яна нешта казала, кагось клікала — па збялелых вуснах бачыў, але нічога не чуў.

— Надзечка! Перамога яе! Перамога!

Паіў яе вадой з фляжкі, вада вылівалася назад з рота акрываўленая. Кроў... кроў... Усюды кроў. Акрываўленыя бінты, сарочка, спадніца. Кроў на твары. Здалося, кроў залівае і мяне: з бота падымаецца ўсё вышэй — да жывата, да грудзей, да шыі... вось-вось хлыне ў рот; у роце ўжо горка і салёна. Я страціў прытомнасць. Надоўга?. Ненадоўга? Ніхто пасля не мог мне гэтага сказаць. Апрытомнеў ад таго, што мяне падымаюць. Не, напэўна, ад таго, што пачуў знаёмы голас свайго строгага начальніка — Тужнікава. Сапраўды, я пачуў яго голас. Але быў ён зусім іншым, чым заўсёды:

— Паўлік! Дарагі ты мой таварыш! Як жа гэта ты? Чаму я не забраў цябе на КП? Ах, бяда...

Світала. Нізка ў небе гарэла чырвонае воблака. А ў зеніце — ні хмурынкі. Зеніт — сіні, такім бывае ён толькі на світанні.

Двое санітараў паклалі мяне на насілкі. Але я закрычаў:

— Вазьміце яе! Вазьміце яе! Надзю!

Зразумелі — каля яе мяне знайшлі.

Любоў Сяргееўна — які жахлівы прывід! — стала перад Надзяй на калені, узяла яе за руку. Потым узнялася і накрыла яе белым маскхалатам. Чаму белым? Не зіма ж. Павярнулася да мяне, сумна ўздыхнула, зняла пілотку. Чаму мне прыгадалася Пахрыцына? Чужы ўрач, старшы лейтэнант. Выглядам сваім яна вярнула мяне з небыцця. Але калі мяне панеслі, у небе паплыла крывавая рака.

10

У другой палавіне майскага дня па шпіталю, як віхор, пранеслася чутка: гітлераўская Германія капітуліравала. Нехта з урачоў, хто ведаў мову, пачуў перадачу англійскага радыё.

Пасля авалодання Берлінам капітуляцыі фашысцкай арміі чакалі з дня на дзень. Цяжкапараненыя, прыкаваныя да ложкаў, сустракалі сясцёр і ўрачоў раніцою не прывітаннем, не просьбай — пытаннем: «Ну, як там?» І ўсе разумелі, што іх цікавіць.

Здавалася б, тыднёвае чаканне і ўпэўненасць, што падзея гэтая вось-вось адбудзецца, магло б прытупіць рэакцыю. Не. Слова «капітуляцыя» сапраўды ўляцела віхрам, вясновым скразняком праз дзверы, вокны ва ўсе вялікія палаты і ўзняло на ногі ўсіх, хто мог без старонняй дапамогі спаўзці з ложка. Тыя, хто ляжаў, настойліва прасілі хадзячых знайсці ўрача, што першы пачуў, прывесці яго любымі ўгаворамі, а не — дык гвалтам: няхай пацвердзіць, няхай раскажа — дзе, калі?

Усяго дні тры як мне дазволілі хадзіць на адной назе, на мыліцах, і толькі на сваім паверсе. На лесвіцу — ні ў якім разе. Але тут я адкінуў забарону і з нечаканым для сябе спрытам паскакаў, што падбіты заяц, па шырокай лесвіцы на першы паверх і далей — на двор, бо даведаўся, што ў гаспадарчым корпусе даюць трафейныя прыёмнікі. Вымаліў і я нейкі прыёмнік, папрасіў байца-санітара ўзнесці на трэці паверх. Стоўпіліся вакол яго. Лавілі Маскву.

Масква перадавала ўрачыстую музыку Глінкі, Чайкоўскага, Шастаковіча. І ніякіх паведамленняў нават у той час, калі нязменна каторы год ішло — «Ад Савецкага інфармбюро». Парушэнне праграм перадач прадвяшчала тую навіну, якой чакалі з такім нецярпеннем, што некаторыя параненыя давялі сябе да нервовай ліхаманкі. Прасілі ў сясцёр валяр'янку, а тыя пагражалі адабраць прыёмнік.

— Нямецкія станцыі лаві! Нямецкія!

Па-нямецку некаторыя нешта разумелі, хоць зусім не ўсе словы, якія маглі б сказаць тыя, каго ўрэшце вымусілі скласці зброю.

Нямецкія станцыі маўчалі. Давілі ўсю Еўропу. На шведскай ці фінскай мовах, якія ніхто не разумеў, гучала слова «капітуляцыя». Безумоўна, капітуліравалі. Але чаму маўчыць Масква? Гэта трывожыла, але супакойвалі кожны сябе і адзін аднаго: рыхтуецца выступіць сам Сталін, а ён ніколі не спяшаецца, ён абдумае кожнае слова, загады яго — што песні, палітработнікі лёгка вывучалі іх на памяць.

На свіст прыёмнікаў, напэўна, нехта паскардзіўся — цяжкапараненыя ці медперсанал. Абышоў палаты намеснік начальніка шпіталя па палітчасці, па загаду якога прыёмнікі раздалі. Пагразіў, што, калі будзем лавіць чужыя станцыі, адбярэ прыёмнікі.

Пераключыліся на Маскву, сцішылі гук. Ніколі, відаць, з такой увагай не слухалі афіцэры-франтавікі класічнай музыкі.

Я стаяў каля шырокага акна, глядзеў, як за дрэвы парка садзіцца сонца. Каштаны і ліпы ўжо ў зелені маладога лісця. Яно закрыла зеніткі, бачу толькі адну, нацэленую ў неба, сваю родную — трэцяй батарэі.

Аперыравалі маю нагу ў палявым шпіталі. Сюды прывезлі ўначы. І калі на другі дзень я даведаўся, што знаходжуся ў Ландсбергу, вельмі ж узрадаваўся. Лейтэнант Балуеў, ранены ў плячо, у той жа дзень сказаў:

— Вунь, малодшы, твае гарматы стаяць.

— У якім мы шпіталі?

— У нейкім іх тэхнічным вучылішчы.

Дык гэта ж побач з нашай трэцяй батарэяй! Ведаў я гэты шпіталь, многа разоў праходзіў міма, ідучы з трэцяй на другую батарэю.

Папрасіў санітара схадзіць да нашых сказаць, што я тут.

На другі ж дзень наведаліся Тужнікаў і Калбенка. Пасля Кузаеў з Антанінай Фёдараўнай. Потым зноў яна з Марыяй Аляксееўнай. Данілаў прыйшоў хмурны, схуднелы. Ён адзін не парадаваў — сапсаваў настрой, бо спытаў зласліва:

— Твая работа, што Ліку перавялі на трэцюю?

— Што ты, Саша! Слова нікому не сказаў.

— А хто?

— Ты думаеш, Кузаеў не адгадаў прычыну твайго...

— Заткніся,— аглянуўся ён на майго суседа па ложку: саромеўся слова, якое я мог сказаць.

Я перайшоў на шэпт:

— Антаніна... знаеш, якая сваха. Пра кожнага ведае. Усіх дзяўчат гатова выдаць замуж.

— Акружыліся бабамі — самі бабамі пасталі!

— Хто?

— Ты — першы.

— А ты?

— Ды і я, ідыёт. Трэба было і мне, як Маслоўскаму. Зайздрошчу яму. І Жмур тваёй. Яна — цыганка, а не я — цыган. Слюнцяй дзетдомаўскі!

Сціснуў яго руку.

— Не сарвіся, Саша. Не сарвіся.

— Цяпер ужо не сарвуся. Згарэла,— сумна паабяцаў ён.

Да болю стала шкада яго.

Жэня Ігнацьева прыходзіла амаль кожны дзень. Таварышы па палаце кпілі:

— Малодшы, чым ты так прываблiваеш дзяўчат? Падзяліся вопытам.

Жэню палюбілі. Яна наведвала не аднаго мяне — усіх. Іх ніхто не мог наведаць; іх часці штурмавалі Берлін. Жэніна ўменне ўсім падарыць усмешку, кнігу з гомельскай бібліятэкі, галінку бэзу, знойдзены ў парку смарчок кранаў раненых. Яна паспявала кожнаму паправіць пасцель, пачытаць, пагаварыць. Яе клікалі «сястрычка». Пра яе казалі: «Во — ідэал міласэрнай сястры, а нашы задубелі ўлад». Шпітальныя сёстры раўнавалі да Жэні, хоць ніводная не адважылася выставіць яе з палаты — баяліся нашага бунту. Ды і дапамогу яе не маглі не цаніць.

У той дзень ніхто не прыйшоў да мяне. І я ўстрывожыўся, асабліва калі адразу не ўбачыў гармат, гэтак за суткі пагусцела лісце. Не, пасля разгледзеў трэцюю гармату — сяржанта Рагавога. Старую ліпу расшчапіла маланкай ці бомбай, і ўтварылася прагаліна. Праз яе я глядзеў на гармату ўвесь дзень.

Акрамя чакання той незвычайнай непамерна вялікай радасці, якую чакаў увесь народ наш, уся Еўропа, была ў мяне ў той вечар уласная маленькая радасць — я праверыў свае сілы: разоў пяць спусціўся ўніз і падняўся на высокі паверх, штурмаваў лесвіцу, як жартавалі мае суседзі.

Але быў і смутак, агульны, усяго паверха. Ляжалі там людзі, якія бачылі тысячы смерцяў, некаторыя самі, паміралі неаднойчы. На вайне прывыкаюць да смерці, у шпіталях — асабліва. Праўда, я трапіў у шчаслівую палату: за тры тыдні памерла ўсяго двое. У тыя дні весяльчакі, вастраслловы сумна маўчалі.

У шпіталях хаваюць у трунах. Нехта з нашых схадзіў у майстэрню і вярнуўся прыгнечаны: колькі там робяць трун! Жалобная ж музыка гучала толькі адзін раз — хавалі генерала. Ад раненых утойвалі смерці. Стараліся, каб не бачылі безнадзейных, але на ўсіх асуджаных

на смерць асобных палат не хапала. Мілда Юрканс ляжала ў асобнай палаце. Аднак пра яе ведаў увесь шпіталь. Аперыраваў разведчыцу тут, у Ландсбергу, паўторна, галоўны хірург фронту, прыязджаў з Познані. Наведвалі яе генералы. Увесь персанал шпіталя, ад нянек-немак, ад кухараў да хірургаў і ўсе раненыя, хто паляжаў тут хоць два-тры дні, сустракалі раніцу пытаннем: «Як Мілда?» Набожныя «дзяды» маліліся богу за яе. Але цяжэй было трэцяму паверху, яна была побач, і, хоць да яе не пускалі, мы, хадзячыя, заглядвалі. Ды і нярэдка бачылі, што сёстры, тыя сёстры, якія бачылі-перабачылі за вайну ўсе чалавечыя пакуты, выходзілі з яе палаты ў слязах.

Пра Мілду расказвалі легенды. Латышка, яна дасканала ведала нямецкую мову. І ўмела прабірацца праз самы шчыльны фронт з лёгкай кароткадыстанцыйнай рацыяй. Перадавала даныя, карэкціравала агонь артылерыі. Запеленгаваная немцамі, колькі разоў выклікала агонь на сябе. Пад Кёнігсбергам яе знайшлі пад развалінамі дома, кантужаную, але жывую. Апынулася яна за варожымі пазіцыямі і ў дзень прарыву на Одэры. Яе захапілі на Зеелаўскіх вышынях. Азвярэлыя эсэсаўцы не забілі разведчыцу — па-садысцку адсеклі грудзі, вушы, пальцы рук. Але калі яны ўцяклі пры набліжэнні савецкіх танкаў, у Мілды хапіла сілы выставіць з балкона свае акрываўленыя рукі. Іх убачылі танкісты.

Масква паведаміла пра капітуляцыю позна ўначы. Выступіў Міхаіл Іванавіч Калінін. Будынак шпіталя задрыжаў ад «ура!». А горад азарыўся салютам. Ракеты сыпалі чырвоны і зялёны серпанцін. Неба распісалі каляровыя трасёры. Раненыя, хто змог хадзіць, рушылі ў двор. Стукалі дзверы. Гулі лесвіцы.

Раней чым спусціцца ўніз, я заглянуў у палату Мілды. Галава яе забінтавана, і яна не магла чуць радасныя крыкі. Але апрытомнелыя вочы ўбачылі агні за акном, і ў яе скалечанай галоўцы ўзнікла здагадка. Позіркам прасіла яна пацвярджэння. Я закрычаў што ёсць сілы:

— Перамога! Мілда! Перамога! — і падкінуў угору свае мыліцы.— Жыві толькі... Жыві, сястрычка!

Вельмі можа быць, што яна пачула «жыві!», бо з вачэй яе скаціліся буйныя слязіны.

У двары ўрачы салютавалі з пісталетаў, байцы аховы пускалі ракеты. У святле іх натоўп... вялікі натоўп, можа, тысячу чалавек у белых, шэрых, сініх халатах здаваўся незвычайным казачным войскам. Людзі абдымаліся, цалаваліся. І плакалі. Жанчыны плакалі — сёстры, санітаркі, урачы, кухаркі. Ды і не толькі яны. Мяне абняў стары

вусаты маёр у кіцелі, але ў тапачках, уткнуўся тварам у плячо, затросся ад нямога рыдання.

— Сынок, сынок... Хлопчыкі мае Віталік і Косця не дайшлі... не дайшлі, сынок. Жывіце, дзеці, жывіце...

Салют са стралковай зброі як бы ўвянчаў залп зенітнай батарэі. Адной. Па напрамку і адлегласці я вызначыў: Данілаў. Ах, гарачая цыганская галава! Пападзе табе, калі без дазволу. Але хіба ў такую ноч можна не салютаваць? Малайчына, Саша! Малайчына! Здзівіла, што Кузаеў не дае каманду ўсяму дывізіёну. Хоць не, нельга! Нельга салютаваць баявымі. Асколкі! Усе ж людзі на вуліцы — нашы. Агонь са стралковай зброі таксама небяспечны. Пальне хто не ўгору. Крый божа, каб у такі ўрачысты час нехта памёр ад сваёй кулі, асколка. Яшчэ паміраюць ад нямецкіх. Паміраюць... Апоўначы слухалі паведамленне аб баях у Чэхаславакіі. Выходзіць, пасля падпісання капітуляцыі...

Нампаліт шпіталя гаварыў прамову. Але слухалі яго нямногія. Не, слухалі, бадай, усе, але кожны думаў пра сваё, кожны пераходзіў мяжу, ад якой пачыналася новае Жыццё. Асабіста я інакш і не ўяўляў яго, як з вялікай літары.

Потым урачы, сёстры ўпрошвалі раненых вярнуцца ў палаты. Світала. Там на ўсходзе, на Радзіме даўно пачаўся першы мірны дзень.

Калі падымаўся да сябе, на другім паверсе мяне перахапілі старэйшыя афіцэры, зацягнулі да сябе ў палату. Шпіталь раўняе ў званнях. А Перамога наогул зліла ўсе зоркі ў адну — у Маршальскую, не ніжэй, у той міг усе мы былі Салдатамі і ўсе былі Маршаламі, бо ўсе былі Пераможцамі.

— За Перамогу, таварышы!

Звінелі шклянкі, кубкі, бакалы. Дзе набралі ў начны час столькі, што на кожнага хапіла?

Я ап'янеў. Знайшла мяне ўстрывожаная сястра нашага аддзялення, вяла на трэці паверх з бяскрыўднымі папрокамі. А я імкнуўся пацалаваць яе. Яна адмахвалася і смяялася, хоць звычайна была сур'ёзная і строгая.

Прачнуўся я ад музыкі і сонца. Палата апусцела. Толькі двум з партыі ачуняўшых не дазвалялі яшчэ падымацца.

Капітан, сусед па ложку, пажартаваў:

— Цёпленькі ты, малодшы, вярнуўся раніцою. Дзе так добра сербануў? Пра таварышаў сваіх не падумаў. Нашы тут ад твайго духу слінкі каўталі.

Зрабілася сорамна і... трывожна. Чаму раптам трывожна? Перамога ж! І дзень — які дзень!

Без мыліц, хапаючыся за ложкі, даскакаў да акна. Якое сонца! Здаецца, ніколі такога не бачыў. Яно залівала ўвесь свет. З гэтага акна далёка відаць зялёная пойма Варты з азерцамі ад нядаўняй паводкі. Рака іскрылася. Рака радасна смяялася. Чужая. Як жа там родны Дняпро ў гэты дзень? І смяецца і плача, як усе мы, раненыя, медперсанал, урачы. За ркаой, у лагеры італьянцаў, што былі інтэрніраваны немцамі, гулялі ў футбол.

Перабраўся да свайго акна. У прасвеце паміж зялёных галін убачыў гармату на батарэі Саўчанкі і... неяк адразу супакоіўся. Толькі нясцерпна пацягнула да сваіх. Але як выпрасіць у старэйшай кіцель, штаны і бот? Адзін бот, другі на раненую нагу ўсё роўна не абуць. Не дасць, злая кастэлянка!

Брыдкім здаўся паласаты махровы купальны нямецкі халат, у які нас адзелі. Аднак не выйдзеш у адной споднян кашулі ды ў бальнічных шараварах.

— На танцы? — зайздросна падгартаваў капітан, калі я паскакаў на мыліцах да дзвярэй.— Станцуй і за мяне.

— Урэжу гапака. Не сумуй.

У нязвыкла пустым калідоры спыніўся перад палатай, у якой ляжала Мілда. Паслухаў цішыню. І зноў у сэрца ўдарыў холад трывогі. Доўга не адважваўся зайсці. Адчыніў дзверы і...пахіснуўся, выпусціў мыліцу, схапіўся за касяк.

Пусты ложак акуратна засланы.

Горкі камяк слёз балюча распіраў горла. Хацелася закрычаць, завыць. У такі дзень яе не стала! Усёмагутны бог! Дзе ты? Чаму ты такі бязлітасны?

Забалела нага так, што ледзьве ўтрымаўся. Аблілася крывёю. Не, кроў з нагі залівала сэрца, як там, над Одэрам, калі я пачуў, што Надзя мёртвая. Надзіна аблічча застанецца ў памяці. А Мілда?.. Галава яе была так забінтавана, што засталіся ў памяці толькі вочы і слёзы, якія ўбачыў урачы.

Няўжо яе пахаваюць цішком? Не! Нельга! Падыму ўсіх раненых. Запатрабую, каб нахавалі яе тут, на гары, у парку. Не на могілках жа, не побач з немцамі! І каб зрабілі яе партрэт. Каб засталася яна ў памяці кожнага, хто правядзе яе ў апошнюю дарогу, хто прыйдзе на магілу.

А ўнізе гучала музыка. Урачысты вальс.

Спускаўся я з бояззю — каб не ўпасці. Спыніўся на лесвічнай пляцоўцы. На блізкім поплаве танцавалі. Кружыліся пары. Урачы ў

парадных кіцелях. І дзяўчаты ў цывільных па-майску яркіх сукенках; сёстрам дазволілі пераадзецца. А навокал стаялі, сядзелі на лавачках раненыя. І раптам як узрыўная хваля ўдарыла мяне. Што гэта? Прывід? Трызненне? Я ўпаў? Ды не, цвёрда стаю на трох нагах. І розум мой светлы.

Ванда? Так, Ванда!

Яна сядзела на лавачцы тварам да мяне ў кіцелі, правы рукаў якога плоска і мёртва звісаў.

Ад чаго я задыхаўся? Ад шчасця? Ад болю? Дарога ад ганка да танцпляцоўкі, нейкія паўсотні метраў, расцягнулася на доўгія вёрсты. Я распіхваў плячом тых, хто засланіў Ванду.

— Што, герой, хочаш станцаваць? На руках? Давай, давай! Ці твае кастылі — танцоры? Во цыркач!

Ванда ўбачыла-мяне, паднялася, здалося мне, спалоханая.

Я падкавыляў да яе, выпусціў мыліцы, упаў на калені, уткнуўся тварам у спадніцу. Вандзіна рука лягла на маю галаву.

— Паўлік, Паўлік...

Адразу змоўкла музыка. Нас акружылі. У першую чаргу — дзяўчаты: любяць рамантычныя гісторыі.

— Ну, во... Яна без рукі, ён без нагі...

Нейкая плаксівая ўсхліпнула побач.

Агульная ўвага, пэўна, збянтэжыла Ванду. Яна абвясціла :

— Гэта — мой брат.

Цікавасць да нас зменшылася. Сустрэліся раненыя брат і сястра — гэта ўжо зусім не рамантычная гісторыя, трагічная. А трагедыі ў першы дзень міру нікому не хацелася.

Сядзелі побач на лавачцы ў глыбіні парку. Знікла звычайная Вандзіна гарэзлівасць і... як я ні імкнуўся наблізіцца да яе, яна аддалялася. Яна жыла боем, у якім удзельнічала. Расказвала з ліхаманкавым бляскам у вачах, з нервовымі рухамі здаровай рукі — краналася маёй забінтаванай нагі і спалохана і прабачліва адхоплівала руку, сціскала пальцы ў кулак. Але рука як бы не слухалася яе, рука красамоўна дапаўняла нібыта і спакойны расказ — перадавала боль, які перажыла дзяўчына, боль той рукі, якую закапалі пад Берлінам, і боль душы, які Ванда перажывала і які цяпер, напэўна, застанецца на ўсё жыццё.

— ...Прарвалі абарону... Усе пайшлі на Берлін. А нам задача — абысці яго з поўначы, Танкі Рыбалкі... Першага Украінскага абыходзілі з поўдня. Астап Васільевіч так і сказаў... Быў такі тэмп, Павел... такі парыў, што некаторыя загады перадавалі адкрытым тэкстам, я ехала ў камандзірскім «вілісе» з рацыяй. І тут ковы загад... З

Памераніі ў Берлін прарывалася танкавая дывізія СС. Надзея фюрэра. Брыгада развярнулася на поўнач. Пайшла на збліжэнне. Камбрыг перасеў у цяжкі танк. І мяне ўзяў. Там стаяла камандзірская рацыя. Лётчыкі перадавалі каардынаты дывізіі. Яны ішлі калонамі па двух паралельных дарогах. І мы пайшлі па гэтых дарогах. Разведрота сутыкнулася з немцамі ў нейкім гарадку... нязручным для бою, так сказаў камбрыг. Мы адступілі, вывелі іх у поле. Магчыма, у іх і не было на гэтай дарозе больш машын, чым у нас. Але яны рваліся з апантанасцю ашалелых. Яны ішлі на таран... Як смяротнікі... Як самураі... О, Павел, гэта трэба было пабачыць! — Ванда зноў кранула мяккую павязку на маёй назе і зноў, быццам укалоўшыся, адхапіла руку.— Расказаць пра гэта немагчыма! Танкі загараліся адзін за адным... Іх... І нашы. Нашы таксама. Мы былі ў цэнтры бою. Наша гармата зносіла вежы фашысцкіх танкаў. Яны, відаць, засеклі камандзірскую машыну. Я пачула загад іх камандзіра... Збіць машыну камандзіра. Іх «тыгр» тараніў нас. Парваў гусеніцу, счапіўся з нашай машынай. Нас развярнула бокам. І тады яны пачалі расстрэльваць і нас і свой танк. «Тыгр» загарэўся першы. Фрыцы пачалі вылазіць з люка, але суседні Т-34 скасіў іх з кулямёта. Снарад прабіў нам бакавую браню. Забіла вадзіцеля. Сівашапку раніла. І мяне... Але ён... Астап Васільевіч выцягнуў мяне з танка... Смяротна ранены. Зваліўся на зямлю пад танкам і больш слова не сказаў. Я перавязала яго. Яшчэ помню, як ля пас развярнуўся танк, уздымаючы пыл. З велсы высунуўся Віця Маслоўскі, кінуў мне аўтамат і крыкнуў: «Жывымі не здавайцеся!» Відаць, крытычны момант быў. За танкавай дывізіяй, казалі пасля ўжо ў шпіталі, ішла дывізія мотапяхоты... Спынілі іх нашы «ілы»... Палкоўнік у танку загадаў мне: «Прасі адкрытым тэкстам авіяцыю!» Помню, як нада мной прайшлі першыя самалёты... Так нізка, што хацелася крануць іх рукой... Той, відаць, якой не было ўжо... мне адарвала кісць... А адцяпалі во як... па плячо...— яна павярнула ў мой бок правае плячо з падушкай павязкі пад шырокім мужчынскім кіцелем і як бы апраўдвалася, што гэтулькі адцяпалі.— Гангрэна пачалася.

Я ўзяў яе левую руку і прыціснуў да сваёй шчакі. Мне захацелася плакаць, але я баяўся слёз, разумеў: яны балюча раняць Вандзіна сэрца.

— Не трэба, Паўлік,— як бы здагадваючыся, што можа здарыцца, прасіла яна.

Гаварыць... нешта гаварыць! Пра яе, пра нас. Але не пра раненні. Тады не будуць душыць слёзы і размова стане спакойнай.

-— Што цябе прымусіла, Ванда?..

— А цябе што прымусіла прасіцца ехаць з ротай? Цябе ж не пасылалі. Хіба не так?

Адбілася сваёй знаёмай логікай, супраць якой я і раней не знаходзіў аргументаў.

— А што з Віктарам?

— Не знаю. Астап Васільевіч памёр у тым жа шпіталі, дзе мне аднялі руку,— сумна паведаміла Ванда.

— Чаму не перадала нашым, што ты тут?

— Баялася. Першы прыйшоў бы ты... Так?

— Мы пажэнімся, Ванда!

Нейкі міг яна маўчала.

— Не, Паўлік. Якая я цяпер жонка! Хамут табе на шыю. Не хачу! Не хачу! — сказала з болем, з роспаччу, горка пасміхнулася.— Як пісалі ў старых раманах: а шчасце было так блізка.

На нас наскочыла медсястра. Узлавана накінулася на Ванду:

— Жмур! Мне за цябе доктар шыю намыліў. Выйшла на паўгадзіны, а гуляеш паўдня. Зараз жа ў лоліак! Ужо кавалера сабе знайшла! Вось жа Евін род! — быццам сама не адносілася да гэтага роду чалавечага.

Ванда пакорліва і, здалося мне, ахвотна пайшла за сястрой. Праўда, спытала:

— Памагчы табе?

— Не. Я сам. Я на батарэю пайду,— здалося, што ў вачах яе з'явіўся новы смутак, і я заспакоіў: — На трэцюю.

Дробную навіну, што Ліка пераведзена на трэцюю, не сказаў ёй у часе размовы.

Старшая медсястра была ў той дзень надзіва добрая. Бадай, узрадавалася, што я магу пайсці на батарэю.

— Я цябе экіпірую, што жаніха.

Дала кіцель, новенькі, чужы, з лейтэнанцкімі пагонамі. Як знала, што мне напярэдадні прысвоілі гэтае званне. Памеркавала, што рабіць са штанамі — на павязку не лезла штаніна. Прыдумала: дала матроскі клёш і матроскі чаравік.

— Убор... для камендацкага патруля.

— А ты не гуляй па Крашчаціку. Завулачкамі ідзі.

Завулачкі простыя — нямецкія гароды, дарога

пратаптаная. І я паскакаў на мыліцах па знаёмых сцежках.

Батарэйцы займаліся нечаканай працай — майстравалі за пазіцыяй ля сеткі гародчыка, ля кустоў агрэсту, якія звонка распусціўся, доўгі стол. Частка была састаўлена з паліраваных сталоў, відаць,

пазычаных у немцаў у бліжэйшым доме. Другую палавіну батарэйныя сталяры збівалі з дошак. І лаўкі збівалі. Габлявалі фуганкамі.

Работа гэта здалася такой цывільнай, мірнай, што я ажно захлынуўся ад шчасця яшчэ на падыходзе. І людзі, батарэйцы, акрамя хіба сяржантаў-мужчын, хадзілі зусім не па-вайсковаму. Асабліва дзяўчаты. У першы ж мірны дзень дэмабілізавалі сябе. Бегалі з кухні да стала, перагукваліся і смяяліся ўсё роўна як перад вясковым вяселлем. «Дзяды», наадварот, хадзілі з паважнасцю гаспадароў сямей і з прыкметнай незалежнасцю перад малодшымі камандзірамі.

Сустрэлі мяне радасна, шумна. Дзяўчаты. Але абняць дазволіў сябе толькі Саўчанка.

— Віншую цябе, герой. Знаеш, як Тужнікаў цябе распісаў. Малайчына! Малайчына, што прыйшоў. У такі дзень! Як рана? А мы, бачыш, наладжваем урачысты абед. Ты якраз жа паспеў. І знаеш, што вып'ем за Перамогу? Французскае шампанскае. Мой спрытны старшына знайшоў у нейкім падвале ажно семдзесят бутэлек. Тузін я паслаў Кузаеву, начальства трэба ўлагоджваць. Мне яшчэ служыць, як меднаму кацялку...

Камандзіра трэцяй лічылі чалавекам з гонарам. Ва ўсялякім разе нас, штабных афіцэраў, прымаў ён без увагі: прыйшоў — займайся сваёй справай і не перашкаджай мне займацца сваёй. Гэта некаторых крыўдзіла, нават Калбенка высмейваў «удзельнага князя» з мужыцкай пыхай.

Можа, праз гэта мне асабліва была прыемная Саўчанкава дабрыня — прымаў мяне сапраўды як дарагога госця. Хацелася сказаць яму пра Ванду — яго ж падначаленая, але баяўся, што ён са сваім настроем паспее пажартаваць так, што, калі я дадам, якой яе сустрэў, яму стане няёмка.

Дзяўчаты прынеслі палотнішчы бялюткай тканіны — заслаць сталы.

Саўчанка адрэзаў ад кожнага па шматку і асобна паліў, пстрыкаючы запальнічкай.

Здзівіў мяне.

— Навошта.

— Тут, брат, тры дні назад была гісторыя. Не ў нас. Вунь на тым хімічным заводзе. Там дзяўчаты нашы, каторыя былі вывезены сюды, чакаюць адсылкі дадому... прыводзяць у парадак трафеі... Завод жа ваенны. Дык набралі яны на складах гэтай белізны, нашылі сукенак. Нявесты! А прыйшлі да іх на танцы курцы нашы... Чыркнулі запалкі, і сукенкі — што порах. Дзеє дзяўчыны абгарэлі. Добра, што хлопцы не разгубіліся, сарвалі з іх адзенне. Шоўк для снарадных парахавых

мяшкоў. Ад іскры ўспыхвае. Дык я цяпер правяраю ўсе трафеі... любую адзежыну, нават пашытую. Вася мой мог прывалачы што хочаш.

Я слухаў камбата, глядзеў, як дзяўчаты нясуць з кухні смачныя стравы на прыгожых фарфоравых талерках, а сам шукаў вачамі Ліку. Нідзе яе не было відаць. Устрывожыўся. Выбраў хвілінку, калі гаспадар адвярнуўся, пайшоў на пазіцыі, да дальнамернага акопа. Мяне перанялa сувязістка Поля Капыток — дзяўчаты здагадлівыя:

— Вы шукаеце Іваніставу? Яна там, у гародчыку.

Дзіўна: усе прыбіраюць на стол, а яна адна ў агародзе. Чаму? Пастараўся непрыкметна ад Саўчанкі, ад дзяўчат прашмыгнуць праз падраную сетку ў агародчык. І там, за кустамі парэчкі, знайшоў Ліку. Яна сядзела на нізенькай лавачцы і... плакала.

Яе слёзы балюча ўдарылі ў сэрца; падумаў пра яе бацьку: няўжо загінуў? Перад самай перамогай...

Ліка адчула, што на яе глядзяць, падхапілася. Убачыла мяне — здзівілася і, здаецца, узрадавалася.

— Вы? Павел! Ой, прабачце, таварыш лейтэнант! Як ваша нага?

— Вы плачаце? У такі дзень! Што здарылася? Хто вас пакрыўдзіў?

Па-дзіцячы — кулачком выцерла вочы, спалохана адказала:

— Не, не, ніхто.

— Ад радасці плачуць на людзях. А вы схаваліся за кусты. У вас — бяда? Якая? Скажыце.

Ліка на момант задумалася. Ступіла да мяне, пільна ўглядаючыся напухлымі ад слёз вачамі.

— Скажыце, Павел, як вы думаеце... Цяпер, калі вайны няма, можна будзе паехаць... у Фінляндыю? Дазволяць?

Што абухом ударыла. Як абразіла! Любых слоў чакаў я, любога прызнання, крыўды, але толькі не гэтага. І ў такі дзень яна думае, як паехаць у Фінляндыю! Моцна гэта мяне ўзлавала, груба я спытаў:

— Што вам далася тая Фінляндыя?! Колькі яны забілі нашых!

Твар яе скрывіўся, як ад болю.

— Божа мой! Якія вы нездагадлівыя. Сынок у мяне там. Сынок! Два годзікі яму.

— І муж? — усё яшчэ сурова спытаў я.

— І муж.

— Афіцэр?

— Салдат. Быў салдатам... Як я спалохалася, калі вы забілі таго... Падумала: мой мог шукаць мяне...

Адхлынула мая злосць. Перада мной стаяла Маці. Амаль год яна жыла сярод нас, а думала пра сваё дзіця. Падумаў пра Зубрава. Усё ён знаў. А пра тое, што жанчына мае дзіця, не мог даведацца. І гэта пры тым, што ў кулямётнай роце служыла Эва Пюханен, якая была разам з Лікай на настаўніцкіх курсах у Хельсінкі. Якая вернасць! І якое ўменне маўчаць. Нежаночае. Ці, наадварот, жаночае?

Я засмяяўся, бадай, весела. З Зубрава. З Данілава, І з сябе. Са сваіх, няхай і туманных, сноў.

Ліку спалохаў мой смех. Яна чакала адказу: дазволяць ці не дазволяць?

Падумаў пра закон аб забароне шлюбаў з замежнікамі, але яе супакоіў:

— Канешне ж, вам дазволяць.

Прыйшла Ірына, жонка Саўчанкі.

— Во дзе вы, галубкі. А вас шукаюць. Хадзем піць за Перамогу. Каб мне было можна, напілася б я...

Ірына цалкам дэмабілізавала сябе. Надзела шырокую прыгожую сукенку. Але і пад тканінай, што звісала свабодна, было відаць, як яна пакруглела.

Я глядзеў на яе жывот, як на вялікі цуд. Ірына была не з сарамлівых, хоць і татарскай пароды. І на язык вострая. А тут смуглявы твар яе запунсавеўся.

— Што ты глядзіш так на мяне? Цяжарнай бабы не бачыў?

Збянтэжыўся я. Сказаў гулліва:

— Дазволь цябе пацалаваць.

Ірына пагразіла пальцам.

— Ну, ну! Знаеш, які раўнівы мой Саўчанка!

А мне не вусны яе з залатым пушком хацелася пацалаваць. Хацелася стаць на калені, прысланіць вуха да яе жывата і пачуць... Новае жыццё. Чалавека пачуць. Бессмяротнага.

## РАЗДЗЕЛ АПОШНІ,
## які можна лічыць эпілогам

*Я прайшоў па падземным пераходзе, сырым і халодным яшчэ. Выйшаў каля Гістарычнага музея. З Краснай плошчы дыхнула вясновай цеплынёй. Асляпіла сонца. Гэткае ж ласкавае, як у першы дзень міру. Масква ззяла, зіхацела ад сонца і святочных транспарантаў. Не страцілі яшчэ чырвані і золата першамайскія лозунгі, сцягі, да іх далучылі тыя, што славілі Перамогу — саракагоддзе Перамогі.*

*Масква шумела, гула. Па плошчах Дзяржынскага, Свярдлова каціліся рознакаляровыя хвалі машын, а па праспекце Маркса, як вырваўшыся з цясніны, гудзеў сустрэчны паток.*

*Пастаяў каля музея, каля Арсенальскай вежы, хоць да месца збору каля ўваходу ў Аляксандраўскі сад заставалася колькі крокаў. Там тоўпіліся людзі, групамі, невялікімі і вялікімі, з вянкамі. Прапускалі да магілы Невядомага Салдата па чарзе, час кожнай дывізіі, палка распісаны. Сярод ветэранаў нямала дзяцей, піянераў. Гэта хвалявала. Хіба толькі гэта? Я не спаў у поездзе ноч. Уяўляў нашу сустрэчу. Віктар Маслоўскі сказаў: будуць усе нашы, яны з Тужнікавым паўгода збіралі. Ідэаліст былы зенітчык і танкіст, цяперашні дыпламат і прафесар! «Будуць усе...» Не, многіх не будзе, бо няма іх ужо на зямлі. Але, безумоўна, будуць хвалюючыя сустрэчы, некаторых жа не бачыў сорак гадоў. Лёгка сказаць — сорак! Пасталелі дзеці, выраслі ўнукі.*

*У вагоне думаў пра Ліку. Ведаў, што сустрэча з ёй нерэальная, ніхто яе не знайшоў, нікому яна не адазвалася. Аднак сустрэцца хацелася. І разам з тым баяўся: разбураць бязлітасныя гады яе вобраз. Здаралася ўжо такое. Толькі Глашын вобраз нішто не разбурыла. Глаша тая ж — што была ў машыне, калі за намі паляваў «месершміт». Можа, таму, што мы бачыліся сто разоў. З Глашай я гаварыў з гасцініцы па тэлефоне.*

*«Я вам сюрпрызы зраблю, старым атопкам,— сказала яна.— Разяўляйце раты загадзя. Трэніруйцеся, а то сківіцы вывіхнеце».*

*Глаша бязлітасная да старасці, да сваёй уласнай таксама. Якімі эпітэтамі адарае яна нас з Віктарам — можна або пакрыўдзіцца, або парагатаць уволю, на шчасце мы заўсёды выбіраем апошняе.*

*З узвышша праезду я выглядаў сярод людзей, што тоўпіліся каля варот, нашых. Няўжо нікога яшчэ няма? Не, як заўсёды, першы на варце нястомны Генадзь Свірыдавіч Тужнікаў. Сівенькі дзядуля.*

*Ссохлы. Палкоўніцкі мундзір на ім вісіць, як на жардзіне. З кіем. Але па-ранейшаму энергічны. Кружыць вакол. З многімі вітаецца, цалуецца. Не з нашымі. Відаць, са знаёмымі па акадэміі.*

*Стала страшнавата, што аптымістычны прагноз Маслоўскага не спраўдзіцца: гніла нашых з'явіцца.*

*Падышоў да Тужнікава. Той узрадаваўся. Але, раней чым. пацалавацца, зрабіў вымову:*

*— Чаму без ордэнаў?*

*У яго грудзі — у ордэнах, у медалях.*

*— Я ж — з Мінска,— апраўдваўся бадай жа гэтак, як і тады. на вайне; наіўна апраўдваўся — быццам ён не бедаў, адкуль я прыехаў.— Баяўся, яшчэ загублю. Мірныя — на шпільках.*

*— У карабочку паклаў бы, у каробачку. а тут павесіў бы. Не навучыш вас ніяк.*

*Гэта развесяліла: верны сабе мой былы нампаліт!*

*Воддаль на тратуары, ў бок Манежа стаяў поўны мужчына з шапкай кучаравых сівых валасоў і з гэткай жа сівой пышнай барадой. Да бока яго тулілася, як дзіця, быццам баялася, што яе па крыўдзяць, мініяцюрная жанчынка. Спачатку я не звярнуў асаблівай увагі на іх. Каго тут няма! Рускія, грузіны, узбекі... Іншаземцаў нямала. Але потым цёкнула мне: дзіўна барадач адзеты. Сяброўка ў сучаснай моднай сукенцы. А ён — у добрым касцюме, але ў ботах і ў аранжавай сарочцылкасаваротцы, якія мала, хто ў наш час носіць. Цыганскі ўбор: Ды і ўспомніў: нехта даўно расказваў, што Данілаў ажаніўся позна, гадоў у сорак пяць на прыгажуні танцоўшчыцы!*

*Адарваўся ад Тужнікава і кінуўся, да барадача з крыкам, на які шмат хто павярнуўся зацікаўлена:*

*— Сашка! Данілаў!*

*Абняліся. Ціскалі адзін аднаго. Смяяліся і радасна і сумна.*

*Падышоў Тужнікаў. Здзівіўся:*

*— Няўжо Данілаў? Ну, і барада! Цыганскі кароль! А я думаю: чаму барадач гэтак глядзіць на мяне?*

*— А я Віры кажу: пастаімо ціха. Хто пазнае? Знаёмцеся: мая жонка Віранея.*

*Жанчына зрабіла старамодны рэверанс.*

*— Чаму маўчаў? — па-камандзірску дапытваўся Тужнікаў.— Няўжо ў Маскве ні разу не быў?*

*— Штогод бываю на ВДНГ. І так. Па справах.*

*— Не па-таварыску ты зрабіў. Індывідуаліст!*

*— Мы сёння бараду табе выскубем. Дзе ты хаваўся?*

*— Коней пасвіў.*

*Здалося, што сказаў ён гэта з крыўдай, і я пастараўся адвесці размову ўбок.*

*Прыйшла Глаша Маслоўская. Паводзіла жа сябе, як добрая гаспадыня ва ўласнай кватэры: усіх гасцей ведала і, занятая сваімі справамі, для ўсіх знаходзіла час, Данілава пазнала адразу. Пацалавалася з яго жоткай. Яму сказала:*

*— Данілаў, пацалуй мяне. Ніхто не цалаваў з барадой. Трэба ж паспытаць пад старасць і гэтую асалоду. Смачна? — спытала ў Віры.— Па тваім цыгану на батарэі ўсе дзяўчаты сохлі. Але баяліся. Ганяў ён нас як свірыдавых коз,— памылілася, безумоўна, знарок — для Тужнікава.*

*У Віры адразу знікла манернасць, яна весела смяялася і не адступала, ад Глашы, вельмі ж даспадобы прыйшлася ёй гэтая простая, масквічка.*

*— Ты якім табарам, камандуеш, Данілаў? — спытала Глаша.*

*— Конскім.*

*— Лагічны пераход: ад баб да коней. І тых і тых трэба, аб'язджаць. А сур'ёзна?*

*— Дырэктар конезавода. Лепшых скакуноў вырошчваю. На міжнародных выстаўках-ярмарках усе прызы нашы. Месяц назад прадаў у Шатландыі Камету за дзесяць тысяч фунтаў...*

*— Жмінда ты, Данілаў! А зенітчыц сваіх дагэтуль не запрасіў на конікаў палюбавацца. А я так люблю коней. І ўнукі мае.*

*Тужнікаў як бы папрасіў у Віры прабачэння — за Глашу.*

*— Глафіра Мікалаеўна за словам у кішэню не лазіць.*

*— Генадзь Свірыдавіч! Каб я злазіла ў кішэню — ці тое было б! Куды б вы дзеліся ад мяне?*

*Глашу абступіла група людзей, што стаяла збоку — Віктаравы сябры-танкісты. З імі яна жартавала гэтак жа вольна, па-свойску, многіх ведала не адзін дзесятак гадоў. Знаёміла нас, бо надалей Маслоўскі выпрацаваў сумесную праграму.*

*— Дзе гэта мой зепітна-танкавы герой?*

*Глаша трохі ўтаймавалася, калі з'явілася Ірына Саўчанка з унукамі – двума чарнявымі хлопцамі. З Саўчанкам я зрэдку сустракаўся. І ў сталыя гады Ірына была элегантнай жанчынай. А цяпер адразу пастарэла, змарнела: паўгода назад пахавала Саўчанку, памёр раптоўна, перад тэлевізарам, ад інфаркта.*

*Прыехаў на «Рафіку» Віктар, прывёз вянкі — і ад зенітчыкаў, і ад танкістаў.*

*— Таварышы, якую я вам навіну скажу! Толькі што перадалі па радыё. Мурманску прысвоілі званне горада-героя. І Смаленску.*

*Тых, хто абараняў запалярную цытадэль, было нямнога — я, Віктар, Глаша, нават Тужнікаў і Данілаў з'явіліся пазней, у Кандалакшы. Але радаваліся ўсе. Віншавалі. А мы віншавалі танкістаў — яны вызвалялі Смаленск.*

*Маслоўскі, яўна нечым заклапочаны, увесь час пазіраў у бок Гістарычнага музея. Некага чакаў. Пэўна, з танкістаў. Бо хто з нашых мог яго хваляваць? З тых, з кім ён сябраваў і пасля вайны, як са мной, здаецца, нікога не засталося.*

*Раптам я застыў, анямеў на паўслове. На міг спынілася сэрца, перасохла ў горле.*

*З Краснай плошчы міма музея спускалася да нас... Ванда. Здалёк пазнаў яе: па-ранейшаму стройная, але не з чорнай — з белай, як запалярны снег, галавой. Але што гэта? Насланнё? Прывід? Ажно спалохаўся за сябе: былі ўжо спазмы сасудаў галаўнога мозга. А я без капелюша. А сонца шчодрае. Заплюшчыў вочы. Расплюшчыў. Сапраўды — міраж. Ішла не адна Ванда. Дзве. Сівая з пустым рукавом светлага гарнітура і маладая — тая, з вайны, што абвяшчала сябе маёй нявестай. Было ад чаго ўсхвалявацца.*

*Дзве Ванды падышлі да нас. Віктар ступіў насустрач. Старой падаў руку, маладую пацалаваў у шчаку.*

*— Якія вы малайцы, што прыйшлі!*

*А Глаша абняла маладую так, быццам яна з'явілася адна; старую як не заўважыла. Ванда ўзрадавалася мне.*

*— Божа мой! Павел! Я не бачыла цябе сто гадоў. Але ты не змяніўся. Ты адзін з нас не змяніўся. Нават не палысеў.*

*— На чужых падушках не спіць,— здалося мне, груба і недарэчна пажартавала Глаша.*

*— Я пацалую цябе. На злосць Глафіры Мікалаеўне, якая лічыць цябе ідэальным мужам. Усёй Маскве ставіць у прыклад.*

*— Калі гэта ты чула ад мяне? — нядобразычліва спытала Глаша.— Ідэальны муж — Маслоўскі. Для мяне.*

*Ванда горача абняла мяне. Пасля сказала:*

*— Знаёмся. Мая дачка Вілена. Маё шчасце.*

*Я падаў маладой жанчыне руку.*

*— Вось вы які! — сказала яна.— Мама кажа, што гэта яна напрарочыла вам стаць прафесарам.*

*Я не мог адарваць вачэй ад яе твару. Вылітая мама: тыя ж чорныя валасы, трохі даўгаваты нос, іранічныя іскры ў вачах. Але ёсць і іншыя знаёмыя рысы. У лобе, у абрысах шчок, у больш поўных, чым у маці, губах. Чые гэта рысы? Міжволі перавёў позірк на Віктара.*

*— Не глядзі. Яго, яго,— са знаёмым сарказмам сказала Глаша.— Хто такі спрытны, як Маслоўскі. У яго ж усё двайное. Зенітчык — танкіст... Дыпламат — вучоны. Чаму ж не мець двух жонак? У камітэце арабскія краіны вёў... Навучыўся...*

*Ванда маўчала, але пачырванела, не ад сораму, думаю, і не ад крыўды ці злосці,— ад таго, што мусіла маўчаць. Такое маўчанне нялёгка даецца, асабліва ёй. А Вілена засмяялася.*

*— Глафіра Мікалаеўна, будзьце літасцівыя да нас.*

*— Да цябе, дзіця маё, я літасцівая. Цябе я палюбіла.*

*Побач стаяла Віранея Данілава і глядзела на нас са здзіўленнем, пэўна, адчуўшы рамантычную тайну. Чамусьці пераводзіла праніклівыя позіркі з мяне на Ванду. Ажно няёмка зрабілася. Грэшны, каюся: з зайздрасцю падумаў пра Віктара. Ай ды «дэзерцір!» Ну, і спрытнюга! Ні ў чым яго не апярэдзіш.*

*А было ж гак.*

*Гадоў праз восем пасля жаніцьбы з Валяй я ажыццявіў даўняе абяцанне — ёй — звазіць у Маскву. Спачатку не пускала беднасць, потым — дзеці, з разрывам у два гады з'явіліся Марына і. Андрэй.*

*У Маскве, безумоўна, пайшлі ў Вялікі тэатр. Слухалі «Пікавую даму». Гоні выконвалі спевакі, слава якіх гучала на ўвесь сват. Валя была заварожана, ва універсітэце яна спявала ў хоры, замужжа і дзеці адарвалі яе не толькі ад навукі. Спектакль зачараваў і мяне, хоць слухаў я гэтых спевакоў не ўпершыню.*

*Словам, знаходзіліся мы ў той незвычайнай шчаслівай пагружанасці ў мастацтва, калі забываюцца ўсе празаічныя жыццёвыя клопаты. Але ў нейкі міг я правёў вачамі па зале і скалануўся. Мы сядзелі ў заднім радзе партэра. Перад намі трохі злева, цераз праход, сядзела Ванда. Не бачыў яе са шпіталя, але пазнаў адразу, са спіны: знаёмая пастава, пусты правы рукаў кофтачкі.*

*І я дзіўна захваляваўся. Сам здзівіўся: чаму? Ад радасці, што хутка, у антракце, стрэнуся з аднапалчанкай? Бо іншых пачуццяў даўно не было. У шпіталі папаныла сэрца за яе лёс — жанчына без рукі! Як будзе жыць? Былі нядоўгія пакуты сумлення: мала, што яна адмаўляецца, а я павінен застацца верны абавязку. Але хутка мяне выпісалі ў свой дывізіён, а яе адаслалі на радзіму, і яна нават ні разу не напісала. Не хацела вярэдзіць душэўныя раны ні сабе, ні мне. У мірным шчасці ўспамінаў яе гэтак жа, як Калбенку, Кузаева, Глашу, Ліку, Данілава... тых, з кім перапісваўся, і тых, пра каго нічога не ведаў: дзе жывуць, як жывуць? У першыя пасляваенныя гады мы не так актыўна шукалі адзін аднаго, як цяпер, у старасці.*

*Валя, што сейсмограф, адчула маё хваляванне. «Што ты ёрзаеш? Жывот забалеў?» — у мяне у той час было нядобра з жыватом — пасля студэнцка-аспіранцкай дыеты.*

*«Там — Ванда».*

*«Дзе? »*

*«Вунь без рукі».*

*Расказа ў я ёй пра дзяўчат, з якімі служыў.*

*Валя захвалявалася, здаецца, мацней за мяне. Гэта ўстрывожыла. З'явілася думка ўзяць жонку за руку, падняцца і пайсці з тэатра, не пабачыўшыся з Вандай. Але якая гэта была б маладушнасць! Дзеля чаго? Для жончынага спакою? А чаму ёй хвалявацца? З-за каго? Валя раўнівая. Але ж смешна і дзіка раўнаваць да амаль саракагадовай аднарукай жанчыны.*

*У антракце спыніліся ў праходзе, прапускаючы натоўп. Дачакаліся Ванды. Павіталіся стрымана, без эмоцый, быццам не страчаліся як-небудзь год, не больш. Адно хіба было незвычайна — Вандзіна прызнанне:*

*«А я цябе ўбачыла перад спектаклем, пасля трэцяга званка. І дрэнна слухала оперу: думала, ці пазнаеш ты мяне, ці падыдзеш?»*

*«Я цябе праз сто гадоў пазнаю».*

*«Ого! — сказалі ў адзін голас і Ванда і жонка мая.*

*Сядзелі ў буфеце, пілі мы з Вандай чэшскае піва, Валя — сок.*

*«Як ты жывеш, Ванда?»*

*«Жыву».*

*«Адна? »*

*«Часам прыязджае мама. Але ў Архангельску ў яе ўнукі, яны прыцягваюць мацней».*

*«Дзе працуеш? »*

*«Скончыла радыётэхнічны і працую... назва маёй установы, нічога табе, гісторыку, не скажа. Блізка ад маёй ваеннай спецыяльнасці, толькі на вышэйшым узроўні, сучасным».*

*Да мяне Ванда не праяўляла асаблівай цікавасці — больш да Валі. Разглядала з такой пільнасцю, быццам вышуквала заганы. Валя ажно бянтэжылася, усё роўна як бы разглядаў яе бесцырымонна мужчына, а не жанчына.*

*«А ты эстэт, Павел. Такую прыгожую жонку выбраў».*

*Са. шчырай зацікаўленасцю распытвала ў Валі пра дзяцей.*

*Пасля спектакля, на развітанне, дала тэлефон, рабочы, і адрас хатні. Запісала наш. Спяшалася: жыве на ўскраіне, аўтобусы ад метро ў такі позні час ходзяць рэдка.*

*У гасцініцы доўга не мог заснуць. Не толькі таму, што думаў пра Ванду, «пракручваў» сваю ваенную эпапею, але і тамі), што чуў — Валя таксама не спіць. Чаму? Дзіўна, чаму мы не ссунулі свае ложкі, як рабілі гэта ў папярэднія ночы. Валя лягла раней, пакуль я чысціў зубы.*

*Нарэшце жонка азвалася.*

*«Павел, ты не спіш?»*

*«Засынаю».*

*«Нічога ты не засынаеш. Павел, дай слова, што ты выканаеш просьбу, якую я выкажу».*

*«Дзіўную ты ўмову ставіш. Я не ведаю яшчэ просьбы і мушу паклясціся. На чым? На біблії? Няма іх у нашых гасцініцах. У Фінляндыі...»*

*«Ты не будзеш ёй званіць!»*

*«Каму?»*

*«Ужо ты няшчыры. Ты добра знаеш — каму».*

*«Вандзе? Калі табе не хочацца — не буду. Хоць не разумею...»*

*«Калі не разумееш — спі»,— і павярнулася да мяне спіной.*

*Флюіды жончынай крыўды я навучыўся лавіць, як лакатар,— за вярсту.*

*Уключыў начнік. Дастаў з кішэні пінжака, што вісеў каля ложка на крэсле, запісную кніжку.*

*«Дзіўна, што ты не верыш мне. На, падзяры тэлефон і адрас».*

*«За каго ты мяне лічыш?»*

*«Тады я сам падзяру».*

*«Рабі, як хочаш. Не перашкаджай спаць»*

*Я выдраў лісток, скамячыў, кінуў у попельніцу.*

*Але — дзіўная рэч: дрэнна я запамінаў лічбы, акрамя гістарычных дат, а Вандзін тэлефон урэзаўся ў памяць, як высечаны. І я парушыў слова, дадзенае жонцы. Я пазваніў Вандзе ў адзін з чарговых прыездаў у Маскву, не ў хуткім часе, можа, праз год, не раней.*

*Ванда ўзрадавалася.*

*«А я думала, ты зазнаўся. І на навагодняе віншаванне не адказаў».*

*Настойліва запрасіла ў госці.*

*Паехаў увечары да яе ажно ў Кунцава, бадай, зусім спакойна. Не было таго хвалявання, якое чамусьці з'явілася ў тэатры і спалохала Валю; так ездзіў да Маслоўскіх, да Саўчанкі, дзе любаваўся Ірынай: гэтая татарка неапісальная была ў свае сорак гадоў.*

*Мы сядзелі за сталом, за багатай вячэрай. Пілі маленькімі кілішкамі дарагі каньяк. І ўспаміналі... Усё ўспомнілі — і вясёлае і*

*сумнае. Ванда то смяялася, то засмучалася да слёз, раней такой сентыментальнасці ў яе не назіралася.*

*Не помню, у якім кантэксце, хутчэй без усялякага пераходу, у паўзе перад новай стравай, якую прынесла з кухні, Ванда, не падымаючы вачэй ад талеркі, з пачырванелымі вушамі, раптам сказала:*

*«Паўлік! Не здзіўляйся таму, што я папрашу. І зразумей... Я хачу мець ад цябе дзіця. Ад чалавека, якога я... Каго іншага не магу папрасіць. Зразумей!..»*

*І я, саракагадовы мужчына, спалохаўся. Не, спалохаўся — бадай, не тое слова. Ударыў страх за магчымую здраду. Да здрады, як да ўсяго іншага, трэба прывучыць сябе. Я нікому не здраджваў... Таму адразу стала перада мной, засланіўшы Ванду, Валя, не адна — з дзецьмі, з Марынкай і двухгадовым Андрэйкам. Яна і дзеці глядзелі на мяне з дакорам і... надзеяй, што я не прадам іх.*

*Мы доўга маўчалі. Ванда зразумела маё маўчанне. Спытала ціха, баязліва:*

*«Ты не можаш з-за маёй рукі?»*

*«Не, Ванда! Не! Валя! Валя! І дзеці. Во яны стаяць. Яны глядзяць на мяне... на цябе...»*

*Міжволі, бадай, спалохана, яна азірнулася. Потым нервова засмяялася. Паднялася, адышла да акна. Адтуль сказала з іранічнай пахвалой:*

*«Якое шчасце дасталося тваёй Валі. З цябе ікону трэба пісаць».*

*Больш я не званіў ёй.*

*Яна слала зрэдку навагоднія паштоўкі, але пра дачку ні разу не напісала. І Маслоўскі... дыпламатычныя сакрэты давяраў, а пра дачку — ні слова. Глаша ведала, бо шпіляла: «Ты, Віця, кот». Або: «Я пра вашу Ванду такое скажу, што расплавіцца дрот ад Масквы да Мінска». А да мяне, наіўнага, не даходзіла.*

*...Я любаваўся Віленай, што свяцілася здароўем, сілай, шчасцем. Сярод ветэранаў з кіямі яна сімвалізавала Вясну. Даруй мне, Валя: я пашкадаваў, што Вілена не мая дачка. Прагны. Маю ж траіх дзяцей. траіх унукаў. Захапляўся Маслоўскім. Ай ды Віцька! На ўсё ў цябе хапае рашучасці. І за твае дзеянні варта было б вешаць табе зоркі, як за той бой, дзе ты, зенітчык, узяў каманду над танкавым батальёнам.*

*У нейкі міг у святочным натоўпе мы засталіся з Вандай адзін на адзін. Яна сказала:*

*— Ты знаеш, як я баюся, што яна пакіне мяне. У яе ёсць жаніх.*

*— Не бойся, яна падорыць табе ўнукаў, і яны яшчэ глыбей запоўняць тваё жыццё.*

*— Дай бог.*

*Здаецца, Ірына спытала гучна, звяртаючыся да ўсіх:*

*— Хлопчыкі! А пра Ліку Іваніставу ніхто нічога не чуў?*

*Данілаў адразу навастрыў вушы, як той скакун, якога ён прадаў у заморскую краіну.*

*— Шукаў я ў Петразаводску — ніякіх звестак,— сказаў я.— Відаць, выехала ў Фінляндыю. Да мужа.*

*— Дрэнна вы чытаеце газеты, прафесары! — з гумарам папракнула нас Глаша.*

*Зенітчыкі абступілі яе.*

*— Ты чытала? Што?*

*— Месяц назад ва «Учительской газете» была даўжэзная публікацыя на цэлы падвал пра народную настаўніцу Карэльскай АССР Міэліку Клаўдзіеўну... прозвішча ў яе іншае: Окса, ці Бокса, ці Орса... Але фатаграфія змешчана... зморшчаная бабулька, здаецца, гадоў пад сто,— Глаша непрыгожа зморшчыла свой твар: мяне непрыемна ўразіла, што і тут яна помсціць Ліцы.— Як з «Калевалы» вылезла. Але я адразу пазнала яе. Ды і напісана... Гераічная зенітчыца. Што яна такое гераічнае зрабіла ў вас? Ад Петразаводска да Одэра праехала? Што ў Хельсінкі вучылася, не напісалі... што замуж выйшла за салдата, які, можа...*

*— Глаша! — спыніў яе Віктар.*

*— Што — Глаша? Што — Глаша?*

*— Ліка — добрая душа, я сябравала з ёй.— сказала Ванда.*

*— Знаю я вас, добранькіх.*

*Ванда зачырванелася і адступіла: баялася Глашынага языка.*

*— Глаша, ты ж добрая. Будзь літасцівая ў такі дзень,— папрасіў я.*

*Пас слухалі танкісты, пасміхаліся, ведаючы жонку свайго сябра.*

*— А ты — стары ліберал. Ты і тады кожнай зачуханай дзеўцы соплі выціраў. Ды ладна, я — добрая. Гераіня ваша Ліка. Гераіня. Не, сур'ёзна. Сорак гадоў вучыць дзяцей у глухім лясным пасёлку. Во за гэта гатова ёй пакланіцца. І што ў Хельсінкі не паехала. У буржуйкі не палезла. А магла б са сваёй мордай у пані выйсці... Я з якой фізіяноміяй вылезла ў жонкі дыпламата...*

*— Чорт ведае што! — не то абурыўся, не то захапіўся Віктар.*

*А Віра Данілава засмяялася.*

*— Дазвольце, Глафіра Мікалаеўна, я вас пацалую.*

*— Пацалуй, дзіця маё, пацалуй. Ад гэтых старых маслюкоў не дачакаешся.*

*Тужнікаў зморшчыўся, але змаўчаў — ведаў: Глашу лепш не чапаць.*

*Падышла наша чарга ўскласці вянок на Магілу Невядомага Салдата. Танкісты даручылі Віктару і быламу начальніку штаба брыгады, адстаўному генералу. Ад нас пачэсная місія выпадала Тужнікаву і мне. Але я прапанаваў:*

*— Няхай Ірына і Ванда.*

*— Я заплачу,— збянтэжылася Ірына.*

*— Ну і паплач, паплач,— сказала Глаша.— Дзе ж яшчэ плакаць, як не тут... па Грыцку твайму... па Каці...*

*Я стаяў і глядзеў у агонь.*

*І ў нейкі міг раптам заглох шум машын. Змоўкла Масква. Змоўк свет. Пачарнела ўзнятая ў зеніт Крамлёўская сцяна. Толькі агонь разгараўся ўсё ярчэй і ярчэй. І з яго полымя... з туману маіх слёз выходзілі і станавіліся з таго боку агню, тварам да нас Каця Васіленкава, Ліда Асташка, Любоў Пахрыцына, Надзя... І мяне апякло сорамам... не, бадай, страхам: я не мог успомніць Надзінага прозвішча. Вельмі ж простае, рускае, Аляксеева, Андрэева, Міхайлава... Не, не, не...*

*Зноў зашумела Масква. Пачырванела сцяна. Зніклі дарагія постаці. Рассеяўся туман у вачах. Натуральна гарэлі кветкі ў вянках... у мностве вянкоў.*

*Нехта ўзяў мяне пад руку. Вілена!*

*— Нашы пайшлі ўжо, Павел Іванавіч.*

*— Так, так, хадзем і мы.*

*— Я рада, што пазнаёмілася з вамі. Мама столькі расказвала пра вас. Яна кахала вас? Так? А вы?*

*— Аляксейкіна! Яе прозвішча Аляксейкіна! — успомніў я і ўзрадаваўся. Вілена глядзела на мяне са здзіўленнем.— Надзя Аляксейкіна... Яна пахавана на Одэры... Іх пяцёра там, нашых, засталося ў тую ноч... Ты знаеш, яна была зусім дзіця — Надзя. Ей не было і васемнаццаці. Сорак гадоў мяне мучыць сумленне, што я іх так слаба ведаў, пражэктарыстак.*

*— Вы лічылі, што мама пабегла за камбрыгам?*

*— Не, Вілена, не! Я разумеў яе. Мне таксама хацелася штурмаваць Берлін.*

*— Якія вы людзі!*

*— Мы звычайныя, Вілена. Але мы пражылі асаблівае жыццё. Нам ёсць што ўспомніць.*

*— Які цёплы дзень, праўда? Над Масквой рэдка бывае такое чыстае неба.*

*— Над Масквой заўсёды светлае неба.*

*— Вы — паэт, Павел Іванавіч. А я — прагматычка. І асе маё пакаленне.*

*— Даспрачаецеся пасля,— Глаша ўзяла пад руку Вілену.— Аддай маю дачку.*

*— Якая я шчаслівая! У мяне — дзве мамы.*

*Мы выйшлі на Красную плошчу, каб пастаяць каля Вечнага агню — каля Леніна.*

*Куранты Спаскай вежы коратка прабілі дзве гадзіны. Змяняўся каравул.*